# Кшыштаф Касажэцкі

# Кампанія 1660 году ў Літве



ISSN: 1392-9682

*Кніга выходзіць пры шчодрай падтрымцы Польскага інстытуту ў Менску.*

*Асобная адбітка з нумару 6 часопіса «ARCHE» за 2006 год.*

Перакладчык: *Антон Кузьміч*
Рэдактар: *Валер Булгакаў*
Карэктар: *Соф'я Багам'я*
Вёрстка: *Іна Жызьнеўская*
Дызайн вокладкі: *Антон Баранаў*

У афармленьні першай вокладкі выкарыстаная гравюра
«Аблога Ляхавіч у 1660 г.» са збору Фундацыі князёў Чартарыйскіх у Кракаве.

*Жонцы Агнешцы*
*і дачцэ Зосі*

Кшыштаф Касажэцкі

# Кампанія 1660 году ў Літве


**Кшыштаф Касажэцкі.**

Нарадзіўся ў 1967 г. у Аструдзе. Выпускнік Хрысьціянскай тэалягічнай акадэміі ў Варшаве і Інстытуту гісторыі Варшаўскага ўнівэрсытэту. З 2000 году дактарант у Інстытуце гісторыі Варшаўскага ўнівэрсытэту пад кіраўніцтвам праф. др. габ. Тадэвуша Васілеўскага. Займаецца гісторыяй вайсковай справы Новага часу, гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага ў XVII—XVIII ст. і функцыянаваньнем магнацкіх уладаньняў, між іншым Радзівілаў і Сабескіх. Аўтар навуковых і навукова-папулярных артыкулаў, прысьвечаных гэтым тэмам.

# Зьмест

Уступ для беларускага чытача .......... 5
Уступ .......... 8
I. Аднаўленьне вайны з Масквой .......... 13
II. Літоўскі наступ і паўстаньне Івана Нячая .......... 36
III. Выправа Яна Сасноўскага пад Стары Быхаў.
Праблемы літоўскай арміі летам — восеньню 1659 году .......... 56
IV. Сытуацыя Рэчы Паспалітай на парозе наступу Хаванскага .......... 70
V. Колькасьць войскаў у першы пэрыяд змаганьняў у Літве
(лістапад 1659—1660) .......... 86
VI. Наступ князя Івана Хаванскага (лістапад 1659 — люты 1660) .......... 105
105 VII. Змаганьні з войскамі князя Івана Хаванскага на Падляшшы
ў лютым — сакавіку 1660 г. .......... 135
VIII. Ваенныя дзеяньні ад лютага да чэрвеня 1660 году.
Аблога Ляхавічаў .......... 151
IX. Пачатак наступу польскіх і літоўскіх войскаў.
Бітва пад Палонкай (28 чэрвеня 1660 г.) .......... 184
X. Пасьля Палонкі. Да Бярэзіны і Дняпра .......... 208
XI. З Жамойці на Басю. Дзеяньні дывізіі Міхала Казімера Паца .......... 237
XII. Бітва на Басі .......... 251
XIII. Разгром Хаванскага. Апошнія змаганьні на Дзьвіне .......... 277
XIV. Апошнія змаганьні на Дняпры.
Марш дывізіі Чарнецкага ва Украіну .......... 297
XV. Змаганьні ў заходніх ваяводзтвах Літвы .......... 311
Заканчэньне .......... 322
Бібліяграфія: .......... 326
Рукапісныя крыніцы
Друкаваныя крыніцы
Старадрукі
Дасьледаваньні
Сьпіс скарачэньняў

«ARCHE» дзякуе дырэктару выдавецтва «Infort Editions»,
а таксам Вітальду Гжэляку за магчымасьць выкарыстаць у перакладзе,
падрыхтаваныя ім ілюстрацыі.

# Уступ для беларускага чытача

Летам 2005 году я атрымаў ліст, у якім выдавецтва «ARCHE» зь Беларусі папрасіла ў мяне дазволу на пераклад і выданьне маёй кнігі «Kampania roku 1660 na Litwie». Гэта стала для мяне вельмі прыемнай нечаканасьцю і сапраўдным гонарам.

Зь вялікім задавальненьнем я прывітаў надзею, што мая кніга мае шанец патрапіць у рукі чытача зь Беларусі, паколькі пераважная большасьць апісаных у кнізе падзеяў адбываецца менавіта на яе сёньняшніх тэрыторыях. З гэтай прычыны шмат беларускіх чытачоў зможа бязь цяжкасьці лякалізаваць іх у канкрэтных мясьцінах свайго краю і праз старонкі кнігі паглядзець на некалькі нязьмерна багатых на падзеі гадоў гісторыі беларускіх зямель другой паловы XVII стагодзьдзя. Зьмест кнігі датычыць нашай супольнай гісторыі, тых часоў, калі землі сёньняшняй Польшчы і Беларусі складалі адзін арганізм у рамках даўняй Рэчы Паспалітай. Гэта былі часы, калі яе грамадзянін, які паходзіў зь зямель цяперашняй Польшчы, і той, які нарадзіўся дзесьці на землях цяперашняй Беларусі, меў тыя самыя правы, удзельнічаў у тых самых соймах, выбіраў супольнага манарха, абараняў адну айчыну, правы і свабоды, якія яна яму гарантавала і якімі ён ганарыўся.

Землі, якія расьцягваліся ад Падляшша на захадзе да Смаленшчыны і Севершчыны на ўсходзе, уваходзілі з часоў вялікай літоўскай экспансіі XIII—XIV ст. у склад Вялікага Княства Літоўскага. Імкнучыся на ўсход, літоўскія загоны, вялікую частку якіх складалі ваяры з занятых яшчэ ў XIII ст. беларускіх зямель, разьмешчаных на Дзьвіне і на захад ад Бярэзіны, увайшлі на землі, ахопленыя ўплывамі маскоўскіх князёў, якія з XIV ст. паволі, але няспынна нарошчвалі сілы. Яшчэ мала каму вядомыя ўладары на мяжы XIV—XV ст. спынілі марш ліцьвінаў на ўсход. Зрабіць гэта было лягчэй, бо ў той час вялікія літоўскія князі павінны былі абараняць сэрца свайго краю ад усё больш магутных атакаў крыжакоў. Унія з Польшчай дазволіла супольнымі сіламі адолець моц крыжацкага закону і ў пачатку XV ст. ліквідаваць сьмяротную небясьпеку зь ягонага боку.

Як паказалі чарговыя стагодзьдзі, сапраўдная пагроза для літоўскага панаваньня знаходзілася на ўсходзе — у Маскве. Скінуўшы татарскае іга, маскоўскія князі няспынна ўмацоўваліся. Пад канец XV ст. на ідэалягічнай глебе яны дамагліся таго, што вялікія літоўскія князі прызналі іх вялікімі князямі і царамі. У Вільні разумелі небясьпеку, якая вынікала з гэтага, бо адначасова Рурыкавічы з Масквы ўсё больш адкрыта выступалі са сваімі прэтэнзіямі як адзіныя законныя ўладары рускіх зямель. Вялікая іх частка знаходзілася ў руках Літвы, і было вядома, што раней ці пазьней дойдзе да вайны за іх. Заўважальная пад канец XV ст. слабасьць Літвы і яе досыць няўдалыя пачынаньні ў дачыненьні да прымежных рускіх князёў прывялі да першай вайны. Войскі Івана III Суровага дабіліся пэўных посьпехаў і вырвалі кавалак зямель ва ўладароў зь Вільні. Далейшыя гады прынесьлі чарговыя посьпехі. У 1550 г. ліцьвіны панесьлі цяжкую паразу над Вядрошай. Гэта стала сапраўдным шокам, бо першы раз маскоўскія войскі нанесьлі ліцьвінам цяжкую паразу ў полі. Праз пару гадоў быў страчаны Смаленск, які быў своеасаблівай брамай у глыб Літвы. Толькі дапамога польскіх войскаў дазволіла стрымаць маскоўскі наступ. Зь іх падтрымкай былі адбітыя захопнікі ў 30-я гады XVI ст., калі яны наблізіліся да Менску і нават падышлі недалёка да Вільні. У пачатку другой паловы XVI ст. у атаку на Літву рушылі войскі цара Івана IV Жахлівага. Сытуацыя Вялікага Княства Літоўскага станавілася драматычнай, а праз страту Полацку пад пагрозай апынулася сама Вільня. Станавілася ўсё больш зразумелым, што бяз польскай дапамогі ВКЛ ня здолее даць адпор мацнейшаму праціўніку, якім у той час было Вялікае Княства Мас-

коўскае. Толькі наступ караля Стэфана Баторага ў 1579—1581 г. на чале літоўскіх і польскіх сілаў дазволіў разьбіць праціўніка.

Глыбокі крызыс, які хутка пасьля гэтага ахапіў Маскву, аддаліў пагрозу. У пачатку XVII ст. ён нават схіліў швэдаў і Рэч Паспалітую да інтэрвэнцыі. Здавалася, што дасягнутыя посьпехі польска-літоўскіх войскаў і заняцьце Масквы і Смаленску могуць прывесьці нават да ўзьнікненьня уніі Рэчы Паспалітай з Масквой. Аднак, з аднаго боку, неразуменьне культурнай і рэлігійнай адметнасьці маскоўскага насельніцтва, гвалт польскіх і літоўскіх войскаў, амбіцыі караля Жыгімонта III Вазы, а з другога боку, падазронасьць і антыпатыя ў дачыненьні да каталіцкіх інтэрвэнтаў з боку пераважнай большасьці маскоўскага грамадзтва прывялі ўрэшце да паўстаньня і доўгай вайны. Была страчаная Масква, але захаваны Смаленск і шырокія землі на ўсходзе, страчаныя ў XVI ст. Спроба адбіць іх Масквой у 1632—1634 г. закончылася паразай, якая, здавалася, на доўгі час пацьвярджала абсяг панаваньня Рэчы Паспалітай і дасягнутую ёй перавагу над усходнім суседам.

Новы разьдзел ва ўзаемнай гісторыі адкрыў 1648 г. і казацкае паўстаньне Багдана Хмяльніцкага ва Украіне. У адрозьненьне ад ранейшых, яно прынесла вялікія паразы войскам Рэчы Паспалітай. У Маскве ўважліва назіралі за разьвіцьцём падзеяў. Спачатку расейцы меркавалі нават аказаць падтрымку палякам, паколькі баяліся падобных выбухаў у сябе. Аднак паступова нецакой саступаў месца надзеі на тое, што Рэч Паспалітая пагрузіцца ў глыбокі крызыс, які дазволіць Маскве выцягнуць з гэтага максымальную выгаду. Ужо ў 1650 г. у Варшаву прыбыло пасольства братоў Пушкіных, якое прынесла правакацыйныя патрабаваньні ў дачыненьні да польскага боку. Вялікая параза Хмяльніцкага пад Берастэчкам у 1651 г. затармазіла маскоўскія прэтэнзіі, але польскія паразы ў наступныя гады і ўсё глыбейшы ўнутраны крызыс прымусілі зноў умяшацца ў справы Рэчы Паспалітай.

Тым часам Хмяльніцкі, зразумеўшы, што ня можа перамагчы Рэч Паспалітую, а яго татарскі саюзьнік зусім не жадае яму ў гэтым шчыра дапамагаць, пачаў зьвяртацца да цара Аляксея Міхайлавіча з прапановамі прыняць яго і Украіну ў сваё падданства. У Маскве выкарысталі нагоду і ў канцы 1653 г. згадзіліся з гэтым. Для ўжо вельмі аслабленай Рэчы Паспалітай гэта азначала чарговую вайну з моцным суседам. А для Масквы надыходзіла пара помсты за ўсе паразы першай паловы XVII ст. Царскія войскі ўвайшлі ў літоўскія межы на мяжы траўня і чэрвеня 1654 г. Яны мелі вялізную перавагу. Маштаб посьпехаў зьдзівіў самога цара. Былі разьбітыя невялікія літоўскія сілы, заняты Полацак, здабыты Смаленск і шэраг фартэцый на ўсходзе і поўначы Літвы. Да канца году маскоўскія войскі выйшлі на лінію Дзьвіны і Бярэзіны. Такім чынам, яны дасягнулі мяжы земляў, якія ў той час лічыліся спадчынна падпарадкаванымі цару, на якія ён заяўляў прэтэнзіі як на сваю вотчыну. Гэтую здабычу ўдалося абараніць, калі зімой 1654—1655 г. рушыў літоўскі наступ. Вясной царскія арміі, падмацаваныя казацкімі палкамі пайшлі ў чарговы наступ. Літоўскі супраціў быў нязначны. Пала Вільня, Горадня, Коўна, царскія войскі падышлі нават пад Берасьце-Літоўскае. Ад далейшага маршу і заняцьця Жамойці іх стрымала агульнае зьнясіленьне і, перш за ўсё, уваходжаньне ў рэшту літоўскіх земель швэдзкіх войскаў. Такім чынам, амаль усё Вялікае Княства Літоўскае апынулася пад уладай Аляксея Міхайлавіча, а мясцовая літоўская і беларуская шляхта апынулася перад вялікай дылемай: застацца вернымі пераможанаму польскаму каралю, які ўцёк за межы краю, ці прысягнуць на вечную вернасьць новаму гаспадару — маскоўскаму цару. Надзвычай імклівая зьмена падзеяў прыводзіла да таго, што гэтае пытаньне станавілася асабліва істотным. Рэч Паспалітая ўздымалася з упадку і распачынала наступ супраць швэдаў. Восеньню 1656 г. яна ўклала замірэньне і антышвэдзкі хаўрус з Масквой, а цару паабяцалі выбраць яго на польскі трон і хут-

ка распачалі супольныя дзеяньні супраць швэдаў у Інфлянтах. Заставалася толькі пытаньне, ці хаўрус, укладзены ў прымусовай сытуацыі і на вельмі цяжкіх для Рэчы Паспалітай умовах, зможа вытрываць выпрабаваньне часу і абсалютна супрацьлеглыя памкненьні абедзьвюх дзяржаў.

У кнізе зроблена спроба адказаць на гэтыя пытаньні, а таксама паказаць фактары, якія прывялі да спыненьня супрацоўніцтва і выбуху змаганьняў паміж Рэччу Паспалітай і Расеяй у 1658 г. Апісваюцца ваенныя дзеяньні гэтага году і змаганьні, якія вяліся ў 1659 годзе. Ад падзеяў, зьвязаных з пачаткам наезду князя Івана Хаванскага позьняй восеньню таго году, пераходжу да ўласна зазначанай у назьве тэмы. Яна ахоплівае наезд Хаванскага, яго дзеяньні на Наваградчыне, а потым наступ літоўскіх і польскіх войскаў, які дазволіў прагнаць маскоўскія войскі за Дзьвіну і Дняпро. У яго рамках знаходзяцца апісаньні бітваў пад Палонкай, на Басі, пад Талачынам і Друцкам, а таксама меншых сутыкненьняў. На разьвіцьцё падзеяў на літоўскіх і беларускіх землях, у тым ліку і ваенных, уплывала мноства фактараў. Таму я стараўся паказаць нязвыклую складанасьць тагачасных палітычных дачыненьняў паміж трыма бакамі, якія ваявалі на польскіх і літоўскіх землях — Швэцыяй, Рэччу Паспалітай і Расеяй. Падзеі ў Літве і Беларусі былі цесна зьвязаны з сытуацыяй ва Ўкраіне і са своеасаблівым дыпляматычным спаборніцтвам паміж Расеяй і Рэччу Паспалітай, якое мела на мэце хутчэйшае заключэньне міру са Швэцыяй. Дзеяньні літоўскіх гетманаў былі моцна абумоўлены канфліктам літоўскага магнацтва з каралеўскім дваром. На паводзіны самога войска вялізны ўплыў мелі праблемы з зарплатай, якія ўсё больш настойліва непакоілі яго, праблемы з абяцанымі ўзнагародамі, а таксама выкарыстаньне найвышэйшымі вайскаводцамі жаўнераў у сваіх палітычных канфліктах. Як па літоўскім, так і па маскоўскім баку немалую ролю адыгрывала ўзаемная антыпатыя і нават проста варожасьць паасобных вайскаводцаў. Праблемаў было больш — я згадаў найважнейшыя.

Кніга мае разгалінаваную частку, прысьвечаную падзеям, што папярэднічалі ўласна 1660 году. Было б цяжка зразумець падзеі гэтага году без паказаньня ранейшых. Да таго ж я пастараўся, маючы на ўвазе зацікаўленьне беларускага чытача, дапоўніць і паправіць апісаньне падзеяў, якія адбываліся на беларускіх землях у 1658—1659 г. Яны былі сапраўды багатыя на такія захапляльныя, але так малавядомыя падзеі, як паўстаньне Івана Нячая, абарона Старога Быхава ці выправа корпусу Сасноўскага. Надзвычай цікавая з розных прычын гісторыя паўстаньня насельніцтва Беларусі ў тыя гады супраць маскоўскага прыгнёту. Яго паходжаньне і разьвіцьцё, прычыны перамены пазыцыяў ад вернасьці цару да рашучага супраціву — усё гэта патрабуе грунтоўных дасьледаваньняў. У параўнаньні з польскім выданьнем я значна дапоўніў апісаньне гэтых выпадкаў. Дапамагло мне ў гэтым і тое, што пасьля публікацыі кнігі ў Польшчы я атрымаў доступ да чарговых архіўных крыніц, якія дадалі новай інфармацыі.

Разумею, што гэтая праца не вычэрпвае праблемы і ў шмат якіх месцах яе, напэўна, можна паправіць і дапоўніць. Гэта — поле для чарговых гісторыкаў, а цікавыя матэрыялы надалей хаваюцца ў архівах і бібліятэках розных краін. У гэтым месцы я жадаю сардэчна падзякаваць спадару Генадзю Сагановічу, кніга якога «Невядомая вайна 1654—1667» у свой час натхніла мяне на гэтыя дасьледаваньні.

Маю надзею, што праца сустрэнецца з зычлівым прыёмам беларускіх чытачоў. Як я зазначыў вышэй, яна датычыць фрагмэнту нашай супольнай гісторыі. Кніга напэўна выкліча шмат пытаньняў і камэнтароў. Гэта добра, бо яны заўсёды ствараюць нагоду для канструктыўнай дыскусіі, якая можа высьветліць шмат яшчэ малавядомых эпізодаў нашай гісторыі. І ў гэтым ёсьць патрэба, бо вайна 1654—1667 г. паміж Рэччу Паспалітай і Расеяй надалей застаецца вельмі слаба дасьледаванай і ўвесь час шукае сваіх гісторыкаў.

*Кшыштаф Касажэцкі.*

# Уступ

1660 год не дарма быў названы пад канец XIX ст. «спрыяльным годам» Віктарам Чэрмакам[1]. З 1648 г., калі чарговае казацкае паўстаньне ва Украіне пер态тварылася пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага ў зьнішчальную вайну з казакамі, польска-літоўская дзяржава пачала прыкметна правальвацца ў бездань глыбокага крызысу. Ён закрануў не толькі вайсковыя справы, але і шырэй зразуметыя ўнутраныя стасункі ў краіне. Абвастрылася напружанасьць паміж каралём Янам Казімерам і ўсё мацнейшай магнацкай апазыцыяй супраць яго. Становішча дзяржавы, змучанай безнадзейнымі змаганьнямі ва Украіне, імкліва пагоршылася, калі 11 кастрычніка ў Маскве Земскі сабор вырашыў узяць пад апеку запароскіх казакоў. Гэта быў выклік, кінуты Рэчы Паспалітай усходнім суседам, які, выкарыстоўваючы яе праблемы, намераўся адплаціць за ўсе зазнаныя з часоў Стэфана Баторага паразы і страты. Гэта азначала вайну, якая пачалася вясной 1654 г. і адразу прынесла ўжо моцна аслабленай Рэчы Паспалітай абодвух народаў цяжкія паразы, а ў наступным годзе — амаль поўную катастрофу.

1655 год быў трагічным для Рэчы Паспалітай. У дадатак да змаганьняў з Расеяй пачалася вайна са Швэцыяй. Аднак ужо апошнія дні таго году несьлі першыя праблескі надзеі на будучыню. Распачаўся тады павольны і поўны драматызму пэрыяд выйсьця польска-літоўскай дзяржавы з палітычнага крызысу. Кульмінацыйным момантам гэтага працэсу стаў 1660 год. Тады Рэч Паспалітая скончыла зьнішчальную вайну са Швэцыяй і ўзялася за расправу з Масквою і казакамі. Яна прынесла нечаканыя посьпехі ва Украіне і ў Літве, зьдзіўляючы ня толькі шляхецкую супольнасьць Рэчы Паспалітай, але і маскоўскага цара, яго вайскаводцаў і жаўнераў, якія так моцна за некалькі гадоў прызвычаіліся да лёгкіх перамогаў над заходнім суседам.

Падзеям гэтага году, але зьвязаным толькі зь літоўскім тэатрам, прысьвечана дадзеная кніга. Тэма кампаніі 1660 г. у Літве дагэтуль не дачакалася працы ў польскай гістарыяграфіі. Польскія гісторыкі ад XIX ст., калі ўжо займаліся ваеннымі дзеяньнямі таго ж году на ўсім доўгім фронце змаганьняў Рэчы Паспалітай з Масквой, засяроджваліся перш за ўсё на змаганьнях каронных войскаў ва Украіне. Гэта датычыць як згаданай працы В. Чэрмака, так і Людвіка Кубалі, які пісаў трыццаць гадоў пазьней[2]. Ня згадваем тут пра творы, канкрэтна прысьвечаныя выключна падзеям ва Украіне. Гэтыя працы, напісаныя на падставе досыць абмежаванай колькасьці крыніц, хоць і захоўваюць да сёньняшняга дня сваю навуковую каштоўнасьць, не вытрымліваюць сучаснай крытыкі. Шмат якім гіпотэзам і сьцьверджаньням гэтых гісторыкаў патрэбная грунтоўная праверка. Галоўная ўвага зьвярталася на баі ва Украіне, і рабілася гэта коштам падзеяў у Літве. Таму шмат капітальных падзеяў ці акалічнасьцяў ваенных дзеяньняў абодвух бакоў на літоўскіх землях засталіся незаўважаныя або разглядаліся павярхоўна.

Пасьля зьяўленьня працы Кубалі не зьявілася шмат новага ў разуменьні гісторыі ня толькі дзеяньняў 1660 году ў Літве, але і ўсіх змаганьняў з Расеяй на гэтых землях у гады вялікай вайны 1654—1667 г. Пасьля Другой сусьветнай вайны гісторыкі засяроджваліся на дасьледаваньнях змаганьня са швэдзкім наездам, цалкам закідваючы спробы наблізіць барацьбу зь вялікім усходнім суседам. Калі ўжо неяк і закранал гэтыя пытаньні, то гэта здаралася пры нагодзе дасьледаваньняў іншых праблемаў тагачаснай Рэчы Паспалітай,

[1] Czermak W. Szczęśliwy rok. Dzieje wojny polsko-moskiewskiej z r. 1660 // Przegląd Polski. T. 87—107 (1886—1897).

[2] Kubala L. Wojny duńskie i pokój oliwski (1657—1660). Lwów, 1922. Гл. разьдзел: Wojna moskiewska i ugoda cudnowska. S. 355—413.

якія датычылі, напрыклад, дзяржаўнага ладу, дыпляматычных стасункаў, канфліктаў паміж каралём і магнацтвам, вайсковых канфэдэрацыяў ці хоць бы біяграфій у «Polskim Słowniku Biograficznym». Таму ў працах сучасных аўтараў, якія займаюцца літоўскімі землямі, можна знайсьці крыху інфармацыі на тэму ваенных падзеяў вайны з Масквой, якая вялася на іх. Тут трэба згадаць Тадэвуша Васілеўскага, Анджэя Рахубу, Яна Вімэра, Генрыка Віснэра і Зьбігнева Вуйціка. Аднак дагэтуль няма цэласнай і глыбокай працы з гісторыі вайны з Масквою ў 1654—1667 г.

Гэта было вялізнай справай і, напэўна, пераўзыходзіла б дасьледчыцкія магчымасьці аднаго гісторыка. Усё ж насьпелых праблемаў у стасунках Рэчы Паспалітай з Масквой у сярэдзіне XVII ст. было шмат. Сама гісторыя вайны ня можа абмежавацца толькі ваеннай плоскасьцю, паколькі тады былі бы страчаны яе сэнс і значэньне для абедзьвюх дзяржаў. Вайна працягвалася зь перапынкам у 1658—1659 г. і нават з саюзам абедзьвюх дзяржаў, але заўсёды адбывалася ў кантэксьце вялікіх падзеяў, якія вызначалі аблічча Сярэдня-Ўсходняй Эўропы ў другой палове XVII ст.

Тут варта зьвярнуць увагу на галоўныя працы, прысьвечаныя гэтай вайне, якія ўзьнікалі ў царскай і савецкай Расеі ці ў апошнія гады, а таксама на напісаныя ўкраінскімі, а ў апошні час і беларускімі гісторыкамі. Найбольш манумэнтальнымі надалей застаюцца творы С.М. Салаўёва і М. Грушэўскага, хоць праца апошняга ахоплівае хутчэй крыху ранейшыя гады[3]. Зь літаратуры, узьніклай у савецкі пэрыяд, найбольш уносіць у падзеі, што папярэднічалі польска-літоўскім перамогам, праца Аляксандра Мальцава[4]. Пра ўсю масу прац іншых савецкіх гісторыкаў нельга сказаць нічога добрага. Найчасьцей яны абміналі ваенныя падзеі, пачынаючы з 1660 г. Не былі яны такія пахвальныя для царскіх войскаў, як з ранейшых гадоў. Акрамя таго, навязаная зьверху і прадыктаваная ідэалягічнымі меркаваньнямі інтэрпрэтацыя падзеяў ня раз цалкам скажала іх сапраўдную карціну.

Цяжкасьці з абменам інфармацыяй і доступам да выдавецкіх навінаў нашых усходніх суседзяў не заўсёды дазваляюць быць у курсе найбольш каштоўных публікацый адтуль. Зразумець праблемы, зьвязаныя з заблытанасьцю польска-расейска-швэдзкіх узаемадачыненьняў, поруч з больш старымі працамі, мне дапамагла сучасная кніга Е.І. Кобзаравай[5] і артыкулы прафэсара Б. Флорыі[6]. З украінскага боку шмат сьвятла на змаганьні беларускіх казакоў на чале з Іванам Нячаем супраць Масквы пралівае артыкул Андрэя Бульвінскага[7]. Усю ж вайну 1654—1667 г. апісвае беларускі гісторык Генадзь Сагановіч. Ён выкарыстоўвае дасягненьні польскай, расейскай і ўкраінскай навукі апошніх гадоў. Ёсьць там і разьдзел, прысьвечаны падзеям 1659—1660 г. З прычыны невялікага аб'ёму самой працы і вузкай базы выкарыстаных рукапісных крыніц гэтая кніга, нягледзячы на сваю несумненную каштоўнасьць, недастаткова вычэрпвае праблему змаганьняў 1660 г. у Літве[8].

---

[3] Соловьев С.М. История России с древнейших времен. Т. Х. Москва, 1961; Грушевский М. История Украины—Руси. Т. IX. Ч. 2. Киев, 1997.

[4] Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века. Москва, 1974.

[5] Кобзарева Е.И. Дипломатическая борьба России за выход к Балтийскому морю в 1655—1661 годах. Москва, 1998.

[6] Флория Б.Н. Русско-шведские мирные переговоры в Валиесаре (1658 г.) и Речь Посполитая // Славяноведение. 2005. № 2. С. 43—60; яго ж. От потопа до Вильна. Русская политика по отношению к Речи Посполитой в 1655—1656 г. КН. № СХ. 2003. С. 25—49.

[7] Бульвінський А. Українсько-російська війна 1658—1659 р.: основні битви, стратегія, чисельність та склад військ // Україна та Росія: проблеми політичних і соціокультурних відносин / Под ред. В.А. Смолія. Київ, 2003. С. 174—218.

[8] Сагановіч Г. Невядомая вайна 1654—1667. Менск, 1995.

Такім чынам, засяроджваючыся на ваенным аспэкце падзеяў 1660 г., у дадзенай публікацыі мы стараліся паказаць іх у як мага шырэйшым і ў той жа час даступным для шырокага чытача палітычным кантэксьце. А каб падзеі 1660 г. украніць у кантэксьце ранейшых падзеяў, была зьвернута ўвага на складаныя стасункі Рэчы Паспалітай з Расеяй і саюз зь ёй пад уплывам небясьпечнай для абедзьвюх дзяржаў швэдзкай экспансіі. Потым былі паказаныя разыходжаньні ў палітыцы абедзьвюх дзяржаў, якія, бясспрэчна, рабілі далейшае захаваньне пагадненьня немагчымым. Асабліва адзначана праблема панаваньня над Украінай і казакамі, а таксама захады Варшавы і Крамля дзеля ўкладаньня асобнага міру са Швэцыяй. Праблемамі іншага кшталту былі ўнутраныя стасункі ў Рэчы Паспалітай і разыходжаньні ў поглядах на праблему вайны і міру з Масквою паміж элітамі і літоўскай і кароннай шляхтай. Асабліва яны дадуць пра сябе знаць у пэрыяд небясьпечных зьбольшага для Літвы посьпехаў князя Івана Хаванскага. Таму мы паспрабавалі паказаць на некалькіх старонках намаганьні літоўскіх і каронных камісараў, якія павінны былі перагаворвацца наконт магчымага пагадненьня з Масквой і спыненьня ваенных дзеяньняў. Асабліва істотныя тут намаганьні пасланых соймам камісараў, прыкладзеныя ў пэрыяд пераможнага наступу Хаванскага ў канцы 1659 г. і ў першую палову 1660 г. Гэта былі ліцьвіны, поўныя роспачы над нядоляй сваёй айчыны, і палякі, якія трымаліся на большай адлегласьці ад падзеяў, што адбываліся вакол. На прыкладзе прадстаўнікоў абедзьвюх частак Рэчы Паспалітай, якія так доўга знаходзіліся сярод пераможных маскоўскіх войскаў у Літве, можна было заўважыць, быццам у люстэрку, амаль усе праблемы і сумненьні, якія непакоілі тады літоўскую шляхецкую супольнасьць, пачынаючы ад стаўленьня да пераможнай Масквы і заканчваючы абвінавачаньнем караля і палякаў у поўным ігнараваньні лёсу іх айчыны.

Наколькі магчыма мы імкнуліся аб'ектыўна паказваць палітычнае становішча і мэты ў далейшым канфлікце маскоўскага і казацкага бакоў. Гэта было нялёгкім заданьнем, і яго не зрабілі лягчэйшым маладаступныя расейскія архівы, якія, акрамя багатага матэрыялу, зьмешчанага ў шматтамовых выданьнях XIX—XX ст. першакрыніц, напэўна, хаваюць яшчэ нямала інфармацыі, якая можа істотна паўплываць на наша бачаньне палітычнага кантэксту і саміх ваенных дзеяньняў 1660 г. Ня раз, асабліва пры паказаньні спробаў распачаць перамовы з Масквой, давядзецца спыніцца на праблеме татараў, тагачасных польскіх саюзьнікаў. Зь імі трэба было лічыцца, і было вядома, што яны катэгарычна супраць такіх кантактаў. Таму боязь за татарскую рэакцыю заўсёды будзе відавочнай пры ўсялякіх спробах распачаць перамовы з Масквой ці прыпыніць ваенныя дзеяньні супраць гэтага праціўніка таксама на літоўскім фронце.

Разам са сканчэньнем швэдзкай вайны і пачаткам наступу польскіх і літоўскіх войскаў застаюцца за намі складаныя палітычныя праблемы. Другая палова 1660 г. — гэта ў асноўным пэрыяд ваенных змаганьняў. Пераважна ім прысьвечана будзе другая частка гэтай працы. Нельга не заўважыць, што ўвага каралеўскага двара ў момант яго пераезду летам у Львоў зьвярнулася больш да ўкраінскіх каронных земляў. Хоць літоўскі тэатар пасьля адбіцьця непасрэднай пагрозы і надалей быў вельмі важны, патроху набываў другаснае значэньне. Затое нельга абмінуць унутраных праблемаў Рэчы Паспалітай, асабліва зьвязаных з нарастаньнем незадавальненьня войска, а таксама абвастрэньнем супярэчнасьцяў паміж палітыкай каралеўскага двара, яго поглядам на спосаб вядзеньня вайны з Расеяй і пазыцыяй, якую рэпрэзэнтаваў вялікі літоўскі гетман Павел Сапега. Гэтыя зьявы, выразна бачныя ўжо вясной 1660 г., зробяць значны ўплыў на спосаб вядзеньня дзеяньняў у Літве ў другой палове году.

Гэтая праца паўстала на падставе перш за ўсё рукапісных крыніц, выяўленых падчас некалькігадовых пошукаў у архівах і бібліятэках Польшчы і замежжа (Літвы,

Беларусі, Украіны). Былі выкарыстаны таксама вялікія расейскія і савецкія выданьні XIX і XX ст. крыніц, якія захоўваюцца ў багатых расейскіх архівах. Паўсюль, дзе зьяўляецца цытаванае з расейскіх крыніц датаваньне, яно прыведзена да аднастайнасьці паводле грыгарыянскага календара.

Вялізную колькасьць інфармацыі можна знайсьці ў помніках цікавай для нас эпохі. Зразумела, найбольш каштоўныя тыя творы, аўтары якіх бралі асабісты ўдзел у апісаных на старонках гэтай кнігі падзеях. Тут можна згадаць мэмуары і дыярыюшы Яна Хрызастома Пасэка, Якуба Лася, Яхіма Ерліча, Яна Антонія Храпавіцкага, Яна Ўладыслава Пачобута-Адляніцкага, Аляксандра Дыянізія Скорабагатага, Міхала Лявона Абуховіча, Мацея Форбэк-Летава.

Дадзеная кніга абсалютна не прэтэндуе на вычарпаньне праблемы. Яе задача — наблізіць чытачу фрагмэнт польска-літоўскай гісторыі, надзвычай яскравы і драматычны, адзін з многіх, якімі перапоўненая гісторыя Рэчы Паспалітай абодвух народаў.

Гэтая кніга паўстала на падставе магістарскай працы на тэму бітвы пад Палонкай, напісанай у Інстытуце гісторыі Варшаўскага ўнівэрсытэту пад кіраўніцтвам нядаўна памерлага праф. др. габ. Тадэвуша Васілеўскага. Яму выказваю сардэчную ўдзячнасьць за ўводзіны ў сьвет праблемаў Вялікага Княства Літоўскага XVII ст., за істотную апеку, дапамогу ў зборы крыніц і заахвочаньне да цярплівасьці ў навуковых дасьледаваньнях. Таксама прагну ў гэтым месцы падзякаваць праф. др. габ. Міраславу Нагельскаму за няспынную падтрымку, праніклівыя заўвагі і натхненьне маёй цікавасьці да старапольскага ваеннага мастацтва. Пану праф. др. габ. Анджэю Рахубу дзякую за дапамогу ў наладжаньні кантакту з расейскімі гісторыкамі, дзякуючы якім я змог узбагаціць свае зьвесткі, якія датычаць Маскоўскай дзяржавы ў сярэдзіне XVII ст. Хачу таксама падзякаваць супрацоўнікам Галоўнага архіву даўніх актаў у Варшаве, а асабліва пану Яраславу Завадзкаму і пану Рафалу Янкоўскаму, за вялікую дапамогу ў здабыцьці каштоўных архіўных крыніц. Усім маім калегам з дактаранцкага сэмінару ў праф. др. габ. Т. Васілеўскага і праф. др. габ. М. Нагельскага, асабліва Конраду Бабятынскаму, выказваю ўдзячнасьць за дапамогу, заахвочаньне і многія каштоўныя заўвагі.

Асобная падзяка належыць маёй жонцы Агнешцы і дачцэ Зосі за іх цярплівасьць у час, калі іх муж і тата, адсутны дома, месяцамі сядзеў у архівах і бібліятэках.

# 1. Вялікае Княства Літоўскае 1658—1659 г.





# I. Аднаўленьне вайны з Масквой

Апошнія месяцы 1655 г. належалі да самых змрочных у гісторыі Рэчы Паспалітай XVII стагодзьдзя. Вялізная польска-літоўская дзяржава, якая з 1648 г. змагалася з казацкім паўстаньнем Багдана Хмяльніцкага, у 1654 г. апынулася перад чарговай вайной, на гэты раз з Маскоўскай дзяржавай. Зьнясіленая змаганьнямі ва Украіне, расколатая ўсё мацнейшымі ўнутранымі канфліктамі, яна не была ў стане даць адпор магутным арміям захопніка. Яго галоўныя сілы скіраваліся да зямель Вялікага Княства Літоўскага. На працягу 1654 г. царскія войскі дасягнулі там шэрагу бліскучых посьпехаў, у выніку якіх у іх рукі патрапілі землі па Дзьвіну і Бярэзіну. Зімою на чале ўмацаванай літоўскай арміі і моцных каронных падмацаваньняў вялікі літоўскі гетман Януш Радзівіл распачаў контранаступ. Нягледзячы на тое, што літоўскія разьезды дайшлі да самага Смаленску і было занята некалькі гарадоў, аднак не ўдалося здабыць Новага Быхава, і ўрэшце войска Радзівіла загразла пад Магілёвам, які ўпарта абаранялі царскія жаўнеры і мяшчане. У аблозе, што працягвалася да траўня 1655 г., было растрачана войска, рэшткі якога адышлі на захад Літвы. У ліпені, калі з захаду і поўначы ў межы Рэчы Паспалітай уваходзілі швэдзкія арміі, з усходу рушыла да сэрца Вялікага Княства вялікая маскоўска-казацкая навала. Не сустракаючы сур'ёзнага супраціву, 8 жніўня пад Вільню падышлі казацкія аддзелы Івана Залатарэнкі, а за імі — маскоўскія. У гэты і наступны дзень працягвалася нічым не стрыманая разьня жыхароў і зьнішчэньне горада. 10 жніўня ў Вільню ўехаў цар Аляксей Міхайлавіч. Падкрэсьліваючы факт здабытай надзвычайнай перамогі над адвечным ворагам, ён прыняў тытул «вялікі князь літоўскі, Белай Русі, валынскі і падольскі»[1]. У чарговыя тыдні маскоўскія аддзелы прасунуліся па-за Вільню і авалодалі Трокамі, Коўнам і Горадняй, укамплектоўваючы іх сваімі гарнізонамі. У лістападзе яны падышлі пад Берасьце-Літоўскае, але былі там адбітыя літоўскімі войскамі віцебскага ваяводы Паўла Сапегі.

За пару месяцаў да гэтага ў польскія межы і ў літоўскія з боку Інфлянтаў увайшлі швэды, якія зь непакоем назіралі за ростам магутнасьці Масквы, а тым больш за магчымасьцю выхаду яе войскаў на ўзьбярэжжа Балтыкі. Іх зьяўленьне, як і агульная зьнясіленасьць маскоўскіх войскаў, затармазіла наступ цара. Супярэчнасьцяў у інтарэсах і палітычных мэтах абедзьвюх дзяржаў было настолькі шмат, што ўжо ў красавіку 1656 г. дайшло да вайны паміж імі ў Інфлянтах. Такі паварот падзеяў аказаўся вельмі карысным для Рэчы Паспалітай, якая знаходзілася ў гаротнай сытуацыі. У Маскве баяліся вайны з моцнай Швэцыяй і абяцаньняў швэдзкага караля з мэтай схіліць да сябе шляхту, што як польскі кароль ён рушыць супраць Масквы, каб адабраць страчаныя на яе карысьць літоўскія і ўкраінскія тэрыторыі. Адзіным саюзьнікам цара ў блізкай вайне магла быць Рэч Паспалітая, для якой агрэсія скандынаваў была сьмяротнай небясьпекай. Для польска-літоўскай дзяржавы затрымка паходу царскіх войскаў на ўсходзе і пэратварэньне іх у сваіх саюзьнікаў былі сапраўдным ратункам ад безнадзейнага стану. У Маскве ж заўважылі нязвыклую нагоду авалодаць усёй Рэччу Паспалітай. У сувязі з крызысам польска-літоўскай дзяржавы, уцёкамі караля з краю было вырашана прыкласьці намаганьні, каб у імя супольнага змаганьня са швэдамі аб'яднаць рэшту магнацтва, літоўскіх, а нават каронных сэнатараў і шляхты дзеля прызнаньня ўлады цара. Пад канец 1655 г. на літоўскіх землях гэтыя надзеі, здавалася, пацьвярджаліся. Акрамя шляхты, якую на занятых тэрыторыях прымусілі прынесьці прысягу ў вернасьці цару, на ягоны бок пачалі пераходзіць найчасьцей валюнтарысцка настроеныя літоўскія камандзіры разам са сваімі аддзе-

[1] Пра вайну з Масквой у Літве ў 1654—1655 г. падрабязна пісаў нядаўна К. Бабятынскі (Bobiatyński K. Od Smoleńska do Wilna. Wojna Rzeczypospolitej z Moskwą 1654—1655. Zabrze, 2004).

ламі. У сувязі зь відавочнай паразай дзяржавы і адсутнасьцю надзеі на дапамогу тыя людзі, якія да сярэдзіны 1655 г. энэргічна змагаліся супраць маскоўскіх войскаў, цяпер здаваліся Аляксею Міхайлавічу. І так 13 сьнежня ў Барысаве на чале вялікага аддзелу прынёс прысягу палкоўнік Караль Лісоўскі, які за месяц да гэтага пакінуў літоўскія войскі, што на чале з ваяводам зьбіраліся пад Берасьцем-Літоўскім. Праз дзень гэта зрабіў разам зь іншымі ротмістрамі і 16 харугвамі Ян Мэнжынскі. Зь іншым камандзірам, Флярыянам Слонскім, уладзе цара паддаліся 203 полацкія шляхціцы[2].

Кантакты, наладжаныя ўжо пад канец 1655 г.[3], мусілі быць значна скарэктаваныя з увагі на паляпшэньне становішча Рэчы Паспалітай і вяртаньня ў яе караля. Аднак далейшыя дыпляматычныя перамовы прывялі 3 лістапада 1656 г. у Немежы пад Вільняй да заключэньня замірэньня і саюзу супраць швэдаў[4]. Узамен за гэта пераможаная Рэч Паспалітая была вымушаная прыняць цяжкія царскія ўмовы. Трэба было згадзіцца зь нечаканым патрабаваньнем маскоўскіх перамоўцаў аб выбары цара на польскі трон падчас найбліжэйшага сойму. Папярэдне таксама зь вялікімі тэрытарыяльнымі ўступкамі, хоць канчатковае рашэньне ў гэтым пытаньні было адкладзенае на пазьнейшы час, цару аддавалася таксама кіраўніцтва над казакамі, якіх цар мусіў трымаць у паслушэнстве як сваіх падданых. Відавочнай карысьцю для польска-літоўскага боку была затрымка вайны з Масквой і прасоўваньне яе войскаў у глыб Рэчы Паспалітай. У чарговыя месяцы галоўная частка царскіх войскаў адышла з заходняй Літвы ў Інфлянты. Аднак там засталіся іх залогі [гарнізоны] у Вільні, Троках, Горадні, Коўне, Навагрдаку, Менску[5]. Гэта стварала пачуцьцё вяртаньня пэўнай стабільнасьці, якая давала многім шляхецкім уцекачам надзею на вяртаньне дамоў. Аднак сытуацыя не была такой зразумелай. Займаючы ў 1654—1655 г. чарговыя літоўскія землі, царскія войскі прымушалі шляхту, якая заставалася на іх, даваць клятву на вернасьць цару як свайму новаму гаспадару. Тыя, хто не хацеў гэтага рабіць, падстаўлялі сябе і свае сем'і пад рэпрэсіі і пагрозу вывязеньня ў глыб царскай дзяржавы, а найчасьцей яны загадзя ўцякалі ад войскаў непрыяцеля. Так, прымусіўшы шляхту даць клятву, у Маскве яе прызналі царскімі падданымі, а занятыя царскімі войскамі землі — т.зв. «заваяванымі» землямі, г.зн. такімі, на якіх кіраўніцтва ў імя цара павінны ажыцьцяўляць ягоныя ваяводы, а таксама, як было пазьней узгоднена ў перамовах з прадстаўнікамі караля, літоўскім войскам і ўраднікам нельга было туды ўваходзіць. На Віленшчыне мяжа заваяваных зямель з боку Жамойці праходзіла па рацэ Сьвятой, а з захаду — па Нёмане. Да прынясеньня клятвы была прымушаная і навагрудзкая шляхта, а таксама пасьля выправы князя Сямёна Андрэевіча Урусава восеньню 1655 г., калі Павел Сапега, які спачатку стаяў на чале войска і шляхты пад Берасьцем, згадзіўся прывесьці да падданства сабраную шляхту, прысяглай сталі лічыць і берасьцейскую шляхту. Зьява масавага пры-

---

[2] AVAK. N. XXXIV. № 65, 66. S. 73—75. Флория Б.Н. От потопа до Вильна. Русская политика по отношению к Речи Посполитой в 1655—1656 г. КН. № CX. 2003. С. 37—40.

[3] Пра першыя кантакты маскоўскай дыпляматыі з польска-літоўскім бокам гл.: Medeksza S.F. Stefana Franciszka z Prószcza Medekszy sekretarza Jana Kazimierza, sędziego ziemskiego kowieńskiego Księga Pamiętnicza wydarzeń zaszłych na Litwie 1654—1668 / Wyd. W. Seredyński // Scriptores Rerum Polonicarum. T. III. Kraków 1875. S. 15; Wójcik Z. Polska i Rosja wobec wspólnego niebezpieczeństwa szwedzkiego w okresie wojny północnej 1655—1660 // Polska w okresie drugiej wojny północnej. Warszawa, 1957. T. I. S. 339—349; яго ж. Wielkie Księstwo Litewskie wobec Szwecji, Rosji i powstań kozackich. PW. 1991. № 3. S. 583.

[4] Тэкст перамоваў у: AGAD. AR. Dz. II. Ks. 21. S. 281—282, 284, 289; параўн.: Gawlik M. Projekt unii polsko-rosyjskiej w drugiej połowie XVII wieku. KH, 23 (1909). S. 94—97; Wójcik Z. Polska i Rosja wobec wspólnego niebezpieczeństwa... Op. cit. S. 33—41.

[5] AGAD. AKW. Dz. ros. № 54/9, 10; Мальцев А.Н. Россия и Белоруссия в середине XVII в. Москва, 1974. С. 224.

сяганьня на вернасьць цару ў трагічнай другой палове 1655 г. была дастаткова зразумелай, калі ўзяць пад увагу агульную сытуацыю Рэчы Паспалітай. У той час шляхецкая каронная брацьця рабіла тое самае перад швэдзкім каралём, стараючыся як мага выгадней дамовіцца зь ім у сувязі з уцёкамі з краю Яна Казімера. Умовы, якія ставіліся захопнікамі, не былі цяжкімі: захоўвалася маёмасьць і свабода веравызнаньня, таму зьнікала шмат перашкодаў перад клятвай на вернасьць. Падобна было таксама на землях, занятых Масквою. Цар захоўваў прывілеі, чыны, маёмасьць і свабоду веравызнаньня. На занятых у 1655 г. заходніх літоўскіх паветах ён быў выключна схільны да стрыманасьці ў сваіх чаканьнях, абы толькі схіліць шляхту да прысягі. Можна было меркаваць, што далёкай тагачаснай мэтай палітыкі Крамля было заняць цэлае Вялікае Княства Літоўскае, прывесьці да клятвы на вернасьць цару, абвешчанаму ва ўжо здабытай Вільні вялікім князем літоўскім, шляхецкую супольнасьць княства і тым самым стварыць падставы да адрыву Літвы ад уніі з Польшчай[6]. У крыху пазьнейшы час у сувязі з магчымым замірэньнем з Рэччу Паспалітай адрыў ад яе Літвы стаў праблематычным. Затое зьявілася ідэя заняцьця цэлай Рэчы Паспалітай пры дапамозе выбару цара на каралеўскі трон падчас найбліжэйшага сойму. З гэтым патрабаваньнем паслы Аляксея Міхайлавіча абсалютна нечакана для каралеўскіх камісараў выступілі падчас перамоваў пад Немежам у 1656 г.

Трактат у Немежы быў маскоўскім дыктатам, пастаўленым пераможанаму праціўніку, які знаходзіўся на краі бездані. Таму трэба было спадзявацца, што ён будзе згаджацца з гэтым толькі да моманту, калі ягонае становішча паправіцца. Умовы трактату ў даўжэйшай перспэктыве былі непрымальныя для польскіх дзяржаўных інтарэсаў і шляхецкай супольнасьці. Ніхто не ўяўляў сабе адмовы ад украінскіх, літоўскіх і беларускіх зямель, якія пераможная Масква пачала лічыць сваімі. Асаблівую непрыязнасьць сярод палітычных кіраўнікоў польска-літоўскай дзяржавы выклікалі пастановы наконт выбраньня цара на польскі трон, і гэта яшчэ пры жыцьці караля Яна Казімера, на найбліжэйшым сойме, хоць фактычна ён мусіў прыняць кіраўніцтва толькі пасьля сьмерці ранейшага манарха. Яны баяліся абсалютысцкіх памкненьняў цара, не ўдалося згадзіцца з панаваньнем праваслаўнага ўладара, а чым бліжэй да каронных межаў, асабліва ў самой Кароне, тым мацней адчувалася непрыязнасьць да «грубага масквіціна». Нягледзячы на гэта, царская кандыдатура і бачаньне асабістай уніі з Масквой мела таксама шмат прыхільнікаў. Нашмат менш іх было сярод каронных шляхты, затое літоўская з прычыны страчаных маёнткаў была больш схільная да ўступак цару ў гэтым і іншых пытаньнях[7].

Разыходжаньняў паміж абедзьвюма дзяржавамі было значна больш, чым агульных мэтаў, дзеля якіх было заключана замірэньне. Зь цягам наступных месяцаў гэта праяўлялася ўсё больш выразна. Ужо вясной 1657 г. кароль скардзіўся цару, што казакі, царскія падданыя, падтрымалі трансыльванцаў і швэдаў і разам зь імі спусташылі Польшчу. У траўні ён паведамляў, што ягоныя ўраднікі не дапускалі збору паспалітага рушаньня, скліканага супраць казакоў і Ракочага. Былі таксама папрокі, што царскія вайскаводцы слаба ваявалі супраць швэдаў пад Рыгай, якой ня здолеў здабыць князь Іван Хаванскі. У адказ цар рабіў закіды, што польская залога з Камянца-Падольскага пер-

---

[6] Параўн.: Курбатов О. Литовский поход 7168 года князя И.А. Хованского и битва при Полонке // Славяноведение. 2003. № 4. С. 26; уступ аўтарства Т. Васілеўскага і М. Кулецкага ў: Крестоприводная книга шляхты Великого Княжества Литовского 1655 г. // Памятники истории Восточной Европы. Москва—Варшава, 1999. С. 9—15, 24—36.

[7] Параўн.: C. Brzostowski do B. Radziwiłła, Laski 29 III 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 1503/I. S. 44; Dąbrowski J. Polsko-moskiewskie rokowania pokojowe w 1658 roku // Rzeczpospolita w latach Potopu. Kielce, 1996. C. 91—92.

шая напала на яго падданых казакоў і выразала іх на прасторы да самага Бару, і таму Хмяльніцкі мусіў паслаць некалькі палкоў для сваёй абароны пад Камянец. Пры гэтым цар паведамляў, што загадаў Хмяльніцкаму адклікаць з Польшчы свае палкі, якія ён выслаў у дапамогу Ракочаму. Узаемныя прэтэнзіі памнажаліся ва ўсё большай колькасьці, а ў другой палове 1657 г. пачалі зьяўляцца абвінавачаньні, што палякі стараюцца збунтаваць казакоў супраць цара, а таксама шукаюць дапамогі ў басурманаў — татараў і туркаў. Цар пачаў нагадваць пра сойм. У жніўні ён заявіў, што Польшча ўжо амаль цалкам вызваленая ад ворагаў. Таму патрабаваў ад караля выканаць абяцаньне, дадзенае пад Немежам, але каб вялікія і паўнамоцныя паслы былі прысланыя ў Маскву і там завяршылі перамовы, распачатыя ў Немежы пад Вільняй[8]. З другога боку, палякі і ліцьвіны пачалі заўважаць патаемныя кантакты цара са швэдамі і папракаць яго ў гэтым. Асабліва занепакоіўся імі вядомы прыхільнік саюзу з Масквой, літоўскі палявы гетман Марцін Корвін-Гасеўскі. У яго рукі траплялі лісты зь перапіскі паміж швэдзкімі камандзірамі і вядомым царскім дыпляматам і ваяводам Кокенгаўзэна Афанасіем Лаўрэнцевічам Ардзін-Нашчокіным. Гэта выклікала падазрэньні, што расейцы вядуць сакрэтную гульню насуперак пастановам пра замірэньне, прынятым у Немежы. Да таго ж Гасеўскі на працягу ўсіх сваіх дзеяньняў у Інфлянтах ня мог дачакацца дапамогі царскіх войскаў. Яго́ныя посьпехі былі праблемай для Масквы, якая хацела бачыць гэтую краіну ў сваіх руках. Праблема стала яшчэ большай, калі ў пачатку 1658 г. на царскім двары ўсё больш выразна ўсьведамлялі немагчымасьць падпарадкаваць сабе Рэч Паспалітую і пераходзілі да перамоваў са швэдамі і стрыманьня ваенных дзеяньняў у Інфлянтах. Аднак расейцы надалей стараліся не адштурхнуць ад сябе Гасеўскага, а разам зь ім і моцную групу літоўскіх прыхільнікаў пагадненьня з царом, хоць усё больш баяліся выбуху літоўска-маскоўскіх канфліктаў. Каб аддаліць гэтую небясьпеку, літоўскага вайскаводцу яшчэ вясной 1658 г. пераконвалі ў царскай міласьці і плянах аказаць вайсковую дапамогу[9].

Каралеўскі двор падыходзіў да саюзу з царом досыць інструмэнтальна, а стаўленьне да яго залежала ад разьвіцьця сытуацыі ў вайне з Карлам X Густавам. Як мага больш выгаднае яе заканчэньне будзе галоўнай мэтай каралеўскай палітыкі. На роспач і незадавальненьне ліцьвінаў, якраз у імя гэтага будуць ахвяраваныя інтарэсы іхняй бацькаўшчыны аж да самага канца швэдзкай вайны ў першай палове 1660 г. Нежаданьне зьвязвацца з Масквою дадаткова падагравалася энэргічнай дзейнасьцю францускіх і аўстрыйскіх дыпляматаў. Трэба было лічыцца таксама зь меркаваньнем татараў, якія, будучы польскімі саюзьнікамі, заўсёды зь вялікай падазронасьцю пазіралі на ўсякія польскія кантакты з царскімі дыпляматамі[10]. Немеская дамова зь цягам часу пачынала паказваць свае два бакі. Карысны, паколькі стрымліваў катастрофу, што падцягвалася з усходу. Адмоўны, паколькі трэба было справіцца зь цяжкімі абавязкамі перад царом. Выбар ягонай асобы меркавалася правесьці падчас найбліжэйшага сойму, на які маскоўскі бок разьлічваў яшчэ ў 1656 ці ў пачатку 1657 г. Змаганьні, якія тады вяліся на польскіх землях, далі магчымасьць каралеўскаму двару спасылацца перад царом на далейшую немагчымасьць хутка склікаць сойм, што выклікала першыя праявы незадавальненьня ў

[8] Jan Kazimierz do Aleksego Michajłowicza, pisan w Zamku Naszym Korony Polskiej 8 V 1657. RGADA. F. 389. Op. 2. № 598. K. 185—186; Copia hramoty do Króla Jmci od Cara Moskiewskiego. Moskwa 5 VIII 1657. Тамсама. К. 1—2.

[9] Гл.: AMG. T. II. № 990. S. 586; 1005, s. 594—595; 1006, s. 596; 1008, s. 597; 1010, s. 599—600; 1014, s. 600—601.

[10] Baranowski B. Tatarszczyzna wobec wojny polsko-szwedzkiej w latach 1655—1660 // Polska w okresie drugiej wojny północnej. Warszawa, 1957. T. I. S. 484—489; Podhorodecki L. Chanat Krymski i jego stosunki z Polską w XV—XVIII wieku. Warszawa, 1987. S. 187—200.

атачэньні Аляксея Міхайлавіча і падазрэньні ў зацягваньні часу польскім бокам. У гэтым было шмат праўды, паколькі разам з паляпшэньнем ваеннага становішча для Рэчы Паспалітай зьніжалася вартасьць саюзу з царом і выгады, якія зь яго вынікалі. Неабходнасьць захаваньня прымусовых забойчых умоваў Немескай дамовы таксама станавілася ўсё больш сумнеўнай. Аднак хацелася як мага даўжэй не парушаць гэтай дамовы і не аднаўляць вайну з царом, пакуль працягвалася вайна са Швэцыяй. Таму, няспынна дамагаючыся ў стасунках з Масквою падмацаваньняў супраць швэдаў, двор стараўся ашукваць яе заявамі пра жаданьне правесьці выбары цара. Адначасова меркавалася запозьніць іх правядзеньне і зацягнуць уступныя перамовы, каб выйграць час і справіцца са швэдзкім фронтам. А пазьней зьявілася мэта перацягнуць на свой бок казакоў[11].

Становішча Рэчы Паспалітай папраўлялася дастаткова хутка, і ўжо ў другой палове 1657 г. змаганьні са швэдамі вяліся толькі на Памор'і, у Прусіі, у Курляндыі і Інфлянтах. Таму для Рэчы Паспалітай зьніжалася вартасьць саюзу з Масквой, і было ўсё менш жаданьня ажыцьцяўляць яго ўмовы. Тым больш, што разам з паляпшэньнем сытуацыі на швэдзкім фронце адкрылася пэрспэктыва на перацягваньне на свой бок казакоў, якія дагэтуль заставаліся пры Маскве. Пасьля сьмерці летам 1657 г. Багдана Хмяльніцкага, выкарыстоўваючы рост незадавальненьня сярод казакоў маскоўскім панаваньнем, польская дыпляматыя распачала энэргічныя дзеяньні на гэтым полі. Паспрыяў гэтаму запароскі гетман Іван Выгоўскі, які хутка прыняў прапольскую пазыцыю, а за ім і значная частка казацкай старшыны з энэргічным Паўлам Цяцерам на чале. Новыя магчымасьці перацягваньня на свой бок казакоў прывялі да таго, што каралеўскі двор усё больш выразна станавіўся на шлях канфрантацыі з Масквой. Здабыцьцё саюзьніка ва Украіне, які разам з татарамі мог паважнуцца супраць Масквы, здавалася, ураўнаважвала далейшае вядзеньне вайны са Швэцыяй. Гэта дазваляла каралеўскаму двару зрабіць сваю пазыцыю ў дачыненьні да царскіх спадзяваньняў больш жорсткай, а нават супрацьпаставіцца ім. Аднак згоды на распачацьце вайны са Швэцыяй трэба было дабіцца ад шляхты, паколькі яна разрывалася паміж неабходнасьцю захаваць добрыя стасункі з адным з праціўнікаў і ня бачыла магчымасьці ваяваць з абодвума адначасова, нават калі б удалося перацягнуць на свой бок казакоў, якім да канца ня верыла. Распачацьце вайны з Масквою мела шмат праціўнікаў, не хацелі гэтага каронныя і літоўскія гетманы. Вельмі баяліся ліцьвіны, ведаючы, што менавіта іх зямля стане яе першачарговай ахвярай, тым больш, што навіны, якія прыходзілі з Украіны, не былі настолькі аптымістычныя, як іх успрымалі на каралеўскім двары. Хоць яны паведамлялі пра саюз запароскага войска з татарамі, аднак вясной не было недахопу ў данясеньнях пра слабую пазыцыю Выгоўскага, пра бунты супраць яго сярод казакоў і пра надалей моцную пазыцыю Масквы на тых тэрыторыях. З другога боку, заўважалася паступовае ўзмацненьне царскіх сілаў, якія стаялі ў Вільні, што прымушала разьлічваць на распачацьце Масквою варожых дзеяньняў у адказ на сувязі Рэчы Паспалітай з казакамі, якіх у Немежы згадзіліся лічыць царскімі падданымі. І хоць яшчэ вясной 1658 г. Аляксей Міхайлавіч прысылаў на каралеўскі двор свае граматы, вытрыманыя ў сяброўскім тоне, аднак адначасова заўважаліся там пераменлівыя ягоных войскаў. Усё гэта схіляла ліцьвінаў да асьцярожнасьці і хутчэй пазьбяганьня крокаў, якія маглі пагоршыць стасункі з усходнім суседам[12]. Ня толькі ў Літве, але і ў Кароне пры гэтым

[11] Kubala L. Wojny duńskie i pokój oliwski 1657—1660. Lwów 1922. S. 67—69; Wójcik Z. Traktat Andruszowski... S. 30—34.

[12] Stefanowicz do B. Radziwiłła, Słuck 13 III 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 15081. S. 2—3; ліст ад 24 III 1658. S. 7; Jan Kazimierz do P. Sapiehy. Sieraków 13 VI 1658. LvNB. F. 103. № 1690; Chrapowicki. S. 155; Szwaba M. Litwa wobec unii hadziackiej 1658 roku // Studia Wschodnie, Prace Historyczne II. Wrocław, 1993.

усьведамлялі, што сьпярша трэба разьвязаць сабе рукі на захадзе, г.зн. закончыць вайну са Швэцыяй.

На мяжы 1657 і 1658 г. нішто ня сьведчыла пра тое, што швэды будуць схільныя да большых уступак. Таму ня трэба было разьлічваць на хуткае заканчэньне вайны зь імі. З гэтай жа прычыны нельга было дазволіць сабе абвастрэньня канфлікту з Масквою, а таксама настроіць супраць сябе значную частку шляхты. На царскае патрабаньне адправіць паўнамоцных паслоў у Маскву адказалі ў пачатку 1658 г. праз Стэфана Галецкага. Аляксею Міхайлавічу паведамлялі, што нарэшце вызначана дата сойму на 28 чэрвеня, і прасілі яго, каб паводле Немескай дамоўленасьці ён прыслаў на гэты тэрмін сваіх вялікіх і паўнамоцных паслоў для завяршэньня перамоваў. Аднак кароль у сакавіку 1658 г., на канвакацыі ў Варшаве, нягледзячы на адкрытую непрыязнасьць нават каронных гетманаў, фарсаваў імкненьне да саюзу з казакамі. Не было таксама таямніцай, што вяліся перамовы з татарамі, а падазравалі нават, што наконт падмацаваньняў супраць Масквы[13]. Дапамог яму ў гэтым рост сярод сэнатараў і шляхецкай думкі нежаданьня выконваць маскоўскія патрабаваньні. Было вырашана далей падманваць цара абяцаньнем абраньня. Аднак з разьлікам на вайну з Масквой, як вынік прынятай палітыкі, было вырашана як мага хутчэй завяршыць змаганьні са Швэцыяй. Так было прынятае французскае пасярэдніцтва з мэтай хутчэйшага і выгаднага заключэньня міру са Швэцыяй[14]. А паколькі да таго часу не было адказу, адтуль паслалі цару праз Юр'я Міхала Бяніцкага чарговае паведамленьне пра пачатак у канцы чэрвеня, як першапачаткова меркавалася, сойму. Цара таксама інфармавалі наконт стараньняў францускай і галяндзкай дыпляматыі, накіраваных на прымірэньне Рэчы Паспалітай са Швэцыяй. У імя заключаных у Немежы дамоўленасьцяў кароль запрашаў на гэтыя перамовы таксама паслоў Аляксея Міхайлавіча[15].

Аднак у Маскве з другой паловы 1657 г. пачыналі ўсё больш сумнявацца ў сэнсе далейшай падтрымкі саюзу з Рэччу Паспалітай. Шматлікія доказы сьведчылі, што яна не намерана так лёгка падпарадкавацца волі цара. Гэтыя назіраньні якраз спаткаліся зь дзеяньнямі швэдзкага двара, які, будучы вымушаным змагацца ўжо з цэлай кааліцыяй дзяржаў (Рэч Паспалітая, Расея, Данія, Брандэнбургія, Аўстрыя), таксама шукаў магчымасьці спыніць вайну, прынамсі, зь некаторымі зь іх. У Стакгольме пачалі думаць наконт таго, каб спыніць змаганьні з Масквой і ўкласьці саюз супраць Рэчы Паспалітай. Зьявіліся таксама галасы, каб хутчэй з Рэччу Паспалітай ударыць на Маскву. Хутка аказалася, што нашмат больш шанцаў на рэалізацыю мае пагадненьне са Швэцыяй і Масквой. Ужо раньняй вясной 1658 г. выбітны маскоўскі дыплямат Афанасій Ардзін-Нашчокін абмаляваў цару сытуацыю, якая выразна ўказвала на неабходнасьць распачаць перамовы са швэдамі. Ардзін-Нашчокін быў ваяводам Кокенгаўзэна, падтрымліваў сталыя кантакты як са швэдзкімі камандзірамі, так і зь літоўскімі, а вясной вярнуўся са двара Яна Казімера ягоны сын Воін, які знаходзіўся там. Ён зрабіў бацьку дэталёвую справаздачу пра палітычныя пляны Рэчы Паспалітай. Таму старэйшы Нашчокін добра арыентаваўся ў сытуацыі абедзьвюх дзяржаў і, маючы магчымасьць непасрэдна пасылаць свае лісты цару, моцна ўзьдзейнічаў на яго рашэньні. Так, Ардзін-Нашчокін указваў цару, што палякі таксама імкнуцца ўмацаваць свае пазыцыі ў дачыненьні

[13] B. Olszewski do B. Radziwiłła, Warszawa 15 III 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 10816/I. S. 68.

[14] Dąbrowski J. S. 92—94. Гл.: Dyskurs polityczny przed sejmem wielkim warszawskim, z kim grontowniej zawrzeć pokój: czy-li z Moskwicinem albo z Szwedem? // Pisma polityczne z czasów panowania Jana Kazimierza Wazy 1648—1668 / Opr. S. Ochmann-Staniszewska. Wrocław, 1989. T. I. S. 213—216; Тамсама. Speculum prawdziwe synom koronnym in hac podczas sejmu calamitate zostającym. Roku 1658. S. 217—219.

[15] Jan Kazimierz do Aleksego Michajłowicza, w Pałacu Warszawskim 11 III 1658. RGADA. F. 79. № 103.

да швэдаў і стараюцца схіліць да сябе казакоў. Папярэджваў, калі ім удасца гэтак падмацавацца, то яны будуць размаўляць з царом пра ўмовы міру з пазыцыі сілы. Таму Нашчокін пераконваў Аляксея Міхайлавіча апярэдзіць гэтыя падзеі і ўкласьці як мага больш выгадны мір са швэдамі, якія якраз увязаліся ў цяжкую вайну з Аўстрыяй, што стала галоўнай мэтай Карла Х Густава. Пры гэтым Нашчокін указваў на цяперашнюю слабасьць Польшчы і надалей моцную пазыцыю ў ёй швэдаў. Таму, як меркаваў Нашчокін, мір са швэдамі ў пэўнай ступені аўтаматычна прывёў бы да таго, што аслабленая Рэч Паспалітая патрапіла б у маскоўскія рукі. Ён улічваў швэдзкія і брандэнбурскія інтарэсы. Паводле яго прагнозаў, кожны з гэтых трох манархаў атрымаў бы зь земляў Рэчы Паспалітай тое, што задавальняла б іх чаканьні. Таму зь вясны вельмі актывізаваліся дыпляматычныя швэдзка-маскоўскія кантакты, а ў пачатку году ў царскай сталіцы знаходзілася швэдзкае пасольства, якое мела паўнамоцтвы для перамоваў пра мір. Паколькі інтарэсы разыходзіліся, перамовы павінны былі працягвацца доўга. Аднак хуткім вынікам іх распачацьця было спыненьне змаганьняў у Інфлянтах паміж швэдзкімі і маскоўскімі войскамі[16].

Тым часам на польскім двары было добра вядома, што Масква са свайго боку таксама настойліва шукае паразуменьня са Швэцыяй, а распачатыя каралеўскім бокам дзеяньні ва Ўкраіне не абмінуць яе ўвагі і яшчэ больш абвастраць узаемадачыненьні. Таму было вырашана яшчэ хутчэй правесьці канчатковае замірэньне з казакамі. Існавала таксама малая надзея, што ўдасца апярэдзіць царскіх дыпляматаў у пошуках вырашэньня канфлікту са Швэцыяй. Было зразумела, што заключэньне міру паміж Масквой і Стакгольмам дасьць ёй магчымасьць скіраваць усе сілы супраць каралеўскіх войскаў. Таму вясной 1658 г. на гетманаў быў зроблены ціск, каб яны ўсяляк палягчалі кантакты з казакамі ў пытаньні перамоваў наконт заключэньня саюзу і тым самым дасягнулі дастатковай падрыхтоўкі да выбуху чаканага ў блізкім часе вырашальнага збройнага канфлікту з царом[17].

Казацкае пытаньне патрабавала ўзгадненьня на сойме. Скліканьня сойму патрабаваў з усёй большай настойлівасьцю і цар. У пачатку красавіка ў Познань, дзе знаходзіўся кароль, прыбыў царскі стольнік Іван Сьцяпанавіч Целяпнёў зь лютаўскім царскім лістом. Аляксей Міхайлавіч выказваў каралю шэраг прэтэнзій, што ён, не захоўваючы абавязаньняў, пазьбягаў скліканьня сойму. Цар рашуча заявіў, што цяпер ужо ня час пасылаць паслоў у сойм і ён туды сваіх не пашле. Запатрабаваў, каб кароль і Рэч Паспалітая паслалі сваіх у Маскву або пад Вільню на зьезд, які мусіў адбыцца ў канцы чэрвеня або ў пачатку ліпеня. Пасьля атрыманьня гэтай граматы ў двары ня надта ведалі, як паставіцца да патрабаваньняў відавочна раззлаванага цара. Яму адказалі праз адпраўленага 5 траўня Целяпнёва, што раней з многіх прычын сойму не ўдалося склікаць. А адпраўленьне паслоў на зьезд і ўзгадненьне там паразуменьня супярэчыць пагадненьням зь Немежу і законам Рэчы Паспалітай. Бо ў Немежы было вырашана, што гэта адбудзецца на сойме. А паслоў, якія былі б прадстаўнікамі Рэчы Паспалітай, можна пасылаць толькі з сойму. У двары яшчэ не хацелі канчаткова парываць з царом, таму, як адзначалася, каб цар не падумаў, што кароль ня хоча міру, быў дадзены дазвол на камісію пад Вільняй і абяцаньне адправіць туды паўнамоцных паслоў з сойму. Праблемай быў тэрмін зьезду, усталены Аляксеем Міхайлавічам на тыя месяцы, калі менавіта мусіў адбывацца сойм. Была зроблена агаворка, што ўжо даўно адпраўленыя Галецкі і Бяніцкі павінны былі паведаміць у Маскве пра

[16] Флория Б.Н. Русско-шведские мирные переговоры в Валиесаре (1658 г.) и Речь Посполитая // Славяноведение. 2005. № 2. С. 43—45; AMG. T. II. № 1021—1023. S. 604—607.

[17] Гл.: A. Leszczyński, biskup gnieźnieński do Jana Kazimierza, Skierniewice 11 IV 1658. AGAD. AZ. № 3052. S. 14.

плянаваньне сойму на канец чэрвеня. Таму прапанавалася правесьці камісію пасьля заканчэньня сойму. Акрамя таго, на царскія абвінавачаньні было адказана тым самым. Яму закідвалася парушэньне пастановаў зь Немежу наконт супольных перамоваў са Швэцыяй, паколькі Рэч Паспалітая даведалася, што цар распачаў безь яе ведама перамовы са швэдзкім каралём[18].

На самой справе патрабаваньні цара былі вельмі выгадныя двару і аказаліся памылкай маскоўскай дыпляматыі. Скліканьне сойму і так было неабходнасьцю. Адсутнасьць на ім усялякіх царскіх паслоў можна было паказаць шляхецкай думцы як нежаданьне Крамля канчаткова ўрэгуляваць канфлікт. Тым больш патрабаваньне адправіць паслоў у Маскву ці пад Вільню выстаўляла цара як парушальніка нямескіх дамоўленасьцяў, якія да таго ж пагарджае соймам. А дзякуючы адпраўленьню пасьля сойму паслоў пад Вільню можна было выйграць чарговыя месяцы для перацягваньня казакоў на свой бок. Акрамя таго, меркаванымі перамовамі пад Вільняй можна было здалёк кіраваць інструкцыямі, якія больш адпавядалі волі двара, а ня сойму, а таксама мадыфікаваць патрабаваньні да супрацьлеглага боку ў залежнасьці ад разьвіцьця сытуацыі ва Ўкраіне ці ў стасунках са Швэцыяй. Тым часам, з прычыны далейшай вайны са Швэцыяй і ўсё яшчэ няпэўнай сытуацыі ва Ўкраіне, сэнатарская рада, баючыся раздражняць цара, вырашыла прызначыць паслоў на перамовы. Гэта стала тым больш неабходным, паколькі неўзабаве пасьля ад'езду Цэляпнёва прыбыў з Масквы доўгачаканы Галецкі. Ён прывёз ад цара чарговы ліст, вытрыманы ў яшчэ больш пагрозьлівым тоне і поўны абвінавачаньняў у ашуканстве. Ліст выстаўляў тыя самыя патрабаваньні, а ў дадатак і тое, каб на зьезьдзе закончыць перамовы да пачатку сойму[19]. Рашучасьць ліста мабілізавала польска-літоўскі бок. Урэшце былі скліканы сябры камісіі для правядзеньня перамоваў з пасланцамі цара. У яе склад увайшлі тыя, хто браў удзел у перамовах у Немежы ў 1656 г.: віленскі біскуп Ян Даўгяла-Завіша, плоцкі ваявода Ян Казімер Красінскі, рэфэрэнт і пісар літоўскі Цыпрыян Павел Бжастоўскі, грабавецкі і карытніцкі староста Станіслаў Сарбеўскі. Да іх дадалі абодвух літоўскіх гетманаў. Іх забясьпечылі выстаўленай 22 траўня інструкцыя, у якой было выразна адзначана, што яны павінны рознымі спосабамі зацягваць нарады, а нават адкладаць іх да прыбыцьця каралеўскіх паслоў пасьля заканчэньня сойму, які мусіў распачацца ў канцы чэрвеня. Аднак калі б перамоўцы заўважылі з выказваньняў маскоўскіх камісараў ці зь перамяшчэньня іхніх войскаў, што цар незадаволены гэтым прамаруджаньнем, то яны павінны самі неадкладна пачынаць перамовы. Але і тады павінны зацягваць іх над *«лягчэйшымі тэмамі»*, выказваць цару прэтэнзіі ў беспрычынным увядзеньні войскаў ва Ўкраіну і Літву. Пры патрабаваньні канкрэтных пастановаў у справе выбару яны мусілі прыкрыцца тым, што ў Немежы было пастаноўлена, што гэтае пытаньне павінна вырашацца на сойме, а тым часам цар заявіў, што на яго сваіх паслоў не пашле. Гэтым ён парушаў пакты з 1656 г. Яны мусілі паабяцаць, што, нягледзячы на гэта, сойм і так ужо хутка завершыцца і трэба пачакаць прынятых там рашэньняў у справе выбараў[20].

Аднак выбраныя камісары не скіраваліся пад Вільню, бо не было канкрэтных зьвестак пра маскоўскіх паслоў, а данясеньні пра збор пад Вільняю войскаў аказаліся не такімі ўжо сур'ёзнымі. Да таго ж кароль проста нагадваў не сьпяшацца з гэтай каміс-

[18] Jan Kazimierz do Aleksego Michajłowicza, Poznań; RGADA. F. 79. № 105.

[19] Respons Cara na supplement JKM Pana Gołeckiego, Moskwa. LMAB. F.17—16. K. 26—27v; Darowski A. Szkice historyczne. Seria 2. Petersburg, 1895. C. 361.

[20] Instructia dana komisarzom do traktowania z Moskwą, dana w Boguniewie. BCzart. 387. S. 1—7; Jan Kazimierz do C. Brzostowskiego, z Boguniewa. Тамсама. S. 53—54.

іяй. Сойм быў урэшце скліканы на 10 ліпеня, а соймікі былі прызначаны на 21 чэрвеня. Меркавалася на ім заняцца між іншым і справай наступніцтва цара на польскім троне, каб, як гэта акрэсліў непрыхільны да гэтага Ян Казімер, «*маскоўскаму цару даць рэзалюцыю, зь якой можа вынікаць або пажаданы з народам маскоўскім на вякі мір, або выбухнуць страшэнная, барані Божа, вайна*»[21]. Павінна было абмяркоўвацца таксама пытаньне саюзу з казакамі, які моцна падтрымліваўся каралеўскім дваром. Перадсоймавыя каронныя соймікі выказаліся пераважна адмоўна наконт выбараў цара на трон Польшчы[22], ідучы тым самым згодна з задумай двара.

Справа соймікаў выклікала сур'ёзны разлад у стасунках з царом. З каралеўскай канцылярыі выслалі паведамленьне наконт тэрмінаў соймікаў і сойму, а таксама інструкцыі з традыцыйным заклікам да выбару паслоў у сойм. Дакументы выслалі і ў паветы, заваяваныя расейцамі. Гэта выклікала вялікае абурэньне Аляксея Міхайлавіча, які загадваў сваім чыноўнікам не дапускаць выбару паслоў на сойм у Варшаве. А каралю цар нагадваў, што грамадзяне заваяваных паветаў — гэта падданыя толькі яго, цара. Гэта, у сваю чаргу, уразіла караля, які заявіў цару прэтэнзію, што тамтэйшыя грамадзяне надалей застаюцца падданымі караля, а населеныя імі землі толькі часова заваяваныя[23].

Каралеўскія пляны вядзеньня ўсходняй палітыкі ўскладняла пазыцыя ліцьвінаў. Зносіны з казакамі не выклікалі ў іх энтузіязму, паколькі яны баяліся справакаваць вайну з царом, якая ў першую чаргу мусіла ахапіць літоўскія землі[24]. Таму яны ўпарта настойвалі на тым, каб спачатку ўкласьці пагадненьне з Масквою. Вельмі актыўныя захады на карысьць такога вырашэньня рабіў літоўскі палявы гетман Марцін Корвін-Гасеўскі, які захоўваў жывыя адносіны з маскоўскім ваяводам Афанасіем Ардзін-Нашчокіным, які спрабаваў перацягнуць на свой бок літоўскіх гетманаў[25]. Таго самага меркаваньня прытрымліваўся вялікі гетман Павел Сапега, які неаднаразова падчас сойму асьцерагаў караля перад наступствамі правакаваньня Масквы, перад яе магутнасьцю і перамяшчэньнямі яе войскаў вакол Вільні і ў Навагрудчыне. Аднак ён не згаджаўся з прапановамі адарваць Літву ад Кароны, якія яму падсоўвалі расейцы[26]. Яны мелі за сабою значную частку літоўскай шляхты, зьнемаршчанай, стомленай вайной і ўсё больш раззлаванай ахвяраваньнем цару іх айчыны на карысьць канфлікту са швэдамі. Нядобрыя былі настроі і ў літоўскім войску, пра якое згадвалася, што яно мае жаданьне разам з Гасеўскім пайсьці на асабістую дамову з царом. Фактычна найдалей у бок пагадненьня з Масквой зайшоў палявы гетман В. Гасеўскі. Ён цягам даўжэйшага часу кантактаваў з царскімі дыпляматамі, перш за ўсё з Ардзін-Нашчокіным, які даўно прасоўваў перад царом ідэю пагадненьня і аб'яднаньня з Расеяй

[21] Jan Kazimierz do NN, Boguszewo 20 V 1658. BCzart. 400. S. 245—246; Walewski A. Historya wyzwolonej Rzeczypospolitej wpadającej pod jarzmo domowe za panowania Jana Kazimierza (1655—1660). Kraków, 1872. T. II. Dokument № XXXIV. S. XLIX.

[22] Dąbrowski J. Op. cit. S. 98—99.

[23] Car do Jana Kazimierza, Moskwa 11(21) II 1659 (копія). NBU. Fond. 1. № 5985. K. 23; Jan Kazimierz do Aleksego Michajłowicza, pod Toruniem 18 XI 1658. RGADA. F. 79. № 107.

[24] Гл.: Szwaba M. Litwa wobec unii hadziackiej 1658 roku // Studia Wschodnie, Prace Historyczne II. Wrocław, 1993.

[25] Флория Б.Н. Русско-шведские мирные переговоры в Валиесаре (1658 г.) и Речь Посполитая // Славяноведение. 2005. № 2. С. 50—51.

[26] Paweł Sapieha do A.H. Połubińskiego, w Minkowiczach 23 lipca 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/II. S. 65; Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Sieraków 13 VI 1658. LvNB. Fond 103. № 1690; Флория Б.Н. Русско-шведские мирные переговоры в Валиесааре... С. 45—46; Rachuba A. Sapieha Paweł Jan // PSB. T. XXXV/1. S. 142.

Літвы. Ён прапаноўваў не сьпяшацца зь перамовамі са Швэцыяй, а давесьці да канца справу адрыву Вялікага Княства Літоўскага ад Кароны і далучэньня яго да Расеі. Тады пазыцыя Масквы небывала ўмацавалася б перад швэдамі, зь якімі толькі тады былі б распачатыя перамовы, а таксама перад Польскай Каронай, якая мусіла б скарыцца перад царскімі патрабаваньнямі. Позьняй вясной з патаемнай місіяй у Маскву быў адпраўлены ашмянскі староста Адам Мацей Саковіч. Ён мусіў ад імя літоўскіх магнатаў і шляхты ўзгадніць з царом умовы, на якіх магло б адбыцца пагадненьне Рэчы Паспалітай з царом. Адпраўлены з афіцыйнай місіяй ад літоўскіх гетманаў, а ў прыпынцы ад Гасеўскага, так, як планавалася, спаткаўся па дарозе з Ардзін-Нашчокіным. Заявіў гэтаму царскаму дыпляматы, што калі ня будзе згоды падчас сойму з боку каронных паноў з патрабаваньнямі ліцьвінаў наконт пагадненьня Рэчы Паспалітай з царом, у тым ліку і наконт выбару яго каралём і адначасова вялікім князем літоўскім, то прымуць пад увагу магчымасьць адрыву Літвы ад Кароны і падданьня яе пад уладу Аляксея Міхайлавіча. Будучы ўжо летам у Маскве, ён перамаўляўся з прадстаўнікамі цара ў пытаньні будучай пазыцыі Вялікага Княства Літоўскага, калі яно ўжо апынецца пад уладай Аляксея Міхайлавіча. Указваў між іншым на неабходнасьць далучэньня да Літвы Рыгі і Інфлянтаў. Гасеўскі праз пасярэдніцтва Саковіча стараўся пры гэтым выкраіць сабе ў цара значныя ўладаньні і пасады, у тым ліку губэрнатарства Інфлянтаў і вялікае гетманства па сьмерці Паўла Сапегі. Што да няпэўнай пазыцыі Паўла Сапегі ў дачыненьні да ініцыятываў Гасеўскага, то расейцаў пераконвалі, што ён будзе схілены да царскай справы. Указвалася таксама, што яшчэ варта было б перацягнуць на бок гэтых праектаў літоўскага канцлера Крыштапа Паца. Меркавалася, што тэкст пагадненьня з царом, у якім ён будзе гарантаваць усе прывілеі шляхты, будзе дастаўлены літоўскім паслам на сойм. Калі кароль і Рэч Паспалітая ня згодзяцца зь ім, то яны нават сілай адарвуць Літву ад уніі з Польшчай. Аднак такі тэкст ніколі не патрапіў да паслоў. Саковіч вельмі позна, толькі ў ліпені, зьявіўся ў Маскве, г.зн. калі ў Варшаве ўжо распачынаўся сойм. У царскай сталіцы не было ўзгоднена нічога канкрэтнага. Адпраўляючы яго з Масквы 6 жніўня, расейцы далі яму і Гасеўскаму такі адказ, што цар, пазнаёміўшыся зь літоўскімі патрабаваньнямі, перадасьць сваю волю паслам, якія знаходзяцца пад Вільняй на месцы перамоваў, што павінны пачацца. Місія закончылася фіяскам.

У Крэмль прыходзіла ў той час ня толькі інфармацыя ад Нашчокіна, якая давала вялікую надзею. Зь іншых крыніц было выдатна вядома пра намеры многіх літоўскіх палітыкаў, для якіх перамовы з царом мелі на мэце толькі атрыманьне вайсковай дапамогі супраць швэдаў. Расейцы не давяралі таксама Саковічу, які ніколі не прынесе прысягі цару і ў атачэньні цара меў рэпутацыю праныры і хітрага палітыка. Кажучы пра зьвяз Літвы з Расеяй, ён чакаў вяртаньня ёй занятых у 1654—1655 г. зямель. На царскім двары гэта дрэнна ўспрынялі, паколькі не было ніякіх гарантый, што ліцьвіны захочуць потым выканаць свае абавязаньні. Таму як гарантыю расейцы чакалі неадкладнага разрыву Літвы з Каронай і падданьня яе пад уладу цара цяпер, а не па сьмерці Яна Казімера. Аднак тут Саковіч пачаў згадваць, што такі крок прадугледжаны як адно з выйсцяў з сытуацыі, калі Рэч Паспалітая ня згодзіцца на пагадненьне з царом. Гэта абсалютна не задавальняла маскоўскага боку, і ў гэтай сытуацыі не магло быць гаворкі пра вызначэньне нечага канкрэтнага.

У Маскве аказалася, што лінія палітычных плянаў Ардзін-Нашчокіна павінна ўступіць прыхільнікам заключэньня хуткага міру са Швэцыяй нават коштам значных уступак ад здабычы ў Інфлянтах. А гэта азначала канец надзеі ліцьвінаў, у тым ліку і Гасеўскага, на далейшае супольнае змаганьне са швэдамі, на пашырэньне, і нават захаваньне занятых зямель у Інфлянтах і зьвязаных з гэтым карысьцяў. Надзеі, заснаваныя на хаўрусе з Масквою, асабліва пахіснуліся, калі ліцьвіны здалі сабе

справу з правядзеньня асобных перамоваў расейцаў са швэдамі. Было занадта добра вядома, што гэта супярэчыла пастановам зь Немежу, якія загадвалі весьці перамовы разам са скандынавамі. Нечаканы ўдар пад канец жніўня Даўгарукага на «незаваяваныя» паветы быў шокам для шляхецкай думкі. Гэта было ўспрынятае як адкрытае парушэньне ранейшых пагадненьняў, як відавочны доказ адсутнасьці добрай волі з боку цара, які з гэтай пары зноў пачаў уяўляцца як агрэсар[27].

Аднак перш чым да гэтага дайшло, а данясеньні з Масквы і трагічныя падзеі ў Жамойці паставілі пад сумненьне сэнс трымацца за Маскву, 10 ліпеня распачаўся сойм у Варшаве. Пазыцыя ліцьвінаў была пацьверджаная падчас яго нарадаў. На чале з уцекачом Янам Антоніем Храпавіцкім, пагражаючы разрывам уніі, яны настойліва дамагаліся адпраўленьня ў Вільню камісіі і заключэньня дамовы з Масквою з мэтаю запабегчы вайне. Як прызнаваў пазнанскі ваявода Ян Ляшчынскі, такая цьвёрдая пазыцыя ліцьвінаў і боязь за пазыцыю літоўскіх войскаў прымусілі сойм згадзіцца на выбары цара[28].

Да гэтага рашэньня таксама спрычыніліся зьвесткі пра поспехі швэдаў і паведамленьні пра іх намеры заатакаваць Прусію. Вельмі трывожнай была інфармацыя пра актывізацыю дыпляматычных кантактаў цара са швэдамі. Аднак згоду на заняцьце царом трону абцяжарылі практычна невыканальныя ўмовамі. Патрабавалася між іншым пераходу цара на каталіцызм, яго асабістага панаваньня ў Польшчы, вываду войскаў з усіх заваяваных зямель Рэчы Паспалітай. З магчымасьцю здабыцьця польскай кароны Аляксеем Міхайлавічам з усіх сілаў змагаліся прадстаўнікі Ватыкану і Аўстрыі, рэзка апратэставалі яе польскія біскупы, што яшчэ падчас сойму цалкам зьнішчала шанцы на зьдзяйсьненьне выбараў. Крывіліся на гэта ўжо досыць абураныя ліцьвіны, разумеючы гульню, у якой абвінавачвалі каронных паноў, якія, з аднаго боку, казалі пра жаданьне міру, а з другога, як пісаў жамойцкі стараста Юры Глябовіч, «*такую цяжкую даюць для заключэньня дамоваў інструкцыю, што немагчыма, каб з дапамогай такой інфармацыі з Масквою магло наладзіцца штосьці добрае*»[29]. Адначасова камісарам, якія праводзілі перамовы ва Украіне, былі дадзеныя шырокія паўнамоцтвы для вядзеньня перамоваў з Выгоўскім і казакамі. А тыя, распачаўшы зь вялікім посьпехам перацягваньне казакоў на бок Рэчы Паспалітай, усё настойлівей паведамлялі пра моцную падазронасьць і незадавальненьне казакоў і татараў у перамовах з Масквою, зьвесткі пра якія даходзілі да Украіны. Каб не зьнішчыць распачатай справы, якая давала вялікія надзеі, яны заклікалі ўстрымацца ад перамоваў з Масквою[30].

Такім чынам, каралеўскі двор апынуўся перад выбарам, ці згодна з воляй значнай часткі літоўскай шляхты і магнацтва выказацца за перамовы з царом і імкнуцца да пагадненьня зь ім, ці зрабіць стаўку на антымаскоўскі саюз з казакамі і татарамі. Ян Казімер і ягонае атачэньне, асабліва каронныя, моцна схіляліся да пагадненьня з Украінай, і гэтая опцыя хутка пераважыла. Цяпер, тым больш разьлічваючы на непазьбежнае сутыкненьне з царскаю моцай, двор выслаў камісарам, якія праводзілі перамовы з Выгоўскім, чарговыя заклікі актывізаваць дзеяньні і намаганьні. Не былі забытыя і заклікі да рускага духавенства, іерархаў якога прасілі паўплываць на запароскага гетмана, каб ён паспрыяў усталяваньню трывалага паразуменьня і згоды[31].

---

[27] Флория Б.Н. Русско-шведские мирные переговоры... С. 48—52.

[28] AMG. T. II. S. 600—601; Dąbrowski J. Op. cit. S. 96—97, 100; Rachuba A. Sapieha Paweł Jan // PSB. T. XXXV/1. S. 142; Соловьев С.М. Op. cit. С. 41—46.

[29] J.K. Hlebowicz do B. Radziwiłła, z Jałówki 27 VI 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 5226. S. 81.

[30] K.L. Jewłaszewski do Jana Kazimierza, z Połonnej 23 VI 1658. AGAD. AZ. № 3052. S. 7—8.

[31] Jan Kazimierz do Arseniego Żelibowskiego, episkopa lwowskiego i kamienieckiego archimandryty, Nieporęt 7 IX 1658. NBU. F. XVIII. № 70.

Вынікам гэтых намаганьняў было заключэньне 16 верасьня 1658 г., падчас выправы Выгоўскага супраць Масквы на Задняпроўі, у табары пад Гадзячам, так званай «Гадзяцкай уніі».

Было зразумела, што польскія дзеяньні ва Ўкраіне, якія мусілі прывесьці да дамовы ў Гадзячы, былі выклікам, кінутым Маскве. На маскоўскія пратэсты адказвалі сьцьверджаньнем, што цар першы парушыў немескае пагадненьне, ня стрымліваючы сваіх новых падданных, запарожскіх казакоў, ад нападаў на каралеўскія землі, а тым больш, калі ў 1657 г. ён дазваляў, каб ягоны падданы Хмяльніцкі змагаўся разам з Ракочым супраць Рэчы Паспалітай[32]. Вайна з Масквою адразу атрымлівала падтрымку татараў, якія вельмі баяліся якой-небудзь магчымасьці польска-маскоўскага паразуменьня. Бачаньне магутнай польска-казацка-татарскай кааліцыі, якое абмалёўвалася зь вясны 1658 г., дазваляла з усё большай надзеяй рабіць польскую пазыцыю ў справе ўступак з боку Масквы больш жорсткай. Пад увагу бралася і магчымасьць распачацьця ўзброеных дзеяньняў.

Наважыўшыся кінуць выклік Маскве, Рэч Паспалітая старалася на дыпляматычным полі выблытацца з вайны са Швэцыяй. Такія самыя захады зрабілі і царскія дыпляматы, не знаходзячы магчымасьці для сваёй усё больш зьнішчанай няспынымі войнамі дзяржавы змагацца на два франты са Швэцыяй і Рэччу Паспалітай, якую падтрымлівалі казакі і татары. Швэды ў той час, змагаючыся ня толькі з Расеяй і Рэччу Паспалітай, але і Аўстрыяй, Брандэнбургіяй, Даніяй, былі таксама зацікаўленыя прыпыніць змаганьне з адным з праціўнікаў, таму кіраваныя да іх царскія прапановы патрапілі на добрую глебу. На царскім двары вырашылі ўкласьці замірэньне, а калі б было магчыма, нават мір са Швэцыяй. Паступова Масква адмаўлялася ад той вялікай мэты, якой было для яе прабіцца да Балтыкі, на карысьць змаганьня за ўкраінскія і літоўскія землі. Сапраўдным клопатам Масквы і Варшавы было не дазволіць апярэдзіць сябе праціўніку ў перамовах са швэдамі. Посьпех у гэтай гонцы даваў бы магчымасьць змагацца толькі з адным ворагам і выкарыстоўваць для гэтага войскі, адведзеныя са швэдзкага фронту. Таму праціўнікі стараліся ўважліва назіраць за крокамі другога боку і максымальна псаваць яго кантакты са Стакгольмам. Большымі дасягненьнямі адзначылася Масква, якая была нават гатовая да значных уступак у замен за поўны мір. Пасьля ўступных кантактаў ужо ў красавіку 1658 г. абодва бакі вызначылі паўнамоцных паслоў на перамовы. У траўні адбылося спыненьне змаганьняў у Інфлянтах і замірэньне са Швэцыяй. Далейшыя перамовы скончыліся заключэньнем у канцы сьнежня замірэньня ў Валіесаары з захаваньнем Масквою на тры гады здабычы ў Інфлянтах[33]. Дыпляматы абодвух бакоў згадвалі пра саюз супраць Польшчы, але да канкрэтных пастановаў не дайшло[34]. Хоць Маскве ў выніку нарастаньня клопатаў на Ўкраіне і аднаўленьня вайны з Рэччу Паспалітай не ўдалося ўкласьці мір і выкарыстаць тагачасную складаную ваенную сытуацыю Швэцыі, але дасягнутае замірэньне таксама давала магчымасьць паступова перасоўваць сілы са швэдзкага фронту ў Літву і Ўкраіну. На парозе новага канфлікту з Рэччу Паспалітай, якая надалей не магла выблытацца з вайны са Швэцыяй, Масква забясьпечыла сабе нашмат мацнейшую пазыцыю. Здаецца, што, наважваючыся на выхад з вайны са Швэцыяй, расейцы распачалі падобную

[32] NN do N. Odojewskiego, Brześć 4 V 1657. RGADA. Fond 389. № 461. K. 480—481; Соловьев С.М. История России с древнейших времен. Москва, 1961. Т. X. С. 40.

[33] Флория Б.Н. Русско-шведские мирные переговоры... С. 45.

[34] Галактионов И., Чистякова Е.А. Л. Ордин-Нащекин, русский дипломат XVII в. Москва, 1961. С. 52—55; Wójcik Z. Dzieje Rosji 1533—1801. Warszawa, 1971. S. 148. Пра расейска-швэдзкія стасункі ў 1657—1658 г. гл.: Соловьев С.М. С. 61—67; Кобзарева Е.И. С. 204—230; Флория Б.Н. Русско-шведские мирные переговоры... С. 58—60.

гульню ў дачыненьні да Рэчы Паспалітай як польска-літоўскага боку ў дачыненьні да Масквы. Вартасьць саюзу з Варшавай пачала для Масквы зьніжацца разам з прасоўваньнем наперад перамоваў у Стакгольме. Цар не хаваў факту перамоваў са швэдамі і проста расцэньваў іх як яшчэ адну форму ціску на караля, каб атрымаць ад яго згоду на ўступкі. Ад канца 1658 году да моманту заключэньня замірэньня ў Валіесаары расейцы не наважыліся распачаць вайны з Рэччу Паспалітай, паколькі не былі да яе падрыхтаваныя. Аднак яны павялічвалі сілу свайго дыпляматычнага націску. Восеньню яны маглі ўжо разьлічваць на пэўны посьпех у перамовах са швэдамі, падобна, як каралеўскі двор — з казакамі. Гэта рашуча ўмацавала няўступлівасьць абодвух бакоў, што было выдатна бачна ў перамовах пад Вільняй. У кожным разе, распачаць Масквой самастойных перамоваў са швэдамі не абмінула ўвагі Рэчы Паспалітай. Яно выклікала там вялікі непакой, паколькі ў Кароне добра ўсьведамлялі рэзкі рост ваенных магчымасьцяў Масквы і, акрамя таго, пачалі баяцца нават узьнікненьня саюзу швэдзкага караля і маскоўскага цара, накіраванага супраць Рэчы Паспалітай. Таму ў 1658 г. чарговы раз актывізаваліся прыхільнікі таго, каб хоць з адным з праціўнікаў распачаць перамовы, якія дазволілі б як мага хутчэй укласьці замірэньне[35].

Хутка пасьля распачацьця сойму ў Варшаву прыбыў царскі ганец, паддзяк Якаў Мікіціч Ліхароў, які прывёз царскую грамату, напісаную ў траўні ў Маскве. Цар яшчэ раз, вінавацячы ў ёй караля ў фальшы і аблудзе, паабяцаў, што не прышле на сойм сваіх вялікіх і паўнамоцных паслоў. Адначасова, нечакана зьбянтэжыўшы караля і сойм, паінфармаваў, што ўжо 20 траўня ў кірунку літоўскай сталіцы выехалі вялікія царскія паслы з баярынам і намесьнікам астраханскім, князем Мікітам Іванавічам Адоеўскім. Гэта азначала, што цар не прыняў да ведама заяўленага каралём тэрміну сойму на 28 чэрвеня, а толькі вырашыў змусіць да распачацьця камісіі і дабіцца на ёй карысных для сябе пастановаў. У польска-літоўскага боку зьявілася падазрэньне, што цар, выходзячы з вайны са Швэцыяй, адкрыта імкнецца знайсьці зачэпку для аднаўленьня вайны з Рэччу Паспалітай. Робячы цару шэраг закідаў, польскі бок нагадаў, што ўжо празь Целяпнёва абяцалася, што адразу пасьля сойму будуць адпраўлены паслы на перамовы. А цяпер, чуючы, што маскоўскія паслы ўжо даўно ў дарозе, не чакаючы заканчэньня сойму, адпраўляюцца польскія паслы, *«каб гэтая распачатая справа як мага хутчэй была завершана і дастаткова пацьверджана»*. Пасламі мусілі быць ужо прызначаныя імі ў траўні. Толькі кароль агаворваў, што гетманы могуць адсутнічаць, бо яны занятыя змаганьнем са швэдамі[36]. Польская тактыка і надалей была выразна скіраваная на зацягваньне перамоваў. Аднак палякі ўлічвалі магчымасьць ваенных крокаў нецярплівага цара і хацелі, выйгрываючы час, падрыхтавацца да іх як мага лепш на швэдзкім і казацкім тэатры[37].

Тым часам вялікія маскоўскія паслы прыбылі ў Вільню незадоўга да пачатку сойму. Ведаючы пра настроі ліцьвінаў, яны мелі надзею пры іх дапамозе змусіць Рэч Паспалітую да ўступак. У Варшаву пасылалі поўныя нецярплівасьці заклікі адправіць паўнамоцных паслоў на перамовы зь імі наконт заключэньня міру, у якіх было дастаткова шмат пагрозаў[38]. Адразу пасьля свайго прыбыцьця яны вырашылі зарыентавацца ў фактычнай сытуацыі і здабыць упэўненасьць наконт дэкляраванай галоўнымі літоўскімі палітыкамі падтрымкі ідэі адрыву Літвы ад Кароны і падпарадкаваньня яе цару. 3 ліпеня яны паслалі ганца да найважнейшага зь іх, віленскага ваяводы

[35] B. Radziwiłł do K. Paca, b.m.d. [pocz. 1659]. NGAB. F. 1503. Op. 1. № 42. K. 65.
[36] Jan Kazimierz do Aleksego Michajłowicza, Warszawa 21 VII 1658. RGADA. F. 79. № 106.
[37] K. Pac do komisarzy, Zakroczym 10 IX 1658. BCzart. 387. S. 97—103.
[38] Respons posłów moskiewskich. Wilno 16 VII 1658. BCzart. 2107. S. 275—276 (копія); Kubala L. Op. cit. S. 133.

воды Паўла Сапегі. Ён засьведчыў, што літоўскія сэнатары і паслы паехалі на сойм, каб дамагацца міру з Масквой і абраньня цара каралём як наступніка Яна Казімера. Ён прызнаўся ў місіі Саковіча і ў тым, што калі Польшча выкажацца за мір са швэдамі, то ён ня ўбачыць іншага выйсьця, як заключэньне асобнага пагадненьня з Масквой. Аднак наконт магчымасьці адрыву ад Кароны рашуча адказаў адмоўна. У дадатак, як бы закрэсьліваючы вартасьць місіі Саковіча, зазначыў, што гэты праект асобнага пагадненьня Літвы з Расеяй узьнік і абмяркоўваўся ў вузкім коле зь дзесяці сэнатараў і больш значных асобаў. Акрамя яго пра гэта ніхто не ведаў, і тое самае датычыла місіі Саковіча. Праекты Гасеўскага, а таксама канцлера Паца ён ацаніў як іх памылкі. Шакаваны ганец меў яшчэ нагоду ўбачыць, што да вялікага гетмана прыбылі паслы ад Выгоўскага, якія ў імя затрыманьня татараў схілялі яго распачаць ваенныя крокі супраць царскіх войскаў. Праз пару дзён з падобным вынікам ганец размаўляў зь віленскім біскупам Янам Завішам. Ён таксама пра Гасеўскага і Паца выказваўся як пра людзей, якім нельга давяраць. Навіны пра пазыцыю літоўскіх вяльможаў ашаламілі маскоўскіх паслоў. Надзеі на адрыў Літвы пры дапамозе літоўскіх паноў пачалі таяць. Да таго ж, у гэтыя дні ім у рукі патрапіла копія ліста Багуслава Радзівіла да В. Гасеўскага, у якім гэтага прыхільніка далейшага правядзеньня разам з Расеяй вайны супраць швэдаў ён пераконваў, што яна не прынясе ніякай карысьці Рэчы Паспалітай. Пісаў, што да Інфлянтаў ёй ня дасьць доступу Масква, а за мора да Швэцыі цяжка дасягнуць. Указваў, што лепш разам з татарамі і казакамі распачаць вайну з Масквой. Шок і гнеў царскіх паслоў быў такі вялікі, што яны не жадалі спаткацца з Гасеўскім, які пачаў ад іх гэтага дабівацца[39]. Іх абурылі таксама паведамленьні пра нежаданьне палякаў заключаць мір на маскоўскіх умовах. Зь перахопленай польскай карэспандэнцыі яны даведваліся, што палякі ня згодзяцца з аддачай ім расейцамі толькі Полацку, Віцебску і выплаты трох мільёнаў злотых за Смаленск, а таксама далейшага трываньня Украіны пры Маскве, як і Дзьвінску зь іншымі паўночнымі землямі, якія паводле Масквы належалі ёй, бо Масква адваявала іх у Швэцыі. Расейцаў непакоілі таксама зьвесткі пра ўсё больш моцныя кантакты Варшавы і нават літоўскай шляхты з Выгоўскім[40]. Кароль абяцаў адправіць камісараў, але ў Вільню паслаў інфармацыю, што яны ня здолеюць прыбыць на вызначаны царскімі пасламі дзень 30 ліпеня, бо яшчэ працягваецца сойм. У адказ на гэта абураныя маскалі выехалі зь Вільні, зваліваючы ўсю віну за зрыў нарадаў на караля. Паабяцалі таксама каралеўскім камісарам, якія знаходзіліся ў Берасьці-Літоўскім, што будуць чакаць у Вільні да 3 або 4 жніўня, у той час як іхні пасол прыбыў у Берасьце з гэтай зьвесткай толькі 3 жніўня[41].

На сойме ў Варшаве распрацавалі і выслалі новую інструкцыю для камісараў. Яна пералічвала ўсе ўмовы, якія цар павінен выканаць, жадаючы выкарыстаць згоду сойму на выбар яго польскім каралём. Толькі ў крайнім выпадку, калі б процілеглы бок хацеў разарваць перамовы, палякі згаджаліся з пэўнымі ўступкамі ў справе веравызнаньня цара, дазвалялі затрымаць Маскве часткі Смаленшчыны і вызвалялі цара ад абавязку плаціць даўгі Рэчы Паспалітай за гады вядзеньня зь ёю вайны. Затое з Украіны мусілі безумоўна адысьці царскія войскі. Да таго ж Масква адразу пасьля перамоваў павінна была заваяваць для Рэчы Паспалітай Інфлянты як правінцыю, што заўсёды належала ёй. Акрамя касмэтычных уступак, пункты, пададзеныя ў інструкцыі, былі непрымальныя для Масквы, якая мусіла б адмовіцца ад плёну сваіх высілкаў і перамог. Яны гучалі як умовы, што ставіць пераможца, у той час як сапраў-

[39] Флория Б.Н. Русско-шведские мирные переговоры... С. 52—54.

[40] Параўн.: AJZR. T. VII. S. 248; AMG. T. II. № 1034. S. 612.

[41] Jan Kazimierz do Aleksego Michajłowicza, pod Toruniem 18 XI 1658. RGADA. F. 79. № 107.

дны вобраз сытуацыі выглядаў цалкам наадварот[42].

Каралеўскія камісары, будучы ўжо раней у Берасьці-Літоўскім, паволі скіраваліся праз Наваградак і Слонім да Вільні. Яны не сьпяшаліся, паколькі сам кароль раней рэкамэндаваў ім не сьпяшацца. Толькі калі дайшла зьвестка пра дэманстратыўны ад'езд царскіх паслоў, ён прысьпешыў іх да дарогі і распачацца нарадаў. Аднак ён надалей патрабаваў, каб яны былі няўступлівымі і чакалі звароту ўсіх занятых зямель[43]. Ніводзін з бакоў ня думаў пра ўступкі. Царскія паслы рашуча патрабавалі хуткага выкананьня немескіх абавязаньняў, а каралеўскія везьлі інструкцыю са спадзяваньнямі перамоўжнага боку. Крыху спалоханыя камісары хутка скіраваліся на камісію. Адразу выслалі таксама да царскіх паслоў дваран Матэвуша Закрэўскага і Яна Пацыну са сваім лістом. Аднак іх не дапусьцілі да паслоў і лісты не былі прынятыя. Атрымалі толькі адказ, каб яны вусна перамаўляліся зь Юр'ем Даўгарукім, які стаяў пад Вільняй на чале царскіх войскаў. А потым *«самі зь Вільні невядома зь якіх прычын, не жадаючы з нашымі камісарамі перамаўляцца, прэч ад'ехалі»*, — скардзіўся пазьней кароль цару. Чарговае пасольства з Аляксандрам Катовічам, віленскім канонікам і каралеўскім сакратаром дагнала царскіх паслоў у Солах, але атрымалі такі самы адказ, а расейцы зьехалі ў Менск. У гэтай сытуацыі камісары зьвярнуліся да Даўгарукага. Аднак той, відаць, не хацеў размаўляць і ні з чым адправіў камісарскіх пасланцоў. Урэшце ён пісьмова запатрабаваў аддаць цару ўсю Літву і літоўскую шляхту, якая знаходзілася ў каралеўскім войску. Тое самае як умову аднаўленьня перамоваў напісаў Гасеўскаму. А сам з войскам вырушыў у кірунку Коўна, а потым — Жамойці[44].

Паводзіны царскіх паслоў і Даўгарукага былі ўпісаныя ва ўжо ранейшыя пляны паводзінаў падчас гэтых перамоваў. Цар ужо раней падазраваў, што палякі вядуць сваю гульню, а спазьненьне каралеўскіх камісараў у Вільню ён вырашыў успрыняць як праяў выкрутаў з мэтай выйграць час. Стрымаўшы ваенныя дзеяньні і маючы выразную надзею на ўнармаваньне стасункаў са Швэцыяй, ён наважыўся распачаць ваенныя крокі ў Літве, каб сілай прымусіць Рэч Паспалітую да ўступлівасьці. З гэтай мэтай ужо зь вясны пад Вільняй зьбіраліся значныя сілы князя Даўгарукага, якія грунтоўна падмацаваў са свайго гарнізону, што таксама ўмацоўваўся ў той час, віленскі ваявода, князь Міхал Сямёнавіч Шахоўскі. Ён мусіў перадаць у ліпені Даўгаруку шэсьць палкоў войска — 4656 жаўнераў, а таксама 3891 чалавека зь літоўскай шляхты, якая прысягнула цару і была змушаная да службы пад царскімі штандарамі[45].

Войскі Даўгарукага выйшлі з-пад Вільні 17 жніўня ў кірунку занятага ў 1655 г. расейцамі Коўна. Там царскі вайскаводца, напэўна, для абуджэньня страху паабяцаў, што мае намер ісьці далей да тых літоўскіх і каронных краёў, якія яшчэ не паддаліся цару. 30 жніўня ён вырушыў з Коўна, накіроўваючыся праз раку Сьвятую на Жамойць, у землі, якія добра бакі лічылі «незаваяванымі», між іншым, да Вількамірскага павету, сутыкаючыся з ковенскім і вількамірскім паспалітым рушаньнем і шырока спусташаючы гэты край[46]. Там Даўгарукі даведаўся, што непадалёк стаіць ковенскі харужы Міхал Скарульскі, а разам зь ім шляхта, якая дагэтуль не прысягала цару. Да іх паслалі з патрабаваньнем прынесьці прысягу на вечныя часы, пагражаю-

[42] Instrukcja z 25 VII 1658. BCzart. 387. S. 31—42.

[43] Jan Kazimierz do komisarzy, Warszawa 24 VIII 1658. BCzart. 387. S. 79—85; Pro Informatione IchMściom Panom Commissarzom od Jerzego Michała Bienickiego stolnika grodzieńskiego, z Warszawy 24 VII 1658. Тамсама. S. 87—88.

[44] Jan Kazimierz do Aleksego Michajłowicza, pod Toruniem 18 XI 1658. RGADA. F. 79. № 107.

[45] Мальцев А.Н. Op. cit. С. 118. У 1658 прымусілі прынесьці прысягу асабліва шмат шляхты зь Віленскага і Ашмянскага паветаў, гл.: Акты, относящиеся к истории Западной России. Санкт-Петербург, 1851. Т. V. С. 104—105; Jan Kazimierz do komisarzy, Warszawa 20 VIII 1658. BCzart. 387.S. 71.

чы неадкладна ўдарыць у выпадку маруджаньня. Пад уплывам гэтых пагрозаў, ня бачачы ніадкуль дапамогі, сабраная шляхта 1 верасьня прысягнула цару. Як скрупулёзна падлічыў Даўгарукі ў рапарце да цара, да яго прыбылі 424 новыя падданыя — М. Скарульскі, 5 ротмістраў, 5 паручнікаў і 413 шляхціцаў. Падобных выпадкаў пазьбегла гарадзенская шляхта. Рыхтаваную ў той бок выправу ваяводы Васіля Сямёнавіча Валынскага адклікаў сам цар з прычыны данясеньняў пра зьяўленьне ў тамтэйшых ваколіцах паморку. Тым часам Даўгарукі паабяцаў, што паводле царскага ўказу скіруецца далей на Жамойць, каб дайсьці да самых Кейданаў, але ўжо 6 верасьня павярнуў пад Коўна[47]. Прычынай раптоўнага адступленьня стала хуткае набліжэньне з Курляндыі войскаў літоўскага палявога гетмана Вінцэнта Гасеўскага і зьвесткі, што камісары абодвух бакоў пагадзіліся наконт перамоваў і скіроўваюцца пад Вільню.

Ян Казімер яшчэ перад выправай Даўгарукага, жадаючы, падобна як расейцы, мець непадалёк ад месца правядзеньня перамоваў свае войскі, загадаў абодвум літоўскім гетманам скіравацца пад Вільню, былі выдадзены таксама ўнівэрсалы да літоўскай шляхты на паспалітае рушаньне. Напружаньне ўзрастала з кожнай хваляй. Гасеўскі, які ішоў за Даўгарукім з боку Жамойці, хутка набліжаўся да маскоўскіх войскаў, што адступалі. Маскоўскі наезд ашаламіў літоўскіх военачальнікаў. Напэўна, асабліва нечаканасьцю ён быў для Гасеўскага. Напад хутка сталі лічыць парушэньнем расейцамі ўкладзенага пад Немежам у 1656 г. замірэньня і дамовы, асабліва калі ўказвалася, што акцыя Даўгарукага адбылася, калі літоўскія аддзелы змагаліся супраць агульнага ворага — шведаў. Пад Коўнам войскі левага крыла злучыліся з паспалітым рушаньнем са Жмудзі, Гасеўскі меў з сабою таксама падмацаваньні ад князя Багуслава Радзівіла[48]. Ён дагнаў праціўніка, калі той выправіўся перапраўляцца на другі бок Нёмна ў Коўне. На тыльную маскоўскую варту, што засталася на правым баку ракі, ударыў значнымі сіламі раніцай 9 верасьня пасланы Гасеўскім віленскі стольнік Казімер Хвалібог Жаромскі. Была разьбіта маскоўская конніца і выразана значная частка пяхоты. Былі спробы нават прабіцца на мост, на якім палёг камандзір рэйтараў князя Багуслава, арыянін Багуслаў Прыпкоўскі. Грозную сытуацыю выклікаў надыход праз адрамантаваны мост падмацаваньняў ад Даўгарукага, якія, ударыўшы на стомленых ліцьвінаў, перамаглі іх і гналі на значнай адлегласьці. Толькі прыбыцьцё ў адпаведны момант падтрымкі ад палявога гетмана дазволіла канчаткова нанесьці параз маскоўскім войскам і перайсьці ў пагоню за імі: *«Цяпер гналі Маскву мілю, і, каб ня ноч, ніводзін зь іх ня ўцёк бы»*. Бітву перарвала пераправа праціўніка на другі бок Нёмна і разбор імі мосту, што зрабіла ліцьвінам пагоню немагчымай. Здабытая перамога дазволіла прасоўвацца за маскоўскімі войскамі, што адыходзілі да Вільні. Аднак былі панесеныя значныя страты[49]. Павялічваліся страты і ў шэрагах Даўгарукага, што адбывалася ў выніку адыходу зь іх літоўскай і рускай шляхты, якая раней прысягнула цару[50].

---

[46] K. Pac do komisarzy, Zakroczym 10 IX 1658, BCzart. 387. S. 97; W. Gosiewski do B. Radziwiłła, z obozu pod Kiejdanami 8 IX 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 4567/II. S. 46.

[47] AMG. T. II. № 1030. S. 610—611. № 1044. S. 620. № 1044. S. 620; Мальцев А.Н. Op. cit. С. 119.

[48] Jan Kazimierz do B. Radziwiłła, Warszawa 17 VII 1658. AGAD. AR. Dz. III. Kop. 6. S. 30; W. Gosiewski do B. Radziwiłła, z obozu pod Sałatami 16 VIII 1658. Тамсама. Dz. V. № 4567/I. S. 44; Poczobut Odlanicki J.W. Pamiętnik [1640—1684] / Opr. A. Rachuba. Warszawa 1987. S. 118.

[49] Пра бітву пад Коўнам, гл.: Portofolio królowej Maryi Ludwiki / Wyd. E. Raczyński. Poznań, 1844. T. II. S. 232—234 (з памылковай датай 9 X 1659); K. Pac do komisarzy, z Popowa pod Toruniem 24 IX 1658. BCzart. 151. S. 442; B. Radziwiłł do W. Gosiewskiego, Królewiec 16 IX 1658. BPAN Kr. 342. S. 815; Poczobut Odlanicki, Pamiętnik. S. 118—119; Kubala L. S. 141.

[50] AMG. T. II. № 1035. S. 613; Мальцев А.Н. Op. cit. С. 119; Rachuba A. Wilno pod okupacją moskiewską w latach 1655—1661 // Lithuania. № 21 (11) — 3 (12). 1994. S. 69.

Настрой на двары быў празьмерна аптымістычны. Дамова, заключаная ў Гадзячы, дазваляла разьлічваць на падтрымку з боку казакоў, якія ўжо вялі змаганьне з Масквой. У Беларусі на змаганьне зь ёю падымаліся казакі палкоўніка Івана Нячая і шэрагі рускай шляхты. У жніўні швэдзкі кароль, парушаючы ранейшыя дамовы, ударыў на Данію. Тая ж атрымала шырокую дапамогу звонку, што давала вялікія надзеі на заснорджаньне там, гэтым разам надоўга, значных швэдзкіх сілаў. Здавалася, што перамога пад Коўнам пацьвярджае слушнасьць каралеўскай палітыкі. Эўфарыя ў апошнія дні верасьня была такой вялікай, што бачылі ўжо армію Даўгарукага, падаўленую войскамі гетмана і Нячая, якія потым разам з казакамі і татарамі з Украіны выходзілі пад Смаленск, а нават пад Маскву. У той час, як пісаў да камісараў літоўскі канцлер Крыштап Пац, можна было б і бяз царскай сукцэсіі і безь перамоваў вярнуць усе страчаныя землі[51]. Таму, калі нарэшце 26 верасьня пад Вільню зьехаліся прадстаўнікі абодвух бакоў, каралеўскія камісары атрымалі з нарадаў сэнату чарговыя няўступлівыя інструкцыі. Згодна зь імі, перамоўцы мусілі ніякім чынам ня ўвязвацца ў справу царскай сукцэсіі, пакуль Масква ня згодзіцца аддаць усіх захопленых каронных і літоўскіх зямель.

У гэты час стала вядома, што маскоўскія камісары атрымалі з Масквы загад павярнуць зь Менску да Вільні і аднавіць перамовы. Лістамі, пасланымі зь Менску 23 і 24 жніўня яны паведамілі пра гэта літоўскім калегам. Каралеўскія камісары рушылі са Слоніму да літоўскай сталіцы 15 верасьня. Ва ўсё больш напружанай атмасфэры пад канец верасьня пад Вільняй дайшло да перамоваў прадстаўнікоў Рэчы Паспалітай і Масквы. Традыцыйна яшчэ абодва бакі ўзаемна кляліся захоўваць бясьпеку, а таксама стрымліваць ваенныя дзеяньні на час правядзеньня перамоваў. Каралеўскі бок зрабіў гэта праз двух сваіх дваран, Яна Пацыну і Войцеха Ракоўскага, расейцы — празь Дзяніса Дарафеевіча Астап'ева і паддзяка Івана Чыстага. Гэта былі пустыя словы, паколькі ў той час ішлі сталыя змаганьні войскаў Даўгарукага зь людзьмі Гасеўскага, а з поўдня распачынаў ваенныя дзеяньні Сапега. Каралеўскія інструкцыі наказвалі гетманам распачынаць збройныя дзеяньні супраць маскоўскай арміі і абяцалі каронным падмацаваньні. Да першага зьезду дайшло 26 верасьня, на якім расейцы, пагражаючы вайной, запатрабавалі абраньня цара на караля. На чарговым спатканьні праз два дні яны канкрэтызавалі свае чаканьні і адкінулі шэраг умоваў зьдзіўленых каралеўскіх камісараў. Толькі 3 кастрычніка камісары цьвёрда выступілі з патрабаваньнем вярнуцца да перадваенных межаў, калі расейцы далей хочуць размаўляць наконт абраньня. Расейцы дэклявалі зварот занятых зямель, але толькі на Літве па Бярэзіну. Гэтая праблема стала галоўнай тэмай узаемнага гандлю і сварак на наступных зьездах. Упартасьць камісараў падтрымлівалі зьвесткі пра набліжэньне літоўскіх войскаў, а ўрэшце іх зьяўленьне ў непасрэднай блізкасьці, а таксама каралеўскія лісты, якія ўсё больш заахвочвалі да няўступлівасьці. З прычыны распачацьця ўсебаковай вайны з Масквою ім катэгарычна забаранялася заключаць зь ёю складаньне зброі (*armistitium*)[52].

Упартасьць перамоўных бакоў была нязломнай. На зьезьдзе 14 кастрычніка праціўнікі ўжо сталі ўзаемна пагражаць вайною. У пачатку гэтага месяца вакол Вільні пачало сьціскацца кола літоўскіх войскаў. З Жамойці, пераходзячы раку Сьвятую, набліжаўся Гасеўскі. Яшчэ да 9 кастрычніка Сапега, ідучы з Падляшша, перайшоў Нё-

[51] J. Mierzeński do W. Gosiewskiego, Królewiec 17 IX 1658. BPAN Kr. 342. S. 821; K. Pac do komisarzy, z Popowa 24 IX 1658. BCzart. 387. S. 200.
[52] Car do Jana Kazimierza, Moskwa 11 (21) II 1659 (копія). NBU. Fond. 1. № 5985. K. 19; Senatus Consultum, Nieporęt 8 IX 1658. BCzart. 401. S. 145—146; Jan Kazimierz do komisarzy, z Popowa 24 IX 1658. BCzart. 387. S. 106—107; Dąbrowski J. Polsko-moskiewskie rokowania pokojowe w 1658 roku // Rzeczpospolita w latach Potopu / Pod red. J. Muszyńskiej i J. Wijaczki. Kielce, 1996. S. 103—104.

ман і заблякаваў з поўдня і ўсходу Вільню і армію Даўгарукага, што знаходзілася ў ёй[53]. Ён зьнішчаў аддзелы, што скіроўваліся да Вільні, і асаджаў царскія залогі ў Горадні, Троках і Навагрўдку, а ў Коўне падчас нечаканага нападу былі забраныя коні. Царскія паслы назіралі за маршам Сапегі і жорстка пратэставалі перад каралеўскімі камісарамі, паколькі ён распачаў блякаваньне маскоўскай залогі Горадні, а потым перайшоў празь Нёман, які лічыўся памежнай ракой паміж завяванымі Аляксеем Міхайлавічам і незавяванымі землямі. Крокі вялікага гетмана яны лічылі адкрытым парушэньнем прысягі ва ўзаемнай бясьпецы на час перамоваў, якую прадстаўнікі абодвух бакоў узаемна прынесьлі крыху раней. Разам зь іх пасланцамі да Сапегі прыехаў і ганец ад камісараў Матэвуш Закрэўскі. Пратэсты расейцаў ні на што не прыдаліся, паколькі літоўскі вайскаводца меў усё больш выразныя інструкцыі з двара, якія наказвалі пераходзіць да больш наступальных крокаў[54]. Сутычкі паміж варожымі войскамі ўзмацняліся кожны дзень. Да генэральнай расправы з Даўгарукім заахвочвалі каралеўскія лісты, і імкнуўся да яе сам Сапега. Ужо 20 верасьня ён выдаў у Сакалове ўнівэрсал да навагрдзкай шляхты, каб тая сядала на коней на паспалітае рушаньне і дала адпор непрыяцелю пад камандаваньнем свайго ваяводы Крыштапа Валадковіча. Валадковіч заклікаў яе 6 кастрычніка зь Дзярэчына, каб на 15 кастрычніка яна зьбіралася пад Навагрдкам. Празь дзень гэта паўтарыў Сапега. Праз тыдзень яе заклікаў харужы Навагрдзкага ваяводзтва Стэфан Францкевіч-Радзімінскі. 19 кастрычніка выйшлі ўнівэрсалы Сапегі з-пад Яшуноў да літоўскіх татараў і Яна Казімера да навагрдзкай шляхты. Манарх тлумачыў прычыны ўзнаўленьня вайны, адзначаў, што ён сам і Рэч Паспалітая вельмі моцна жадалі міру і адправілі паслоў на перамовы ў месца пад Вільняй, вызначанае царом. Аднак цар вярнуў сваіх паслоў, а каралеўскім пасланцам загадаў ісьці да Даўгарукага і перамаўляцца зь ім. Калі яны паслалі да яго сваіх камісараў і ліст, маскоўскі вайскаводца не дапусьціў іх да сябе і дрэнна ўспрыняў ліст. У сувязі з гэтым «*пагардай накормленым нашым камісарам да ад'езду адтуль нічога не зрабіўшы, але толькі пасьмешышча з нас і Рэчы Паспалітай учыніўшы, даў нагоду, а сам з маскоўскім войскам у глыб Дзяржаў Нашых варожа прасоўваючыся*»[55]. Падобныя ўнівэрсалы былі выдадзеныя таксама шляхце іншых літоўскіх ваяводзтваў.

Іншую пазыцыю, нягледзячы на перамогу пад Коўнам, займаў Гасеўскі, які, набліжаючыся ў кірунку Вільні, мусіў выслаць большую частку сваіх сілаў пад камандаваньнем літоўскага абознага Самуля Камароўскага назад у Курляндыю супраць швэдаў, якія там атакавалі. Гасеўскі ня быў прыхільнікам канфлікту з Масквой, зь якой заставаўся ў добрых стасунках. Ён рушыў супраць яе на загад караля і пад уражаньнем зьнішчальнага нападу Даўгарукага. Ён баяўся вайны на два фронты, а галоўным ворагам лічыў швэдаў. Пад канец верасьня ён меў вялікую надзею на асабістае пагадненьне з царскімі пасламі пад Вільняй, каб пазьбегнуць далейшых, як выказваўся, памылак іншых каралеўскіх камісараў. Увесь час ён падтрымліваў карэспандэнцыю з А.Л. Ардзін-Нашчокіным, які быў у той час на перамовах са швэдамі. Царскі дыплямат лічыў, што пад Вільняй будзе ўкладзена пагадненьне, і таму зацягваў перамовы са швэдамі. Таксама Гасеўскі ўвесь час меў надзею, што пад літоўскай сталіцай будзе заключаны мір паміж Рэччу Паспалітай і Масквой. Ён верыў, што тады літоўскія войскі разам з арміяй Даўгарукага і брандэнбурскімі аддзеламі пад камандаваньнем Б. Радзівіла рушаць да Інфлянтаў супраць Робэрта Дугласа. З гэтай прычыны сам лістамі заахвочваў Нашчокіна не сьпяшацца са швэдзкімі перамовамі і запэўніваў яго, што паміж Рэччу Паспалі-

[53] K. Matysewicz do B. Radziwiłła, Iszkołdź 9 X 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 9395. S. 7.

[54] Car do Jana Kazimierza, Moskwa 11 (21) II 1659 (копія). NBU. Fond. 1. № 5985. K. 19v—20; AMG. T. II. № 1036. S. 616—617.

[55] Унівэрсалы ў: Księga Gr. Nowogródzka. NGAB. F. 1739. Op. 1. № 1. K. 529—538.

тай і Масквой будзе мір[56]. Гэта падштурхоўвала яго скіравацца пад горад у большай ступені як камісара на перамовы, якім фармальна быў. Ён скантактаваўся з царскімі пасламі, пасылаючы да іх Крыштапа Панятоўскага і Казімера Гурскага ў справе захаваньня бясьпекі сваёй камісарскай асобы. Пад канец верасьня ён атрымаў ад маскоўскіх паслоў заклік не ўваходзіць з войскам на землі па левым баку ракі Сьвятой, якія лічыліся заваяванымі, г.зн. належалі цару. Атрымаў таксама запрашэньне на спатканьне зь імі для перамоваў наконт міру і аб'яднаньня войскаў. Надзею гетмана падмацоўвалі навіны, прывезеныя з Масквы ашмянскім старастам Адамам Мацеем Саковічам, што цар загадаў сваім паслам перамаўляцца таксама з гетманамі і ісьці ім на руку нават у справе аб'яднаньня войскаў супраць швэдаў. Гасеўскі вельмі сур'ёзна расцэньваў гэтую інфармацыю, паколькі падсумаваў яе князю Багуславу наступнымі словамі: *«Таму маю надзею ў Богу, што iunctus [аб'яднаўшыся] зь іх войскам, у будучым тыдні вярнуся»*[57]. Аднак князь ня быў у захапленьні ад такога адыходу з Жамойці палявога гетмана, паколькі непакоіўся за лёс размешчаных там сваіх уласьцяў. Ня вельмі таксама хацеў дазволіць літоўскім войскам выкарыстаць мост празь Нёман, які знаходзіўся пад Тыльзытам. Адгаворваўся, што ён занадта слабы, але адразу дадаваў, што насамрэч ня хоча даваць прычыны да разарваньня міру, заключанага паміж Фрыдэрыкам Вільгельмам і царом[58].

Войскі Гасеўскага перайшлі на левы бераг ракі Сьвятой. Аднак іх было ледзьве 1200, і гэта адной коньніцы безь пяхоты і гармат. Таму ён мог упірацца, што прыбыў ня з арміяй, а толькі з эскортам, які належаў яму як камісару. Войскі, якія прывёў падскарбі, сталі непадалёк ад Вільні пад Веркамі 7 кастрычніка, дзе размясьціліся лягерам. Колькасьць прыведзеных людзей усхвалявала маскоўскіх камісараў. Яны запатрабавалі, каб пры ім засталіся агавораныя раней 300 жаўнераў і каб зь імі ён ішоў за Вяльлю да рэшты каралеўскіх камісараў, так, як сам гэтага спачатку хацеў. Яны дамагаліся, каб рэшту войска адаслаў за раку Сьвятую, чаго Гасеўскі не зрабіў. Ён меў на гэта падставы, бо ведаў раней ад каралеўскіх камісараў, што расейцы дапускаюцца ў дачыненьні да іх збройнай дэманстрацыі, атачаючы намёт, у якім праводзіліся зьезды, у некалькі разоў большаю колькасьцю сваіх жаўнераў, чым было ўсталена раней. Іх грозная пазыцыя мусіла зьмякчыць камісараў і прымусіць да прыняцьця царскіх умоваў. Са свайго боку Гасеўскі абяцаў ім, што калі Масква будзе занадта настойваць на сваім, то ён падыдзе пад Вільню з моцным войскам, каб у сваю чаргу дэманстрацыяй сілы заахвоціць яе прыняць каралеўскія ўмовы. Прыбыўшы на месца, ён хутка ўбачыў атмасфэру ўзаемнага накалу, адсутнасьць надзеі на якія-небудзь уступкі бакоў, што не абяцала нічога добрага[59].

У гэты час, заблякаваўшы раней маскоўскую залогу Горадні, з поўдня пайшоў у ваколіцы Вільні Сапега. Ён расклаў лягер у Яшунах. Ён меў пад сваім камандаваньнем больш шматлікія войскі, чым палявы гетман, які стаяў з другога боку гораду. Сапега зьнішчыў царскія залогі, якія стаялі ў ваколіцах, заблякаваў дастаўку правіянту, а яго жаўнеры не дазвалялі высоўвацца зь Вільні людзям Даўгарукага, што там стаялі, і іх хутка пачаў мучыць голад. Ён даведаўся таксама пра набліжэньне з усходу маскоўскага аддзелу колькасьцю 1200 драгуноў, які ішоў з падтрымкай і забесьпячэньнем у Вільню. Выслаў супраць яго пад Меднікі полк жамойцкага старасты Юр'я Глябовіча пад каман-

[56] Флория Б.Н. Русско-шведские мирные переговоры... С. 56.

[57] Listy W. Gosiewskiego do B. Radziwiłła z pod Kiejdan 8 IX, z obozu pod Żejmami 15 i 27 IX 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 4567/II. S. 46, 48—49, 52—55.

[58] B. Radziwiłł do K. Paca, Królewiec 29 IX 1658. NGAB. F. 694. Op. 1. № 309. K. 4.

[59] Car do Jana Kazimierza, Moskwa 11 (21) II 1659 (копія). NBU. Fond. 1. № 5985. K. 20v—21; W. Gosiewski do B. Radziwiłła, z obozu pod Werkami 15 X 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 4567. S. 70; Dąbrowski J. Op. cit. S. 104.

даваньнем аршанскага харужага Самуля Кміціча. Ён мусіў засьпець іх зьнянацку ў полі, але спазьніўся. Праціўнік пасьпеў умацавацца ў абозе. Кміціч кінуў у атаку шэсьць харугваў. Аднак атакі на акапаных пехацінцаў не прынесьлі посьпеху, а толькі сур'ёзныя страты. Аднак Сапега не намерваўся выпускаць іх з аблогі. На пратэсты царскіх паслоў ён заявіў, што ня пусьціць іх у Вільню, а дазволіць ім толькі адысьці назад у Маскву, папярэдне забраўшы порах і волава. У адказ пачуў, што драгуноў гэтых вызваліць Даўгарукі, у якога ёсьць дастаткова войска, каб зрабіць гэта бяз гетманскага дазволу. Тым часам не ленаваўся і Гасеўскі і, як скардзіліся царскія паслы, рабіў войскам Даўгарукага *«ўціскі і зачэпкі»*. Акрамя адлову меншых аддзелаў праціўніка і блякаваньня дастаўкі забесьпячэньня, ён рабіў захады з мэтай сарваць мост на Вяльлі, які служыў Даўгаруканаму. Пратэст высланьніка царскіх паслоў Івана Жалябурскага і яго патрабаваньне, каб Гасеўскі як камісар адвёў свае войска, а сам паехаў за раку да іншых камісараў, нічога ня даў[60]. Маскоўскія вайскаводцы не заставаліся ў даўгу і адыгрываліся на мяшчанах Горадні, Коўна і Вільні, пад якія падпадалі літоўскія харугвы. Даходзіла да забойстваў, рабунку і разбурэньня камяніц. У такой напружанай атмасфэры ўзаемных абвінавачаньняў у парушэньні ўсталеных раней прынцыпаў перамоваў і адсутнасьці добрай волі царскія паслы 18 кастрычніка запрапанавалі вяртаньне зямель па Бярэзіну. Гэта не задаволіла гетманаў, якія ў тыя дні атрымалі аптымістычныя лісты ад караля, што загадвалі ім расправіцца з Даўгарукім. Маскоўскага вайскаводцу заклікаў да бітвы ваяўніча настроены Сапега, і 19 кастрычніка, ужо пасьля закрыцьця камісарскіх перамоваў, Даўгарукі прыняў выклік і намерыўся ўдарыць на Сапегу. Сутычку прадухілілі каралеўскія камісары, якія паслалі яму і царскім паслам прапанову далейшых мірных перамоваў. Пазьней цар тлумачыў, што ў той час да яго паслоў дайшла навіна пра тое, што на сойме цара абралі польскім каралём. Гэта мусіла выклікаць затрымку войскаў Даўгарукага царскімі пасламі і зварот да гетманаў, каб яны спынілі ваенныя дзеяньні, бо, ваюючы супраць царскіх войскаў, яны ваююць гэтым самым супраць свайго гаспадара. Сапега заўважаў блізкі крызыс і пагрозу распачацьця з хвілі на хвілю змаганьняў з арміяй Даўгарукага. Усьведамляючы гэта, а таксама ізаляцыю Гасеўскага на другім беразе Вяльлі, ён паслаў яму перасьцярогу, што ня здолее прыйсьці яму з дапамогай, і заклікаў хутка адступіць з-пад Вільні[61].

Ня бачачы шанцаў на паразуменьне, а толькі рост пагрозы з боку войскаў, камісары абодвух бакоў вырашылі 19 кастрычніка перарваць перамовы і чакаць царскай дэклярацыі наконт далейшых перамоваў. Тым больш, што нечакана для прадстаўнікоў Рэчы Паспалітай царскія паслы раптам пачалі прыкрывацца адсутнасьцю паўнамоцтваў ад цара. Паводле прынятых узгадненьняў каралеўскія камісары павінны былі ў той час знаходзіцца ў Слоніме, а паслы цара — у Полацку. Бакі разьехаліся, удаючы згоду, але пад Вільняй засталіся ўзаемна варожыя войскі. Лягеры Гасеўскага і Сапегі былі разьдзеленыя ракой Вяльлёй і арміяй Даўгарукага ў Вільні. Таму камунікацыя паміж імі была вельмі ўскладненая, да чаго таксама вельмі прыкладаліся маскоўскія войскі, не прапускаючы пасланцоў. 14 кастрычніка Гасеўскі атрымаў ад царскіх паслоў грозны заклік адысьці са шляху, на якім ён стаяў лягерам, у адваротным выпадку войскі Даўгарукага пагражалі атакаваць яго. Аднак палявы гетман спадзяваўся на лепшае, даверaючы абароназдольнасьці сваёй пазыцыі. Ён пераконваў, што можа доўга там абараняцца, замыкаючы шлях ратунку Маскве[62]. Цяжка сказаць,

---

[60] J. Mierzeński do B. Radziwiłła, Królewiec 6 XI 1658. Тамсама. № 9646/I. S. 103; AMG. T. II. № 1035. S. 613; Car do Jana Kazimierza, Moskwa 11 (21) II 1659. NBU. Fond. 1. № 5985. K. 22—22v.

[61] Car do Jana Kazimierza, Moskwa 11 (21) II 1659 (копія). NBU. Fond. 1. № 5985. K. 22; AMG. T. II. № 1035. S. 614; Dąbrowski J. Op. cit. S. 104—105; Rachuba A. Sapieha Paweł Jan. Op. cit. S. 142.

[62] W. Gosiewski do B. Radziwiłła, z obozu pod Werkami 15 X 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 4567/II. S. 70—71.

ці гэты здольны вайскаводца сапраўды аж так верыў у вартасьці месца свайго лягеру, асабліва беручы пад увагу пазьнейшыя выпадкі. Напэўна, ён разьлічваў на падтрымку з боку Сапегі. У апошнія дні перад прыпыненьнем нарадаў Гасеўскі прасіў пра яе, маючы намер ісьці за падмацаваньнямі ад Сапегі ня толькі супраць Дугласа, але раней супольна распраўіцца з Масквою. Аднак ён доўга не атрымліваў адказу. Уся небясьпека ягонага становішча цалкам праявілася, калі разам з закрыцьцём перамоваў маскалі аднавілі патрабаваньні адступіць са шляху, якім яны намерваліся рушыць да Друі на Полацак. Гасеўскі, не жадаючы ўступіць, чарговы раз прасіў у Сапегі падтрымку, але не было адказу. Зносіны не былі лёгкімі, паколькі праціўнік пільна ахоўваў пераправы на Вяльлі і пазабіраў зь яе ўсе лодкі. Аднак у нядзелю 20 кастрычніка Гасеўскі атрымаў зьвесткі ад Сапегі, што той нічым ня здолее яго падтрымаць. Тады было вырашана адысьці з-пад Верак, вазы мусілі рушыць уначы, а раніцай коньніца. Лягер быў разьмешчаны на моцна ўзгорыстай тэрыторыі, лясістай і пакрытай ровамі. Выкарыстоўваючы гэтыя тэрытарыяльныя ўмовы, можна было ў іх доўга абараняцца пры наяўнасьці моцнай пяхоты і артылерыі. Тым часам гетман ня меў ні таго, ні другога. Да таго, хоць непадалёк быў лягер Даўгарукага і некалькі дзён у паветры папросту лётаў пах пораху, аднак літоўскія харугвы, якія прызвычайваліся да недаацэнкі праціўніка, паводзілі сябе як на пікніку. *«Што датчыцць непарадку, наш лягер ад варожага роўна за мілю стаяў, без акопаў, без гармат, безь пяхоты, пры п'янцы, пры вельмі малой асьцярожнасьці»*, — пісаў відавочца. Не было гаворкі пра тое, каб рэалізаваць хоць частку тых намераў, якая датычыла вывядзеньня ноччу вазоў, у якіх быў таксама дарагі сэрцам жаўнераў іхні здабытак. Вазы засталіся ў лягеры. У шэрагі закрадаўся балаган і расслабленьне. Хіба тады былі страчаны ўсе козыры, якія давала занятая выгадная пазыцыя, на якую разьлічваў палявы гетман.

Таму атака войскаў Даўгарукага звалілася на лягер Гасеўскага як гром. Маскоўскі вайскаводца ў рапарце цару прызнаваў, што ня меў ад яго іншых загадаў, акрамя тых, якія наказвалі яму да часу надыходу новых загадаў стаяць у Вільні і не пасылаць супраць каралеўскіх войскаў сваіх людзей. Сваю атаку ён апраўдваў неабходнасьцю абароны, паколькі даведаўся, што Сапега і Гасеўскі намерваюцца разам ударыць на яго. Гэта не было праўдай. Праўдай было затое фіяска перамоваў, далейшае абвастрэньне стасункаў і непазьбежнасьць вайны. Даўгарукі ня бачыў далейшага сэнсу ў тым, каб стаяць са шматлікім войскам у Вільні, у якім яго два тыдні блякавалі літоўскія харугвы. Ягоныя людзі і коні цярпелі голад, паколькі гетманы адрэзалі забесьпячэньне. Таму разрыў блякады быў неабходнасьцю. Царскі вайскаводца вырашыў ударыць на Гасеўскага. Палявы гетман меў слабейшыя сілы, акрамя таго, магчыма, вырашала жаданьне рэваншу над Гасеўскім, які нядаўна перамог яго пад Коўнам. Даўгарукі, нягледзячы на ўцёкі зь ягоных шэрагаў літоўскай шляхты, надалей меў колькасную перавагу над праціўнікам і валодаў шматлікай пяхотай і агнявой моцай. Падрыхтоўваючыся да ўдару, ён пакінуў полк Восіпа Сукіна, каб той засланяў Вільню ад нечаканай атакі Сапегі, а полк Васіля Валынскага меў заданьне не дапускаць магчымага аказаньня дапамогі Гасеўскаму. Аднак абодва гэтыя палкі былі зьменшаныя на вылучаныя зь іх аддзелы, якія скіраваліся пад Веркі і ўзялі ўдзел у бітве. У панядзелак 21 кастрычніка *«рана, як чалавек чалавек пазнаць можа»*, адбылася маскоўская атака на лягер ліцьвінаў, якая засьпела іх цалкам зьнянацку. Маскалі незаўважна падышлі так блізка, што пачалася перастрэлка зь пісталетаў і бой на шаблях. Гасеўскі спрабаваў сабраць жаўнераў і паставіць іх шэрагі на бітву. Аднак беспарадак быў занадта вялікі, а да таго ж шматлікая маскоўская пяхота, даючы моцны агонь, пачала заходзіць з бакоў ад Верак і з боку шляху, які ідзе да ракі Рэшы. А сьпераду праз роў імкліва ўдарыла коньніца Даўгарукага. Ляндшафт тэрыторыі выдатна дапамагаў маскоўскай пяхоце і перашкаджаў у абароне засьпетай зьнянацку літоўскай

коньніцы. Гасеўскі адважна спрабаваў збудаваць абарону і некалькі разоў ягоныя харугвы сутыкнуліся з маскоўскімі. Аднак непрыяцеля прыбывала, а разам зь ім і націску на ўсё больш дэзарыентаваных ліцьвінаў. Урэшце яны пачалі адступаць разам з гетманам. У гэты момант абарона была цалкам зламаная і жаўнеры кінуліся наўцёкі. Быў пакінуты лягер і ўсе рэчы, што там знаходзіліся, кідалі зброю і дасьпехі, толькі б уцячы. Масква гнала іх гасьцінцам ад Гедройцяў і Малятаў аж да балоцістай ракі Рэшы. Пераправа праз яе соцень жаўнераў аказалася фатальнай, паколькі на ёй загінула найболыш ліцьвінаў. У жахлівым замяшаньні ніхто ня ведаў, што стала з гетманам. А ён, *«праз сваіх амаль на мясныя прылаўкі аддадзены»*, як пісаў Крыштап Пац Багуславу Радзівілу, доўга абараняўся, страціўшы двух коней, быў паранены і ўрэшце быў схоплены ворагам. Расьсеяныя літоўскія аддзелы на працягу даўжэйшага часу зьбіраліся ў розных месцах. Некалькі дзён не было нічога вядома пра лёс Гасеўскага[63].

Пераможныя войскі Даўгарукага вярнуліся ў Вільню, а пасланыя разьезды даходзілі аж да ракі Сьвятой, спусташаючы ваколіцы агнём і мячом. Як пазьней пісалася, ён хацеў потым даць бітву Сапегу, як той сам раней дамагаўся. Але гэтым разам Сапега, *«ня даўшы бою, з сорамам уцёк»*. Абдзёртага і параненага Гасеўскага спачатку трымалі на Лукішках пад горадам. Толькі калі адышлі войскі Сапегі, яго забралі ў горад і дазволілі заняцца ім пары мяшчан. Тыя забясьпечылі яму неабходныя рэчы для дарогі, што чакала яго. Даўгарукі не затрымаўся надоўга ў Вільні. Неставала правіянту для шматлікага войска, засяроджанага і блякаванага ў горадзе. Вядома было таксама пра паўстаньне супраць маскоўскай улады, якое ахоплівала літоўскія землі, занясьце дарог і блякаваньне залогаў. У гэтай сытуацыі Даўгарукі вырашыў адступіць зь Вільні. Для падтрымкі ранейшага гарнізону князя Міхаіла Шахоўскага ён пакінуў там 1500 чалавек, выбраных з розных палкоў, і добра іх забясьпечыў. А сам з рэштай войска, палоннымі з-пад Верак, сярод якіх быў Гасеўскі, і іншымі, а таксама здабычай, нарабаванай у Вільні і падчас жамойцкай выправы, 29 кастрычніка праз Вострую Браму пайшоў у кірунку Смаргоні і Менску. Па дарозе адблякаваў і забраў з сабою асаджаных дагэтуль у Медніках маскоўскіх пехацінцаў[64].

Па сутнасьці параза не была адчувальнай, не было панесена стратаў больш за 200 забітых і ўзятых у палон жаўнераў. Затое з шэрагаў зьніклі некалькі добрых афіцэраў. Аднак найвялікшай стратай была няволя Гасеўскага. Войска страціла энэргічнага правадыра, а каралеўскі двор — адданага сабе прыхільніка. Стварылася вельмі нядобрая атмасфэра ў войску, паколькі зьявіліся прэтэнзіі з боку афіцэраў Гасеўскага да Сапегі, што праз нежаданьне дапамагчы калегу ён спрычыніўся да ягонай няволі. Падобнае меркаваньне гучна выказваў Ян Казімер, моцна адштурхоўваючы гэтым вялікага гетмана. Параза прыгнятальна паўплывала на войска і літоўскую шляхту. Беручы пад увагу абуджаныя вялікія надзеі, яна была сапраўдным цэбрам халоднай вады на гарачыя галовы караля і ягоных статыстаў. Стала зразумелым, што перамога над Масквой будзе вымагаць нашмат большых намаганьняў і даўжэйшага часу.

[63] A. Sakowicz do B. Radziwiłła, Montrymiszki 25 X 1658. Тамсама. № 13739. S. 30—31; S. Zubowicz do B. Radziwiłła, Ragneta 29 X 1658. Тамсама. № 18818. S. 5—7; K. Pac do B. Radziwiłła, z obozu pod Toruniem 11 XI 1658. Тамсама. № 11208. Cz. I. S. 71; NN do B. Radziwiłła, w obozie pod Werkami (19) X 1658. Тамсама, неўпарадкаваныя паперы; AMG. T. II. S. 614—615; Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci / Opr. E. Galos. F. Mincer. Wrocław, 1968. C. 282—283. Вершаванае данясеньне: Lament o zniesieniu woyska Jmci Gosiewskiego Hetmana Polnego WXLitt. pod Werkami. BCzart. 400. S. 291—298.

[64] J. Mierzeński do B. Radziwiłła, Królewiec 13 XI 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 9646. Cz. I. S. 127; ліст ад xxx., S. 129; AMG. T. II. № 1035. S. 614—615.

Аднак надзеі не гублялі, веру ў перамогу вярнулі як на двары, так і ў войску. Вераломны напад Даўгарукага падчас камісарскага *armistitium* палічылі канчатковым разрывам замірэньня. Вайна стала фактам, нягледзячы на тое, што незадоўга да паразы Гасеўскага зьвесткі пра швэдзкі наступ у Інфлянтах і Курляндыі выклікалі сапраўдны пярэпалах на каралеўскім двары. 20 кастрычніка нават былі накіраваны лісты да камісараў, каб яны хутка скончалі перамовы і прасілі ў Масквы падмацаваньняў супраць швэдаў. Панічныя настроі супакойваў каронны канцлер Мікалай Пражмоўскі, і фактычна ў блізкім часе аказалася, што швэдзкая пагроза не такая вялікая, як пачаткова здавалася[65]. Тым часам абуджаныя летам і раньняй восеньню ваенныя настроі супраць Расеі, а таму і дзеяньні татараў і казакоў ва Ўкраіне і Беларусі толькі пачыналі набіраць разгон. У Літве пераможны Даўгарукі адступаў да беларускіх краёў, маючы на карку некранутую сапегаўскую дывізію. Землі, да якіх скіроўваўся, пачынала ўласна ахопліваць полымя вялікага паўстаньня казакоў Нячая, тамтэйшай шляхты і мяшчан, якіх заахвочвалі каралеўскія ўнівэрсалы і якім было ўжо цалкам досыць царскага панаваньня. Нягледзячы на балючую паразу, зьявіліся новыя фактары на арэне змаганьняў з Масквой, якія дазвалялі з надзеяй глядзець на іх канчатковы вынік.

[65] Jan Kazimierz do komisarzy, z obozu pod Toruniem 20 X 1658. BCzart. 387. S. 144; K. Pac do C. Brzostowskiego, z obozu pod Toruniem 20 X 1658. Тамсама, S. 233—235; M. Prażmowski do komisarzy, z obozu pod Toruniem 15 X 1658. Тамсама, S. 253; S. Przypkowski do B. Radziwiłła, Królewiec, b.d. [XI 1658]. AGAD. AR. Dz. V. № 12600. S. 91—92.

# II. Літоўскі наступ і паўстаньне Івана Нячая

Параза пад Веркамі, паланеньне гетмана В. Гасеўскага і неабходнасьць барацьбы са шведамі ў Курляндыі адсунула на пэўны час левае крыло літоўскага войска ад змаганьняў на маскоўскім фронце. У жамойцкай дывізіі выбухлі спрэчкі паміж вышэйшымі афіцэрамі наконт таго, хто возьме камандаваньне ёй. Хутка пасьля патрапленьня Гасеўскага ў палон Сапега даручыў камандаваньне літоўскаму абознаму Самулю Камароўскаму, што ўрэшце зацьвердзіў кароль. Аднак у той час прэтэнзіі на кіраўніцтва выказаў таксама жамойцкі стараста Юры Кароль Глябовіч. Урэшце манарх, пакідаючы абознага пры рэгімэнтарстве, аддаў Глябовічу камандаваньне жамойцкім паспалітым рушаньнем з умовай, што той ніякім чынам ня будзе ўскладняць дзеяньняў Камароўскаму[1].

Пасьля аддаленьня войскаў жамойцкай дывізіі да Курляндыі цяжар змаганьня з Масквою ў Літве быў ускладзены на сапегаўскае правае крыло. Ужо падчас перамоваў камісараў пад Вільняй харугвы з той дывізіі пад камандаваньнем Кміціча беспасьпяхова асаджалі маскоўскіх драгуноў у Медніках. Пасьля паразы Гасеўскага туды вырушыў Сапега, каб перамагчы гэтую пяхоту, але на зьвестку пра выхад Даўгарукага зь Вільні, напэўна, быў вымушаны адступіць, а маскоўскі вайскаводца вызваліў асаджаных і скіраваўся ў напрамку Смаргоні, Менску і Барысава[2]. Сапега рушыў за ім, але вельмі хутка спыніўся ў Ліпнішках. У яго былі праблемы з войскам, якое дамагалася зарплаты, а якраз набліжалася 9 лістапада і тэрмін выплаты. Замяшаньне паглыбілася праз адсутнасьць Гасеўскага, які быў падскарбіем. Грошай не было, але Сапегу ўдалося схіліць жаўнераў да далейшай службы просьбамі і перакананьнем, а таксама гатовасьцю адразу выплаціць харугвам 100 тыс. зл. Акрамя таго, Сапега абяцаў выдаць ім да траўня будучага году абяцаныя ў траўні 1658 г. на берасьцейскай камісіі 200 тыс. зл. Падобныя праблемы меў са сваімі аддзеламі правага крыла літоўскі палявы пісар Аляксандар Гіляры Палубінскі. Аднак яму таксама ўдалося пераканаць жаўнераў застацца пад штандарамі[3].

Гэта было асабліва важна ў выпадку войскаў Палубінскага, паколькі ім выпала галоўная роля ў пагоні за арміяй Даўгарукага, якая хутка адыходзіла. Напэўна, хутка пасьля выйсьця маскоўскай арміі зь Вільні Сапега адправіў яго разам з мальтыйскім кавалерам Мікалаем Уладыславам Юдыцкім на чале нібыта 6 тыс. жаўнераў у пагоню за непрыяцелем. Разьбіць яго не ўдалося, толькі нанесьці пэўныя страты, тузаючы па дарозе да Барысава. Даўгарукі спраўна пазьбягаў бітвы, так што нават не ўдалося яго злавіць на пераправах, на што ліцьвіны вельмі разьлічвалі. Конныя літоўскія аддзелы не былі ў стане дабрацца да арміі, у якой вялікую частку складала добра вымуштраваная пяхота. Пад Барысавам Палубінскі не перайшоў Бярэзіны, хоць здаецца, што на гэта разьлічваў Сапега. Пляны гетмана былі вельмі шы-

[1] Jan Kazimierz do B. Radziwiłła, z obozu pod Toruniem 13 XI 1658. AGAD. AR. Dz. II. № 1373; ён жа да П. Сапегі, пад Торунем 30 XII 1658. LvNB. F. 103. № 1697; ён жа да Ю.К. Глябовіча, пад Торунем 30 XII 1658, Księga Gr. Żmudzka 1659. VUB. F. 7—19/14471. № 50. K. 119—119v; Uniwersał Jana Kazimierza do obywateli starostwa żmudzkiego, pod Toruniem 30 XII 1658. Тамсама. № 51. K. 120—120v.

[2] J. Mierzeński do B. Radziwiłła, Królewiec 6 XI 1658. Тамсама. Dz. V. № 9646/I. S. 103.

[3] Гл.: лісты П. Сапегі да А.Г. Палубінскага зь лягеру пад Ліпнішкамі 8 XI 1658 і два лісты зь лягеру пад Багданавам 14 XI 1658. Тамсама. № 13868. Cz. II. S. 109—110, 117, 121; таксама ўнівэрсалы П. Сапегі да войска пад камандаваньнем А.Г. Палубінскага ад 7 і 14 XI 1658. Тамсама. Dz. II, № 1371 і 1374; Jan Kazimierz do K. Paca, Warszawa 15 II 1659. LvNB. F. 103. № 1700.

рокія. Пісару ён наказваў не адрывацца ад варожай арміі, злучыцца з войскамі Нячая і разам старацца яе зьнішчыць. Перш чым да гэтага дойдзе, ён мусіў выслаць шпегаў пад Смаленск, Вяліж і Віцебск, а той апошні горад нават паспрабаваць заняць. Ён абавязкова павінен быў прасіць Нячая, каб той дабіваўся ад Выгоўскага падмацаваньняў з Украіны. Гетман усьведамляў, што хутка Масква прышле на тэрыторыі на Бярэзіне і Дняпры новыя сілы, і таму хацеў перад гэтым расправіцца зь непрыяцелем, які знаходзіўся там, і заняць умацаваныя гарады[4]. Наступальных дзеяньняў патрабаваў ад гетмана таксама кароль Ян Казімер, абяцаючы паслаць яму на дапамогу войскі кракаўскага ваяводы Станіслава «Рэвэры» Патоцкага. Для падтрымкі інфармаваў, што падагрэты лістамі Выгоўскага, які абяцаў змагацца з Масквою да таго часу, пакуль яна ня верне ўсяго, што забрала ў Літвы і Кароны. На дапамогу паклікалі і татарскага хана[5].

Палубінскі, не наважыўшыся перайсьці Бярэзіну, распачаў адыход на захад. Ён намерваўся падтрымаць на землях Менскага і Наваградзкага ваяводзтваў дзеяньні шляхты супраць маскоўскіх залогаў і ў першую чаргу скіраваўся пад Менск. Горад заблякавала ваколічная шляхта, ужо раней сабраная каралеўскімі ўнівэрсаламі пад камандаваньнем палкоўніка Юношы Караля Падольскага. Падтрымлівалі яе шматлікія аддзелы мясцовых казакоў. Маскоўская залога заўважыла небясьпеку і ўмацавалася ў менскай уніяцкай царкве. Першыя штурмы былі няўдалыя да такой ступені, што шмат шляхты адарвалася ад аддзелу, каб абараніць свае сем'і ад помсты Масквы. Сытуацыя зьмянілася пасьля прыбыцьця ў другой палове лістапада аддзелаў Палубінскага. Агульнымі сіламі быў праведзены штурм на горад і Менскую фартэцыю. Пры дапамозе міны быў зроблены пралом у царкоўным муры. Калі кінуліся на штурм, адбыўся трагічны выпадак, паколькі на атакоўцаў зваліўся падарваны выбухам мур царквы. Загінула больш за сто чалавек. Далейшыя страты былі панесеныя ад шчыльнага агню абаронцаў. Урэшце маскоўскія жаўнеры палічылі далейшую абарону безнадзейнай і спрабавалі прарвацца праз атакоўцаў. Гэта ім не ўдалося, і ўсе яны былі выразаны. Жывымі засталіся толькі два афіцэры і менскі ваявода. Чарговым посьпехам жаўнераў палявога пісара быў перахоп замку ў Наваградку. У гэты час на землях, размешчаных крыху на поўнач, камандзір іншай групы харугвы правага крыла, віцебскі ваявода Уладыслаў Валовіч узяў штурмам Глыбокае, якое месьціцца на шляху зь Вільні да Полацку, а ў студзені 1659 г. ліцьвіны падышлі пад Дзісну.

Сапега з удзячнасьцю прыняў зьвесткі ад Палубінскага пра ягоныя дасягненьні і пра тое, *«што даў рускім краям добрую надзею»*. Сам з рэштай войска рушыў 12 лістапада да Бярэзіны, але дайшоў толькі да Ракава. Там дайшло да хваляваньняў сярод палкоўнікаў і жаўнераў, якія запатрабавалі выплаты жолду. Стала зразумела, што няма сэнсу ісьці далей у цалкам спустошаныя землі на чале збунтаванага войска. Гетману ўдалося неяк паразумецца з жаўнерамі, пасьля чаго ён адступіў да Слоніму[6]. Крыху раней да яго дайшлі зьвесткі пра адступленьне казакоў Выгоўскага з маскоўскай зямлі. Гэта азначала канец вялікіх плянаў агульнага ўдару зь імі аж пад Смаленск, а нават на маскоўскую сталіцу. Пра хваляваньні ва Украіне, што мелі месца ў той час, і пра аслаб-

[4] J. Mierzeński do B. Radziwiłła, xxx. Тамсама. № 9646. Cz. I. S. 129; P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, z obozu pod Lipniszkami 10 XI 1658. Тамсама. № 13868. Cz. II. S. 125—126; Copia listu z Słonimia 4 grudnia 1658. APKr. Pinocciana. № IT 363. S. 1211.

[5] Jan Kazimierz do komisarzy, z obozu pod Toruniem 8 XI 1658, BCzart. 387. S. 153—154.

[6] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, b.m. XI 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/II. S. 137; ліст са Слоніму 1 XII 1658. S. 141; J. Hlebowicz do B. Radziwiłła, z Madysza 20 XI 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 5226. S. 98; VS. № 49/V. S. 106—107; Rachuba A. Sapieha Paweł Jan. Op. cit. S. 142.

леньне пазыцыі Выгоўскага ведалі таксама каралеўскія камісары, якія знаходзіліся ў канцы 1658 — пачатку 1659 г. непадалёк ад Сапегі. Гэта паглыбіла іх сумненьні наконт таго, што варта ўскладаць надзеі на саюз з казакамі[7]. Гэта перадалося, напэўна, таксама гетману і палявому пісару, чым можа тлумачыцца іх адмова ад перанясеньня за Бярэзіну ваенных дзеяньняў. Іншым фактарам, які схіляў іх да большай асьцярожнасьці, былі пакінутыя ў далёкім тыле моцныя маскоўскія залогі ў Вільні, Троках, Коўне, Горадні. Яны блякаваліся літоўскімі харугвамі і сабранай імі шляхтай. Іншыя корпусы ачышчалі ў той час ад маскоўскіх войскаў землі да Дзьвіны і Бярэзіны[8].

Асьцярожнасьць літоўскіх камандзіраў мела падтрымку ў меркаваньнях каралеўскіх камісараў. Паводле дамовы з пасламі Аляксея Міхайлавіча ад 19 кастрычніка, яны мусілі чакаць у Слоніме на працягу чатырох тыдняў дэклярацыі царскіх паслоў з Полацку. Аднак тыя скіраваліся ня ў Полацак, а з Даўгарукім да Смаленску. З каралеўскага двара літоўскія і каронныя камісары атрымалі наказы працягваць камісію з царскімі пасламі. Зь лягеру пад Торунем Ян Казімер паслаў таксама лісты да цара ў адказ на атрыманыя ад яго. Акрамя традыцыйнага ўзаемнага абвінавачаньня за ўсе няшчасьці, кароль напісаў, што ў імя міру, якога шчыра жадае, ён загадаў сваім камісарам, каб яны стараліся сустрэцца з пасламі цара і працягваць перамовы. Аб тым самым ён прасіў і Аляксея Міхайлавіча. Пры гэтым ставіў умову, што на гэтую чарговую камісію павінен быць звольнены Гасеўскі[9]. Аднак пазыцыя караля была надалей цалкам нерэальная. Ён згаджаўся на мінімальныя ўступкі Маскве, а чакаў ад яе разрыву дамоваў са швэдамі, вяртаньня Украіны і адбіцьця для Польшчы Інфлянтаў. Такія завышаныя патрабаваньні кароль ставіў праз упэўненасьць у сіле сваёй пазыцыі, што грунтавалася на саюзе з казакамі і татарамі і паляпшэньні сытуацыі са швэдзкага боку[10]. Гэта сьведчыла пра поўнае неразуменьне зьменаў у сытуацыі на ўсходзе і новай пазыцыі Масквы, якая ўжо не дамовамі, але зброяй вырашыла канчаткова здабыць сабе, прынамсі, Беларусь і Украіну. З другога боку, было вядома, што менавіта Масква, якая з часовым посьпехам завяршала перамовы са швэдамі, ня будзе схільная да ўступак ні ў якім разе.

Камісары вытрымалі ў Слоніме пяць тыдняў і не дачакаліся ніякіх зьвестак ад сваіх маскоўскіх калегаў. Яны адразу ня надта верылі маскоўскім намерам аднавіць перамовы, паколькі *«на іх шчырасьці мы ўжо ня раз апякліся»*, — пісаў адзін з каралеўскіх камісараў, віленскі біскуп Ян Даўгяла-Завіша[11]. Таму камісары адмовіліся ад далейшага чаканьня ў цяжкіх умовах у тым горадзе і асьцераглі караля, што калі Масква захоча працягваць гэтыя перамовы, то пачакае да адпаведнай сабе ваеннай пары[12]. Гэта азначала, што яна будзе весьці перамовы, але з пазыцыі сілы. Сьпярша яна зробіць ваенныя крокі, а дасягнуўшы посьпехаў, захоча навязаць свае ўмовы. Такое разьвіцьцё падзеяў прадбачылі камісары. Яны ня верылі занадта ў літоўскія сілы, а тым больш у саюз з Украінай, а ў Беларусі — у магутнасьць Нячая.

Тым часам на каралеўскім двары вялікія надзеі для Літвы ўскладалі менавіта на асобу і дзейнасьць чавускага палкоўніка Івана Нячая. Народжаны ў праваслаўнай

[7] Komisarze do Jana Kazimierza, Bezdzierz 29 XII 1658. Тамсама, AKW, Dz. rosyjski 55c/36; ліст ад 1 I 1659. Тамсама. 55c/34.

[8] Copia listu z Słonimia 4 XII 1658. APKr. Pinocciana. № IT 363. S. 1211—1212; Pamiętnik Jana Cedrowskiego // Dwa pamiętniki z XVII wieku / Opr. A. Przyboś. Wrocław, 1954. S. 13; AMG. T. III. № 166. S. 149.

[9] Jan Kazimierz do Aleksego Michajłowicza, pod Toruniem 18 XI 1658. RGADA. F. 79. № 107.

[10] Гл.: лісты Яна Казімера зь лягеру пад Торунем 8 XI і 12 XII 1658. BCzart. 387. S. 155—158, 167—168.

[11] J. Zawisza do Katarzyny Sapieżanki Radziwiłłowej, Słonim 31 X 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 18566.

[12] Komisarze do Jana Kazimierza, z Berezy 28 XI 1658. Тамсама. № 55c/31.

шляхецкай сям'і ў Мсьціслаўскім ваяводзтве, ён змагаўся ў шэрагах войскаў казацкага палкоўніка Івана Залатарэнкі, якія падтрымлівалі ў 1654—1655 г. царскія арміі ў Літве. Пасьля яго сьмерці ў канцы 1655 г. пад асаджаным Старым Быхавам, казацкім наказным палкоўнікам у Беларусі стаў Нячай, а ў пачатку наступнага году ён атрымаў ад Хмяльніцкага прызначэньне на беларускага палкоўніка. Нячай быў здольным арганізатарам і моцнай асобай. Гэтыя рысы аказаліся прыдатнымі, тым больш, што усё відавочней праяўлялася сутыкненьне маскоўска-казацкіх інтарэсаў на землях пáўднёва-ўсходняй Беларусі. У 1654 і 1655 г. казацкія войскі разьмясьціліся ў басэйне верхняга Дняпра і Бярэзіны. Яны лічылі гэтыя землі падлеглымі запароскаму гетману, а Масква імкнулася аслабіць і выкурыць адтуль казацкія ўплывы. Гэта нараджала шмат канфліктаў, а амбіцыйны палкоўнік не намерваўся адмаўляцца ад сваіх пазыцыяў. Наадварот, ён укамплектоўваў свае залогі ў чарговых населеных пунктах, праганяючы адтуль царскіх жаўнераў і чыноўнікаў. Рабіў гэта насуперак пратэстам маскоўскіх ваяводаў са Смаленску і Магілёва і іх скаргаў да цара.

Нячай няспынна ўмацоўваў свае сілы. Да ягоных казацкіх аддзелаў далучалася шмат беларускіх добраахвотнікаў — сялянаў, мяшчан, шляхты. Ім імпанаваў дух казацкіх свабодаў. З добраахвотнікаў былі ўтвораны новыя сотні. Іх колькасьць ужо ў 1656 годзе была такая вялікая, што занепакоены цар зьвярнуўся да Хмяльніцкага, каб, акрамя забраньня казакоў зь Беларусі, ён забараніў Нячаю вэрбоўку і пакараў яго за ягонае «вараўство». Бо шырыліся скаргі на ягоных людзей, што нападаюць на залогі і прадстаўнікоў царскай улады, а таксама на мясцовую шляхту, якая прысягнула на вернасьць цару. Нячай мог дазволіць сабе ігнараваньне гэтых пратэстаў. Масква, ведучы ўсё больш складаную вайну са Швэцыяй, ня мела на гэтых землях дастатковых сілаў, каб збройна расправіцца зь ім. Такая магчымасьць, зрэшты, у той час зусім не бралася пад увагу, паколькі гэта магло б выклікаць небывалае напружаньне ў і так штораз горшых стасунках з Украінай. Са свайго боку казацкі палкоўнік высоўваў доўгі сьпіс скаргаў на гвалты, які чынілі зь мясцовым насельніцтвам царскія ваяводы і жаўнеры[13].

У маскоўскіх абвінавачаньнях было шмат праўды, але рабункі і напады не заўсёды былі справай людзей Нячая. У той час зьяўлялася шмат аддзелаў, якія называлі сябе казацкімі і запароскімі. Часта яны не падпарадкоўваліся нічыёй уладзе, а іх галоўным заняткам было рабаваньне ваколічных жыхароў без увагі на іх вернасьць таму ці іншаму манарху і на веравызнаньне. Таму было шмат унівэрсалаў Хмяльніцкага і самога Нячая, каб іх зьнішчаць[14]. Адным з такіх напалову разбойніцкіх аддзелаў камандаваў Дзяніс Мурашка. На яго дзейнасьць скардзілася навагрудзкая шляхта ўжо ў сярэдзіне 1656 г. Яна акрэсьлівала яго як «гультая», які быў палкоўнікам мясцовых сялянаў і чэлядзі, якія «пагультаіліся». Рабункі і сялянскія бунтаў было настолькі шмат, што ўрэшце 22 кастрычніка 1657 г. аддзел Мурашкі быў разагнаны[15]. У пазьнейшы час ён стаў на чале сваіх людзей у ваколіцы Менску пры тамтэйшым маскоўскім гарнізоне.

Пазыцыя Нячая ў Беларусі расла разам са слабеньнем сымпатыі мясцовага насельніцтва да Масквы, такой відавочнай у 1654—1655 г. Дэспатызм чыноўнікаў,

[13] Параўн.: AJZR. T. XIV. S. 427—430, 439—440 і шмат іншых зьмешчаных у гэтым томе скаргаў, якія з абодвух бакоў накіроўваліся цару; AMG. T. II. S. 609; Горобець В., Іван Нечай // Полковники Віска Запорозького. Київ, 1998. С. 265—266.

[14] B. Chmielnicki do komendanta słuckiego majora Jana Grossa, Czehryń 9 VIII 1656. AGAD. AR. Dz. V. № 2014. S. 1; Універсал Богдана Хмельницького / Під ред. І.Крип'якевича, І.Бутича. Київ, 1998. Гл.: дак. №. 19, 20 (Дадатак II).

[15] Pamiętnik Jana Cedrowskiego. S. 12; Сагановіч Г. Невядомая вайна 1654—1667. Мінск, 1995. С. 78; Majewski W., Wasilewski T. Muraszka Dionizy // PSB. T. XXII/2. S. 268.

рабункі і тэрор з боку войска, прымусовае высяленьне ў глыб бязьмежнай царскай манархіі хутка адштурхнулі як шляхту, так і мяшчан зь сялянамі. Аказалася, што не ахоўвала ад гэтага супольная праваслаўная вера, на абарону якой так спасылаўся цар, распачынаючы вайну. Усё большыя зьнішчэньні хутка выклікалі галечу і голад. Шмат іншых фактараў заганяла ахвотнікаў пад казацкія штандары, а тыя ў моманты рознагалосьсяў з Масквою прыводзілі да зьяўленьня і пашырэньня варожых да яе настрояў. Узмацнялі іх, зрэшты, і самі маскалі, якія вельмі непрыхільна ставіліся да фармаваньня новых казацкіх аддзелаў, а пры нагодзе праяўлялі нястрыманую пагарду да іх плябейскіх жаўнераў. Яны апэлявалі да цара наконт стрыманьня працэсу аказачваньня беларускага насельніцтва і нават абмежаваньня колькасьці казакоў у Беларусі[16]. У сярэдзіне 1657 г. на загад цара адбыліся фармальныя выправы ягоных ваяводаў на землі, занятыя беларускімі казакамі. Адну зь іх вёў з Магілёва Сямён Зьмееў. Выканаўшы заданьне, ён пісаў цару, што схопленых казакоў, якія паходзілі з магілёўскіх вяскоўцаў, закоўвалі ў кайданы, секлі батогамі і загадвалі ім жыць, як наказвае іхні стан, г.зн. па-сялянску. Сілай былі выдаленыя казацкія залогі зь Менску, Копыся, Шклова і многіх іншых гарадоў і вёсак. Гэта вельмі закранула прыніжаных беларусаў, а таксама іх правадыра, палкоўніка Нячая, які пакуль што ў сваім афіцыйным пратэсьце супраць такіх паводзінаў абмяжоўваўся адпраўленьнем чарговых скаргаў да цара. Таму ніколі не было поўнай згоды паміж царскімі ўладамі ў Беларусі і казацкімі ўтварэньнямі, а ў дадатак яна зь месяца ў месяц малела, усё часцей пераараджаючыся ў адкрытую варожасьць. У 1658 г. сярод іншых прычын таксама яна прывяла беларускіх казакоў да выступленьня разам зь Нячаем на баку Рэчы Паспалітай. У гэтым ён мог разьлічваць на ўсё болып жывую падтрымку насельніцтва і беларускай шляхты, якім было досыць цяжкага маскоўскага панаваньня.

Па сьмерці Хмяльніцкага Масква старалася дамагчыся ад Івана Выгоўскага адыходу Івана Нячая. Новы гетман нібыта згадзіўся з гэтым, але ніколі такога загаду не даў. Адначасова з ростам варожасьці ў яго стасунках з Масквою прысутнасьць моцных казацкіх войскаў у Беларусі была яму вельмі на руку[17]. Як аказалася, Нячай падтрымліваў жывыя кантакты з Выгоўскім, у якога, падобна, бываў асабіста і, напэўна, вельмі рана быў пасьвячаны ў яго намеры парваць з Масквою і ўвайсьці ў хаўрус з Польшчай. Нячай прывёз ад яго ўнівэрсалы караля і самога Выгоўскага да казакоў і насельніцтва беларускіх зямель[18]. З 1657 г. ён заставаўся ў цесных сувязях зь літоўскай шляхтай, незадаволенай царскімі парадкамі і, відаць, у пэўнай ступені каралеўскімі плянамі. Шмат кантактаў злучала яго зь недалёкім Слуцкам, які належаў Багуславу Радзівілу. У гэтым вялікім горадзе-крэпасьці стаяў магутны князеў гарнізон. Пад канец вясны ён асьцерагаў людзей князя Багуслава перад маскоўскай небясьпекай і нават прапаноўваў шляхце падтрымаць горад казацкай залогай[19]. Падтрымліваў таксама стасункі са шляхтай Навагрудзкага ваяводзтва. Ён таксама старанна імкнуўся загладзіць надобрае ўражаньне пасьля інцыдэнту з казакамі Станішэўскага, які меў месца на мяжы 1657 і 1658 г. Выдаў шэраг загадаў, якія забаранялі падпарадкаваным яму казакам непакоіць навагрудзкую шляхту чатамі і вэрбаваньнем яе падданых у шэрагі запароскага войска. Сачыць за выкананьнем гэтых загадаў

---

[16] Шмат дакумэнтаў на гэтую тэму ў AJZR. T. XIV; Сагановіч Г. С. 76—78.

[17] AJZR. T. XV. S. 16. Ліст Нячая да цара. Тамсама. T. IV. С. 17—18; T. XIV. С. 427—430, 439—440 і шмат іншых зьмешчаных у гэтым томе скаргаў, якія з абодвух бакоў накіроўваліся цару; Горобець В. Іван Нечай / Полковники Війська Запорозького. Київ , 1998. С. 265—266.

[18] Aleksy Michajłowicz do Jana Kazimierza, Moskwa 11 II 1659. NBU. Fond. 1. № 5985. S. 20.

[19] Stefanowicz do B. Radziwiłła, Słuck 9 VI 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 15081. S. 14; ліст ад 28 VI 1658. S. 25.

павінен быў пасланы да Наваградку на патрабаваньне тамашняй шляхты сотнік палка Нячая Іван Міткевіч з даручанымі яму таварышамі[20].

Летам 1658 г., калі маштаб узаемных прэтэнзій на лініі Варшава—Масква ўзрос да вельмі небясьпечнага ўзроўню, спробы перамоваў не прыносілі ніякіх вынікаў і ўсё больш збіралася на вайну, на каралеўскім двары былі цалкам упэўненыя ў пазыцыі Івана Нячая. Гэта было магчыма дзякуючы падтрымцы зь ім зь нейкага часу інтэнсіўнага кантакту. У ім і ягоных людзях бачылі цалкам пэўнага саюзьніка, які *«з гатовай ахвотай дапамагчы нам і Рэчы Паспалітай чакае нашага заклiку»*. У жніўні ў Варшаву прыбылі паслы ад Нячая, якія везьлі ягоныя лісты, у якіх ён абяцаў каралю выставіць на яго патрэбы 20 тыс. казацкага войска і адразу ісьці зь ім супраць Масквы. Кароль згаджаўся з усімі ягонымі патрабаваньнямі, а сваім камісарам, пасланым на перамовы, наказваў, каб умацоўвалі палкоўніка ў вернасьці Рэчы Паспалітай. Адначасова пераконваў іх, што *«не спыняем стасункаў зь Нячаем»*, і паказваў на яго вялікую ролю ў выпадку разрыву перамоваў і распачацьця вайны з Масквой[21]. Усё гэта, а таксама вядомыя кантакты Нячая зь незадаволенай царскімі парадкамі літоўскай шляхтай прывяло да таго, што ўжо 27 жніўня Ян Казімер са сваіх сталовых уладаньняў Магілёўскай эканоміі са згодай рады сэнату надаў пажыцьцёвым правам Нячаю і ягонай жонцы Стэфанідзе Хмяльніцкай-Нечаёвай мястэчкі Чавусы і Чэрыкаў, а таксама два вайтоўствы: Пуцкавіцкае і Блахавіцкае. Ад каралевы Людвікі Марыі яму дастаўся таксама Бабруйск. А празь дзень, 28 жніўня, яшчэ падчас працягу сойму, Нячаю далі амністыю і пашырылі яе на ўсіх яго прыхільнікаў, *«усякага стану і паклiканьня людзей, як шляхту, так і мяшчан з простымі сялянамі»*, якія вярталіся да вернасьці і на службу Рэчы Паспалітай. Агаворвалася, што зроблена так, *«каб праз атрыманьне гэтай ласкі і вечнай амністыі нашай народжаны Ян Нячай, палкоўнік наш, усю сваю моц і сілы свае разам супраць непрыяцеляў нашых павярнуўшы, ад нашых і вяльможнага гетмана ВКЛ распараджэньняў залежаў»*. У той жа час, каб яшчэ больш заахвоціць яго і ягоных людзей да вернай і напружанай службы, на казацкага палкоўніка і ягоных супрацоўнікаў сыпаліся чарговыя доказы ласкі з боку караля і каралевы Людвікі Марыі. Праз пару дзён на пасьлясоймавай радзе сэнату было вырашана прыняць яго разам з казакамі на службу Рэчы Паспалітай[22].

Аднак сам Нячай не адкрыў у той час сваіх задумаў, хоць падазрэньні, пасыланыя маскоўскім ваяводам і самому Аляксею Міхайлавічу, сыпаліся на яго з усіх бакоў. Крокі і намеры непаслухмянага палкоўніка не абміналі ўвагі моцна занепакоеных маскоўскіх ваяводаў. Яны ўсьведамлялі сытуацыю ва Украіне, дзе ў той час Выгоўскі ўжо вёў дзеяньні супраць войскаў цара на Левабярэжжы. Праз адсутнасьць сілаў царскія вайскаводцы ў Беларусі не маглі на той момант распачаць больш рашучыя крокі супраць казакоў Нячая. Зрэшты, ён сам да апошняй хвілі падманваў іх, пераконваю-

[20] Uniwersał Pułkownika Iwana Nieczaja, b.m. 26 I 1658. NGAB. Księga Gr. Nowogródzka. F. 173. Op. 1. № 1. K. 451—452v. Да канфлікту з казацкім палкоўнікам Станіпэўскім дайшло 26 XII 1657, калі жаўнеры са Слуцка на чале з маёрам Энглізам (Englis) разагналі ягоны аддзел, які стаяў у адным з маёнткаў князя Багуслава Радзівіла. Узялі палонных, бубны і харугвы. Крыху пазьней у адказ разьбітыя казакі спустапшылі маёнткі некаторых навагрудзкіх шляхціцаў, гл.: B. Tyszewicz do B. Radziwiłła, Słuck 6 I 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 14627. S. 5—6; S. Leźnicki do B. Radziwiłła, Słuck 8 III 1658. Тамсама. № 8451. S. 16.

[21] Senatus Consultum. Warszawa 31 VIII 1658. BCzart. 401. S. 143; Jan Kazimierz do komisarzy, Warszawa 24 VIII 1658. BCzart. 387. S. 84.

[22] RGADA. Fond 389. № 130. K. 346v—347v, 348v—349v; Senatus Consultum. Warszawa 31 VIII 1658. BCzart. 401. S. 143, 145.

чы ў сваёй непахіснай вернасьці, і яшчэ 28 жніўня запэўніваў барысаўскага царскага ваяводу Фёдара Савіча Нарбекава ў гатовасьці далей служыць цару, а нават *«скласьці галаву ў змаганьні зь непрыяцелямі цара»*[23].

Да адкрытага выступленьня беларускіх казакоў дайшло пад канец верасьня. Першы адкрыты бунт падняў палкоўнік Дзяніс Мурашка, які стаяў са сваімі людзьмі ў Менску і яго ваколіцах. 18 жніўня ён самавольна пакінуў гэты горад і са сваімі жаўнерамі скіраваўся пад Стары Быхаў да Нячая[24]. Можна здагадвацца, што такі сцэнар быў заплянаваны абодвума вайскаводцамі. Празь некалькі дзён яўна ўзбунтаваўся Нячай. Тады або крыху раней ён разаслаў да беларускай і літоўскай шляхты свае і каралеўскія ўнівэрсалы, якія заклікалі злучыцца зь ім. У іх ён абяцаў дапамогу Рэчы Паспалітай з боку запарожскага войска. У гэты час ва Ўкраіне была заключана дамова ў Гадзячы, на Нёмне адбыліся пераможныя сутычкі з Даўгарукім, і ўсё гэта, напэўна, дадаткова падбадзёрыла насельніцтва Беларусі. У Літве ўсё бурліла, і шляхта, заахвочаная каралеўскімі ўнівэрсаламі, зьбіралася да распачацьця вайны з Масквой. У сярэдзіне верасьня да Нячая мусілі дайсьці каралеўскія лісты з паведамленьнямі пра амністыю і заклікам рушыць на маскоўскія войскі. Падобныя лісты прыходзілі яму і ад Паўла Сапегі. У чарговыя дні ён атрымаў яшчэ больш такіх лістоў з каралеўскага двара. У ваяўнічым настроі быў і кароль, і гетманы, якія зьбіралі войска пад Вільняй і не пераставалі дамагацца ад Выгоўскага падмацаваньня дзеяньняў у Беларусі[25]. Ад Нячая чакалі дывэрсіяў у тылах маскоўскіх войскаў. І ліцьвіны, і казакі, якія змагаліся з Масквою ва Ўкраіне, вельмі чакалі распачацьця Нячаем барацьбы на тылах маскалёў, заняцьця пераправаў на Бярэзіне і Дняпры, што адрэзала б магчымасьць даставіць з глыбіні Маскоўшчыны падмацаваньні царскім войскам, якія змагаліся ў Літве і Ўкраіне[26]. Актыўнае выступленьне Нячая абяцала нават паралізаваць, прынамсі, на нейкі час наступальную акцыю царскіх камандзіраў.

Аднак вельмі хутка пасьля распачацьця змаганьняў сытуацыя зьмянілася. Літоўскія войскі пад Вільняй не змаглі заблякаваць армію Даўгарукага і, што горш, зазналі балючую паразу пад Веркамі. Праз гэта зьніклі шанцы на хуткае зьяўленьне літоўскіх сілаў з падтрымкай паўстанцаў у Беларусі. Частка літоўскай арміі мусіла скіравацца ў Жамойць і Курляндыю супраць швэдаў, якія там атакавалі, а дзеяньні супраць маскоўскіх войскаў маглі весьці толькі корпусы правага крыла літоўскіх войскаў пад камандаваньнем прызначаных палкоўнікаў. Гэтыя войскі, ідучы за Даўгарукім, што адступаў у напрамку Барысава, здолелі ў чарговыя тыдні заняць Менск і Глыбокае і ўперціся ў Бярэзіну. Аднак яны не перайшлі яе і ў той момант не аказалі непасрэднай дапамогі аддзелам, якія змагаліся з Масквой. Горш за тое, калі людзі Нячая найбольш патрабавалі дапамогі гэтых рэгулярных войскаў перад пераходам маскоўскіх дзеяньняў у наступальную фазу, іх актыўнасьць пачала зьніжацца, бо ў войску імкліва расло незадавальненьне службай.

Нягледзячы на ўсе гэтыя неспрыяльныя фактары, дзеяньні Нячая мелі вялізнае значэньне для ваенных плянаў каралеўскага двара. Яно вельмі ўзрасло пасьля паразы пад Веркамі. Беларускаму палкоўніку прызначылі ў той час новую ролю. Рыхтуючыся да падаўленьня арміі Даўгарукага, якая адыходзіла, казацкага палкоўніка заахвочвалі актывізаваць дзеяньні супраць Масквы на землях, празь якія мусіў ісьці Даў-

---

[23] AMG. T. II. S. 609.

[24] AJZR. T. VII. S. 258; Majewski W., Wasilewski W. Muraszka Dionizy // PSB. T. XXII/2. S. 268.

[25] I. Wyhowski do J. Grossa, Dawidgródek 6 XI 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 18111. S. 1—3; W. Gosiewski do B. Radziwiłła, b.m.d. (IX—X 1658). Тамсама. № 4567/II, 105—106.

[26] K. Pac do komisarzy, Zakroczym 10 IX 1658. BCzart. 387. S. 99; Jan Kazimierz do komisarzy, Warszawa 31 VIII 1658. Тамсама. S. 112; ліст з-пад Торуня 5 X. Тамсама. S. 121, ад 9 X 1658. Тамсама. S. 126.

гарукі: *«Мы пісалі Нячаю, які на той час знаходзіўся каля Полацку ці Барысава, які ўжо aperte [адкрыта] супраць Масквы распачаў hostilitatem [варожыя крокі], каб eadem [у тым самым месцы] працягваў; калі ён з нашымі злучыцца, ня трэба сумнявацца, што нашы Даўгарукага пераўзыдуць сілай. Да Выгоўскага мы таксама пісалі, каб патрэбнай у тамашніх краях… не параставаў рабіць дывэрсіі»*[27]. Выступленьне Нячая зрабіла вялікае ўражаньне на літоўскую шляхту. Заахвочаная ўнівэрсаламі караля, яна гарнулася пад яго камандаваньне, асабліва калі ёй абмалёўвалі вялікія пляны супольнай з войскамі Рэчы Паспалітай і ўкраінскіх казакоў перамогі над Масквой і вызваленьня Літвы[28]. Інакш магчымасьці Нячая ацэньвалі каралеўскія камісары, якія знаходзіліся пад канец году непадалёк ад ахопленых змаганьнямі літоўскіх зямель. Камісары не былі такімі аптымістамі, як Ян Казімер. Заўважалі вялікую слабасьць сілаў Нячая, нягледзячы на іх шматлікасьць, і апэлявалі да караля наконт хуткага падмацаваньня іх з рэгулярных літоўскіх войскаў[29].

Восеньню 1658 г. абставіны з усіх бакоў спрыялі Нячаю. Маскоўскія сілы, якія стаялі ў Беларусі, былі нешматлікія, слаба забясьпечаныя і засяроджаныя ў некалькіх умацаваных гарадах, як Магілёў, Шклоў, Віцебск, далей Смаленск і Полацак. Да таго ж вялікая іх частка складалася з казакоў і літоўскай шляхты, якая калісьці прысягнула ў падданстве і вернасьці цару. Яе абавязкам была вайсковая служба ў шэрагах царскіх войскаў. Былі такія, што служылі з ахвотай і нават вылучаліся стараннасьцю, аднак большасьць рабіла гэта з прымусу. Разам з нарастаньнем незадавальненьня і надзеі на зьмену становішча літоўскіх зямель у 1658 г. яны станавіліся ўсё менш пэўным элемэнтам у войсках Аляксея Міхайлавіча. Іх таварыства баяліся яго ваяводы, тым больш, што зьявілася неабходнасьць выкарыстаньня гэтых *«літоўскіх людзей»* супраць аддзелаў паўстанцаў[30]. Нячай мог спадзявацца на іх падтрымку, а таксама на масавы ўдзел шляхты, падбадзёранай каралеўскімі ўнівэрсаламі. Ведаючы пра гэтыя настроі, ён накіроўваў яшчэ да свайго адкрытага выступленьня, а таксама і потым да тых залогаў і жыхароў гарадоў спэцыяльных пасланцоў зь лістамі, якія мусілі перацягнуць іх на бок Нячая і караля. Гэтыя акцыі прынесьлі розныя вынікі. У Полацку дайшло да вострых хваляваньняў і выбухаў незадавальненьня царскім панаваньнем. Сам Аляксей Міхайлавіч вымушаны быў наказаць сваім ваяводам скіраваць туды дадатковыя аддзелы для іх уціхамірваньня. Аднак трэба прызнаць, што ў гарадах, укамплектаваных маскоўскімі залогамі, гэтыя акцыі не прывялі да іх заняцьця, акрамя актывізацыі перабежніцтва насельніцтва і жаўнераў літоўскай і казацкай залогаў у шэрагі паўстанцаў. Затое шмат агентаў Нячая, патрапіўшы ў маскоўскія рукі, скончыла, як тыя ў Смаленску, на шыбеніцах, пастаўленых пры дарогах, каб быць жахлівым прыкладам для ўсіх, хто спрабуе забыць пра клятву вернасьці, дадзеную на вечныя часы Аляксею Міхайлавічу[31].

Найбольш казацкі правадыр разьлічваў на пераможны наступ літоўскіх і каронных войскаў з захаду, а з поўдня — на дапамогу казакоў Выгоўскага, а нават татарскай арды. Аднак рэчаіснасьць жорстка расчаравала казацкага правадыра. Ён не пралічыўся толькі ў дачыненьні двух першых пунктаў сваіх разьлікаў. Слабыя маскоўскія аддзелы, засьпетыя паўстаньнем зьнянацку, не былі ў стане аказаць большы супраціў і былі хутка замкнутыя ў некалькіх умацаваных гарадах. Ён не памыліўся таксама наконт

[27] K. Pac do B. Radziwiłła, z obozu pod Toruniem 11 XI 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 11208/I. S. 72.
[28] VS. № 46. S. 92—93.
[29] Komisarze do Jana Kazimierza, w Bezdzieżu 28 XII 1658. Тамсама, AKW, dz. ros. 55c/32; list do M. Prażmowskiego, Bezdzież 2 I 1659. Тамсама. № 55c/35.
[30] Мальцев А.Н. Россия и Белоруссия в середине XVII века. Москва, 1974. С. 120; RGADA. F. 144. Op. 2. № 109.
[31] VS. № 47. S. 98—101; AMG. Т. III. № 166. S. 149.

дапамогі мясцовай літоўскай шляхты, якая, маючы ўжо досыць царскіх рэпрэсій, шматліка падтрымала паўстаньне Івана Нячая, стоячы пры ім да моманту яго апошніх змаганьняў. Затое ён пралічыўся, як каралеўскі двор ці Выгоўскі, у надзеі на хуткі разгром Масквы. Ён ня мог прадбачыць такой хуткай зьмены спрыяльнай палітычнай сытуацыі. Яна засьпела зьнянацку і караля з польскімі дыпляматамі. Вялікія надзеі на прыбыцьцё пераможных літоўскіх войскаў з захаду зьнішчыла шмат фактараў: працяг вайны са швэдамі, іх нечаканая атака на Курляндыю і Жамойць і неабходнасьць пасылаць туды значныя літоўскія сілы, параза пад Веркамі, а потым на Дзьвіне пад Мядзелам і Чадосамі, адсутнасьць абяцанага большага наступу Выгоўскага і татараў у межах маскоўскай дзяржавы. Адважны палкоўнік не атрымаў таксама ніякай большай дапамогі з Украіны. Замірэньне са Швэцыяй у Валіесаары дазволіла цару распачаць больш актыўныя дзеяньні і супраць Выгоўскага ва Украіне, што зрабіла немагчымым аказаньне большай дапамогі Нячаю. У пэрыяд абароны Старога Быхава шанцы на аказаньне дапамогі зьнішчыла нечаканае падзеньне Выгоўскага і вялікі наезд князя Івана Хаванскага на Літву і Падляшша. Такім чынам, палкоўнік Іван Нячай у прынцыпе зь першых месяцаў свайго змаганьня быў цалкам адзінокі. Ён ня мог спадзявацца ні на якую дапамогу звонку. Аднак, нягледзячы на такое трагічнае становішча, ён абараняўся на дзіва доўга — да самага сьнежня 1659 г. З пункту гледжаньня вельмі аптымістычных плянаў разгрому Масквы, складзеных восеньню 1658 г., ён выдатна выканаў сваё заданьне. Без падтрымкі звонку ён мусіў паддацца ўсё большай маскоўскай магутнасьці. Ён стаў ахвярай недаацэнкі пад канец 1658 г. ваенных магчымасьцяў Масквы, а таксама нечаканых палітычных здарэньняў і іх наступстваў.

Спачатку слабасьць расейцаў забясьпечыла Нячаю вялікія посьпехі. Казацкія праваdыры сталі на ягоным баку. Выступленьне Нячая мусіла быць раней папярэджана пасьпяховай акцыяй сярод казацкіх палкоўнікаў, паколькі не было чутна пра нейкі супраціў зь іхняга боку. Пры ім зьбіралася шляхта, да змаганьня з Масквою заахвочваліся і мясцовыя сяляне, якім напэўна даліся ў знакі маскоўскія рабункі[32]. Пераходзіла да яго шляхта, якая была на маскоўскай вайсковай службе, разам з такімі ротмістрамі і палкоўнікамі, як Флярыян Слонскі, Браніслаў Прысецкі, Кароль Лісоўскі, князь Самуль Лукомскі, К. Стобраўскі, Язэп Касоўскі. Многія зь іх у 1654—1655 г. у шэрагах літоўскай арміі змагаліся з маскоўскімі войскамі і толькі перад, здаваліся б, канчатковай паразай Рэчы Паспалітай прынесьлі прысягу цару. Пара гадоў маскоўскага панаваньня здолела адбіць ахвоту да новых уладаў у вялізнай частцы насельніцтва занятых зямель Вялікага Княства Літоўскага. Пры гэтым трэба памятаць, што шмат шляхты падпарадкоўвалася ўладзе цара без ахвоты і прыносіла яму прысягу на вернасьць у 1654—1656 г., калі ніадкуль не было надзеі на ратунак. Людзі стараліся прыстасавацца да новых рэаліяў. Шмат літоўскіх афіцэраў, шляхецкіх ротмістраў прымала службу ў цара, становячыся на чале шляхты, якая клялася і прысягала на вернасьць цару. Потым яны служылі нават у Інфлянтах, як напрыклад Ф. Слонскі, у змаганьнях супраць швэдаў[33]. За заслугі многія зь іх дабіваліся ад цара ўзнагарод, найчасьцей у выглядзе зямель, што засталіся пасьля тых, хто загінуў ці быў вывезены ў гады маскоўскага наезду 1654—1655 г. у глыб дзяржавы цароў, г.зн. сышлі з тых зямель, захоўваючы вернасьць польскаму каралю. Прасіў, між іншым, берасьцейскі ваяводзіч Станіслаў Андрэй Масальскі, які нагледзеў сабе ў Вільні камяніцу па багатым нямецкім мешчаніне пры вуліцы Рудніцкай[34]. Адсутнасьць стабілізацыі на літоўскіх і беларускіх землях спрыяла набегам, нападам і ўсякім рабункам, якія ўчыняліся ўсё больш гарачымі афіцэрамі. Вельмі часта

[32] AMG. T. II. № 1035. S. 615.
[33] AMG. T. II. № 908. S. 542.
[34] RGADA. F. 144. Op. 2. № 82.

даходзіла да збройных сутычак з маскоўскімі ці казацкімі аддзеламі, вернымі цару. У 1657 г. казакі, якія неслі службу ў Дзісьне, разам са сваім ваяводам Максімам Чалішчавым скардзіліся на палкоўніка Караля Лісоўскага і шляхціца Тэафіла (напэўна, Джадзібога, полацкага вайсковіча) Храпавіцкага. Яны былі пасланыя ў колькасьці 108 чалавек пад камандаваньнем ротмістра Крысыпіна Сьвяцкага і Івана Панфілава да царскіх войскаў. Аднак, калі спыніліся ў вёсцы Храпавіцкага Кахановічах каля 40 км ад Дзісны, на іх напала, як сьведчылі, больш за 500 чалавек Храпавіцкага і Лісоўскага. Іх зьбілі, разагналі, а зброю, якую мелі ў распараджэньні, і большасьць коней забралі ў іх пры нападзе. Пазьнейшыя намаганьні вярнуць страчанае прынесьлі мізэрныя вынікі. За казакоў заступаўся акальнічы і полацкі ваявода, князь Дзьмітры Аляксеевіч Даўгарукі, аднак рабіў гэта досыць мякка, магчыма, не жадаючы адштурхнуць ад сябе напэўнай шляхты, а можа, і сам чарпаў з выгадак Лісоўскага і Храпавіцкага карысьць[35]. У іншых выпадках яны самі станавіліся ахвярамі царскіх чыноўнікаў. На працягу цэлага 1657 г. і ў сярэдзіне 1658 г. на ваяводаў-рабаўнікоў з Рэжыцы скардзіўся ротмістар Юзаф Касоўскі. Ён не дачакаўся рэакцыі, а восеньню 1658 г. апынуўся ў шэрагах паўстанцаў, але на кароткі час, бо ўжо ў пачатку наступнага году змагаўся супраць іх[36]. Абдзіраньне, беспарадак і анархія, якія панавалі на землях, што апынуліся пад уладай Масквы, вельмі хутка пачалі псаваць настрой ня толькі шляхце і яе старшыне, што служыла цару, але таксама мяшчанам і сялянам. Калі толькі пачало аказвацца, што паваленая Рэч Паспалітая падымаецца з упадку, зьявіліся надзеі пазбыцца ад маскоўскага панаваньня. Унівэрсалы караля, гетмана і Нячая, якія даходзілі да Дзьвіны і верхняга Дняпра, заахвочвалі дэзэртаваць з царскай службы і збройна выступаць супраць акупантаў. Гэтая зьява набыла масавы маштаб восеньню 1658 г., а шэрагі Нячая і створаныя на хаду літоўскія паўстанскія харугвы вельмі хутка папаўняліся добраахвотнікамі, якія, слаба ўзброеныя і яшчэ горш вывучаныя, рваліся на бой з маскоўскімі войскамі.

Ужо ў кастрычніку і пачатку лістапада шмат беларускіх гарадоў было занята шляхтаю і казакамі беларускага палкоўніка: *«Нячай узяў Шклоў, Галоўчын, Новы Быхаў, Барысаў. Падступіўшы пад Магілёў, узяў горад, у замку толькі бароніцца Масква. Шляхце наказвае грамадзіцца пры ім…»* — пісаў 6 лістапада вількамірскі маршалак Ян Мяжэнскі, а маючы на ўвазе зазнаныя ў той час ліцьвінамі няўдачы, дадаваў са смуткам: *«Лепей казакам на Маскве шанцуе, чым нашым»*[37]. Ня трэба было здабываць такіх умацаваных гарадоў, як Стары Быхаў, Чавусы ці Рослаў, паколькі там стаялі казацкія палкі, якія перайшлі на бок Рэчы Паспалітай. У Крычаве тамашнія мяшчане, заахвочаныя лістамі Нячая, выбілі маскоўскую залогу і сталі па ягоным баку. Падобна было ў Мсьціславе, дзе шляхта і мяшчане, пагадзіўшыся з казацкім палкоўнікам Іванам Рытлем, ударылі на царскую залогу і пасьля двух штурмаў пад канец верасьня вызвалілі горад. Пасьля перахопу гораду Рытэль адправіўся ў кірунку Горы-Горак, у якіх асадзіў маскоўскія залогі. Аднак праз некалькі дзён мусіў адступіць, калі надышла дапамога са Смаленску і нанесла яму сур'ёзныя страты[38]. У Полацку ў 1658—1659 г. дайшло да значных хваляваньняў мяшчан і шляхты. Яны былі настолькі небясьпечныя для маскоўскага панаваньня там, што пасьля некалькіх разоў у гэты важны горад былі пасланыя значныя царскія сілы з мэтай пацыфікацыі настрояў. Дайшло там, як і на іншых землях, занятых Масквою, да своеасаблівага раздваеньня на шляхту верную цару і тую, якая адступіла ад яго. У лістападзе 1658 г.

[35] RGADA. F. 144. Op. 2. № 68.
[36] RGADA. F. 144. Op. 2. № 65, 108. S. 34—36; VS. № 49/III. S. 104.
[37] Jan Mierzeński do B. Radziwiłła, Królewiec 6 XI 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 9646/I. S. 103.
[38] Aktykacja atestacji należącej Ichmść Panom Poniatowskim. Kazań, 1662. LVIA. Fond SA. № 2. K. 1221; AMG. T. II. № 1115. S. 654—655; Įóėūā³ķńūźčé A. C. 185; Сагановіч Г. С. 79.

пад Лепелем адбылася сутычка, у якой тая верная шляхта пад камандаваньнем палкоўніка Івана Кісажэўскага і іншых разьбіла падначаленую палкоўнікам К. Лісоўскаму, Ф. Слонскаму і В. Прысецкаму полацкую шляхту, якая выказалася за караля[39].

Акрамя згаданых гарадоў у гэты і пазьнейшы час у рукі казакоў патрапілі і іншыя. Імклівага пагаршэньня настрояў баяліся і ў Смаленску. У канцы верасьня ваколічнай шляхце было загадана зьявіцца з запасамі правіянту ў Смаленск. Прыйшлі туды ротмістар Пётар Сакалінскі, Пётар Галімант Храпавіцкі, Даніэль Гурко, Дзяніс Швяйкоўскі з таварышамі, разам 130 чалавек. Іншыя здрадзілі і паехалі да Нячая, ліст якіх 5 кастрычніка быў пасланы цару. Сабраную ў Смаленску шляхту заахвочвалі да вернай службы Аляксею Міхайлавічу. У імя сабраных яе абвясьціў Сакалінскі і абяцаў помсьціць казакам і бунтаўнікам. Прасіў толькі, каб цар падтрымаў іх пяхотай і коньніцай. Праз кароткі час аддзелы паўстанцаў падышлі пад Смаленск, зь якога шмат шляхты ўцякло ў шэрагі Нячая. А зьвесткі, якія даходзілі, казалі, што аддзелы паўстанцаў намерваюцца стаць у Дасухаве і Красным паблізу Смаленску[40]. На захад ад Бярэзіны шляхта разам з казакамі асадзіла Менск, які быў здабыты ў лістападзе пасьля прыбыцьця рэгулярных літоўскіх войскаў Аляксандра Палубінскага[41]. Ня ўдаўся Нячаю штурм умацаваньняў Магілёва, а 27 кастрычніка 1658 г. ён нават панёс там паразу ад рук царскіх войскаў Грыгорыя Казлоўскага і Сямёна Зьмеева[42].

Вялікі посьпех Нячая асьмеліў літоўскую шляхту да рашучых дзеяньняў. Віленская і ашмянская шляхта ўжо ў кастрычніку далучылася да войскаў гетмана Паўла Сапегі і Вінцэнта Гасеўскага, калі тыя маршыравалі на Вільню[43]. А тая частка абшараў, што былі разьмешчаны далей на ўсход, заклікалася ўнівэрсаламі караля і Нячая злучыцца з войскам казацкага правадыра. Кароль заклікаў усю шляхту, палкоўнікаў, мяшчан і ўсіх тых, хто да вайны служыў польскаму манарху, каб цяпер яны гарнуліся пад камандаваньне Нячая[44]. На каралеўскі бок перайшло шмат палкоўнікаў і ротмістраў, якія калісьці аддаліся службе Маскве. Шмат прымушаных раней прынесьці прысягу цару адказалі на гэтыя заклікі і станавіліся ў шэрагі паспалітага рушаньня. З асаблівою сілаю шляхта выступіла ў Віцебскім ваяводзтве. Тут яна згрупавалася вакол сваіх даўніх палкоўнікаў і ротмістраў. Яна разьлічвала на хуткую падтрымку з боку літоўскіх войскаў і казакоў Нячая. Многія са шляхты, напэўна, як і Нячай, верылі ў хуткае вырашэньне вайны з Расеяй на карысьць Рэчы Паспалітай. Восеньню 1658 г. пра ўсё больш цяжкае становішча расейцаў на Віцебшчыне праінфармаваў цара віцебскі ваявода Н.М. Бабарыкін[45]. У рэгіёны, якім пагражалі шляхецкія і казацкія паўстанцы, расейцы пачалі перакідаць сілы з тэрыторыяў, не ахопленых змаганьнем. Аднак у апошнія месяцы 1658 г. царская камандзіры не былі ў стане мабілізаваць больш сур'ёзных акцый супраць паўстаньня. Іх дзеяньні абмяжоўваліся хутчэй да адбліакаваньня царскіх залогаў ці рэпрэсій супраць насельніцтва з мэтай пацыфікацыі яго бунтаўнічых настрояў. Такая спроба суцішэньня сытуацыі было зроблена восеньню карнай экспэдыцыяй князя Грыгорыя Казлоўскага, якая праходзіла праз Смаленск, Шклоў да Магілёва. З гэтага гораду зь імі павінен быў

[39] Aktykacja atestacji należącej Ichmść Panom Poniatowskim. Kazań, 1662. LVIA. Fond SA. № 2. K. 1221; Сагановіч Г. С. 79; RGADA. F. 144. Op. 2. № 109; Курбатов О. Литовский поход… С. 27.

[40] RGADA. F. 144. Op. 2. №. 110.

[41] Copia listu z Słonimia 4 grudnia 1658. Archiwum Państwowe w Krakowie. Pinocciana IT 363. S. 1211—1212.

[42] Бульвінський А. С. 189.

[43] AMG. T. II. S. 613; VS. S. 90—92; Мальцев А.Н. С. 119; Флория Б.Н. Русско-шведские мирные… С. 58.

[44] Цыт. паводле: Мялешка В. Грамадзянская вайна на Беларусі (1655—1658) // Profesor Henryk Łowmiański — życie i dzieło / Pod red. A. Kijasa i K. Pietkiewicza. Poznań, 1995. S. 151.

[45] Гл.: VS. S. 92—104; AMG. T. II. S. 638—639.

[46] Бульвінський А. С. 188—189; Мялешка В. С. 151—152; Сагановіч Г. С. 80.

супрацоўнічаць тамашні маскоўскі ваявода Сямён Змееў. Па дарозе паходу Казлоўскі заклікаў, каб шляхта памятала пра прысягу і не прыслухоўвалася да заклікаў Нячая. Упартыя мястэчкі ён мусіў паліць і знішчаць[46]. Гэта няшмат чым дапамагло, хоць Казлоўскаму ўдалося дайсьці да Магілёва. У цяжкай бітве, у якой расейцы былі ўжо блізкія да паразы, Казлоўскаму і Змееву ўдалося разьбіць там Нячая і вызваліць царскую залогу ад аблогі. Акрамя гэтых дзеяньняў, у кастрычніку віцебскі ваявода даносіў Аляксею Міхайлавічу, што ў Віцебскім павеце намножылася шмат *«изменников»*, г.зн. здраднікаў, якія сталі пад кіраўніцтвам сваіх палкоўнікаў і злучыліся з *«воровскими»* казакамі. Яны рассылалі свае лісты і ўнівэрсалы, а царскіх людзей па вёсках, мястэчках і на дарогах рабуюць і забіваюць. Робяць гэта і ў дачыненьні да шляхты, якая захоўвае вернасьць цару. Найгоршае было тое, што адступніцтва ахапіла настолькі шырокія шэрагі ліцьвінаў, што ў дадзены момант няма каго зь Віцебску паслаць супраць іх, паколькі складзеныя пераважна зь ліцьвінаў мясцовыя аддзелы перайшлі на бок паўстанцаў: *«У Віцебску коннай шляхты, якая ня здрадзіла, пасьля перапісу, аказалася каля 150 чалавек і панцырных казакоў з 50, а і тых палова пешыя. А іншых тваіх вялікага гасудара конных жаўнераў няма ў Віцебску. Такую малую колькасьць людзей пасылаць супраць тых вараўскіх казакоў я, твой слуга, не асьмельваюся. <...> Павятовыя людзі ўсе адступіліся і далучыліся да вараўскіх казакоў. І абараніць павет ад вараўскіх казакоў няма чым. Яны чыняць вялікія хваляваньні ў павеце і горадзе [у Віцебску. — Аўт.], і ад гэтых вараўскіх казакоў цесната стварылася ва ўсім, не прапускаюць з павету ні з чым, а справіцца зь імі, варамі, няма каму, а іх, вароў, прыбывае»*[47]. У самім горадзе Віцебску прысяглую шляхту бунтаваў шляхціц Ян Юндзіл[48].

Ячшэ да ўзьнікненьня такіх цяжкіх для віцебскага ваяводы ўмоваў, ён здолеў 21 кастрычніка выслаць супраць сходу збунтаванай шляхты войскі зь Віцебску, а таксама шляхту, якая яшчэ не адышла да цара, пад камандаваньнем яе ротмістра Пятра Пабядзінскага. У пэўны час пазьней зноў выслалі войска і шляхту пад тым самым камандаваньнем. Ім удалося засьпець зьнянацку віцебскую і аршанскую шляхту пад ротмістрам Сулікоўскім і казацкім сотнікам Піліпам Пруднікавым, якая стаяла ў мястэчку Нерашы. Начны ўдар разагнаў бунтаўнікоў, якія страцілі шмат амуніцыі і забітых. Была перахоплена таксама вялікая колькасьць лістоў, якія сьведчылі пра іх кантакты з каралём, Нячаем і Выгоўскім, ад якіх спадзяваліся хуткай дапамогі[49]. Была арганізаваная яшчэ пара дробных экспэдыцыяў, але дастаткова хутка ваявода быў вымушаны перайсьці да абароны ў заблякаваным шляхтай і казакамі Віцебску.

На мяжы 1658 і 1659 г. Нячай кантраляваў усходнюю частку Вялікага Княства Літоўскага, а яго войскі ўваходзілі ў маскоўскія землі. Вялікая частка літоўскай і рускай шляхты заставалася вернай цару і брала ўдзел у дзеяньнях ваяводаў зь Віцебску, Смаленску ці Полацку супраць паўстанцаў. А тыя ў сваю чаргу бязьлітасна руйнавалі іх маёнткі, асабліва старшыны. На пачатку 1658 г. цару жаліўся адзін з ротмістраў полацкай шляхты, полацкі стражнік Раман Аскірка, што ён паміраe разам з жонкай і дзецьмі з голаду, а гэта ў выніку таго, што «вараўскія» ліцьвіны зьнішчылі ягоныя ўладаньні, спалілі больш за 80 двароў і прагналі сялянаў. Асабліва вылучыўся ў гэтым Браніслаў Прысецкі, які яшчэ надаўна служыў Маскве, паколькі ягонай маёмасьці ў рамках кампэнсацыі выпрошваў Аскірка. Таксама паручнік ягонай харугвы Крыштап Сьвідэрскі ўзамен за сваю зрабаваную барысаўскую маёмасьць дамагаўся маёнтку полацкай шляхты, якая пакінула цара[50].

[47] Цытую паводле: Мялешка В. С. 152—153.
[48] VS. S. 98—101.
[49] Мялешка В. С. 149—150; VS. S. 90—92.
[50] RGADA. F. 144. Op. 2. № 108. S. 43—50.

Сілы шляхецкіх і казацкіх паўстанцаў былі ў лістападзе павялічаны падмацаваннямі зь літоўскага войска, якія прысылаў Сапега. Прасіў іх Нячай, а таксама каралеўскія камісары для перамоваў з Масквою, якія яшчэ заставаліся ў Літве. Яны ўказвалі на слабасьць сілаў Нячая і на небясьпеку, якая набліжалася да іх у выглядзе арміі Ю. Даўгарукага, які адступаў з-пад Вільні[51]. Кароль чакаў, што гетман скіруецца з большасьцю сваіх сілаў на дапамогу беларускаму палкоўніку, прасіў таксама ў Выгоўскага, каб той прыслаў з Украіны як мага большыя сілы ў Беларусь. Гэта мела на мэце адсунуць як мага далей небясьпеку ад зямель Вялікага Княства Літоўскага[52]. На Віцебшчыну прыбыў толькі палкоўнік Самуль Кміціч на чале дванаццаці харугваў. З гэтым войскам, якое налічвала каля 1000—1300 жаўнераў, яны рабілі далёкія вылазкі ў Смаленшчыну супраць маскоўскіх войскаў[53].

У сьнежні, за выключэньнем умацаванага Віцебску, землі гэтага ваяводзтва кантраляваліся казакамі і аддзеламі шляхты. 24 сьнежня ў Віцебску зьявіўся ў ваяводы Бабарыкіна камандзір маскоўскіх стральцоў Васіль Пушачнікаў. Бабарыкін расказаў яму пра сытуацыю на землях ваяводзтва і ўказаў, дзе стаяць аддзелы бунтаўнікоў. 26 сьнежня Пушачнікаў рушыў туды і схапіў палонных. На падставе іх сьведчаньняў ён здабыў чарговую інфармацыю і паслаў дзьвесьце стральцоў, якія ў розных населеных пунктах засьпелі зьнянацку і разагналі сабраную шляхту і казакоў. Ім удалося таксама лякалізаваць месца пастою Яна Юндзіла, на якога ўскладалі віну за збунтаваньне ваяводзтва. Удалося засьпець зьнянацку яго харугву і разьбіць яе, але Юндзіл уцёк. Ад палонных даведаліся, што супраць аддзелу Пушачнікава ідзе Кміціч з 12 харугвамі сапегаўскага войска, а зь ім — аддзелы Лукомскага, Слонскага, Прысецкага і Лісоўскага. Пачуўшы гэтую навіну, 30 сьнежня Пушачнікаў спаліў вёску Гарадзец, у якой стаяў, і бездаражжу пайшоў у Бешанковічы, бо там хацеў злучыцца з войскам стольніка і ваяводы Восіпа Сукіна, які ішоў у тыя раёны. Аднак яны разьмінуліся, і Пушачнікаў вечарам стаў там лягерам на краі Бешанковіч. Туды яшчэ ў той жа вечар прыйшоў Кміціч і іншыя палкоўнікі. Яны адразу пачалі штурмаваць маскоўскі лягер усю ноч, для чаго выкарысталі апешаных драгуноў. Царскаму камандзіру прапанавалі капітуляваць і пагражалі, калі ня згодзіцца. Аднак расейцы здолелі адбіць усе штурмы, хоць, здаецца, зь вялікай цяжкасьцю. На другі дзень, паводле маскоўскіх данясеньняў, Кміціч запрапанаваў перамовы, на якія Пушачнікаў згадзіўся. Літоўскі палкоўнік выказаў жаданьне спыніць кровапраліцьцё, толькі каб расейцы перасталі спусташаць шляхецкія двары і маёнткі. Указаў, што змаганьні ня маюць сэнсу, бо ўсё ж цар быў выбраны на сойме польскім каралём і вялікім князем літоўскім. Цалкам магчыма, што ён выкарыстаў такі захад, каб толькі адарвацца ад ворага, бо ведаў, што пад Бешанковічы падцягваецца Сукін. Неяк паразумеўшыся, ліцьвіны пачалі адыходзіць, але не пасьпелі. Праз дзьве гадзіны надышоў Сукін, і, злучыўшыся з Пушачнікавым, яшчэ пад Бешанковічамі ўдарылі на праціўніка. Дайшло да зацятых баёў, якія працягваліся да вечара. Яны не прынесьлі посьпеху маскоўскім камандзірам, якія мусілі адвесьці войскі ў лягер і там лічыць страты. Посьпеху, хоць і ня надта поўнага, дасягнуў Кміціч. Ён не дазволіў сябе разьбіць аб'яднаным маскоўскім сілам, і гэта яны мусілі сысьці з поля бітвы. Літоўскі палкоўнік не працягваў змаганьняў, але яшчэ ў той жа вечар адышоў на адлегласьць каля 12 км, адрываючыся гэтак ад непрыяцеля. Расейцы намерваліся ісьці ў Лукомль, але, маючы некалькі соцень чала-

[51] Komisarze do Jana Kazimierza (też do M. Prażmowskiego, J. K. Krasińskiego), Beździeż 28 XII 1658. AGAD. AKW. Dz. ros. № 55c/32.

[52] Jan Kazimierz do komisarzy, pod Toruniem 12 XII 1658. BCzart. 387. S. 167; Senatus Consultum. Pod Toruniem 12 XI 1658. BCzart. 401. S. 150.

[53] AMG. T. II. № 1083. S. 638. № 1123. S. 657; Wasilewski T. Kmicic Samuel // PSB. T. XIII/1. S. 81.

век і мала пораху, баяліся. Урэшце яны павярнуліся ў бок Смаленску[54]. Поспех Кміціча і беларускіх паўстанцаў, напэўна, дадаткова заахвоціў насельніцтва Віцебшчыны да супрацiву і даваў надзеі на прагнаньне Масквы. Аднак хутка было заўважана, што зь Літвы не прыбываюць значныя падмацаваньні, затое няспынна ўзрастаў напор царскіх войскаў.

Пад канец 1658 г. большасьць сілаў літоўскага правага крыла была задзейнічаная ў змаганьні супраць маскоўскіх войскаў, падтрымліваючы паўстанцаў. На Меншчыне дзейнічаў Палубінскі на чале палка, які налічваў каля 3 тыс. чалавек. У Полацкім ваяводзтве пасьля здабыцьця штурмам Глыбокага заставаўся з корпусам на пару тысяч Уладыслаў Валовіч, недалёка ад Барысава засяроджваліся войскі, у тым ліку і прыватныя П. Сапегі, прысланыя зь яго крэпасьці ў Ляхавічах, якія пад камандаваньнем палкоўніка Самуля Аскіркі мусілі ісьці на дапамогу Нячаю[55]. З Украіны разам з 2 тыс. казакоў прыбыў Самуль Выгоўскі, брат гетмана[56].

Масква не намервалася згаджацца з такім нявыгадным для яе разьвіцьцём падзеяў. Першым этапам іх расправы з Рэччу Паспалітай мусіў быць разгром беларускіх паўстанцаў і скіданьне Выгоўскага ва Украіне. Стрыманьне вайны са Швэцыяй дазволіла ім з Інфлянтаў сьцягнуць дасьведчаныя аддзелы да гэтых зямель. Ужо ў лістападзе на Бярэзіне ў раёне Барысава і на Дняпры ў раёне Шклова зьявілася армія Даўгарукага, якая зь Вільні разам з палоннымі з-пад Верак перамяшчалася на ўсход. Яна асадзіла Чавусы, але праз абсалютнае спусташэньне гэтых зямель і адсутнасьць правіянту мусіла, насуперак загаду цара, зьгарнуць аблогу і рушыць да Смаленску[57]. У студзені са зьменным посьпехам пацыфікацыйныя дзеяньні распачалі гарнізоны Віцебску і Смаленску. Затое ў Полацку не было ніякіх конных маскоўскіх жаўнераў. Там стаяла толькі 70 коньнікаў зь мясцовай шляхты і казакоў у харугве Рамана Аскіркі і 60 у Гаўрылы Гаслаўскага. Таму не было як адбіваць няспынныя атакі пад Полацак літоўскіх аддзелаў з корпусу Валовіча, якія беспакарана забіралі адтуль усякія харчы. Можна было пасылаць супраць іх людзей Аскіркі і Гаслаўскага, аднак гэта рабілася вельмі неахвотна, бо гэтых людзей было мала, да таго ж баяліся за іхнюю вернасьць[58].

У той час на Смаленшчыне ўжо сфармавалі армію, якая пад камандаваньнем ваколічнага ваяводы, князя Івана Іванавіча Лабанова-Растоўскага мусіла зьнішчыць паўстанцаў. Яшчэ ў кастрычніку, каб падбадзёрыць афіцэраў да цяжкой вайны, цар пачаў шчодра ўзнагароджваць тых, хто павінен быў ваяваць на Дзьвіне і верхнім Дняпры. Узнагародай былі двары і шырокія маёнткі збунтаванай шляхты. Лабаноў-Растоўскі атрымаў 100 двароў, князь Грыгорый Казлоўскі — 70, Сямён Зьмееў — 70, іншыя — крыху менш. Ротмістрам, маёрам, камандзірам стралецкіх палкоў прызначалася па 20 двароў, а простых жаўнераў іх камандзіры мусілі ўзнагародзіць на сваё меркаваньне[59].

У студзені 1659 г. маскоўская навала рушыла на беларускія і літоўскія землі. Казацкія войскі зазналі шэраг паразаў, не пазьбег яе таксама Самуль Кміціч. Па праўдзе, яму спачатку ўдалося разьбіць Восіпа Сукіна, які ішоў зноў у гэтыя краі на чале значных

[54] VS. № 47. S. 98—101.

[55] VS. № 46. S. 94; AMG. T. II. № 1123. S. 657—658; Мялешка В. Грамадзянская вайна на Беларусі (1655—1658) // Profesor Henryk Łowmiański — życie i dzieło / Pod red. A. Kijasa i K. Pietkiewicza. Poznań, 1995. S. 153.

[56] Сагановіч Г. С. 80.

[57] AMG. T. II. № 1035. S. 615.

[58] VS. № 49/I. S. 102—103.

[59] Тамсама. № 1061. S. 627—628; RGADA. Fond 144. Op. 2. № 108. S. 1—2.

сілаў, і замкнуць яго ў акапаным лягеры, хутчэй за ўсё, у ваколіцах Лукомля. Аточаны царскі камандзір пачаў адпраўляць да Кміціча пасланцоў. Як потым абураўся Багуслаў Радзівіл, які проста абвінавачваў Кміціча ў здрадзе, ён дазволіў сябе падмануць царскаму вайскаводцу, які пачаў яму тлумачыць, што цар паслаў яго сюды ня супраць літоўскіх войскаў, але каб зьнішчаць непаслухмяных царскіх падданых, у тым ліку шляхецкіх. На працягу некалькіх дзён перамоваў у ліцьвінаў прытупілася чуйнасьць, якія беспарадкава расклаліся па ваколіцы. Зваважыўшы гэта, а напэўна, і дачакаўшыся падмацаваньняў ад Лабанова-Растоўскага, Сукін 10 кастрычніка неспадзявана ўдарыў на літоўскія харугвы, якія стаялі ў Лукомлі і ваколіцы, і на павятовыя аршанскія, полацкія і віцебскія. Ня здолеўшы вытрымаць націску, ліцьвіны адступілі пад Бярэзіну. З аддзелу Кміціча, які налічваў 1200 чалавек, удалося ўратавацца ледзьве 200 жаўнерам. Пасьля гэтага посьпеху маскалі распачалі страшэнныя рэпрэсіі на занятых землях, выразаючы пад корань шляхту і рускіх сялянаў. А Сапега пачаў заклікаць Аскірку злучыцца з рэшткамі аддзелаў Кміціча і сьцерагчы пераправы на Бярэзіне. Аднак гэты палкоўнік меў пэўныя клопаты са зборам усіх сваіх людзей, паколькі ў гэты час нават некаторых зь яго ротмістраў выклікалі на гетманскія суды за рабункі, учыненыя ў шляхецкіх уладаньнях, якія знаходзіліся ў ваколіцах іх пастою[60]. У апошні дзень студзеня ўважлівы назіральнік гэтых падзеяў Казімер Клакоцкі паведамляў са Слуцку: *«Масква разьбіла Кміціча, Нячаю таксама падрэзала крылы, так што цяпер толькі ў Быхаве сядзіць. Шляхта ўцякае адтуль да Масквы»*[61]. На подступах Мсьціслава доўгі час абараняўся казак Іван Рытэль, які здолеў нават асачыць частку маскоўскіх сілаў, пакуль іх не адблякавалі новыя мацнейшыя маскоўскія аддзелы, якія прыбывалі. Гэтыя войскі потым разьбілі ў полі збунтаваную мсьціслаўскую шляхту і казакоў, якія адступілі ў Мсьціслаў і закрыліся ў яго ўмацаваньнях[62]. У выніку гэтых першых змаганьняў пад маскоўскай аблогай ужо ў лютым апынуліся Мсьціслаў і Крычаў[63].

Расейскі наступ рушыў таксама з боку Полацку, кіруючыся на Біржы і Навагрудак. Войскамі камандавалі ваяводы Афанасій Лаўрэнцевіч Ардзін-Нашчокін і Іван Андрэевіч Хаванскі. Яны адразу дасягнулі вялікіх посьпехаў. Мясцовая шляхта, устрывожаная наездам, пачала прысягаць цару. 8 лютага Хаванскі дагнаў пад Мядзелам корпус пад камандаваньнем віцебскага ваяводы Ўладыслава Валовіча, які ажаніўся некалькі дзён раней, і мальтыйскага кавалера Мікалая Юдыцкага. Абодва гэтыя камандзіры крыху раней аб'ядналі свае сілы, паколькі Юдыцкі прыбыў пад Мядзел зь Іказьні, а Валовіч — з Глыбокага. З моманту сустрэчы яны ўпарта сварыліся наконт камандаваньня войскам. Моцны корпус, які налічваў 58 харугваў, у выніку атрымаў жахлівае кіраўніцтва, а ў дадатак жаўнеры патрабавалі выплаты пратэрмінаванага жолду, пагражаючы проста перайсьці на бок цара. Бітва адбылася на замерзлым возеры Нарач. І хоць ліцьвіны мелі амаль двухразовую колькасную перавагу, бітва закончылася іх поўнай паразай. У пэўны момант з шэрагаў пачало ўцякаць некалькі літоўскіх харугваў, паніка якіх перадалася рэшце войска. Бітва закончылася іх масавай рэтырадай з поля бою, доўгай маскоўскай пагоняй і расьсеяньнем войскаў Валовіча і Юдыцкага[64].

[60] Paragraf z Listu, b.m.d. (I—II 1659). NBU. Fond 1. № 5983. S. 224; B. Radziwiłł do K. Paca, b.m.d (II 1659), NGAB. Fond 1503. Op. 1. K. 65; S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Sielce 20 I 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 12561. S. 18; H. Kieniewicz do B. Radziwiłła, Słonim 10 III 1659. Тамсама. № 6681. S. 1; AVAK. T. XXXIV. S. 169.

[61] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 31 I 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 72.

[62] AMG. T. II. № 1115. S. 654—655.

[63] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 18 II 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 79.

[64] Тамсама. S. 78; K. Pac do B. Radziwiłła, z Wilkowiszek 15 II 1659. Тамсама. № 11208/I. S. 97; ліст ад 19 II. S. 101; VS. № 49/V. S. 107, 110.

Разьбітыя літоўскія харугвы пераможная Масква гнала аж за Нёман да Наваградку. Яна заняла Вількамірскі, Браслаўскі і Ашмянскі паветы, заняла Браслаў і Ікаzьнь, а ў далейшыя бакі былі высланы зьнішчальныя разьезды, якія руйнавалі Менскі і Наваградзкі паветы, наводзячы жах на тамтэйшую шляхту і войска, якія ў паніцы пакідалі цяпер гэтыя землі. Яны былі настолькі спустошаныя, што тыя, хто выжыў, гінулі з голаду. Шляхту ж прымушалі прысягнуць на вернасьць цару, а шмат значных грамадзян загналі ў няволю[65].

З сапраўднай трывогай разумелі, што разьбітыя пад Мядзелам войскі ўжо не маглі супрацьстаяць ворагу, а выручаліся толькі ў прыгняценьні ўласнага насельніцтва. Хоць сапраўды радавалі зьвесткі з Украіны пра посьпехі Выгоўскага ў змаганьні з расейцамі, але яны бляклі на фоне данясеньняў шпегаў са Смаленску пра марш у літоўскія краі новай маскоўскай арміі. На шчасьце, пад канец лютага Хаванскі вярнуўся ў Полацак, а адтуль скіраваўся ў Маскву, дзе за яго перамогі Аляксей Міхайлавіч абсыпаў яго адзнакамі пашаны, адарыў тытулам баярына і ганаровым тытулам вяцкага намесьніка. На кірунку, бліжэйшым да Курляндыі і Біржаў, маскоўскія войскі Нашчокіна таксама маглі пахваліцца значнымі посьпехамі. Маскоўскаму войску, якое скіроўвалася ў напрамку Вількаміру, павінен быў перагарадзіць шлях спадчынны замак маршалка Тэафіла Раецкага ў Чадосах. Аднак, калі яго камэндант пачуў пра набліжэньне ворага і некалькі дзён дарэмна чакаў прыбыцьця дапамогі, ён у паніцы пакінуў дараваны яму пункт супраціву. Пасьля яго заняцьця маскалі мелі адкрыты шлях у кірунку Вількаміру, Біржаў і далейшай Жамойці[66].

Блізкую да катастрофы сытуацыю ўратавала сьцягнутая з Курляндыі дывізія левага крыла, якою камандаваў рэгімэнтар, палкоўнік Самуль Камароўскі. Адпраўляючыся ў выправу, ён заклікаў сядаць на коней жамойцкую шляхту, каб яна засланіла Жамойць і каб *«не давала ўпасьці схіленым да згубы паветам»*, г.зн. каб сваёй дапамогай стрымала шляхту, якая апынулася пад пагрозай маскоўскага нашэсьця, ад прынясеньня прысягі цару[67]. Разам з сабранымі недабіткамі і рэшткамі паспалітага рушаньня ён ударыў 12 сакавіка на Нашчокіна і асадзіў яго ў Чадосах. Двухмесячнае змаганьне прывяло да выгнаньня расейцаў з умацаваных імі табараў у Чадоскі замак, якога, аднак, не ўдалося здабыць. Затое перапалоханыя вількамірскія грамадзяне былі стрыманыя ад прысяганьня цару[68]. Пад канец красавіка Камароўскі атрымаў каралеўскія лісты, якія загадвалі яму як мага хутчэй перарваць аблогу Чадосаў і вырушыць супраць швэдзкага фэльдмаршала Робэрта Дугласа, які распачаў збройныя дзеяньні ў Курляндыі, даходзячы да самай Жамойці. Наладжаныя перамовы прывялі да таго, што ў траўні 1659 г. Камароўскі і Нашчокін згадзіліся ўкласьці замірэньне [*armistitium*], якое мусіла абавязваць паміж імі да пачатку жніўня з магчымасьцю працягу, калі б у гэты час не дайшло да заключэньня генэральнага замірэньня паміж Масквой і Рэччу Паспалітай[69].

[65] AOZR. T. V. № 505. S. 105.

[66] S. Komorowski do B. Radziwiłła, pod Zagorami 23 II 1659. Тамсама. № 7060. S. 11; Instructia od nas obywatelów Ziemie Inflant... Posłom od nas na Seym Walny Sześcioniedzielny w Warszawie w Roku teraźniejszym 1659 d. 17 Marcy zaczynający się wyprawionym. NBU. Fond 1. № 5983. K. 216v—217.

[67] S. Komorowski do szlachty żmudzkiej, w obozie pod Zagorami 11 II 1659. Ks. Gr. Żmudzka 1659. VUB. F. 7—19/14471. K. 155—155v.

[68] S. Komorowski do B. Radziwiłła, z obozu pod Czadosami 12 III 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 7060. S. 15.

[69] Poczobut Odlanicki. S. 43, 126. Jan Kazimierz do S. Komorowskiego. Warszawa 15 IV 1659. NBU. Fond 1. № 5983. K. 42; K. Pac do B. Radziwiłła, Warszawa 12 VII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 11208/I. S. 118; S. Komorowski do B. Radziwiłła, pod Sakin Mujzą 24 VII 1660. Тамсама. № 7060. S. 36.

Не ўдалася таксама аблога Коўна, хоць шляхта стаяла пад ім яшчэ ў сярэдзіне 1659 г. Міну, якую ў студзені зь вялікай цяжкасьцю заклалі пад муры замку, падарвалі, абараняючыя, маскоўскія жаўнеры, якія своечасова разабраліся ў прыгатаваньнях ліцьвінаў. Акрамя таго, праз тры гадзіны быў зроблены штурм. Ён закончыўся паразай і стратай 50 забітых і стольких жа параненых. Хутчэй за ўсё, няўдалым літоўскім ваяводам быў ротмістар Канстанцін Быкоўскі-Мордас, які прыбыў з сотняй вугорскай пяхоты падтрымліваць шляхту ў блякадзе замку. Ён страціў шмат людзей, а сам быў паранены. Заключанае Камароўскім замірэньне з Нашчокіным забясьпечыла мір жамойцкай, вількамірскай і упіцкай шляхце ад царскіх залогаў з Коўна і Вільні. Аднак ім нядоўга цешыліся, паколькі ў пачатку чэрвеня дайшло да новых хваляваньняў. Насамрэч, ніхто ня ведаў, ці іх прычына — гэта вылазкі царскіх жаўнераў, ці яна знаходзіцца на баку ліцьвінаў. Ва ўсякім разе Камароўскі зноў заклікаў шляхту сабрацца і пільнаваць бясьпеку сваіх паветаў[69]. Адзіным праблескам у сэрыі чарговых паразаў было вяртаньне асаджанай зь верасьня 1658 г. шляхтай і харугвамі літоўскага войска Горадні. Ня столькі здабытая, колькі змораная голадам, яна была здадзеная ваяводам Багданам Апрэлевым гетману П. Сапегу 19 сакавіка 1659 г. Залозе дазволілі адысьці разам з гарматай у Барысаў. Гэты посьпех ушанавалі сьпевам у Варшаве ўрачыстага *«Te Deum laudamus»* [«Цябе, Божа, хвалім». — *Заўв. перакл.*][70].

Маскалі хутка адмовіліся ад аперацыі ў жамойцкім кірунку. Свае галоўныя намаганьні яны скіравалі на ўтаймаваньне казакоў у Беларусі і Украіне, перакідаючы нават войскі зь Дзьвіны праз Смаленск пад Стары Быхаў, дзе працягваліся зацятыя змаганьні са шляхтай і казакамі Івана Нячая[71]. Цяжка не паддацца ўражаньню, што іх зімовая атака на Жамойць і Наваградчыну мела на мэце, акрамя магчымай падтрымкі царскіх залогаў у блякаваных нёманскіх гарадах, перашкодзіць літоўскім войскам у аказаньні больш значнай дапамогі казацкім паўстанцам на Дняпры і Бярэзіне.

Дасягнуўшы гэтай мэты, камандзіры цара ўзяліся за канчатковую ліквідацыю паўстаньня ў Беларусі. У сакавіку яны рушылі ў чарговы імклівы наступ з розных бакоў на тэрыторыі, якія заставаліся ў руках Нячая. Галоўнымі сіламі, якія ішлі на землі Мсьціслаўскага ваяводзтва, камандаваў Іван Іванавіч Лабаноў-Растоўскі. Яшчэ раз былі разьбітыя ў полі казацкія войскі Нячая і Самуля Выгоўскага, а таксама мсьціслаўская шляхта і аддзелы Самуля Аскіркі, якія падтрымлівалі яе[72]. У выніку гэтага расейцы зрабілі 10 сакавіка сур'ёзныя намаганьні з мэтай здабыцьця Мсьціслава, які абаранялі казакі пад камандаваньнем Івана Рытля. Яны распачалі таксама аблогу Рослава. Царскія камандзіры спрабавалі схіліць Рослаў здацца шляхам перамоваў. Аднак абаронцы адказалі, што аддадуць горад тады, калі войскам цара паддадуцца Мсьціслаў і Крычаў. У крытычны момант у горад прыбыў з забесьпячэньнем Самуль Выгоўскі, які падбадзёрыў абаронцаў і схіліў іх прысягнуць на вернасьць польскаму каралю[73].

У сувязі з такімі вялікімі посьпехамі расейцаў і ростам небясьпекі літоўскія ваяводы вырашылі злучыць свае сілы і разам пайсьці супраць маскалёў, якія штурмавалі Мсьціслаў. Напэўна, у пачатку сакавіка ў Крычаве сабраліся казацкія сілы І. Нячая, а таксама літоўскія і шляхецкія войскі С. Аскіркі і С. Кміціча. Падмацаваў іх аддзел Дзяніса Мурашкі. Даходзіла да шматлікіх сутычак з царскімі войскамі, якія ста-

[70] Pietrowicz Juriew do B. Radziwiłła, Kowno 18 VI 1659. Тамсама. № 6208; Paragraf z listu b.m.d. [I—pocz. II 1659]. NBU. F. 1. № 5983. S. 224; S. Komorowski do szlachty żmudzkiej, pod Płotelami 10 VI 1659. Ks. Gr. Żmudzka 1659. VUB. F. 7—19/14471. K. 293—293v; Laudum szlachy kowieńskiej, Kowno 29 I 1659. Тамсама. AMG. T. III. № 37. S. 41—44; Chrapowicki. S. 189—190.

[71] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 6 V 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 96.

[72] S. Oskierka do B. Radziwiłła, Słuck 28 VII 1659; Тамсама. № 11013. S. 16; AMG. T. II. № 1123. S. 657.

[73] AMG. T. II. № 1125. S. 658—659.

ялі пад Мсьціславам. Генэральная спроба вызваленьня Мсьціслава, якая закончылася бітвай пад гэтым горадам, была зроблена 21 сакавіка. Паводле сьведчаньня літоўскіх палонных, схопленых падчас гэтых змаганьняў, аб'яднаныя казацка-літоўскія войскі налічвалі каля 6 тыс. жаўнераў, у тым ліку 1000 чалавек Аскіркі і 1000 Кміціча. Аднак яны былі цалкам разьбітыя маскоўскімі войскамі. Была страчана ўся пяхота, а нешматлікія ўцалелыя рэшткі гэтых войскаў адступілі разам зь Нячаем да Старога Быхава, а Кміціч і Аскірка адступілі на захад Літвы. Пераможныя царскія войскі ў пагоні дайшлі пад Крычаў, дзе, напэўна, засьпелі зьнянацку абаронцаў і прынесьлі ім пэўныя страты[74]. На ўсход ад Дняпра засталіся тры гарады, укамплектаваныя казакамі, якія надалей супраціўляліся расейцам. Гэта былі Мсьціслаў, Рослаў і Крычаў. У полі яшчэ досыць доўга дзейнічалі разрозьненыя аддзелы, якія, аднак, паступова ліквідоўваліся маскалямі дзякуючы іх перавазе. Пры гэтым аднаўляліся спробы аказаць дапамогу асаджаным гарадам. Аднак бяз посьпеху, маскоўская перавага над аддзеламі шляхты і казакоў, якая нарастала з тыдня на тыдзень, была прыгнятальнай.

Няспыннае пагаршэньне становішча казакоў зусім не азначала, што яны дазволілі адсунуць сябе да поўнай абароны. Акрамя зацятай абароны гарадоў, яны рабілі шырокамаштабныя палявыя дзеяньні. Вясной 1659 г., паводле словаў Аляксея Міхайлавіча, у вялікай небясьпецы ад казацкіх і шляхецкіх войскаў Нячая надалей заставаліся такія гарады, іх залогі і ваколіцы, як Смаленск, Пуціўль, Віцебск, Полацак, Магілёў, Ворша, Шклоў, Барысаў. З гэтай прычыны строга загадаў іх ваяводам, каб яны стала знаходзіліся ў гэтых гарадах і клапаціліся аб іх бясьпецы[75]. Аднак дзеяньні разрозьненых нерэгулярных паўстанскіх аддзелаў на такой шырокай тэрыторыі не былі ў стане ўраўнаважыць перавагу маскоўскіх войскаў, якая вынікала зь іх баявога досьведу, узбраеньня і дысцыпліны. Таму паволі, але няспынна сілы паўстанцаў вычэрпваліся, а маскоўскія ўзрасталі. Адпаведна малела і тэрыторыя, занятая войскамі Нячая. 17 красавіка Маскве здаўся Мсьціслаў, а яго вайскаводца І. Рытэль здолеў уцячы. Хутка пасьля яго ўпаў Крычаў, пачуўшы пра здабычу Мсьціслава[76]. 20 траўня князь Аляксей Баратынскі разьбіў пад Рославам казакоў Нячая і мсьціслаўскую шляхту, якая яшчэ змагалася. Рэшткі гэтых аддзелаў уключылі ў царскую службу і ў пазьнейшы пэрыяд іх называлі «рытлёўцамі». Таксама шмат шляхецкіх і казацкіх вайскаводцаў страчвала веру ў далейшы сэнс змаганьня і вярталася на маскоўскую службу[77].

Супраціў паўстанцаў быў зламаны практычна ў траўні, але пацыфікацыя беларускіх зямель працягвалася на пару месяцаў даўжэй. Яшчэ 19 ліпеня дайшло да сутычкі войскаў ваяводы Лабанова-Растоўскага з казацкімі войскамі пад Почапам, у якой апошнія панесьлі паразу, але замкнёныя ў тым горадзе надалей чакалі дапамогі з Украіны[78]. Тыя разьбітыя аддзелы казакоў і шляхты, якія намерваліся надалей змагацца, сьцякаліся ў бок наймацнейшай на тых землях фартэцыі, якой быў Стары Быхаў. У яе валах сабралося каля 4 тыс. абаронцаў, якімі камандаваў Нячай. Там быў замкнёны таксама брат Івана Выгоўскага — Самуль. Адтуль ішлі няспынныя просьбы аб дапамозе, скіра-

---

[74] S. Oskierka do B. Radziwiłła, Słuck 28 VII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 11013. S. 16; Aktykacja atestacji należącej Ichmść Panom Poniatowskim. Kazań, 1662. LVIA. Fond S.A. № 2. K. 1221; AMG. T. II. № 1120. S. 657. № 1123. S. 657—658. T. III. № 166. S. 150; Мальцев А.Н. С. 120.

[75] AJZR. T. XV. S. 325—326.

[76] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci / Opr. E. Galos i F. Mincer.Wrocław, 1968. S. 283—284; K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 28 V 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 99.

[77] AMG. T. II. № 1132. S. 662; Сагановіч Г. С. 81.

[78] S. Skarbek do B. Radziwiłła, Kopyś 12 VIII 1661. AGAD. AR. Dz. V. № 14423. S. 41; AMG. T. II. № 1152. S. 675—676.

ваньня як запароскаму гетману Івану Выгоўскаму, так і літоўскаму гетману Паўлу Сапегу і польскаму каралю. З траўня пад гэтую фартэцыю падыходзілі маскоўскія войскі, якія ўвесь час сьцягваліся для гэтага з Полацку і Віцебску ў Смаленск як месца іх мабілізацыі перад маршам на Стары Быхаў[79]. Некаторыя казацкія аддзелы разам зь літоўскімі харугвамі адступалі на захад, у глыб Літвы, як напрыклад Д. Мурашкі ці палкоўніка Філона Будкевіча. Яны бралі ўдзел у пазьнейшых змаганьнях.

Адначасова з гэтымі дзеяньнямі маскоўскія войскі зламалі супраціў шляхты на землях Віцебскага і Полацкага ваяводзтваў. Тут змагаліся зь лятучымі шляхецкімі і казацкімі аддзеламі пры дапамозе карных экспэдыцый. Яны цалкам зьнішчалі край з мэтай пазбавіць падставаў існаваньня і падтрымкі тамтэйшых паўстанцаў. Злоўленых «*изменников*» і «*воров*» забіралі ў няволю, вешалі, лупцавалі або адпускалі на свабоду, адрэзаўшы вушы[80]. Пры дапамозе такіх мэтадаў і звыклай вайсковай переваги да канца вясны 1659 г. расейцы здолелі пацыфікаваць гэтыя землі.

Зьдзейсьніўшы разгром паўстанцаў, маскоўскія войскі спынілі на землях Вялікага Княства Літоўскага свой марш з усходу на поўнач. Яны дасягнулі там пастаўленых перад імі задач. Цяжар змаганьняў для царскіх войскаў перамясьціўся пасьля гэтага посьпеху на Украіну, якая была галоўнай мэтай маскоўскіх дзеяньняў, дзеля чаго было ахвяравана інфлянцкімі справамі. Там позьняй вясной і раньнім летам Масква бралася за генэральную расправу з Выгоўскім і адводзіла сваю ўвагу ў тым кірунку, а за ёй і большасьць аддзелаў, якія дагэтуль падаўлялі бунтаўнічы пад'ём у Беларусі.

Летам 1659 г. у Літве маскалі зноў уперліся ў Бярэзіну, час ад часу нападаючы на землі, разьмешчаныя на захад ад яе. На поўначы яны ўкамплектавалі заняты імі ж Браслаўскі павет, захапілі таксама замак у Чадосах, стала пагражаючы зь яго блізкай Жамойці. Асабліва небясьпечныя былі іх моцна высунутыя залогі ў Вільні і Коўне. Яны стваралі сур'ёзную пагрозу ў выпадку ўзмацненьня іх падмацаваньнямі зь не такіх далёкіх зямель на Дзьвіне, занятых Масквой. Пільнаваньнем гэтых залогаў заняўся сам Сапега. Тымі харугвамі, што засталіся яму летам, падмацаванымі шляхецкім паспалітым рушаньнем, ён укамплектаваў усе шляхі, якія вялі да гэтых фартэцый. Удалося таксама адбіць замак у Троках, у які ён увёў 200 жаўнераў. За праяўленую энэргічнасьць і стараннасьць у пчыльным заблякаваньні Вільні і Коўна ён атрымаў удзячную пахвалу караля. Дакучлівай праблемай быў недахоп правіянту і ваеннай амуніцыі, што асабліва прыгнятала пяхоту ў Троках. Таму, поруч з раздаваньнем пахвалаў, Ян Казімер хадайнічаў перад адміністратарам літоўскага скарбу Адамам Мацеем Саковічам, каб той дзейсна заняўся аправізацыяй згаладнелых жаўнераў, а таксама паклапаціўся аб літоўскай артылерыі, пра жахлівы стан якой Сапега часта нагадваў каралю[81]. У кожным разе летам і раньняй вясной 1659 г. на рэштках свабодных літоўскіх зямель настаў пэрыяд часовага міру — *alta pax*, як пісаў літоўскі канцлер Крыштап Пац. Маскоўскія войскі ўзяліся за змаганьні ва Украіне. Зьвесткі пра вялікія посьпехі Выгоўскага, якія прыходзілі адтуль, дазвалялі каралеўскаму двару верыць, што ён можа ўтрымацца нават на працягу доўгага часу[82]. Садзейнічаньне

[79] Паводле "Магілёўскай хронікі", на Стары Быхаў вясной 1659 пайшлі праз Магілёў войскі Даўгарукага, Лабанова і Сямёна Данілавіч Зьмеева. Апошні рушыў з-пад Воршы, гл.: Полное собрание русских летописей. Москва, 1980. Т. XXXV. С. 242; AJZR. T. XV. S. 326; K. Kłokocki, W. Huryn do B. Radziwiłła, Słuck 6 V 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 96; Бульвінський. А.С. 207.

[80] AMG. T. III. № 45. S. 51.

[81] Jan Kazimierz do A.M. Sakowicza, Warszawa 3 VIII 1659. LvNB. F. 103. № 1710; ліст ад 4 VIII. № 1711.

[82] K. Pac do B. Radziwiłła, Warszawa 16 VIII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 11209/I. S. 147; Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Warszawa 20 VIII 1659. Тамсама. № 1712.

царскіх войскаў ва Ўкраіне ў другой палове 1659 г. не абмінула ўвагі каралеўскага двара. Быў заўважаны таксама іх адыход зь беларускіх зямель, што, як зь перабольшаньнем сьцьвярджалі, *«аж да самага Смаленску свабодны кожнаму праезд»*. З гэтай прычыны пад канец жніўня кароль няспынна заахвочваў Сапегу да напружаных дзеяньняў з мэтай адбіць Вільню, але ў першую чаргу — Коўна. Гэты апошні горад быў асабліва важны для манарха, паколькі яго здабыцьцё дазволіла б разблякаваць водны шлях па Нёмне. Разьлічвалася на аднаўленьне гандлёвага руху па гэтай рацэ, які б з падаткаў падмацаваў дзяржаўны бюджэт. А грошы былі патрэбныя неадкладна, бо настроі ў войску праз іх адсутнасьць станавіліся з кожным днём усё горшымі[83].

Незадавальненьне хоць часткі асноўных патрабаваньняў жаўнераў пагражала нават іх бунтам і разыходжаньнем. У выпадку распачацьця дзеяньняў з боку маскоўскіх войскаў гэта пакінула б рэшткі Вялікага Княства Літоўскага ня мяжы поўнай катастрофы. Суцішэньне хваляваньняў у літоўскай арміі, асабліва ў гетманскім правым крыле, схіленьне іх да далейшай службы і ўратаваньне Старога Быхава, здабыцьцё для жаўнераў грошай хоць на частку жолду — усё гэта стала летам і восеньню 1659 г. галоўнай мэтай каралеўскага двара.

[83] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Warszawa 30 VIII 1659. Тамсама. № 1718.

# III. Выправа Яна Сасноўскага пад Стары Быхаў. Праблемы літоўскай арміі летам — восеньню 1659 году

Дасягнутая позьняй вясной 1659 г. часовая стабілізацыя на фронце ваенных змаганьняў зноў выявіла зь вялікай сілай праблему незадавальненьня літоўскіх жаўнераў службай. Ужо ў пэрыяд посьпехаў з канца 1658 г. і пазьнейшых паразаў зь першых месяцаў 1659 г., якія выпалі на долю літоўскіх войскаў правага крыла, асабліва непакоіла, акрамя старых праблемаў з запазычанасьцю ў выплаце жолду, нарастаньне сварак паміж Сапегам і колам вышэйшых афіцэраў у ягоным крыле. Шмат зь іх (Міхал Казімер Радзівіл, Аляксандар Гіляры Палубінскі, Зыгмунт Слушка, Мікалай Уладыслаў Юдыцкі, Міхал Абуховіч) вясной 1659 г. проста адмовілася ад службы пад гетманам, заяўляючы пра жаданьне перайсьці ў дывізію левага крыла, а нават у новую дывізію, якую мусіў бы пры дазволе караля ўтварыць Палубінскі. Іх паводзінамі кіравалі розныя матывы, якіх мы ня можам да канца зразумець. У кожным разе гэтыя афіцэры адчувалі ціхую падтрымку Яна Казімера, дачыненьні якога з Сапегам былі далёкімі ад ідэальных. Да вострай сутычкі на гэтай глебе караля і Сапегі дайшло пад канец нарадаў сойму, у траўні 1659 г. У выніку жорсткай пазыцыі Сапегі, ужо раней раззлаванага цяжкасьцямі, якія стваралі яму на сойме са зваротам выдадзеных ім грошай на войска, кароль мусіў адмовіць збунтаваным афіцэрам правага крыла ў сваёй адкрытай падтрымцы. Тым больш, што ў той час вялікі літоўскі гетман праз адданага яму Самуля Кміціча цьвёрда запатрабаваў, каб Ян Казімер іх не падтрымліваў, пагражаючы ў адваротным выпадку бунтам сваіх войскаў. Прыщіснуты да сьцяны манарх мусіў з гэтым згадзіцца. Каралеўскія пляны аслабленьня пазыцыі гетмана былі разбураныя, у дадатак яшчэ мацней распаліліся іх узаемная нянавісьць, а расчараваныя афіцэры мусілі вярнуцца ў Літву і зноў падпарадкавацца Сапегу. Згаданыя канфлікты, якія адбываліся паміж імі зімой і вясной, напэўна паўплывалі на запавольваньні пасьля паразаў у Беларусі і пад Мядзелам энэргіі літоўскіх дзеяньняў. Гэта датычыла і корпусу Палубінскага, які ў прынцыпе не панёс паразаў. Ягоныя жаўнеры пачалі дамагацца пратэрмінаванага жолду, нечакана ахвоту да змаганьня пачаў страчваць моцна ўблытаны ў канфлікт з гетманам і абвінавачаны ім у бунтаваньні войска сам палявы пісар, і ён даваў знаць, што намераны адступіць ад актыўных дзеяньняў. Гэта выклікала сур'ёзны непакой як у гетмана, так і ў Яна Казімера, паколькі ў пэрыяд разгараньня змаганьняў з Масквой на Дзьвіне і верхнім Дняпры адмова ад службы такога добрага жаўнера, якім быў палявы пісар, і падтрымка хваляваньняў, што зьяўляліся сярод ягоных людзей, былі вельмі небясьпечнымі для Літвы і далейшай рэалізацыі ваенна-палітычных плянаў прагнаньня ворага зь Літвы. Дайшло да таго, што Сапега, а ў пачатку сакавіка 1659 г. сам кароль прасіў яго застацца на службе, гарантуючы яму жолд на гусарскую харугву, ротмістрам якой быў сам манарх, а Палубінскі паручнікам[1].

Усе гэтыя канфлікты, якія разрывалі афіцэрскія кадры, вельмі дрэнна ўплывалі на стаўленьне жаўнераў да службы. Да гэтага дадаваліся цяжкасьці зімовых ваенных дзеяньняў у вынішчаным краі і паразы, панесеныя на пачатку 1659 г., якія ня раз былі выкліканы ў значнай ступені менавіта дэмаралізацыяй войска, сваркамі вайскаводцаў і падзеньнем дысцыпліны. Шмат расчараваных афіцэраў, а за імі і жаўнераў пакідала

[1] Jan Kazimierz do A.H. Połubińskiego, Warszawa 9 III 1659. BCzart. 2749. № 109. S. 389; Rachuba A. Konfederacja Kmicicowska i Związek Braterski wojska litewskiego w latach 1660—1663. Warszawa, 1989. S. 16—18.

шэрагі войска. Таму цяжка было мець надзею на пасьпяховы адпор з боку сілаў правага крыла маскоўскім ударам зь Дзьвіны ці Дняпра ў першыя месяцы 1659 г. Заўважаючы гэта, Ян Казімер выдаў лісты да афіцэраў, каб яны вярталіся ў свае харугвы, падтрымлівалі гетмана парадай і прыкладам намаганьні да аднаўленьня ў войску належнай дысцыпліны, каб даць адпаведны адпор націску непрыяцеля. Такога роду напаміны і заклікі атрымаў, між іншым, літоўскі стражнік Уладыслаў Юры Халецкі. А каб паправіць настрой жаўнераў, ён загадаў як мага хутчэй выплаціць ім з грошай, атрыманых з падаткаў, гарантаваныя войску асыгнатамі, выдадзенымі да скарбу гетманам Сапегам восеньню 1658 г., 200 тыс. злотых, якія ім абяцалі яшчэ на берасьцейскай камісіі ў траўні[2].

Канфлікты не ўдалося пагасіць, паколькі ў прынцыпе не была ліквідаваная ніводная зь іх прычын. Абяцаньнямі і разавымі захадамі на пэўны час прыглушалі прэтэнзіі жаўнераў, але яны заставаліся. Калі чарговы раз аказвалася, што абяцаньні, даваныя войску, ня будуць выконвацца, даходзіла да чарговай хвалі незадавальненьня ў войску. А ўсялякія небесьпадстаўныя патрабаваньні войска ў выпадку неабходнасьці зь вялікай энэргіяй падсілкоўвала і выкарыстоўвала антыдворская літоўская апазыцыя, на чале якой стаяў сам гетман Сапега. Дзякуючы гэтаму яны набывалі новы маштаб і сілу. І нічога дзіўнага, што найбольш абуралася сапегаўскае правае крыло. Зь вялікай моцай зьвязляліся нараканьні на цяжкую і бесьперапынную шматгадовую службу, на недахоп жолду, на маніпуляцыі, якія праводзіліся за кошт войска ў справе маёмасьці па здрадніках Радзівілах, якую кароль пасьля іх выступленьня на швэдзкім баку аддаў войску. Найбольш балючым для жаўнераў было пытаньне запазычанасьці ў выплаце жолду. У траўні 1659 г. ім абяцалі на сойме выдаць пэўную квоту падчас абяцанай на 5 жніўня камісіі ў Мастах. Гэта выклікала вялізнае абурэньне ў войску, і яно пагражала пакінуць службу пасьля канца траўня, калі іх патрабаваньні не дачакаюцца здавальняльнага адказу. Зьявіліся галасы за патрэбу арганізаваньня вайсковай канфэдэрацыі, а як прыклад падавалася каронная канфэдэрацыя Яскульскага. Збунтавалася нават жамойцкая дывізія, якая 17 траўня ў Жыдыках арганізавала рыцарскае кола пад кіраўніцтвам літоўскага чэсьніка Міхала Казімера Паца і выставіла шэраг патрабаваньняў, нечакана абвінавачваючы пры гэтым галоўным чынам гетмана Сапегу ў моцных злоўжываньнях, занядбаньні і клопаце толькі пра сваё правае крыло. Прэтэнзіі гэтай часткі войска хутка падтрымаў Ян Казімер, абяцаючы яму сваю апеку. Зразумела, гэта быў фрагмэнт змаганьня паміж каралём зь яго партыяй і вялікім літоўскім гетманам. Кола ў Жыдыках хутка было распушчана, а жаўнеры рушылі на фронт. У сваю чаргу харугвы гетманскага крыла абвінавачвалі караля ў клопаце толькі аб дывізіі левага крыла. Агульныя настроі ў войску былі вельмі дрэнныя, даходзіла да таго, што службу кідалі цэлыя аддзелы. Каб неяк справіцца з сытуацыяй, у чэрвені з рады сэнату вырушылі камісары. Безь вялікіх праблемаў яна атрымалі абяцаньне служыць далей ад левага крыла, але ў Слоніме з найвялікшымі цяжкасьцямі пераканалі правае крыло застацца на службе да 5 жніўня, хоць яно заявіла, што застаецца на службе ня Рэчы Паспалітай, а Сапегі. Сур'ёзнасьць сытуацыі схіліла караля да зьмякчэньня пазыцыі ў дачыненьні да войска. У ліпені ён дзякаваў ім за працяг службы, абяцаў расплаціцца, прасіў цярплівасьці, абяцаў дапамогу каронных аддзелаў і асабіста прыбыць на ратунак Вялікаму Княству Літоўскаму. Аднак абяцаньнямі і скончылася, а 5 жніўня ў Мастах камісары зьявіліся бяз грошай. Ім усё ж удалося са згоды войска перанесьці камісію на 22 верасьня ў Слонім. Гэта не палепшыла настрою ў арміі, а галасы наконт патрэбы канфэдэрацыі ўзьняліся зноў. Не было таксама найменшых шанцаў вырашыць гаршовыя праблемы ў Слоніме. Разумеючы гэта, рада сэнату вырашыла 14 верасьня наогул

[2] Jan Kazimierz do W.J. Chaleckiego, Warszawa 15 II 1659. LvNB. F. 103. № 1699; tenże do K. Paca, Warszawa 15 II 1659. Тамсама. № 1700.

не зьяжджацца ў Слонім, а камісію перанесьці аж на 9 лютага 1660 г. Урэшце ўсё ж прыбылі камісары, якія скіравалі свае намаганьні на тое, каб упрасіць жаўнераў застацца ў войску. Пры гэтым падавалі тэрмін 9 лютага як чарговы, на які павінны прывезьці грошы. Настрої ў войску былі настолькі дрэнныя, што даходзіла да адмовы ад службы і арганізаваньня канфэдэрацый. Умешваўся Сапега і кароль, якія просьбамі, абяцаньнямі, перакананьнямі і паказаньнем цяжкага становішча спустошанай айчыны ўгаворвалі жаўнераў захоўваць спакой і цярплівасьць. Аднак не было відаць шанцаў хутка вырашыць гадамі накіпелыя праблемы[3]. У атмасфэры такіх напружаных і злавесных для польска-літоўскай дзяржавы настрояў у літоўскай арміі восеньню 1659 г. да Сапегі і іншых літоўскіх камандзіраў даходзілі ўсё больш пагрозьлівыя зьвесткі пра падрыхтоўку Масквы да чарговага вялікага наступу ў Літве.

Посьпехі царскіх войскаў на Дзьвіне і ў Беларусі, а таксама лявіна праблемаў з войскам прымушалі сумнявацца ў магчымасьці пасьпяхова змагацца адначасова супраць швэдаў у Курляндыі і Масквы на ўсходзе. Сапега, як і многія ліцьвіны, баяўся ўзнаўленьня наступальных маскоўскіх дзеяньняў у Літве, доказам чаго была паднятая гетманам у ліпені і жніўні фальшывая трывога з-за наступленьня маскоўскіх войскаў. Усе гэтыя непакоі прыводзілі да таго, што ён станавіўся ўсё больш рашучым прыхільнікам генэральнага замірэньня (*armistitium*) з Масквой на літоўскіх землях, у чым меў падтрымку значнай часткі літоўскіх саноўнікаў. Ужо ў траўні Сапега на пасьлясоймавай радзе сэнату 31 траўня 1659 г. зьвярнуўся да караля з просьбай дазволіць яму гэта. Адгукнуліся там галасы як за, так і супраць. Кароль адмовіўся прыняць гэтае патрабаваньне, зазначаючы, што замірэньне з Масквой вельмі абурыць казакоў і татараў. Ён дазволіў толькі заключэньне часовых замірэньняў паміж літоўскім войскам і асобнымі царскімі вайскаводцамі, але толькі ў выпадку найвялікшай неабходнасьці, і то не ад імя караля ці Рэчы Паспалітай, а толькі ад сваёй гетманскай асобы. Гетман дамагаўся магчымасьці замірэньня і ў пазьнейшы час, калі трагічна пагаршаліся настроі ў падначаленым яму правым крыле. Аднак Ян Казімер заставаўся нязломным, і ў адказе з рады сэнату 19 ліпеня Сапегу мусілі нагадаць пастановы з канца траўня[4].

Нягледзячы на гэтыя праблемы, якія прыгняталі літоўскае войска, атрыманая вясной пэўная перадышка ад маскоўскага напору дазволіла правесьці летам дзьве надзвычай істотныя для пазьнейшых падзеяў апэрацыі. 1 траўня 1659 г. у Варшаве на пасьлясоймавай радзе сэнату было прынята рашэньне, каб гетман паслаў у Курляндыю з дапамогай для дывізіі левага крыла, што ваявала там, 12 добрых харугваў. А сам з рэштай войска мусіў ісьці на дапамогу Нячаю пад Стары Быхаў, дзе, паводле каралеўскіх плянаў, павінен быў злучыцца з кароннымі падмацаваньнямі пад кіраўніцтвам каронната палявога пісара Яна Фрыдэрыка Сапегі[5].

Літоўскі гетман ня вельмі хацеў ісьці ў бок Беларусі, таму пачаў выкручвацца, спасылаючыся на слабое здароўе. Кароль указаў на літоўскага палявога пісара Аляксандра Гілярыя Палубінскага, які б мусіў стаць на чале адпраўленых туды войскаў. Сапега ўзяўся за ажыцьцяўленьне гэтых заданьняў, але крыху мадыфікаваў іх з пункту гледжаньня сваіх бягучых інтарэсаў. Асабліва яго цікавіла дывізія левага крыла ў Курляндыі. Ён убачыў у апэрацыі падмацаваньня тамтэйшых войскаў сваімі шанец падпарадкаваць сабе жамойцкія аддзелы. Таму паслаў туды не 12 харугваў, але, насуперак жаданьню караля, больш за 30 пад кіраўніцтвам

[3] На падставе: Rachuba A. Konfederacja Kmicicowska... S. 19—38.

[4] Senatus Consultum, 31 V 1659. BCzart. 401. S. 109—110; Comput Chorągwi ordinowanych z Obozu z pod Gieguźyna do Curlandiey. AGAD. AR. Dz. V. № 11209/I. S. 156—157 [у карэспандэнцыі Крыштапа Паца].

[5] Senatus Consultum, Warszawa 31 V 1659. BCzart. 401. S. 110; ад 9 VII 1659. S. 114; ад 30 VII 1659. S. 115.

Палубінскага[6]. Пад канец ліпеня Сапега загадаў яму сабраць як мага больш харугваў каля Сумлішак, але праз пару дзён аддаў загад, каб на 30 ліпеня яны перайшлі пад Гегужын з прычыны таго, што там былі лепшыя броды і масты[7]. Да сабранага там войска прыбыў сам гетман. Ён заявіў жаўнерам, што *«з многіх прычын і вельмі пільных публічных справаў»* ня можа ісьці разам зь імі і вайскаводцам прызначыў ім Палубінскага, перадаючы яму ўсю ўладу над імі[8]. Канчаткова ў Курляндыю мусіў вырушыць вельмі моцны корпус, які складаў больш за палову войскаў правага крыла. Ён павінен быў падтрымаць шматлікую жамойцкую дывізію, якая ў прынцыпе ўжо не вяла змаганьняў на полі, а толькі разам з брандэнбурскімі падмацаваньнямі асаджала замкі, занятыя швэдамі. Гетман, як і ўсе іншыя вайскаводцы, занадта добра ведаў, які характар маюць змаганьні ў Курляндыі і што пасланыя туды, і гэта ў такой вялікай колькасьці войска, складзенае пераважна з коньніцы, у прынцыпе непрыдатныя для такіх дзеяньняў. Сапраўдныя намеры гетмана былі аж занадта відавочныя для каралеўскага двара. Калі там даведаліся, што туды адправілі аж столькі харугваў, кароль адразу запатрабаваў ад Сапегі, каб паводле першапачатковых плянаў ён пакінуў там пад камандаваньнем кіраўніка левага крыла, літоўскага абознага Самуля Камароўскага 12 харугваў, а рэшту вывеў назад у Літву для іншых заданьняў. Аднак гетман ня выканаў каралеўскіх наказаў, прыкрываючыся нежаданьнем падзяляць войска. Не хацелася яму таксама адмаўляцца ад надзеі на тое, што Палубінскі і адданыя яму афіцэры споўняць заданьне схіліць жамойцкую дывізію перайсьці пад яго кіраўніцтва. Пакінутыя там прыблізна 12 харугваў уяўлялі сабой занадта малую сілу націску, і яны ня здолелі б зьдзейсьніць плянаў гетмана. Узьнік нават непакой, што гэта ня людзі левага крыла пяройдуць пад камандаваньне Сапегі, а тыя 12 гетманскіх харугваў патрапяць пад уладу Камароўскага. Можа быць, спачатку гетман лічыўся з тым, што яму давядзецца выканаць каралеўскі загад, таму, апярэджваючы ход падзеяў, ён наперад сказаў абознаму, каб ён ня думаў, што тыя 12 харугваў, якія давялося б пакінуць у Курляндыі, пяройдуць пад яго камандаваньне. Гэта дайшло да ведама караля, які, ведаючы намеры гетмана, паінфармаваў яго, што ня бачыць прычыны, зь якой гэтыя харугвы не павінны былі б падпарадкоўвацца Камароўскаму[9]. Урэшце ўпартасьць гетмана перамагла, паколькі ў Курляндыі да лютага 1660 г. павінен быў застацца ўвесь корпус Палубінскага.

У той час, калі вялікі літоўскі гетман быў заняты падпарадкаваньнем сабе левага крыла, а войска ўсё больш жорстка заяўляла свае прэтэнзіі, далёка па паўднёва-ўсходніх краях Вялікага Княства Літоўскага разыгрываліся драматычныя падзеі пад асаджаным маскоўскімі войскамі Старым Быхавам. Ужо 24 траўня Стары Быхаў быў заблакаваны жаўнерамі Сямёна Зьмеева, і адразу пасьля яго падышлі галоўныя царскія сілы пад камандаваньнем Івана Лабанова-Растоўскага[10]. З канца чэрвеня яны распачалі

[6] Senatus Consultum, Warszawa 31 V 1659. BCzart. 401. S. 109—110.

[7] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego,Grandziszki 23 VII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/III. S. 17; ліст зь Мерача 28 VII 1659. Тамсама. S. 21—22; Uniwersał P. Sapiehy do wojska wyprawionego do Kurlandii, Merecz 27 VII 1659. Тамсама. Dz. II. № 1387.

[8] Uniwersał P. Sapiehy do wojska udającego się do Kurlandii, w obozie pod Giegużynem 1 VIII 1659. Тамсама. № 1389.

[9] P. Sapieha do A.H. Połubinskiego, Prużany 1 IX 1659. Тамсама dz. V. № 13868/III. S. 41—42; P. Sapieha do S. Komorowskiego, Prużany 1 IX 1659. Тамсама. Dz. II. № 1391; Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Warszawa 13 IX 1659. LvNB. F. 103. № 1719.

[10] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Sluck 28 V 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 99; J. Hlebowicz do B. Radziwiłła, Warszawa 2 VI 1659. Тамсама. № 5226. S. 113—114; Vorbek-Lettow M. S. 284.

болып рашучыя дзеяньні. Вялікай мусіла быць лютасьць Аляксея Міхайлавіча на бунтаўнічага палкоўніка, паколькі ўжо вясной 1659 г. ён загадваў князю Аляксею Мікіцічу Трубяцкому, каб разам з запароскімі палкоўнікамі, вернымі цару, ён выкінуў са Старога Быхава *«изменника и душегуба»* Івана Нячая, які парушыў прысягу і разам са шляхтай выступіў супраць цара[11].

Здабыцьцё гэтай фартэцыі скончыла б справу падаўленьня паўстаньня ў Беларусі. З прычыны зацятай абароны замкнёных у ёй казакоў і шляхты, а таксама якасьці ўмацаваньняў гэта аказалася вельмі цяжкім заданьнем. Моцная старая крэпасьць, якая належала Сапегам, ужо раней трывала абаранялася ад казацкіх войскаў. У 1659 г. казакі разам са шляхтай замкнуліся ў яе валах. Горад разьмяшчаўся на высокім беразе Дняпра. З усходу яго засланяла балоцістая рэчка Макранка. У самім горадзе былі два ўмацаваныя каменныя будынкі — касьцёл і сынагога, быў там таксама каменны замак. Вырашальнае значэньне для абароназдольнасьці мелі два магутныя земляныя валы, узьведзеныя ў 20-я гады XVII ст. паводле старагаляндзкага мастацтва, з равэлінамі і пяцьцю бастыёнамі. Вышыня валоў дасягала 8 мэтраў, а перад імі быў выкапаны глыбокі і вельмі шырокі роў, праз які вялі два масты да брамаў. На валах была пастаўлена моцная артылерыя, агонь якой дзейсна пакрываў подступы да фартэцыі[12]. Сабраныя пад Старым Быхавам маскоўскія войскі мелі перад сабою пэрспэктыву вельмі цяжкай аблогі. Яны распачалі яе ў траўні 1659 г., калі ў Варшаве сойм урачыста зацьвярджаў Гадзяцкую унію з казакамі. Гэта дазваляла абаронцам спадзявацца на прыбыцьцё ўрэшце дапамогі з Украіны ці зь Літвы. Чарговым падбадзёраньнем для іх былі зьвесткі пра вялікую паразу царскіх войскаў у пачатку ліпеня пад Канатопам. На жаль, ніякая дапамога не прыйшла, паколькі хутка пасьля гэтага ва Украіне адбыўся бунт, падзеньне Выгоўскага і паўторны пераход гэтага краю пад панаваньне цара. Пасьля гэтых посьпехаў маскоўскае войска магло засяродзіцца на аблозе Старога Быхава. Рэч Паспалітая надалей была ўцягнутая ў швэдзкую вайну, а каронныя войскі былі паралізаваныя канфэдэрацыяй Яскульскага. Нішто ня сьведчыла пра тое, што ў бліжэйшым часе яна магла пасласьць нейкія большыя войскі для адблякаваньня залогі далёкай прыдняпроўскай фартэцыі.

Царскія войскі, якія стаялі ў ваколіцах Старога Быхава, зрабілі ў траўні і ў чэрвені спробы вылазак на заходні бераг Бярэзіны. Напэўна, гэта рабілася, каб прагнаць адтуль літоўскія і казацкія аддзелы, што там грамадзіліся. Па праўдзе, яны не маглі пагражаць царскім войскам, але падтрымлівалі кантакт з замкнёным у аблозе Нячаем і тым самым падбадзёрвалі яго людзей. Да Аскіркі і Мурашкі досыць часта прыбывалі зь лістамі Нячая пасланцы, якія здолелі прабіцца праз маскоўскія лініі. У другі бок яны адносілі лісты ад гэтых палкоўнікаў і ад самога Сапегі. Літоўскі гетман быў зацікаўлены падтрымкай кантакту з асаджанай залогай, хоць ня мог забясьпечыць ёй больш сур'ёзнай падтрымкі. Аднак позьняй вясной ён паслаў у Слуцак свайго чалавека, які павінен быў там выконваць ролю сувязнога паміж ім і Аскіркам, што падтрымліваў кантакт са Старым Быхавам. З гэтага было мала карысьці, паколькі, як скардзіліся са Слуцку, гэты чалавек большую частку часу быў п'яны[13]. У ліпені расейцы распачалі больш сур'ёзныя дзеяньні супраць літоўска-казацкай групоўкі. Яны ўдарылі на Сьвіслач, якую абараняў Самуль Аскірка. Горад быў спалены ў выніку баёў, але, як прызнаваў зь

[11] AJZR. T. XV. S. 325.

[12] Апісаньне ўмацаваньняў Старога Быхава на падставе: Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии. Минск, 1985. С. 45; Hryckiewicz A.P. Warowne miasta magnackie na Białorusi i Litwie // Przegląd Historyczny. T. LXI. 1970, z. 3. S. 437—438; Ткачев М.А. Замки Белоруссии. Минск, 1987. С. 180—182; яго ж. Замкі і людзі. Мінск 1991. С. 80—82.

[13] S. Oskierka do P. Sapiehy, b.m. 24 VI 1659. LvNB. F. 103. № 1705.

недалёкага Слуцку Казімер Клакоцкі, горад здолелі абараніць казакі[14]. Пагаршэньне сытуацыі Нячая прывяло да таго, што кароль зноў загадаў літоўскаму гетману Паўлу Сапегу аказаць яму дапамогу. У ліпені ён вылучыў больш за дзесяць літоўскіх харугваў і пад камандаваньнем полацкага каштэляна Яна Сасноўскага паслаў іх на дапамогу Старому Быхаву. Гэтыя войскі вельмі павольна ішлі ў напрамку Менску. Па дарозе ўсё больш дэмаралізаваліся ў выніку нарастаньня сярод жаўнераў бунтаўнічых настрояў. На працягу ліпеня і ў першыя дні жніўня харугвы падцягваліся пад лягер пад Рудзіцай каля Койданава, адкуль мусілі рушыць далей. Але перш чым да гэтага дайшло, *«мэў вялікую працу ягамосьць пан полацкі [полацкі каштэлян Ян Сасноўскі], пакуль іх вывеў»*. Неяк дамовіўшыся з жаўнерамі, схіліў іх выйсьці зь лягеру ў кірунку Менску. Вырушылі 9 жніўня, пакідаючы за сабой цалкам зруйнаваныя і спустошаныя ваколіцы. Праз некалькі дзён харугвы дайшлі да Лошыцы паблізу ад Менску і разьбілі там свой лягер, у якім сталлі яшчэ да пачатку верасьня[15]. Жаўнеры былі незадаволеныя службай, бунтаваліся праз шматмесячную нявыплату ім жолду, Сасноўскі быў хворы, засмучаны працэсамі аб нявыплаце ім падаткаў і ня мог утрымаць дысцыпліны. Трэба было сумнявацца, ці гэтыя войскі дойдуць своечасова пад крэпасьць, тым больш, што ў першыя дні жніўня жаўнеры даведаліся пра дамову гетмана з войскам, пасланым у Курляндыю, але нічога ня ведалі пра яе дэталі. Таму яны адправілі паслоў да Сапегі са сваёй інструкцыяй, пры гэтым пагрозьліва абяцаючы, што застануцца на службе яшчэ толькі два тыдні. Гетман адаслаў іх да караля, а да войскаў Сасноўскага быў адпраўлены з камісіі ў Мастах навагрудзкі земскі судзьдзя Ян Кярсноўскі, бяз грошай, але з наказам, каб, выступаючы ад імя караля і Рэчы Паспалітай, пераконваў войска застацца на службе да канца верасьня, спасылаючыся пры гэтым на згоду вайсковых паслоў іншых літоўскіх аддзелаў. У лісьце да гетмана Ян Казімер сварыўся з прычыны доўгага пастою гэтага войска ў адным месцы, зьнішчэньня гэтым тамтэйшых грамадзян і забраньня правіянту ў ваколіцы. Каб яго забясьпечыць, кароль наказаў скіравацца да непрыяцеля і ў яго ваколіцах забясьпечвацца харчамі ў прыстаўствах*, якія Сасноўскі мэў уладу надаваць там харугвам[16]. Адсутнасьць канкрэтных дзеяньняў Сапегі з мэтай даць дапамогу Старому Быхаву выклікала нэрвовую рэакцыю караля. Тым больш, што да яго пачалі даходзіць зьвесткі пра абурэньне Выгоўскага, казакоў, а нават татарскага хана на бязьдзейнасьць літоўскіх войскаў. Таму пад канец жніўня Ян Казімер зноў загадаў літоўскаму гетману, каб ён аказаў істотную дапамогу Нячаю, а для гэтага заданьня вывеў з Курляндыі Палубінскага і войскі, якія раней, насуперак каралеўскаму загаду, туды паслаў. Палубінскі таксама мусіў замест Сасноўскага прыняць камандаваньне над плянаванай Янам Казімерам экспэдыцыяй[17]. Калі ў верасьні да караля дайшлі зьвесткі, што маскалі распачалі інтэнсіўны абстрэл фартэцыі і штурмы, ён чарговы раз прысьпешыў Сапегу выслаць Палубінскага з дапамогай, прадугледжваючы дадаць яму ў падтрымку каронныя войскі кароннага палявога пісара Яна Фрыдэрыка Сапегі[18]. Аднак

[14] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, b.m.d. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 111.

[15] J. Pękalski do B. Radziwiłła, w Jammie Białowieskiej 18 VIII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 11557/II. S. 51—52; K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 20 VIII 1659. Тамсама. № 6865/I. S. 125, ліст ад 10 IX 1659. S. 131.

* Прыстаўства — *устарэлае, абл., старапольскае.* Вёскі, населеныя пункты, аддадзеныя для расквартараваньня войска. — *Заўв. перакл.*

[16] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Warszawa 26 VIII 1659. LvNB. F. 103. № 1717; Rachuba A. Konfederacja Kmicicowska... S. 27—28.

[17] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Warszawa 20 VIII 1659. Тамсама. № 1712; ліст ад 25 VIII 1659. № 1714.

[18] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Warszawa 13 IX 1659. Тамсама. № 1719; P. Sapieha do B. Radziwiłła, Żyżmory 29 VII 1659. AGAD. AR. Dz. V. ą 13868/III. S. 26; K. Pac do B. Radziwiłła, Warszawa 16 IX 1659. Тамсама. № 11208/I. S. 154

каронныя падмацаваньні ніколі ня рушылі ў кірунку Старога Быхава. Не пайшлі туды і войскі Палубінскага, хоць раньняй восеньню ў Жамойці згадвалі, што яны маюць ардынанс ісьці вакольным шляхам праз Браслаўшчыну ў напрамку Барысава[19].

А хуткая падтрымка з боку сьвежых войскаў была на Бярэзіне вельмі патрэбная, паколькі падтрымаць Стары Быхаў ніякім чынам не маглі аддзелы Аскіркі, Мурашкі і іншых казацкіх вайскаводцаў, што стаялі непадалёк. Летам 1659 г. яны панесьлі шмат паразаў і цалкам страцілі жаданьне змагацца. Іх дзеяньні і настроі ў той пэрыяд трапна апісваў зь недалёкага Слуцку Казімер Клакоцкі: *«Пан Аскірка, злучыўшыся з казацкім палкоўнікам Будкевічам пайшоў быў зноў у Бабруйск, але не засьпеўшы там [нічога], толькі адны папляішчы, вярнуўся зноў у Глуск, маючы, відаць, там рацыю смачнейшага пажыўленьня, і гэта пры тым, што чым бліжэй Слуцку, у тым большай бясьпецы для здароўя будуць. А паколькі ўсе — і нашы, і казакі — ня ведаюць шляху яшчэ куды-небудзь, і паколькі іх Масква пагоніць, усё жывое ў Слуцак уцякае, без чаго мы з радасьцю абышліся б».* У верасьні Сасноўскі, які стаяў у Лошыцы, скантактаваўся з Аскіркам і Будкевічам наконт супольных дзеяньняў у напрамку Старога Быхава. Мурашка ў той час зайшоў далёка на ўсход пад самы Мсьціслаў і быў недасягальны, хоць пісалі да яго, заклікаючы пад Стары Быхаў. Аднак падрыхтоўка да агульнай акцыі праходзіла так марудна, што выклікала жорсткую крытыку ў Слуцку. Нават задавалі пытаньне: *«Рыхтуюцца нібыта на дапамогу Быхаву, але неяк павольна, ці ня хочуць? Ці баяцца?»* У гэтым належным Багуславу Радзівілу горадзе вельмі баяліся падзеньня Старога Быхава, паколькі прадугледжвалі, што чарговым горадам на шляху маргчымага далейшага маршу пераможных маскоўскіх войскаў будзе ўласна Слуцак[20].

Восеньню 1659 году, калі ўвагу літоўскіх войскаў паглынаці ўнутраныя канфлікты, на далёкіх усходніх межах Вялікага Княства Літоўскага вяршыўся лёс Старога Быхава, які абараняўся па-геройску. Абаронцы разьлічвалі на дапамогу ад казакоў Выгоўскага ці ад літоўскіх войскаў. Аднак Выгоўскі ня мог яе аказаць, паколькі сам паволі пачаў апынацца ў трагічным становішчы і сам яе вельмі патрабаваў. Ён хутчэй быў перакананы, што яе павінны былі аказаць літоўскія войскі. Таму вялікім было яго абурэньне, калі даведаўся, што літоўскія вайскаводцы не зрабілі нічога для ўратаваньня абаронцаў, тым больш, што сярод іх знаходзіўся брат казацкага гетмана Самуль. Яно вельмі ўзрасло, калі ў жніўні сярод казакоў разышліся весткі, што Сапега прыватна ўклаў замірэньне зь некаторымі царскімі ваяводамі. Гэта выклікала на двары моцную трывогу за рэакцыю Выгоўскага і татарскага хана, калі пагалоскі дойдуць да іх. Пад канец траўня на радзе сэнату Сапега дабіўся ад караля, які быў супраць, згоды на заключэньне мясцовых замірэньняў. Пад канец жніўня Ян Казімер мог яго ў гэтым жорстка дакараць, паказваючы, пад якія ўскладненьні ён падставіў праз гэта Рэч Паспалітую. Адначасова абумовіў, што ня хоча ведаць ні пра якія замірэньні з царскімі ваяводамі. Затое кароль патрабаваў аднаўленьня ваенных дзеяньняў усімі сіламі, а таксама вывеценьня з Курляндыі корпусам Палубінскага, акрамя дванаццаці пакінутых там харугваў[21]. Абурэньне было досыць паўсюдным сярод казацкіх прыхільнікаў Рэчы Паспалітай, асабліва на літоўскія войскі, якія абвінавачваліся ў пасыўнасьці і абыякавасьці да лёсу казацкай залогі. Яны абяцалі, што казакі нават у выпадку найвялікшай небясьпекі, якая будзе пагражаць Літве, не акажуць ёй дапамогі[22]. Асаджаная залога давала

[19] S. Oborski do B. Radziwiłła, b.m.d. [IX—X 1659]. VUB. F. 4 (a—209). № 16465.

[20] Гл.: цытаваныя вышэй лісты К. Клацоцкага ад 20 VIII і 10 IX 1659.

[21] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Warszawa 20 VIII 1659. LvNB. F. 3. № 1712; Тамсама. Ліст ад 30 VIII 1659. № 1718.

[22] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 10 IX 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 130, 132.

знаць пра сваё становішча ў Слуцак, прасіла дапамогі ў князя Багуслава Радзівіла, гетмана Паўла Сапегі, а нават караля. Аднак зь вядомых прычын ад літоўскіх харугваў яны ніколі не дачакаліся дзейснай дапамогі.

Ужо ў ліпені маскоўскія войскі, хоць і не занадта шматлікія, цесна атачылі шанцамі ўсю крэпасьць. Дух абаронцаў надалей падтрымлівалі запэўненьні Івана Выгоўскага ў хуткай дапамозе. Таксама падбадзёрвалі зьвесткі пра посьпехі ў змаганьні з Масквой ва Украіне. Першыя штурмы зь лёгкасьцю адбіваліся абаронцамі. У першыя тыдні асады залога нават рабіла шматлікія вылазкі з фартэцыі, наносячы сур'ёзныя страты царскім войскам. Аднак час мінаў, і згасала надзея на дапамогу, таму было неабходна ашчаджаць сілы і адмовіцца ад атакаваньня шанцаў ворага[23]. Становішча крэпасьці дадаткова ўскладняў той факт, што і сярод залогі не было адной думкі наконт слушнасьці супрацiву Маскве. Былі сярод тых казакоў і такія, якія выказваліся за сувязь з царом, і яны ўцякалі з крэпасьці да расейцаў[24]. Сапраўдным ударам для абаронцаў сталася навіна пра падзеньне Выгоўскага. Яе хутка перадалі Нячаю самі расейцы, жадаючы пераканаць яго здаць крэпасьць. Яны чапляліся за розныя спосабы, каб як мага хутчэй давесьці да капітуляцыі. З гэтай прычыны 9 верасьня царскі кіеўскі ваявода Васіль Барысавіч Шарамецьеў паведаміў маскоўскаму камандзіру пад Старым Быхавам, Івану Лабанову-Растоўскаму, пра разгром Выгоўскага і палякаў на Задняпроўі, пра пераход тых казацкіх палкоў на бок цара і прысягу вернасьці цару, якую задняпроўскія палкоўнікі яму прынесьлі. Пры гэтым яны напісалі ліст да Нячая, каб і ён неадкладна здаў царскім войскам Стары Быхаў і сам «біў чалом» перад царом. Асобныя лісты з падобным зьместам напісалі яму пераяслаўскі палкоўнік Цімафей Цяцюра, нежынскі Васіль Залатарэнка і чарнігаўскі Анікей Сілін[25]. Спробы схіліць упартага палкоўніка здацца цару абуджалі пэўны непакой у Літве. Узгадвалі, што ўсё ж Нячай — швагер Хмяльніцкага, і ён можа ўрэшце пайсьці за яго прыкладам і здацца Маскве. Гэты непакой узмацняўся, калі станавілася вядома, што Нячай абяцаў казацкім паслам, якія прыбывалі да яго, што ён здасца, але толькі тады, калі да яго асабіста напіша сам новы гетман Юры Хмяльніцкі[26].

У верасьні і кастрычніку пад уплывам трагічных падзеяў ва Украіне Казімер Клакоцкі, які ад імя Багуслава Радзівіла ўвесь час знаходзіўся ў Слуцку, чакаў хуткага падзеньня Старога Быхава. Ён быў поўны сымпатыяў да мужнай залогі і нязломнага правадыра, але перш за ўсё баяўся за лёс Слуцку, паколькі кожная вестка ці думка пра падзеньне той крэпасьці выклікала ў ім сумную і трывожную выснову, якой ён дзяліўся з князем Багуславам: *«Калі гэта праўда, то цяпер чарга Слуцку, бо ўжо таксама няма ў Літве іншай фартэцыі, на якую магла б Масква спакусіцца»*[27].

Тым часам у жніўні ў лягеры войскаў Сасноўскага пад Лошыцай спыніўся пасланы з камісіі ў Мастах Ян Кярсноўскі. Каралеўскія лісты з дакорамі і заклікамі да службы, а таксама ўгаворы Кярсноўскага мелі пэўны станоўчы вынік. У пачатку верасьня войскі Сасноўскага рушылі нарэшце ў бок Бабруйску. Адначасова каштэлян паслаў да Нячая чарговыя лісты з заклікам трываць[28]. Паводле пазьнейшых словаў полацкага каштэля-

---

[23] AMG. T. II. № 1145. S. 672—673.

[24] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 31 VII 1659. Тамсама. S. 118; Vorbek-Lettow M. S. 284.

[25] AJZR. T. VII. S. 312—313; t. XV. S. 88; K Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 19 IX 1659. AGAD. AR. dz. V. № 6865/I. S. 137.

[26] Тамсама. S. 137; ліст ад 23 XII 1659. Тамсама. S. 160; J. Sosnowski do P. Sapiehy, b.m.d. LvNB. F. 103. № 1684.

[27] Тамсама. Гл. таксама яго ж лісты ад 7 X і 22 X да Б. Радзівіла.

[28] J. Sosnowski do P. Sapiehy, z obozu pod Celą 9 IX 1659. LvNB. F. 103. № 1674; K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 21 XI 1659. Тамсама. S. 153; AVAK. T. XXXIV. S. 528.

на, ён меў намер ісьці проста зь Менску пад Стары Быхаў. Па дарозе ён, напэўна, меркаваў злучацца з аддзеламі Аскіркі і Будкевіча. Аднак загад Сапегі скіраваў яго ў напрамку Бабруйску. Потым Сасноўскі наракаў на гэта, паколькі гэта нібыта перашкодзіла яму падысьці пад фартэцыю, якую абараняў Нячай, якраз у той момант, калі царскі камандзір Сямён Зьмееў адышоў адтуль на пэўны час, каб падвезьці Дняпром байдакі з забесьпячэньнем для маскоўскай залогі ў Кіеве. Да таго ж цяжкая дарога, навязаная загадам гетмана, пакалечыла значную колькасьці коней[29]. Аднак само прыбыцьцё гэтых харугваў у Бабруйск яшчэ не абяцала ратунку такой важнай стратэгічнай крэпасьці, якая гінула. Бо войска гэтае, паводле Клакоцкага, *«мае большую ахвоту да Случчыны, чым да непрыяцеля. Трымае іх пан полацкі, як можа, але сумняваемся, каб да канца стрымаў, бо сам, калі быў у Слуцку, скардзіўся на тое, што мае зь імі вялікія цяжкасьці»*. Сам Сасноўскі хутка пасьля адпраўленьня зь лягеру пад Цэляй паведамляў гетману пра дрэнныя настроі ў войску, патрабаваньне жаўнерамі грошай. Іх больш цікавілі ня дзейныя супраць ворага, а камісія для разьлікаў з войскам, што мела ў хуткім часе адбыцца ў Слоніме і на якую яны намерваліся паслаць па два таварышы з кожнай харугвы. Адыход вайскоўцаў на камісію моцна б аслабіў шэрагі, таму кашталян не намерваўся згаджацца з гэтым. Крыху супакоіўшы жаўнераў, што грошы, прызначаныя на іх харугву, будуць адкладзены і іх трэба пачакаць, а спачатку няхай расправяцца зь непрыяцелем, ён прасіў і Сапегу затрымаць гэтыя грошы для войска, якое ідзе пад Стары Быхаў[30]. Мацей Форбэк-Летаў, які таксама знаходзіўся ў Слуцку, ня верыў, каб тыя сілы былі ў стане ўратаваць крэпасьць. Зьвяртаў увагу на тое, што складаліся яны толькі з казацкіх і драгунскіх харугваў, і то досыць *«куцых»*, затое ўвогуле ня мелі пяхоты і гармат, безь якіх, сьцьвярджаў, не ўзварухнуць *«агністага»* непрыяцеля, які сядзеў у шанцах[31].

Літоўскія камандзіры, якія скіроўваліся пад Стары Быхаў, мусілі сьпяшацца са сваімі дзеяньнямі, паколькі з канцом верасьня жаўнеры, згодна са сваімі абяцаньнямі, маглі пакінуць службу ў войску. Быў разьлік на падтрымку з боку каронных падмацаваньняў, але гэтыя надзеі хутка разьвеяліся. Нібыта чакалася *«прыбыцьцё палка якога ад ягамосьці пана Выгоўскага гетмана запароскага»*, але гэтага таксама не адбылося. Ім удалося толькі наладзіць кантакт з Аскіркам, які стаяў у тых ваколіцах, і зрабіць спробы пераслаць Нячаю лісты і заклікі трываць у аблозе. Час прысьпешваў ня толькі з прычыны пагрозаў жаўнераў, але і таму, што ўсё часьцей станавілася вядома пра пагаршэньне ўмоваў абаронцаў, замкнёных у валах Старога Быхава. Нягледзячы на ўсе гэтыя цяжкасьці, яшчэ на пачатку верасьня Сасноўскаму ўдалося, выкарыстоўваючы сьведчаньні палонных, схопленых разьездамі пад Старым Быхавам, арганізаваць няблага сплянаваную акцыю з мэтай дапамагчы Нячаю. Перад сваімі галоўнымі сіламі, якія выпраўляліся ў тыя дні зь лягеру ў Лошыцы ў напрамку Бабруйску, ён выслаў пад Стары Быхаў за раку Друць восем харугваў пад камандаваньнем смаленскага ваяводы Міхала Абуховіча, а за імі чатыры пад камандаваньнем берасьцейскага судзьдзі Станіслава Казімера Бабраўніцкага. Абуховіч мусіў злучыць свае сілы з Аскіркам і казакамі. А сам полацкі кашталян перапраўляўся на ўсходні бераг Бярэзіны, а драгунамі і рэйтарамі ўкамплектаваў пераправы на Друці, за якую перайшоў Абуховіч. Сасноўскі застаўся ў тыле і намерваўся падтрымліваць высланыя наперадзе аддзелы, калі б дайшло да баёў з маскалямі. Гэтыя аддзелы мусілі засьпець зьнянацку аддзел коньніцы непрыяцеля на 500 коней, які стаяў на варце перад акопамі, разьбіць яго, прабіцца ў лягер і даставіць правіянт для яго, а таксама зьмяніць залогу. Падчас маршу ўдалося Абуховічу наладзіць кантакт з пасланцамі Нячая, якога ён заахвочваў цярпець, абяцаючы

[29] J. Sosnowski do P. Sapiehy, b.m.d. LvNB. F. 103. № 1684.
[30] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 22 X 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 147.
[31] Vorbek-Lettow M. S. 284.

дапамогу. Абуховіч разьлічваў злучыцца з Мурашкам, але той у гэты час забраўся пад самы Мсьціслаў, таму Абуховіч мусіў пакінуць гэту надзею. Да таго ж усё больш цяжкай станавілася сытуацыя з коньмі, шмат зь якіх стала кульгаць падчас дарогі. Таксама з новай сілай дало пра сябе знаць незадавальненьне жаўнераў, якія папросту пачалі пакідаць шэрагі і вяртацца ў галоўны лягер. Датычыла гэта галоўным чынам вайсковай старшыны. Змагаючыся з гэтымі цяжкасьцямі, ліцьвіны здолелі падысьці блізка да Старога Быхава, але іх заўважыла маскоўская коньніца, якая пільнавала подступы. Маскалі зарыентаваліся ў іхніх намерах, адступілі з акопаў пад Старым Быхавам і, папярэджваючы рэшту войска, змаглі перашкодзіць усім іх плянам. Паколькі быў страчаны элемэнт нечаканасьці, слабым харугвам засталося вярнуцца ў лягер, ня выканаўшы даручанага заданьня. Іх дзеяньні былі прыцыненыя таксама драматычнымі данясеньнямі з Украіны пра падзеньне Выгоўскага, выступленьне супраць яго чэрні, а таксама некаторых казацкіх палкоў, якія пачалі выразна схіляцца ў бок Масквы. Гэтыя зьвесткі да галоўнага лягеру дайшлі праз некалькі дзён пасьля выйсьця харугвы Абуховіча. Адразу ўзьнік непакой за іх лёс, паколькі было вядома, што зьбіраліся збунтаваныя сяляне. У новай сытуацыі ўзьнікалі таксама сумненьні наконт далейшай пазыцыі ня толькі казакоў, замкнёных у Старым Быхаве, але і аддзелаў Мурашкі ці Філона Будкевіча, за якім сталі назіраць з усё большай падазронасьцю. Урэшце апошні забраў сваіх людзей і адышоў у зноў збунтаваную Украіну. Занепакоены гэтым Сасноўскі меў нават жаданьне разьбіць ягоны аддзел. А не атрымаўшы выразных загадаў ад Сапегі, баяўся, што гэта можа выклікаць абвінавачаньні яго ў разрыве пагадненьня з казакамі. Сасноўскі моцна баяўся за пазыцыю Мурашкі, які прыбыў у літоўскі лягер толькі пасьля адыходу з-пад Старога Быхава. Сасноўскі проста пытаўся ў Сапегі, што павінен зь ім і ягонымі людзьмі рабіць у выпадку, калі б заўважыў сярод іх жаданьне пайсьці сьледам за Будкевічам. Таму праз адсутнасьць посьпехаў у акцыі пад Старым Быхавам дзеяньні пад гэтай фартэцыяй былі перарваныя яшчэ хутчэй, а войскі выведзены на выходныя пазыцыі. Хоць Сасноўскі меў невялікія сілы, ён увесь час меў надзею, што яму ўдасца арганізаваць дапамогу Нячаю. З гэтай прычыны, стоячы яшчэ позьняй восеньню ў Бабруйску, ён заахвочваў яго лістамі да стойкасьці. Між іншым, з гэтай мэтай скіраваўся ў Слуцак, каб прасіць там дапамогі пяхотай і гарматамі. Дамагаўся ад Сапегі падтрымкі яго дадатковымі гарматамі і аддзеламі, узятымі з фартэцый, што заставаліся ў тыле, а таксама аддзеламі, адпраўленымі ваяводзтвамі і паветамі. У іншым выпадку прасіў, каб яго звольнілі ад камандаваньня і прызначылі іншага на яго месца[32]. Аднак зь ніводнага з тых месцаў ён ніколі не атрымаў дапамогі.

Нарэшце ў канцы лістапада полацкаму кашталяну ўдалося зноў пераканаць войска вырушыць да асаджанай крэпасьці. Магчыма, яму ўдалося здабыць у Слуцку нейкае забесьпячэньне, якое падняло дух жаўнераў. Дайшло яно толькі да Магілёва па Дняпры. Застаючыся там пару дзён, войска цалкам спаліла прадмесьці, пасьля чаго, цалкам адмовіўшыся ад службы перад Сасноўскім, самавольна вярнулася пад Глуск, а потым скіравалася да Наваградчыны, страчваючы пры гэтым рэшту дысцыпліны. Крыху раней цар аддаў войскам пад Старым Быхавам загад зьнішчыць ліцьвінаў Абуховіча, якія спыніліся над Друцьцю і дадавалі тым самым надзеі Нячаю, які ўпарта абараняўся. Атрымаўшы 3 лістапада царскі загад, Іван Лабаноў-Растоўскі прыступіў да арганізацыі экспэдыцыі. Кіраваць выправай павінен быў Сямён Зьмееў, але раптам аказалася, што многія камандзіры ня хочуць служыць пад ім. Урэшце Лабанову-Растоўскаму ўдалося арганізаваць корпус колькасьцю 3 тыс. жаўнераў, сярод якіх былі аддзелы віцебскай і магілёўс-

[32] J. Sosnowski do P. Sapiehy, z obozu pod Celą 9 IX 1659. LvNB. F. 103. № 1674; J. Sosnowski do P. Sapiehy, b.m.d. Тамсама. № 1684; S. K. Bobrownicki do P. Sapiehy, Bobrujsk 15 IX 1659. Тамсама. № 1722; M.L. Obuchowicz do P. Sapiehy, z obozu 14 X 1659. Тамсама. № 1633.

кай шляхты. Поруч са Зьмеевым на яго чале паставіў свайго брата Івана Касаткіна-Растоўскага. Не было чутна пра нейкія больш сур'ёзныя змаганьні паміж гэтым маскоўскім корпусам і людзьмі Сасноўскага. Ліцьвіны, якім было ўжо цалкам досыць ваяваньня, хутчэй за ўсё на зьвесткі пра надыход маскалёў, як звычайна, пакінулі пазыцыі над Друцьцю і перайшлі на заходні бераг Бярэзіны. Гэта было яшчэ лягчэйшым, бо царскія жаўнеры ў аднолькавай ступені ня рваліся ў бой. Потым на гэта наракаў Зьмееў, які, відаць, меў намер перайсьці Бярэзіну і перасьледаваць ліцьвінаў. Аднак гэтаму супраціўляліся жаўнеры, спасылаючыся на прыгнечаньне галечай і недахоп коней. Цяжкія ўмовы жыцьця былі доляй ня толькі літоўскіх жаўнераў. Яны моцна даваліся ў знакі таксама царскім жаўнерам і істотна ўплывалі на слабыя посьпехі іх ваенных дзеяньняў. Гэта добра бачыў Лабаноў-Растоўскі, які проста пісаў Аляксею Міхайлавічу, што калі ўзьнікне патрэба рушыць супраць непрыяцеля, то змучаныя нястачай жаўнеры менавіта з гэтай прычыны ня пойдуць у бой[33]. Пасьля адыходу харугвы Сасноўскага ў раёне Слуцку засталіся толькі Аскірка з Мурашкам і, напэўна, іншыя разрозьненыя казацкія аддзелы. Шмат справядлівага было ў словах Клакоцкага, які, уважліва назіраючы за паводзінамі літоўскіх войскаў, што мусілі дапамагчы быхаўскай залозе, са смуткам сцьвярджаў: *«Яшчэ застаецца ў аблозе Быхаў, які яны добраахвотна асуджаюць на пагібель, не жадаючы прыйсьці з падтрымкай»*[34]. Тым часам жаўнеры полацкага кашталяна з кожным днём аддаляліся ад Старога Быхава, а пад канец году некаторыя яго харугвы апынуліся паблізу Навагрудку. Сам усё больш хворы Сасноўскі пакінуў войска і зьехаў у Слуцак, у якім 26 красавіка 1660 г. памёр. Ад'яжджаючы, ён даручыў камандаваньне Міхалу Лявону Абуховічу. У Навагрудчыне напэўна, сілы корпусу падзяліліся. Асобныя харугвы сталі ў розных месцах паблізу Навагрудку і на Піншчыне[35].

Разам з адступленьнем войскаў Сасноўскага зьнікла ўсякая надзея на дапамогу Старому Быхаву, тым больш, што ў гэтыя дні з Полацку рушыў вялікі маскоўскі наступ, які, зьнішчаючы літоўскія землі і Падляшша, прымусіў літоўскіх вайскаводцаў надоўга забыцца пра далёкую крэпасьць. Аднак яе залога, пазбаўленая надзеі на дапамогу, вытрывала яшчэ месяц, затрымліваючы на гэты час значныя маскоўскія сілы пад сваімі валамі. У Старым Быхаве ўмовы з дня на дзень імкліва пагаршаліся, і ўжо ў кастрычніку пачаў адчувацца сур'ёзны недахоп правіянту. Пад канец гэтага месяца Нячай наважыўся выпусьціць з фартэцыі 216 чалавек, каб паправіць сытуацыю. Тыя засьведчылі Лабанову-Растоўскаму, што ў горадзе шляхты, казакоў і мяшчан з 1—1,5 тыс. і ўсе змораныя страшэнным голадам. За далейшы супраціў выступалі багатыя мяшчане і габрэі, а шляхта, казакі і бяднейшыя мяшчане хацелі здацца[36]. Хоць прыхільнікаў далейшага змаганьня было напэўна больш, чым расказвалі палонныя, праўдай было і тое, што павялічвалася група тых, хто намерваўся прывесьці да здачы крэпасьці. Нягледзячы на пагаршэньне становішча, з крэпасьці рабіліся ўдалыя выпазкі ў бок расейскіх шанцаў. Адна, асабліва моцная зь іх, праведзеная 29 кастрычніка на пазыцыі войскаў Сямёна Зьмеева, нанесла вялікія страты ягоным войскам. Акрамя таго, было забрана шмат зброі, у тым ліку мартыра, якая сваімі выстраламі прычыняла цяжкія шкоды ў горадзе. Гэтая вылазка зрабіла значнае ўражаньне на маскоўскіх вайскаводцаў, якіх уцекачы з гораду ўвесь час пераконвалі, што залога, змораная хваробамі, бароніцца ўжо з апошніх сілаў. Тым большай нечаканасьцю для іх стала правядзеньне

[33] AMG. T. III. № 53. S. 58—59.
[34] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 22 X 1659. AGAD. AR. dz. V. № 6865/I. S. 147.
[35] Pamiętniki Filipa, Michała i Teodora Obuchowiczów (1630—1707) / Opr. H. Lulewicz i A. Rachuba. Warszawa, 2003. S. 133—134.
[36] Русско-белорусские связи. Сборник документов (1570—1667) / Ред. Л.С. Абецедарский, М.Я. Волков. Минск, 1963. № 391. С. 418—419.

наступнай вылазкі 5 лістапада, якая прынесла асаджаным чарговы вялікі посьпех, а войскам цара — вялікія страты[37].

Пагібельнае становішча абаронцаў не маглі выправіць і невайсковыя намаганьні вялікага літоўскага гетмана. Ён адправіў да камандзіра маскоўскіх войскаў пад Старым Быхавам Лабанова-Растоўскага заклік, каб той адступіў ад крэпасьці і згадзіўся на замірэньне на час польска-маскоўскай камісіі. Аднак пра камісараў у тых ваколіцах пакуль што не было чуваць, таму і з гэтых намаганьняў гетмана нічога ня выйшла. Іншым, цалкам памылковым спосабам падтрымкі асаджаных было пасольства П. Сапегі да новаабранага казацкага гетмана Юр'я Хмяльніцкага. Ён прасіў, каб той прыслаў войскі на дапамогу Староому Быхаву. Абсалютна ня верыў у посьпех гэтай акцыі Клакоцкі, бо хоць гетманскі пасол яшчэ не вярнуўся, але да Слуцку дайшлі зьвесткі, *«што Хмяльніцкі ў Пераяславе з Масквою нейкія дамовы заключае»*[38]. Затое з Украіны прыбывалі казацкія паслы ад збунтаваных палкоўнікаў, якія ўгаворвалі Нячая здацца. Аднак той нібыта адказваў, што зробіць гэтак, калі сам гетман Юры Хмяльніцкі зьвернецца да яго ў гэтай справе[39].

Цяжка сказаць, як доўга бараніўся б яшчэ Стары Быхаў. Удалыя вылазкі сьведчылі, што надалей шмат сілаў і ахвоты да змаганьня праяўляла яшчэ значная частка абаронцаў. Аднак болела і тых, хто страціў ахвоту. Магчыма, маючы сьвежыя зьвесткі пра маскоўскія посьпехі ва Украіне і апошнім часам у Літве, яны ня бачылі далейшага сэнсу рызыкаваць сваім жыцьцём у безнадзейным, на іх думку, змаганьні з царскімі войскамі. Пэўную стомленасьць і пачуцьцё расчараваньня заўважаў таксама ў самога Івана Нячая Клакоцкі, які меў у руках ужо апошнія лісты ад вайскаводцы, прывезеныя ўпотай са Старога Быхава. Прачытаўшы іх, ён пісаў Б. Радзівілу: *«Быхаў, не падмацаваны дапамогай, яшчэ трымаецца, але яго ўжо трэба лічыць страчаным... А пан Нячай пытаецца цяпер, чыя Украіна, бо ўжо страціў надзею. І пры гэтым ён хоча застаавацца. І хіба з дня на дзень здасца Маскве, бо тая яму падсоўвае прапановы здацца, гарантуючы здароўе і цэласьць»*[40]. Аднак адважны казацкі палкоўнік ня здаўся добраахвотна Маскве. Маскоўскім вайскаводцам удалося наладзіць кантакт і ўгаварыць да здрады пэўных асобаў у крэпасьці. Ноччу з 13 на 14 студзеня маскоўскія войскі ўчынілі вырашальны штурм на ўмацаваньні Старога Быхава. Умацаваньні, якія дагэтуль не маглі фарсаваць, яны здабылі дзякуючы здрадзе камэнданта Быхаўскага замку, немца Шульца, і некалькіх сяброў мясцовага магістрату, сярод якіх былі Габрыэль Іліпіч і два браты Ранчкоўскія. Разьюшаныя доўгай абаронай маскалі выбілі залогу, жыхароў гораду і тых, хто знайшоў прытулак у горадзе яшчэ вясной. Тыя нешматлікія, што заха-

[37] Vorbek-Lettow M. S. 286; K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 21 XI 1659. AGAD. AR. dz. V. № 6865/I. S. 152.

[38] K. Kłokocki, do B. Radziwiłła, Słuck 21 XI 1659. Тамсама. S. 152.

[39] K. Kłokocki, do B. Radziwiłła, Słuck 21 XI 1659. Тамсама. S. 152; J. Sosnowski do P. Sapiehy, b.m.d. LvNB. F. 103. № 1684.

[40] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Siuck 23 XII 1659. Тамсама. S. 160—161.

[41] Aktykacja atestacji należącej Ichmść Panom Poniatowskim. Kazań, 1662. LVIA. Fond S.A. № 2. K. 1221—1221v; AMG. T. II. S. 682—683; AJZR. T. V. S. 33—36; Полное собрание русских летописей. Москва, 1980. Т. XXXV. С. 242; Vorbek-Lettow M. S. 285; K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 21 I 1660. Тамсама. S. 173. Першую пэўную, але ляканічную навіну пра падзеньне Старога Быхава ён атрымаў ужо 23 XII 1659, гл.: цыт. ліст з таго дня. С. 164. Пра падзеньне крэпасьці, здраду і разьню абаронцаў і цывільнага насельніцтва згадвала яшчэ праз чатыры гады ўцалелая ў ёй шляхта, якая надалей знаходзілася ў палоне ў Маскве, гл.: Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губернии Витебской и Могилевской. Витебск, 1871—1906. Т. XVII. С. 214; Ткачев М.А. Замки и люди. С. 84; Сагановіч Г. С. 86—87.

валі жыццё, былі вывезеныя ў Маскву. Шмат выбітных абаронцаў павесілі адразу. На двор цара выслалі Івана Нячая. Безвынікова пра іх вызваленьне хадайнічаў гетман Юры Хмяльніцкі. Нягледзячы на яго просьбы, цар саслаў іх у Сібір[41].

Трагічны канец геройскай абароны асабліва глыбока засмуціў і спалохаў тых, хто зь недалёкага Слуцку ўвесь час назіраў за драмай Івана Нячая і апошняга ў Беларусі пункту адпору супраць маскоўскага панаваньня, які ён абараняў. Асабліва балюча мусіла ўспрымацца тое, што абаронцы, якія ў свой час выказаліся па баку Рэчы Паспалітай, у момант патрэбы не атрымалі ад яе ніякай дапамогі, хоць такая магчымасьць на працягу даўжэйшага часу існавала. Такога меркаваньня прытрымліваўся Мацей Форбэк-Летаў, які знаходзіўся ў Слуцку. Заканчваючы апісаньне змаганьняў пад Старым Быхавам, ён аддаў своеасаблівую пашану мужным, хоць, як сам заўважаў, збольшага нешляхецкім абаронцам, пішучы: *«Калі б абаронцам была дадзена дапамога, яны заставаліся б непераможнымі, а цяпер яны на вечную памяць засталіся як магутныя змагары ўсялякага стану прыкладам паважнай веры перад каралём, гаспадаром нашым, і Айчынай»*[42].

Пра сасланага ў Сібір адважнага казацкага палкоўніка не забыліся ў Рэчы Паспалітай. Падчас працягу вайны з Масквой намаганьні вызваліць яго ня мелі шанцаў. Толькі на Андрусаўскіх перамовах удалося дабіцца вызваленьня Нячая ад няволі, зь якой ён вярнуўся ў 1667 г. Пасьля вяртаньня 17 лютага 1668 г. былі пацьверджаныя правы палкоўніка, *«які з васьмігадовага маскоўскага зьняволеньня толькі што вызвалены»*, а таксама ягонай жонкі на Бабруйскае стараства, якое атрымалі ў 1658 г. пажыцьцёвым правам, і на суму 23 тыс. злотых, унесеную на іх памерлай каралевай Людвікай Марыяй. Гэтая сума стала потым прадметам перамоваў Нячая з палявым літоўскім пісарам Аляксандрам Гілярыем Палубінскім[43]. 19 жніўня 1673 г., у памяць пра заслугі Нячая яму і ягонай, напэўна, другой жонцы, Эўфрасіньні Сілічоўне Нечаёвай, нададзена пажыцьцёвае права на Загальскае стараства[44]. Пасьля гэтых падзеяў Іван Нячай зьнікае з крыніц. Затое ў 1675—1676 г. зьяўляецца Юры Нячай, які з ваколіц Лоева прысылаў літоўскаму маршалку Аляксандру Гілярыю Палубінскаму інфармацыю наконт гаспадарчых і палітычных справаў, што датычылі падзеяў у Маскве і Севершчыне[45].

Распачатыя Паўлам Сапегам летам 1659 г. дзеяньні на курляндзкім і беларускім напрамках задзейнічалі большасьць сілаў правага крыла. У выніку Сапега застаўся на заходніх землях зь вельмі малой колькасьцю людзей. У адносна спакойныя летнія месяцы і на пачатку восені гэта, магчыма, не было настолькі відавочнае. Затое ў момант атакі Хаванскага на гэтыя землі выразна і зь непакоем заўважылі, што пры гетману ўсяго толькі дзесяць зь нечым харугваў[46]. Да таго ж адзінкі, што засталіся пры ім, а таксама адпраўленыя ў дарогу, ахоплівала чарговая хваля незадавальненьня няўвыплатай некалькі гадоў належнага жолду. Жаўнеры пагражалі збунтавацца і кінуць службу з канцом чарговых чвэрцяў, якія прыпадалі ці ў пачатку жніўня, ці лістапада. Толькі найцяжэйшымі высілкамі ўдалося перакanaць іх застацца ў шэрагах. Ва ўсякім разе нешматлікіх сілаў, якія засталіся пры гетмане, ледзьве хапала на тое, каб пільнаваць маскоўскія залогі ў Вільні і Коўне. Не было затое гаворкі, каб яны маглі стрымаць якуюнебудзь атаку мацнейшых варожых войскаў.

[42] Vorbek-Lettow M. Op. cit. S. 286.
[43] RGADA. Fond 389, ML. № 132. K. 953—955.
[44] Тамсама. № 136. K. 240—240v.
[45] Lietuvos Mokslu Akademijos Centrine Biblioteka. Vilnius. Fond 139—3031.
[46] B. Olszewski do B. Radziwiłła, Wasilkowo 3 I 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 10816/I. S. 147.



**Запароскі казак.**

# IV. Сытуацыя Рэчы Паспалітай на парозе наступу Хаванскага

Вялікія посьпехі маскоўскіх войскаў і імклівасьць, зь якой яны падавілі супраціў шляхты і казакоў Беларусі, зрабілі моцнае ўражаньне на Літве і ў Кароне. Восеньская, поўныя аптымізму мары наконт разгрому расейцаў і маршу пад самы Смаленск саступілі вясной 1659 г. сур'ёзнаму клопату аб ўратаваньні рэштак Вялікага Княства Літоўскага. Гэтыя трывогі сталі нарастаць пасьля заключэньня Масквой замірэньня са швэдамі пад канец сьнежня 1658 г. Стварылася сытуацыя, якой заўжды баяліся так моцна. Царская дыпляматыя здолела апярэдзіць польскую і хутка дайсьці да паразуменьня са швэдзкім каралём. Рэч Паспалітая апынулася, падобна як у трагічным 1655 г., перад вялікай небясьпекай змаганьня з абодвума сьмяротнымі для яе ворагамі. На шчасьце для Польшчы, швэды, якія самі зьнясілелі ад змаганьняў і ўсё больш ўблытваліся ў дацкую вайну, не праяўлялі ўжо ніякай экспансыўнасьці на польскіх землях. Змаганьні зь імі абмяжоўваліся блякадай некалькіх занятых імі крэпасьцяў у Прусіі і Курляндыі. Памяць пра страшны швэдзкі «патоп» прымушала праводзіць дзеяньні супраць скандынаўскіх захопнікаў да поўнай перамогі над імі і выгнаньня іх з Рэчы Паспалітай. У апошнія месяцы вайны папросту дэманстратыўная прысутнасьць вялізнай большасьці польскіх і значных літоўскіх сілаў на швэдзкім фронце была неабходная як сродак націску ў мірных перамовах, якія вяліся са скандынавамі.

У гэты пэрыяд Літве нашмат бліжэйшая небясьпека пагражала з аднаўленай вайны з Масквой. Вялікая частка сэнатараў, магнатаў і літоўскай шляхты патрабавала, каб каралеўскі двор грунтоўна заняўся ўсё больш драматычным становішчам яшчэ незанятых літоўскіх зямель. Зь вялікім жалем і раздражненьнем яна глядзела на палітыку Яна Казімера, якая, паводле літоўскіх прэтэнзій, засяроджвалася толькі на вайне са Швэцыяй і на інтарэсах Кароны. Не ўдалося заблякаваць рашэньне пасылаць у Данію моцную дывізію Чарнецкага, у той час як нельга было дапрасіцца якога-небудзь падмацаваньня для Літвы. Адмоўна расцэньваліся паводзіны ў дачыненьні да казакоў і іх падтрымка супраць цара. Баяліся вайны зь імі, усьведамляючы ўласную слабасьць і адсутнасьць зацікаўленьня з боку караля. Гэтая крытыка асабліва ўзмацнялася з прычыны чарговых посьпехаў маскоўскіх войскаў у Літве і нязломнай пазыцыі Яна Казімера, які абсалютна не хацеў чуць пра магчымасьць укласьці генэральнае замірэньне для зьнішчаных вайной літоўскіх зямель.

На шчасьце, расейцы, разьбіўшы Нячая, свае галоўныя дзеяньні скіравалі на далёкія ўкраінскія межы Рэчы Паспалітай. Вясной і летам 1659 г. магло здавацца, што яны загразнуць там на даўжэйшы час, што нібыта пацьвярджалася іх вялікай паразай, панесенай у пачатку ліпеня пад Канатопам. Гэта аддаляла небясьпеку ад Кароны і яшчэ больш дазваляла каралю сканцэнтраваць намаганьні на змаганьнях супраць швэдаў. Акрамя таго, было палічана, што ў гэты момант літоўскім землям не пагражае сур'ёзная небясьпека з боку царскіх войскаў. Сур'ёзнага непакою не было і ў Сапегі, які ўклаў з царскім камандзірам Вільні *armistitium*. Па праўдзе, у пачатку жніўня ён выклікаў фальшывую трывогу, даносячы на каралеўскі двор пра наступ вялікай маскоўскай моцы на літоўскія землі. У атачэньні караля не паверылі ў гэта адразу, дастаткова добра ўсьведамляючы сабе маскоўскія праблемы ва Ўкраіне[1]. Гэты стан пэўнай палёгкі схіліў каралеўскіх дыпляматаў зноў прыняць тактыку зацягваньня кантактаў з Масквою на карысьць змаганьня са швэдамі.

[1] K. Pac do B. Radziwiłła, Warszawa 16 VIII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 1209/I. S. 147.

Гэта страшна раздражняла ліцьвінаў, якія разумелі, што ў выніку такой палітыкі землі іх княства, амаль цалкам пазбаўленыя войскаў, далей заставаліся зусім безабароннымі перад маскоўскай пагрозай. Яны злаваліся, бо, зь іх пунтку гледжаньня, на першае месца надалей ставіліся патрэбы Кароны, а ігнараваліся літоўскія клопаты. Ліцьвіны, якіх расейцы няспынна разьбівалі з 1654 г., праяўлялі схільнасьць да ўсталяваньня зь імі дамовы, нават на нявыгадных для Рэчы Паспалітай умовах. І на гэты раз, пасьля паразаў, панесеных ліцьвінамі ў першай палове 1659 г., адгукнуліся галасы літоўскіх палітыкаў, якія бачылі адзіны ратунак у наладжаньні перамоваў зь пераможнай Масквой. Адразу пасьля паразы пад Мядзелам жамойцкі староста Юры Глябовіч выказаў сваё меркаваньне наконт будучага лёсу літоўскіх зямель: *«На такі вялікі ў той час параксізм ВКЛ нельга знайсьці іншага антыподу, як толькі мір з Масквой. Калі мы яго хутка не ўкладзем, то сіла роспачы прывядзе да апошняга рашэньня, як ужо некаторых прывяла. Як гэта Віленскае ваяводзтва, Ашмянскі, Браслаўскі, Вількамірскі паветы, якія, ня ведаючы, qui pugnet pro eis [ці хтосьці будзе ваяваць за іх], так Маскве здаліся. Вельмі баюся, каб Жамойці і Коўну гэтага ж не давялося, калі не ўтрымаюцца Біржы, пад якія непрыяцель vicenter [блізка] падступіў»*[2]. Колькасьць літоўскіх прыхільнікаў неадкладных перамоваў з Масквою расла, хоць і там разумелі неабходнасьць наладжаньня перамоваў зь ёю пасьля яе апошніх перамог, маючы за плячыма далейшы цяжар швэдзкай праблемы.

Пра тое, як справіцца зь цяжкай сытуацыяй у Літве і Украіне, разважалі на веснавым сойме 1659 г. у Варшаве. Трагічнае становішча Вялікага Княства паказаў берасьцейскі кашталян Мэльхіёр Станіслаў Савіцкі, які заявіў, што ўласна падчас гэтых соймавых нарадаў яно нішчыцца рукамі непрыяцеля[3]. Ён прасіў у Кароны хуткай і грунтоўнай вайсковай дапамогі пад кіраўніцтвам дасьведчаных вайскаводцаў, а таксама грошай на аплату літоўскіх жаўнераў. У ягонай прамове чулася выразная нота шкадаваньня, што войскі, якія ў гэты момант маглі б ратаваць Літву, былі пасланыя далёка па-за межы Рэчы Паспалітай у Данію. Ён прадказваў, што калі дапамога ня прыйдзе, то гэты вялікі пажар, які зьядае Літву, яны разам будуць вымушаны гасіць пад Віслай. Пакуль што ён жадаў адпраўленьня ў імя Літвы камісараў з сойму на перамовы з царом, каб стрымаць націск войскаў непрыяцеля. Агульныя патрабаваньні ліцьвінаў, што былі ў роспачы ад трагедыі сваёй айчыны, зводзіліся або да аказаньня Каронай дастатковай вайсковай дапамогі, або да распачацьця перамоваў з Масквою для канчатковага заканчэньня вайны.

На сойме выдатна разумелі сур'ёзнасьць сытуацыі на ўсходзе. Аднак надалей першынство мелі пытаньні, зьвязаныя з блізкай да сканчэньня вайной і спробамі мірных перамоваў са Швэцыяй. Было вядома, што Рэч Паспалітая ня здолее ваяваць з двума ворагамі адразу. Каб змагчы вырашыць швэдзкае пытаньне, трэба было стрымаць маскоўскі напор, пакуль ня ўдасца справіцца са швэдамі. Гэта разумелі падчас соймавых нарадаў: *«Ад Масквы нічога добрага ня чутна, аднак кароль Ягамосьць жадае і тую сьцяну праз перамовы супакоіць. Аднак жа не перашкодзіць быць напагатове»*, — выказваўся так наконт каралеўскіх плянаў далейшых паводзін у дачыненьні да ўсходняй праблемы віленскі біскуп Юры Даўгяла-Завіша[4]. Як і год раней, цяпер была прынятая тактыка зацягваць перамовы з Масквой і як мага даўжэй не рабіць ёй ніякіх уступак. Пасьпяшацца з прыняцьцем рашэньня наконт далейшых

[2] J. Hlebowicz. do B. Radziwiłła, Mścibów 3 III 1659. Тамсама. № 5226. S. 101—102.

[3] Wotum na sejmie walnym sześcioniedzielnym 1659 przez Jmci Pana Kasztelana Brzeskiego miane. BCzart. 152. S. 483—487.

[4] J. Dowgiałło Zawisza do K. Sapieżanki Radziwiłłowej, Warszawa 29 IV 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 18566.

стасункаў з царом прымушалі царскія паслы стольнік Афанасій Іванавіч Несьцераў і паддзячы Грыгорый Кузьмін, якія прыбылі ў Варшаву ў пачатку красавіка, падчас надзвычайнага сойму. Яны перадалі патрабаваньні Аляксея Міхайлавіча, запісаныя ў ягонай грамаце, пасланай яшчэ 30 сьнежня 1658 г. Прывезьлі яшчэ зусім неактуальнае патрабаваньне цара адправіць у Маскву яшчэ зімой паўнамоцных паслоў на далейшыя перамовы[5]. Шэраг іншых патрабаваньняў быў непрымальны для польскага боку. З гэтай прычыны ён ня даў згоды на заключэньне генэральнага замірэньня з Расеяй. У адказ на патрабаваньні Паўла Сапегі, які хадайнічаў аб генэральным *armistitium*, была дапушчана магчымасьць толькі партыкулярных замірэньняў літоўскімі войскамі з асобнымі маскоўскімі вайскаводцамі, і то не ад імя караля і Рэчы Паспалітай, а самае большае — ад імя гетмана[6].

Аднак у сытуацыі, у якой знаходзілася Рэч Паспалітая, нельга было сабе дазволіць занадта рашуча адкідаць маскоўскія ўмовы. З сойму кароль паслаў 30 красавіка праз полацкага падчашага Яна Ласоўскага ліст да цара. Абвінаваціў яго ў зрыве камісіі пад Вільняй, зьнявазе каралеўскай асобы празь зьняволеньне ў Полацку яго пасла, які ехаў у Маскву, а таксама, насуперак дамоўленасьцям зь Немежу, у самавольным распачацьці перамоваў са швэдамі. Цару нагадвалася, што гэтымі ўчынкамі ён разараваў мір, але зазначалася, што добра бачаць царскую гатовасьць да мірных перамоваў. Урэшце згадзіліся прызнаць камісію з восені 1658 г. не сарванай, але перакладзенай і адправіць на перамовы з паўнамоцнымі царскімі паслами сваіх прадстаўнікоў. Не згадзіліся на Маскву, але прапанавалі Вільню ці Менск, а пачатак перамоваў — на першыя дні ліпеня. Акрамя таго, патрабавалася вызваліць гетмана Гасеўскага як камісара на перамовы, а на час правядзеньня перамоваў цару прапанавалася ўкласьці замірэньне[7]. Аднак царскіх паслоў затрымалі, намерваючыся адправіць іх у Маскву ўжо пасьля падмацаваньня клятвай на сойме дамовы з казакамі. Паслы мусілі стаць сьведкамі ўзьнікненьня трывалага саюзу Рэчы Паспалітай з Украінай. Напэўна, разьлік быў на тое, што, перадаючы навіну пра гэта ў Маскве, яны паўплываюць тым самым на больш уступлівую пазыцыю Аляксея Міхайлавіча ў будучых перамовах.

У чарговыя дні сойму былі прызначаны каралеўскія камісары на гэтыя перамовы. Імі сталі: Павел Ян Сапега, віленскі ваявода і вялікі літоўскі гетман; Юры Кароль Глябовіч, генэральны жамойцкі староста; Геранім Вяжбоўскі, берасьцейскакуяўскі ваявода, Крыштап Завіша на Бакштах, вялікі маршалак ВКЛ; Вінцэнт Корвін-Гасеўскі, вялікі падскарбі і палявы гетман ВКЛ; Цыпрыян Бжастоўскі, рэфэрэнт і пісар ВКЛ; Ян на Кодані Сапега, грабавецкі і карытніцкі староста[8]. Яны атрымалі поўныя паўнамоцтвы Рэчы Паспалітай для перамоваў з Масквой. Палова зь іх так і не накіравалася на перамовы з паслами цара. Інструкцыя, дадзеная з сойму камісарам, проста сцьвярджала ў сваім пачатку неабходнасьць вядзеньня перамоваў з царом дзеля супакаеньня айчыны, *«калі не з усіх бакоў, тады з таго, што ад Масквы боку»*. На першым месцы яна ставіла як умову распачацьця перамоваў вызваленьне хітрасьцю ўзятага ў палон Гасеўскага, які яшчэ соймам у 1658 г. быў прызначаны адным з камісараў[9]. Было вядома, што гандаль ім паглыне мноства

[5] Copia Hramoty od JCMci przez Nesterowa posłańca Moskiewskiego na sejm przysłanego napisanej. BCzart. 2104. S. 85—96; Chrapowicki. S. 191.

[6] Senatus Consultum, Warszawa 31 V 1659. BCzart. 401. S. 109—110.

[7] Jan Kazimierz do Aleksego Michajłowicza, Warszawa 30 IV 1659. RGADA. F. 79. № 108.

[8] VL. T. IV. S. 310.

[9] Supplement Instrukcji od JKMci i Stanów Rzplitej (...) na teraźniejszym Sejmie Walnym Warszawskim, Panom Kommisarzom na reasumowanie Traktatów z Carem Jmci №. BCzart. 152. S. 175—179; VL. T. IV. S. 310.

часу, што было б больш выгадна польскаму боку. Шмат месца прысьвячалася тэрытарыяльным справам і царскім патрабаваньням польскага трону. Як і ў папярэднія гады, палякі нібыта згадзіліся, але ставілі такія ўмовы, якія рабілі яго для цара недасягальным. Зноў было вырашана настойваць на вяртаньні пpaдвaeнныx межаў узамен за згоду на выбар цара, які мусіў перад гэтым перайсьці на каталіцызм ці прынамсі на ўніяцтва, прыняць пад прысягай пакты канвэнтаў і паабяцаць асабіста панаваць у Польшчы. Гэтымі матэрыяламі палякі намерваліся ўблытаць расейцаў у цяжкія перамовы і здабыць такі каштоўны час. Каб не дапусьціць зрыву перамоваў, а тым самым эскаляцыі ваенных крокаў з боку Масквы, камісары мелі дазвол уступіць у крытычны момант перамоваў усю Смаленшчыну. Прызначэньне камісараў напэўна цешыла Юр'я Глябовіча, але, як і ў мінулым годзе, ён і шмат ліцьвінаў сумняваліся, што яны хоць нечым паспрыяюць міру, паколькі, на ягоную думку, *«quis sponsor [хто паручыцца], што ён [цар. — Аўт.] acceptabit [прыме] тыя pacificationis media [сродкі для прымірэньня], якія мы offerrimus [прапануўваем], тым больш, будучы перáможцам…»*[10]. Ня цяжка было здагадацца, што і на гэты раз гаворка ішла толькі пра тое, каб перамовамі падманваць Маскву, стрымліваць націск яе войскаў і выйграць час, каб змагчы закончыць вайну са Швэцыяй і кінуць тады ўсе свае сілы супраць царскіх войскаў.

Інструкцыя прадугледжвала для камісараў яшчэ іншае, вельмі важнае заданьне. Было ім зацікавіцца маскоўска-швэдзкімі стасункамі. У той час расейцы старалісяператварыць няпэўнае замірэньне ў Валіесаары ў трывалы мір са Швэцыяй. Гэта было вельмі небясьпечна для Польшчы, паколькі пры гэтым існавала магчымасьць узьнікненьня антыпольскага хаўрусу. Нават абмінаючы такое разьвіцьцё расейска-швэдзкіх кантактаў, каралеўскай дыпляматыі было важна не дапусьціць паляпшэньня стасункаў паміж гэтымі дзьвюма варожымі да Рэчы Паспалітай дзяржавамі, а нават, калі б удалося, падштурхнуць іх да збройнага сутыкненьня паміж сабой. Таму адзін з пунктаў інструкцыі наказваў: *«У гэтым на ўсё будуць мець sollicitam curam [руплівы клопат] камісары, каб стараліся impedire [ускладняць] перамовы Масквы са швэдамі de perpetua pace [пра сталы мір], якія павінны праводзіць у чэрвені ў Інфлянтах або ў жніўні. І швэдзкія камісары ўжо ехалі на гэтыя перамовы»*[11].

Маскву таксама вельмі непакоілі польска-швэдзкія перамовы наконт міру. З тых жа прычын, што і палякі ў дачыненьні да маскоўска-швэдзкіх перамоваў, і яны не жадалі, каб дайшло да перамоваў палякаў са швэдамі, а тым больш, каб яны закончыліся посьпехам. У Маскве разумелі, што палякі стараюцца закончыць канфлікт са швэдамі. Ведалі таксама пра тое, што ў выпадку заключэньня міру польскім і літоўскім харугвам застанецца ўжо супольна ваяваць разам з татарамі за Украіну і Літву. Таму расейцы вельмі цікавіліся польска-швэдзкімі кантактамі, выхоплівалі ўсякую інфармацыю пра іх. У красавіку 1659 г. нават дапытвалі літоўскіх палонных, узятых пад Мсьціславам, наконт вынікаў мірных перамоваў Польшчы са Швэцыяй, і тое, пра што даведаліся, адразу пераслалі ў рапарце цару. Выбітны дзяржаўны муж Афанасій Лаўрэнцевіч Ардзін-Нашчокін, які працаваў над мірам са Швэцыяй, старанна імкнуўся не дапусьціць міру Польшчы са Швэцыяй. Ён вусна ўступаў Швэцыі нават Жамойць зь зямель Рэчы Паспалітай, якая мусіла апынуцца пад панаваньнем цара. Аднак не запісваў гэтага ў дамовах, каб не закрываць шляху да міру з польскім каралём, тым больш, што сам Нашчокін быў хутчэй прыхільнікам супольнай з Польшчай барацьбы са Швэцыяй за здабыцьцё Расеяй доступу да Балтыкі. Аднак восеньню 1659 г. ён актывізаваў свае намаганьні, накіраваныя на тое, каб хутка ператварыць часовае

[10] J. Hlebowicz do B. Radziwiłła, Warszawa 9 V 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 5226. S. 109.

[11] Supplement Instrukcji od JKMci... BCzart. 152. S. 179.

замірэньне ў трывалы мір са шведамі, калі да Масквы дайшлі зьвесткі аб распачацьці польска-шведзкіх мірных перамоваў[12]. Масква была вельмі зацікаўленая ў тым, каб вырашальнае змаганьне з Рэччу Паспалітай за беларускія і ўкраінскія землі вялося тады, калі яна ўсё яшчэ будзе занятая вайной з паўночным захопнікам.

Сойм 1659 г. прыклаў намаганьні, каб умацаваць польскую пазыцыю на Дняпры. Тым больш, што ў першыя дні сойму царскі пасол дэманстратыўна падчас прывітаньня караля прызнаў за царом тытулы князя літоўскага, кіеўскага, рускага, валынскага, падольскага, смаленскага, чарнігаўскага і северскага. А за каралём — толькі жамойцкага, прускага і мазавецкага. Паслу зрабілі строгую заўвагу, але ён і ня думаў папраўляцца[13]. Гэта быў выразны сыгнал, што Масква ня думае ні пра якія добраахвотныя ўступкі. З гэтай прычыны яшчэ ахвотней было вырашана ісьці далей шляхам умацаваньня саюзу з казакамі і іх гетманам Выгоўскім. Нягледзячы на супраціў з розных бакоў, але пры гарачай падтрымцы Яна Казімера, 22 траўня падчас сойму была падмацаваная клятвай Гадзяцкая дамова. З аднаго боку прысягаў кароль, а з другога — казацкія паслы з братам казацкага гетмана Канстанцінам Выгоўскім[14]. Адзін са стваральнікаў Гадзяцкай дамовы Юры Нямірыч сказаў у сойме вялікую ўрачыстую прамову, якая праслаўляла гістарычнае значэньне гэтай дамовы для будучага лёсу Украіны і Польшчы[15]. Казацкіх паслоў узнагародзілі прысваеньнямі годнасьцяў і грашыма, а тых, што не былі шляхтаю, нобілітавалі. Аднак стан радасьці з прычыны вяртаньня Украіны да Рэчы Паспалітай ня мог засланіць некалькіх надзвычай важных фактаў, якія датычылі той краіны. Па-першае, зь непакоем заўважалі, што шмат абяцаньняў, дадзеных казакам у Гадзячы, балюча для іх урэзалі; па-другое, нягледзячы ні на што, пазыцыя Выгоўскага на Дняпры была слабая; па-трэцяе, рэакцыя цара, які абсалютна не намерваўся згаджацца з парушэньнем Пераяслаўскай дамовы 1654 г. Прынятую ў сойме дамову яшчэ трэба было абараніць ад вялікіх царскіх арміяў, а таксама, як аказалася, ад зацятага праціўніка, якім сталі масы чэрні ва Украіне і шмат казацкіх палкоўнікаў. Яны або не прымалі дамовы зь перакана్ьня, або зайздросьцілі пазыцыі Выгоўскага і выказваліся за Маскву як натуральнага ворага парадку, які ўстанаўліваў і прэзэнтаваў ва Украіне пры падтрымцы Рэчы Паспалітай новы гетман. На ідэю Гадзяцкай уніі ня надта прыхільна глядзелі і ў Літве. Чуліся галасы тамтэйшых палітыкаў, што казакі здабываюцца коштам літоўскіх інтарэсаў. Ліцьвіны выдатна ўсьведамлялі, што унія з Украінай уцягвае Рэч Паспалітую на шлях, які вядзе проста да канфлікту з царом. Гэта азначала далейшую вайну з Масквою, адтэрмінаваньне шанцаў укласьці зь ёй якое-небудзь пагадненьне, а ў выніку — далейшае знаходжаньне Літвы ў маскоўскіх руках. Асабліва гэта непакоіла масу выгнаньнікаў, якія, пазбаўленыя сродкаў на існаваньне, жадалі як мага хутчэйшага замірэньня ці міру з Масквой і, што з гэтага вынікае, магчымасьці вярнуцца ў свае маёнткі на ўсходзе[16].

Пацьверджаньне дамовы з казакамі, здавалася, істотна ўмацоўвае пазыцыі Рэчы Паспалітай у дачыненьні Масквы. Была надзея, што з такім бачаньнем паедуць да цара адпраўленыя 3 чэрвеня з Варшавы яго‌ныя паслы Афанасій Несьцераў і Рыгор Кузьмін. Дадзеныя ім каралеўскія лісты паўтаралі прапанову распачаць перамовы ў пачатку ліпеня, а калі б гэта было для цара занадта рана, то дазвалялася перасунуць

[12] Соловьев С.М. С. 70.

[13] J. Mierzeński do B. Radziwiłła, Warszawa 7 IV 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 9646/I. S. 166.

[14] AJZR. T. IV. S. 141—144; Chrapowicki. S. 193—194; Ochmann-Staniszewska S., Staniszewski Z. Sejm Rzeczypospolitej za panowania Jana Kazimierza Wazy. Wrocław, 2000. T. I. S. 286—287.

[15] Mowa Jmci Pana Niemirycza... do Króla JMci dnia 22 Aprilis 1659. BCzart. 394. S. 199—209.

[16] J. Mierzeński do B. Radziwiłła, Warszawa 10 V 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 9646/II. S. 9—10; T. Wasilewicz do B. Radziwiłła, Warszawa 27 V 1659. Тамсама. № 16998.

гэты тэрмін. Аднак кароль заклікаў цара адправіць сваіх паслоў як мага хутчэй. Чарговы раз Ян Казімер ускладаў на яго віну за зрыў восеньню 1658 г. перамоваў і аднаўленьне вайны. Каб пазьбегнуць гэтага цяпер, кароль нагадаў цару, каб на гэты раз ён адправіў сваіх паслоў з поўнымі паўнамоцтвамі. Не забыўся таксама абвінаваціць цара ў інтрыгах супраць караля і ўгаворах жыхароў Гданьску перайсьці на маскоўскі бок. Указвалася на лісты ад Аляксея Міхайлавіча да Гданьску, якія магістрат пераслаў у Варшаву[17].

Выдатная перамога Выгоўскага пад Канатопам 8 ліпеня 1659 г. над моцнай маскоўскай арміяй нібыта адсоўвала гэты непакой, і зноў нават зьявілася надзея разам з татарамі здушыць маскоўскую моц. Аднак хутка стала відавочна, што гэта не паўплывала на ўмацаваньне пазыцыяў гетмана. Пры ўслужлівай падтрымцы Масквы нарастала незадаволенасьне ім. Паволі ўсё больш ягоных прыхільнікаў пераходзіла да лягеру праціўнікаў, які падтрымлівала Масква, і перацягвала за сабой казацкія войскі. Разлом паглыбляўся хуткім тэмпам. Асабліва моцны ачаг апазыцыі ўзьнік на Задняпроўі, дзе ўжо на мяжы жніўня і ліпеня выбухнулі змаганьні. Адкрыты бунт падняў пераяслаўскі палкоўнік Цімафей Цяцюра, да нядаўняга часу яшчэ прыхільнік гетмана, нават набілітаваны на сойме. Адразу да яго далучыліся іншыя палкоўнікі зь іншымі найболыш выбітнымі, як напрыклад запароскі палкоўнік Іван Сірко ці нежынскі Іван Залатарэнка. Паўстаньне маланкава ахапіла Украіну. Забівалі польскіх жаўнераў, якія прыбылі туды разам з Выгоўскім, а таксама шляхту, што вярталася да сваіх двароў. Падчас уцёкаў загінуў Юры Нямірыч. Наёмныя і казацкія аддзелы, якія захоўвалі вернасьць Выгоўскаму, былі разьбітыя збунтаванымі казакамі і расейцамі, што іх падтрымлівалі[18]. У выніку такога разьвіцьця падзеяў гетман у верасьні быў вымушаны адмовіцца ад гетманскай булавы, якую казакі аддалі Юрашку Хмяльніцкаму. Быць можа, згаджаючыся з гэтым, Выгоўскі ўратаваў сабе жыцьцё. У наступныя дні ён уцёк з Чыгірыну да кароннага абозната гетмана Андрэя Патоцкага, якія стаяў лягерам пад Кательняй[19].

Падзеньне Выгоўскага азначала поўны правал польскіх палітычных плянаў ва Украіне. Аднадачасова імкліва вырасла пагроза з боку Масквы. Хмяльнічэнка*, які нічым не нагадваў свайго вялікага бацьку, спачатку, напэўна, не разумеў імклівага нарастаньня перавагі Масквы ва Украіне і на працягу кароткага часу спрабаваў праводзіць палітыку, згодную з пастановамі Гадзяцкай дамовы. Ён нават адправіў паслоў да польскага караля, каб ад яго імя і ад імя ўсіх казакоў яны прынесьлі яму прысягу ў вернасьці[20]. Аднак хутка Аляксей Мікіціч Трубяцкой, які стаяў на чале моцнай арміі на Задняпроўі, прымусіў яго прыбыць у Пераяслаў. Там 27 кастрычніка была склікана ў суправаджэньні царскіх войскаў казацкая рада, якая абвясьціла яго гетманам.

[17] Jan Kazimierz do Aleksego Michajłowicza, Warszawa 3 VI 1659. RGADA. F. 79. № 109; Флория Б. Русско-шведские мирные переговоры в Валиесаре (1658 г.) и Речь Посполитая // Славяноведение. 2005. № 2. С. 48—49.

[18] AJZR. T. VII. S. 312; VS. № 53. S. 114—115; I. Wyhowski do Jana Kazimierza, w obozie pod Kotelnią 26 IX 1659 // Materyały do historji Małey Rossyi / Wyd. K. Świdziński. Kijów, 1853. № LXXX.

[19] VS. № 53. S. 115; K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 7 X 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 141.

* Хмяльнічэнка — сын Багдана Хмяльніцкага, правадыра казацкага паўстаньня. Хмяльнічэнка — гэта Юры Хмяльніцкі (1640 — каля 1681). У крыніцах яго называлі Хмяльнічэнка, Юрашка. У 1657 г. ён быў абраны казацкім гетманам замест свайго памерлага бацькі. З прычыны маладога ўзросту фактычнае кіраўніцтва прыняў Іван Выгоўскі. Калі скінулі Выгоўскага, Хмяльнічэнку зноў абвясьцілі казацкім гетманам на т.зв. Другой пераяслаўскай радзе пад дыктоўку расейцам. Гэтую пасаду ён займаў да 16 студзеня 1663 г., а потым стаў манахам. З манастыра яго выцягнулі туркі і ў 1677 г. зрабілі яго «сарматкім князем» на занятых імі землях Украіны і Падольля. На іх загад ён быў забіты. — *Аўт.*

[20] K. Pac do B. Radziwiłła, Gdańsk 12 XI 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 11208/II. S. 173.

Адразу пасьля гэтага Трубяцкой загадаў яму падпісаць новую дамову, якая цалкам аддавала цару Ўкраіну. У выніку гэтага націску новы гетман выказаўся па баку Масквы. Расейцы хутка ўкамплектавалі сваімі войскамі ўсю Задняпроўскую Ўкраіну і ўвайшлі разам зь вернымі ім казацкімі палкамі на Правабярэжжа[21].

У Польшчы хваляваньне на тых землях і паўторны ўваход іх ва ўладаньні Масквы абудзілі вялікі непакой. Баяліся там маршу аб'яднаных маскоўска-казацкіх сілаў у глыб Украіны. Тым больш, што ў той момант было ня надта вядома, якія войскі можна было б ім супрацьпаставіць, паколькі большасьць іх у Кароне знаходзілася ў канфэдэрацыі пад кіраўніцтвам вайсковага стражніка Марыюша Станіслава Яскульскага[22]. Нельга было нават аказаць Выгоўскаму дзейснай дапамогі ў трагічныя для яго, а таксама і для польскай палітыкі ва Ўкраіне дні. Выдатны польскі дыплямат, а таксама адзін з галоўных аўтараў пагадненьня з казакамі Станіслаў Казімер Бяneўскі, гледзячы на нечаканы правал вялікай, таксама ўласнай справы, пісаў кракаўскаму біскупу Анджэю Тшабіцкаму: *«Я разумею, што ўсё вашамосьці пану constat [вядома] пра зьмену Ўкраіны, прычына паралічу якой ні ў чым іншым, як толькі ў праклятай cum suis authoribus [са сваімі аўтарамі] канфэдэрацыі. Калі айчыне найбольш патрэбны былі рукі, у той час іх ня мела. Таму мы згубілі Выгоўскага, Рэч Паспалітую зноў адпіхнулі на мора, пацешылі непрыяцеля, гэта значыць, маскоўскага цара»*[23]. Бяneўскі, які звычайна добра арыентаваўся ў справах Украіны, лічыў, што там яшчэ ня ўсё страчана, нягледзячы на падзеньне Выгоўскага і ўручэньне булавы Хмяльніцкаму, бо сярод казакоў працягваліся сваркі і нарастала разьяднанасьць. Адны зь іх далей выказваліся за караля, а іншыя былі за цара. Паведамлялася, што пэўная колькасьць казацкіх палкоў з Правабярэжнай Украіны захоўвала пазыцыю чаканьня, пакуль што не выказваючыся выразна ні за адзін з бакоў. Ратунак бачылі ў хуткай інтэрвэнцыі каронных войскаў ва Ўкраіну, аднак гэта было немагчыма з прычыны іх канфэдэрацыі.

Такое вокамгненнае падзеньне Выгоўскага надзвычай умацавала становішча Масквы ў дачыненьні да Рэчы Паспалітай, якая ўсё яшчэ змагалася са швэдзкай праблемай і ўнутранымі цяжкасьцямі. Свае посьпехі яна магла выкарыстаць як значныя козыры ў дыпляматычных перамовах, якія праводзіліся з каралеўскімі камісарамі, тым больш, што супрацьдзеяньне каронных войскаў ва Ўкраіне было невялікім. Перамога над *«ворам»* Выгоўскім перадавала Маскве ініцыятыву і поўную свабоду дзеяньняў на іншых кірунках доўгай франтавой лініі вайны з польска-літоўскай дзяржавай. Невыпадкова, што хутка пасьля пераможнага заканчэньня змаганьняў ва Ўкраіне маскоўскія войскі восеньню моцна актывізуюцца на літоўскіх землях. Гэта будзе чарговым этапам ва ўжо заплянаваным у 1658 г. змаганьні з Польшчай за яе ўсходнія тэрыторыі.

Аднак летам і большую частку восені 1659 г. царскія ваяводы, пакінутыя на літоўскіх землях, часова не праяўлялі значнай актыўнасьці. Пасьля падаўленьня паўстаньня, апошнія баі працягваліся толькі пад Старым Быхавам, які мужна і стойка абараняў Іван Нячай. У гэтай моцнай крэпасьці закрыліся рэшткі шляхецкіх і казацкіх паўстанцаў. Сьледам за імі пад яе падышлі ўжо 24 траўня войскі Сямёна Зьмеева, а адразу пасьля яго — галоўныя маскоўскія сілы, якімі камандаваў Іван Лабаноў-Растоўскі[24]. Вялікай мусіла быць лютасьць Аляксея Міхайлавіча на бун-

[21] Соловьев С.М. С. 57—60; Wójcik Z. Traktat andruszowski 1667 i jego geneza. Warszawa, 1959. S. 36.

[22] Працягвалася яна з пачатку лютага да сярэдзіны верасьня 1659 г. Гл.: Janas E. Konfederacja wojska koronnego w latach 1661—1663. Lublin, 1998. S. 26—32.

[23] S.K. Bieniewski do A. Trzebickiego, Kijany 28 X 1659. BCzart. 394. S. 219.

[24] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 28 V 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 99; Vorbek-Lettow. S. 284; Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мінск, 1991. С. 84.

таўнічага палкоўніка, паколькі ўжо вясной 1659 г. ён загадваў князю Аляксею Мікіцічу Трубяцкому, каб разам з запароскімі вернымі цару палкоўнікамі ён выкінуў са Старога Быхава *«изменника и душегуба»* Івана Нячая, які парушыў прысягу і разам са шляхтай выступіў супраць цара[25]. Распачатая аблога працягвалася аж да сярэдзіны сьнежня.

Адначасова з гэтымі ваеннымі падзеямі ў Варшаве стараліся падтрымліваць дыпляматычныя кантакты з Масквой, разьлічваючы стрымаць яе напор. Сытуацыя на Дняпры і ў Літве ў другой палове 1659 г. зьмянялася так імкліва, што з прычыны вялікай адлегласьці паміж абедзьвюма сталіцамі не ўдавалася апаратыўна рэагаваць на іх на дыпляматычным узроўні. Згода сойму на перамовы і прызначэньне паўнамоцных паслоў прымушала заняцца пытаньнем іх падрыхтоўкі. Пасланы пад канец красавіка ў Маскву Ласоўскі прывёз адтуль у жніўні згоду цара на перамовы наконт вечнага міру, але ў Маскве. Ён згаджаўся таксама на прыпыненьне ваенных дзеяньняў, але толькі ў Літве[26]. Маскоўскія намеры былі занадта відавочныя. У той момант іх цікавіў перш за ўсё ўкраінскі напрамак, дзе летам яны задзейнічалі свае найвялікшыя сілы, сьцягваючы іх нават зь літоўскіх зямель[27]. Таму для Масквы вельмі прыдатным было *armistitium* на тых землях, якія былі занятыя ёй, але слаба ўкамплектаваны яе войскамі. У такім выпадку замірэньне ахоўвала б іх ад ліцьвінаў. А вось на Ўкраіне цар задзейнічаў большасьць сілаў для вырашальнай барацьбы з Выгоўскім і таму не дапускаў у той момант магчымасьці *armistitium* на яе землях. Польскі бок чакаў у той час чагосьці іншага. У Варшаве разумелі, што згода на замірэньне толькі ў Літве прывядзе да дадатковай пагрозы Ўкраіне. Таму Рэч Паспалітая не намервалася ісьці ў гэтых адносінах на ўступкі.

Аднак расейцы крыху зьнізілі тон пасьля паразы пад Канатопам. З маскоўскім паслом Іванам Афанасевічам Жалябурскім і паддзячым Кандратам Іванавічам Мініным, якія прыбылі ў Варшаву 14 верасьня і заставаліся на двары да 20 верасьня, былі ўзгодненыя ўступныя ўмовы сустрэчы прадстаўнікоў абедзьвюх дзяржаў. Нягледзячы на паўтарэньне царскіх прапановаў правесьці перамовы ў Маскве, дзе меркавалася аддаць Гасеўскага, Рэч Паспалітая не згадзілася з гэтым. Тады царскі дыплямат адмовіўся ад патрабаваньне весьці перамовы ў Маскве і выказаў згоду на іх наладжаньне паміж Барысавам і Менскам. Іх распачацьце было прадугледжана на 15 лістапада 1659 г.[28]. У яшчэ адным вельмі істотным і заўсёды спрэчным пытаньні ён пайшоў на ўступкі. Параза арміі Трубяцкога пад Канатопам прывяла да таго, што Жалябурскі, які ад'яжджаў у Варшаву, атрымаў у ліпені ў Маскве інструкцыю шукаць генэральнага *armistitium* з Польшчай, якое датычыла б Літвы і Ўкраіны. Цар досыць расплывіста дадаваў у сваім лісьце, што ён ужо вырашыў стрымаць свае войскі ад ваенных дзеяньняў да часу, пакуль не ўкладзе з каралём вечнага міру. Аднак гэтым разам царскую дыплямацыю сустрэла нечаканасьць. Кароль і сэнатары Рэчы Паспалітай не далі згоды на замірэньне. Яны адказалі, што не адчулі, што цар спыніў баявыя дзеяньні, паколькі ў тыя дні ягоныя войскі асадзілі Стары Быхаў, Менск спалілі, а залога з Коўна ўварвалася ў Жамойць і спаліла Новы Двор[29]. На прыняцце

[25] AJZR. T. XV. S. 325.

[26] Respons Króla JMci na Hramotę Cara..., Szubin 22 XI 1659. BCzart. 152. S. 379—380. Respons od Cara JMCi do Króla JMCi... de data Mca Juli Roku 1659. BCzart. 2104. S. 119—122; J. Hlebowicz do B. Radziwiłła, Roś 3 IX 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 5226. S. 125.

[27] Параўн.: K. Pac do B. Radziwiłła, Warszawa 16 VIII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 11208/I. S. 147.

[28] K. Pac do B. Radziwiłła, Warszawa 16 IX 1659. Тамсама. S. 154—155; Jan Kazimierz do Aleksego Michajłowicza, Warszawa 25 IX 1659. BCzart. 152. S. 76—78.

[29] Гл.: Jan Kazimierz do Aleksego Michajłowicza, Warszawa 18 IX 1659. RGADA. F. 79. № 110.

такога рашэньня паўплывала шмат фактараў. Праз пару месяцаў, калі маскалі нішчылі Літву, Ян Казімер, прыгадваючы візыт царскага дыплямата, тлумачыў засмучаным літоўскім камісарам, чаму было адкінутае прапанаванае Жалябурскім генэральнае *armistitium*[30]. Каралю было зразумела, што згода на яго пасьля паразы Масквы пад Канатопам і пасьля зьнішчэньня там значнай часткі яе арміі дазволіць ёй аднавіць сілы. Акрамя таго, замірэньне дасьць магчымасьць маскоўскім войскам спакойна распраўіцца зь вернымі Польшчы казакамі, паколькі паралізуе польскія войскі. Непрыняцьце *armistitium* павінна было дазволіць *«задзейнічаць»* ва Украіне каронныя войскі, што якраз выйшлі з канфэдэрацыі. Але найважнейшым аргумэнтам, які прымушаў адмовіцца ад царскай прапановы, была праблема верных Польшчы казакоў, а яшчэ больш — татараў. Нельга было дазволіць сабе страціць гэтага саюзьніка. Ён заўсёды надзвычай падазрона рэагаваў на ўсякія польска-маскоўскія кантакты на дыпляматычным узроўні. Згадзіцца ў той момант на генэральнае *armistitium* азначала спыніць змаганьні ва Украіне і праз гэта пакінуць татарскага саюзьніка літаральна падчас супольных дзеяньняў на Дняпры. Гэта магло простым шляхам прывесьці толькі да разрыву саюзу з татарамі і непрадказальных пэртурбацый на паўднёва-ўсходняй мяжы, чаго заўсёды баяліся ў Варшаве, калі разважалі над магчымасьцю заключэньня *armistitium* з Масквой, нават толькі для Літвы[31]. Адмаўляючы Жалябурскаму, палякі далей верылі ў посьпех Выгоўскага, падтрыманага татарамі і польскімі харугвамі. У Рэчы Паспалітай ня ведалі, што ў гэты час на Дняпры пазыцыя прапольскага гетмана імкліва набліжаецца да падзеньня.

Жалябурскага адправілі ў апошнія дні верасьня зь лістом да цара, у якім падтрымлівалася жаданьне распачаць у сярэдзіне лістапада камісію паміж Барысавам і Менскам з удзелам паўнамоцных паслоў абодвух бакоў. Былі таксама пастаўлены ўмовы правядзеньня пасольскіх сустрэч: патрабавалася, каб падчас іх ні царскія, ні каралеўскія войскі не набліжаліся да месца перамоваў. Абодва бакі мусілі мець толькі па 500 чалавек эскорту. Тлумачылася, што такім чынам хацелася пазьбегнуць паўтарэньня падзеяў пад Вільняй. Катэгарычна было запатрабавана прысылаць у тое месца прызначанага камісарам Гасеўскага. Да расчараваньня караля і сэнатараў, царскі пасол не хацеў падпісваць гэтых умоваў. Праз пару дзён, 1 кастрычніка да цара паслалі полацкага падкаморага Яна Корсака з падобным лістом. Толькі ў ім ужо непасрэдна пыталіся ў цара, ці намераны ён захоўваць агавораныя з Жалябурскім умовы наконт часу, месца, бясьпекі перамоваў, якіх ягоны пасол у Варшаве не пажадаў падпісаць. Прасілі хутка адказаць і на тое, ці цар увогуле намераны адпраўляць на гэты тэрмін сваіх паслоў[32].

Адмаўляючыся ад генэральнага *armistitium*, у Варшаве прынялі іншы спосаб стрымаць маскоўскі напор, пакуль працягваліся перамовы са швэдамі. Гэтае рашэньне ня зьвязвала б палякам рук ва Украіне і не раздражняла б крымскіх саюзьнікаў. Не прымаючы нявыгаднага ў той час для сябе і заўсёды непрыемнага для татараў рашэньня спыніць ваенныя дзеяньні супраць усходняга суседа, Рэч Паспалітая згадзілася на перамовы, якія тады былі вельмі патрэбныя і маскоўскім паслам. Напэўна, абодва бакі трактавалі іх інструмэнтальна, жадаючы толькі выйграць час. Расейцы, чакаючы праясьненьня сытуацыі на Дняпры, а палякі — хуткага выгаднага вырашэньня ў будучых перамовах са швэдамі, а таксама дасягненьня далейшых посьпехаў ва Украіне. Гэта дазволіла б ім заняць яшчэ мацнейшую пазыцыю на канчатковых перамовах ці ў вырашальнай барацьбе з Масквою за перавагу ў гэтай частцы Эўропы.

[32] Jan Kazimierz do Aleksego Michajłowicza, 18 IX 1659. RGADA. F. 79. № 110; ліст ад 1 X 1659. № 111.
[30] Jan Kazimierz do komisarzy, Gdańsk 28 I 1660. BCzart. 153. S. 126.
[31] J. Hlebowicz do B. Radziwiłła, Roś 3 IX 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 5226. S. 125.

Тым часам царскага адказу на ліст, пасланы разам з Жалябурскім, і на ліст, адпраўлены з Корсакам, давялося чакаць у Варшаве амаль цэлыя два месяцы. Аднак спачатку меліся вялікія надзеі: *«Перамоваў вельмі хочуць [расейцы. — Аўт.] і мы чакаем іх хутка, паколькі пасланец [Іван Жалябурскі. — Аўт.], які тут нядаўна быў, месца паміж Барысавам і Менскам, а час на пятнаццатага лістапада на размове агавары. Чакаем вяртаньня пана полацкага падкаморага, якая будзе царская заява, калі insistet [будзе настойваць] на гэтай размове. Наша шведзкая камісія таксама набліжаецца, прысланыя па нас шведзкія камісары. Мы ўжо згадзіліся наконт месца ў Аліве і на час дзясятага лістапада, на які дзень усе мы маем паўнамоцтвы зьехацца ў Аліву»*, — пісаў 23 кастрычніка нежывому ўжо тры дні літоўскаму абознаму Самулю Камароўскаму літоўскі канцлер К. Пац. Пры гэтым, ён дадаваў, што баіцца, каб *armistitium*, якое працягваецца ў Літве, не парушыў Нашчокін, што стаіць на Дзьвіне, ці Хаванскі, зь якім уласна і ўклаў замірэньне Павел Сапега. Для канцлера гэта быў доказ таго, наколькі важныя для Масквы былі перамовы, якія польскія і літоўскія дыпляматы адразу зьвязвалі з прыпыненьнем ваенных дзеяньняў[33].

У кастрычніку і ў наступныя тыдні ўсё больш відавочным было тое, што фартуна ва Ўкраіне цалкам адвярнулася ад Польшчы. З дня на дзень разьвіццё падзеяў там набывала ўсё больш небясьпечны паварот. Інтэрвэнцыя патрабавала выкарыстаньня моцных войскаў, а тыя ваявалі супраць шведаў у Прусіі. Пры гэтым трэба было там напружыць сілы, паколькі якраз на 10 лістапада быў вызначаны пачатак перамоваў са шведамі. Найбольш выгадна можна было весьці зь імі перамовы і заключаць мір, маючы як мага лепшую ваенную сытуацыю як на шведзкім, так і на маскоўскім фронце. З гэтай прычыны непакой, які выклікалі зьвесткі пра фатальнае разьвіццё падзеяў у Ўкраіне, прымушаў польскі бок шукаць пагадненьня з маскалямі, што дасягалі посьпехаў. Аднак у зноў зьмененай сытуацыі выгаднае для Рэчы Паспалітай магчымае хуткае замірэньне і перамовы страчвалі вартасьць для пераможнай Масквы. Непакой на каралеўскім двары ўзмацняла зацягнутае маўчаньне Масквы пасьля адпраўленя туды Яна Корсака. Ён меў вызначаны на 15 лістапада тэрмін распачацьця перамоваў, а разам зь ім і надзею на прыпыненьне ваенных дзеяньняў. Гэта разумелася як незацікаўленасьць расейцаў у вырашэньні канфлікту шляхам перамоваў. Такое меркаваньне пацьвердзілася, калі 20 лістапада была нарэшце атрыманая царская грамата[34]. Яна была вытрымана ў вельмі жорсткім тоне і поўная прэтэнзій да польскага караля ў яго варожых паводзінах да царскіх жаўнераў. Разам з назіранымі з пэўнага часу перамяшчэньнямі царскіх войскаў пад Полацкам і прыбыцьцём чарговых аддзелаў у Вільню гэта не абяцала нічога добрага і прымушала лічыцца з нарастаньнем ваенных дзеяньняў з боку Масквы. Таму Ян Казімер склікаў на 24 лістапада ваенную нараду ў Тухолях, дзе меркавалася заняцца вызначэньнем плянаў дзеяньня ў сувязі зь відавочным набліжэньнем небясьпекі з усходу[35].

Праз немагчымасьць адолець маскоўскую ваенную моц польскі манарх зноў перайшоў на больш мяккі тон, заяўляючы, што, як заўсёды, так і цяпер ён гатовы да перамоваў, якія датычаць заключэньня вечнага міру, якога ён заўсёды жадаў[36]. Прапаноўваў таксама, што набыло надзвычай істотнае для польскага боку значэньне, на час камісіі стрымліваць войскі абодвух бакоў ад усякіх збройных дзеяньняў. У працягу адказу на царскую грамату кароль выказваў непакой, што цару на самой справе ня

[33] K. Pac do S. Komorowskiego, Warszawa 23 X 1659. BCzart. 429. S. 226—227.

[34] Kopia listu Cara JMci do Króla JMci przez gońca Iwana Michajłowa w Novembrze 1659 posłanego. BCzart. 2104. S. 131—132.

[35] Jan Kazimierz do NN, Szubin 18 XI 1659. BCzart. 400. S. 253; Gazette de France. 1659. S. 1253.

[36] Jan Kazimierz do Aleksego Michajłowicza, Szubin 22 XI 1659. RGADA. F. 79. № 112.

так важны мір і *«братэрскае сяброўства»*, паколькі ягоныя войскі не перастаюць нападаць на каралеўскія землі і аддзелы ва Ўкраіне і ў Літве, бо ўсё новыя аддзелы прыбываюць з Полацку ў Вільню. Іншай прыкметай гэтага было маўчаньне расейцаў: з часу ад'езду пасольства Жалябурскага цар ня выказаўся наконт вызначанага ў Варшаве месца перамоваў і не прызначыў сваіх паўнамоцных паслоў на будучыя перамовы, у той час як Рэч Паспалітая даўно гэта зрабіла. Не было вядома, ці спазьненьне было выклікана цяжкасьцямі, зь якімі Корсак сутыкаўся па дарозе ў Маскву, да якой дабраўся праз доўгі час. Польскі бок папракаў цара таксама ў несправядлівых закідах, якія зрабіў у сваім лісьце каралю. Казалася, напрыклад, пра тое, што праз Жалябурскага ён падаваў у сваёй грамаце, каго прызначыў паўнамоцнымі пасламі, і тое, што кароль загадаў вельмі доўга затрымліваць у Варшаве Жалябурскага. Гэта не было праўдай, а зьяўленьне такіх абвінавачаньняў поруч з царскімі сьцьверджаньнямі, што дзеля ўласнай абароны ён высылае войскі з Полацку ў Вільню, прымусіла польскі бок сур'ёзна лічыцца з магчымым хуткім распачацьцем расейцамі збройных дзеяньняў у Літве.

Прынятая ў такой сытуацыі гульня каралеўскага двара была надзвычай простая. Меркавалася распачаць работу чарговай польска-маскоўскай камісіі, якая разважае над умовамі міру, а потым зацягваць яе нарады. З гэтай мэтай яшчэ восеньню былі пасланыя камісары, каб, чакаючы царскай заявы наконт распачацьця перамоваў, яны паволі набліжаліся да месца нарадаў. Пры гэтым быў вялікі разьлік на тое, што напярэдадні перамоваў цар згодзіцца прыпыніць ваенныя дзеяньні. Ніхто таксама ня верыў, што царскія дыпляматы выкажуць жаданьне якіх-небудзь уступак, асабліва пасьля шэрагу здабытых ва Ўкраіне перамог. Канфлікт мусіў вырашыцца на будучых палях бітваў. Найбольш істотным заданьнем камісіі было забясьпечыць на час яе правядзеньня прыпыненьне збройных дзеяньняў з боку Масквы, што дало б Рэчы Паспалітай час і магчымасьць пагасіць шведзкі канфлікт і падрыхтавацца да новай вайны. Гэтыя прынцыпы ў трактоўцы самой камісіі і намаганьняў пасланых на яе каралеўскіх камісараў будуць абавязваць на польскім баку да самага заключэньня міру са Швэцыяй і распачацьця польска-літоўскага наступу ў Літве ў чэрвені 1660 г.

Польскі двор у цяжкія месяцы пасьля восені ня быў у стане зрабіць нейкіх рашучых ваенных крокаў ва Ўкраіне. Слабыя войскі няспынна адступалі на захад пад напорам Масквы і казакоў. Аднак Рэч Паспалітая ніколі не намервалася адмовіцца ад Украіны і кіраўніцтва над казакамі. Таму ў пэрыяд пасьля падзеньня Выгоўскага вельмі важным актам для яе была прысяга ў вернасьці казацкіх паслоў ад імя Юркі Хмяльніцкага, прынесеная перад каралём і сэнатарамі ў лістападзе ў Шубіне ў прысутнасьці маскоўскіх паслоў, якія знаходзіліся там. Каб перацягнуць на свой бок казакоў і праявіць да іх вялікую прыхільнасьць, кароль не шкадаваў золата і срэбра, шчодра адорваючы паслоў, якія прыбылі з-пад Дняпра[37]. Казацкае пасольства было выслане ад імя маладога Хмяльніцкага хутка пасьля таго, як скінулі Выгоўскага, і тады яшчэ казакі хінуліся да Польшчы. Але перш чым яно зьявілася да Яна Казімера, казацкі гетман у Пераяславе адкрыта стаў па маскоўскім баку. Хоць самі расейцы і маскоўскія казакі, што стаялі па іхнім баку, у пазьнейшыя месяцы не хацелі чуць пра гэтую прысягу, яна дала моцны аргумэнт у рукі польскай дыпляматыі, які добра выкарыстоўваўся ў спрэчках з Масквою наконт права панаваць над казакамі, а таму і над Украінай.

Аднак пакуль што посьпехі, якіх восеньню Масква дасягнула ва Ўкраіне, зусім не мабілізоўвалі яе сьпяшацца з распачацьцем перамоваў. Крызыс, выкліканы паразай пад Канатопам, неспадзявана хутка мінуў, а падзеньне Выгоўскага аддало большую частку Ўкраіны ў рукі цара. Пераяслаўская дамова ад 27 кастрычніка толькі

замацавала нязвыклы маскоўскі посьпех. Завяршэньне аваloданьня гэтай краінай давала ёй мацнейшую пазыцыю ў будучых перамовах з Польшчай, бо Масква ставіла яе перад зьдзейсьненым фактам захопу большасьці спрэчных тэрыторый. Умацаваўшыся на Дняпры, расейцы 24 лістапада адправілі з Масквы ліст да Рэчы Паспалітай, у якім згадзіліся на зьезд вялікіх і паўнамоцных пасло ў абодвух бакоў паміж Менскам і Барысавам. Зрабілі гэта пасьля таго, як да Масквы дабраўся каралеўскі пасланец Ян Корсак. Ён прыбыў зь вялікім спазьненьнем з прычыны шматлікіх перашкод на шляху, які вёў праз неспакойныя землі. Прызначаная раней на 15 лістапада дата камісіі была ўжо пратэрмінаванай. Таму расейцы прапанавалі перасунуць у часе яе распачацьце, а наконт месца мусілі паведаміць каралеўскаму двару. Царскай інфармацыі давялося вельмі доўга чакаць, бо толькі 2 студзеня 1660 г. з Масквы паслалі рашэньне распачаць перамовы ў лютым пад Барысавам. Маскалі прапаноўвалі таксама спыніць войскі абодвух бакоў ад дня пачатку перамоваў на пэрыяд іх правядзеньня. Пры гэтым яны зьдзіўляліся, чаму кароль адкінуў прапанаванае нядаўна Жалябурскім замірэньне, калі цяпер так прагне яго[38].

Маскоўская прапанова, зробленая ў гэты момант, мела сваю асаблівую важнасьць. Ужо ў кастрычніку, а можа, яшчэ і ў верасьні, цар аддаў загад вайсковаму дасьведчаных войскаў наўгародзкага разраду Івану Хаванскаму, каб ён з Полацку ішоў з войскам у Вільню[39]. Гэта мусіла стаць пачаткам шырокага маскоўскага наступу ў Вялікім Княстве Літоўскім. У сваёй кастрычніцкай грамаце да полацкай шляхты Аляксей Міхайлавіч тлумачыў сваё рашэньне неабходнасьцю пакараць польскага караля і прымусіць яго да міру, бо ён адкінуў прапанаванае яму *armistitium* і разьлічваў на дапамогу *«проклятого изменника»* Выгоўскага. Цар казаў, што пасылае ў Вільню князя Хаванскага, каб той змагаўся супраць палякаў. Полацкай шляхце было дадзена даручэньне падпарадкавацца яму і даць вайсковую дапамогу. Войскі вырушылі зь Дзьвіны каля сярэдзіны лістапада, якраз тады, калі паводле першапачатковых узгадненьняў мусілі распачацца перамовы, а таксама перад тым, як Корсаку ў Маскве прапанавалі іх новы тэрмін і замірэньне.

Расейцы ведалі з досьведу, што праз адны перамовы, якія вядуцца нават з пазыцыі пераможцы, няма шанцаў прымусіць Рэч Паспалітую адступіцца ад яе патрабаваньняў. Калі сытуацыя ва Украіне павярнулася на іх карысьць, на гэты раз яны вырашылі весьці перамовы разам з далейшым наступам сваіх войскаў у глыб зямель Рэчы Паспалітай. Асаблівую ролю тут павінен быў адыграць марш у напрамку літоўскіх зямель. На такое разьвязаньне наважыліся ў Крамлі прыблізна за месяц да ўзгодненага на 15 лістапада тэрміну распачацьця перамоваў з каралеўскімі камісарамі. Мэтай гэтых дзеяньняў была канчатковая перамога польска-літоўскай дзяржавы, каб ёй можна было дыктаваць свае ўмовы. У Маскве ведалі, што, як і ў мінулыя гады, каралеўскі двор, паглынуты вайной са Швэцыяй, не пашле ў Літву сур'ёзных падмацаваньняў. Добра вядомы былі таксама і настроі ў Літве, вельмі незадаволенай каралеўскай палітыкай, і мары многіх сэнатараў і шляхты закончыць безнадзейную вайну нават коштам значных уступак, а таксама вярнуцца дамоў. Расейцы ведалі і пра зьняверанасьць ліцьвінаў наконт магчымасьці перамагчы Маскву. Гэта давала вялікія надзеі на адсутнасьць супраціву з боку і так ужо вельмі пагарджанага літоўскага праціўніка. Здаючы сабе спра-

[37] K. Pac do B. Radziwiłła, Gdańsk 12 XI 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 11208/II. S. 173; AMG. T. III. № 40/3. S. 46.

[38] Kopia listu od Ichmciów PP Wielkich i Pełnomocnych Posłów i Kommisarzów Jego Carskiej Mości do Ichmciów PP Kommisarzów JKMci i całej Rzplitej, Moskwa 24 XI 1659. BCzart. 152. S. 389—390; Kopia listu podkomorzego połockiego [Jana Korsaka] z Moskwy, Moskwa 6 XII 1659. Тамсама. S. 407—408; Kopia hramoty Cara... Moskwa 23 XII 1659 (2 I 1660). Тамсама. S. 457.

ву з усіх гэтых козыраў, расейцы не намерваліся спыняць збройнага націску на Рэч Паспалітую. Ваенныя дзеяньні, якія распачыналіся позьняй восеньню 1659 г., мусілі стаць працягам ранейшых як на літоўскім, так і на ўкраінскім фронце. Надзею на рэалізацыю шырокіх маскоўскіх намераў даваў факт працягу вайны Рэчы Паспалітай са Швэцыяй. Позьняй восеньню Масква здавала сабе справу, што з выдатнай дапамогай францускай дыпляматыі распачацце польска-швэдзкіх перамоваў — гэта толькі справа найбліжэйшага часу. Царскія дыпляматы пільна і зь непакоем вылоўлівалі ўсю інфармацыю пра іх разьвіцьцё. Калі б Рэчы Паспалітай удалося хутка ўкласьці мір са Швэцыяй, яна магла б выкарыстаць усе сілы супраць Расеі. А тая мела са Стакгольмам толькі замірэньне да канца 1661 г. Зробленыя восеньню 1659 г. спробы зьмяніць яго ў трывалы мір разьбіліся аб рашучую швэдзкую адмову. Гэта выклікала ў Крамлі вялікі непакой наконт бясьпекі з боку Швэцыі, калі б ёй удалося ўкласьці мір з Рэччу Паспалітай. Ніхто ня мог гарантаваць, што ў той час вызваленыя з польскага фронту моцныя швэдзкія арміі ня рушаць супраць Расеі, аслабленай няскончанымі войнамі з Рэччу Паспалітай і татарамі, каб адабраць у яе страчаныя ў Інфлянтах землі. Страта часу была нявыгаднай для Масквы. Жадаючы дасягнуць сваіх мэтаў, яна мусіла сьпяшацца на ваенным полі, каб яшчэ перад выхадам Рэчы Паспалітай з швэдзкай вайны нанесьці ёй вырашальны ўдар, нават стварыць пагрозу яе існаваньню, паставіць на калені, прымусіць аддаць, прынамсі, Украіну і Беларусь і прыняць іншыя царскія ўмовы. У зьмененай так істотна на карысьць Масквы сытуацыі зрыў перамоваў 15 лістапада быў для яе вельмі выгаднай акалічнасьцю. Прапануючы Корсаку перамовы і *armistitium* ужо пасьля гэтага дня і толькі праз нейкі неакрэсьлены час, Масква мела сур'ёзныя надзеі на дасягненьне яшчэ большых і вырашальных ваенных посьпехаў да таго часу. Пачатак перамоваў і прыпыненьне ваенных дзеяньняў на час правядзеньня перамоваў павінен быў засьпець царскія арміі глыбока ў літоўскіх і каронных землях, на якія Аляксей Міхайлавіч прэтэндаваў, пры тым што ўжо былі занятыя раней.

Удар у літоўскім і ўкраінскім напрамках абяцаў вялікія надзеі. Ва Ўкраіне яшчэ восеньню 1659 г. маскоўскія і казацкія войскі занялі значны абшар яе правабярэжнай часткі, сьпіхваючы слабыя і збунтаваныя каронныя аддзелы на Валынь, адкуль ужо недалёка да ЛюблінШчыны і Падляшша[40]. Але менавіта па літоўскім напрамку з апорай на царскія залогі ў Вільні і Коўне можна было найхутчэй дасягнуць сэрца Рэчы Паспалітай — на Падляшша і Мазовіі з Варшавай. Што найважнейшае, на гэтым шляху ў канцы 1659 г. не было ніякіх сур'ёзных каралеўскіх сілаў, і цяжка было спадзявацца на іх хуткае прыбыцьцё туды. Мэты, якія ставіліся позьняй восеньню 1659 г. маскоўскім наступальным дзеяньням, былі добра абдуманыя. Расейцы ў прынцыпе адмаўляліся ад маршу на Курляндыю. А ўсё ж, калі б яны хацелі мілітарна зьнішчыць сілы праціўніка, нашмат лепшым быў бы тады ўдар Хаванскага і Нашчокіна на літоўскія войскі левага крыла і Палубінскага, якія стаялі там. Аднак тады існавала рызыка зацягваньня змаганьняў з колькасна моцным праціўнікам дзесьці на краях польска-літоўскай дзяржавы, як гэта ўжо здаралася там у пачатку 1659 г., калі пры атацы маскоўскія сілы былі акружаныя пад Чадосамі[41]. На гэта не было сілаў, а асабліва часу. Тады была б страчана і магчымасьць далей прыгнесьці і ўсхваляваць настроі ліцьвінаў, а таксама зрабіць на Рэч Паспалітую ашаламляльнае ўражаньне, якое ствараў імклівы ўдар амаль у яе сэрца з пагрозай сталіцы ўключна. Вось гэтаму дасканала адпавядаў падляскі і мазавецкі напрамак, амаль цалкам пазбаўлены войскаў. Трэба было толькі пастарацца

[39] VS. № 53. S. 114—116.

[40] I. Wyhowski do Jana Kazimierza, Dubno 11 XII 1659 // Materyały do historji Małey Rossyi. № LXXXVIII.

[41] Разумеў гэта М.К. Пац, гл.: M.K. Pac do A.H. Połubińskiego, Bowsk 6 I 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 11209/I. S. 109.

затрымаць моцную групу харугвы Паца і Палубінскага ў Курляндыі. Імклівы зьнішчальны рэйд, а таксама злучэньне з маскоўскімі і казацкімі войскамі, якія ішлі ў тым самым напрамку з Украіны, пагроза Варшаве, а нават яе зьнішчэньне — усё гэта магло даваць надзею на дасягненьне выгаднейшых пазыцыяў у вайне з Рэччу Паспалітай. Гэтак маскоўскія намеры разумеў і польскі бок. Ужо ў сярэдзіне сьнежня на каралеўскім двары вельмі выразна здавалі сабе справу з намераў непрыяцеля авалодаць Берасьцем і дайсьці пад Варшаву[42].

Абодва бакі цудоўна ўсьведамлялі, што лёс ня толькі ўкраінскіх зямель, але таксама беларускіх і літоўскіх можа вырашыцца толькі ў непасрэднай вайне Рэчы Паспалітай з усёю моцай маскоўскай дзяржавы. Восеньню 1659 г. маскоўская дзяржава была гатовая да чарговых дзеяньняў супраць заходняга суседа, хоць пачынала ўсё больш адчуваць стомленасьць шматгадовымі войнамі[43]. Цяжкасьці паглыбляла страта значнай колькасьці найлепшых аддзелаў царскай арміі пад Канатопам. Яе кампэнсавала вызваленьне ад вайны са Швэцыяй, падаўленьне паўстаньня ў Беларусі і дастаткова лёгкае вяртаньне Украіны. Здабытая перавага павінна была прынесьці вырашальную перамогу, а блізкія перамовы — толькі пацьверджаньне палякамі і ліцьвінамі выгадных рашэньняў, навязаных царскімі арміямі.

Напярэдадні ваенных крокаў расейцаў зьявіўся іншы тон у маскоўскіх выказваньнях, якія павінны былі падаць прычыну іх удару, і яна была выразна сфармуляваная адразу пасьля распачацьця наступу. У адрас караля і Рэчы Паспалітай рабіўся шэраг закідаў, зь якімі ўжо раней пазнаёмілася полацкая шляхта. Згадвалася таксама, што атака Хаванскага адбудзецца ў выніку збройных правакацыяў літоўскіх войскаў, якія няспынна рабілі вылазкі на завяваныя яшчэ ў 1655 г. царом паветы. Атака апраўдвалася і мэтай вярнуць тыя завяваныя царскімі салдатамі землі, зь якіх іх выгналі ліцьвіны. Яшчэ раз польскі бок папракаўся ў адкіданьні нядаўна прапанаванага яму царскімі пасламі *armistitium*[44]. Аднак расейцы забываліся, што і ім таксама здаралася не згаджацца з польскімі прапанаваньнямі замірэньня. У сваю чаргу палякаў вельмі закранула, што Масква зрабіла ваенныя крокі ў момант, калі трэба было сядаць за перамовы. Трэба прызнаць, што цар заўсёды мог апраўдацца, спасылаючыся, што каралеўскі пасол прыбыў у Маскву ўжо пасьля тэрміну распачацьця перамоваў. Аднак фактам застаецца, што наступ Хаванскага плянаваўся ўжо ў кастрычніку, калі фармальна нішто не перашкаджала распачацьцю перамоваў 15 лістапада.

Трагічныя зьвесткі зь Літвы і Падляшша, якія наплывалі на каралеўскі двор з канца лістапада, не былі ў стане зьмяніць прынятай там лініі паводзін. Надалей абсалютнае першынство мелі швэдзкія справы. Гэта знаходзіла пацьверджаньне нават у сталым знаходжаньні Яна Казімера на Памор'і да самага пачатку траўня 1660 г. Гэтая праграма не пахіснулася нават у найбольш грозны перыяд пачатку 1660 г., калі загоны Хаванскага небясьпечна блізка падышлі да сталіцы Рэчы Паспалітай, а сярод ліцьвінаў узмоцніліся роспачныя патрабаваньні аказаць ім збройную дапамогу ці пайсьці на ўступкі Маскве. Пэўным аптымізмам запахла ў канцы 1659 г., калі было вырашана перасунуць бліжэй да літоўскіх межаў дывізію Чарнецкага, якая вярнулася з Даніі. Яна зьявілася там разам са сваім вайскаводцам на мяжы студзеня і лютага

[42] Гл.: Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Gdańsk 17 XII 1659. LvNB. Fond 103. № 1731; Komisarze do K. Paca, Sielce 12 XII 1659. BCzart. 152. S. 428; Komisarze do Jana Kazimierza, Sielce 13 XII 1659. Тамсама. S. 438. AMG. T. III. № 52. S. 56—57.

[43] Гл.: Wójcik Z. Dzieje Rosji 1533—1801. Op. cit. S. 153—158.

[44] VS. № 53. S. 114; Respons I.A. Chowańskiego dla Komisarzy Rzeczypospolitej, w obozie pod Grodnem 24 XII 1659. BCzart. 152. S. 454; параўн.: Komisarze Litewscy do Komisarzy Koronnych, Sielce 4 I 1660. BCzart. 153. S. 19; M.K. Pac do B. Radziwiłła, Bowsk 1 I 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 11209/II. S. 2—3.

1660 г. Аднак веснавое бязьдзеяньне сабраных на Падляшшы і Мазоўшы войскаў Чарнецкага і літоўскіх Сапегі ў дачыненьні да зьнішчальных рэйдаў арміі Хаванскага на Навааградчыне зноў ажывілі ў Літве настроі, поўныя паражэнства і крытыкі паводзінаў караля.

Сярод узаемных абвінавачваньняў у правакацыі чарговай хвалі ваенных дзеяньняў у Вялікім Княстве Літоўскім абодва бакі ўрэшце дайшлі да пагадненьня наконт распачацьця перамоваў. Прадстаўнікі бакоў мусілі зьехацца паміж Барысавам і Менскам, а наконт канкрэтнага месца расейцы мусілі паведаміць каралеўскім камісарам. Камісары, прызначаныя соймам на перамовы яшчэ вясной, былі гатовыя да перамоваў ужо на першы тэрмін 15 лістапада. Цяпер жа яны вырашылі ад канца гэтага месяца чакаць у Сяльцы (у Берасьцейска-Літоўскім ваяводзтве, каля 40 км на паўночны ўсход ад Кобрыну) абяцаных царскім паслом зьвестак пра час і месца спатканьня. Рэч Паспалітую доўгі час рэпрэзэнтавалі толькі тры літоўскія камісары. Гэта былі Юры Глябовіч, Крыштап Завіша і Цыпрыян Бжастоўскі, якія няспынна дамагаліся прыбыцьця каронных калегаў. Толькі ў лютым да іх далучыўся кандыдат на Менскую кашталянію Станіслаў Сарбеўскі, а раньняй вясной прыбыў чарговы каронны камісар Геранім Вяжбоўскі[45].

Прыняўшы прапановы перамоваў, цар прызначыў таксама сваіх вялікіх і паўнамоцных паслоў на іх. Гэта быў: бліжні баярын, астраханскі ваявода і намесьнік, князь Мікіта Іванавіч Адоеўскі, які стаяў на чале маскоўскай дэлегацыі. Спадарожнічалі яму баярын і смаленскі намесьнік Пётар Васілевіч Шарамецьеў, мурамскі баярын і намесьнік князь Фёдар Фёдаравіч Валконскі, пасольскі думны дзяк Алмаз Іваноў і дзяк Васіль Міхайлаў[46].

У апошні месяц 1659 г. паслоў абодвух бакоў падзяляла вялізная адлегласьць. Паміж імі, а ў прынцыпе паміж усталяваным месцам перамоваў і камісарамі Рэчы Паспалітай адбываўся зьнішчальны маскоўскі наступ Хаванскага. Ягоная армія адзначала адзін посьпех за другім, а на вачах бездапаможных літоўскіх прадстаўнікоў Рэчы Паспалітай гінула іх айчына і рэшткі свабодных зямель Вялікага Княства.

[45] Komisarze do P. Sapiehy, Sielce 20 II 1660. BCzart. 153. S. 359; Komisarze do Jana Kazimierza, Mińsk 7 IV 1660. Тамсама. S. 615.

[46] Wielcy i Pełnomocni Kommisarze Cara Jego Mości do Kommisarzy JKMci, Moskwa 24 XI [4 XII] 1659. BCzart. 152. S. 389.



**Літоўскі драгун.**

# V. Колькасьць войскаў у першы пэрыяд змаганьняў у Літве (лістапад 1659—1660)

Вызначэньне колькасьці маскоўскіх і польска-літоўскіх войскаў, якія зь лістапада 1659 г. да чэрвеня 1660 г., уключаючы ў гэты пэрыяд таксама бітву пад Палонкай, бралі ўдзел ва ўзаемным процістаяньні — нялёгкае заданьне. На складанасьці з вызначэньнем іх агульнай колькасьці ў значнай ступені паўплывала ў польскай гістарыяграфіі аўтаматычнае прыняцьце бязь ценю крытыкі зьвестак, перададзеных польскімі мэмуарыстамі, якія ўдзельнічалі ў бітве пад Палонкай, і тых, што захаваліся ў сьведчаньнях, напісаных адразу пасьля яе. Можна сказаць, што яны «пайшлі ў сьвет», і былі прынятыя за чыстую манэту зьвесткі пра вялікую колькасьць маскоўскіх войскаў, якія дасягалі 22—25 тысяч жаўнераў або нават 40 тысяч[1]. Першым з польскіх дасьледчыкаў, які выразіў пэўныя сумненьні наконт гэтай ацэнкі, быў Віктар Чэрмак, які пісаў пад канец XIX стагодзьдзя на старонках «Przeglądu Polskiego». Ён прыняў колькасьць арміі Хаванскага на 14—15 тыс., а яго праціўнікаў — на 8 тыс.[2]. Аднак у наступныя гады дасьледчыкі, выкарыстоўваючы ягоны набытак, не зважаючы на ягоныя сумненьні і вызначэньні, вярнуліся да старых ацэнак. Новы, крытычны погляд на велічыню задзейнічаных у гэтым змаганьні войскаў паходзіць ад гісторыкаў вайсковай справы апошніх дзесяцігодзьдзяў. Былі адкінутыя адназначна фантастычныя лічбы мэмуарыстаў, а таксама падкарэктаваныя дадзеныя Чэрмяка. Дык якія ж войскі і ў якой колькасьці ўзялі ўдзел у першым пэрыядзе кампаніі 1660 г. на Літве?

Перш чым на літоўскім тэатры зьявіліся каронныя войскі Чарнецкага, там дзейнічалі выключна літоўскія адзінкі. Аднак трэба памятаць, што дывізія левага крыла, якая складала каля паловы рэестравых літоўскіх сілаў, змагалася ў паўночнай Жамойці і Курляндыі галоўным чынам супраць швэдаў. Акрамя спарадычных выпадкаў да лета 1660 г. яна не была задзейнічаная ў актыўнае змаганьне супраць маскоўскіх войскаў. Зь лета 1659 г. у яе пад бокам знаходзілася шматлікая група адзінак правага крыла, якой камандаваў Аляксандар Палубінскі. Мы маем толькі пералік харугваў, якія пайшлі ў Курляндыю, а таксама зьвесткі пра тыя, якія далучыліся да іх зь левага крыла, калі Палубінскі пачаў вяртацца на Падляшша. Няма затое зазначанай пры іх колькасьці жаўнераў, якія заставаліся пад паасобнымі штандарамі. Аднак ёсьць прыпіска, што ўсе яны былі добра ўзброеныя і забясьпечаныя[3]. Акрамя жаўнераў, валачыліся зь імі *«процьма жонак і дзяцей, і шляхты пайшло, і куды б ні пайшлі, заставаліся агонь і вада»,* — апісваў верны слуга князя Багуслава Стэфан Аборскі, які наглядаў з Кейданаў пераход корпусу палявога пісара. А ён мог добра прыглядзецца да тых жаўнераў, паколькі яны не даравалі гэтаму гораду і дамагліся ад яго 1500 зл. дамоўленасьці, ці, кажучы непасрэдна, водкупу за тое, што не абрабуюць горад і навакольныя ўладаньні[4].

---

[1] Гл.: Z pod Kojdanowa de data 2 Julii rano 1660. Wiadomość od Jmci P. Sapiehy Hetmana WXLitt. BJag. № 5. S. 747; Zwycięstwo z Moskwy... BOssol. 189. S. 1175; А. Скорабагаты (A. Skorobohaty, S. 128, 138) пісаў пра 35 тыс. Diariusz / Opr. T. Wasilewski. Warszawa, 2000. S. 81; Pasek J. Pamiętniki / Opr. W. Czaplicski. Wrocław, 1968. Апісваючы бітву, спачатку казаў пра перамогу палякаў і ліцьвінаў над 40-тысячнай арміяй, а ў канцы павысіў яе колькасьць да 46 тыс.

[2] Czermak W. Szczęśliwy rok. Dzieje wojny moskiewsko-polskiej z r. 1660 // Przegląd Polski. T. 82 (1886). S. 501—533; t. 83 (1887), s. 66—94; t. 83 (1887), s. 488—520. Колькасьць войскаў у t. 83, s. 488 і 496.

[3] Comput Chorągwi ordinowanych z Obozu z pod Giegużyna do Curlandiey. AGAD. AR. Dz. V. № 11208 I. S. 156—157.

[4] S. Oborski do B. Radziwiłła, b.m.d. [Kiejdany VIII 1659]. VUB. F. 4 (A—209). № 16465; J. Hołownia do B. Radziwiłła, Kiejdany 6 VIII 1659. Тамсама. № 16469.

Выкарыстоўваючы кампуты літоўскага войска з часоў вайсковай канфэдэрацыі ў 1661—1663 г. і захаваных скарбавых рахункаў, якія вяліся ў той пэрыяд, можам паспрабаваць прыблізна акрэсьліць колькасьць войска, якое пад Палубінскім апынулася ў Курляндыі, а потым адтуль вярнулася на Падляшша, каб прыняць удзел у змаганьнях з Хаванскім. Пры гэтым трэба памятаць, што існаваў звычай завышаць фактычную лічбу жаўнераў пад харугвамі.

Корпус Палубінскага складаўся з 2 гусарскіх харугваў, 17 казацкіх, дзьвюх татарскіх, дзьвюх вугорскай пяхоты і 10 драгунскіх адзінак. Паводле падлікаў А. Рахубы, ён налічваў 4,5 тыс. чалавек[5]. Некаторыя з прызначаных пад Гегужынам не пайшлі ў Курляндыю, а некаторыя пазьней былі адтуль завернутыя. Ужо 28 ліпеня Сапега патрабаваў, каб Палубінскі пакінуў адну казацкую харугву, а таксама вугорскія харугвы Багуслаўскага і Дзяткоўскага, хоць апошняга мы бачым пазьней пад камандаваньнем палявога пісара ў Курляндыі[6]. Затое ў верасьні Сапега прасіў прысылаць яму панцырную харугву на чале з паручнікам Янам Яцкам Агінскім, ваўкавыскім маршалкам. Яна прыбыла, паколькі 28 сьнежня была разагнаная ў Крынках жаўнерамі Хаванскага[7]. Дзьве драгунскія харугвы Юр'я Глябовіча былі выкарыстаныя як суправаджэньне камісараў, што вялі нарады з маскоўскімі пасламі. Адной харугвай камандаваў капітан Ян Нэйштад, а другой — капітан-лейтэнант Антоні Арэнса[8]. Скіроўваючыся ў бок Літвы, Палубінскі пакінуў у Мітаве ў залозе шматлікі рэгімэнт абэрштэра Брэмэра[9]. Раней вялікі гетман прасіў Палубінскага, каб здабытую Гульдынгу ён абавязкова ўкамплектаваў сваімі людзьмі, і ўказваў на аддзелы Бокума, якому таксама пісаў наконт гэтай справы[10]. Падчас змаганьняў у Курляндыі адпраўленыя туды адзінкі ў выніку холаду, голаду і дэзэртаваньня панесьлі пэўныя страты, але затое разам зь імі прыйшлі пэўныя аддзелы, якія адарваліся ад левага крыла М.К. Паца. Гэта былі казацкая харугва Станіслава Ліпніцкага, дзьве драгунскія і рэйтарская Аляксандра Вітынгофа[11]. Пры гэтым трэба памятаць, што ня ўсе жаўнеры Ліпніцкага згаджаліся зь ягоным рашэньнем адысьці з-пад камандаваньня Паца і пайшлі за сваім камандзірам. Ягоны харужы Раман Геранім Твароўскі-Бучацкі разам зь вялікай колькасьцю людзей Ліпніцкага застаўся на месцы і наняўся як паручнік казацкай харугвы Рыгора Казімера Падбярэскага, упіцкага старасты[12].

Па дарозе да зямель Падляшша адбываліся сутычкі з маскоўскімі аддзеламі, а ў канцы лютага праз няўдачу былі страчаныя дзьве драгунскія харугвы, якія падчас спробы абмяняць палонных у Дзярэчыне падступна ўзяў у няволю Хаванскі[13]. Аддзелы Палубінскага панесьлі чарговыя пэўныя страты падчас сакавіцкага нечаканага

[5] Poczobut Odlanicki. S. 45. Rachuba A. (Konfederacja kmicicowska... S. 28) кажа пра 4 тыс. жаўнераў, але, згадваючы пра тых, хто не пайшоў у Курляндыю. Старэйшы дасьледчык К. Марцінкоўскі (K. Marcinkowski) ацэньваў іх прыблізна ў 5 тыс. Гл.: Stefan Czarniecki. Wódz — mąż stanu — 1660. Od Poznania, Gdańska, Warszawy, Łucka do Połonki i Lachowicz. Filadelfia, 1977. S. 10—11.

[6] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, Merecz 28 VII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/III. S. 21; гл.: ліст ад 14 X 1659. Тамсама. S. 64.

[7] K. Pac do B. Radziwiłła, Gdańsk 8 I 1660. Тамсама. № 11208/I. S. 191; таксама ліст да А.Г. Палубінскага ад 12 I. S. 193.

[8] Assekuracja Ichmościów Panów Kommisarzów dana Jegomości Panu Janowi Neysztadowi kapitanowi JKMci i Jegomości Panu Antoniemu Arnessowi Kapitanleitnantowi Jaśnie Wielmożnego Jmci Pana Starosty Xięstwa Żmudzkiego w Mińsku, dnia 9 maja 1660 roku. BCzart. 154. S. 89—90.

[9] A.H. Połubiński do B. Radziwiłła, Mitawa 11 I 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 12080/I. S. 29

[10] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, Słonim 14 X 1659. Тамсама. № 13868/III. S. 63, 65.

[11] M.K. Pac do B. Radziwiłła, w obozie pod Bowskiem 27 I 1660. Тамсама. № 11209/I. S. 150; A.H. Połubiński do P. Sapiehy (на адвароце ліста П. Сапегі да А.Г. Палубінскага з Варшавы 16 II 1660). Тамсама. № 13868/IV. S. 23; Rachuba A. Konfederacja Kmicicowska. Op. cit. S. 50.

[12] K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 11 III 1660. BPAN Kr. 4011. K. 45; ліст ад 19 III 1660. K. 47.

нападу на іх часткі войскаў Хаванскага. Аднак тыя харугвы, зь якімі гэта здарылася, былі ня столькі зьнішчаныя, колькі расьсеяныя і хутка здолелі сабрацца. У пазьнейшы пэрыяд, які папярэджваў пачатак польска-літоўскага наступу, адмоўна на стан гэтых адзінак паўплывалі дзеяньні кміцічоўскай канфэдэрацыі. Усе гэтыя страты з шэрагаў корпусу Палубінскага можна груба ацаніць на больш чым тысячу чалавек. Аднак цяжка сказаць што-небудзь пэўнае пра павелічэньне гэтых сілаў у выніку праведзенай вэрбоўкі ці найманьня новых таварышаў пад харугвы. Такая зьява напэўна існавала і ў нейкай ступені кампэнсавала панесеныя страты.

Таму, зыходзячы зь лічбы 4,5 тыс. жаўнераў, якіх было заплянавана выслаць на дапамогу леваму крылу, беручы пад увагу вяртаньне некалькіх харугваў і ўсе страты, а таксама далучэньне некалькіх адзінак, можна, на маю думку, прыняць, што з Палубінскім з Курляндыі вярталася каля 3,5 тыс. жаўнераў.

Чарговае пытаньне датычыць войскаў, якія позьняй восеньню засталіся на Падляшшы і заходніх літоўскіх землях пасьля адыходу корпусаў Сасноўскага і Палубінскага. Трэба прызнаць, што вызначэньне колькасьці гэтай групы войскаў прыносіць найбольш цяжкасьцяў. У кожным разе сілы, якія гетман пакінуў пад сваім камандаваньнем, былі сьціплыя, а да таго ж раскіданыя ў беспарадку на вялікім абшары ад Вільні да Палесься. Вось ім нечакана і давялося прыняць на сябе націск маланкавага ўдару нашмат большых маскоўскіх сілаў.

Акрамя корпусу Палубінскага летам 1659 г. гетман адправіў са свайго крыла дзесяць зь нечым харугваў пад камандаваньнем полацкага кашталяна Яна Сасноўскага пад Стары Быхаў. Мы ня ведаем колькасьці гэтага корпусу[14]. Пасьля пары месяцаў знаходжаньня на Меншчыне, маршу пад Магілёў, пасьля няспынных бунтаў і самавольнага разыходжаньня аддзелаў на кватэры чарговы пасьля зьнясіленага хваробай Сасноўскага камандзір гэтага корпусу Міхал Лявон Абуховіч быў у стане вырушыць назад да Падляшша зь сіламі 8 казацкіх і 5 драгунскіх харугваў. Іх колькасныя станы пасьля гэтых пераходаў былі напэўна нашмат ніжэйшыя, чым дэклараваныя ў наймальных лістах. Разам іх можна ацаніць прыблізна ў 1 тыс. чалавек. Перш чым яны злучыліся з рэштай сілаў Сапегі, у студзені 1660 г. яны былі разьбітыя пад Малеччу і страцілі 250 забітых жаўнераў, не беручы пад увагу ўзятых у палон. Тыя адзінкі, якія з гэтай групы дайшлі ўрэшце да лягеру Сапегі, мусілі налічваць найбольш некалькі соцень чалавек і ўяўлялі сабою гаротны стан як у адносінах колькасьці жаўнераў, так і іх якасьці.

Яшчэ раней, перш чым дайшло да дзьвюх выправаў, Сапега паслаў вайсковую падтрымку Самулю Аскірку, які змагаўся з Масквою на паўднёва-ўсходніх літоўскіх ускраінах[15]. Гэтыя апэрацыі прынесьлі надзвычай значныя страты адзінкам, што бралі ў іх удзел. Трэба памятаць, што пры Аскірку, напэўна, увесь час была казацкая харугва колькасьцю 150 коней, пералічаная ў кампутах правага крыла, а таксама ягоная драгунская харугва колькасьцю 120 коней, прыпаведні ліст* на якую ён атрымаў 10 сьнежня 1659 г., а яе служба павінна была адлічвацца з 9 лютага 1660 г. Аднак яна не зьяўляецца ў кампутах, якія, акрамя гэтага, склаў Мэдэкша[16]. У кожным разе зьмешчаная ў сьпісах харугвы правага крыла казацкая харугва ці драгунскія харугвы Аскіркі не ўзялі ўдзелу ў змаганьнях з Хаванскім на Падляшшы, куды іх заклікаў у лютым Сапега[17].

---

[13] Komisarze do Jana Kazimierza, Słonim 11 III 1660. BCzart. 153. S. 464; Komisarze do posłów moskiewskich, Słonim 12 III 1660. Тамсама. S. 485.

[14] К. Марціноўскі (K. Marcinowski, S. 10—11) ацэньваў яго ў 2 тыс. жаўнераў.

[15] Vorbek-Lettow. S. 284.

* Прыпаведні ліст — ліст, які давернік, напр., кароль, князь, горад, дае вайскаводцу з дазволам праводзіць вэрбаваньне акрэсьленай мэтай. — *Заўв. перакл.*

[16] LVIA. SA 3410. K. 334; RGADA. Fond 389. № 135. S.104—105; Medeksza. S. 252.

Яны заставаліся на ўсходнім Палесьсі непадалёк ад Слуцку нават на працягу пэўнага часу пасьля заканчэньня наступу каралеўскіх войскаў.

А вось тая частка правага крыла, якая засталася пры гетману, расьсеяная па вялікім прасторы, была разьбітая і зазнала вялікія страты падчас рэйду Хаванскага. Яны былі панесеныя ў сутычках на Мыще, у Крынках і ў Заблудаве. Невядома, колькі латнікаў і колькі жаўнераў было схоплена падчас праходжаньня царскіх войскаў праз заходнюю Літву і Палесьсе і ўчыненага там паляваньня на людзей. Балючыя страты не абмінулі таксама залогі Горадні і Берасьця, у фартэцыі якога была выразаная ўся, прынамсі, 300-асабовая залога.

Страты ў шэрагах былі панесеныя таксама ў выніку іншых падзеяў і меншых змаганьняў. Так адбылося, напрыклад, падчас нечаканага вяртаньня Хаванскага на Падляшша ў пачатку сакавіка 1660 г. пад блякаванымі вясной маскоўскімі залогамі ў Горадні і Берасьці ці пры нагодзе адпраўкі разьездаў да пазыцыяў Хаванскага. Трэба згадаць яшчэ пра адзін фактар, які дадаткова аслабляў колькасьць літоўскіх сілаў. Гэта была праблема фінансаў і, што зь ее ў значнай ступені вынікала, вайсковай канфэдэрацыі, якая ўзьнікла вясной 1660 г. Было вядома, што шмат жаўнераў з прычыны звычайнай галечы дэзэртавала з шэрагаў ці памірала ў выніку лютаваньня хваробаў. Гэта асабліва датычыла адзінак іншаземнага найму і пяхоты. Усе гэтыя ўдары, якія пазбаўлялі правае крыло чарговых жаўнераў, закранаці харугвы, пра якія і так казалі *«досыць куцыя»*[18]. Нельга выключыць адваротнай зьявы, якой было найманьне новых жаўнераў і вэрбоўка ў старыя адзінкі, а таксама выдаваньне прыпаведніх лістоў на новыя. Аднак мы ня ведаем яе маштабу.

Дык колькі ж маглі налічваць жаўнераў восеньню 1659 г. літоўскія войскі правага крыла, якія ўвесь час стаялі пры вялікім літоўскім гетману, а таксама вясной 1660 г. ужо пасьля вяртаньня Палубінскага і рэштак корпусу Сасноўскага? Асабліва ў першым выпадку гэтага ня ўдаецца непасрэдна вызначыць. Кампуты літоўскага войска 1661—1663 гадоў значна адрозьніваюцца паміж сабой. Складзены вясной 1661 г. ацэньвае правае літоўскае крыло ў 7020 чалавек. Аднак ягоныя падлікі маюць сур'ёзныя недахопы, бо ня ўлічваюць шэрагу татарскіх харугваў і некаторых харугваў іншаземнага набору, пра існаваньне якіх у 1659—1660 гады вядома. Затое кампут, пададзены Мэдэкшам, згадвае лічбу 12310 жаўнераў у гэтым крыле. Аднак ён ахоплівае занадта шмат адзінак, накшталт аддзелаў Аскіркі, Мурашкі ці Станішэўскага, якія дзейнічалі на Случчыне і Меншчыне, або выглядалі толькі на добраахвотніцкія, або, як харугвы Ліпніцкага, не належалі ў 1659 г. да правага крыла ці папросту не існавалі ў пэрыяд, што нас цікавіць. На іх падставе вельмі цяжка сказаць штосьці пэўнае пра сілы Сапегі восеньню 1659 г. З большай імавернасьцю мы можам выказацца на тэму колькасьці войскаў правага крыла напярэдадні наступу ў чэрвені 1660 г. Паказальнікам для нас тут могуць быць найбольш верагодныя даныя сеньні наконт колькасьці польска-літоўскай арміі пад Палонкай, якія гавораць пра 9—11 тыс. жаўнераў. Наконт 10 тыс. добрага войска, акрамя сьвіты і добраахвотнікаў, даносіў Хаванскаму ў пачатку траўня пасол ад Б. Радзівіла Мікалай Парэмбскі. Пра такую колькасьць пісалі Ю. Глябовіч і Б. Маскевіч, якія знаходзіліся непадалёк ад месцаў змаганьня гэтых войскаў. Пры гэтым апошні пісаў пра 6 тыс. літоўскіх жаўнераў і 4 тыс. Чарнецкага[19]. Дывізію Чарнецкага, як мы пераканаемся, можам

---

[17] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, Dysiel 6 II 1660. Тамсама. № 13868/IV. S. 11.

[18] Vorbek-Lettow. S. 284.

[19] AMG. T. III. № 79. S. 82; J. Hlebowicz do B. Radziwiłła, Słonim 11 III 1660. AGAD. AR. Dz.V. № 5226. S. 141; Maskiewicz. S. 302. У 11 тысяч, у тым ліку на 3 тыс. пяхоты іх і 8 тыс. коньніцы ацэньваў яе аўтар «Les particularitez...», s. 730, 735, а ў іншым месцы, ідучы за Паўлам Сапегам, казаў пра 9—10 тысяч жаўнераў.

больш дакладна ацаніць на прыблізна 4250 жаўнераў. У той час на літоўскае войска правага крыла прыпадала б 5750 чалавек ужо пасьля злучэньня з корпусам Палубінскага, хоць яно магло налічваць крыху больш. Адымаючы прынятых 3500 жаўнераў, прыведзеных Палубінскім, мы атрымаем 2250 жаўнераў пад непасрэдным камандаваньнем Сапегі па Падляшшы ўжо пасьля таго, як да іх дайшлі рэшткі войскаў ранейшага корпусу Сасноўскага.

У другой палове 1660 г. на поле змаганьняў з маскоўскімі войскамі на верхнім Дняпры прыбыла дывізія левага крыла. Паводле кампуту 1661 г. яна налічвала 7240 жаўнераў. Як і ў выпадку правага крыла, тут на падставе пераліку Мэдэкшы мы можам мець пэўныя сумненьні наконт некаторых адзінак. Аднак тут мы ў добрай сытуацыі, паколькі іншыя крыніцы інфармуюць нас пра тое, што войска стала на Дняпры і ўзяло ўдзел у змаганьнях, якія там вяліся. Паводле ўдзельніка гэтых змаганьняў Я.У. Пачобута-Адляніцкага, гэта былі няпоўныя 3 тыс. жаўнераў, але затое вельмі добрага войска, хоць і адной коньніцы[20]. Цяжэй вызначыць колькасьць войска, якое стаяла пад Вільняй пад камандаваньнем К. Жаромскага. З розных дадзеных мы можам меркаваць, што было гэта 2—3 тыс. чалавек, галоўным чынам пяхоты і драгуноў, прыдатных для вядзеньня аблогі. На Вількаміршчыне і Браслаўшчыне дзейнічаў корпус Сясіцкага і Шварцгофа, які восеньню 1660 г. ацэньвалі нават у больш за 3 тыс. чалавек. Аднак ён зьмяшчаў у гэтым ліку шэраг адзінак, што не належалі да кампуту.

Дзякуючы працам Я. Вімэра[21] найлягчэй вызначыць склад і колькасьць дывізіі Стэфана Чарнецкага. У чэрвені 1660 г. дывізія рускага ваяводы складалася зь дзьвюх гусарскіх харугваў, каралеўскай пад Стэфанам Чарнецкім (201 конь) і самога Чарнецкага пад Пятром Касакоўскім (184 кані), 29 казацкіх, татарскіх і валоскіх харугваў (разам 2809 коней), адной сэмэнаў [надворны казак у старавечнай Русі. — *Заўв. перакл.*] (100 коней). Да гэтага даходзіў рэйтарскі рэгімэнт Яна Эрнэста Корфа (253 кані), драгунскі рэгімэнт Чарнецкага (945 коней), драгунская харугва Я.Э. Корфа, дзьве драгунскія харугвы Крыштапа Жагоцкага (па 87 коней). Разам гэта складала 4723 кані і порцый, што з адняцьцем сьляпых порцый* давала каля 4250 жаўнераў[22].

Такім чынам, агульную колькасьць жаўнераў у польска-літоўскай арміі, якая рушыла пад Сапегам і Чарнецкім у чэрвені 1660 г. у наступ у Літве, можна ацаніць на крыху менш за 10 тыс. жаўнераў. Такую іх лічбу сьведчылі ў пазьнейшыя месяцы шматлікія літоўскія і польскія палонныя, узятыя ў няволю расейцамі.

Не падлягае сумненьню, што ў адносінах баявога досьведу, дысцыпліны і высокай маралі найвышэйшы ўзровень паказвалі каронныя аддзелы Чарнецкага. Іх вылучала выдатная дысцыпліна, захаваньнем якой славіўся іх вайскаводца. Складаліся яны з вэтэранаў змаганьняў з працёнікам усходняга тылу, але мелі таксама багаты досьвед, здабыты падчас доўгіх змаганьняў са швэдамі і брандэнбуржцамі. 35,5% стану дывізіі складалася з адзінак іншаземнага аўтарамэнту. Гэта былі галоўным чынам

---

[20] Poczobut Odlanicki J.W. S. 139.

[21] Wimmer J. Materiały do zagadnienia liczebności i organizacji armii koronnej w latach 1655—1660 [далей як «Materiały...»]. SMHW. T. IV(1958). S. 491—533; ён жа. Wojsko polskie w drugiej połowie XVII wieku. Warszawa, 1965. S. 125—128.

*Камандзіры харугваў, рэгімэнтаў ці іншых асноўных адзінак падавалі колькасьць сваіх жаўнераў на патрэбы выплаты жолду (порцый). Адзначалі яе заўсёды крыху вышэйшай (як мяркуецца, на 12—15%) за фактычны стан. Гэтая падбаўка жаўнераў і выдаткаванага на іх жолду (порцый) вышэй за фактычны стан складала т.зв. сьляпыя порцыі. Сродкі, якія выдаткоўваліся на неісных жаўнераў, даставаліся камандзірам і афіцэрам. — *Аўт.*

[22] Тамсама. S. 127.

драгуны, якія валодалі значнай агнявой моцай і маглі ў выпадку патрэбы змагацца як пяхота. Чарнецкі, сам будучы здольным вайскаводцам, меў у сваёй дывізіі цэлую плеяду цудоўных камандзіраў ніжэйшага рангу. Да іх кола трэба залічыць, між іншым, ротмістра каралеўскай казацкай (панцырнай) харугвы Габрыэля Вайніловіча, знакамітага пасланца з асаджанага Збаражу, паручніка Мікалая Скшатускага ці паручніка казацкай харугвы кароннага крайчага Вацлава Ляшчынскага, Уладыслава Скарашэўскага. Гэта былі выдатныя камандзіры, якія кіравалі разьездамі, складзенымі зь некалькіх соцень коней, як і вайскаводцы, якія з посьпехам маглі дзейнічаць на полі бітвы, стоячы на чале вялікіх групаў харугваў і выконваючы самастойныя заданьні. Вялікім баявым досьведам вылучаліся таксама камандзіры войскаў іншаземнага аўтарамэнту, такія, як палкоўнік Ян Тэдтвін ці генэрал-маёр Ян Эрнэст Корф. Баяздольнасьць войскаў Чарнецкага вясной 1660 г. падымаў таксама факт, што яны не былі дэмаралізаваныя зьнішчальнымі ўплывамі канфэдэрацыі ці паразамі, зазнанымі ад праціўніка, зь якім павінны былі хутка сутыкнуцца. Яны прызвычаіліся хутчэй да перамог, на якія шмат гадоў вёў іх рускі ваявода. З захаваных успамінаў жаўнераў Чарнецкага прабіваўся аптымізм і вера ў хуткую перамогу над маскалямі.

У літоўскім войску, несумненна, найкаштоўнейшыя былі тыя аддзелы, якія вярнуліся разам з Палубінскім з Курляндыі. Аднак яны не зраўноўваліся якасьцю з дывізіяй Чарнецкага. Стоячы паўгоду ў Курляндыі, яны сутыкнуліся з праціўнікам заходняга тыпу. Аднак было мала нагоды набыць больш досьвед, змагаючыся зь імі на полі, паколькі дзеяньні хутчэй зводзіліся да блякады ўкамплектаваных швэдамі фартэцый. Баяздольнасьць літоўскіх войскаў правага крыла зьніжалі шматлікія паразы, панесеныя ў змаганьні з маскоўскімі войскамі і нават адсутнасьць веры ў магчымасьць перамагчы гэтага праціўніка. Пасьля часовага выбуху вялікага аптымізму ў другой палове 1658 г. надышла параза пад Веркамі, якая стала пачаткам цэлай паласы літоўскіх няўдач у барацьбе з Масквой. Рэйд Хаванскага і чарговыя паразы, напэўна, нагадвалі страшныя ўспаміны з 1654—1655 г. і падмацоўвалі ўсё большую страту веры ва ўласныя магчымасьці даць адпор праціўніку. Таму нічога дзіўнага, што неаднаразова літоўскія аддзелы ўцякалі на адну толькі навіну пра набліжэньне маскалёў[23]. Войска, дэмаралізаванае паразамі, адсутнасьцю жолду, сваркамі сваіх вайскаводцаў, інтрыгамі каралеўскага двара і Сапегі, хутка паддалося вясной 1660 г. канфэдэрацкім настроям. Выправіць гэты стан удалося толькі напярэдадні наступу, што да канца не дазваляла Чарнецкаму быць упэўненым у пазыцыі ліцьвінаў. Таму зусім ня дзіўна, што ў злучаных у чэрвені польскіх і літоўскіх войсках ініцыятыва дзеяньня належала каронным, хоць яны былі меншыя колькасьцю. Таксама камандаваньне ўсімі войскамі на полі бітвы перайшло ў рукі рускага ваяводы, хоць на літоўскіх землях паводле закону галоўнае камандаваньне належала і фармальна было ў руках вялікага літоўскага гетмана Паўла Сапегі. Ніхто зь ліцьвінаў у той час не пратэставаў супраць гэтага. Вярхоўнае камандаваньне Чарнецкага было прызнанае, і ўскладаліся вялікія надзеі на прыбылыя і так доўга чаканыя каронныя падмацаваньні.

Можна сказаць, што толькі атрыманая пад Палонкай перамога і посьпехі, якія выпалі на долю літоўскіх харугваў у чарговыя тыдні, пераламілі іх страх перад маскоўскім праціўнікам. Да іх вярнулася вера ў магчымасьць перамагчы гэтага ворага. Сьведчаньнем гэтага былі праведзеныя летам і восеньню сьмелыя і самастойныя рэйды ў глыб зямель, занятых маскоўскімі войскамі, а таксама дзеяньні хоць бы супраць Івана Хаванскага, яшчэ нядаўна авеянага славай пераможцы літоўскіх войскаў.

[23] Гл.: K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 31 VII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 118, ліст ад 10 IX 1659. S. 131.

Далёка не задавальняльным быў стан дысцыпліны, якая панавала ў літоўскіх войсках. Калі казаць пра ўзровень паасобных вайскаводцаў, то тут адбіваўся ўвесь цяжар праблемы кіраўнічых кадраў усяго літоўскага войска, якая нарастала зь сярэдзіны XVII ст. Яшчэ ў першай палове гэтага стагодзьдзя яно мела шырокае кола гетманаў і афіцэраў, якія былі выдатнымі вайскаводцамі. Аднак гэта спынілася разам з адыходам добрага і адоранага вялікім аўтарытэтам вайскаводцы, якім быў Януш Радзівіл. Можна сказаць, што ён стаў апошнім на гэтай пасадзе, хто засяродзіў вакол сябе кола здольных вайскоўцаў. Яго наступнік, Павел Сапега, быў пасрэдным вайскаводцам. Да гетманства ён дабраўся з палітычных меркаваньняў, выразна шантажуючы караля ў 1655 і 1656 г. Сапега не стварыў таксама сваіх кіраўнічых кадраў. У сувязі з гэтым падчас ягонага камандаваньня зьмяншалася колькасьць здольных камандзіраў на ўзроўні палка ці харугвы. Нельга да іх залічыць ні ЎладыславаВаловіча, ні Яна Сасноўскага, ні Міхала Абуховіча, якія няўдала кіравалі большымі групамі літоўскіх войскаў. Само прызначэньне гэтых афіцэраў на іх чале дрэнна сьведчыла пра вялікага гетмана. Найбольш здольным кіраўніком у правым крыле несумненна аказаўся Аляксандар Гіляры Палубінскі. Дасьведчаным жаўнерам быў Станіслаў Ліпніцкі[24], які служыў яшчэ пад камандаваньнем кароннага гетмана Станіслава Каняцпольскага ва Украіне, а таксама літоўскі стольнік Крыштап Сапега. Здольным камандзірам быў таксама мальтыйскі кавалер і генэрал літоўскай артылерыі і ў той жа час наваградзкі кашталян Мікалаў Уладыслаў Юдыцкі. Сярод іншых можна згадаць толькі Самуля Кміціча, які, акрамя здольнасьцяў загоншчыка, ніколі не праявіў сябе ў камандаваньні большымі аддзеламі войска. Падобна трэба ацаніць Самуля Аскірку, які пры нагодзе спэцыялізаваўся на бязьлітасным рабаваньні мірнага насельніцтва.

У левым крыле таксама не знаходзім выбітных камандзіраў. Энэргічным і здольным вайскаводцам быў палявы гетман Вінцэнт Гасеўскі. Аднак, схопленаму ў палон пад Веркамі, яму ўжо не было наканавана праявіць свае вайскаводчыя таленты. Добрым жаўнерам і камандзірам быў яго намесьнік, літоўскі абозны Самуль Камароўскі. Аднак у цікавы для нас пэрыяд ён змагаўся галоўным чынам супраць швэдаў у Курляндыі і, акрамя хуткай акцыі пад Чадосамі вясной 1659 г., ня ўзяў удзелу ў змаганьнях з маскоўскімі войскамі. Зрэшты, перашкодзіла яму ў гэтым ягоная нечаканая сьмерць у 1659 г. Дзякуючы моцнай падтрымцы каралеўскага двара і літоўскага канцлера Крыштапа Паца функцыі рэгімэнтара пасьля Камароўскага прыняў сваяк канцлера, літоўскі чэсьнік Міхал Казімер Пац. Да часу перад гэтым прызначэньнем крыніцы няшмат сьведчаць пра ягоную вайсковую кар'еру. Ён меў сваю харугву ў левым крыле. Павінен быў вылучацца вялікімі вайсковымі здольнасьцямі, паколькі ўжо ў верасьні 1658 г. Гасеўскі, які ішоў за Даўгарукім, паслаў Міхала Паца як камандзіра палка складам у некалькі харугваў супраць швэдаў, якія атакавалі Курляндыю і Жамойць. Там ён праявіў сябе надзвычай добра і нават здолеў разьбіць большы аддзел непрыяцеля[25]. У чарговыя месяцы ён быў заняты змаганьнямі са швэдамі ў Курляндыі. Прызначэньне на рэгімэнтара аказалася вельмі вялікім цяжарам для Паца, які пару разоў нават хацеў адмовіцца ад чыну. На працягу вельмі доўгага часу, ажно да падаўленьня ў 1663 г. вайсковай канфэдэрацыі, ён ня быў цалкам прыняты жаўнерамі як кіраўнік левага крыла і ня цешыўся належным аўтарытэтам. Канфлікты з Палубінскім, якія працягваліся на мяжы 1659 і 1660 г., а потым і з самім вялікім гетманам толькі паглыблялі ягоную фрустрацыю. Нягледзячы на гэта, ён быў здольным

[24] Merita JM Pana Stanisława z Lipnik Lipnickiego marszałka mozyrskiego... VUB. Fond 3. № 89. K. 344.
[25] W. Gosiewski do B. Radziwiłła, w obozie pod Żejmami 27 IX 1658. AGAD. AR. Dz. V. № 4567/II. S. 53; Poczobut Odlanicki J.W. S. 121.

вайскаводцам, але перш за ўсё коньніцы. У 1660 г. ягоныя таленты яшчэ не праявіліся цалкам, гэта павінна было адбыцца толькі праз пару гадоў. Сам Пац як вайскаводца на маскоўскім фронце зьявіўся толькі ў ліпені гэтага году, ведучы з Жамойці левае крыло на Дняпро. Ён узяў удзел у змаганьнях, што там вяліся, але як другарадная фігура. Аднак будучыня прынесла яму палявую і вялікую літоўскую булаву. Ён стаў віленскім ваяводам, а ягоная дэструктыўная палітычная дзейнасьць навяла вялікі цень на панаваньне Яна III Сабескага.

Трэба згадаць пра некаторых іншых камандзіраў левага крыла сярэдняга зьвяна, якім не была наканаваная такая вялікая вайскова-палітычная кар'ера, як Пацу. Да больш здольных мы можам залічыць віленскага стольніка Казімера Жаромскага, вількамірскага харужага Казімера Даўмонт-Сясіцкага і Крыштапа Адахоўскага. Таксама ў іншаземным наборы знаходзім пару добрых афіцэраў. Аднак гэта былі камандзіры, якія праяўлялі сябе, ведучы некалькі харугваў на далёкія загоны коньніцы, засыпаючы зьнянацку непадрыхтаванага праціўніка. У выпадку спатканьня з рэгулярным і добра вымуштраваным непрыяцелем яны звычай аказваліся бездапаможнымі і пасьля першай няўдалай сутычкі не былі ў стане супрацьдзейнічаць паніцы сваіх войскаў.

Спэцыфічнай праблемай, якая падточвала літоўскую армію, быў яе раскол на дзьве дывізіі, на чале якіх стаялі два вайскаводцы, што ненавідзелі адзін аднаго. У гэтым была вялікая віна палітыкі караля Яна Казімера. Імкнучыся аслабіць пазыцыі непрыхільнага да яго гетмана Януша Радзівіла, ён прывёў у 1654 г. да расколу літоўскага войска на дзьве дывізіі (два крылы), аддаючы камандаваньне над новым наборам (дывізія левага крыла) прыхільніку двара, віленскаму падскарбію Вінцэнту Гасеўскаму, які стаў таксама літоўскім палявым гетманам. Калі не хапіла Гасеўскага, кароль клапаціўся аб захаваньні падзелу і аб тым, каб камандаваньне дывізіяй знаходзілася ў руках ягонага прыхільніка. У выніку гэтага і зь відавочнай каралеўскай падтрымкай левае крыло і гетман, які камандаваў у ім, былі практычна незалежныя ад вялікага гетмана. Такая сытуацыя стварала мноства праблемаў, а да таго ж балюча раніла амбіцыі Януша Радзівіла і яго наступніка Паўла Сапегі і, несумненна, падрывала іхні аўтарытэт. Нянавісьць паміж Радзівілам і ягоным *«парфумаваным калегам»* Гасеўскім пазьней выпала на долю вялікага гетмана Сапегі і камандзіраў дывізіі левага крыла. Яна перанеслася на афіцэраў і жаўнераў абедзьвюх дывізій. Гэта прывяло да трагічных наступстваў падчас змаганьняў з Масквой. У правым сапегаўскім крыле вельмі часта ўсчыналіся скаргі на асаблівы каралеўскі клопат аб дывізіі левага крыла і на горшае стаўленьне да правага. Сапега, будучы найчасьцей у жорсткай апазыцыі да двара, неаднаразова рабіў насуперак яму спробы аб'яднаць пад сваёй уладай абедзьве дывізіі. Ніколі яму гэта не ўдалося: ні пасьля трапленьня Гасеўскага ў палон пад Веркамі, ні з дапамогай Палубінскага па сьмерці Камароўскага годам пазьней. З волі Яна Казімера восеньню 1659 г. вайскаводцам левага крыла стаў М.К. Пац. Заняцьце гэтай пасады прадстаўніком пракаралеўскага роду, які прэтэндаваў на здабыцьцё галоўнай пазыцыі ў Літве, вельмі дрэнна ўспрымалася Сапегам, які адыгрываў там значную ролю. Гэта несла пачатак чарговага этапу варожасьці паміж камандаваньнем абедзьвюх частак літоўскай арміі. Праблема расколу войска і нежаданьня супрацоўнічаць паміж сабою двух вайскаводцаў моцна праявілася летам і восеньню 1660 г., калі абедзьвюм дывізіям на Дняпры давялося разам праводзіць апэрацыі супраць Масквы. Разам з ростам незадавальненьня войска ў матэрыяльных пытаньнях гэта не абяцала добрага правядзеньня доўгіх і цяжкіх змаганьняў супраць царскіх арміяў.

Больш складаная праблема зьяўляецца ў выпадку маскоўскіх войскаў, галоўным чынам праз цяжкасьці з доступам да адпаведных крыніц. Тут мы валодаем некалькімі

польскімі і маскоўскімі крыніцамі, якія адносяцца да тых войскаў у час іх дзеянняў у канцы 1659 і ў 1660 г. Гэтыя крыніцы ня вельмі строга паказваюць нам зьмены ў іх колькасьці і цяжкасьці, зь якімі сутыкаліся расейцы. Большая частка гэтага пэрыяду прыпадае на драматычную барацьбу з арміяй Хаванскага. Таму можна задаць пытаньне наконт яе колькасьці на першым этапе змаганьняў у Літве ў канцы 1659 г. Тут мы валодаем пералікам маскоўскіх сілаў, які князь Багуслаў Радзівіл даставіў літоўскаму канцлеру Крыштапу Пацу. Князь атрымаў яго, напэўна, ад некага са сваіх шматлікіх інфарматараў з тэрыторый, ахопленых дзеяньнямі маскоўскіх войскаў. Ён паслаў пералік канцлеру 9 студзеня 1660 г., таму гэтыя зьвесткі павінны былі датычыць пэрыяду, магчыма, няпоўнага папярэдняга месяца, калі сілы Хаванскага практычна не былі яшчэ парушаныя цяжкасьцю пазьнейшых прац і змаганьняў. Багуслаў як бывалы вайсковец паведаміў пра войскі Хаванскага ў наступных кароткіх словах: *«Пад Хаванскім: 1000 пяхоты ў сярмягах, 1000 стральцоў, палова чырвонага, палова зялёнага колеру, 90 карнэтаў райтарыі, забясьпечаней пісталетамі і бандалетамі, кожны моцай у 60 або 70 коней. 5 харугваў думных баяраў, пад кожнай 100 коней. Усяго — каля 8500.*

*Пад Шчэрбам: 1000 пяхоты ў сярмягах, 30 карнэтаў райтарыі з такой самай моцай, 3 кампаніі царскай лейб-гвардыі па 100 коней. Увогуле — да 3 тысяч і 12 гармат»*[26].

Паводле гэтага сьведчаньня, Хаванскі распачынаў дзеяньні на чале 11,5 тыс. жаўнераў. Гэтая лічба здаецца вельмі праўдападобнай, хоць пэўны непакой можа выклікаць адсутнасьць у гэтым пераліку шляхецкіх аддзелаў і гарадавых казакоў, што, як вядома, былі інтэгральнай часткай войскаў наўгародзкага разраду, на чале якіх Хаванскі распачынаў свой наступ. Аднак магчыма, што аўтар гэтага данясеньня запісаў іх у згаданыя ўтварэньні. Затое пацьвярджае пададзеную радзівілаўскім інфарматарам лічбу смаленскі падкаморы Ян Антоні Храпавіцкі, пішучы пра прыбыцьцё 19 лістапада 1659 г. у Вільню Хаванскага і 100 тыс. маскоўскага войска разам з 15 гарматамі[27]. Міхал Казімер Пац, які знаходзіўся ў далёкай Курляндыі, ацэньваў іх у лісьце да Палубінскага, калі яны ішлі ў кірунку да Коўна, ледзьве на 7 тыс. жаўнераў[28]. Магчыма, ён спэцыяльна зьніжаў іх колькасьць, каб супакоіць гэтым палявога пісара і стрымаць яго прасіць аб помачы вялікага гетмана. У другой палове студзеня ён атрымаў інфармацыю пра войска Хаванскага ад сына царскага ваяводы Афанасія Ардзін-Нашчокіна, які ўцёк у Літву. Паводле яго, царскі вайскаводца, які знаходзіўся ў той час пад Берасьцем, праз два месяцы маршаў і змаганьняў меў ледзьве 6 тыс. чалавек, а сярод іх — усяго толькі 3 тыс. добрых жаўнераў[29]. На карысьць гэтых лічбаў сьведчыць хоць бы тое, што яны значна адрозьніваюцца ў меншы бок ад фантастычных дадзеных з пазьнейшага пэрыяду, калі расейскай арміі было загадана вырасьці прынамсі да 22 тыс.

Тым часам чарговыя доўгія месяцы не было нічога чуваць пра нейкія падмацаваньні для гэтай арміі, за выключэньнем выпадку, калі Хаванскі захапіў у Наваградку 600 чалавек, прысланых віленскім ваяводам Данілам Мышэцкім з мэтай захопу гэтага гораду. Вялікая частка зь іх пазьней уцякла ў Вільню. Да гэтага яшчэ можна дадаць магчымае ўключэньне ў шэрагі арміі Хаванскага жаўнераў, якія суправаджалі транспарт з правіянтам і амуніцыяй, што прыбываў у лягер пад Ляхавічамі[30]. У першы пэрыяд аб-

[26] B. Radziwiłł do K. Paca, b.m. 9 I 1660 // E. Kotłubaj. Galeria nieświeska portretów Radziwiłłowskich. Wilno, 1857. S. 221—222.
[27] Chrapowicki. S. 212.
[28] M.K. Pac do A.H. Połubińskiego, Bowsk 2 XII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 11209/I. S. 153.
[29] M.K. Pac do A.H. Połubińskiego, Bowsk 21 I 1660. Тамсама. S. 144.
[30] AMG. T. III. № 55/1—2. S. 61.

логі Ляхавічаў (канец сакавіка і красавік 1660 г.) з блізкага Слуцку паведамлялася наконт слабасьці маскоўскага войска. Радзівілаўскія камісары ў гэтым горадзе, Казімер Клакоцкі і Ўладыслаў Гурын, ня мелі асаблівых падставаў, каб падаваць несумленную інфармацыю. Яны баяліся гэтых войскаў і чакалі падтрымкі ад Б. Радзівіла, аднак не драматызавалі і выразна прызнавалі, што войскі Хаванскага *«слабыя і высіленыя»*. Іх колькасьць у канцы сакавіка ацэньвалі ў 7,6 тыс. жаўнераў. Месяц пазьней ананімны аўтар паведамляў, што гэтых войскаў ня больш за 6 тыс. і што як дапамога пайшлі да іх залогі зь Вільні, Коўна і Горадні, пакідаючы ў гэтых гарадах толькі неабходную колькасьць жаўнераў. Аднак у кожным з гэтых паведамленьняў была згадка пра чаканьні значныя падмацаваньні для Хаванскага. Пра набліжэньне падмацаваньня для Хаванскага паведамлялі каралю ў пачатку красавіка таксама камісары, якія павінны былі весьці перамовы з царскімі пасланцамі[31].

Аддзелы маскоўскага князя, якія зьбіраліся пад канец сакавіка пад Ляхавічамі, ужо не ўяўлялі сабой такой вартасьці, як у лістападзе 1659 г. Амаль паўгадовыя ваенныя дзеяньні на вялізнай, зьнішчанай дашчэнту няспыннай вайной тэрыторыі, што распасьціралася ад Полацку праз Вільню, Горадню, Берасьце да Ляхавічаў, у цяжкіх зімовых умовах, часта пры шалёным тэмпе маршаў, значна адбіліся на іх якасьці і колькасьці. Хаванскі ня меў звычаю занадта шкадаваць сваіх жаўнераў і даваць ім даўжэйшы час на адпачынак. Прыкладам гэтага быў маланкавы рэйд на чале змучаных аддзелаў, якія толькі што прыбылі да Наваградку, на Нарву і Буг супраць Палубінскага. Хоць не вяліся вялікія бітвы, аднак нават у тых многіх драбнейшых сутычках страчваліся жаўнеры, людзі паміралі ад цяжару кампаніі, холаду, хваробаў, недахопу правіянту. Заўсёды трэба было адлічыць тых, якія дэзэртавалі з шэрагаў. Трэба таксама ўзяць пад увагу значную колькасьць жаўнераў, пакінутых у залогах у Горадні, Берасьці, Наваградку і Міры ці высланых з канвоямі палонных, пошты і іншых місій. Нягледзячы на выдатныя посьпехі, Хаванскі мусіў змагацца з многімі праблемамі, якія ўсё больш прыгняталі ягоную армію. Паглыбілі іх першыя няўдалыя штурмы на валы Ляхавічаў. Маскоўскія аддзелы павінны былі таксама распачаць змаганьне з прысутнымі ў тых ваколіцах харугвамі Аскіркі, Мурашкі і іншых мясцовых праваднікоў. З часам да гэтага дадаўся і ўсё больш сьмелы гарнізон Нясьвіжу. Яны не былі ў стане пагражаць арміі Хаванскага, але неадназова даходзіла да больш сур'ёзных сутычак зь імі, якія прыносілі чарговыя страты ў царскіх шэрагах[32]. Іншым трагічным для царскага вайскаводцы вынікам дзейнасьці гэтых лятучых літоўскіх аддзелаў было перакрыццё рэгулярнага забесьпячэньня правіянтам. Голад няспынна спадарожнічаў арміі, якая асаджала Ляхавічы, нягледзячы на рапарты царскіх чыноўнікаў з Полацку, Смаленску, Барысава, Магілёва наконт высылкі ў яе лягер чарговых канвояў з правіянтам. У пошуках харчоў жаўнеры разыходзіліся па ваколіцах, чынячы рабункі і гвалт насельніцтва, якое ўцякала ў лясы, забіраючы або зьнішчаючы свае сьціплыя запасы. Пагоня за харчамі выклікала чарговыя страты, паколькі, як паведамлялі са Слуцку, многія жаўнеры, пертварыўшыся з прычыны голаду ў звыклых рабаўнікоў, уцякалі з арміі Хаванскага. Дэзэртаваньне набыло такі маштаб, што ў пачатку траўня

[31] K. Kłokocki, Słuck 31 III 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/VII. S. 212; Contenta z listu cyframi pisanego dnia 30 Marty z Słucka od PP. Commissarzów. Тамсама, неўпарадкаваныя паперы; Contenta listu ze Żmudzi de datta 4 maj [1660]. Тамсама; Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Gdańsk 22 IV 1660. LvNB. F. 103. № 1743.

[32] A.M. Sakowicz do A.H. Połubińskiego, z Strzelców 11 V 1660. Тамсама. Dz. V. № 13739. S. 47; S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Jasiewicze 7 VI 1660. Тамсама. № 12561. S. 81. Росьпіс стратаў, панесеных у выніку розных сытуацый у паасобных палках, гл.: AMG. T. III. № 126. S. 117—119.

Клакоцкі, які пісаў пра гэта, ацэньваў яе стан усяго толькі ў пяць тысяч чалавек[33]. Наконт маштабу стратаў у шэрагах павінен сьведчыць факт, што на пачатку выправы ў двух пскоўскіх прыказах і ў двух прыказах наўгародзкіх стральцоў Хаванскі вёў 2000 загартаваных у баях жаўнераў. Пад канец траўня згаданыя адзінкі ацэньвалі ўжо толькі ў 400 чалавек. Нічога дзіўнага, што ўжо ў красавіку сам Хаванскі падымаў перад царом трывогу, што ён мае вельмі мала сілаў[34].

З пэрыяду на канец траўня мы маем яшчэ адну крыніцу, якая асаблівым чынам падае колькасны стан войскаў Хаванскага разам з росьпісам іх на паасобныя адзінкі. Яна ўзьнікла на падставе сьведчаньняў маскоўскіх палонных і ўцекачоў зь лягеру Хаванскага[35]. Колькасьць гэтай арміі падавалася ў ім на 5988 жаўнераў. І адразу ж адзначалася, што ў штурмах пад Ляхавічамі, падчас вылазак абаронцаў ды нападаў разьездаў у выніку ўцёкаў было страчана прынамсі 2 тыс. чалавек. Хаванскі заўважаў жахлівы стан сваіх войскаў і шмат разоў дамагаўся дапамогі. Аднак да ягоных аддзелаў яна даходзіла ў вельмі мізэрных, як на вялікія патрэбы, колькасьцях. Толькі 19 траўня ён дачакаўся значных падмацаваньняў, якія ў крыніцах ацэньваліся часта ў 3 тыс. пяхоты ў трох элітных маскоўскіх прыказах стральцоў, але хутчэй выпадае аддаць перавагу меркаваньню маскоўскіх палонных, што гэта былі 2 тыс. пяхоты і хіба 1 тыс. конніцы, а таксама 8 гармат, якія 11 траўня, паводле Клакоцкага, мінулі Менск[36]. Значная іх частка, а нават большасьць была страчаная 24 траўня ў закончаным паразай штурме Ляхавічаў. Здаецца, што найбліжэйшая да праўды інфармацыя, пададзеная ў легендзе да гравюры з XVII ст., якая паказвае аблогу Ляхавічаў. Пад пунктам «Т» было згадана, што загінула тады 700 царскіх жаўнераў. Хутчэй трэба прыняць, што гэта датычыць як забітых, так і параненых[37]. Рэшта, якая засталася жывой, падмацавала аддзелы князя, якія ён сам нясьпынна называў малалікімі.

На падставе сьведчаньняў палонных было вядома, што Хаванскі мае пры сабе два палкі, якія акрэсьліваліся як польскія. Гэта былі палкі Рамана Аляксандра Аскіркі, які налічваў 200 коней, і Флярыяна Слонскага, колькасьцю 390 коней. Яны складаліся з завяванай з 1654—1655 і прысяглай цару літоўскай і рускай шляхты. Пераважала сярод іх полацкая шляхта, а некалькі яе палкоў пад камандаваньнем Аскіркі, Лазоўскага, напэўна, Станіслава і іншых у студзені і лютым прыбывалі праз Вільню да Хаванскага[38]. У рамках дапамогі, якая ішла са Зьмеевым, у ягоным лягеры зьявіліся пазьней аддзелы віцебскай, мсьціслаўскай, магілёўскай і чачэрскай шляхты. Яе абавязкам было станавіцца са зброяй у руках і браць удзел у змаганьнях на баку новага ўладара. Многія рабілі гэта без ахвоты, і праз пэўны час службы адразу пакідалі лягер і вярталіся дамоў. Адзін з гэтых жаўнераў, жыхар Полацкага ваяводзтва, расказаў пра гэта Сэбасьцяну Пшыбароўскаму, згадваючы адначасова пра хваробы, якія перасьледавалі войска Хаванскага і пра чатыры тысячы рэйтараў, якія ідуць яму на падмацаваньне[39]. Аднак былі і такія, што, стаўшы на бок цара, асабліва верна слу-

[33] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 7 V 1660. Тамсама. № 6865/I. S. 199.

[34] Confessata o potędze nieprzyjacielskiej z różnych języków tak moskiewskich jako y Perehidczków. Avt. Dubr. 152. K. 213; AMG. T. III. № 55/2. S. 61.

[35] Confessata o potędze... K. 213—214v.

[36] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 21 V 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 6865.I. S. 209; «Confessata o potędze...» згадвае пра 2 тыс. прыбылай пяхоты; Kurbatow O. Połonka 1660 — spojrzenie z Moskwy // Mówią Wieki. № 10 (2000). S. 29.

[37] Muzeum Narodowe w Krakowie, Zbiory Czartoryskich, gabinet rycin. № 6945.

[38] S. Oborski do B. Radziwiłła, Kiejdany 18 I 1660. VUB. Fond 4 (A—212). № 16696. Няма іх у пераліку Б. Радзівіла ад 9 I 1660 г.

[39] S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Jasiewicze 7 VI 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 12561. S. 82.

[40] RGADA. Fond 144. № 70.

жылі яму, ажыццяўляючы камандаваньне харугвамі шляхты. Тут можна прывесьці прыклад згаданага вышэй Аскіркі, які ў 1649—1658 выконваў функцыі полацкага стражніка і быў злоўлены 9 траўня 1660 году Казімерам Сясіцкім падчас яго атакі на Вільню. Гэта дастаткова цікавая фігура. Пад канец 1655 г., як пісаў сам ён да цара, ён служыў яшчэ пад Тыкоцінам у палку свайго брата Самуля Аскіркі. Зь нейкіх прычын ён пакінуў яго і разам са 150 таварышамі, ротмістрам якіх быў, вырушыў адтуль да Аляксея Міхайлавіча пад Рыгу, каб яму служыць. Нарэшце, што ня мог давесьці свайго намеру да канца, паколькі ўжо пад Мсьцібавам у Ваўкавыскім павеце быў разьбіты людзьмі Гляборіча, а таксама мяшчанамі і сялянамі, што падтрымлівалі яго[40]. Іншым прыкладам былі: Флярыян Слонскі, які пад Палонкай патрапіў у рукі жаўнераў Стэфана Чарнецкага, а потым быў пакараны сьмерцю; Лазоўскі, які нават прыняў праваслаўе і стаў царскім палкоўнікам; энэргічны і вельмі адданы цару называны палкоўнікам Полацкага ваяводзтва Іван (Ян) Кісажэўскі. Што цікава, многія зь іх з розных прычын зьмянялі службу дастаткова часта, бо некаторыя ў пачатковы пэрыяд вайны з Масквой у 1654—1655 гады камандавалі літоўскімі харугвамі. Потым яны прынялі царскае падданства і вайсковую службу на карысьць Масквы. У пэрыяд бунту Нячая многія зь іх выступілі супраць войскаў Аляксея Міхайлавіча. Пасьля падаўленьня бунту мы зноў бачым, як яны з асаблівай руплівасьцю служаць маскоўскаму цару. Гэтая зьява датычыла ня толькі афіцэраў, але і значнай колькасьці літоўскай і рускай шляхты, колішніх грамадзян польска-літоўскай дзяржавы. У Рэчы Паспалітай яны акрэсьліваліся як здраднікі і ў пакараньне на падставе каралеўскіх дэкрэтаў у іх канфіскоўвалася маёмасьць, якая раздавалася заслужаным жаўнерам[41]. Таксама значная частка драбнейшай шляхты засталася пры Маскве — мы сустракаем яе ў пазьнейшых змаганьнях на маскоўскім баку.

У дзень 6 чэрвеня 1660 году ў маскоўскі лягер прыбыло больш за 2400 жаўнераў, пазьбіраных з гарнізонаў Полацку, Віцебску, Смаленску, Быхава і Магілёва, якімі камандаваў князь Сямён Ільліч Зьмееў. Ён прывёў 1,5 тыс. пяхоты, пяць карнэтаў райтараў са Смаленску, а таксама конныя аддзелы данскіх казакоў, віцебскай і магілёўскай шляхты. Палонныя з царскай арміі дадаткова сьведчылі, што ў дарозе знаходзяцца яшчэ 2 тыс. жаўнераў[42]. Аддзелы Зьмеева Хаванскі адразу скіраваў пад Нясьвіж. Ліцьвіны, якія назіралі за маршам гэтых аддзелаў, па-рознаму ацэньвалі іх колькасьць. Гаварылася пра 4, а нават 8 тысяч[43]. Зразумела, што апошняя лічба груба перабольшаная, а чатыры тысячы магло быць праўдай, калі б мы былі ўпэўненыя, што згаданыя палоннымі 2 тыс. жаўнераў, што ішлі за Зьмеевым, сапраўды дайшлі да Хаванскага.

Наконт іншых падмацаваньняў, якія павінны былі б прыйсьці ў лягер пад Ляхавічамі, мы ня ведаем. Аднак ня выключана, што яны прыбывалі разам з канвоямі харчоў і амуніцыі. У чэрвені такі транспарт рушыў з Барысава ў суправаджэньні 400 жаўнераў[44]. Таму колькі ў сярэдзіне чэрвеня налічвалі жаўнеры маскоўскага войска? Каралеўскія камісары, якія знаходзіліся недалёка ў Менску і ўвесь час мелі добры кантакт з Хаванскім, ацэньвалі іх у няпоўныя 9 тыс., вельмі выразна пры гэтым проста пішучы каралю і вайскаводцам Рэчы Паспалітай, што яны слабыя: *«А што да-*

[41] Metryka Litewska. Księga Wpisów № 131 / Opr. A. Rachuba. Warszawa, 2001. № 32, 282, 737, 1086; Confessata o potędze...

[42] AMG. Т. III. № 61/4. S. 69; «Confessta o potędze...» згадвае сумарна пра 2465 жаўнераў; Курбатов О. С. 28—29.

[43] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 21 V 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 209; C. Brzostowski do B. Radziwiłła, Mińsk 4 VI 1660. Тамсама. № 1503/I. S. 62.

[44] AMG. Т. III. № 78. S. 79.

*тычыць непрыяцельскай моцы, то дзевяці тысячаў няма, а на больш людзей non sperantur [не спадзяюцца]».* Далей пісалі, што цяпер найлепшы час *«frangere potentiam [зламаць моц] непрыяцеля, якая вельмі слабая, падмацаваньні благія, а пра іншыя не чуваць»*[45]. Гэтай лічбай яны акрэсьлівалі агульныя маскоўскія сілы — Хаванскага пад Ляхавічамі і падпарадкаванага яму Зьмеева, які асаджаў Нясьвіж.

Здаецца, што колькасьць войскаў Хаванскага, пададзеная камісарамі, вельмі блізкая да праўды. Калі ўзяць усе дадзеныя з цытаваных сьведчаньняў маскоўскіх палонных, то з улікам стратаў канца траўня і чэрвеня, панесеных пад Ляхавічамі і Нясьвіжам, выпадала б згадзіцца зь лічбай каля 8 тыс. жаўнераў. Аднак мы ня ведаем, ці пасьля таго, як даваліся сьведчаньні маскоўскіх палонных, у лягер Хаванскага не прыйшлі іншыя, драбнейшыя аддзелы ў рамках тых абяцаных 2 тыс., што падцягваліся за Зьмеевым. Калі ж гаворка ідзе пра данясеньні каралеўскіх камісараў, то трэба падазраваць, што яны маглі чэрпаць зьвесткі ад саміх царскіх жаўнераў ці ад рускай шляхты, якая была на маскоўскай службе. Яны атрымлівалі гэтую інфармацыю і перадавалі яе каралеўскім камандзірам на выразны загад Яна Казімера[46]. Таму здаецца, што, напэўна, ва ўласным інтарэсе прыкладалі намаганьні, каб яна была найбольш сумленная.

Можна канчаткова прыняць, што напярэдадні бітвы пад Палонкай пад маскоўскімі штандарамі было крыху больш за 9 тыс. жаўнераў. На самім полі бітвы зьявілася іх значна менш, можа, нават крыху менш за 7 тыс.[47]. Трэба памятаць, што за пару дзён перад самай бітвай яны панесьлі вялікія страты ў змаганьнях пад Слонімам з каронным аддзеламі і ў сутычцы зь літоўскім разьездам. Крыху жаўнераў, а таксама хворыя і параненыя былі пакінуты пад Ляхавічамі. Затое вельмі часта адзначалася ў пададзеных крыніцах, што царскі вайскаводца меў моцную артылерыю.

Вядома, што далёкія пляны прадугледжвалі далейшае ўмацаваньне арміі Хаванскага, на долю якой вясной 1660 г. пачынала выпадаць галоўная роля ў змаганьнях з Рэччу Паспалітай. Таму 2 чэрвеня былі аддадзеныя загады брату Хаванскага, Сямёну, фармаваць сілы, зь якімі ён мусіў бы падтрымаць армію пад Ляхавічамі. Былі перададзеныя сьпісы жаўнераў, якія павінны былі ўвайсьці ў ягоны аддзел і два палкі салдацкай пяхоты, прадугледжвалася і далейшае ўмацаваньне. Двум казацкім палкам, нежынскаму і чарнігаўскаму, было загадана падтрымаць войскі, якія ваявалі ў Літве. Гэтыя пляны ніколі не ўдалося рэалізаваць, паколькі раней армія Хаванскага была разьбітая. Калі б, аднак, дайшло да канцэнтрацыі ўсіх гэтых сілаў, то тады б пад камандаваньнем князя магло апынуцца нават да 30 тыс. жаўнераў[48].

Кажучы пра лік маскоўскіх войскаў, нельга абмінуць пытаньне глыбокіх рэформаў, якія яны праходзілі з пачатку 30-х гадоў XVII ст. У выніку іх царскія арміі, у сваёй форме заснаваныя на шляхецкім паспалітым рушаньні *(«поместное ополчение»)*, зь якімі ліцьвінам і палякам давялося пераможна сутыкацца на палях бітваў у першай

[45] Komisarze do K. Paca, Mińsk 17 VI 1660. BCzart. 154. S. 349—350; Komisarze do P. Sapiehy, Mińsk 22 VI 1660. Тамсама. S. 380.

[46] Jan Kazimierz do Komisarzy, b.m. 10 V 1660. Тамсама. S. 96.

[47] Існуе нататка самога цара Аляксея Міхайлавіча, у якой згадвае, што Хаванскі, маючы ўсяго толькі 5 тыс. войска, рушыў супраць 20 тыс. палякаў. Абедзьве не заслугоўваюць даверу, гл.: Сборник Муханова / Изд. П.А. Муханов. Москва, 1856. С. 221—222. Курбатов О. (Литовский поход... С. 35) падае колькасьць арміі Хаванскага пад Палонкай у больш за 10 тыс. (4800 коньніцы і 5400 пяхоты), што, хутчэй, крыху завышаная лічба, паколькі аўтар, сумуючы аддзелы, ня ўлічвае ўсіх іхніх стратаў. Затое пад Палонку зь ляхавіцкага лягеру паводле гэтага аўтара мусіла выйсьці 4500 коньніцы і 4000 пяхоты.

[48] Курбатов О. Литовский поход... С. 33.

палове гэтага стагодзьдзя, пачалі адыходзіць у мінулае. З часоў Смаленскай вайны (1632—1634) маскоўская вайсковасьць пачынае зазнаваць вялізныя зьмены, якія ў пачатку XVIII ст. дадуць Расеі адну з наймацнейшых арміяў у Эўропе. Пасьля першых спробаў з фармаваньнем адзінак «новага строю» ў час Смаленскай вайны, малады цар Аляксей Міхайлавіч (1645—1676) распачаў інтэнсіўныя рэформы ў сваёй арміі, мэтай якіх было прыпадабненьне яе ў пляне арганізацыі, узбраеньня і спосабу вядзеньня змаганьня да заходнеэўрапейскіх узораў. Ствараліся чарговыя палкі «новага строю» (рэйтарскія, драгунскія і пяхотныя, т.зв. салдацкія), колькасьць якіх няспынна расла. Менавіта на такія адзінкі прыпадала вырашальная роля ў рэфармаванай арміі. Сваім досьведам у гэтай працы служылі вэрбаваныя на захадзе Эўропы афіцэры, найчасьцей вэтэраны Трыццацігадовай вайны. Яны навучалі жаўнераў і перадавалі свае ўменьні маскоўскім афіцэрам, якія ў камандаваньні войскамі «новага строю» пступова замянялі сваіх заходніх інструктараў. Працэс фармаваньня новых адзінак актывізаваўся перад распачацьцем вайны з Рэччу Паспалітай, а асабліва інтэнсіўны стаў разам з пачаткам дзеяньняў супраць шведаў у Інфлянтах, моцна зьмяняючы аблічча царскай арміі і значна павышаючы дасьведчанасьць яе афіцэраў і жаўнераў.

Расейцы стараліся фармаваць палкі «новага строю» паводле дакладных правілаў, аднак сустраканыя цяжкасьці і звычайныя рэаліі ваеннага часу вельмі мадыфікавалі ўсякія падобныя прынцыпы. Кадрава полк пяхоты мусіў складацца з 8 ротаў па 200 жаўнераў, акрамя афіцэрскага складу. Драгунскі полк мусіў налічваць 1600 чалавек, а рэйтарскі полк 1000 чалавек па 10 ротаў. На патрэбы драгунскіх і пяхотных палкоў праводзіліся масавыя рэкрутацыі сярод сялянскага і залежнага насельніцтва. Царскім указам загадвалася з акрэсьленай лічбы двароў даць жаўнера ў гэтыя фармаваньні. Разам з аднаўленьнем вайны з Польшчай у 1658 г. і з казакамі Выгоўскага быў абвешчаны набор у лістападзе 1658 г., які даў 18 тыс. чалавек. Чарговы набор у ліпені 1659 г. прынёс больш за 15,5 тыс. чалавек, а гэты са сьнежня 1669 г. — 17,5 тыс. Разам падчас усёй вайны з Рэчу Паспалітай (1654—1667) наборы прывялі ў шэрагі драгуноў і пяхоты больш за 100 тыс. чалавек, большасьць зь якіх ніколі не вярнулася дамоў. У вельмі каштоўныя і найлепей аплатныя рэйтарскія адзінкі рэкрутавалі шляхту (дваран і баярскіх дзяцей). Замест традыцыйнай дваранскай коньніцы, якая адзначалася вельмі нізкай дысцыплінай і слабым узбраеньнем, яе скіроўвалі ў райтарыю. У 1659—1660 г. у паўночна-ўсходніх рэгіёнах Маскоўшчыны, зь якіх паходзіў таксама наўгародзкі разрад, назіралася дастаткова масавае прыманьне ў шэрагі рэйтараў сялянскага насельніцтва. Яго ўзровень у гэтых утварэньнях дасягнуў 75%, але ў пазьнейшы час ім быў вернуты дваранскі характар. Узбраеньне драгуна складалася з мушкета і рапіры, салдацкага пехацінца — з мушкета, рапіры, пікі і бердыша, а рэйтара — з мушкета, пары пісталетаў, рапіры, радзей — шаблі. Жаўнерам усіх гэтых утварэньняў дзяржава забясьпечвала надзвычай высокі жолд.

Акрамя аддзелаў новага строю, надалей значную ролю ў маскоўскай арміі адыгрывалі традыцыйныя фармаваньні. Гэта была дваранская коньніца, называная «памесная», якая гаспадарыла на ўдзеленых ёй царом дзяржаўных землях, *«поместьях»*. З прычыны яе абавязку да спадчыннай службы ў коньніцы гэтага кшталту былі прадстаўнікі ўсіх пластоў маскоўскага дваранства. У залежнасьці ад велічыні ўласнага атрыманага маёнтку выстаўлялася акрэсьленая колькасьць жаўнераў (1 з 50 га). Баяздольнасьць гэтай коньніцы была невялікая. Вельмі нізкая дысцыпліна, стан узбраеньня, якасьць коней — усё гэта на поўную моц выкрывалі праводжаныя інспэкцыі. Таму дзеля гэтага і стараліся як мага больш дваран, якія служылі ў ёй, скіраваць у рэйтарскія палкі.

Вельмі шматлікім утварэньнем «старога строю» надалей заставаліся сфармаваныя яшчэ ў XVI ст. стральцы. Яны разьмяшчаліся па гарадах і рэкрутаваліся зазвычай зь

ліку свабодных людзей. У час міру яны несьлі гарнізонную службу і паліцэйскія функцыі ў гарадах. Да стралецкай эліты залічваліся аддзелы з Масквы. Стральцы былі своеасаблівай царскай гвардыяй, якая клапацілася аб унутранай бясьпецы і захаваньні існага парадку. Яны праходзілі пэрыядычныя практыкаваньні і прагляды зброі. Ад дзяржавы стральцы атрымлівалі ў вечнае ўладаньне надзелы, на якіх гаспадарылі разам зь сем'ямі, займаліся таксама гандлем. Насілі аднастайнае абмундзіраваньне і ўзбраеньне (мушкет, бярдыш і шабля). Колькасьць стральцоў няспынна расла. Іх цанілі за вышэйшую дысцыпліну і лепшую вывучку, чым у дваранскай коньніцы, за адданую пазыцыю падчас бунтаў з пачатку панаваньня Аляксея Міхайлавіча. Яны адзначаліся вайсковай вытрымкай і ўпартасьцю ў змаганьні, асабліва пры абароне ўмацаваных месцаў. Слабей праяўлялі сябе на адкрытай прасторы, аднак ня раз, абараняючыся да ўпаду, наносілі вельмі балючыя страты праціўніку, які атакаваў іх.

У царскай арміі сярэдзіны XVII ст. сустракаўся шэраг іншых фармаваньняў «старога строю», як напрыклад службовыя казакі ці аддзелы, якія давалі залежныя ад Масквы народы. Былі гэта, між іншым, астраханскія і казанскія татары, башкіры, данскія казакі. Аднак яны не адыгралі значнай ролі на палях змаганьняў 1660 г. у Літве[49].

Вялікім козырам царскай арміі, пра які нельга забывацца, было яе багатае забесьпячэньне агнястрэльнай зброяй і моцнай артылерыяй. Гэта прыносіла шмат клопатаў і страт польскім і літоўскім харугвам на палях бітваў. Гэты моцны бок маскоўскіх войскаў станавіўся яшчэ больш відавочны, калі даходзіла да аблогі крэпасьцяў, укамплектаваных маскоўскімі залогамі. Тады цалкам праяўлялася слабасьць польскага майстэрства аблогі. Нехапала ўсяго: пяхоты, дасьведчаных у гэтых дзеяньнях афіцэраў і артылерыстаў, гармат, мартыраў, пораху, ядраў. Наступствамі гэтага стану рэчаў было тое, што не ўдавалася справіцца з маскоўскімі залогамі, якія пасьля адкіданьня маскоўскіх войскаў летам 1660 г. за Дняпро і Дзьвіну засталіся ў ізаляваных замках у Берасьці, Горадні, Коўне і Вільні. Зробленыя спробы штурмаў прыносілі толькі страты, таму заставалася толькі блякаваць і чакаць капітуляцыі да канца згаладнелага і зьдзесяткаванага хваробамі гарнізону. Гэта працягвалася надзвычай доўга, паколькі залога ў Віленскім замку паддалася толькі 3, а ў Коўне 26 сьнежня 1661 г.

Такім чынам, у аднаўленай у 1658 г. вайне супраць войскаў Рэчы Паспалітай выступіў шматлікі і добра арганізаваны праціўнік, які адзначаўся значна вышэйшым узроўнем ваеннага мастацтва, чым нават з гадоў яго найлепшых посьпехаў 1654—1655. З тых гадоў імкліва вырасла колькасьць аддзелаў «новага строю». Напрыклад, у 1653 г. налічвалася 2 тыс. рэйтараў, а ў 1662 г. — 18 тыс. Слабасьцю Масквы, якая стала праяўляцца з усёй сілай, было зьнясіленьне дзяржавы доўгай і зьнішчальнай вайной з Рэччу Паспалітай, швэдамі, а таксама з казакамі і татарамі, якія паглынулі пад Канатопам адну з найбольш шматлікіх і лепшых царскіх армій. Цяжкасьці нагрувашчваліся і прыводзілі да росту незадавальненьня сярод празмерна абцяжаранага насельніцтва і жаўнераў, якія ня раз цэлымі гадамі не вярталіся дамоў. Таму ўсё часьцей узьнікалі праблемы з папаўненьнем стратаў у шэрагах, аплатай і належным узбраеньнем жаўнераў. Чарговыя прымусовыя наборы праводзіліся з усё большымі цяжкасьцямі. Акрамя таго, яны давалі ўсё менш каштоўных жаўнераў. Зьявіліся цяжкасьці з папаўненьнем шэрагаў элітарных рэйтарскіх адзінак дваранамі ці баярскімі дзецьмі. Каб аднавіць іх колькасныя станы, маскоўская дзяржава пачала масава зьвяртацца да ніжэйшых грамадзкіх пластоў — сялянаў, залежнага насельніцтва, манас-

[49] Пра маскоўскую армію на падставе: E. Razin. Historia sztuki wojennej. Warszawa, 1964. T. III. S. 201—204; Чернов А.В. Вооруженные силы русского государства в XV—XVII в. Москва, 1954. С. 134—185.

тырскіх слугаў. Гэта адразу ж шкодна адбілася на баяздольнасьці тых адзінак і на дысцыпліне жаўнераў. Рознымі спосабамі, пачынаючы з абяцаньняў і ўзнагарод, заканчваючы суровымі пакараньнямі, спрабавалася мабілізаваць іх да сумленнай службы. Аднак тыя ўсё часьцей думалі пра бунты, а шмат салдатаў папросту пры першай нагодзе дэзэртавалі з аддзелаў і вярталіся дамоў. Аднак Рэч Паспалітая таксама пакутавала ад падобнай праблемы і ад шэрагу іншых, больш сур'ёзных. Усё гэта зьнішчала каштоўнасьць кінутых у сярэдзіне 1660 г. супраць Расеі войскаў дасканалай якасьці і іх цудоўных перамог. У выніку чарговыя гады паказалі, што Рэч Паспалітая, якая пагружалася ў анархію, ня ў стане перамагчы Масквы, якая стала на шлях вайсковых і ўнутрыпалітычных рэформаў.

Армія Хаванскага 1659—1660 г. упісвалася ў новую форму царскіх войскаў. Яе ваяводца камандаваў сіламі адной з найважнейшых вайскова-палітычных акругаў расейскай дзяржавы, якая называлася наўгародзкім разрадам. Утваралі яго галоўным чынам конныя аддзелы дваранаў і службовых казакоў з паветаў гэтай акругі: Наўгародзкага, Пскоўскага, Велікалуцкага, Тарапецкага, Наваторскага, Цьвярскога і Старыцкага. Яны выстаўлялі каля 3200 дваран і баярскіх дзяцей, а гэты лік папаўняла каля тысячы конных казакоў з гэтых зямель. Аддзелы гэтага разраду бралі ўдзел у 1650 г. у падаўленьні бунту ў Пскове, а ў 1654—1655 змагаліся на літоўскім фронце. Пад канец 1655 г. яны разам з князем С.А. Урусавым дайшлі да Берасьця-Літоўскага, дзе ў крывавых і цяжкіх змаганьнях з войскам Паўла Сапегі ледзьве пазьбеглі паразы. У чарговыя гады гэтыя ўтварэньні, падобныя да польскага паспалітага рушаньня, зазналі шэраг паразаў у Інфлянтах у сутычцы з добра вымуштраванымі шведамі. Гэта было прычынай для перайменаваньня іх пры дапамозе заходніх афіцэраў у рэйтарскія аддзелы і навучаньня паводле прынцыпаў заходнеэўрапейскага ваеннага мастацтва, а камандаваньне гэтай акругай прыняў новы ваявода, стольнік і князь Іван Андрэевіч Хаванскі. Эфэктам рэформаў у такім напрамку быў вельмі высокі адсотак райтарыі ў складзе гэтых войскаў. З часткі дваран і казакоў у ёй было ўтворана тры палкі, разам 2880 чалавек. Хаванскі ўтварыў таксама з найлепшай шляхты аддзелы сваёй прыбочнай варты, якія характарызаваліся вельмі добрым узбраеньнем, а таксама дзьве спэцыяльныя сотні: адборную і пад'язную. Іншыя дваранскія аддзелы ўваходзілі ў склад 9 гарадавых соцень і 5 казацкіх соцень. Акрамя гэтых адзінак, большую частку арміі Хаванскага складалі аддзелы драгуноў і салдацкай пяхоты, якія фармаваліся зь людзей, прыцягнутых да службы з Наўгародзкай акругі. Сярод войскаў «старога строю» вылучаліся досьведамі і загартаванасьцю ў баі пяхотныя сотнікі пскоўскіх і наўгародзкіх стральцоў, якіх у лістападзе 1659 г. падлічвалі на 2 тыс. чалавек[50].

Гэта знаходзіць пацьверджаньне ў цытаваным данясеньні Б. Радзівіла ад 9 студзеня 1660 г. Князь дзеліць пяхоту на тую ў «сярмягах» і на стральцоў. Пад першай разумелася салдацкая пяхота, і было яе 2 тыс., а стральцоў — тысяча. А райтарыя, пад якой, напэўна, разумеліся і драгунскія аддзелы, мела 120 карнэтаў па 60—70 чалавек (разам ад 7,2 да 8,4 тыс. жаўнераў). Рэшта, 800 чалавек, якія прыпадалі на аддзелы «думных баяраў» і «царскай лейб-гвардыі», — гэта дваранскія сотні. Таму трэба прызнаць, што армія, якую позьняй восеньню Іван Хаванскі вёў на заваёву Літвы, была вельмі сучаснай. Не беручы пад увагу зьдзіўляльнай адсутнасьці ў гэтым пераліку адзінак шляхецкіх жаўнераў і гарадавых казакоў, трэба прызнаць, што больш чым палова яе стану складалася з адзінак, якія былі ўзброеныя і змагаліся на заходнеэўрапейскі ўзор. Гэты адсотак крыху зьнізіўся вясной 1660 г., калі пад Ляхавічы ў складзе падмацаваньняў прыбыла значная частка стральцоў ці рускай шляхты.

[50] Курбатов О. Литовский поход... С. 26—27; Confessata o potędze...

Вынікаў рэформаў і дзейнасьці Хаванскага ня трэба было доўга чакаць. Ужо восеньню 1657 г. войскі пад ягоным камандаваньнем атрымалі перамогу над шведамі пад Гдовам, а потым спустошылі вялікую частку Эстоніі і асадзілі Нарву. Сапраўдным подзьвігам, які прынёс вялікую славу і прызнаньне цара, стала атака на літоўскія войскі ў студзені і лютым 1659 г., калі пад Мядзелам быў разагнаны нашмат большы корпус У. Валовіча. Аднак трэба памятаць, што ўсе згаданыя цяжкасьці, якія ў той час мучылі маскоўскую армію і дзяржаву, выпадалі і на долю наўгародзкага разраду. Менавіта ў гэты пэрыяд шэрагі многіх ягоных адзінак папаўняліся наборам зь сялянскага пласту. Праз гэта падала іх баяздольнасьць і ўзровень дысцыпліны. Гэта праявілася падчас першых цяжкасьцяў і няўдач пад Ляхавічамі.

Са жніўня 1659 г. войскі Хаванскага засярodзіліся ў Полацку, каб у выпадку неабходнасьці вырушыць на поўдзень ад Дзьвіны і прыкрываць абложныя дзеяньні пад Старым Быхавам. Рыхтуючыся да наступу, цар аддаў загад полацкай шляхце, каб яна як ягоная падданая падтрымала сваімі аддзеламі князя. Было сярод яе шмат фігураў, якія з моманту заняцьця гэтых зямель маскоўскімі войскамі прысягнулі цару і аддана яму служылі. Былі і тыя, якія падчас паўстаньня Нячая адступіліся ад цара, а пасьля паразы бунту вярнуліся на службу. На царскі загад фармаваліся палкі полацкай шляхты пад кіраўніцтвам Івана Кісажэўскага, Флярыяна Слонскага і Рамана Аскіркі. Можна падлічыць, што сабралося ў іх больш за 1 тыс. чалавек. Напэўна, з укамплектаваньнем гэтых аддзелаў было шмат цяжкасьцяў, паколькі ў лягер Хаванскага яны вырушылі зімой, а пад канец студзеня іх чакалі толькі ў Вільні[51].

На чале гэтай арміі стаяў вайскаводца, чый спосаб камандаваньня выклікаў шмат спрэчных меркаваньняў. Як вайскаводца наўгародзкага разраду ён дасягнуў пэўных посьпехаў падчас змаганьняў са шведамі ў Інфлянтах, нават нанёс у начной бітве пад Гдовам паразу Магнусу дэ-ля Гардзі. Аднак зусім ня даў рады пад Рыгай, якая выдатна абаранялася. У лютым 1659 г. ён разьбіў і разагнаў ліцьвінаў пад Мядзелам. Аднак посьпехамі Хаванскі быў абавязаны галоўным чынам колькаснай перавазе сваіх войскаў, а ў сутычках зь ліцьвінамі на працягу доўгага часу — іх нежаданьню змагацца і слабой пазыцыі жаўнераў і іх камандзіраў на полі бітвы. Сам Хаванскі не праяўляў выбітных вайскаводчых талентаў і зусім не валодаў спосабамі вядзеньня вайны на заходнеэўрапейскі ўзор. Найбольш ахвотна ён выкарыстоўваў традыцыйныя ўсходнія спосабы барацьбы, сам станавіўся на чале атакі дваранскай коньніцы, а камандаваньне адзінкамі «новага строю» даручаў дасьведчаным афіцэрам. Акрамя сутычкі пад Гдовам і Мядзелам, ён не праводзіў большай бітвы. У першым выпадку ён выкарыстаў начную атаку, а ў другім разагнаў ня надта ахвотныя да жорсткай бітвы літоўскія харугвы, якімі жахліва камандавалі люта пасвараныя паміж сабою У. Валовіч і М.У. Юдыцкі. Падчас дзеяньняў на мяжы 1659 і 1660 г. Хаванскі таксама ня меў нагоды камандаваць у бітве. Ён разагнаў самае большае дзьве дробныя групы харугваў. Затое Хаванскі быў прызнаным майстрам рашучага і хуткага дзеяньня. Не заўсёды яно было да канца абдуманае і разьлічанае на дасягненьне трывалага выніку, але магло прынесьці небясьпечныя вынікі засьпетаму зьнянацку праціўніку, прыкладам чаго можа быць атака на харугвы Палубінскага ў сакавіку 1660 г.

Першай сур'ёзнай сутычкай рэгулярных армій, у якой давялося камандаваць Хаванскаму, была бітва пад Палонкай. Ён не адзначыўся падчас яе нейкай арыгінальнай задумай і пасьля першых няўдач цалкам страціў ініцыятыву. Закончылася яна для яго поўнай паразай. Хаванскі не аказаўся вялікім вайскаводцам, што пацьвердзілі чарго-

[51] Гл.: Stefan Oborski do B. Radziwiłła, Kiejdany 18 I 1660. VUB. F. 4 (A—212). № 16696; Курбатов О. Литовский поход... С. 27; Confessata o potędze...

выя гады. Распачаўся некалькігадовы шэраг паразаў гэтага вайскаводцы на палях бітваў. Акрамя нечаканай атакі і разгону паасобных харугваў, ён ня быў у стане запісаць на свой рахунак нейкіх сур'ёзных посьпехаў. Затое ў 1660—1665 г. яго рэгулярна разьбівалі Чарнецкі, М.К. Пац ці нават літоўскія палкоўнікі. У самой Маскве нават пачалі з часам кпіць, што ён нарадзіўся для таго, каб зазнаваць паразы. Шмат вельмі дасьведчаных вайскаводцаў, у тым ліку гісторык Патрык Гордан, які ў 1660 г. быў яшчэ на польскай службе, а потым расейскай, прызнавалі, назіраючы за ваеннай дзейнасьцю і дасягненьнямі гэтага вайскаводцы, што ён быў надзвычай адважным чалавекам, які мог натхніць на адвагу і іншых. Аднак пры гэтым дадавалі, што ён быў безразважна імпульсіўным. У канцы гэтых характарыстык Хаванскага падсумоўвалася, што ён быў невукам ва ўсіх ваенных справах. На гэтую апошнюю ацэнку, напэўна, паўплывалі, паразы гэтага вайскаводцы, якія ён няспынна зазнаваў зь сярэдзіны 1660 г.[52]. Па Літве ж разыходзілася пагалоска пра грознага Хаванскага, якую падтрымлівалі яго-ныя жахлівыя чыны з часоў рэйду праз Падляшша і Наваградчыну. Разгром пад Палонкай паказаў ліцьвінам, што яны мелі дачыненьне ня з военачальнікам вялікага фармату, а з пасрэднасьцю на чале арміі.

[52] Тамсама. С. 31; Русский биографический словарь. Т. XXI. С. 376; Соловьев С.М. Т. XI. Москва, 1961. С. 35; Андреев И. Алексей Михайлович. Москва, 2003. С. 312—313.

## 2. Дзеяньні маскоўскіх, літоўскіх і каронных войскаў зь лістапада 1659 да чэрвеня 1660 г.





# VI. Наступ князя Івана Хаванскага — (лістапад 1659 — люты 1660)

Маскоўскі ўдар на Літву быў канчаткова запляніраваны на царскім двары найпазьней ужо ў красавіку 1659 г. Аднак змаганьні з маскоўскімі войскамі ў Беларусі і Ўкраіне прымушалі літоўскіх назіральнікаў чакаць хуткай небясьпекі і ад арміі, якая стаяла на Дзьвіне. Пацьвярджаць гэты непакой маглі паводзіны царскіх вайскаводцаў, а перш за ўсё князя Івана Хаванскага, які стаяў у Полацку, і засяроджаньне ў жніўні ў гэтым горадзе значнай колькасьці падначаленых яму войскаў Наўгародзкай акругі. Асабліва ўжо ў пачатку верасьня гэтым быў занепакоены маёр Кароль Карлік, які за некалькі дзён да гэтага спыніўся на загад Багуслава Радзівіла ў Біржах, каб ажыцьцяўляць камандаваньне гэтай фартэцыяй і княскім гарнізонам. Багатыя жамойцкія воласьці Багуслава разьмяшчаліся небясьпечна блізка ад зямель, занятых Масквой. Таму князь прыклаў намаганьні, каб дамагчыся ад царскіх ваяводаў зь Дзьвіны іх бясьпекі, а таксама здабыць усякую магчымую інфармацыю на тэму іх найбліжэйшых ваенных плянаў, каб яшчэ эфэктыўней абараніць сваю маёмасьць. Таму на гэтым напрамку Карлік павінен быў вельмі старацца праз сваіх шпегаў заўсёды мець бягучую інфармацыю наконт таго, што плянуецца ў непрыяцеля. Кемлівы афіцэр хутка зарыентаваўся, што сытуацыя гэтых зямель вельмі няпэўная, а маскоўскі наезд — пытаньне найбліжэйшага часу. Вельмі непакоілі яго перамовы Масквы са швэдамі наконт замены замірэньня ў Валіесаары на вечны мір. Калі б ён быў укладзены, то наход на гэтыя землі з Жамойці быў бы забясьпечаны. Яго мусілі пераконваць у гэтым і непрыязныя паводзіны Хаванскага ў дачыненьні да слугі князя Багуслава Яна Галаўні. Ён прывёз гвардыю ад прускіх рэгентаў на бясьпеку жамойцкіх уладаньняў князя Багуслава, які быў губэрнатарам Княскай Прусіі і кіраваў імі ад імя электара, у якога быў заключаны мір з царом. Князь меў сур'ёзныя праблемы з атрыманьнем сальвагвардыі ад самога электара Фрыдэрыка Вільгельма, які не хацеў пагаршаць свае стасункі з Масквой. Багуслаў рознымі спосабамі стараўся абмінуць гэту перашкоду і пасылаў лісты з подпісамі рэгентаў ці іншых прускіх саноўнікаў. Галаўня, які езьдзіў зь ім, ня раз быў сьведкам адкіданьня пятыцый свайго пана царскімі ваяводамі, якія з выгадай для сябе заўсёды ўказвалі на адсутнасьць подпісу электара. У кожным разе гэтай чарговай сальвагвардыяй не дазволіў сябе падмануць Хаванскі, а Галаўня *«такі атрымаў адказ, што ня маеш курфюрставага подпісу, а толькі музыкі ягоныя падпісаліся»*. Нашмат лягчэйшага паразуменьня Карлік спадзяваўся ад Нашчокіна і для гэтага ваяводы прасіў у Радзівіла асаблівых лістоў. Аднак, адчуваючы ўсё больш цьвёрдую і непрыхільную пазыцыю царскіх ваяводаў, ён баяўся найгоршага. Калі яшчэ ў кастрычніку да яго дайшлі навіны пра правакацыйныя дзеяньні літоўскіх афіцэраў на Браслаўшчыне, іх атацы на канвой, які праводзіў у Полацак віленскага ваяводу Шахоўскага, ён пачаў сур'ёзна баяцца аднаўленьня на тых землях барацьбы маскоўскіх войскаў зь літоўскімі. Аналізуючы апошнія выпадкі, ён асьцерагаў князя Багуслава, што *«замірэньне з Масквою, відаць, канчаецца»*. Пад канец кастрычніка адгукнуўся таксама царскі камэндант зь недалёкіх Чадосаў. Ён запатрабаваў, каб жаўнеры зь Біржаў не рабілі вылазак на заваяваныя землі. Яны, зразумела, вымушаны былі гэта рабіць, напэўна, у пошуках харчоў. Аднак станоўчым у ягоным патрабаваньні было тое, што са свайго боку ён абяцаў не трывожыць кнежеські воласьцяў[1].

Такім чынам, паўсюль у Літве баяліся маскоўскай атакі зь Дзьвіны, тым больш, што ўмацаваныя і ўкамплектаваныя маскоўскімі залогамі Вільня і Коўна павінны былі выконваць ролю базаў і пунктаў апоры ў далейшым маршы да сэрца Рэчы Паспалітай. Па праўдзе, з 1658 г. яны дастаткова эфэктыўна былі ізаляваныя мясцовай

шляхтай, якая працягвала супрацію, папераменна зь літоўскімі харугвамі. Аднак гэтыя сілы не былі ў стане супрацьдзейнічаць шматлікім царскім адзінкам, якія прыбывалі, тым больш, што ў сярэдзіне 1659 г. вельмі зьмалеў высілак мясцовай шляхты ў працягу блякады гэтых гарадоў. Заплянаваўшы правесьці ўдар, расейцы вырашылі спачатку істотна ўзмоцніць гарнізон Вільні, перакінуўшы туды дадатковыя сілы, перш чым павінна была падысьці разам з Хаванскім галоўная армія з Полацку[2]. Спрыяў ім факт слабасьці і расьсеяньня літоўскіх войскаў Сапегі на тых землях. Хоць гетман падстрахаваўся заключэньнем з маскоўскім камандзірам у Вільні *armistitium*, ён не пераставаў пільна наглядаць за пачынаньнямі варожых залогаў у гэтым горадзе і ў Коўне. А ягоныя харугвы, блукаючы і ўмацоўваючыся ў ваколічных землях, якія Масква лічыла «заваяванымі», пасьпяхова ліквідоўвалі ўсякія вылазкі з гэтых гарадоў[3]. Такая сытуацыя станавілася ўсё больш цяжкай для расейцаў, якія знаходзіліся ў горадзе, а ліцьвінаў, наадварот, падбадзёрвала да распачацьця ўсё больш рашучых дзеяньняў, каб пераняць поўны кантроль над землямі вакол Вільні і Коўна, а таксама заціснуць кола іх блякады.

Аднак ужо позьнім летам і раньняй вясной 1659 г. да літоўскіх камандзіраў дайшлі першыя сыгналы, якія выклікалі ў іх глыбокую занепакоенасьць. Яны заўважылі актывізацыю маскоўскіх войскаў у раёне Полацку, колькасьць якіх там хутка расла. Да таго ж расейцы пачалі інтэнсіўна перакідваць чарговыя аддзелы з гэтага гораду ў Вільню і Коўна. Сапега, ня маючы больша сілаў, ня вельмі мог супрацьдзейнічаць гэтаму, а таксама і не хацеў зрываць кволы мір. Аднак гэта не абяцала нічога добрага. З гэтага раёну ў астатнія гады зазвычай рушылі маскоўскія наступы ў кірунку Вільні і заходніх літоўскіх зямель. Так было зімой і вясной 1659 г., а адзін з камандзіраў тагачаснай расейскай выправы, князь Іван Хаванскі, стаяў на чале царскіх войскаў, колькасьць якіх нарастала. Ужо ў кастрычніку цар паслаў яму спэцыяльную грамату, якою наказваў яму вывесьці жаўнераў у Вільню і праводзіць адтуль наступальныя дзеяньні супраць літоўскіх і польскіх войскаў[4]. Прыбыцьцё ўсё новых і новых варожых аддзелаў у Вільню і Коўна не без прычыны вельмі занепакоіла ліцьвінаў, хоць вялікі літоўскі гетман Павел Сапега меў заключанае замірэньне з царскім камандзірам зь Вільні і з самім Хаванскім, а расейцы ў адказ на пытаньні пераконвалі, што ня маюць ваенных намераў, калі толькі іх не зачэпіць літоўскі бок[5].

Аднак сутычкі няспынна здараліся, што ў хуткім тэмпе псавала ўзаемадачыненьні, нягледзячы на замірэньне. Асабліва дрэнна адбіліся на крохкім замірэньні зьдзейсьненыя ў канцы верасьня і першых днях кастрычніка акцыі ротмістра Стэфана Дзятловіча і драгунскага лейтэнанта Яна Готарда Герынга. Крыху раней расейцы памянялі віленскага ваяводу. Ранейшага князя Міхала Сямёнавіча Шахоўскага замяніў князь Даніла Мышэцкі. Шахоўскі з канвоем скіраваўся ў Полацак. На зьвестку пра гэта ў пагоню за ім кінуліся Дзятловіч і Герынг. Яны ня здолелі злавіць самога ваяводу, але выразалі маскоўскіх рэйтараў, якія вярталіся ў Вільню пасьля

---

[1] K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 28 VIII 1659. LMAB. Fond 31—911; K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 3 IX 1659. BPAN Kr. 4011. K. 4; ліст ад 9 і 29 X 1659. K. 5v, 11v; J. Hołownia do B. Radziwiłła, Kiejdany 27 VII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 5303. S. 6—7.

[2] Гл.: Senatus Consulta W. Ks. Lit. BCzart. 401. S.128. Гэтая рада адбылася ў Шубіне 11 XI 1659 г.

[3] P. Sapieha do A. Połubińskiego, Prużany 1 IX 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/III. S. 43.

[4] Гл.: ліст цара Аляксея Міхайлавіча да полацкай шляхты. VS. № 53. S. 115—116; M.K. Pac do B. Radziwiłła, Bowsk 1 I 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 11209/II. S. 2.

[5] Respons Króla JMci na Hramotę Cara Moskiewskiego w Szubinie dany, Szubin 22 XI 1659. BCzart. 152. S. 381, 384—385, 387; K. Pac do S. Komorowskiego, Warszawa 23 X 1659. BCzart. 429. S. 226; Jan Kazimierz do A.H. Połubińskiego, Tuchola 28 XI 1659. AGAD. AR. Dz. III. Kop. 7. S. 76—77.

эскартаваньня Шахоўскага. Захопленыя вазы Дзятловіч пакінуў ва Ўцяне, а сам з Герынгам хутка вырушыў пад Браслаў, намерваючыся зьнянацку заняць гэты важны горад. Яму гэта не ўдалося, але са сваімі людзьмі ўвайшоў у землі паміж Браславам ды Іказьню і павыбіваў там маскоўскія залогі. Аднак тады ўдача пакінула абодвух камандзіраў, паколькі перад 10 кастрычніка яны пацярпелі цяжкую паразу, а самі трапілі ў палон і разам са шматлікімі палоннымі былі выведзены ў Кокенгаўзэн. Іх акцыі маскалі потым доўга згадвалі як зачэпку да распачацьця ваенных дзеяньняў. Акцыю абодвух літоўскіх камандзіраў асудзіў таксама канцлер К. Пац. Расейцы небеспадстаўна ўказвалі, што гэта быў відавочны наезд на землі, якія трактаваліся як заваяваныя царом[6]. Дадавалі да гэтага варожую дзейнасьць П. Сапегі, які ўваходзіў на заваяваныя землі паміж Вільняй і Коўнам і нападаў на царскіх жаўнераў і паслоў. Войскі гетмана практычна ўвесь час там блукалі, як, напрыклад, адпраўленыя ў верасні аддзелы Герынга і Канстанціна Ермаловіча, а напэўна, і іншыя, наконт якіх ён папярэдзіў віленскую шляхту. Тлумачыў, што зрабіў гэта, паколькі бачыў няспыннае ўзмацненьне маскоўскіх сілаў у Вільні і іх спусташальныя выправы ў ваколіцы з мэтай збору харчоў[7]. Узаемнае напружаньне ўзрасло напярэдадні прыбыцьця Хаванскага ў Вільню. Сапега адправіў да новага царскага ваяводы ў гэтым горадзе пасла Быкоўскага наконт далейшага *armistitium*. Аднак ён быў затрыманы ў горадзе, што выклікала ў гетмана найгоршыя прадчуваньні. Адначасова ў першыя дні лістапада зрабіў вылазку зь Вільні ў кірунку да Радуні моцны аддзел войска. Літоўскім харугвам, якія стаялі паблізу, удалося яго дагнаць, разьбіць і нанесьці сур'ёзныя страты. У лістападзе актывізаваліся таксама спусташальныя маскоўскія вылазкі з Коўна[8].

Непакой Паўла Сапегі і літоўскіх камандзіраў, што спадарожнічалі яму, мусіў быць яшчэ большы, паколькі, выдатна ўсьведамляючы імклівае нарастаньне маскоўскай актыўнасьці і набліжэньне пагрозы з Полацку, яны ведалі, што ня маюць сілаў, каб здолець даць ім дзейсны адпор. У Курляндыі тым часам таксама ўсё складвалася не найлепш, паколькі камандзір швэдаў фэльдмаршал Робэрт Дуглас распачаў раньняй восеньню больш энэргічныя дзеяньні, робячы вылазкі нават у Жамойць. Жаўнераў дывізіі левага крыла, якія змагаліся зь ім, падтрымаў корпус Палубінскага, які толькі што прыбыў. Аднак пра яго паводзіны было кепскае меркаваньне, паколькі, паводле назіральнікаў, *«войска сапегаўскае так гаспадарыць у Курляндыі, што ня толькі рабуе шляхецкія двары, але таксама пазабівала шляхціцаў і некалькі шляхцянак і дзеткам малым не дае палёгкі»*[9]. Нягледзячы на гэта, супольнымі сіламі ўдалося адціснуць па сутнасьці не занадта вялікія сілы Дугласа і адабраць у швэдаў у Курляндыі шэраг фартэцый. Сам Дуглас здолеў з галоўнымі сіламі сысьці, што сярод войскаў Палубінскага стала прычынай для распаўсюджаньня зласьлівых плётак, што нібыта праз зайздрасьць у ваеннай славе Камароўскі патаемна папярэджваў Дугласа і дазволіў яму бясьпечна сысьці[10]. Хоць і нарасталі непаразуменьні, супольныя дзеяньні прывялі да таго, што з канцом кастрычніка ва ўсходняй частцы тых зямель засталіся толькі дзьве крэпасьці, у Мітаве і Боўску, якія былі заблякаваныя літоўскімі сіламі. Пад Боўск рушыў з часткай сілаў

[6] K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 9 X 1659. BPAN Kr. 4011. K. 6; ліст ад 10 X 1659. K. 7v; K. Pac do S. Komorowskiego, Warszawa 23 X 1659. BCzart. 429. S. 226.

[7] AVAK. T. XXXIV. S. 135.

[8] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, Minkowicze 14 XI 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/III. S. 86b; K. Pac do M.K. Paca, Gdańsk 17 XI 1659. BCzart. 416. S. 106.

[9] K. Karlik do B. Radziwiłła, Birże 3 IX 1659. BPAN Kr. 4011. K. 4.

[10] S. Oborski do B. Radziwiłła, b.m.d. [заўвага да ліста ад IX—X 1659]. VUB. F. 4 (A—209). № 16465.

левага крыла літоўскі чэсьнік Міхал Казімер Пац, а хутка пасьля яго мусіў з рэштай войска накіравацца Камароўскі. Мітавай павінен быў заняцца Палубінскі са сваім корпусам з правага крыла. Такі падзел заданьня быў прадыктаваны ў значнай ступені фактам сваркі Камароўскага і Палубінскага і ўзаемным нежаданьнем супольна і скаардынавана дзейнічаць[11].

Для гэтых дзеяньняў войскаў, што знаходзіліся на той час у Курляндыі, было аж занадта шмат, і значную іх частку ўжо тады можна было адвесьці ў Літву. Аднак перашкодзілі гэтаму важныя падзеі, якія адбыліся ў гэтым войску і якія Сапега намерваўся выкарыстаць на сваю карысьць. Праблемай, якая няспынна турбавала літоўскае войска, была запазычанасьць дзяржавы ў выплаце жаўнерам жолду. Вайсковыя прэтэнзіі значна актывізаваліся восеньню, калі жаўнеры паабяцалі, што будуць служыць да канца кастрычніка. Тым часам 21 кастрычніка нечакана, вяртаючыся са спатканьня з князем Радзівілам пад Грубінам, на якім быў таксама Палубінскі, памёр камандзір левага крыла Самуль Камароўскі[12]. Паўстала пытаньне прызначэньне новага камандзіра. А ў гетмана зьявілася надзея паставіць на гэты чын свайго кандыдата і такім чынам прывесьці ўрэшце да аб'яднаньня пад сваёй булавой абедзьвюх частак літоўскай арміі. Аднак гэтага баяўся кароль і літоўскі канцлер Крыштап Пац. Таму яны надзвычай хутка прызначылі на гэтую пасаду сваяка канцлера, літоўскага чэсьніка Міхала Казімера Паца. Хоць у той момант ён меў вялікую падтрымку сярод войска жамойцкай дывізіі, аднак значная частка яе афіцэраў глядзела на новага камандзіра вельмі дрэнна і не намервалася падпарадкоўвацца ягоным загадам. Расчараваны ў сваіх спадзяваньнях, Сапега вырашыў выкарыстаць гэтую варожасьць, каб усё ж дабіцца свайго і ліквідаваць адасобленасьць левага крыла. Гэтаму павінен быў паслужыць корпус Палубінскага, які стаяў у той час каля левага крыла ў Курляндыі, і яго афіцэры. Іх заданьнем было перацягваць жаўнераў дывізіі Паца на бок гетмана, сеяць незадавальненьне сярод афіцэраў левага крыла, падкупаць іх грашыма, абяцаньнямі гетмана прызначыць ім лепшыя месцы для атрыманьня хлеба, наданьня нейкай маёмасьці. З гэтай асабістай прычыны Сапега абсалютна ня быў схільны выводзіць з Курляндыі корпус, які належаў да ягонага правага крыла. З другога боку, перад усё больш небясьпечнай пагрозай зь Дзьвіны ён усё ж мусіў зрабіць нейкія захады, каб бараніць літоўскія землі. Вайсковыя аддзелы, якія засталіся пры ім пасьля адыходу Палубінскага, былі вельмі сьціплыя і не было чаго марыць, каб яны здолелі стрымаць мацнейшую атаку царскіх войскаў, тым больш, што ня вельмі ўдавалася прадугледзець яе сілы. У гэтай сытуацыі адзінае, што мог зрабіць Сапега, — гэта заклікаць шляхту зь зямель пад пагрозай станавіцца на паспалітае рушаньне, напэўна, у Мядзеле, які знаходзіцца на сярэдзіне шляху ад Полацку да Вільні[13]. Усё гэта абяцала чарговы посьпех царскім войскам у іх змаганьні з аслабленай і надалей зацыкленай на заканчэньні вайны са шведамі Рэччу Паспалітай.

Удар на Літву быў відавочным наступствам пераарыентацыі маскоўскай палітыкі і адмовы ад вайны са Швэцыяй на карысьць змаганьня за беларускія і ўкраінскія землі з Рэччу Паспалітай. Падзеньне Выгоўскага і заняцце Украіны дазволіла Маскве распачаць адступленьне са швэдзкага фронту сілаў Хаванскага, якія ў жніўні пачалі зьбірацца на зыходных пазыцыях у Полацку. Іх якасьць, правераная ў змаганьнях у Інфлянтах, прымушала верыць у чарговы посьпех, тым больш, што літоўскі праціўнік быў слабы, а магчымая дапамога ад задзейнічаных у далёкай Прусіі ці

[11] NN do K. Paca, z Libawy 22 (?) X 1659, NGAB. F. 1503. Op. 1. № 42. K. 7—7v (копія).
[12] Тамсама.
[13] Uniwersał P. Sapiehy do powiatu lidzkiego, z Rasney, XI [пачатак] 1659. AGAD. Zbiory Komierowskich 54/74. S. 26; Poczobut. S. 47—51.

Даніі каронных войскаў была сумнеўная. Афіцыйнай мэтай Аляксея Міхайлавіча ў Літве стала вяртаньне ўсіх зямель, шляхта якіх калісьці прысягнула яму ў вернасьці, а потым ад гэтага адступілася. Гэта датычыла і далёкай берасьцейскай шляхты, якая ў канцы 1655 г. неасьцярожна паабяцала прынесьці прысягу[14]. Аднак фактычна пасьля выгаднага вырашэньня праблемы ва Ўкраіне царскія пляны набылі больш шырокую пэрспэктыву. Яны зводзіліся да намеру атрымаць як мага большыя ваенныя посьпехі ў Літве і Ўкраіне, нават злучыць войскі, якія ішлі з тых бакоў, на Падляшшы і паставіць пад пагрозу сэрца Рэчы Паспалітай. Камптоўнасьць перамоваў, што вяліся з Рэччу Паспалітай, адыходзіла на другі плян, і яны саступалі першынство ваенным дзеяньням, якія павінны былі прымусіць Варшаву распачаць перамовы і згадзіцца на іх з усімі царскімі ўмовамі ўзамен за найлепш вечны мір.

Першыя дні пачатку наступу Івана А. Хаванскага дастаткова цяжка прасачыць. Некаторыя падзеі папросту не ўдаецца лякалізаваць у часе і прасторы. Царскі камандзір з Полацку на чале забраных адтуль войскаў рушыў да 29 кастрычніка і, ня надта сьпяшаючыся, скіроўваўся ў напрамку Вільні[15]. Добра зарыентаваны Я.А. Храпавіцкі, знаходзячыся ў другой палове 1659 г. галоўным чынам на Падляшшы, таксама сутыкаўся з навінамі пра збор маскоўскіх войскаў у Вільні. Аднак толькі пад датай 19 лістапада ён занатаваў на палях свайго дыярыюша навіну пра прыбыцьцё ў гэты горад Хаванскага[16]. Трэба прыняць, што так сапраўды было. Цар ужо загадаў князю, каб з Полацку ён скіраваўся менавіта ў Вільню, што той у другой палове лістапада выканаў загад. А вось з апісаньня маскоўскага наезду, пакінутага Б. Маскевічам, вынікала б, што Хаванскі пайшоў празь Лідзкі павет у бок Горадні, абмінаючы Вільню з поўдня[17]. Аднак здаецца, што Маскевіч або не адзначыў факту яго прыбыцьця ў Вільню (можа, сам Хаванскі не заставаўся там занадта доўга), або ў кірунку Ліды скіраваўся нейкі іншы, мацнейшы царскі аддзел. У кожным разе сам Хаванскі павінен быў вырушыць зь Дзьвіны яшчэ ў першай палове лістапада, каб 19 зьявіцца ў Вільні.

Неўзабаве, пасьля выправы з раёну Полацку, маскоўская армія адразу дасягнула значных посьпехаў. Кіруючыся на Вільню, расейцы пацыфікавалі абшары, якія працягвалі супрацоўляцца цару. У Мядзеле яны натыкнуліся на групу надта спалоханай наваградзкай шляхты, якая нязграбна зьбіралася на паспалітае рушаньне. Яе разагналі без ніякай праблемы, а, уцякаючы ў бок Жамойці і за Нёман, паспалітакі паўсюль разносілі панічныя навіны пра сьцягваньне вялізных сілаў непрыяцеля. Гэта, а таксама наплыў у наступныя дні данясеньняў пра чарговыя паразы істотна паўплывала на паралізаваньне волі абароны сярод шляхты разьмешчаных далей паветаў. Спалоханая тэрорам маскоўскіх жаўнераў, ня маючы надзеі на яе падтрымку з боку рэгулярных літоўскіх войскаў, пакінутая самой сабе, яна пакідала ўсякія думкі пра супрацоў і спрабавала ратаваць сваё жыцьцё і набытак, уцякаючы з тэрыторый, пастаўленых пад пагрозу, або прымаючы падданства цара[18].

Прыбыўшы 19 ліспапада ў Вільню, Хаванскі злучыў прыведзеныя сілы з тымі, якія ўжо раней былі перакінутыя ў гэты горад з Полацку. На чале пушчаных гэтым

---

[14] Курбатов О. Литовский поход 7168 года. Цыт. арт. С. 28.

[15] Тамсама.

[16] Chrapowicki. S. 212.

[17] Maskiewicz. S. 272.

[18] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 21 XI 1660. AGAD. AR. Dz.V. № 6865/I. S. 151. Паводле К. Марцінкоўскага (K. Marcinkowski. S. 28—29). гэтая бітва разыгралася 21 XI, але аўтар не падае крыніцы, на падставе якой вызначыў гэта. Згадвае пра гэту сутычку Маскевіч (Maskiewicz. S. 271—272), але блытае яе зь лютаўскай бітвай 1659 г.

разам зь Вільні загонаў ён працягваў зьнішчальныя, рэпрэсіўныя рэйды на Віленшчыне, каб пацыфікаваць бунтаўнічыя настроі ваколічнай шляхты. З гэтай мэтай ягоныя войскі нечаканым нападам спусташылі значную частку Вількамірскага павету. Іх загоны лютавалі тады і пазьней у Лідзкім і Ашмянскім паветах. Паліліся шляхецкія двары, забівалася насельніцтва, шмат шляхты было зацягнута ў кайданах у Вільню і кінута ў замкавую вязьніцу[19]. Невядома дакладна, у які дзень царскі камандзір выехаў зь Вільні, але ягоныя жаўнеры пакінулі гэты горад і ваколіцы ўжо ў апошнія дні лістапада.

Расейскія аддзелы скіраваліся ў бок Лідзкага павету, празь які праходзіла дарога на Горадню. Аднак там стаяла харугва вугорскай пяхоты і драгуноў Сапегі, накіраваных, напэўна, яшчэ летам 1659 г. ім з мэтай блякады Вільні і прыкрыцьця Лідзкага павету ад маскоўскіх вылазак з гэтага гораду. Іх падтрымлівала некалькі харугваў паспалітага рушаньня лідзкай шляхты і наймітаў. Гэтыя аддзелы, якімі камандаваў лідзкі падкаморы Якуб Тэадор Кунцэвіч, намерваліся загарадзіць шлях расейскім войскам, што надыходзілі, на пераправе праз раку Дзітву ў вёсцы Мыта. У яе ваколіцах збудавалі земляны форт і ўкамплектавалі яго залогай. Сутычка, напэўна, не з усёй арміяй, а зь нейкай яе часткай адбылася на золку 27 лістапада[20]. Аднак царскія камандзіры на кінуліся ў непасрэдны штурм літоўскіх пазыцыяў, але абышлі іх, пераправіўшы войскі ў іншым месцы. Потым ударылі збоку ў засьпетых зьнянацку ўдзельнікаў паспалітага рушаньня, цалкам расьсеяўшы іх і здабыўшы форт бязь цяжкасьцяў. Паводле Мацкевіча, толькі гетманская вугорская пяхота пад камандаваньнем ротмістра Крыштапа Пасудзеўскага і драгуны здолелі, захоўваючы парадак, адступіць за Нёман, страціўшы толькі 22 чалавекі[21]. У пагоню за імі ў напрамку блізка за гэтай ракой разьмешчанага Наваградку рушыла пэўная частка маскоўскіх сілаў. Аднак галоўная частка царскай арміі пайшла ў кірунку на Горадню. Паводле інфармацыі Міхала Казімера Паца, з пачатку сьнежня пэўная частка маскоўскіх войскаў скіравалася, абмінаючы Вільню, на Коўна. Вёў яе, напэўна, Хаванскі, якога Пац называе «палкоўнікам»[22]. Магчыма, гэта быў адзін з сыноў Івана Хаванскага, якія ўдзельнічалі пры баку бацькі ў вайне з Рэччу Паспалітай. Спалоханая ковенская шляхта спрабавала шукаць праз сваіх паслоў дапамогі ў Стэфана Аборскага, які распараджаўся вялікімі ўладаньнямі князя Багуслава Радзівіла ў Жамойці, разьлічваючы, што ён згодзіцца падтрымаць яе жаўнерамі з княскага гарнізону, які стаяў у Біржах і Кейданах. Аднак Аборскі адвязаўся ад іх просьбаў тым, што гарнізон павінен сьцерагчы гэтыя фартэцыі ў выпадку маскоўскага нападу на Жамойць. Вельмі сьціплую дапамогу аказаў ім камандзір дывізіі левага крыла пасьля памерлага ў кастрычніку Камароўскага, літоўскі абозны Міхал Казімер Пац. Ён паслаў у Ковенскі павет дзьве казацкія і тры драгунскія харугвы. Падтрымаў таксама Вількамірскі павет дзьвюма казацкімі і, маючы навіны пра непасрэдную пагрозу Вількаміру, рыхтаваўся паслаць туды цэлы рэйтарскі рэгімэнт. Вайсковай падтрымкі дамагалася таксама шляхта Упіцкага павету. Вялікая частка шляхты зямель, што апынуліся пад пагрозай, ня верыла ў дзейсную дапамогу і магчымасьць даць адпор захопніку, таму загадзя ўцякала зь сем'ямі да Жамойці[23]. Нарастаньне небясь-

[19] K. Żeromski do B. Radziwiłła, Bowsk 18 XII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 18969. S. 10; K. Karlik do M.K. Paca, Birże 23 XII 1659. BCzart. 1380. S. 197.

[20] Курбатов О. Литовский поход... С. 28.

[21] Тамсама. S. 28; Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Gdacsk 17 XII 1659. LvNB. Fond 103. № 1731; A.H. Połubiński. do B. Radziwiłła, z obozu pod Mitawą 23 XII 1659. AGAD. AR. № 12080/I. S. 28; Senatus Consultum w Gdańsku 1 I 1660. BCzart. 401. S. 125; Maskiewicz. S. 272.

[22] M.K. Pac do A.H. Połubińskiego, Bowsk 2 XII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 11209/I. S. 152—153.

пекі прыняло да таго, што гетман скіраваў заклік да шляхты, якая апынулася пад пагрозай, каб яна сядала на коней. На ягоную просьбу ў пачатку сьнежня заклікаў да абароны землі Падляскага ваяводзтва бельскі земскі пісар Крыштап Жэльскі[24].

Перамогшы літоўскія аддзелы ў Лідзкім павеце, маскоўскія войскі скіраваліся ў далейшы шлях да Горадні. Яны павінны былі прайсьці каля 100 км па простай лініі. Можна прыняць, што прыблізна праз тыдзень яны зьявіліся ў ваколіцах гэтага горада. Навіна пра нечаканы надыход царскіх войскаў хутка дайшла да літоўскіх камісараў, якія чакалі ў недалёкім Сяльцы распачацьця польска-маскоўскай камісіі. Яна страсянула іх, паколькі камісары спадзяваліся хутчэй на замірэньне і мірныя перамовы, запланаваныя на 15 лістапада. Тым часам іх зьнянацку засьпела трагічная зьвестка пра марш вялікай арміі Хаванскага і першыя паразы літоўскіх войскаў, і ўсё гэта на фоне пагаршэньня становішча каронных войскаў ва Ўкраіне. Жамойцкі стараста Юры Глябовіч, адзін зь літоўскіх камісараў, ужо пад канец лістапада біў трывогу, заўважаючы пачатак маскоўскага наезду. Як звычайна, з поўным роспачы перабольшаньнем ён даносіў Я.А. Храпавіцкаму пра набліжэньне 40-тысячнай арміі[25]. Напэўна, пра падобныя сілы варожага наступу ён інфармаваў і іншых, каму пасылаў свае лісты. Усё гэта выклікала нарастаньне панічных настрояў і непакою за лёс Літвы. Будучы найбліжэй да гэтых падзеяў, літоўскія камісары, пасланыя на перамовы з прадстаўнікамі цара, вельмі баяліся, ці пераможны Хаванскі не намервaецца злучыцца дзесьці на Палесьсі з маскоўскімі і казацкімі войскамі Васіля Шарамецьева, якія рушылі праз Украіну на захад. Паводле іх, такая непрадказальная ў сваіх выніках падзея была вельмі імаверная, пра што яны пісалі непасрэдна каралю і літоўскаму канцлеру Крыштапу Пацу: *«А калі яшчэ кароннае войска з Дубна на сабе прывядзе да Берасьця непрыяцеля, хутка трэба было б цэламу Княству Літоўскаму расьпяваць рэквіем. Дасталося б гэтага і Кароне не абы-як»*[26].

Пакуль ліцьвіны заставаліся ў шоку і ня вельмі ведалі, што далей рабіць, маскоўскае войска, шырока спусташаючы ваколіцы, хутка прасоўвалася ў кірунку Горадні, пад якую яго першыя аддзелы падышлі ўжо 30 лістапада, а ў чарговыя дні сабралася ўся армія[27]. Горад быў укамплектаваны дастаткова моцнай залогай, якая, напэўна, мела ў распараджэньні шмат гармат. Камандаваў ёй камэндант Гутоўскі. Расейцы зрабілі на горад некалькі штурмаў, але залога адбіла іх[28]. Аднак ліцьвіны здавалі сабе справу з істотных недахопаў у забесьпячэньні крэпасьці ваенным матэрыялам. Дзякуючы данясеньням каронная падкаморага Готгарда Бутлера, які яшчэ перад самым прыбыцьцём расейцаў знаходзіўся пад Горадняй, і на каралеўскім двары лічыліся з тым, што гэтая крэпасьць не пратрымаецца доўга[29].

Маскоўскія жаўнеры не спыніліся на адных намаганьнях здабыць Горадню. Ужо падчас маршу пад гэты горад і на працягу дзесяці зь нечым дзён яго аблогі Хаванскі пасылаў ва ўсё бакі разьезды, якія бязьлітасна рабавалі ваколічную шляхту, палілі яе

---

[23] S. Oborski do B. Radziwiłła, Kiejdany, b.d. [сьнежань 1659 г.]. VUB. Fond 4 (A—232). № 18078; M.K. Pac do A.H. Połubińskiego, z Bowska 3 I 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 11209/I. S. 106—107; Stanisław z Dąmba Dąmbski, chorąży powiatu upitskiego, imieniem całego powiatu do Panów Wojskowych JKMci WXLitt., w Poniewieżu 17 I 1660. Тамсама. № 2879; K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 1 I 1660. BPAN Kr. 4011. K. 23.

[24] K. Żelski do P. Sapiehy, z Szumkow 7 XII 1659. LvNB. F. 103. № 1730.

[25] Chrapowicki. S. 213.

[26] Komisarze do K. Paca, Sielce 12 XII 1659. BCzart 152. S. 428; Komisarze do Jana Kazimierza, Sielce 13 XII 1659. Тамсама. S. 438.

[27] K. Potocki do B. Radziwiłła, Wąsosz 31 XII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 12251. S. 29.

[28] A.H. Połubiński. do J. Szeneka, z obozu pod Mitawą, 22 XII 1659. Тамсама. № 12080/I. S. 25; K. Karlick do M. K. Paca, Birże 23 XII 1659. BCzart. 1380. S. 197.

[29] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Gdańsk 4 I 1660. LvNB. F. 103. № 1735.

двары і вёскі, а яе саму або забівалі, або — што рабілі з большай ахвотай — забіралі цэлымі сем'ямі ў няволю. Падобным чынам цярпелі таксама нешляхецкія жыхары закранутых наездам зямель, хоць асаблівая жорсткасьць захопнікаў была скіраваная супраць шляхты. Пакуль што такі лёс выпаў на долю Ашмянскага і Лідзкага паветаў і, зразумела, ваколіц Горадні[30].

Ня маючы магчымасьці даць збройны адпор войскам грознага князя, літоўскія камісары, што былі непадалёк, спрабавалі стрымаць яго дыпляматычнымі захадамі. Тлумачылі яму, што ўласна цяпер павінны былі распачацца польска-расейскія перамовы наконт міру, а ён іх зьнішчае сваім збройным нападам. Аднак іхнія захады і пратэсты ня мелі найменшага ўплыву на пляны Хаванскага што да далейшай асады Горадні. Урэшце ён запатрабаваў ад Яна Васілеўскага, які выконваў ролю сувязнога паміж ім і камісарамі, каб тыя прымусілі каралеўскую залогу Горадні здацца. Запатрабаваў таксама, каб цэлы Гарадзенскі павет прынёс яму кантрыбуцыю. Камісары пратэставалі супраць такіх патрабаваньняў, і толькі на трэці раз, як пісалі да К. Паца, *«толькі вусна загадаў, каб мы горад гарадзенскі добраахвотна яму здаць загадалі. Што non erat potestatis nostrae [не было ў нашай уладзе], але пан камэндант сам да гэтага дадумаўся і, маючы магчымасьць пратрымацца пэўны час, безь ніякай на яго атакі і экспэрымэнту паквапіўся на здачу Горадні, а праз сабак і гармату ўсю дарма пашкодзіў. Таму непрыяцель, стаўшы пасьля гэтага посьпеху ганарыстым і самаўпэўненым, даў нам такі адказ, які пасылаем Яго каралеўскай міласьці»*[31]. Горадня, на зьдзіўленьне аслупянелых камісараў, здалася камэнданту з уласнага жаданьня камэнданта Гутоўскага. Ён апраўдваўся недахопам дастатковай залогі, хоць раней кляўся хутчэй памерці, чым здацца непрыяцелю[32]. Можа быць, прычынай здачы Гутоўскага была немагчымасьць кантраляваць сабраную у Горадні шляхту, якая не хацела падпарадкоўвацца ягоным загадам як камэнданта, прапануючы іншае рашэньне, у тым ліку і капітуляцыю. Хутка пасьля гэтага Багуслаў Радзівіл асьцерагаў сваіх камісараў у Слуцку ад лёсу Горадні. Ён папярэджваў, каб тыя не дазволілі шляхце, якая хаваецца ў ягонай фартэцыі, ніякага супраціву і спынялі спробы непадпарадкаваньня камэнданту. Пры гэтым выразна зазначаў, што менавіта гэта загубіла Горадню[33]. У кожным разе пасьля такога посьпеху маскоўскі камандзір не намерваўся выслухоўваць скаргі літоўскіх камісараў, а тым больш лічыцца зь імі. Хутчэй ягоная пазыцыя ў дачыненьні да іх і Рэчы Паспалітай стала яшчэ больш жорсткай і няўступлівай.

Хаванскі не прыпыніў свайго наступу, заняўшы Горадню, у якой пакінуў пад камандаваньнем ваяводы Т.А. Чаліщава сотню стральцоў і роту салдацкай пяхоты[34]. У той час аказалася, што ягоная выправа не абмяжоўваецца толькі вярганьнем «заваяваных» гарадоў і паветаў, якія нядаўна забралі ў іх ліцьвіны. Ужо раней, у момант, калі на каралеўскі двор пачалі даходзіць навіны пра ягоны паход, там мелася на дзіва дакладная інфармацыя пра пляны маскоўскага камандзіра, якія датычылі ягонага

[30] K. Karlik do M.K. Paca, Birże 23 XII 1659. BCzart. 152. S. 449; Komisarze do Jana Kazimierza, Sielce 13 XII 1659. Тамсама. S. 438.

[31] Komisarze do K. Paca, Sielce 4 I 1660. BCzart. 153. S. 16; Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Gdańsk 4 I 1660. LvNB. F. 103. № 1735.

[32] Maskiewicz. S. 273; Chrapowicki. S. 216. Падае дату капітуляцыі Горадні 19 XII; А. Рахуба (A. Rachuba. Konfederacja Kmicicowska... S. 43) падае дату каля 20 XII; той жа аўтар у выданьні Pamiętnika J.W. Poczobuta Odlanickiego (s. 52) кажа пра 22 XII. О. Курбатаў падае дату 18 XII (Литовский поход... С. 28).

[33] B. Radziwiłł do komisarzy w Słucku, Królewiec 8 I 1660. AGAD. AR. Dz. IVa (копіі). T. 1. Kop. 2. K. 297v.

[34] Курбатов О. Литовский поход... С. 28.

маршу на Берасьце і да Варшавы, а нават аб'яднаньня з войскамі, што ішлі з Украіны. Меў іх і заўсёды добра інфармаваны князь Б. Радзівіл[35]. Маланкавае разьвіцьцё падзеяў пасьля капітуляцыі Гароднi толькі пацьвердзіла гэтыя зьвесткі.

Паводле Маскевіча, Хаванскі не спыніўся ў здабытай Гародні, але хуткім маршам скіраваўся на Падляшша, паколькі пачуў, што там стаяць літоўскія войскі. Ягоныя аддзелы яшчэ падчас змаганьняў пад Горадняй пераходзілі на другі бок Нёмна, спусташаючы тыя землі да самай прускай мяжы[36]. Цяпер ён вырушыў туды з усёй сваёй моцай. Яго чарговай мэтай былі разьмешчаныя там літоўскія харугвы і Берасьце. Марш расейцаў у гэтым кірунку быў такі маланкавы і нечаканы, што цалкам паралізаваў і так слабую літоўскую абарону. Каб дасягнуць належнай хуткасьці маршу і праз гэта эфэкту поўнай нечаканасьці, у дваранаў былі забраныя іхнія коні, якія везьлі запасы, а пасадзілі на іх пешых стральцоў і салдатаў. Хаванскі разаслаў у розныя бакі Падляшша моцныя разьезды, якія сеялі жах і зьнішчэньне. Адзін зь іх, выходзячы яшчэ на золку з Адэльску каля Саколкі, 28 сьнежня засьпеў у Крынках літоўскі полк пад камандаваньнем Яна Яцка Агінскага, паручніка панцырнай харугвы гетмана П. Сапегі. Ён складаўся зь сямі харугваў коньніцы: адной панцырнай гетмана П. Сапегі, дзьвюх драгунскіх і чатырох татарскіх[37]. Хоць ліцьвіны былі ў поўнай баявой гатоўнасьці, яны не чакалі настолькі неспадзяванага нападу. Сутычка закончылася іх паразай, а ў маскоўскую няволю патрапілі 26 жаўнераў, у тым ліку шмат жаўнераў панцырнай літоўскай харугвы. Рэшткі зьнішчаных харугваў пачалі ў паніцы адыходзіць у кірунку Беластоку і Заблудава. Маскоўскія войскі, якія гналіся па іхніх сьлядах, уварваліся ўжо ў той самы дзень у Заблудаў. Там яны засьпелі шмат сабранай яшчэ ў сьвяточную пару шляхты і літоўскіх жаўнераў. Нечаканасьць была вялікай, таму нiхто не абараняўся, асабліва калі заўважылі, што іншыя варожыя загоны адрэзалі шлях да ўцёкаў і набліжаліся да гораду зь іншых бакоў. Расейцы, ап'янёныя посьпехам, учынілі разьню жыхароў. Па ваколіцы яны разаслалі свае разьезды, якія вылоўлівалі цэлыя шляхецкія сем'і, беручы іх у няволю. Якраз іх і ў дадатку з шэрагаў літоўскіх вайскоўцаў было ў самім Заблудаве і ваколіцах шмат. Гэта былі радзівілаўскія ўладаньні, аддадзеныя войску ад здраднікаў Радзівілаў, звароту якіх ужо доўгі час безвынікова дамагаўся Багуслаў Радзівіл. Таму верны слуга Багуслава Радзівіла, Стэфан Аборскі, мог зь дзікім задавальненьнем дадаць, заканчваючы данясеньне пра ўчыненую там расейцамі разьню вайскоўцаў, іх жонак і слугаў: *«Вось так Бог плаціць тым, што жадалі чужога»*. Тыя, хто здолеў уцалець, былі пазбаўленыя ўсёй маёмасьці, як, напрыклад, сабраныя ў Заблудаве ўцекачы з Гарадзеншчыны, якіх тут на Падляшшы засьпеў непрыяцель[38]. Ня шмат каму ўдалося выбрацца з пастаўленых маскоўскіх пастак, якія расьцягнуліся ажно да блізкіх да прускай мяжы ваколіц. Адным зь іх быў літоўскі крайчы Крыштап Патоцкі, які нядаўна ў такіх жа драматычных акалічнасьцях мусіў уцякаць ад жаўнераў Ха-

[35] Гл.: B. Radziwiłł do K. Paca, Królewiec 12 XII 1659 // E. Kotłubaj. S. 215 (гл.: NGAB. F. 1503. Op. 1. № 42. K. 14); K. Pac do A.H. Połubińskiego, Gdańsk 19 XII 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 11208/II. S. 184; Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Gdańsk 17 XII 1659. LvNB. Fond. 103. № 1731.

[36] Komisarze do J. Wasilewskiego, Sielce 21 XII 1659. BCzart. 152. S. 445—446.

[37] B. Radziwiłł do K. Paca, b.m. 9 I 1660 // E. Kotłubaj. S. 221; K. Potocki do B. Radziwiłła, Wąsosz 31 XII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 12251. S. 29.

[38] K. Potocki do B. Radziwiłła, Wąsosz 31 XII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 12251. S. 29—30; B. Olszewski do B. Radziwiłła, Stara Wieś 3 I 1660. Тамсама. № 10816. S. 147—148; S. Oborski do B. Radziwiłła, Kiejdany 8 I 1660. VUB. Fond 4 (A—232). № 18089; B. Radziwiłł do K. Paca, b.m. 9 I 1660 // E. Kotłubaj. S. 221; Chrapowicki. S. 216; Maskiewicz B. S. 273; Курбатов О. Литовский поход… С. 28.

ванскага з Горадні ў Беласток. Як сам пісаў, цяпер таксама ў апошні момант даведаўся, што ў Заблудаве, які знаходзіцца прыблізна за 20 км, лютуе Масква. Зь вялікай цяжкасьцю ён здолеў ўратавацца разам з парай чалавек ад нападу непрыяцеля. Таксама сам гетман Павел Сапега быў вымушаны пасьпешна ўцякаць з Супрасьля ад загонаў захопніка. Удалося зьбегчы таксама вялікаму літоўскаму харужаму Зыгмунду Адаму Слушку, насуперак пагалосцы, што яго схапілі маскоўскія жаўнеры. А рэшткі разьбітых у Крынках харугваў дайшлі 30 сьнежня да Чорнай, якая знаходзіцца прыблізна за 30 км на поўдзень ад Браньску[39].

У Заблудаў хутка падцягнуліся галоўныя маскоўскія сілы, якія ішлі з-пад Горадні на Берасьце-Літоўскае. Аказалася, што яны там спыняцца на пэўны час, каб між іншым адзначыць на месцы свае праваслаўныя сьвяты Божага Нараджэньня, якія прыпадалі на 4 студзеня 1660 г. паводле новага календара[40]. Разьбіўшы ў гэтым месцы лягер, расейцы не намерваліся аддацца толькі сьвятам. Яны распусцілі загоны сваіх войскаў па ўсім Падляшшы, якія палілі і зьнішчалі ўсё, што толькі можна. Спалоханая шляхта і насельніцтва гэтых зямель у паніцы ўцякалі за Буг ці ў Прусію, дзе разьлічвалі на дапамогу князя Багуслава Радзівіла, намесьніка Княскай Прусіі[41]. Хто ня здолеў уцячы або схавацца ад агрэсара, таго забівалі ці забіралі ў няволю. У той час і ў пазьнейшыя дні былі зьнішчаны такія населеныя пункты, як Тыкоцін, Ломжа, Кнышын, Браньск, Мэнжэнін, Бельск, Дойліды, Орля, Камянец-Літоўскі, Ратна і шэраг іншых драбнейшых населеных пунктаў[42]. *«Запусьціў Хаванскі разьезды свае перад сабою, якія агнём і мячом спусташалі і губілі гарады Яго каралеўскай міласьці і вёскі, таксама царкоўныя і панскія двары губілі і палілі або выразалі і забівалі»*, — так мясцовая шляхта згадвала дні знаходжаньня маскоўскіх войскаў на Падляшшы ўжо пасьля адбіцьця Хаванскага[43].

Калі мінуў праваслаўны тэрмін сьвятаў Божага Нараджэньня, маскоўская армія пасьпешным маршам скіравалася з Заблудава ў напрамку Берасьця, да якога па простай лініі было каля 110 км. Паводле адзінагалосных меркаваньняў, Хаванскі намерваўся злучыцца там з маскоўскімі войскамі, якія ішлі Украінай, і казацкімі, якія ішлі Палесьсем. Іх моцны загон пад камандаваньнем палкоўніка Кургана, ідучы ад Турава, 19 сьнежня заняў і абрабаваў ваколіцы Пінску, застаўшыся там на пару дзён[44]. Па дарозе праз Падляшша жаўнеры Хаванскага руйнавалі ўсё на вялікай плошчы. Шмат зь іх, можа, памяталі трагічны для расейцаў паход у гэтых краях пад камандаваньнем Урусава, і таму зь яшчэ большай лютасьцю помсьцілі шляхце, якая адраклася ад прынесенай цару прысягі ў вернасьці, і яе маёнткам. 5 студзеня расейцы былі ўжо ў Кляшчэлях, якія дашчэнту зьнішчылі, 7 студзеня падобны лёс напаткаў разьмешчаны каля 20 км на паўднёвы захад Мілейчыцы, а потым дайшлі да разьмешчанага каля 50 км далей на ўсход Камянца-Літоўскага, які цалкам спусташылі. 8 студзеня маскоўскія войскі былі

---

[39] Chrapowicki. S. 216.

[40] B. Olszewski do B. Radziwiłła, Stara Wieś 3 I 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 10816. S. 148.

[41] Напрыклад: A. Ciechanowiecka z Druckich Horskich do B. Radziwiłła, Olita 24 III 1660. Тамсама. № 2272. S. 1—2, а таксама яе ліст ад 27 III; гл. просьбу да Б. Радзівіла аб дапамозе і ахове шматлікіх падпісаных літоўскіх грамадзян, якія ўцякалі ад Масквы і заставаліся на прускай мяжы: Wiżajny 23 I 1660. AGAD. AR. Dz. II. № 1408.

[42] K. Potocki do B. Radziwiłła, Wąsosz 31 XII 1659. Тамсама. Dz. V. № 12251. S. 30, ліст ад 4 II. S. 57; B. Olszewski do B. Radziwiłła, Stara Wieś 3 I 1660. Тамсама. № 10816. S. 148; AVAK. T. III. S. 361—362; TE. T. 8. S. 1187; Chrapowicki. S. 216—220.

[43] AVAK. T. III. S. 361—362; Komisarze do Jana Kazimierza, Sielce 4 I 1660. BCzart. 153. S. 1.

[44] B. Radziwiłł do K. Paca, b.m. 9 I 1660 // E. Kotłubaj. S. 221; K. Potocki do B. Radziwiłła, Wąsosz 31 XII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 12251. S. 30; AVAK. T. XXXIV. S. 139, 140—141.

ўжо пад Берасьцем. Яны адразу занялі горад. Напэўна, ужо ў гэты дзень спрабавалі здабыць штурмам Берасьцейскі замак[45]. Аднак залога пад камандаваньнем пяхотнага гетманскага ротмістра Сьвянціцкага, якую зь перабольшаньнем ацэньвалі ў цэлыя 2 тыс. жаўнераў, адбіла непрыяцеля, на якога таксама значнае ўражаньне мусілі зрабіць моцныя фартыфікацыі Берасьцейскай крэпасьці. Расейцы адступілі ад Берасьця і, перайшоўшы праз Буг, сталі лягерам у недалёкай ваколіцы паміж Берасьцем і Белай[46]. Аднак яны не намерваліся так лёгка адмовіцца ад важнай мэты, якой было авалоданьне Берасьцейскай крэпасьцю. Яны таксама не спалохаліся, як, можа, меркавала берасьцейская залога, яе ўмацаваньняў.

Пасьля зьнішчэньняў з часоў змаганьняў са шведамі і трансыльванцамі ў 1657 г. яны былі значна ўмацаваныя. Асаблівыя намаганьні да гэтага прыклалі соймы ў 1658 і 1659 г., разумеючы вялізнае значэньне гэтай крэпасьці, якая павінна была прыкрываць ад навалы з усходу карэнныя польскія землі, а перш за ўсё Варшаву[47]. Забавязалі належна клапаціцца пра яе гетмана П. Сапегу. Ён разам са скарбавым літоўскім адміністратарам павінен быў скіроўваць падаткі Берасьцейскага ваяводзтва на яе ўмацаваньне і забесьпячэньне. Было загадана прывесьці зь літоўскага войска 300 жаўнераў у яе залогу, а ў выпадку небясьпекі ўмацаваць яе такой колькасьцю войска, якая будзе патрэбная. Іх заўсёды мусілі салідна забясьпечваць і заўсёды выплочваць у пару жолд[48]. Нягледзячы на гэта, а таксама на падмацаваньне залогі напярэдадні нашэсьця Хаванскага, стан крэпасьці выклікаў вялікі непакой сярод літоўскіх камандзіраў. Ведаючы пра маскоўскія пляны на Берасьце, літоўскі абозны М.К. Пац дзяліўся сваёй трывогай з А. Палубінскім у пачатку 1660 г. Паводле яго, крэпасьць, стан якой яму быў добра вядомы, не была добра забясьпечаная, не былі завершаныя і фартыфікацыйныя працы, паколькі нават *«няскончаная гармата на зямлі ляжыць»*. Ён указваў, што гетман толькі цяпер хоча яе забясьпечыць, але цяпер ужо ня час, *«калі непрыяцель вісіць над каркам»*. Гэта не абяцала, на думку Паца, нічога добрага перад наступам ворага, які ўжо падыходзіў пад яе валы. *«І калі, барані Божа, таксама гэты замак дастанецца непрыяцелю, то ўжо, лічы, прапала ўся Літва»*, — пэсымістычна заканчваў свае разважаньні над станам Вялікага Княства Літоўскага. Тым больш, што, як ён прызнаваў, лепш, чым гетман, паклапоціцца аб стане гэтай фартэцыі Масква, якая *«з нашых курнікаў здолее фартэцыю зрабіць»*[49].

Міхал Казімер Пац паўтараў толькі тое, што многім было добра вядома. Бо аказвалася, што, нягледзячы на соймавую пастанову, стан Берасьцейскай крэпасьці быў вельмі дрэнны. Як заўсёды, адной з галоўных прычын гэтага быў недахоп грошай на рэалізацыю шырокамаштабных плянаў ператварыць Берасьце ў магутную крэпасьць. З гэтай прычыны няспынна адчуваўся недахоп адпаведнай залогі і забесьпячэньня харчамі, зброяй і амуніцыяй. З гэтым спрабавалі справіцца па-рознаму. У пачатку 1659 г. паклікаяная на паспалітае рушаньне шляхта Берасьцейскага ваяводзтва зьвярнулася да караля з просьбай вызваліць яе ад гэтага абавязку і дазволіць ёй выставіць замест аднаго коннага пяхотнага слугу з той умовай, што гэтыя пехацінцы мусілі б застацца на Берасьцейскай крэпасьці. Ян Казімер пасьпешна падтрымаў гэтую просьбу, а літоўскаму гетману загадаў укамплектаваць гэтымі людзьмі крэпасьць і добра іх усім забясьпечыць[50]. Цяжка сказаць, наколькі берасьцейскія грамадзяне справіліся са сваімі абяцань-

[45] AVAK. T. III. S. 362; Maskiewicz. S. 273.

[46] Chrapowicki. S. 219—220. Гл. нататкі з дня 10 і 11 студзеня 1660 г.

[47] VL. T. IV. S. 231; Dybaś B. Fortece Rzeczypospolitej. Toruń, 1998. S. 201, 211—213.

[48] VL. T. IV. S. 259, 320, 322.

[49] M.K. Pac do A.H. Połubińskiego, z pod Bowska 6 I 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 11209/I. S. 109—110.

[50] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Warszawa 3 III 1659. LvNB. F. 103. № 1702.

нямі. Ва ўсякім разе старыя праблемы з аплатай, з харчовымі запасамі, з забеспячэннем ваенным абсталяваньнем і амуніцыяй працягваліся і далей. Восеньню 1659 г. Ян Казімер атрымліваў ад берасьцейскага камэнданта лісты, якія інфармавалі пра недахоп грошай для платы жаўнерам гарнізону і пра голад, які панаваў сярод іх. У яшчэ горшых умовах жылі маскоўскія вязьні, якія працавалі над умацаваньнямі, а таксама, напэўна, сяляне, якіх з блізкай каралеўскай эканоміі заганялі на гэтыя працы. Кароль, не заўважаючы ніякай небясьпекі, якая магла б пагражаць гэтым землям, палічыў, што выхадам зь цяжкай сытуацыі будзе забраць адтуль палову гарнізону, што і загадаў зрабіць літоўскаму гетману. Магчыма, у слушнасьці гэтага рашэньня пераканаў яго ліст інжынэра, які наглядаў за фартыфікацыйнымі працамі, паказаны берасьцейскім ваяводам Казімерам Людвікам Еўлашэўскім. Інжынэр, на абурэньне караля, прызнаваў, што працы дагэтуль ня скончаныя, але супакойваў, што зь іх можна добра абараняцца, галоўнае, каб толькі было ўсё патрэбнае для абароны абсталяваньне[51]. Калі хутка пасьля гэтага войскі Хаванскага спыніліся на землях Падляшша, стан крэпасьці прывёў караля ў сапраўдную паніку. Аказалася, што ў пляне харчоў, зброі і амуніцыі крэпасьць абсалютна непадрыхтаваная да абароны. У пачатку студзеня ён трагічным тонам загадаў адміністратару літоўскага скарбу Адаму Мацею Саковічу ўсякімі магчымымі спосабамі і сродкамі забясьпечыць не ўсім, што будзе патрэбна[52]. Аднак усе дзеяньні такога тыпу былі вельмі запозьненыя.

Адышоўшы з-пад Берасьця, маскоўскія войскі спусташалі разьездамі ўсю ваколіцу. Смаленскі падкаморы Ян Антоні Храпавіцкі, які ўцякаў ад іх, кожнай ночы мог бачыць зарыва пажараў, што запальваліся там, куды даходзілі маскоўскія загоны. Ужо 8 студзеня яны дайшлі да Белай і Янава-Падляскага, якія былі дашчэнту спаленыя. Потым маскоўская пяхота засталася ў атабараным вазамі лягеры непадалёк ад Берасьця, а коньніца камунікам, г.зн. не абцяжарваючыся вазамі і гарматай, скіравалася на далёкую вылазку, як казала пагалоска, у кірунку Любліну. Гэтая выправа ня мела на мэце авалодаць гэтым горадам, але таксама, як іншыя, была загонам, які мусіў зьнішчаць і рабаваць. Выразна падкрэсьлівае гэта Храпавіцкі, занатоўваючы пад датай 10 студзеня, што маскоўскі камунік пайшоў да Любліну *«за нашымі табарамі»*, у якім кірунку ўцёк таксама Павел Сапега, і на працягу доўгага часу ніхто так сапраўды дакладна і ня ведаў, дзе ён знаходзіцца[53]. Іншай мэтай адпраўленых у той бок войскаў магло быць жаданьне разьведаць наконт посьпехаў маскоўскіх і казацкіх войскаў, якія прасоўваліся на Украіне да захаду.

Адыход з-пад берасьцейскіх фартыфікацый грознага непрыяцеля выклікаў найлепшы настрой у залогі крэпасьці. Распачалося праўдзівае сьвяткаваньне, нібыта сапраўды была здабыта перамога над захопнікам. Яно пачалося адразу пасьля зьнікненьня з поля зроку маскоўскіх войскаў, і працягвалася пару дзён. Пры гэтым цалкам ігнараваліся сродкі бясьпекі, не былі пастаўлены адпаведныя варты. Напэўна, вельмі верылася ў тое, што Хаванскі сапраўды адмовіўся ад штурму моцных берасьцейскіх фартыфікацый. Як яшчэ растлумачыць радасную самаўпэўненасьць у крэпасьці, калі зь яе валоў былі бачныя зарывы пажараў, якія распальваў непераможаны дагэтуль непрыяцель, які лютаваў у ваколіцах. Залога са згоды камандаваньня аддалася п'янству, а на замку былі ўчыненыя вясёлыя забавы і танцы для старшыны і шляхты, якая ў значнай колькасьці разам з самым каштоўным набыткам шукала ў фартэцыі прыбежышча ад маскалёў. Паводле Маскевіча, пра тое, што

[51] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Warszawa 13 X 1659. Тамсама. № 1726; ліст ад 16 I 1660. Тамсама. № 1738.

[52] Jan Kazimierz do A. M. Sakowicza, Gdańsk 4 I 1660. Тамсама. № 1732.

[53] Chrapowicki. S. 219—220; NN do Jana Kazimierza, Warszawa 24 I 1660. LVIA, SA, 5. № 125.

ў ёй дзеецца, далі знаць Хаванскаму трыманыя ў замку маскоўскія вязьні, адзін зь якіх уцёк у ягоны лягер, незаўважаны п'янай залогай. Вельмі магчыма, што так і было, паколькі пазьней не былі заўважаны царскія жаўнеры, якія залазілі на валы. Ва ўсякім разе Хаванскі, атрымаўшы такую навіну, адразу скіраваўся пад Берасьце. 13 студзеня, праўдападобна, вельмі глыбокай раніцай, ён стаў пад валамі фартэцыі. Ягоныя жаўнеры з маршу з падрыхтаванымі драбінамі, захоўваючы цішыню, рушылі на штурм па лёдзе замерзлай ракі Мухавец. Яны былі добра інфармаваныя як пра стан залогі, так і фартыфікацыі, паколькі падышлі пад той іх адрэзак, які не быў завершаны. Каб замаскаваць атаку з гэтага боку, на іншым адрэзку незаўважальна забралося на валы некалькі царскіх жаўнераў. Яны паднялі шум, зьвяртаючы на сябе ўвагу абаронцаў, якія, засьпетыя цалкам зьнянацку, здолелі адзін раз выстраліць у іх кірунку. Аднак, калі ўбачылі натоўпы расейцаў, якія прабіваліся з другога боку, зусім страцілі надзею і перасталі змагацца. Захопнікі безь цяжкасьцяў занялі валы і замак, у якім у той час у самым разгары адбывалася забава і танцы з удзелам камэнданта, які спрытна танчыў. Адразу пасьля гэтага яны ўчынілі крывавую і жорсткую разьню залогі і насельніцтва, якое знаходзілася там. Былі пазабіваныя ўсе, за выключэньнем 50 асобаў са старшыны. Уратавацца змог таксама камэндант Сьвянціцкі, які ўцёк да маскоўскіх вязьняў, якіх трымалі ў замку. Хутка пасьля гэтага іх выслалі ў Маскву[54].

Сьляды жахлівай разьні, учыненай у Берасьцейскай фартэцыі, былі выдатна бачныя яшчэ доўгі час. У студзені туды прыбыў аўстрыйскі афіцэр, капітан Разэнштэйн, пасланы генэралам Готфрыдам Гайштэрам, адным з кіраўнікоў кайзараўскіх войскаў, якія кватаравалі ў той час на Падляшшы. Капітан склаў пра сваё пасольства дэталёвы рапарт, у якім таксама вялікі кавалак прысьвяціў падзеям, што адбыліся ў здабытым Берасьці, таму, што там бачыў і сваім роздумам наконт спосабу ваяваньня маскалёў. Гэты рапарт потым цытаваў Гайштэр, прыводзячы, між іншым, наступныя словы капітана Разэнштэйна: «*Што датычыць паводзін маскалёў, я пераканаўся… амаль на свае вочы, што яны супраць сваіх непрыяцеляў забойствамі, пажарамі і вогнішчамі ваююць. Апошнія смаркачы з маскоўскага войска не прабачаюць ні гарадам, замкам, ні вёскам, але ўсіх жыхароў бяз розьніцы: жанчын, мужчын, шляхту, ня шляхту, дарослых і малых, нават немаўлят пры грудзях у гэтым горадзе [у Берасьці] і ў замку бязьлітасна пазабівалі, некаторым рукі і ногі зьвязалі і жыўцом пяклі, некаторых кіямі і корбачамі на сьмерць біць загадвалі. І сапраўды, каля 1700 трупаў, г.зн. галоў, выцягнутых з замку, пакрытых саломай і непахаваных яшчэ перад нашым ад'ездам ляжала. Пажадай іх, Божа, у апошні дзень ускрасіць да збаўленьня*»[55]. Шмат падставаў да нараканьня мела таксама тая шляхта, якая хоць сама і не апынулася ў Берасьцейскай крэпасьці, але, спадзеючыся на яе моц, склала туды на захаваньне свае каштоўнасьці, каб там яны спакойна і бясьпечна перачакалі бурлівы час. Усё гэта патрапіла ў рукі маскоўскіх заваёўнікаў. Маскоўскі камандзір мог сапраўды ганарыцца здабыцьцём амаль без уласных стратаў такой важнай фартэцыі. Гэта азначала заняцьце найдалей разьмешчаных літоўскіх зямель і паўторнае прывядзеньне іх у царскае падданства. Хаванскі адразу паслаў навіну пра цудоўную перамогу Аляксею Міхайлавічу. Той, акрамя віншаваньня, адразу загадаў яму ўмацаваць фартыфікацыі крэпасьці,

[54] Maskiewicz. S. 273—274; K.L. Jewłaszewski do A.H. Połubińskiego, Warszawa 30 I 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 6070. S. 2; S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Jasiewicze 4 II 1660. Тамсама. № 12561. S. 58; AVAK. T. III. S. 362; Ткачев М.А. Замки Белоруссии. Минск, 1987. С. 53.

[55] Цыт. пав.: Walewski A. Historia wyzwolonej Rzeczypospolitej wpadającej pod jarzmo domowe za panowania Jana Kazimierza (1655—1660). Kraków, 1872. T. II. S. 145; Vorbek-Lettow M. S. 288.

а таксама ўзьвесьці там царкву Міхала Арханёла, якому прыпісвалася вывядзеньне восеньню 1655 г. войскаў Урусава зь цяжкай сытуацыі пад Берасьцем[56].

Здабыўшы фартэцыю, Хаванскі спыніўся ў ёй да пачатку лютага 1660 г. На працягу ўсяго гэтага часу ягоныя войскі адпраўляліся ў глыб Падляшша і нават уваходзілі ў каронныя межы. Іх мэтай было спусташэньне і рабаваньне як мага далейшых тэрыторый. Маскоўскія загоны падышлі ў ваколіцы Дарагічына на Бугу, спалілі Астрамэнчын, Літвякі. Такі ж лёс напаткаў таксама Боцькі, у якіх перад самым спаленьнем гэтага мястэчка і касьцёла царскія жаўнеры павыкідалі з крыштаў целы памерлых, напэўна, шукаючы каштоўнасьцяў. Шчасьце ўсьміхнулася Лукаву, які своечасова ўзяў ахоўныя лісты ад Хаванскага. Маскоўскія аддзелы накіроўваліся таксама ў бок Варшавы і Любліну. Мясцовая шляхта кожны дзень перажывала трывогу, бо паблізу лютавалі царскія жаўнеры. Храпавіцкі, які апісваў гэтыя падзеі, сам павінен быў са сваімі найбліжэйшымі на працягу шэрагу сьнежаньскіх і студзеньскіх начэй уцякаць ад наступленьня маскоўскіх аддзелаў[57].

У рабунках і тэрарызаваньні мясцовага, і ня толькі шляхецкага насельніцтва з райсейцамі чынна саўдзельнічала шмат мясцовых мужыкоў ці іншы няпэўны элемэнт, які ўнюхаў неблагую нагоду, каб пры баку царскіх войскаў шчодра ўзбагаціцца. Яахім Ерліч бачыў сярод іх літоўскіх сялянаў і пахолкаў, якія паўцякалі ад сваіх паноў і зь літоўскага войска. Тыя, сабраўшыся пры маскоўскім войску найбольш, паводле яго, рабавалі гарады і вёскі. Прысутныя на шляху маршу Хаванскага шматлікія радзівілаўскія слугі заўважылі і даносілі князю Багуславу, што маскалі асабліва лютавалі супраць шляхты, затое пакідалі ў адносным спакоі сялянаў, патрабуючы ад іх за гэта дапамогі ў адлове старшыны з мэтай яе вынішчэньня[58]. Хутка аказалася, што мясцовая шляхта павінна выракацца таксама шляхецкай брацьці. Сярод яе апынулася зусім нямала тых, хто, выкарыстоўваючы зьмену ўладаў, умела выцягваў з гэтага ўсялякія карысьці. Рабіліся даносы на шляхту, якая не прынесла цару прысягі ў вернасьці, якая мела занадта відавочныя кантакты са шляхтай незахаваных зямель, а асабліва падазронымі былі тыя, што калісьці служылі каралю і былі ягонымі прыхільнікамі. Вельмі часта гэтак рабілася, каб здабыць маёмасьць суседзяў. Напрыклад, у Берасьцейска-Літоўскім ваяводзтве Ян і Мацей Дэмбінскія адразу пасьля заняцьця гэтых зямель расейскімі войскамі, добраахвотна прынесьлі перад берасьцейскім царскім ваяводам прысягу ў вечным падданстве цару. Узамен за гэта яны сталі даверанымі людзьмі ваяводы. Рэквізавалі ў ваколіцы для царскага войска харчы, збожжа, быдла, выпытвалі пра каралеўскае войска. За гэта атрымлівалі ад уладаў у Берасьці граматы на розныя шляхецкія маёнткі, зь якіх выкідалі цэлыя сем'і іх уладальнікаў. Адчуваючы сваю беспакаранасьць дзякуючы сувязям зь параможнымі захопнікамі, яны чынілі разбой і рабункі, нападалі на маёнткі. Пасьля адыходу войскаў Хаванскага супраць іх паступіла шмат скаргаў у Камянецкі гарадзкі суд ад пакрыўджанай імі шляхты[59].

Іншым цікавым прыкладам была справа ашмянскага харужага Казімера Крыштапа Дзевялтоўскага. Ён служыў пад камандаваньнем Гасеўскага, а пасьля заняцьця

[56] Komisarze do Jana Kazimierza, Sielce 5 II 1660. BCzart. 153. S. 237—238; Курбатов О. Литовский поход... С. 29; яго ж. Чудо архангела Михаила: Документы о походе Новгородского полка на Брест и битве при Верховичах 1655 г. // Исторический архив. Москва, 2000. № 3. С. 197—199.

[57] B. Radziwiłł do komisarzy w Słucku, Królewiec 8 I 1660. AGAD. AR. Dz. IVa (копіі). Т. 1. Кор. 2. К. 296; Chrapowicki. S. 216—221, 254; Vorbek Lettow M. S. 288; Курбатов О. Литовский поход... С. 29.

[58] B. Radziwiłł do komisarzy słuckich, Królewiec 8 I 1660. AGAD. AR. Dz. IVa (копіі). Т. 1. Кор. 2. К. 296v; B. Radziwiłł do K. Paca, Królewiec 9 I 1660 // E. Kotłubaj. S. 221; Jerlicz. S. 36—37.

[59] AVAK. T. III. S. 355—360.

Віленскага ваяводзтва расейцамі быў пасланы каралём у свае родныя старонкі ў Ашмянскі павет. Там ён атрымаў царскую грамату і стаў з выгляду верным падданым Аляксея Міхайлавіча. А яго фактычнай задачай было перацягваць мясцовую шляхту на бок караля і Рэчы Паспалітай. Сваю місію ён выканаў з посьпехам у бурлівыя часы 1658—1659 г. Аднак ён зьвярнуў на сябе ўвагу іншага шляхціца Андрэя Крыштапа Рагінскага, які хутка пасьля заняцьця Вільні прынёс цару прысягу і потым, таксама гвалтам, схіляў да гэтага іншую шляхту. Ён праводзіў таксама набор сярод шляхты ў маскоўскае войска. Прасачыўшы за дзейнасьцю Дзевялтоўскага, ён данёс на яго ваяводу ў Вільні, князю Мышэцкаму. Пераканаў яго паслаць жаўнераў у яго двор у Рамяйкішках у Ашмянскім павеце. Разам зь імі зьявіўся там 10 лістапада 1659 г. Дзевялтоўскага зьняволілі, ягоны двор спалілі, а шмат нарабаванай маёмасьці маскоўскія жаўнеры адвезьлі ў двор Рагінскага, які знаходзіўся ў тым жа Ашмянскім павеце. Сам Дзевялтоўскі быў зьняволены ў Віленскім замку і хутка пасьля гэтага забіты, нягледзячы на тое, што ашмянская шляхта слала Аляксею Міхайлавічу просьбы вызваліць яго. Некалькі гадоў справядлівасьці шукала ягоная дачка ад першага шлюбу з Зоф'яй Бжастоўскай, Зузана[60]. Дзейнасьць такога тыпу не была спэцыялізацыяй толькі паноў Дэмбінскіх. Можна прывесьці шмат такіх прыкладаў. На тэрыторыі ўсяго Вялікага Княства Літоўскага знаходзілася шмат людзей, якія прагнулі ўзбагаціцца на няшчасьці сваіх суседзяў.

Выкарыстоўваючы адыход разьбітых або прагнаных літоўскіх войскаў, ня спалі ў шапку і маскоўскія залогі Коўна і Вільні. Вельмі актывізаваліся іх напады на землі, разьмешчаныя ня толькі паміж гэтымі двума гарадамі, але зьнішчальныя выправы сягалі часам Жамойці за ракою Сьвятой. Моцны маскоўскі аддзел зь Вільні ўварваўся на мяжы 1659—1660 г. у Вількамірскі павет, спустошыў яго і спаліў сам Вількамір. Маскоўскія загоны падышлі блізка да Біржаў, а наперадзе іх рушыла маса сьпалоханых уцекачоў зь зямель, ахопленых нашэсьцем непрыяцеля. З валоў гэтай фартэцыі можна было бачыць начамі заравы пажараў, якія распальвалі захопнікі. Сярод многіх іншых двароў і вёсак, якія належалі розным уладальнікам, былі ў той час спаленыя і такія княскія ўладаньні, як Абольнікі, Куркле, Відзэнішкі. Жыхароў гэтых старонак, якія ня здолелі своечасова ўцячы, забівалі. Аднак перш за ўсё іх захоплівалі ў няволю і гналі ў глыб царскай дзяржавы ці затрымлівалі для абмену. Ад зьнішчальных нападаў не былі свабодныя таксама землі, якія знаходзіліся на заходнім баку Нёмна да самай прускай мяжы і Падляшша. У першай палове студзеня з трывогай чакалі чарговага вялікага наезду на Жамойць, а ў радзівілаўскіх Біржах да такой ступені яго баяліся, што пачалі сур'ёзна разглядаць магчымасьць пусьціць у іх адабраных Міхалам Пацам літоўскіх жаўнераў, чаго раней і пазьней стараліся ўсяляк пазьбягаць[61]. Напады ў паўночным кірунку, якія выходзілі зь Вільні, нішчылі разьмешчаныя там землі і ў студзені. Паводле паглаоскі, іх павінны былі падтрымліваць аддзелы беларускай шляхты, якія прыбылі ў той час у Вільню. Камандавалі імі Р. Аскірка, Лазоўскі і нейкі Ніжынскі[62]. У другой палове студзеня зьявіўся ў ваколіцах гэтага гораду разам са сваімі харугвамі полацкай шляхты верны Маскве палкоўнік Ян (Іван) Кісажэўскі. Ягоныя людзі схапілі нейкага ксяндза і ў кайданах адаслалі яго як шпега ў Вільню. Аднак ён сапраўды аказаўся шпегам, але

---

[60] Księga Gr. Wileńska 1664—1679. LVIA. SA. 4679. K. 331—332; AVAK. T. XXXIV. S. 332—333; AOZR.T.V. № 505. S.104.

[61] M.K. Pac do B. Radziwiłła, z obozu pod Bowskiem 1 I 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 11209/II. S. 2—3; K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 1 I 1660. BPANKr. 4011. K. 23; ліст ад 15 I і 4 II 1660; k. 25 і 34; S. Oborski do B. Radziwiłła, Kiejdany 5 I 1660. VUB. Fond 4 (A—212). № 16701.

[62] S. Oborski do B. Radziwiłła, Kiejdany 18 I 1660. VUB. Fond 4 (A—212). № 16696.

высланым у Варшаву па інфармацыю царскім віленскім ваяводам, князем Мышэцкім. Ксяндзом быў, напэўна, віленскі канонік Тамаш Гурскі. Кампэнсацыі зазнанай ім крыўды пазьней дамагалася ад цара ашмянская шляхта[63].

Усё гэта не было канцом паразаў літоўскіх войскаў. Гетман Павел Сапега, які кідаўся ў бясьсільлі, увесь час настойліва заклікаў вярнуцца з Курляндыі пасланы туды летам 1659 г. корпус правага крыла пад камандаваньнем палявога літоўскага пісара А. Палубінскага, які ўжо ад канца лістапада атрымліваў ад караля загады вяртацца ў Літву на дапамогу тым краям. Сапега стараўся выцягнуць адтуль яшчэ і дывізію левага крыла Міхала Паца, бачачы пры нагодзе чарговы шанец правесьці нарэшце аб'яднаньне дзьвюх дывізій пад сваім камандаваньнем[64]. На злосьць і роспач гетмана, гэта не дапамагло, бо ні адзін, ні другі камандзір не праявілі ў той пэрыяд жаданьня падпарадкавацца загадам Сапегі. Аднак гетман, увесь час пасылаючы драматычныя лісты, спадзяваўся ў сьнежні і студзені на хуткі надыход, прынамсі, Палубінскага. Галоўным чынам у тых жа войсках, якія налічвалі 4 тыс. жаўнераў, ратунак Літвы бачыў і каралеўскі двор.

У атачэньні Яна Казімера зьвестка пра маскоўскі наезд зьявілася да 10 студзеня. Ужо ў лістападзе пад уплывам данясеньняў пра ўзмоцненае перакіданьне маскоўскіх войскаў з Полацку ў Вільню і Коўна, яно зноў задумалася над вяртаньнем Палубінскага з Курляндыі. Нягледзячы на тое, што ад самога Сапегі не даходзілі ніякія зьвесткі пра якую-небудзь пагрозу, у той дзень на нарадзе сэнату было вырашана даць яму знаць, каб ён неадкладна загадаў Палубінскаму вяртацца. Гетману быў таксама дадзены дазвол на трэці ўнівэрсал з мэтай скліканьня паспалітага рушаньня зь Літвы. З кароннага войска спачатку меркавалася пасланы на дапамогу ліцьвінам кароннага палявога пісара Яна Фрыдэрыка Сапегу, да чаго, аднак, не дайшло. Затое Стэфану Чарнецкаму, якога пасьля адпачынку ягоных жаўнераў плянавалася пасланы ва Украіну, было загадана сабраць сваю дывізію пад Варшавай і пільна сачыць за Падляшшам і Берасьцем. Ужо тады, а яшчэ больш у чарговыя тыдні, у Рэчы Паспалітай пачалі непакоіцца за лёс сталіцы[65]. Чарговыя дні прыносілі штораз горшыя навіны зь Літвы на каралеўскі двор, які знаходзіўся ў Гданьску. Толькі 1 студзеня 1660 г. там атрымалі пасланы 24 сьнежня першы ліст літоўскага гетмана, які паведамляў пра наезд Хаванскага. Сабраная хутка яшчэ 1 студзеня рада сэнату паслала адпаведны заклік Сапегу, каб ён не адчайваўся з прычыны стану Вялікага Княства Літоўскага, паколькі для яго ўжо рыхтуецца ратунак. Праз чатыры дні кароль у асабістым лісьце паўтараў гэта, пішучы, што *«яшчэ гэта не такі на Рэч Паспалітую параксізм, які б не за горла схапіць мусіў»*, і падаваў гетману некалькі спосабаў стрымаць непрыяцеля. Яму рэкамэндавалася зьбіраць войска і склікаць шляхту ў шэрагі, хоць сам кароль прызнаваў, што на паспалітае рушаньне ня вельмі можна разьлічваць. З Курляндыі ён павінен быў прысьпешыць да вяртаньня Палубінскага, хуткая дапамога якога мусіла дапамагчы ўратаваць Гародню. З другога боку, яму загадвалася прысьпеш-

[63] AOZR. T.V. № 505; Курбатов О. Литовский поход… С. 29.

[64] Jan Kazimierz do A.H. Połubińskiego, Tuchola 28 XI 1659. AGAD. AR. Dz. III. Kop. 7. S. 76—77; Uniwersał wojewody wileńskiego do wojska w Kurlandii, Kosowo 7 XII 1659. Тамсама. Dz. II. № 1400; P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, Motol 21 I 1660. Тамсама. № 13868/IV. S. 1; K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 15 I 1660. BPAN Kr. 4011. K. 24v.

[65] Senatus Consultum, Tczew 10 XII 1659. BCzart. 401. S. 124—125; K. Pac do A.H. Połubińskiego, Gdańsk 19 XII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 11208/II. S. 184; J.A. Morsztyn do B. Radziwiłła, Gdańsk 26 XII 1659. Тамсама. № 10036. S. 14; Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Gdańsk 17 XII 1659. LvNB. F. 103. № 1731.

ваць да вяртаньня дывізію Сасноўскага і аб'яднацца зь ёй. Разьлік быў на гэтыя дзьве групы, бо верылася, што жаўнеры кожнай зь іх згадзіліся застацца на службе да 9 лютага. Акрамя таго, да іх рыхтаваліся адправіцца чарговыя камісары, якія прасілі б жаўнераў у такі небясьпечны для айчыны момант застацца ў шэрагах і на далейшы час. Ім паведамілі, што ўжо з дапамогай да іх рушыць каронная дывізія рускага ваяводы Стэфана Чарнецкага. Камісараў, адпраўленых на перамовы з пасланцамі цара, таксама заклікалі, каб яны не прапускалі ніякай нагоды для іх распачацьця. Аднак яны павінны былі ставіць умову, каб маскоўскі бок спыніў у Літве свае войскі. Сапега таксама павінен быў наладзіць кантакт з Хаванскім і нагадаць яму, што гэта ж на ягоную просьбу ён заключыў зь ім у верасьні *armistitium*. Сапега павінен быў спытацца, чаму цяпер Хаванскі яго парушае. Спасылаючыся на перамовы каралеўскіх камісараў з царскімі, ён мусіў патрабаваць ад яго прыпыненьня ваенных дзеяньняў, але ніколі не згаджацца з пастаўленым маскоўскім камандзірам патрабаваньнем здаць Горадню і заплаціць ад Гарадзенскага павету кантрыбуцыю, *«бо гэта было б і нам і Рэчы Паспалітай ганьбай»*. Не ўдавалася схаваць, што Ян Казімер пэўным чынам пагаджаўся з думкай пра страту Горадні. Аднак ён там больш загадваў гетману, каб той як мага хутчэй зьбіраў сілы і абараняў Берасьце, на якое чакалася атака. У найгоршым выпадку, калі б не пасьпеў, ён павінен быў з сабраным войскам ударыць на непрыяцеля, які асаджае гэту фартэцыю[66].

Аднак гетман, будучы паблізу гэтых падзеяў, інакш глядзеў на сытуацыю і ва ўсёй трагедыі і адсутнасьці ратунку абвінавачваў караля і яго дарадчыкаў, якія ня так даўно не хацелі ўкласьці *armistitium* з Масквой. Кароль са свайго боку не застаўся ў даўгу і ў сярэдзіне студзеня паслаў гетману чарговы ліст. Ён падбадзёрваў яго, каб той перацярпеў гэтую *«карацюсенькую буру»*, а адначасова жорстка ўказваў яму, што ратунак заўсёды быў у тых харугвах, якія пад камандаваньнем Палубінскага, насуперак загадам караля, аж у такой вялікай колькасьці Сапега паслаў у Курляндыю. Кароль не прамінуў нагадаць, што таксама праз упартасьць Сапегі ў дачыненьні да каралеўскага загаду скіраваць палявога пісара пад Стары Быхаў гэтая мужна бароненая крэпасьць патрапіла ў выніку ў рукі Масквы. Таму кароль яшчэ раз загадаў яму чакаць надыходу корпусу Палубінскага, але забараніў яму дакранацца да дывізіі левага крыла пад кіраўніцтвам М.К. Паца. Зьвесткі пра намер Сапегі забраць яе з Курляндыі разам зь людзьмі палявога пісара ўвесь час даходзілі да ведама караля. Акрамя таго, Ян Казімер нагадваў, што пакуль на Падляшшы ня зьявіцца рэгулярны жаўнер, то і паспалітае рушаньне ня прыйдзе да боку гетмана. Кароль не забыўся дакрануць гетмана і ў слабай защікаўленасьці станам Берасьцейскай крэпасьці. Пішучы ліст, ён яшчэ ня ведаў пра яе страту. Аднак ня цяжка было зразумець, што калі б зь ёй нешта сталася, то галоўныя прэтэнзіі зваляцца на галаву гетмана. Пры гэтым трагічным разьвіцці сытуацыі кароль здаваў сабе справу са стратэгічнага і папросту сымбалічнага, асабліва для літоўскай думкі, значэньня Берасьцейскай крэпасьці, *«якая, калі б, барані Божа, паддацца мусіла, то мы выразна бачым, што нічога не перашкодзіла б ворагу ў поўным авалоданьні ўсім ВКЛ і ўваходжаньні ў далейшую (бо ўжо ў Падляскае ўвайшоў) мяжу каронных дзяржаў»*. Таму яшчэ раз, абяцаючы хуткую дапамогу Чарнецкага, ён заахвочваў гетмана энэргічна зьбіраць расьсеяныя па Падляшшы сілы, тыя з Курляндыі і харугвы дывізіі Сасноўскага, і даць на іх чале адпор ворагу. Каб падмацаваць яго, казалася, што цар схільны да перамоваў, якія, напэўна, ужо хутка пач-

[66] Senatus Consultum, Gdańsk 1 I 1660. BCzart. 401. S. 126; Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Gdańsk 1 I 1660. LvNB. F. 103. № 1735; таксама ліст ад 8 I. Тамсама. № 1736.

нуцца. Ян Казімер пераконваў Сапегу, што хутчэй за ўсё ў цара не найлепей складваюцца справы ва Ўкраіне, у доказ чаго гетману прысылаліся хлусьлівыя весткі пра посьпехі збунтаваных супраць цара казакоў[67].

Аднак сытуацыю войскаў у Курляндыі, якія маглі прынесьці ратунак, ускладнялі розныя падзеі. Не было гаворкі пра вывад на Падляшша параўнальнай колькасна з арміяй Хаванскага дывізіі левага крыла. Яна змагалася са швэдамі, і каралю было важна, каб яна дасягала там посьпехаў, ствараючы тым лепшую падставу для мірных перамоваў са швэдамі, што якраз праводзіліся. Да таго ж Ян Казімер і канцлер К. Пац абсалютна не жадалі, каб яна патрапіла пад камандаваньне Сапегі. З усіх гэтых прычын М.К. Пац атрымаў выразную каралеўскую забарону пакідаць Курляндыю. Была згода толькі з адпраўленьнем Палубінскага, які, асабліва пасьля атрыманьня загаду скіравацца на Падляшша, стараўся выканаць гетманскае даручэньне падпарадкаваць сабе дывізію Паца. Аднак гэта было вельмі выгадна канцлеру К. Пацу, які ў гэтых дзеяньнях бачыў вялікую небясьпеку для будаванай уласнымі высілкамі пазыцыі дому Пацаў у Літве. Таму ён прыкладаў намаганьні пры двары, каб Палубінскі як мага хутчэй адправіўся ў шлях, а ў Курляндыі засталася дывізія М.К. Паца. Тым часам палявы пісар, ня маючы магчымасьці выканаць жаданьне Сапегі, увесь час заставаўся на месцы. У студзені, нягледзячы на прысьпешваньне нэрвовымі лістамі з каралеўскага двара і ад Сапегі, ён надалей прыкладаў бясплённыя намаганьні, каб перацягнуць на свой бок дывізію левага крыла. Да таго ж у яго былі не найлепшыя стасункі з гетманам, і ён не сьпяшаўся на сустрэчу зь ім. Іншым фактарам, які ўплываў на маруджаньне ягонай харугвы, была нядобрая атмасфэра сярод абедзьвюх дывізій. Жаўнеры былі незадаволеныя службай, чуліся галасы наконт магчымай канфэдэрацыі і прыватных перамоваў з расейцамі наконт міру. Зь цяжкай місіяй клапаціцца аб іх цярплівасьці і далейшай службе быў прысланы ў Курляндыю каралеўскі камісар Мікалай Стэфан Пац, троцкі ваявода. Жаўнерам Палубінскага да таго ж недаспадобы было пакідаць таварыства пешчанай каралеўскім дваром жамойцкай дывізіі і тым самым пазыцыі ў адносна спакойнай Курляндыі і Жамойці, зь якой плыло забесьпячэньне. Марш у спустошаны край супраць праціўніка, які абуджаў страх, таксама не прымушаў сьпяшацца людзей палявога пісара[68].

Нягледзячы на шэраг канфліктаў з Палубінскім, яго адыходу з Курляндыі вельмі баяўся прызначаны нядаўна камандзір левага крыла Міхал Казімер Пац. Ён настойваў, што сам ня будзе ў стане супрацiўляцца ня столькі аслабленым швэдам, колькі новай пагрозе, пра якую ўсё часьцей чулася ад розных інфарматараў, што зьбіраецца з боку маскоўскіх войскаў на Дзьвіне. Пры гэтым ён лічыў, што дагэтуль іх стрымлівала ад атакі толькі значная супольная сіла войскаў яго і палявога пісара. Аргумэнты Паца не былі пустыя, паколькі ў той час было атрымана сапраўды шмат данясеньняў пра збор царскіх войскаў у Кокенгаўзэне, Чадосах, на Браслаўшчыне і іх варожых намерах у дачыненьні да Жамойці. Непакой узрастаў, калі да гэтага дадаваліся трывожныя зьвесткі нават пра магчымасьць саюзу Масквы са швэдамі і іх супольнай атакі на Жамойць і Курляндыю. У выніку абодва вайскаводцы дамовіліся, што Палубінскі застанецца ў Курляндыі, пакуль адзін з асаджаных імі замкаў, Боўск ці Мітава, ня трапяць у іх рукі[69].

---

[67] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Gdańsk 16 I 1660. Тамсама. № 1738.

[68] D. Kościuszko do B. Radziwiłła, Birże 24 I 1660. BPAN Kr. 6184. S. 63; S. Oborski do B. Radziwiłła, Kiejdany 5 I 1660. VUB. Fond 4 (A—212). № 16701; Rachuba A. Konfederacja Kmicicowska... S. 47—52.

[69] M.K. Pac do Połubińskiego, spod Bowska 16, 27 XII 1659, 6, 16, 21 I 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 11209/I. S. 38, 72, 110, 134—135, 144; S. Oborski do B. Radzwiłła, Kiejdany 1 II 1660. VUB. Fond 4 (A—212). № 16691.

Няпэўная пазыцыя расейцаў на Дзьвіне і магчымая пагроза зь іх боку моцна падкрэсьлівалася Пацам, што таксама магло ўплываць на зацяганьне палявым пісарам знаходжаньня ў Курляндыі і пасьля здабыцьця Мітавы. Ягоныя шпегі таксама інфармавалі яго зь лістапада 1659 г. пра ўмацаваньне Масквой яе сілаў на Дзьвіне. Спачатку ён ня быў упэўнены наконт яе намераў, але ў студзені пачаў моцна баяцца за Біржы і Жамойць. Па праўдзе, ён меў дзейнае заключанае з камандзірам маскоўскіх войскаў Ардзін-Нашчокіным *armistitium*, але не давяраў Маскве[70]. Відаць, у гэты пэрыяд рос непакой за Жамойць зазвычай добра інфармаванага князя Б. Радзівіла. Самыя сьвежыя навіны князь чэрпаў таксама са сваіх непасрэдных кантактаў з Ардзін-Нашчокіным, а таксама ад Паца і ад сваіх камэндантаў і іншых слугаў з Жамойці. Кожны зь іх меў уласных шпегаў, якія ня раз былі, напрыклад, купцамі ці асобамі, якія насялялі землі па абодва бакі лініі, якая разьмяжоўвае сфэру літоўскага і маскоўскага панаваньня. Дзякуючы набытай у абедзьвюх уладаў магчымасьці перамяшчацца, абодва праціўнікі выкарыстоўвалі іх для здабычы інфармацыі на чужой тэрыторыі. Асабліва шмат зьвестак зьбіраў маёр Кароль Карлік, які камандаваў у Біржах. Сам ён, даносячы князю ў сярэдзіне студзеня пра намер гетмана вывесьці з Курляндыі абедзьве дывізіі, не хаваў свайго зьвязанага з гэтым непакою за лёс Жамойці. Карлік указваў на зьвесткі пра збор войскаў Нашчокіна ў Чадосах і на Дзьвіне ў Кокенгаўзэне і пра іх намер хуткай атакі, у выпадку якой радзівілаўскія ўладаньні чакае чарговая катастрофа. Яго непакой дадаткова ўзрос, калі ўжо пасьля напісаньня князю ліста 15 студзеня яму паведамілі, што Масква ў занятых ёю Інфлянтах набірае нававбранцаў у сваё войска, а з валоў у Кокенгаўзэне сьцягнула гарматы. Для пана маёра было відавочна, што за гэтымі дзеяньнямі і за няспынным набліжэньнем пазыцыі маскоўскіх войскаў з боку Чадосаў да Жамойці хаваецца падрыхтоўка царскіх войскаў да ўдару на Жамойць. Аднак ён ня здолеў да канца разгадаць праўдзівыя намеры непрыяцеля, але ў вышэйзгаданых падазрэньнях умацоўвалі яго пачутыя меркаваньні, што *«тут паўсюль, дзе Масква, чуюцца галасы, што яна рыхтуецца на Біржы»*[71]. Зьвесткі, якія прыходзілі з такіх розных крыніц, складаліся для князя ў вельмі трывожную карціну. З гэтай прычыны ён загадаў кіраўнікам жамойцкіх Кейданаў і Біржаў, якія належалі яму, умацоўваць замкі і зьбіраць запасы правіянту, выразна пішучы пра рэальную маскоўскую пагрозу. Перад самім Нашчокіным ён хадайнічаў наконт ахоўных грамат для сваёй маёмасьці на выпадак маскоўскага наезду[72].

Расейцы былі зацікаўленыя ў як мага даўжэйшай затрымцы літоўскіх войскаў у Курляндыі. Іх выправа на поўдзень азначала б сьмяротную пагрозу войскам Хаванскага. Маскоўскія камандзіры добра памяталі, што ў сакавіку 1659 г. іх атаку з раёну Полацку і зь ніжняй Дзьвіны пасьпяхова стрымалі пад Чадосамі літоўскія войскі, якія рушылі з Курляндыі. А ў той час яны былі слабейшыя, чым тыя, што стаялі там пад канец 1659 г. і ў пачатку наступнага, а швэдзкі праціўнік — значна мацнейшы. Нягледзячы на гэта, Камароўскі змог тады пакінуць швэдзкі фронт і заатакаваць расейцаў. Пачынаючы чарговы наступ з Полацку, яны мелі падставы баяцца, каб гэты манэўр не быў у нейкім маштабе паўтораны. Таму перад расейцамі стаяла заданьне затрымаць абодвух літоўскіх вайскаводцаў у Курляндыі. І яны маглі яго цудоўна выконваць, робячы пэўныя перамяшчэньні сваіх войскаў на Дзьвіне і распускаючы пагалоскі

[70] A.H. Połubiński do B. Radziwiłła, spod Mitawy 23 XI 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 1208/I. S. 28; ліст ад 17 I 1660. S. 30—31.

[71] K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 1 I 1660. BPAN Kr. 4011. K. 22v; ліст ад 15 I 1660. K. 24v—25, заўвага на аркушы 25v.

[72] Напрыклад: B. Radziwiłł do A.H. Połubińskiego, Królewiec 2 I 1660. Тамсама. Dz. IV, T. 4. Kop. 51. № 151. S. 1; B. Radziwiłł do K. Karlika, Królewiec 13 I 1660. Тамсама. Dz. IVa (копіі). T. 1. Kop. 2. K. 300v.

пра намеры наступаць на Жамойць. Занадта шмат сьлядоў такіх паводзін Масквы мы знаходзім у лістах Кароля Карліка, які знаходзіўся ў блізкіх да гэтых тэрыторый Біржах. Паводле ягоных данясеньняў з другой паловы студзеня, расейцы пачалі перасоўваць свае аддзелы па-за Чадосы ў кірунку Курляндыі і Жамойці. Іх жаўнеры пачалі там атакаваць ліцьвінаў, якія атрымлівалі за асыгнаты правіянт. Пару афіцэраў і вайсковых дэпутатаў забралі ў няволю. У пачатку лютага гэта набыло ўжо такі маштаб, а маскалі так наблізіліся да літоўскіх пазыцыяў, што вельмі занепакоены Міхал Пац мусіў адправіць да Нашчокіна пасланца з пытаньнем, ці намераны ён захаваць заключанае *armistitium*[73]. Князь Радзівіл баяўся за свае маёнткі, а літоўскія камандзіры — за бясьпеку сваіх войскаў і за ўсю гэтую адзіную зь нямногіх літоўскіх правінцый, якая была сапраўднай базай забесьпячэньня для войскаў. Іх непакой быў асабліва непадробны ў пэрыяд вялікіх посьпехаў Хаванскага на мяжы 1659—1660 г., калі адначасова ягоная армія была вельмі небясьпечна высунутая на захад і падстаўленая пад удар з поўначы. Аднак дзякуючы розным праблемам у літоўскім войску, як, напзўна, і спрытнай маскоўскай гульні, у самы гарачы пэрыяд ніякія харугвы ня вырушылі адтуль на дапамогу *«рэшткам Вялікага Княства Літоўскага, якія гінулі»*.

Здаецца, што іншай, далейшай у пэрспэктыве мэтай расейцаў у іх змаганьні за авалоданьне Літвой было недапушчэньне канцэнтрацыі абодвух крылаў літоўскага войска. У карэспандэнцыі цара і ягоных камандзіраў дастаткова часта паўтараецца інфармацыя пра пляны заатакаваць літоўскія войскі ў Курляндыі. Калі паверыць гэтым зьвесткам, то вымалёўваецца досыць цікавая карціна меркаваных дзеяньняў. Зьнішчыўшы літоўскія войскі на захадзе Вялікага Княства і заняволіўшы Наваградчыну, армія Хаванскага павінна была б скіравацца ў Курляндыю і там разам зь сіламі Нашчокіна зьнішчыць астатнія літоўскія войскі. Сам Хаванскі, стоячы пад Ляхавічамі, згадваў пра такі плян дзеяньняў і пра тое, што яму было загадана пісаць князю Багуславу, каб ён не падтрымліваў Палубінскага і Паца, калі ён туды прыйдзе змагацца зь імі, бо інакш царскія камандзіры распачнуць змаганьне і зь ім. Аднак гэтыя намеры, самі па сабе маларэальныя, былі зруйнаваныя, калі Хаванскі даведаўся, што Нашчокін выпусьціў Палубінскага. Адразу пасьля гэтага яго мусіла прыгаломшыць навіна пра тое, што сын Нашчокіна, Воін, уцёк да польскага караля, а ягоны бацька ўклаў замірэньне зь літоўскімі камандзірамі ў Курляндыі. Адразу таксама даведаўся пра набліжэньне Чарнецкага. Тады, як пісаў, *«мне ўсё наадварот стала»*[74]. У нечакана зьмененай сытуацыі ён мусіў пакінуць усе царскія пляны, якія намаўлялі яго на далейшыя правакацыйныя дзеяньні, і як мага хутчэй уцякаць да Наваградчыны.

Урэшце, 9 студзеня Мітава патрапіла ў рукі палявога пісара. Мінулі яшчэ амаль два тыдні, перш чым корпус Палубінскага з найгоршымі настроямі сярод жаўнераў вырушыў на поўдзень. Аднак спыніўся на чарговыя два тыдні ў паўночнай Жамойці, пад Шадовам. Войска пагражала канфэдэрацыяй з прычыны гадамі ня плачанага жолду, і трэба было прыкласьці шмат намаганьняў, каб схіліць яго застацца на далейшай службе. Урэшце, з увагі на цяжкую сытуацыю айчыны, яно згадзілася ў лісьце да караля змагацца бяз платы, адкладаючы яе да шчасьлівых часоў. Аднак гэтую згоду жаўнеры абцяжарылі сваімі жорстка сфармуляванымі ўмовамі. Гэта сьведчыла пра нарастаньне хваляваньняў сярод жаўнераў, што не абяцала нічога добрага перад хуткім сутыкненьнем зь пераможным ворагам. Праз дзесяць зь нечым дзён таксама моцна абстаўленую ўмовамі дэкларацыю далейшай службы зрабілі

[73] K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 30 I 1660. BPAN Kr. 4011. K. 29v—30; ліст ад 4 II 1660. K. 33.
[74] Copia Hramoty Chowańskiego pisanej do Cara Moskiewskiego, b.m.d. [IV 1660]. RGADA. F. 389. Op. 2. № 598. K. 181.
[75] Rachuba A. Konfederacja Kmicicowska... S. 52—54.

жаўнеры дывізіі Паца[75]. Да таго ж у Шадове сярод жаўнераў Палубінскага зьявіўся моцны супраціў адносна маршу ў Літву і жаданьне застацца ў Курляндыі. Жаўнеры не хацелі ісьці пад камандаваньне Сапегі і крыва глядзелі на Палубінскага. Рэй у абуджэньні бунтаўнічых настрояў вёў палкоўнік Самуэль Кміціч. Аднак існавала і фракцыя, якая выказвалася за марш у напрамку Горадні на дапамогу гетману. Урэшце палявому пісару падчас вайсковай сэсіі ўдалося зь вялікай цяжкасьцю зламаць супраціў і схіліць жаўнераў да маршу ў Літву. Адначасова з Шавельскай каралеўскай эканоміі атрымлівалі хлеб для войска, а пры нагодзе рабавалі маёнткі Б. Радзівіла і дамагаліся ад іх т.зв. дамовы, г.зн. своеасаблівага водкупу ў грошах, правіянце і моцных напоях. Там Палубінскі яшчэ раз спрабаваў перацягнуць жаўнераў дывізіі Паца пад сваё камандаваньне. Гэта не прынесла посьпеху, а, наадварот, выклікала далейшае абвастрэньне і так дрэнных стасункаў паміж ім і Пацам[76]. Сюрпрызам было прыбыцьцё з таго войска палкоўніка Станіслава Ліпніцкага з казацкай харугвай і дзьвюма драгунскімі, а таксама Аляксандра Вітынгофа на чале сваёй райтарыі[77]. Канчаткова з Жамойці людзі Палубінскага вырушылі некалькімі групамі да Падляшша. Першыя зь іх адправіліся ў шлях хутчэй за ўсё ўжо ў апошнія дні студзеня, а астатнія разам з палявым пісарам рушылі ў першыя дні лютага.

Навіна пра адыход Палубінскага хутка дасягнула маскоўскіх войскаў на Дзьвіне, а таму пра іх марш на Падляшша Хаванскага адразу праінфармаваў Нашчокін. Ён таксама запатрабаваў у той час, каб жамойцкая дывізія засталася ў Курляндыі і не падмацоўвала тых войскаў, якія пайшлі супраць Хаванскага[78]. На працягу пэўнага часу ліцьвіны баяліся, ці Нашчокін не палічыць адыходу нават аднаго Палубінскага парушэньнем замірэньня і ці не распачне змаганьняў. У першыя дні пасьля адыходу корпусу правага крыла гэты непакой быў асабліва моцны. З боку Чадосаў і Дзьвіны якразназіраліся вельмі моцныя рухі маскоўскіх аддзелаў да літоўскіх пазыцыяў, даходзілі зьвесткі пра іх няспынные ўзмацненьне і агрэсіўныя намеры. У гэтым было шмат перабольшаньня, але Міхал Пац ня мог да канца праверыць гэтай інфармацыі, і яна напаўняла яго сур'ёзнай трывогай. Тым больш, што пасьля адыходу палявога пісара сіла войскаў, сабраных у Курляндыі і Жамойці, значна паменшала. Таму ліцьвіны стараліся ніякім чынам не правакаваць расейцаў. Так, як чакаў Нашчокін, не было гаворкі пра адпраўку дадатковых сілаў у Літву ў складзе жамойцкай дывізіі. Такім жа было і жаданьне караля, і гэта мела вырашальнае значэньне. Такім чынам, дзякуючы перапляценьню розных фактараў і спраўнай прапагандысцкай акцыі расейцаў, злучанай з пэўнымі, хутчэй толькі ўдаванымі перамяшчэньнямі войскаў, ім удалося пазьбегнуць адыходу літоўскіх сілаў з поўначы ў месяцы, калі войскі Хаванскага былі пад найбольшай пагрозай іхняй атакі ў сваё правае крыло і тыл. Фактычна, Нашчокіну цяжка было ў тыя месяцы сур'ёзна нечым пагражаць ліцьвінам у Курляндыі. Нягледзячы на шумныя данясеньні, ягоныя войскі не былі шматлікія, а да таго ж мучыла іх шмат цяжкасьцяў, у тым ліку ўсё большае незадавальненьне жаўнераў службаю, пашыраньне дэзэртаваньня з аддзелаў. Да таго ж сам Нашчокін надалей заставаўся гарачым працаўнікам змаганьня з Рэччу Паспалітай. Ён жадаў міру зь ёй, нават коштам вялікіх уступак на яе карысьць, і распачацьця разам зь ёй вайны са Швэцыяй, мэтай якой было здабыцьцё Масквою шырокага доступу да Балтыкі. Акрамя таго, ён ненавідзеў Хаванскага і, магчыма, з

---

[76] S. Oborski do B. Radziwiłła, Kiejdany 26 I 1660. VUB. Fond 4 (A—212). № 16692, ліст ад 1 II. № 16691.

[77] A.H. Połubiński do P. Sapiehy, b.m.d. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/IV. S. 23; D. Kościuszko do B. Radziwiłła, Birże 24 I 1660. BPAN Kr. 6184. S. 63—64.

[78] Copia Hramoty Chowańskiego pisanej do Cara Moskiewskiego, b.m.d. [IV 1660]. RGADA. F. 389. Op. 2. № 598. K. 180v; K. Żeromski do B. Radziwiłła, Bowsk 9 II 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 18969. S. 13.

гэтай прычыны ня вельмі стараўся затрымліваць даўжэй у Курляндыі Палубінскага, каб ускладніць Хаванскаму дасягненьне чарговых ваенных посьпехаў і перашкодзіць яму ўбіцца ў ласку Аляксея Міхайлавіча[79].

Адыход корпусу Палубінскага з Курляндыі істотна ўскладніў сытуацыю дывізіі левага крыла і яе новага камандзіра Міхала Паца. Хоць яна апынулася перад аслабелым швэдзкім праціўнікам, але, з другога боку, здавалася, што ёй давядзецца распачаць змаганьне з войскамі Нашчокіна. Аднак сытуацыя, якая ўяўлялася небясьпечнай, хутка страціла сваю вастрыню. Бо праз пару дзён пасьля адыходу Палубінскага Пац, на сваю непрыхаваную радасьць, атрымаў ад Нашчокіна адказ з пацьверджаньнем далейшага працягу *armistitium*. Раптам зьнікла сур'ёзная пагроза з гэтага боку, хоць маскоўскія аддзелы засталіся на землях, якія яны занялі дзесяць зь нечым дзён раней. Праз гэта ліцьвіны пазбавіліся многіх месцаў, зь якіх атрымлівалі харчы. Не жадаючы ў гэты час ніякіх сутычак з гэтымі царскімі аддзеламі, яны не рабілі супраць іх ніякіх крокаў. Такім чынам, у апошнія тыдні зімы і вясной 1660 г. войскам дывізіі правага крыла, якія стаялі ў Курляндыі, засталося пільнаваньне швэдаў у Боўску і Рызе. У лютым моцная вылазка з апошняй пад Мітавай пазбавіла аддзелы Эгідыя Брэмэра і Матэвуша Рэмэра некалькіх соцень коней і схопленых у палон драгуноў[80].

Павел Сапега дарэмна ў студзені чакаў надыходу палявога пісара. Апошні шанец на нейкі ратунак яму заставалася бачыць у харугвах правага крыла, якія летам 1659 г. ён паслаў пад камандаваньнем полацкага кашталяна Яна Сасноўскага на ратунак казацкаму палкоўніку Івану Нячаю. Гэтыя войскі дацягнуліся да Магілёва, аднак нічога там не ўчынілі, толькі, няспынна бунтуючыся з прычыны нявыплаты жолду, у значнай ступені дэмаралізаваліся. Позьняй восеньню 1659 г., ужо без разьбітага хваробай Сасноўскага, які застаўся ў Слуцку, гэтыя аддзелы распачалі адступленьне на захад, праходзячы праз Наваградчыну, і ўрэшце разьмясьціліся на зімовыя кватэры часткова на гэтых землях, часткова на Піншчыне. Устрывожаная падзеямі, што адбываліся, тамтэйшая шляхта, шукаючы ратунку, упрошвала жаўнераў застацца там. Гарантавала ім ад сябе правіянт і плату. Да іх слаў роспачныя лісты таксама Сапега, заклікаючы на Падляшша, якому пагражаў Хаванскі. Гэтымі гетманскімі ардынансамі яны апраўдаліся перад поўным роспачы Наваградзкім ваяводзтвам і рушылі ў дальшы шлях. У сярэдзіне студзеня, калі харугвы палка Сасноўскага набліжаліся да Падляшша, гетман паслаў ардынанс, прызначаючы ім замест даўняга камандзіра смаленскага ваяводу Міхала Лявона Абуховіча, які павінен быў правесьці іх у кірунку Горадні. У тых краях яны мусілі злучыцца з чаканымі і ўвесь час заклікаными харугвамі Палубінскага[81]. Гетман не забыўся таксама пра дастаткова шматлікую групу войскаў палкоўніка Самуля Аскіркі і іншых камандзіраў, якія мелі пад сваім кіраўніцтвам значныя аддзелы. Гэтыя войскі ўвесь час заставаліся ў ваколіцах Слуцку і да іх у студзені Сапега паслаў палкія лісты з заклікам рушыць на захад і злучыцца з Палубінскім[82].

Сытуацыя ў Літве з дня на дзень станавілася ўсё больш трагічнай. Падганяны гетманам Абуховіч, кіруючыся да Горадні, па дарозе зьнішчаў непрыяцеля, малыя групы якога беспакарана лютавалі па краі. Гэта быў фрагмэнт шырокага пляну, складзенага на каралеўскім двары, які павінен быў прывесьці да зьнішчэньня прасунутых далей на захад войскаў Хаванскага. Рада сэнату, праведзеная ў Гданьску 1 студзеня 1660 г., зацьвердзіла гэты плян, які потым абмяркоўваўся падчас нарады з удзелам Яна Казімера і

[79] Галактионов И., Чистякова Е. Op. cit. С. 51.
[80] K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 19 II 1660. BPAN Kr. 4011. K. 37, 40; ліст ад 6 III 1660. K. 43.
[81] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, Motol 21 I 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/IV. S. 2; Obuchowicz M.L. S. 286.
[82] S. Oskierka do A.H. Połubińskiego, w Romanowie 4 IV 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 11013. S. 18.

рускага ваяводы Стэфана Чарнецкага. Вось тады, напэўна, пад уражаньнем катастрофы, што набліжалася зь Літвы, было канчаткова вырашана скіраваць туды, а не ва Украіну дывізію рускага ваяводы Чарнецкага[83].

Назначаны плян прадугледжваў адначасовы ўдар з трох бакоў на маскоўскія войскі, якія знаходзіліся ў пачатку студзеня на поўнач ад Берасьця, а ў далейшыя дні гэтага месяца — у ваколіцах Берасьця і ў ім самім. Чарнецкі мусіў сабраць свае аддзелы пад Варшавай, каб потым перасунуць іх у бок Падляшша і адтуль распачаць удар на Хаванскага. Чарнецкага павінна было падтрымліваць падляскае паспалітае рушаньне, адпаведныя ўнівэрсалы да якога яму выдалі. Віленскі ваявода Павел Сапега з рэштай сілаў і з падтрымкай войскаў, што прыбылі зь Бярэзіны, павінен быў распачаць атаку празь Берасьцейска-Літоўскае ваяводзтва, а Палубінскі мусіў перакрыць шлях непрыяцелю з тылу, удараючы з боку Горадні. Найбольш поўна каралеўскія намеры выклаў літоўскі канцлер Крыштап Пац у лісьце да Палубінскага. Паказаўшы яму маштаб наезду маскоўскіх войскаў і трагедыі Літвы, ён пісаў палявому пісару: *«Як тады Яго каралеўская міласьць горача прагне Вашамосьць пана, так і я зычу, каб Вашамосьць пан як найхутчэй пасьпяшаўся на абарону тых краёў і пастараўся ўзяць тыл непрыяцеля, які скіраваўся ў падляскія краі ад Горадні. Ягамосьць пан рускі ваявода, адпраўлены з васьмю тысячамі, з Варшавы будзе заходзіць, зь якім Яго каралеўская міласьць рэкамэндуе Вашамосьці пану мець пільную карэспандэнцыю, і ліст, які Вашамосьці пану належыць, пасылаю. Добра таксама было б, дый я і не сумняюся, што ягамосьць пан віленскі ваявода, злучыўшыся з часткай таго войска, якое пры ягамосьці полацкім пану [Яну Сасноўскім] застаецца, падумае пра рэзыстэнцыю [супраціў] непрыяцелю, які, атočаны з трох бакоў, напэўна, не зусім змог бы цалкам сабраціца назад у Горадню. Гэта in celeritate vel maxitae [ад асаблівай хуткасьці] залежыць, і я, і Яго каралеўская міласьць, не сумняюся, што тое, што належыць Сыну, які любіць Айчыну, і добраму жаўнеру, Вашамосьць пан у цяперашнім разе захочаш праявіць»*[84]. Гетман павінен быў таксама мабілізаваць іншыя літоўскія паветы, каб разам з пакліканым на паспалітае рушаньне Наваградзкім ваяводзтвам яны ўдарылі ў тылы непрыяцеля, які стаяў пад Берасьцем. Плян быў добры і абяцаў ваенны посьпех каралеўскім войскам. Сапега крыху яго мадыфікаваў, пасылаючы групу Абуховіча да Палубінскага, якога і далей спадзяваўся ўбачыць з поўначы ў ваколіцах Горадні. Магчыма, гетман хацеў такім чынам узмоцніць ягоны корпус, верачы, што на сваім кірунку дзеяньня разам з каронныімі аддзеламі ён будзе валодаць дастатковай вайсковай сілай. З Палубінскім, паводле гетманскага ардынансу, павінен быў злучыцца і паручнік панцырнай харугвы Сапегі, Ян Яцак Агінскі, які пасьля паразы ў Крынках, відаць, сабраў пры сабе нейкі аддзел уцалелых жаўнераў[85].

Нягледзячы на дэталёвае плянаваньне апэрацыі, яе выкананьне праваліласяна ўсёй лініі, а нават закончылася дадатковай паразай, зазнанай ад маскоўскіх рук. Папершае, у раёне прадугледжаных дзеяньняў не апынулася Палубінскага, які, хоць яго так настойліва клікалі, вырушыў з-пад здадзенай яму 9 студзеня Мітавы толькі праз два тыдні адно для таго, каб да пачатку лютага затрымацца ў паўночнай Жамойці. Кароль у сваім лісьце да Сапегі, складаючы плян акружэньня Хаванскага, быў проста перакананы, што палявы пісар ужо ў дарозе да Літвы, паколькі шмат разоў пісалі да яго, прысьпешваючы яго да хутчэйшага маршу. Са Случчыны ня вырушыў так-

[83] Senatus Consulta, Gdańsk 1 I 1660. BCzart. 401. S. 126; Kersten A. Stefan Czarniecki 1599—1665. Warszawa, 1963. S. 415—416.

[84] Senatus Consulta, Gdańsk 1 I 1660, BCzart. 401. S. 126; K. Pac do A.H. Połubińskiego, Gdańsk 12 I 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 11208/II. S. 193.

[85] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, Motol 21 I 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/IV. S. 2; ліст ад 6 II. S. 11.

сама Аскірка, які атрымаў гетманскі заклік толькі ў лютым, якраз у час сваёй нешчасьлівай выправы ў кірунку Мазыра і Нарынску. На Падляшша не зьявіўся таксама рускі ваявода, які хоць і пакінуў 9 студзеня Гданьск і аддаў загады сваёй дывізіі зьбірацца на Падляшшы, сам не занадта туды сьпяшаўся, прысьвячаючы дзесяць зь нечым студзеньскіх дзён на ўпарадкаваньне сваіх маёмасных спраў. Тым часам ягоныя жаўнеры ўжо рушылі зь зімовых кватэраў у Вялікапольшчы ў раён прызначаный ім канцэнтрацыі[86].

Аднак найбольшая няўдача напаткала аддзелы, пасланыя Паўлам Сапегам у напрамку Палубінскага. Яны налічвалі 13 харугваў коньніцы: восем казацкіх і пяць драгунскіх пад камандаваньнем Міхала Абуховіча, што разам давала нейкую тысячу чалавек. 23 студзеня 1660 г. яны адправіліся з Моталя і праходзілі, скіроўваючыся ў ваколіцы Горадні, паміж Пружанамі і Сяльцом, дзе знаходзіліся літоўскія камісары. Наконт іх паходу Хаванскі быў выдатна паінфармаваны. 23 студзеня ён вылучыў са сваіх сілаў аддзел колькасьцю 2 тыс. жаўнераў пад камандаваньнем свайго старэйшага сына, стольніка Пятра і падпалкоўніка Данілы Бязьлемішава, адпраўляючы іх супраць ліцьвінаў. 25 студзеня Абуховіч, будучы пад Малеччу, атрымаў навіну, што ў блізкія Пружаны прыбыў, як яго інфармавалі, 2-тысячны маскоўскі аддзел. Бітвы не ўдалося пазьбегнуць. Аднак яе першыя хвілі прынесьлі посьпех літоўскім войскам. Здаецца, што Абуховіч быў засьпеты зьнянацку маскоўскім аддзелам пярэдняй варты. У гэты момант смаленскі ваявода меў пры сабе дзьве харугвы. Хутчэй за ўсё гэта былі харугва даўно памерлага Яўстафія Валовіча, якую цяпер трымаў навагрудзкі ваявода Крыштап Валадковіч, а яе паручнікам быў Міхал Валадковіч[87], і харугва мальтыйскага кавалера Мікалая Ўладыслава Юдыцкага. Першая сутычка закончылася шчасьліва для літоўскага боку. Былі нават здабытыя дзьве харугвы непрыяцеля і палонных, у тым ліку нейкага баярына. Магчыма, тады, як прызнавалі самі расейцы, амаль не патрапіў у палон сын Хаванскага і Бязьлемішаў. Аднак, калі Абуховіч прыбыў да рэшты сваіх войскаў, надышлі галоўныя расейскія сілы. Ваяводзіч хутка падрыхтаваў свае сілы, ставячы наперад казацкія харугвы, а ззаду за імі — драгунскія. Сам узначаліў сваю казацкую харугву і харугву Яна Сасноўскага, якія стаялі ў першым кідку. Рэшта казацкіх і драгунскіх харугваў павінна была падтрымліваць яго. Камандаваньне імі даручыў Андрэю Гурскаму, паручніку казацкай харугвы берасьцейскага земскага судзьдзі Станіслава Бабраўніцкага. Падбадзёраны папярэднім посьпехам, Абуховіч на чале дзьвюх харугваў, якія стаялі ў першым кідку, адбіў першую атаку маскоўскіх войскаў. Аднак, калі непрыяцель пачаў уводзіць у бой дадатковыя сілы і, акрамя таго, пачалі зьяўляцца рэйтарскія і іншыя маскоўскія аддзелы, тады казацкія харугвы, якія стаялі крыху ззаду, здрыгануліся і пачалі ўцякаць у кірунку драгуноў. Уцякаць тады быў вымушаны і Абуховіч, які кіраваў бітвай. Аднак ён ня меў шчасьця, паколькі, як сам згадваў, ягоны *«конь закульгаў»*. Дагнаны маскоўскімі жаўнерамі, ён нейкі час абараняўся. Атрымаўшы шмат ранаў, ён ўратаваў сваё жыцьцё, даючы ворагам знаць, кім ён ёсьць. Ён меркаваў, што надалей заставаўся шанец перамагчы, калі б драгунскія і казацкія харугвы, якія стаялі ззаду, справіліся з заданьнем і аказалі дзейсную дапамогу дзьвюм казацкім харугвам, што біліся. А так, як даведаўся ўжо ў палоне ад маскоўскіх жаўнераў, драгуны нават не далі агню, толькі адразу пачалі ўцякаць, убачыўшы, напэўна, што пахіснуліся казацкія адзінкі. Ка-

[86] Jan Kazimierz do A.H. Połubińskiego, Gdańsk 27 I 1660. BCzart.153. S. 119; Pasek. S. 91; Kersten A. Op. cit. S. 416.

[87] Пасьля сьмерці ў пачатку 1659 г. Валовіча гэту харугву атрымаў 9 II 1660 К. Валадковіч, гл.: LVIA, SA 4106. S. 33; тамсама, SA 4107. S. 43; Poczobut Odlanicki. S. 156.

зацкія харугвы, якія разьлічвалі на падтрымку драгуноў, рэціраваліся з поля сьледам за імі. Пераможныя расейцы рушылі да Берасьця, дзе стаяў Іван Хаванскі, забіраючы з сабою параненага Абуховіча, а таксама, як хваліліся, узятых у палон двух ротмістраў, двух паручнікаў і дзьвесьце чалавек шляхты. Загінула каля 250 ліцьвінаў, 18 латнікаў і шмат драгуноў патрапіла ў палон. Самі прызнаваліся ў сьмерці 30 сваіх жаўнераў[88]. Пасьля гэтага посьпеху царскія жаўнеры грунтоўна паншчылі бліжкія землі, захапілі таксама шмат вазоў, на якіх шляхта ратавала свой маёнтак падчас уцёкаў. Асабліва лютавалі супраць воласьці Паўла Сапегі, спалілі яго Пружаны. Затое пашкадавалі бліжкі Сялец, які належаў Б. Радзівілу. У Берасьце разам з палоннымі яны прыбылі 28 студзеня. Гэтыя падзеі прывялі ў вялікі жах камісараў, якія сядзелі ў Сяльцы. Юры Глябовіч і Крыштап Завіша нібыта нават уцяклі ў лес, дзе іх зь цяжкасьцю знайшоў пасол Хаванскага і схіліў вярнуцца. Уцякала таксама шляхта, якая яшчэ была ў стане гэта рабіць. Яна скіроўвалася да Піншчыны. Так, між іншым, зрабіла жонка Марціна Навіцкага, які служыў у палку Самуля Аскіркі. Аднак па дарозе да Пінску, у вёсцы Сушыца, на яе напалі таварышы з харугвы Яна Сасноўскага на чале зь Міхалам Мразіцкім. Пасьля паразы пад Малеччу яны бадзяліся па тых ваколіцах. Асобы, якія спадарожнічалі жонцы Навіцкага, былі пабітыя, а ў яе самой цалкам забралі ўсё, што яна здолела ўратаваць ад жаўнераў Хаванскага. Баючыся пагрозаў Навіцкага яны напалі ноччу на яго двор у Пінкавічах у Пінскім павеце. Аднак не засьпелі яго, бо ён сам скіраваўся ў полк Аскіркі, які адпраўляўся на казакоў. Затое разбурылі ягоны дом і пагражалі ягонай жонцы Зоф'і. Сам Навіцкі ня мог абараніць справядлівасьць, бо ў канцы лютага патрапіў у маскоўскі палон пад Нарынскам і быў высланы аж у Казань. Зрабіў гэта толькі тады, калі ў сярэдзіне 1662 г. вярнуўся адтуль разам з палявым літоўскім гетманам В. Гасеўскім[89].

Параза пад Малеччу асабліва прыгнятальна падзейнічала на літоўскіх камісараў, якія зь Сяльца спрабавалі стрымаць разьюшанага Хаванскага. Яны здавалі сабе справу, што па сутнасьці былі расьсеяны апошнія літоўскія сілы, якія ў той момант былі ў Літве. Адзіны ратунак мог прыйсьці з боку корпусу Палубінскага ці ад каронных войскаў. Абяцаньні ягонага прыбыцьця чуліся здаўна, гэтых войскаў чакалі з тугою і надзеяй. Аднак яна няспынна малела з прычыны штораз большых маскоўскіх посьпехаў і адсутнасьці навінаў пра надыход такога чаканага ратунку. Таму прыгнечаныя настроі нарасталі ня толькі ў камісараў, але і сярод шырокай грамады літоўскай шляхты, якая паволі страчвала надзеі на дзейную дапамогу і пачала пакідаць думку пра супраціў на карысьць таго, што трэба згадзіцца з новай рэчаіснасьцю. Нейкую бясьпеку ад уладаў і маскоўскіх войскаў павінна была забясьпечыць прысяга вечнага падданства цару, на што з уласнай волі ці з прымусу згаджалася ўсё больш шляхты. Іншыя наважваліся ўцякаць у межы Княскай Прусіі. Можна было заўважыць мацнейшую раздражнёнасьць шляхты адсутнасьцю рашучай рэакцыі з боку літоўскага войска, якое стаяла ў Курляндыі і да якога, як паведамляў Аборскі, нават адправілі з Жамойці пасла з заклікам, каб ці абараняла край, ці перамаўлялася з Масквой. Упаўголаса казалі нават пра здачу цару. Моцна нарастала крытыка ў адрас караля, якога абвінавачвалі ў незацікаўленасьці літоўскімі справамі і абыякавасьці да лёсу Княства Літоўскага. Пішучы пра шляхецкія настроі, Аборскі згадваў, што *«скардзяцца на Яго каралеўскую міласьць, што, што б ні зрабіў, усё гэта in pernicіет [на шкоду] Літвы робіць»*[90].

[88] M.L. Obuchowicz. S. 286—288; Komisarze do Jana Kazimierza, Sielce 5 II 1660. BCzart. 153. S. 237—238; Relacja moskiewska o bitwie, гл.: AGAD. AR. Dz. II—supl. 574; Курбатов О. Литовский поход… С. 30.
[89] S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Jasiewicze 4 II 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 12561. S. 59—61; AVAK. T. XXXIV. № 200. S. 225—227.
[90] S. Oborski do B. Radziwiłła, Kiejdany 18 I 1660. VUB. Fond 4 (A—212). № 16696.

У гэтыя трагічныя тыдні стрымаць Хаванскага зноў спрабавалі літоўскія камісары, якія знаходзіліся непадалёк ад стаўкі маскоўскага камандзіра. Спасылаючыся на перамовы, якія павінны пачацца, яны ўказвалі на неабходнасць спыніць ваенныя дзеяньні. Аднак той не намерваўся слухаць іхніх патрабаваньняў, спасылаючыся на царскую грамату, якая загадвала яму праводзіць збройныя дзеяньні. У другой палове студзеня, як бы ў адказ на іх патрабаваньні, Хаванскі паабяцаў свой хуткі адыход у Пружаны, Слонім і Наваградак. Аднак камісары ня надта трапна зразумелі намеры князя, хоць да іх ужо даходзілі зьвесткі пра тое, што ён мае загады скіравацца на Жамойць супраць размешчаных там літоўскіх войскаў. Унюхаўшы ў ягонай заяве праявы слабасьці і схільнасьці да ўступак, яны пачалі ставіць яму завышаныя патрабаваньні, нават да адступленьня ў Вільню і Полацак уключна[91].

Аднак выступленьні камісараў з гэтымі патрабаваньнямі прыпадалі на жахлівы пэрыяд. Менавіта ў гэтыя дні Хаванскі мог дадаць да трыюмфу сваіх посьпехаў чарговую перамогу, атрыманую пад Малеччу над апошнімі літоўскімі аддзеламі, якія знаходзіліся ў той час у Літве. Глябовіч у роспачы пісаў: *«Апошнія войскі, што былі, непрыяцель пад Малеччу усяго толькі за мілю ад Сяльца nobis spectantibus [у нас на вачах] расьсеяў»*[92]. Імгненны запал камісараў адразу згас, замяніўшыся ў горкую роспач.

Дасягнуўшы гэтых посьпехаў, Хаванскі выдатна здаваў сабе справу, што заваёвы на заходніх краях Літвы і Падляшша вельмі няпэўныя. Ён, напэўна, заўважаў таксама і ўсё нявыгаднае становішча сваіх войскаў. Дасягаючы Берасьця і яшчэ далей у кірунку Бугу і каронных зямель, яны прасоўваліся вельмі небясьпечна на захад, цалкам адрываючыся на паўднёвым крыле для магчымай атакі каронных сілаў, а на паўночным крыле — на больш праўдападобны ўдар літоўскіх войскаў з Курляндыі, як гэта ўжо здарылася на няшчасьце царскім камандзірам вясной 1659 г. Ён ня мог таксама доўгі час рызыкаваць, падстаўляючы свае стомленыя аддзелы на магчымую атаку новых каронных сілаў, якія прыбывалі з захаду. Тым больш абсалютна нерэальным было далейшае прасоўваньне на захад. Асабліва з улікам таго, што адпраўленыя да Палесься і Валыні разьезды разьвейвалі надзею на прыйсьце з Украіны моцных царскіх і казацкіх войскаў і злучэньне зь імі, што магло цалкам зьмяніць становішча войскаў Хаванскага пад Берасьцем.

Расейцы, стоячы на Бугу, працягвалі пільна назіраць за войскамі Рэчы Паспалітай. У гэты час да іх пачалі даходзіць вельмі дрэнныя зьвесткі з каронных зямель. Пасланы 23 студзеня з-пад Берасьця ў напрамку Варшавы разьезд прывёз палонных з кароннага войска. Яны засьведчылі, што ад Валыні да Віслы набліжаюцца аддзелы гетмана Станіслава «Рэвэры» Патоцкага і што за імі не ідуць войскі Шарамецьева і казацкія. Затое гэтыя палонныя пацьвердзілі навіну пра накіраваньне супраць войскаў Хаванскага дывізіі Чарнецкага, якая ацэньвалася ў 6 тыс. чалавек. Дадаткова царскага камандзіра непакоілі данясеньні пра збор у ягоным тыле на Піншчыне аддзелаў Самуля Аскіркі і Дзяніса Мурашкі, якія ў розных сьведчаньнях налічвалі ад дзьвюх да чатырох тысяч чалавек[93]. Хаванскі ведаў таксама, што настроі наваградзкай шляхты непрыхільныя да Масквы, а апрыкшчам для яго маглі стаць размешчаныя там тры крэпасьці з моцнымі залогамі: Ляхавічы, якія належалі Паўлу Сапегу, Нясьвіж Міхала Казімера Радзівіла і наймагутнейшы, з залогай на тысячу чалавек Слуцак, які заставаўся ў руках Рэчы Паспалітай і належаў князю Багуславу Радзівілу. Такім чынам, небясьпека атачэньня яго большымі літоўскімі сіламі абмалёўвалася вельмі рэальна. Хаванскі ня

[91] Komisarze do I.A. Chowańskiego, Bezdzież 18 I 1660. BCzart. 153. S. 77—78; Komisarze do I.A. Chowańskiego, Sielce [styczeń] 1660. Тамсама. S. 197—200.
[92] J. Hlebowicz do B. Radziwiłła, Sielce 5 II 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 5226. S. 133.
[93] Гл.: Данясеньні Хаванскага цару. AGAD. AR. Dz. II—supl. 574.

мог гэтага недаацэньваць, а асабліва рэгулярных груповак войскаў, якія сьцягваліся супраць яго. Падчас усяго наступу зь лістапада 1659 г. ён ня меў дачыненьня на полі бітвы з такім шматлікім і дасьведчаным у баях працiўнікам, якім быў корпус Палубінскага ці дывізія Чарнецкага. Акрамя таго, ягоная армія, якая стаяла пад Берасьцем, не валодала такой баяздольнасьцю, як два месяцы таму, і ўжо нават перамога Абуховіча пад Малеччу далася зь цяжкасьцю. Хаванскі здаваў сабе справу з таго, што ў выпадку любой паразы на Падляшшы ў сувязі зь перавагай працiўніка і варожасьцю шляхты да яго ён будзе асуджаны на абкружэньне і поўную згубу сваёй арміі. Рашэньне наконт чарговых крокаў ён мусіў прыняць вельмі хутка. Па праўдзе, да вясны заставалася яшчэ шмат часу, але небясьпека надыходу разводзьдзяў, якія проста паралізоўвалі паход больших масаў войска, станавілася з кожным тыднем усё большай. Калі ён хацеў пазьбегнуць гэтых пагрозаў, павінен быў адступіць у адзіным магчымым кірунку, да Наваградчыны. Гэта забясьпечвала адрыў ад непрыяцеля, набліжэньне да сваіх базаў забесьпячэньня ў Полацку ці Барысаве, а таксама магчымасьць дасягнуць чарговых посьпехаў пры нагодзе заняцьця Наваградзкага ваяводзтва і крэпасьцяў, што знаходзіліся там: Ляхавічаў, Нясьвіжу і Слуцку.

У другой палове студзеня чарговыя непрыемныя для яго зьвесткі прыйшлі зь Дзьвіны. На сваё вялікае абурэньне, Хаванскі даведаўся, што супраць яго цягнецца Палубінскі з корпусам, які маскоўскі камандзір ацэньваў у 4 тыс. жаўнераў і які мог яшчэ вырасьці ў сілах пасьля аб'яднаньня на Мазоўшы і Падляшшы з адзінкамі Паўла Сапегі, якія заставаліся там. Пра яго марш ён быў паінфармаваны лістом Нашчокіна. Хаванскі ня мог яму гэтага дараваць. Так у перахопленым і перакладзеным на польскую мову лісьце да цара ён пісаў: *«А я той надзеі быў, што думны дваранін Нашчокін у Курляндыі непрыяцеля зойме з тваімі ваеннымі людзьмі, пакуль бы я пасьпяшаўся ў Курляндыю»*[94]. Таму, калі існавалі нейкія пляны вырушыць у Курляндыю, яны былі цалкам зруйнаваныя, а марш да Наваградчыны набываў характар адступленьня перад усё больш магутнымі сіламі працiўніка.

Як бачна, дадзенае ліцьвінам абяцаньне выйсьці зь Берасьця было ў плянах Хаванскага, тым больш, што гэта згаджалася з жаданьнем цара, каб перад маршам у Курляндыю ён прывёў да падданства Наваградчыну. Перад камісарамі, якія не арыентаваліся ў ягоных намерах, ён мог абяцаць, што хутка адступіць, адначасова падманваючы, што робіць гэта, каб палегчыць распачацьце мірных перамоваў. Але ён зусім ня думаў забіраць залогаў з занятых Берасьця і Горадні і ісьці на нейкія ўступкі патрабаваньням камісараў. Сам катэгарычна патрабаваў, каб яны дамагліся ад літоўскага гетмана, каб той не пасылаў сваіх войскаў пад Берасьце. У адказ на просьбу праяўляць літасьць да жанчын і дзяцей, сказаў, што паліць, рэзаць і браць у няволю ягоныя войскі і надалей будуць, бо такі ёсьць жаўнерскі звычай. Затое нікому не забараняецца прыяжджаць у ягоны лягер, каб выкупіць сваіх блізкіх. Камісарам цьвёрда загадаў заняцца перамовамі і клопатамі аб міры, паколькі, паводле ягоных словаў, працяг вайны і так не прашкаджае мірным перамовам[95]. Маскоўскі вайскавода не пакінуў ім надзеі. Ён выразна заявіў, што не перастане спусташаць Літвы, пакуль Рэч Паспалітая ня згодзіцца зь мірам, зразумела, на маскоўскіх умовах.

Князь вывеў свае войскі зь Берасьцейскай крэпасьці 4 лютага. Раней ён адрамантаваў фартыфікацыі верхняга гораду і замку. Пакінуў там значную залогу, якую салідна забясьпечыў правіянтам, а з мэтай яе дадатковай абароны дашчэнту спусташыў ваколічныя землі, каб войскі, якія намерваліся б зрабіць нейкія крокі супраць гэтай

[94] Copia Hramoty Chowańskiego pisanej do Cara Moskiewskiego, b.m.d. [IV 1660]. RGADA. F. 389. Op. 2. № 598. K. 180v.
[95] I.A. Chowański do Komisarzy, Brześć [I/II] 1660. BCzart. 153. S. 195—196.

крэпасьці, не маглі на даўжэйшы час затрымацца ў ваколіцы[96]. Расейцы забыліся толькі, а можа, і ня здолелі забраць вялікай колькасьці збожжа, якое на патрэбы маскоўскіх жаўнераў было сабранае ў разьмешчаным за 40 км на паўночны захад ад Берасьця Воўчыне. Потым яно патрапіла ў рукі літоўскіх жаўнераў. Ён спрабаваў таксама забясьпечыць ёй абарону ад аселых на мазавецкіх і падляскіх землях аўстрыйскіх войскаў, якія прыбылі на дапамогу Рэчы Паспалітай у яе змаганьні са Швэдамі. Узаемныя кантакты былі досыць ажыўленыя ў студзені 1660 г. Хаванскаму было важна атрымаць упэўненасьць, што аўстрыйцы як польскія саюзнікі ня возьмуцца за змаганьне зь ім. Таму Хаванскі ўказваў ім, што цар з імпэратарам жывуць у міры. Дэманстраваў ім сваю моц і прапаноўваў ім заняць заходні бераг Віслы, а ён авалодае ўсходнім. Імпэратарскія вайскаводцы таксама не намерваліся ўмешвацца ў змаганьні з царскімі войскамі, гаворка ішла толькі пра тое, каб яны маглі бясьпечна браць правіянт у ваколіцах Берасьця. У гэтай сытуацыі, пры вялікай польскай падазронасьці ў дачыненьні да праціўнікаў, аўстрыйцы і расейцы хутка дайшлі да згоды ў тым, каб узаемна не пераходзіць сабе дарогі[97].

Выходзячы зь Берасьця, царскі вайскаводца не хаваў, у якім напрамку ён намераны весьці свае войскі. Яго мэтай былі астатнія паветы і фартэцыі Навагрудчыны, якіх ён яшчэ не заняў, а іх шляхты не прывёў у царскае падданства. Таму яшчэ раней ён адправіў у Ваўкавыскі, Гарадзенскі, Навагрудзкі і Слонімскі паветы пасланцоў з патрабаваньнем добраахвотна яму здацца. А камісарам сказаў, што, калі яны загадаюць здацца камэндантам Ляхавічаў, Нясьвіжу і Слуцку, тады, не спусташаючы краю, адыдзе. Спалоханым каралеўскім дыпляматам засталося толькі лямантаваць па страшэнным упадку Вялікага Княства Літоўскага, горы яго грамадзянаў, якіх забівалі ці забіралі ў няволю, і абвінавачваць у такім стане рэчаў тых, хто калісьці не хацеў прыняць прапанаванага расейцамі *armistitium*, у выніку чаго яны бачылі катастрофу айчыны. Акрамя таго, яны маглі толькі толькі зычыць, як выказаўся адзін з камісараў Крыштап на Бакштах Завіша, каб Хаванскі, «*дай Божа, або адмяніў свае задумы, або каб яму не пашэнціла*»[98]. Пакуль што яны мусілі чарговы раз стаць сьведкамі страшных злачынстваў жаўнераў грознага князя, якія адразу пасьля выхаду зь Берасьця на шляху свайго маршу шырока спусташалі ваколіцы, палілі вёскі, а іх насельніцтва забіралі ў няволю[99].

Маскоўскі камандзір пакінуў Берасьце нашмат раней, і пры гэтым у адваротным кірунку ад таго, як наказвалі яму загады і пасланая ў той час з Масквы царская грамата, якая праз вялікую адлегласьць патрапіла да Хаванскага амаль праз два месяцы. Цар выразна загадваў яму стаяць у ваколіцах гэтага гораду да вясны. У грамаце напішліва загадвалася, каб ён паслаў войскі да Варшавы, якую яны павінны былі зьнішчыць, а маскоўскія гарматы, што там знаходзіліся (напэўна, трафэі зь пераможных войнаў Рэчы Паспалітай у першай палове XVII ст.), забраць з сабой. Царская грамата прадугледжвала таксама салідное забесьпячэньне Берасьця залогай і правіянтам, Хаванскі мусіў скіравацца на Наваградчыну і, аднавіўшы там царскае панаваньне, пайсьці супраць Палубінскага і Паца ў Жамойць і Курляндыю. Калі б зьявіліся мацнейшыя польскія і літоўскія войскі, маскоўскі вайскавод-

[96] AMG. T. III. № 52. S. 57; J. Hlebowicz do B. Radziwiłła, Sielce 5 II 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 5226. S. 133.
[97] Гл.: Raport I.A. Chowańcskiego do cara z 21(31) I 1660 r. Тамсама. Dz. II — supl. № 574. S. 15—16, 8; Komisarze litewscy do P. Sapiehy, Sielce 5 II 1660. BCzart. 153. S. 257; Walewski A. Historia wyzwolonej Rzeczypospolitej wpadajcej pod jarzmo domowe za panowania Jana Kazimierza (1655—1660). Kraków, 1872. T. II. S. 144—145.
[98] J. Hlebowicz do B. Radziwiłła, Sielce 5 II 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 5226. S. 134; K. na Baksztach Zawisza do B. Radziwiłła, Sielce 17 II 1660. Тамсама. № 18580.
[99] S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Sielce 10 II 1660. Тамсама. № 12561. S. 69.

ца мусіў адступіць да Горадні і Коўна. Меў толькі загад ад цара, каб, праводзячы ваенныя апэрацыі, стала клапаціўся аб небясьпецы Берасьця і ў выпадку збору ў гэтых месцах варожых аддзелаў стараўся іх зьнішчаць і праганяць. Пэўную частку гэтых загадаў Хаванскі выканаў, астатнія былі абсалютна нерэальныя. Свой адыход у патрэбным для яго кірунку ён тлумачыў далёкаму цару тым, што з боку гэтых двух гарадоў зьявіўся Палубінскі. Сам Хаванскі, як гэта вынікала зь яго выказваньня ў сакавіку, адступаючы да Наваградчыны, не адмаўляўся тым самым ад выкананьня царскага загаду разьбіць Палубінскага і ўдарыць на Варшаву і Люблін. Ён толькі адкладаў гэта на пазьнейшы час, калі ападуць воды, жадаючы спачатку падпарадкаваць сабе крэпасьці з моцнымі залогамі, што засталіся ў яго далёкім тыле, пацыфікаваць неспакойную наваградзкую шляхту і папоўніць свае сілы. Пры гэтым гарантаваў цару, што калі толькі дадасьць яму сьвежых людзей, то ўсё Вялікае Княства Літоўскае падпарадкуе ягонай уладзе[100].

Як паказалі падзеі першай паловы 1660 г., вялікі наступ Хаванскага ў напрамку заходніх літоўскіх зямель і Падляшша не прынёс нейкай больш значнай, акрамя жахлівага зьнішчэньня гэтых зямель, стратэгічнай карысьці маскоўскаму боку. Гэтым можна прызнаць здабыцьцё Горадні і Берасьця, але гэтыя крэпасьці пасьля адыходу маскоўскай арміі на ўсход перасталі адыгрываць такую сур'ёзную ролю ў агульных ваенных дзеяньнях. Затое яны маглі выканаць надзвычай важнае заданьне, калі б пасьля заняцьця Наваградчыны ўмацаваныя маскоўскія войскі зноў зрабілі марш у кірунку сэрца Рэчы Паспалітай. А гэта і заняцьце Жамойці разам з разьбіцьцём літоўскіх войскаў, што там стаялі (як вынікала зь перахопленай маскоўскай карэспандэнцыі), было ў далёкіх маскоўскіх плянах. Расейцы ня здолелі таксама нанесьці больш сур'ёзных стратаў літоўскім войскам. Праходзячы цэлы шлях да Берасьця, яны ня зьнішчылі ніякіх большых літоўскіх вайсковых групаў. Хаванскі ня столькі разьбіваў, колькі разганяў і праганяў невялікія групы харугваў правага крыла. Можна сказаць, што высілак ягоных жаўнераў ды імпэт іхніх атакаў як бы трапляў у пустку, паглынаючы пры гэтым сілы ведзенай аж зь Дзьвіны маскоўскай арміі.

Аднак трэба прызнаць, што царскі вайскаводца, выходзячы зь Берасьця 4 лютага, вырваўся з польска-літоўскіх пастак у апошні момант, і то дзякуючы спазьненьню Палубінскага. Чарнецкі пасьля канцэнтрацыі сваёй дывізіі пад Варшавай заклікаў Палубінскага хутка злучыцца і разам ударыць на ворага[101]. Аднак ён не арыентаваўся, дзе ў той момант знаходзіўся літоўскі корпус палявога пісара. Паводле ўсіх меркаваньняў, Палубінскі павінен быў якраз набліжацца да пазыцыяў Хаванскага. Але так не было, паколькі ў гэты час ён надалей стаяў у паўночнай Жамойці, што разьюшыла каралеўскі двор і паглыбіла роспач Паўла Сапегі. Ён вырушыў адтуль з галоўнымі сіламі толькі ў першыя дні лютага, а ў Заблудаве ягоныя харугвы зьявіліся 13 лютага. У гэты час Хаванскага ўжо нельга было злавіць пад Берасьцем, паколькі ён знаходзіўся на Наваградчыне. Калі б ліцьвіны зьявіліся на Падляшшы пад канец студзеня, падзеі маглі б разьвівацца зусім інакш. Стомленая і аслабленая армія Хаванскага з усёй пэўнасьцю апынулася б у вельмі цяжкай сытуацыі.

Адыход Хаванскага на ўсход і зьяўленьне на Падляшшы каронных і літоўскіх харугваў прынцыпова зьмяніла сытуацыю на гэтых землях. Ваколіцы Берасьця адразу апынуліся ў руках каралеўскіх войскаў, а ізаляваная і абкружаная маскоўская залога Берасьця не рабіла ніякіх сур'ёзных дзеяньняў. Зьмяніць гэты стан магло толькі зьяўленьне ў гэтых краях моцных маскоўскіх войскаў.

[100] AMG. T. III. № 52. S. 57—58; Copia Hramoty Chowańskiego pisanej do Cara Moskiewskiego, b.m.d. [IV 1660]. RGADA. F. 389. Op. 2. № 598. K. 180v, 183.

[101] S. Czarniecki do A.H. Połubińskiego, Warszawa 29 I 1660. BRacz. № 76. S. 66.

# VII. Змаганьні з войскамі князя Івана Хаванскага на Падляшшы ў лютым — сакавіку 1660 г.

Хаванскі пакінуў Берасьце 4 лютага і адправіўся ў бок Слоніму і Навагрудку. Літоўскія назіральнікі бачылі, што ён скіроўваецца ў Навагрудчыну і здагадваліся, што ў абсягу ягоных дзеяньняў знаходзіцца таксама Пінск на Палесьсі. Аднак найбольш яны баяліся магчымага аб'яднаньня на тых землях Хаванскага з арміяй Лабанова-Растоўскага. Здабыўшы 13 сьнежня 1659 г. (з прычыны здрады) гераічна баронены Стары Быхаў, яна заставалася ў яго ваколіцах, і паўсюль меркавалі, што цяпер пойдзе на дапамогу Хаванскаму. У чорных фарбах бачыўся тады лёс навагрудзкіх фартэцый, гэтых апошніх свабодных літоўскіх бастыёнаў.

Марш у паўночна-ўсходнім напрамку ствараў значную верагоднасьць таго, што маскоўскія разьезды могуць, прынамсі, зачапіцца за разьезды Палубінскага, які ў гэтыя дні ўрэшце надыходзіў з поўначы, паколькі абодва войскі, скіроўваючыся ў процілеглых кірунках, у пэўны момант апынуліся досыць блізка адно ад аднаго. І сапраўды, літоўскі аддзел, які ішоў наперадзе пад кіраўніцтвам літоўскага падстолія Марцыяна Аляксандра Агінскага, натыкнуўся ў пачатку лютага па правым баку Нёмна за Горадняй на дарозе да населенага пункту Новы Двор на царскага стольніка Луку Іванавіча Грамаціна і князя Саву Фёдаравіча Мышэцкага, якія, пасланыя калісьці да Хаванскага, вярталіся назад. Іх узялі ў палон, а царскі аддзел, які іх супраджаў, выразалі. Праз дзесяць зь нечым дзён Хаванскі пратэставаў, што быў зроблены напад на мірных пасланцоў. Дзівіўся зь іх мірнай місіі палявы пісар, адпісваючы, што пры іх былі знойдзеныя граматы і загады, якія наказвалі атакаваць літоўскія войскі Палубінскага і кароныя, а таксама забаранялі маскоўскім вайскаводцам заключаць *armistitium*. Яны ня мелі пры гэтым ніякіх ахоўных лістоў і прыстава[1] зь літоўскіх людзей, які б ім у дадзенай місіі гарантаваў бясьпеку з боку літоўскіх войскаў. Затое пры сабе яны мелі 100 конных жаўнераў, а ў такім суправаджэньні царскія пасланцы звычайна ня езьдзяць, дадаваў Палубінскі. Пры гэтым ён дакараў Хаванскага ў ягонай бязьмежнай жорсткасьці і ўчыненых у Літве зьнішчэньнях і зьдзіўляўся зь ягоных словаў пра мірную місію злоўленых царскіх саноўнікаў[2]. Палявы пісар нагадаў пра іншыя сутычкі падчас свайго маршу і, між іншым, пра іншыя баі з аддзеламі полацкай шляхты на царскай службе, якой камандаваў Раман Аскірка, якія ў сярэдзіне студзеня апынуліся ў Вільні, але самога здрадніка Аскірку тады не ўдалося схапіць[3].

Цяжка сказаць, але, відаць, навіны пра хуткае набліжэньне войскаў з Курляндыі і, урэшце, данясеньне пра пайманьне царскага саноўніка і перахоп лістоў да цара Аляксея Міхайлавіча прывялі да таго, што Хаванскім зьняволіў маці Палубінскага, Зоф'ю Сапяжанку-Палубінскую, пра бясьпеку якой ён раней сам паклапаціўся, пры-

[1] Прыстаў — у дадзеным выпадку апякун, які даваўся пасланцу іншага боку і мусіў ахоўваць і клапаціцца пра бясьпеку.

[2] Гл.: Relacja Timofieja Osipowicza Czeliszczewa z 26 I 1660 (5 II). AGAD. AR. Dz. II — supl. № 574; Memoriał Jmć Panu Kniaziu Władysławowi Giedroyciow... podany w Mileyczycach 24 II 1660. Тамсама. Dz. II. № 1416. S. 2.

[3] Copia listu [А.Г. Палубінскага. — *Заўв. Аўт.*] do Jmci Pana Hetmana, datt z Mileyczyc 21 Februari. Тамсама. Dz. V, неўпарадкаваныя паперы.

стаўляючы да яе сваю ахову[4]. Князь, хутчэй за ўсё, хацеў мець закладніка, які б гарантаваў бясьпеку залогі Берасьця і ўвогуле ягоных войскаў падчас адступленьня і дзеяньняў на Наваградчыне. Магчыма таксама, што ён схапіў яе дзеля помсты, даведаўшыся пра зьняволеньне людзьмі Палубінскага пад Горадняй царскіх саноўнікаў. Тады яна паслужыла б яму для абмену на злоўленых расейцаў. Як паказалі пазьнейшыя падзеі, цар намерваўся выкарыстаць яе асобу для дасягненьня абедзьвюх мэтаў. На ягоныя рашэньні маглі паўплываць таксама зьвесткі, што ўжо блізкі палявы пісар кантактуецца са сваёю маці, паколькі пасьля яе зьняволеньня, як згадваў Палубінскі, расейцы на яе двары ў Дзярэчыне, непадалёк ад Слоніму, асабліва шукалі і дапытваліся лістоў ад яго[5]. Ва ўсякім разе блізкіх Палубінскага Хаванскі меў у сваіх руках ужо 18 лютага[6]. Разам зь імі тады або праз пару дзён патрапілі ў рукі ягоных людзей лісты палявога пісара, а сярод іх і той, які потым так страшэнна раззлаваў маскоўскага князя.

У той час як Хаванскі пакідаў Берасьце, а Палубінскі набліжаўся з поўначы ў бок Падляшша, у ваколіцах Варшавы завяршаў мабілізацыю сваёй дывізіі рускі ваявода Стэфан Чарнецкі. Каралеўскі загад канчаткова наказваў яму скіравацца на дапамогу літоўскім войскам. Яшчэ з Гданьску ў першыя дні студзеня, калі рада сэнату паслала яго ў Варшаву для дапамогі ліцьвінам, ён адаслаў ліст да Сапегі і Палубінскага, у якім раіў злучыцца зь ім на Падляшшы[7]. З Варшавы 29 студзеня ваявода паслаў ліст Палубінскаму, заклікаючы яго хутка аб'яднаць сілы і супольна ўдарыць на непрыяцеля[8]. Праз некалькі дзён, пачуўшы, што палявы пісар урэшце падцягваецца, скіраваў да яго чарговы ліст[9]. У гэтым лісьце заўважалася вялікая пасьпешнасьць. Чарнецкі настойваў, каб як мага хутчэй аб'яднаць сілы, у тым ліку і сапегаўскія. Абяцаў, што будзе чакаць Палубінскага на Лукаўскім тракце. Не хаваў, што яму важна найхутчэй сканцэнтраваць войскі і ўдарыць на Хаванскага. Чарнецкі, напэўна, добра ведаў, што той сыходзіць з Падляшша, а разам зь ім — магчымасьць зьнішчыць ягоныя аддзелы ў найбліжэйшыя дні. Рускаму ваяводу было важна як мага хутчэй аб'яднанымі сіламі дагнаць Хаванскага і нанесьці яму дзесьці ў ваколіцах Берасьця вырашальную паразу, каб змагчы хутка скіравацца са сваёй дывізіяй ва Ўкраіну. У наступныя дні Чарнецкі, напэўна, атрымліваў чарговыя зьвесткі пра адыход галоўных маскоўскіх войскаў з ваколіц Берасьця і, не дачакаўшыся падтрымкі ад літоўскіх калегаў, застаўся са сваёй дывізіяй на паўднёвым Падляшшы яшчэ на некалькі дзён, усё больш, аднак, аглядаючыся ва ўкраінскім кірунку. Гэта не азначае, што ўжо тады ён пакінуў пляны змаганьня з Хаванскім у Літве. Яшчэ 9 лютага з Асоўна пад Парчавам ён паслаў ліст палявому пісару, чарговы раз падганяючы яго хутчэй далучыцца да яго. Інфармаваў яго, што Масква адышла ад Берасьця, пакідаючы там толькі сваю залогу. Жадаючы заахвоціць Палубінскага пасьпяшацца, выразна выказаўся, што расейцы не ўяўляюць такой сілы, як раней. Таму прасіў яго пасьпяшацца і ўступіць зь ім у *«ваенную аказію»*, *«пакуль маскоўскім людзям рашучасьць ня вернецца»*. Паабяцаў, што будзе чакаць яго пад Берасьцем яшчэ шэсьць або сем дзён, даючы зразумець, што калі Палубінскі ня зьявіцца за гэтыя дні, то скіруецца да Ўкраіны, дзе ён вельмі патрэбны[10].

[4] Komisarze Królewscy do Komisarzy Carskich, Słonim 12 III 1660. BCzart. 153. S. 484.

[5] Copia listu do Jmci Pana Hetmana...

[6] Палубінскі паведамляў пра гэта 21 лютага. Тамсама; I.A. Chowański do A.H. Połubińskiego, w obozie b.m. 8 (18) II 1660. BCzart. 153. S. 291—292.

[7] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Gdańsk 16 I 1660. LvNB. F. 103. № 1738.

[8] S. Czarniecki do A.H. Połubińskiego, Warszawa 29 I 1660. BRacz. № 76. S. 66.

[9] Ён жа да яго ж, Garwolin 6 II 1660. Тамсама. S. 67.

[10] Ён жа да яго ж, Ossówno 9 II 1660. Тамсама. S. 68.

Пішучы да Сапегі праз няпоўныя два тыдні, Палубінскі запэўніваў, што ад яго самога атрымаў у Курляндыі адзін, і той прыватны ліст. Нягледзячы на гэта, ідучы з Курляндыі і ведучы пры гэтым шмат гармат *«сьпешна па непраходных сьнягах»*, урэшце стаў паблізу Горадні. Не хаваў, што войска было ў жахлівым настроі. Там атрымаў нейкі зь лістоў Чарнецкага, напісаны яму, але надалей ня меў актуальных зьвестак, дзе знаходзіцца ён і гетман, хоць і рассылаў шмат пасланцоў, якія паведамлялі пра ягонае прыбыцьцё. Толькі 6 лютага, пачуўшы, што гетман знаходзіцца ў Любліне, адправіў Кміціча, каб той адшукаў Чарнецкага і наладзіў кантакт. Аднак з гэтага нічога ня выйшла, бо, калі ён пераходзіў праз Ворлю, на яго напаў аддзел зь Берасьця і перапалохаў. Потым ён атрымаў чарговы ліст ад Чарнецкага з абрысамі пляну атакі на Хаванскага. Ён быў ужо неактуальны, а да таго ж палявы пісар зусім не арыентаваўся ў тагачасным разьмяшчэньні каралеўскіх войскаў на Падляшшы. Аднак заахвочваў гетмана сабраць войска, стаць на яго чале і разам зь ім і кароннымі войскамі ўдарыць на Хаванскага, пакуль той дасягальны для іх. Палубінскі меў таксама іншую прычыну сваёй нясьпешнасьці. Былі ёй зьвесткі пра намер Хаванскага выправіцца зь Берасьця ў кірунку прускіх межаў. Магчыма, баючыся за гэты свабодны пас зямель Вялікага Княства паміж Нёмнам і Прусіяй, які ўяўляў сапраўдную тылавую базу літоўскіх войскаў, вырашыў застацца там да высьвятленьня сытуацыі[11].

Такім чынам, Палубінскі не зьявіўся на поўдзень ад Бугу ў час, калі яго там чакаў Чарнецкі, бо толькі 13 лютага быў у Заблудаве[12], а Сапега пісаў яму 11 лютага пра тое, што рускі ваявода ўжо вырушыў у кірунку Лукава, што гетман з выразным непакоем успрыняў як пачатак адыходу каронных войскаў ва Ўкраіну[13]. Далейшы адзінокі пастой з войскам паміж Гаворлінам і Лукавам страчваў для Чарнецкага сэнс, бо таяла надзея хутка расправіцца з Хаванскім, а таму і адхіліць вялікую небясьпеку, навіслую над Рэччу Паспалітай. Здаецца, што ў найбліжэйшыя дні пасьля адпраўкі палявому пісару ліст з Асоўна, па некалькіх днях сумненьняў наконт кірунку далейшых дзеяньняў і бясплённага чаканьня літоўскіх войскаў, Чарнецкі канчаткова адмовіўся ад маршу супраць Хаванскага. Не прыйшоў Палубінскі, якога так старанна заклікалі, а сыход непрыяцеля з-пад Берасьця таксама мог асьцюдзіць запал рускага ваяводы, які палічыў гэта дастатковым апраўданьнем, насуперак каралеўскім загадам, пакінуць літоўскі напрамак і рушыць урэшце ва Ўкраіну. Не дачакаўшыся ліцьвінаў, Чарнецкі ня думаў самастойна распачынаць дзеяньняў супраць Хаванскага, які адыходзіў. Сілы адной толькі ягонай дывізіі былі несумненна занадта малыя, каб ён мог пайсьці на рызыку пагоні за ворагам у глыб занятага ім краю. Пастой у Асове працягваўся, напэўна, яшчэ пару дзён пасьля напісаньня 9 лютага ліста да Палубінскага. Адтуль ён хуткімі маршамі скіраваў свае войскі на ўсход у межы Палесься, да якога ён дайшоў каля 20 лютага. Некаторыя яго харугвы, як і ён сам, засталіся яшчэ нейкі час на Падляшшы. Храпавіцкі згадвае, што яшчэ 16 лютага ў вёсцы Тонча, у якой жыў, стаяла харугва брацянскага старасты Адама Дзялынскага, якая, вырушыўшы ў наступны дзень у напрамку Лукава, пераняла па дарозе Чарнецкага[14].

Такое доўгае знаходжаньне ў гэтых ваколіцах было выклікана няспыннай надзеяй на шчасьлівае злучэньне з Палубінскім. Аднак, калі 13 лютага Палубінскі зьявіўся ў Заблудаве, адзінкі Чарнецкага ўжо рушылі да Валыні. А задняя харугвы, як Дзялынскага, знаходзіліся ад гэтага населенага пункту на адлегласьці больш за 100 км. Таму

[11] Copia listu do Jmci Pana Hetmana...

[12] Jan Kazimierz do A.H. Połubińskiego. Gdańsk 28 II 1660. BCzart. 153. S. 407.

[13] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego. Warszawa 11 II 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/IV. S. 13.

[14] Chrapowicki. S. 226.

цалкам магчыма, што рускі ваявода ў сярэдзіне лютага надалей ня меў ніякай пэўнай інфармацыі пра ліцьвінаў. А ўбачыўшы, што ўжо зьніклі шанцы супольна дагнаць Хаванскага пад Берасьцем, ён зусім пакінуў думку пра супольныя зь імі дзеяньні супраць Масквы і рушыў хуткім маршам ва Украіну да каронных войскаў, што стаялі на Валыні. Пад канец лютага рускі ваявода апынуўся ў Ратне на Валынскім Палесьсі.

Пляны Чарнецкага вярнуцца ва Украіну зусім не былі таямніцай, тым больш, што яго настойліва клікалі адтуль вялікі каронны гетман Станіслаў «Рэвэра» Патоцкі і кіеўскі ваявода Іван Выгоўскі[15]. У другой палове лютага на каралеўскім двары ў Гданьску выдатна здавалі сабе справу, што рускі ваявода пасьля бясплённага пастою на Падляшшы ўжо маршыруе ў кірунку Украіны. Гэты факт дайшоў і да ліцьвінаў, выклікаючы сярод іх вялікі непакой[16]. Харугвы ваяводы падышлі аж пад Луцак, паколькі адтуль пазьней былі павернутыя пад Берасьце. Там, на мяжы Палесься і Валыні, Чарнецкі вырашыў даць войску крыху адпачынку. Аднак, як піша Ерліч, ледзьве пасьпелі на яго раскласьціся, як ужо пад самы канец лютага мусілі вяртацца пад Берасьце. Апавяданьне пра вельмі кароткі час знаходжаньня пацьвярджаецца ва ўжо згаданым сакавіцкім лісьце Яна Казімера да літоўскіх камісараў, у якім кароль інфармаваў іх, што рускі ваявода распачаў вяртаньне з-пад Луцку да Берасьця 25 лютага. У той жа дзень Чарнецкі паслаў каралю ліст, інфармуючы яго, што ў сувязі са зьменай загадаў ён намераны як найхутчэй зьявіцца пад Берасьцем[17]. Ерліч ня ведаў, што гэта было зьвязана з выразнымі каралеўскімі загадамі, якія атрымаў яго вайскаводца. Таму можна быць цалкам упэўненым, што больш-менш зь сярэдзіны лютага да дня атрыманьня каралеўскіх загадаў (каля 25 лютага) вяртацца ў Літву Чарнецкі ўжо ня браў пад увагу магчымасьць свайго ўдзелу ў змаганьнях на землях Вялікага Княства, але выключна ва Украіне.

Намеры Чарнецкага скіравацца ва ўкраінскім напрамку, якіх ён не хаваў, былі аж занадта добра вядомыя на каралеўскім двары. Яны выклікалі там пэўную небеспадстаўную трывогу, асабліва сярод ліцьвінаў, якія баяліся, што пры першай нагодзе ягоная дывізія зноў пакіне літоўскія землі на волю Хаванскага. Таму кароль забыўся нагадаць Чарнецкаму яшчэ ў лютым, што ён павінен застацца ў Літве, пра што пэўным чынам успамінаў сам рускі ваявода[18]. Яна Казімера, а тым больш ліцьвінаў зусім не супакойваў адыход Хаванскага з-пад Берасьця. Усе ўсьведамлялі тую вялікую небясьпеку з боку ягоных войскаў, якія, калі б атрымалі падмацаваньне, то з апораю на Берасьце маглі б, заняўшы рэшткі Літвы ў сваім тыле, безь вялікіх перашкод ударыць на Варшаву. Зрэшты, даволі выразна казаў пра гэта ў канцы лютага каралеўскім камісарам сам царскі камандзір, кажучы, што ён вядзе вайну з волі Божай і царскага ўказу і ня толькі ня можа адступіць за Нёман, але і *«паміж Бугам і Віслай гасьцяваць абяцае»*[19]. Гэта пагражала непрадказальнымі наступствамі для Рэчы Паспалітай, якая ўсё яшчэ ня скончыла вайны са Швэцый. Ва Украіне каронным войскам таксама ня надта шанцавала, але напор расейцаў і казакоў у гэты пэрыяд аслабеў. Сапраўдная небясьпека пагражала ў літоўскім напрамку, і яе ў гэты момант трэба

[15] S. Czarniecki do A.H. Połubińskiego, Garwolin 6 II 1660. BRacz. № 76. S. 67; Kopia listu J. Wyhowskiego do S. Czarnieckiego, b.m. 7 IV 1660. BJag. № 5. S. 742v—743.
[16] Komisarze do Jana Kazimierza, Sielce 23 II 1660. BCzart. 153. S. 381; M. Prażmowski do W. Lanckorońskiego, Gdańsk 21 II 1660. Тамсама. S. 365. Таксама лісты ад 28 II. S. 413; ад 2 III. S. 451.
[17] Jan Kazimierz do Komisarzy, Gdańsk b.d. III 1660. BCzart.153. S. 595; Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Gdańsk 25 III 1660. LvNB. F. 103. № 1741; Jerlicz. T. II. S. 38.
[18] Гл.: S. Czarniecki do A.H. Połubińskiego, Ratno 1 III 1660 // Jenike L. Stefan Czarniecki. Urywek historyczny. Warszawa, 1891. S. 165—166.
[19] Komisarze do A.H. Połubińskiego, Sielce 27 II 1660. BCzart. 153. S. 401—402.

было найбольш дзейсна прадухіліць. Трэба было таксама лічыцца зь літоўскай думкай, якая, застаючыся пад ашаламляльным уражаньнем маскоўскага наезду, магла ня вытрымаць чарговай праявы ігнараваньня літоўскіх патрэбаў, якой мог быць у іх вачах дазвол адысьці дывізіі Чарнецкага. Гэты аргумэнт набываў вагу, паколькі ў гэты час (што вельмі раззлавала Яна Казімера) зьявіліся праекты зьездаў вяльможаў і літоўскай шляхты з мэтай узяць лёс Літвы ў свае рукі, калі кароль ёй не цікавіцца.

Таму, калі на каралеўскім двары даведаліся, што рускі ваявода намераны пакінуць літоўскія землі, да яго неадкладна паслалі загады, каб ён застаўся там. Яны былі рашуча паўтораныя ў першыя дні сакавіка, калі на двары ў Гданьску даведаліся, што Хаванскі вярнуўся на Падляшша. Несумненна, старанныя захады, накіраваныя на затрыманьне войскаў Чарнецкага, рабіў вялікі літоўскі гетман, які, заўсёды вінавацячы двор, што ён ня дбае пра выратаваньне Літвы, не намерваўся цяпер выпускаць зь яе такія каштоўныя падмацаваньні. У лютым Сапега нават меркаваў скіравацца да караля, каб асабіста хадайнічаць перад ім, каб той больш цікавіўся справамі Вялікага Княства. Скончылася тым, што прысутны каля 10 лютага ў Варшаве Сапега ўзяў удзел у скліканай з ініцыятывы караля 22—29 лютага канвакацыі шасьці сэнатараў літоўскай шляхты, прысьвечанай праблемам абароны Літвы, бліжэйшых дэталяў якой мы ня ведаем. Затое не выклікае сумненьняў тое, што спалоханыя катастрофай у сваім Княстве сабраныя там ліцьвіны не згаджаліся ні ў якім разе на адыход кароннай дывізіі зь літоўскіх зямель. Выказваючы сваё незадавальненьне стаўленьнем караля да літоўскіх спраў, яны склікалі пад уплывам Сапегі на 5 красавіка літоўскую канвакацыю ў Заблудаве. Яна павінна была заняцца пошукам спосабаў уратаваць Літву. Гэта сустрэлася з вострым пратэстам Яна Казімера і дадаткова сапсавала і так дрэнныя ягоныя стасункі зь літоўскім гетманам[20]. Будучы ў Варшаве, Сапега меў дадатковыя падставы, каб з падвойнай энэргіяй дамагацца затрыманьня войскаў Чарнецкага ў Літве. Даведаўшыся пра тое, што Хаванскі з усімі войскамі пайшоў здабываць Наваградчыну, Сапега пачаў сур'ёзна баяцца за сваю крэпасьць у Ляхавічах, пішучы ў лісьце да палявога пісара і не памыляючыся, што непрыяцель захоча заняць яе як апошнюю фартэцыю Вялікага Княства Літоўскага. Таму настойліва прасіў яго, каб разам з рускім ваяводам *«клапаціліся аб гэтай фартэцыі з чуласьцю і хуткасьцю, зблытваючы задумы непрыяцеля»*[21].

Выправіўшы свае сілы 25 лютага з-пад Луцку, Чарнецкі сабраў іх найпазьней 1 сакавіка ў Ратне на Прыпяці. Там ён атрымаў чарговыя каралеўскія інструкцыі, якія загадвалі яму заставацца ў межах Літвы. Таму ён павінен быў вярнуцца да новых разважаньняў над плянамі далейшых дзеяньняў супраць маскоўскіх войскаў у Літве. Будучы ў гэты час вельмі далёка ад галоўных сілаў Хаванскага, ён падтрымаў сваё ранейшае рашэньне расправіцца з найбольш высунутым на захад і праз гэта вельмі небясьпечным маскоўскім гарнізонам у Берасьці. У Ратне ён адпісаў Палубінскаму, дзякуючы за адпраўленьне пасloў, якія ад імя палявога пісара запрашалі яго як мага хутчэй злучыць сілы. Магчыма, сам Палубінскі, прыбыўшы нарэшце са збунтаваным войскам у ваколіцы Берасьця і даведаўшыся пра адыход Чарнецкага, занепакоіўся магчымасьцю застацца сам-насам з авеяным жахам праціўнікам. Ва ўсякім разе, рускі ваявода, які вярнуўся ў Літву, з радасьцю сустрэў у Ратне навіну пра прыбыцьцё на Падляшша Палубінскага. Ён верыў, што нарэшце адбудзецца аб'яднаньне іх сілаў, падтрыманых таксама Сапегам, і дойдзе да пажа-

[20] P. Sapieha do A. Trzebickiego, Warszawa 20 II 1660. BOssol. 5808/III. S. 101—104; Rachuba A. Konfederacja Kmicicowska... S. 56—57; ён жа. Sapieha Paweł Jan // PSB. T. XXXV/1. S. 143.

[21] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, Warszawa 16 II 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/IV. S. 21.

данай расправы з Хаванскім. Зь ліста, пасланага палявому пісару з Ратны, здаецца, вынікае, што Чарнецкі меў намер разам з Палубінскім заняць Берасьце. З гэтай мэтай прасіў, каб палявы пісар сабраў як мага больш людзей зь сякерамі, а ён са сваёй дывізіяй хутка скіруецца ў Кобрын, што прыблізна за 40 км на паўночны ўсход ад Берасьця. Відаць, Чарнецкі не намерваўся распачынаць рэгулярнай аблогі крэпасьці. Ён разьлічваў засьпець працаўніка зьнянацку і нейкім чынам выцягнуць залогу з замку. З гэтай мэтай папярэджваў Палубінскага, каб ягоныя людзі не падыходзілі пад Берасьце, каб *«inscio пра нас hoste [каб вораг ня ведаў пра нас]»*[22].

Выконваючы складзены плян, ваявода вырушыў з войскам з Ратны на поўнач. Невядома, у які дзень ён пакінуў гэты горад. Ва ўсякім разе 5 сакавіка ён быў у аддаленым прыблізна за 30 км на поўнач Дзівіне. Там, затрымаўшыся праз перашкоды, выкліканыя вялікім разводзьдзем, нечакана зьмяніў свае пляны, цалкам адмовіўшыся ад маршу ў кірунку Кобрыну і Берасьця. Аднак не размоклыя дарогі спрычыніліся зьмене кірунку вайсковага маршу ваяводы, як гэтага хоча вядомы мэмуарыст і таварыш зь ягонай дывізіі Якуб Лось[23]. Рэч у тым, што ў Дзівіне Чарнецкі атрымаў ад літоўскіх палкоўнікаў трывожную навіну пра новы наезд Хаванскага на Падляшша. Ён адразу выправіў скіравацца на захад, на Уладаву, каб там перайсьці праз разьліты Буг і злучыцца з харугвамі Палубінскага, якія стаялі па паўднёвым баку ракі[24]. Да іхніх камандзіраў ён пісаў з Дзівіна: *«Ex zelo тады ejusdem boni publicie [тады з рупліваcьці пра грамадзкае дабро], а таксама ўбачыўшы патрэбу таго, каб я зь сіламі вашыхмосьцяў шаноўных паноў злучыў войска майго рэгімэнту, possibili [магчыма] іду да Штольна, Уладавы celeritatem [хуткасьцю], маючы сумненьне і скрупул [непакой], каб праз Буг пасьпела мне паслужыць пераправай, пра што, мае шаноўныя паны, пастарайцеся даваць знаць ягамосьці пану пісару як мага хутчэй, каб так unitis viribus [супольнымі сіламі] мы маглі adoriri [напасьці] на непрыяцеля»*[25].

Чарнецкі заканчваў свой ліст гарачай просьбай перадаваць яму ўсялякія новыя зьвесткі пра непрыяцеля, атрыманыя ад схопленых маскоўскіх палонных. Харугвы Палубінскага, якія апынуліся пад пагрозай, клікалі з Падляшша рускага ваяводу на дапамогу. За заклікамі літоўскіх палкоўнікаў стаяў сам Палубінскі, які здаваў сабе справу з таго, што ён ня быў у стане на чале сваіх стомленых і глыбока незадаволеных харугваў даць рашучы адпор маскоўскім войскам. У дадатак, з моманту прыбыцьця з Курляндыі на Падляшша нарастала ўзаемная антыпатыя паміж літоўскім гетманам і палявым пісарам, што не дазваляла апошняму супакоіць сваіх жаўнераў, блізкіх да бунту. Узаемныя абвінавачаньні да такой ступені зьнеахвоцілі Палубінскага, што ён прыняў рашэньне пакінуць вайсковую службу, якога ён зусім не хаваў[26]. Варажнеча гэтых двух літоўскіх вайскаводцаў істотна ўплывала на пагаршэньне і так цяжкага становішча літоўскіх войскаў на Падляшшы. Тым больш перашкаджала гэта пасьпяховаму супольнаму, у тым ліку з дывізіяй Чарнецкага, правядзеньню ваенных апэрацый. Трагічны стан літоўскага войска, як і не найлепшыя стасункі паміж яго камандзірамі дастаткова пераканалі ліцьвінаў, што адзіны ратунак яны могуць

[22] S. Czarniecki do A.H. Połubińskiego, Ratno 1 III 1660 // Jenike L. S. 166.

[23] Łoś. S. 89.

[24] Rachuba A. Konfederacja Kmicicowska... S. 59. Былі гэта, напэўна, харугвы С. Кміціча, М.У. Юдыцкага і Ю.П. Вяжэвіча. A.H. Połubiński do K. Paca, z Serocka 18 III 1660. AGAD. AR. Dz. II. № 1419.

[25] S. Czarniecki do pułkownika S. Kmicica i J. Maszewskiego, Dywin 5 III 1660 // Jenike L. S. 166—167; гэты ліст таксама // Listy staropolskie z epoki Wazów / Wyd. H. Malewska. Warszawa, 1959. S. 358—159.

[26] K. Pac do A.H. Połubińskiego, Gdańsk 28 II 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 11208/II. S. 209; Rachuba A. Konfederacja Kmicicowska... S. 58—59.

знайсці з боку дывізіі Чарнецкага. Таму і аднаўляліся заклікі, каб ён як мага хутчэй прыбываў на Падляшша для аказаньня супольнага супраціву Хаванскаму, які зноў зьяўляўся ў гэтых краях.

Чарговае нашэсьце Івана Хаванскага на Падляшша ў пачатку сакавіка 1660 г. не было такое працяглае і не прынесла такіх жахлівых для Рэчы Паспалітай наступстваў, як мінулае на мяжы 1659—1660 г. Аднак тым, хто яго перажыў, запомнілася такою самай жудою і зьнішчэньнямі. Паніка, выкліканая наступленьнем маскоўскіх войскаў, была тым больш моцнай, што на самой справе ніхто не чакаў такога хуткага і неспадзяванага паўторнага зьяўленьня жахлівага князя на землях, якія ён нядаўна пакінуў. Усе былі хутчэй перакананыя, што ён знаходзіцца дзесьці ў ваколіцах Слоніму і Наваградку.

Хаванскі пасьля свайго лютаўскага адыходу зь Берасьця распачаў хуткі марш у кірунку новых вызначаных ім мэтаў дзеяньня, якімі былі гарады і крэпасьці Наваградчыны. Жадаючы прымусіць іх жыхароў прыняць ягоныя залогі і прынесьці прысягу ў вернасьці і вечным падданстве цару, ён намерваўся завяршыць такім чынам заваёву Вялікага Княства Літоўскага[27]. Ад самага выйсьця зь Берасьця ягоныя жаўнеры зьнішчалі і палілі ўсё ў ваколіцы, што выразна было разьлічана на тое, каб страх паралізаваў шляхту зямель, да якіх накіроўваўся.

Адпраўляючыся ў шлях, ён разаслаў пагрозьлівыя ўнівэрсалы да шляхты, гарадоў і крэпасьцяў на Наваградчыне, у якіх заклікаў прыняць падданства цара і паклясьціся яму ў вечнай вернасьці. У адваротным выпадку абяцаў непакорным лёс Берасьця[28]. Унівэрсалы князя, якія выклікалі жах, у вялікай ступені прынесьлі чаканы вынік. Спачатку яму здалася спалоханая шляхта Слонімскага павету. Яе дэлегацыя, якая везла дэклярацыю падданства, патрапіла на добры настрой царскага вайскаводцы. Здабыла ягоную прыхільнасьць і вайсковую залогу ў горад як ахову. Затое ня мелі такога шчасьця паслы Ваўкавыскага павету, якія, адпраўляючыся з падобнай місіяй, былі забітыя маскоўскім разьездам пад Заблудавам. Хутка пасьля гэтага ў лягеры Хаванскага зьявіліся таксама прадстаўнікі наваградзкай шляхты. Паслы не прыязджалі з пустымі рукамі. Цару прыносілі акт падданства, а ягонага вайскаводцу стараліся схіліць *«подарком»* у хутка сабранай звонкай манэце. Добраахвотная здача шляхты зусім не дзівіла каралеўскіх камісараў, якія разумелі павodзіны грамадзянаў тых паветаў пасьля іх доўгага і дарэмнага чаканьня дапамогі літоўскіх войскаў[29].

Па дарозе зь Берасьця Хаванскі спыніўся ў блізкім Сяльцы, дзе стаялі каралеўскія камісары, і ў Пружанах, якія належалі гетману Сапегу. Спалоханая шляхта скінулася на «падарунак» яму ў памеры сотні чырвоных злотых, каб пакінуў у спакоі іх маёмасьць. Разьлік быў таксама на пабрацімства з жамойцкім старастам Ю. Глябовічам, у якім прызнаваўся Хаванскі, спасылаючыся на даўніх супольных продкаў. Была надзея і на тое, што з увагі на добра перамоваў і камісараў вайскаводца непрыяцеля ня будзе зьнішчаць гэтых зямель. Аднак не абышлося без рабункаў, а ў невялікай адлегласьці ад Сяльца людзі Хаванскага спалілі мноства вёсак. У той жа час пацьвердзіліся меркаваньні ліцьвінаў, што царскі камандзір накіроўваецца да Ляхавічаў, пад якімі яго павінен падтрымаць Іван Лабаноў-Растоўскі, які ішоў з-пад Старога Быхава, і аддзелы літоўскіх здраднікаў Флярыяна Слонскага і Мэнжынскага (напэўна, Яна). Небясьпеку сытуацыі пагаршалі напады з боку Палесься казацкіх ватагаў і войскі

[27] Komisarze do A.M. Sakowicza, Sielce 7 II 1660. BCzart. 153. S. 283.

[28] Komisarze do Jana Kazimierza, Sielce 5 II 1660. Тамсама. S. 238—239; S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Jasiewicze 4 II 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 12561. S. 61.

[29] Тамсама. S. 58; Komisarze do A.M. Sakowicza, Sielce 7 II 1660. BCzart. 153. S. 284.

Дзяніса Мурашкі, якія хоць і былі за Рэч Паспалітую, аднак больш рабавалі, чым абаранялі Навагрудчыну. Да таго ж у гэты пэрыяд не выпадала спадзявацца на хуткую дапамогу з боку Рэчы Паспалітай, што выклікала найбольш пэсымістычныя настроі. Камісары і Сэбасьцян Пшыбароўскі, які інфармаваў Багуслава Радзівіла, ня верылі, каб навагрудзкія фартэцыі маглі занадта доўга стрымліваць Хаванскага. Меркавалася, што ён хутка зь імі справіцца. Як было заўважана, пасланцы сабранай у вялікай колькасьці навагрудзкай шляхты ўжо вядуць перамовы з маскоўскім вайскаводцам, і хутчэй трэба было думаць, што, шукаючы ў жахлівага князя сваёй бясьпекі, яны самі будуць дапамагаць у заняцьці найперш Ляхавічаў, а потым Нясьвіжу і Слуцку[30].

Па дарозе да Слоніму да Хаванскага даходзілі зьвесткі пра набліжэньне з Жамойці Палубінскага, які захапіў каля Горадні царскіх дастойнікаў. Абураны і занепакоены князь не зьмяніў кірунку маршу. Ён разьлічваў на спакой з боку палявога пісара, маючы ў сваіх руках узятую ў няволю ягоную маці і сястру. Спрабаваў таксама прапанаваць яму абмен палоннымі, хоць яго намеры не былі да канца шчырыя. У Слоніме, калі верыць камісарам, ён апынуўся ў вялікай небясьпецы з боку разьездаў, пасланых Палубінскім, які намерваўся перасьледаваць Хаванскага[31]. Цяжка сказаць, колькі ў гэтым было праўды, колькі пабожных жаданьняў змардаваных камісараў. Магчыма, што сярод маскоўскіх войскаў у Слоніме пэўныя хваляваньні выклікаў нейкі разьезд з войскаў Палубінскага, які зайшоў аж пад самы горад. Аднак, хутчэй за ўсё, палявы пісар паслаў у гэтыя старонкі нейкі аддзел з увагі на маці, якая, як меў надзею, надалей магла заставацца ў недалёкім Дзярэчыне. Гэта не спыніла паходу царскіх войскаў да Навагрудку. Сам Палубінскі таксама не імкнуўся да вырашальнай сутычкі, паколькі меў занадта слабыя і стомленыя сілы. Ён накіроўваўся бліжэй да Падляшша, а ў гэтыя дні атрымаў ад каралеўскіх камісараў, якія непакоіліся за лёс перамоваў, лісты, дзе тыя прасілі, каб ён не абвастраў стасункаў з князем, аддаў злоўленых маскалёў і везеныя імі царскія граматы[32]. Ва ўсякім разе зьяўленьне паблізу войскаў палявога пісара было вельмі не на руку Хаванскаму. Разам зь вяртаньнем на Падляшша дывізіі Чарнецкага гэта ставарала для яго вялізную пагрозу, тым больш, што перахопленыя раней лісты рускага ваяводы выяўлялі намер хутка злучыцца з Палубінскім і супольна ўдарыць на маскоўскія войскі пад Берасьцем. Падыход непадалёк разьездаў Палубінскага мог толькі павялічыць ураженьне блізкай небясьпекі. Магчыма, тады са Слоніму, каб неяк нэўтралізаваць яе хоць з аднаго боку, ён прапанаваў літоўскаму вайскаводцу заключыць замірэньне[33]. Адначасова хуткім маршам усё далей адыходзіў ад раёну канцэнтрацыі сілаў палявога пісара і рускага ваяводы.

Скіроўваючыся ў іншым напрамку, чым ішоў Палубінскі, ён, аднак, не забываўся назіраць за перамяшчэньнямі ягоных войскаў. Як сам у хуткім часе прызнаваў, ён абавязкова хацеў даведацца, дзе яны стаяць і якімі сіламі валодае палявы пісар. На ягоны жаль, ліст, які ад яго атрымаў, не зьмяшчаў традыцыйнай інфармацыі, дзе быў напісаны. Палубінскі патрабаваў толькі аддаць узамен за ўзятых у палон царскіх дастойнікаў Абуховіча і сваю сям'ю. Хаванскі адказаў, падманваючы яго, што скіруецца ў Пскоў і папросіць аб спатканьні ў нейкім з блізкіх гарадоў, каб наладзіць перамовы наконт

[30] S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Jasiewicze 4 II 1660. S. 61—64, ліст ад 10 II 1660. S. 69—70. AGAD. AR. Dz. V. № 12561; J. Hlebowicz do B. Radziwiłła, Sielce 5 II 1660. Тамсама. № 5226. S. 133—134.

[31] Komisarze do Jana Kazimierza, Sielce 23 II 1660. Тамсама. S. 381.

[32] Respons od Panów Komisarzów do I.A. Chowańskiego, Sielce 16 II 1660. BCzart. 153. S. 337—338; Komisarze do A.H. Połubińskiego, Sielce 16 II 1660. Тамсама. S. 341.

[33] Copia Hramoty Chowańskiego pisanej do Cara Moskiewskiego, b.m.d. [IV 1660]. RGADA. F. 389. Op. 2. № 598. K. 180—180v.

замірэньня. Потым тлумачыў цару, што ня меў ніякіх намераў спыняць ваенныя дзеяньні і ўваходзіць гэтым у кампэтэнцыю царскіх паслоў. Ён хацеў толькі здабыць неабходную інфармацыю, каб звабіць Палубінскага ў пастку, разьбіць ягоных людзей, а яго самога схапіць у палон[34].

Чарговай мэтай, да якой набліжаўся Хаванскі, быў Наваградак. Тамтэйшая шляхта ня мела вялікай надзеі на якую-небудзь абарону ад яго. Таму да яго было адпраўлена пяць паслоў, якія, як раней слонімскія дэлегаты, уручылі вайсkаводцу дэкларацыю падданства[35]. Слава заваёўніка Наваградку спакушала ня толькі Хаванскага. Вельмі жадаў здабыць яе таксама пастаўлены Масквою віленскі ваявода Даніла Мышэцкі. Чуючы пра хваляваньні на гэтых землях, ён паслаў аддзел больш за 600 чалавек, каб той пераняў Наваградзкі замак. Аднак жаўнеры не былі ў сіле выканаць гэты загад з прычыны шматлікай шляхты, сабранай у гэтым горадзе, а таксама баючыся аддзелу, сабранага дасьведчаным ваякам, наваградзкім харужым Стэфанам Францкевічам-Радзімінскім. Здаецца, яны баяліся і рэакцыі Хаванскага, напэўна, ведаючы, што ён накіроўваецца да гораду. Таму на працягу пэўнага часу яны нерашуча стаялі на невялікай адлегласьці ад Наваградку. Аднак аддзел Францкевіча, які складаўся са шляхты, скліканай на паспалітае рушаньне, перад набліжэньнем маскоўскай моцы не праяўляў, як і шляхта Наваградку, вялікага жаданьня біцца. Убачыўшы гэта, яго камандзір згарнуў павятовую харугву і 9 лютага адышоў зь вялікай групай добраахвотнікаў з Наваградку, накіроўваючыся да Слуцку, дзе злучыўся з аддзеламі Самуля Аскіркі і Дзяніса Мурашкі[36]. Пра гэта адразу паінфармаваў жаўнераў Мышэцкага нейкі Захарыя з Воршы, які раней служыў Маскве, потым быў слугою Францкевіча. На другі дзень яны прыбылі ў горад. Аднак там іх сустрэў адпраўлены ад Хаванскага пасол Рыгор Чырыкаў, які забараніў людзям віленскага ваяводы ўмешвацца ў справы, якія належалі ягонаму камандзіру, і сам зь ягонай волі намерваўся прыняць клятву вернасьці ад мясцовай шляхты. Гэта не прынесла выніку, і жаўнеры зь Вільні занялі замак у Наваградку, пры нагодзе зьняважыўшы абуранага Чырыкава і ўзяўшы яго пад варту. Аднак яны не знайшлі на замку (на што разьлічвалі) ніякіх гармат, ні пораху, ні харчоў, што дазволіла б ім пратрымацца там. Будучы ў малой колькасьці і ня маючы дастатковага забесьпячэньня, яны насіліся з намерам учыніць разьню жыхароў гораду, каб прадухіліць гэтым нечаканую атаку. На шчасьце, яны пакінулі гэтыя пляны, толькі загадалі шляхце даставіць у замак шанаваных грамадзян для закладнікаў. Праз пару дзён Хаванскі прыслаў у горад чарговага баярына Івана Аляксеевіча Зялёнава, які ня здолеў прымусіць залогу замку пакінуць горад, але 14 лютага загадаў шляхце сабрацца для прынясеньня прысягі на вернасьць цару. Нягледзячы на абурэньне людзей Мышэцкага, прысяга адбылася перад прадстаўніком Хаванскага. Гэта была цяжкая хвіля для сумленьня паноў. І каб яго неяк супакоіць, некаторыя замест паўтарэньня словаў чытанага Зялёнавым тэксту прысягі адгаворвалі пацеры ці нешта баўбаталі пад носам. Горш было тым, што спазьніліся на гэты момант. Пазьней яны мусілі асабіста перад царскім афіцэрам і папом выразна яе прачытаць[37].

У наступныя дні ваколічнай шляхце было загадана сабрацца з цэлымі сем'ямі ў Наваградку, пад пагрозай суровых рэпрэсій тым, хто застанецца ў сваіх дамах. Мясцовае насельніцтва было ў той час сьведкам нават боек двух маскоўскіх камандзіраў за панаваньне над замкам, а значыць і над горадам. Перад самым прыбыцьцём Хаванскі прыслаў прызначанага ім наваградзкага ваяводу. Стаў ім Афанасій Андрэевіч

[34] Тамсама. К. 181.
[35] Maskiewicz. S. 277; Obuchowicz. S. 289.
[36] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 7 V 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 199; Vorbek-Lettow. S. 289.
[37] Maskiewicz. S. 277—281.

Тархоў. Сам Хаванскі зьявіўся ў Наваградку 18 лютага[38]. Перад горадам яго мусіла вітаць уся шляхта, духавенства і мяшчане. Вельмі прыгнятальнай мусіла для іх быць карціна ўезду пераможнага непрыяцеля ў іхні горад. Асабліва сумным было відовішча палонных, якіх везьлі за Хаванскім, сярод якіх былі як блізкія Палубінскага, так і Міхал Абуховіч, нешчасьлівы камандзір тых літоўскіх войскаў, якія яшчэ ня так даўно пераходзілі праз Наваградак, ідучы ў напрамку Падляшша[39]. Хаванскі імгненна і жорстка справіўся з камандзірам жаўнераў віленскага ваяводы, якія дагэтуль займалі замак. Адразу пачаў таксама рабаваць без усялякага сораму шляхту пад выглядам прынясеньня яму падарункаў. Аднак, на яе ціхую радасьць, паабяцаў свой хуткі ад'езд у Пскоў. Загадаў таксама, каб яму давалі знаць пра войскі польскага караля і ў выпадку іх нападу не адважваліся да іх далучацца[40].

Надзея шляхты на хуткі ад'езд Хаванскага з гораду і ваколіц была, на яе роспач, нечакана разбураная. Аднак гэта адбылося не праз Палубінскага, які (на няшчасьце, як пісаў Багуслаў Маскевіч) у апошнія дні лютага даслаў Хаванскаму ў Наваградак абразьлівы ліст з выклікам на бой. Гэта мусіла страшэнна параніць гонар пераможнага вайскаводцы, рэакцыя якога была маланкавай, і ён, *«як варам абліты»*, мусіў рушыць супраць ліцьвінаў[41]. Праўда была іншая. У Наваградак вярнуўся казак і шляхціц Войцех Шаблоўскі, якіх некалькі дзён раней Хаванскі паслаў да Палубінскага зь лістамі, а на самой справе іх мэтай было прыгледзецца да месца пастою і колькасьці ягоных войскаў. Вярнуўшыся, тыя здалі яму дакладную і аптымістычную справаздачу. Палубінскі стаяў у Мілейчыцах на Падляшшы, а людзей зь ім конных і пяхоты — каля 5 тыс. Затое яны былі беспарадкава раскладзены па розных месцах у гэтай ваколіцы, а іншыя — паблізу Берасьця. Пачуўшы гэта, вельмі хуткім маршам, не абцяжарваючыся гарматамі і пяхотай, ён вырушыў на чале адной коньніцы, якой вёў нібыта 4 тыс., у напрамку войскаў Палубінскага, якія стаялі паабапал Бугу ніжэй і вышэй ад Берасьця. Гэта павінна было забясьпечыць хуткае перамяшчэньне і нечаканае зьяўленьне на Падляшшы над каркамі літоўскіх жаўнераў, перш чым да іх дойдуць якія-небудзь папярэджаньні наконт блізкай небясьпекі[42].

З моманту зьяўленьня аддзелаў Чарнецкага і палявога пісара на Падляшшы царскі вайскаводца не забываўся сачыць за іхнімі пачынаньнямі. Яшчэ раней ён атрымаў грамату ад цара, каб ісьці супраць Палубінскага ў Курляндыю. Але паколькі той сам прыйшоў на Падляшша, то Хаванскі вырашыў вычакаць зручных абставін, каб славіць яго ў гэтых краях, забясьпечыўшы сабе і, перш за ўсё, залозе Берасьця бясьпеку, пра што пільна клапаціцца загадваў яму сам Аляксей Міхайлавіч[43]. Падабраны момант быў для гэтага надзвычай выгадны, паколькі Хаванскі выдатна арыентаваўся, што ў гэтыя дні ліцьвіны ўжо не маглі разьлічваць на дапамогу Чарнецкага, які акурат знаходзіўся на Палесьсі і паўночнай Валыні. А самі харугвы Палубінскага стаялі раскіданыя ў вялікім бязладзьдзі паабапал Бугу. Таму яны не маглі дапамагчы адна адной у выпадку нечаканага нападу. Гэта добра разумелі і каралеўскія камісары, якія знаходзіліся непадалёк і паведамлялі: *«Хаванскі, пачаўшы перамовы наконт armistitium зь ягамосьцю панам палявым пісарам ВКЛ, сам з усім войскам, опега [цяжары, багаж] з*

---

[38] Obuchowicz. S. 289.

[39] Тамсама. S. 68; Maskiewicz. S. 282—283.

[40] Тамсама. S. 284.

[41] Komisarze do Jana Kazimierza, Słonim 11 III 1660. BCzart. 153. S. 464; B. Olszewski do B. Radziwiłła, Johansberg 20 III 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 10816. S. 151; Maskiewicz. S. 286.

[42] Copia Hramoty Chowańskiego pisanej do Cara Moskiewskiego, b.m.d. (IV 1660). RGADA. F. 389. Op. 2. № 598. K. 181—181v.

[43] Тамсама. K. 183; AMG. T. III. № 52. S. 57.

*Наваградку ў Мядзел адправіўшы, хутка памчаўся да Берасьця, жадаючы яго insperate [нечакана] засьпець і зьнішчыць. Бо ён ведаў, што нашы dissipati [расьсеяныя] разрознена сталі, і пра ягамосьць рускага ваяводу, што да Украіны з войскам паварнуўся, быў папярэджаны»*[44]. Царскі вайскаводца таксама выдатна арыентаваўся ў тым, што ў літоўскіх войсках пануюць фатальныя настроі. Ліст Палубінскага толькі падштурхнуў запальчывага князя ўчыніць нечаканую атаку на ягоныя харугвы. Ён адпраўляўся супраць Палубінскага, разьлічваючы на здабыцьцё над ім поўнай перамогі, якая б рашуча абараніла ягоны тыл і заваёвы на Падляшшы і Гарадзеншчыне. Ужо раней падчас дарогі зь Берасьця ў Наваградак ён спрабаваў наладзіць з палявым пісарам перамовы наконт замірэньня. Цяпер у чарговы раз ён пачаў рабіць падобныя прапановы. Гэта дазваляла яму спадзявацца на аслабленьне чуйнасьці праціўніка[45]. Магчыма таксама, што, маючы канкрэтныя намеры наконт Наваградчыны, ён хацеў спачатку замірэньня на падляскіх землях. Таму такім вялікім быў ягоны гнеў і абурэньне, калі задзірлівы ліст Палубінскага перакрэсьліў гэтыя надзеі. Хаванскі наважыўся на атаку, якая ў выпадку ўдачы магла прынесьці яму нашмат больш карысьці, чым магчымае замірэньне з войскамі Палубінскага.

Падчас дарогі на Падляшша ён надалей ашукваў Палубінскага заявамі наконт міру і дамаўляўся зь ім на абмен палонных, які прапаноўваў палявы пісар: злоўленых пад Горадняй царскіх дастойнікаў на блізкіх Палубінскага і Міхала Абуховіча. Хаванскі меў надзею нават звабіць літоўскага вайскаводцу на месца спатканьня і падступна схапіць яго. Палявы пісар згадзіўся, і месцам зьдзяйсьненьня абмену былі прызначаны ягоныя ўладаньні, Дзярэчын. Аднак, не давяраючы Хаванскаму, ён не зьявіўся туды асабіста, як той яго заахвочваў. Разам з накіраванымі на абмен палоннымі царскімі дастойнікамі ён паслаў дзьве харугвы драгуноў на чале з капітанам Куханскім. А перад імі таварыша з каралеўскай гусарскай харугвы, Уладыслава Гедройця, які павінен быў праводзіць перамовы з Хаванскім наконт *armistitium* і абмену палоннымі. Ён павінен быў таксама даставіць лісты да маці палявога пісара. Калі дайшло да спатканьня толькі з Гедройцем, стала зразумела, што нічога ня выйшла са спробы звабіць і схапіць Палубінскага. *«Тады князь ягамосьць Хаванскі не кавалерскім спосабам»* не аддаў вязьняў, Гедройця ўзяў у няволю, парушаючы гэтым сваё слова, — скардзіліся на Хаванскага царскім паслам каралеўскія камісары[46]. Жаўнеры князя знайшлі пры Гедройцю лісты, а сярод іх і той слынны ліст Палубінскага да маці. Ён узрушыў Хаванскага, які адразу загадаў прачытаць яго перад сабранымі жаўнерамі, акцэнтуючы тыя словы, дзе палявы пісар хваліўся сваімі перавагамі над швэдамі, а наконт расейцаў абяцаў ёй, што ідуць на іх, вострачы шаблі свае. Пасьля прачытаньня Хаванскі загадаў парваць ліст, а тады яго разьюшыў Гедройць, які ўстаў і з гонарам паабяцаў, што, як у Курляндыі бавіліся са швэдамі, так і зь ягонымі войскамі рабіць будуць. Разьятраны князь ведаў, што непадалёк у мястэчку Дварэц апынуўся аддзел драгуноў з войска Палубінскага. Адразу, *«ня цярпячы такіх ганарыстых словаў»*, паслаў туды сваіх людзей, якія разьбілі іх і ўзялі ў палон усіх. А сам з рэштай войска імкліва рушыў у бок пастою астатніх харугваў Палубінскага. У Дзярэчыне натыкнуўся на драгуноў на чале з Куханскім і ведзеных ім на абмен царскіх

[44] Komisarze do K. Paca, Słonim 11 III 1660. BCzart. 153. S. 475; Komisarze do Jana Kazimierza 11 III 1660. Тамсама. S. 464.

[45] Гл.: Memoriał Jmci Panu Kniaziu Władysławowi Giedroyciowi... Milejczyce 24 II 1660. AGAD. AR. Dz. II. № 1416. S. 2; AMG. T. III. № 43. S. 48.

[46] Komisarze królewscy do komisarzy carskich, Słonim 12 III 1660. BCzart. 153. S. 485; Komisarze do I.A. Chowańskiego, Słonim 13 III 1660. Тамсама. S. 508; Kopia listu A.H. Połubińskiego do K. Paca, Serock 18 III 1660, AR. Dz. II. № 1419.

палонных Луку Грамаціна і Саву Мышэцкага. Забраў іх сілай, а драгуноў заняволіў і выслаў у Маскву[47].

Апісваючы праз пару дзён гэтыя падзеі, Хаванскі адкрыта прызнаўся, што меў надзею схапіць падчас абмену самога Палубінскага, *«але яму Бог не дазволіў»*. Ён спрабаваў пераканаць камісараў, што віна за выпадак кладзецца на Палубінскага, паколькі, прысылаючы драгуноў, ён зусім ня меў добрых намераў, бо пры іх знайшлі шмат пораху. Помсьцячы за няўдачы і *«ганарыстасьць»* Палубінскага, ён датла спаліў Дзярэчын[48], а потым вырушыў супраць войскаў палявога пісара. Гэтым разам скаргі на здрадніцкія ўчынкі царскага вайскаводцы дайшлі да Аляксея Міхайлавіча, які таксама не прымаў такіх паводзінаў. У пачатку красавіка Хаванскі атрымаў з Масквы суровы наганяй, што спачатку дамаўляцца наконт замірэньня, а потым падступна нападаць — *«гэта нягожа рабіць праваслаўным хрысьціянам»*[49].

Перш чым да гэтага дайшло, расзлаваны маскоўскі вайскаводца імчаўся з-пад Дзярэчына на чале камуніка да разьмешчаных на паўночным баку Бугу харугваў Палубінскага, якія нічога не чакалі. Па дарозе лятучыя аддзелы Хаванскага шырока спусташалі навакольныя землі, асабліва зацята слонімскія і падляскія маёнткі Сапегі[50]. Раптоўнае зьяўленьне Хаванскага ў самым пачатку сакавіка на паўночным Падляшшы засьпела зьнянацку расьсеяныя харугвы Палубінскага. Аднак Хаванскаму не ўдалося іх зьнішчыць. Ён разагнаў усяго толькі пару літоўскіх адзінак, узяў пэўную колькасьць палонных, здабыў вазы з багажамі. Сам палявы пісар быў абкружаны, калі, маючы пры сабе толькі сем харугваў, знаходзіўся ў Мілейчыцах. Асабліва яго непакоіў лёс гармат, якія маглі стаць лёгкай здабычай захопніка. Аднак ліцьвіны здолелі арганізаваць пры цудоўнай дапамозе мясцовых сялянаў[51], ужо хіба 1 сакавіка, пераправу праз Буг у Крамяні на яго паўднёвы бераг. Гэта было зроблена настолькі спраўна, што ім удалося ўратаваць нават гарматы, якія потым адвезьлі ў Венграў, дзе разам з Палубінскім яны апынуліся 3 сакавіка. Аднак было страчана крыху людзей, у тым ліку драгунскіх афіцэраў Марцыяна Аляксандра Агінскага, якія на чале падпарадкаваных яму адзінак стрымлівалі атаку маскоўскіх жаўнераў. Яшчэ ў лістападзе Агінскі хадайнічаў перад Хаванскім наконт вызваленьне гэтых афіцэраў узамен за палонных зь ягонага войска[52]. У наступны дзень у суседняе Ліва прыбыў сам вялікі гетман[53]. Аднак застаецца фактам, што Хаванскі выцясьніў за Буг літоўскія адзінкі, якія дагэтуль глыбока праніклі ў землі на поўнач ад Берасьця[54]. Відаць, нават маскоўскія аддзелы пераправіліся за Буг, даходзячы да Венграва, і там сутыкаліся з харугвамі Палубінскага[55]. Палявы пісар, паслаўшы казакоў са зьвесткамі пра наезд камандзірам раскіданых харугваў і Чарнецкаму, аддаўшы сваю артылерыю пад гетманскую апеку ў Ліва, скіраваўся левым бокам Бугу ў паўднёвым напрамку, даходзячы аж да Коданя і стараючыся хутчэй сабраць свае раскіданыя харугвы. Спачатку ён злучыўся з харугвамі, падначаленымі мальтыйскаму кавалеру Мікалаю Ўладыславу

[47] Copia Hramoty Chowańskiego pisanej do Cara Moskiewskiego b.m.d. [IV 1660]. RGADA. F. 389. Op. 2. № 598. K. 181v.
[48] Respons... z Żurowicz od Chowańskiego 7 (17) III 1660. Тамсама. № 1417; Maskiewicz. S. 286.
[49] AMG. T. III. № 43. S. 48; Copia Hramoty Chowańskiego pisanej do Cara Moskiewskiego b.m.d. [IV 1660]. RGADA. F. 389. Op. 2. № 598. K. 180v.
[50] B. Olszewski do B. Radziwiłła, Johansberg 20 III 1660. № 10816. S. 151; Komisarze do P. Sapiehy, Mir 23 III 1660. BCzart. 153. S. 565.
[51] Expensa na różne potrzeby wojskowe... AGAD. AR. Dz. II. № 1432a. S. 9.
[52] M.A. Ogiński do A. Bykowskiego, b.m. 13 XI 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 10718/I. S. 1.
[53] Chrapowicki. S. 229.
[54] Komisarze do B. Radziwiłła, Mir 23 III 1660. BCzart. 153. S. 559—560.

Юдыцкаму, а праз пару дзён — з аддзеламі Юр'я Вяжэвіча і Самуля Кміціча. З Варшавы прыбыў таксама лукаўскі стараста Станіслаў Дамашэўскі з дывізіі Чарнецкага. Ён прывёў 14 харугваў падмацаваньняў ад рускага ваяводы, які скіроўваўся ў гэтым напрамку[56]. Уцякаючы, літоўскія войскі паслалі рускаму ваяводу заклік хутчэй прыбыць з дапамогай. 5 сакавіка ў Дзівіне ён абяцаў літоўскім афіцэрам сваю неадкладную дапамогу.

Ня здолеўшы злавіць самога Палубінскага, маскоўскія войскі жудасна спустошылі падляскія землі на поўнач ад Бугу. Паўторна былі спаленыя Заблудаў, Орля, Браньск, Боцькі. Падкрэсьлівалася, што гэтым разам непрыяцель асабліва прыкладаўся, каб грунтоўна зьнішчыць усё. Тых, хто вярнуўся ў гэтыя старонкі пасьля катастрофы канца 1659 г. і здолеў своечасова ўцячы за Буг, люты вораг часьцей не забіваў, а браў у палон. Калі верыць Юр'ю Глябовічу, то гэтым разам, спусташаючы гэтыя ваколіцы, войскі Хаванскага сутыкнуліся са значна мацнейшым супрацівам, чым пару месяцаў раней. Яны страцілі пэўную колькасьць разьездаў, разьбітых харугвамі Палубінскага. З адным з маскоўскіх чатаў з посьпехам сутыкнуліся харугвы Станіслава Ліпніцкага, якія стаялі ў Тыкоціне[57]. З захаванага ў Храпавіцкага апісаньня вынікае, што маскоўскія войскі заставаліся на Бугу да 10 сакавіка. Сам Хаванскі пакінуў гэтыя землі крыху раней, хоць яшчэ 6 сакавіка знаходзіўся ў Мілейчыцах, але 10 сакавіка ўжо быў у Шарашове за 60 км на паўночны ўсход ад Берасьця, скіроўваючыся назад да Навагрудчыны. Аднаўленьне дзеяньняў на Палесьсі не было цяпер мэтай Хаванскага, перашкаджала ім таксама ранняя адліга і крыгаход на рэках[58]. Дадаткова зь лістоў, пасланых ад Палубінскага Чарнецкаму і знойдзеных пры схопленым пасланцу рускага ваяводы Матэвушу Балінскім, Хаванскі даведаўся, што той хуткім маршам сьпяшаецца на дапамогу палявому пісару[59]. Войскі, якія Хаванскі вёў на выправы, хоць і налічвалі 4 тыс. коньніцы, калі разьбегліся па здабычу і выкраданьне людзей, не былі ў стане супрацьдзейнічаць злучаным літоўскім і каронным сілам. Таму, калі стала бачна, што намер Хаванскага зьнішчыць літоўскія сілы нечаканай атакай пацярпеў няўдачу, ён імкнуўся да паразуменьня зь іх камандзірамі. 6 сакавіка адаслаў да Палубінскага Гедройця і паабяцаў, што адыдзе з Падляшша, каб толькі яму гарантавалі бясьпечнае адступленьне[60]. І сапраўды, па дарозе назад яго ніхто не чапаў. Таму ў яго было шмат часу, каб зноў грунтоўна спусташыць тыя землі, праз якія праходзіў, вяртаючыся зь няўдалай пагоні за Палубінскім. Аднак ён ня меў магчымасьці забраць з сабой усю здабычу, якая дасталася ягоным жаўнерам на Падляшшы. Праз адсутнасьць энэргічных дзеяньняў з боку ліцьвінаў яе безь перашкод завезьлі ў Гародню[61].

У лісьце з Шарашова ён пісаў камісарам, каб тыя не засмучаліся з прычыны ягонай ваеннай выправы на Палубінскага. Абяцаў, што яна не сапсуе мірнай справы камісіі, якая павінна была пачынацца. Растлумачыў таксама, што было такое абуральнае ў лісьце палявога пісара, што аж схіліла яго да выправы. Вось жа на яго прапанову спатканьня і абмену палонных Палубінскі напісаў сваёй маці: *«Ганарыс-*

[55] Jan Kazimierz do Komisarzy, Gdańsk III 1660. Тамсама. S. 595.

[56] Kopia listu A. H. Połubińskiego do K. Paca, Serock 18 III 1660. AR. dz. II. № 1419; Chrapowicki. S. 230.

[57] J. Hlebowicz do B. Radziwiłła, Słonim 11 III 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 5226. S. 141; B. Olszewski do B. Radziwiłła, Johansberg 20 III 1660. Тамсама. № 10816. S.151; F. Ror do B. Radziwiłła, z Zernin 3 III 1660. Тамсама. № 13276. S. 5.

[58] Maskiewicz. S. 286.

[59] AMG. T. III. № 43. S. 48.

[60] Chrapowicki. S. 229.

[61] Komisarze do P. Sapiehy, Mir 23 III 1660. BCzart. 153. S. 561; B. Olszewski do B. Radziwiłła, Wasilkowo 20 III 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 10816/I. S. 151.

*тыя словы — будзем у яго [Хаванскага. — Заўв. Аўт.], шаблі вострачы нашы»*. Пры гэтым маскоўскі вайскаводца выхваляўся, што калі прыйшоў у падляскі край, як яго клікаў сам Палубінскі, каб *«его храбрость посмотреть»* і пакараць ягоную *«ганарыстасьць»*, то палявы пісар *«з гэтай ганарыстасьцю сваёю сышоў з поля як непатрэбны і прынёс каралю большую шкоду прыходам сваім у Падляшша»*[62]. Хутчэй за ўсё, у Навагрудку маскоўскі камандзір не атрымаў ліста ад Палубінскага, як гэтага хацеў Маскевіч, адрасаванага непасрэдна яму і з абразьлівым зьместам. Гэта была б незразумелая неасьцярожнасьць з боку палявога пісара, які адначасова наважваўся пасланць сваіх людзей на абмен палонных. Аднак ён быў настолькі неабачлівы, што паслаў сваёй маці ліст, які мог закрануць за жывое гонар маскоўскага вайскаводцы. Уласна такі ліст і патрапіў у рукі Хаванскага падчас ягонага знаходжаньня ў Навагрудку і так моцна яго *«засмуціў»*.

Рускі ваявода, даведаўшыся пра вяртаньне Хаванскага на Падляшша і атрымаўшы драматычныя заклікі дапамагчы, пасьпешным маршам рушыў са сваёй дывізіяй у напрамку Бугу, які перайшоў каля Ўладавы ў Стульне і скіраваўся ў напрамку літоўскіх аддзелаў. Ён паслаў да Палубінскага, якога яшчэ спадзяваўся засьпець на паўночным баку Бугу, таварыша Матэвуша Балінскага зь лістом, у якім запэўніваў, што ідзе яму на дапамогу, нават дакладна апісваючы дарогу, якой хацеў да яго ісьці. Аднак гэтая навіна не дайшла да палявога пісара, паколькі Балінскі быў схоплены людзьмі Хаванскага. Аднак перш чым рускі ваявода дайшоў да літоўскіх войскаў, мінула небясьпека, і праз гэта чарговы раз ён страціў нагоду расправіцца з праціўнікам, які ўвесь час адцягваў яго ад вяртаньня ва Ўкраіну. Ягоныя жаўнеры былі цалкам зьнясіленыя бясконцымі маршамі па размоклым бездарожжы Падляшша і Палесься. Яны не былі ў стане распачаць чарговую пагоню ў забойчым тэмпе за ворагам, які ўцякаў. Акрамя таго, у выпадку сутычкі з Хаванскім Чарнецкі лічыў неабходным спачатку злучыць свае сілы зь літоўскімі войскамі. Тым часам, калі адступіла чарговая маскоўская навала, літаральна з дня ў дзень стала пагаршацца атмасфэра ў іх шэрагах з прычыны жаўнерскіх фінансавых прэтэнзій, якія не задавальваліся месяцамі і нават гадамі. У гэтай сытуацыі рускаму ваяводу не засталося нічога іншага, як выкарыстаць час вымушанай бязьдзейнасьці, каб паставіць свае войскі на адпачынак на паўднёвым Падляшшы ў ваколіцах Чамернікаў, Вагіня і Седльцаў. Гэта яму наказваў і каралеўскі ардынанс[63]. Хоць войскам Чарнецкага не было дадзена сутыкнуцца ў полі з маскоўскімі войскамі, аднак зьдзіўляла тое, наколькі вялікія надзеі ўклала ягонае прыбыцьцё ў сэрцы змардаваных ліцьвінаў, наколькі ў ім бачылі таго, хто адзіны зможа справіцца з захопнікам. Храпавіцкі, які адразу запісваў падзеі ў свой дыярыюш, занатоўваў у ім штодзённыя найважнейшыя данясеньні, якія праз пару дзён аказваліся звычайнай плёткай. Пазьней ён мусіў закрэсьліваць тыя вершы, у якіх запісаў пачутыя навіны пра вялікія перамогі, якія ўзбуджаная прыбыцьцём Чарнецкага мясцовая думка наказвала рускаму ваяводу ў гэтыя першыя дні сакавіка здабыць над Хаванскім[64].

Адступленьне Хаванскага на Навагрудчыну і наступнае яго спыненьне пад Ляхавічамі прывяло да таго, што Падляшша і заходнія краі Навагрудзкага і Берасьцейска-Літоўскага ваяводзтваў зноў апынуліся пад кантролем літоўскіх харугваў і каронных Чарнецкага. На гэтых землях толькі крэпасьць у Берасьці, укамплектаваная мас-

[62] I.A. Chowański do Komisarzy, Szereszewo 29 [10 III] II 1660. BCzart. 153. S. 416—417; Respons... z Żurowicz od Chowańskiego, 7 (17) III 1660. AGAD. AR. Dz. II. № 1417.

[63] K. Pac do NN, Gdańsk 18 III 1660. AGAD. AR. Dz. II. № 1418; J. Pasek. Pamiętnik / Wyd. W. Czapliński. Wrocław, 1968. S. 97—98.

[64] Гл.: Chrapowicki. S. 230—231, нататкі пад днём 10 і 15 сакавіка 1660 г.

коўскай залогай, магла стварыць нейкую пагрозу. Аднак пасьля адыходу сілаў Хаванскага не было чуваць, каб яна праяўляла большую актыўнасьць. Узьніклая сытуацыя дала літоўскім войскам, як аказалася, пэрыяд пары месяцаў перадышкі ад няспынных змаганьняў. Таксама харугвы дывізіі Чарнецкага маглі ўрэшце адпачыць на паўднёвым Падляшшы.

Імклівы рэйд на Падляшша ў сакавіку 1660 г. не прынёс Хаванскаму чаканых вынікаў. Нельга схаваць, што, прымаючы рашэньне наконт атакі, ён у значнай ступені кіраваўся абражаным самалюбствам. Аднак, з другога боку, беручы пад увагу выбар моманту для ўдару і спосаб яго правядзеньня, разьлічаны маланкава разьбіць ліцьвінаў зьнянацку, выразна бачна, што маскоўскі камандзір старанна абдумаў усю акцыю. На працягу апошніх дзён свайго знаходжаньня ў Берасьці, а потым падчас сваіх лютаўскіх тыдняў на Наваградчыне, ён не спускаў вока зь літоўскіх і польскіх войскаў, якія зьбіраліся на Падляшшы і Мазоўшы. Ён здаваў сабе справу, што яны ўяўлялі сур'ёзную пагрозу ягонай зьнясіленай доўгімі дзеяньнямі і голадам арміі. Не распачынаў зь імі змаганьня, калі сьвежыя сілы Палубінскага і Чарнецкага стаялі настолькі блізка, што маглі даць узаемную дапамогу. Аднак, калі ў апошнія месяцы лютага ён зарыентаваўся, што рускі ваявода адышоў ва Украіну і знаходзіцца дастаткова далёка, а літоўскія харугвы расклаліся ў беспарадку паабапал Бугу, толькі тады вырашыў распачаць маланкавую акцыю, разьлічаную на хуткае зьнішчэньне параскіданых літоўскіх войскаў. Эпізод з маці Палубінскага і лістом палявога пісара, напэўна, дадаткова раздражніў Хаванскага, але ня быў асноўнай прычынай для распачацьця рашучых дзеяньняў супраць ліцьвінаў. Аднак яму не ўдалося засьпець войскі зьнянацку. Напэўна, настолькі рана да іх дайшлі трывожныя зьвесткі пра набліжэньне ворага, што ім удалося вывесьці гарматы і значную частку людзей на левы бераг Бугу. Калі імклівае нашэсьце Хаванскага на чале адной коньніцы не прывяло да чарговага расьсеяньня літоўскіх адзінак, ягоным войскам засталося толькі спусташаць ужо і так зьнішчаныя літоўскія землі і хутка адступаць перад пагрозай польскіх і літоўскіх сілаў. Прачытаўшы захаваныя сьведчаньні, нельга не паддацца ўражаньню, што пагоня за здабычай на Падляшшы хутка стала галоўнай мэтай маскоўскіх аддзелаў. Падчас яе яны значна дэзарганізаваліся, і праз гэта не маглі распачаць змаганьня зь ліцьвінамі, а самі станавіліся дастаткова лёгкай здабычай для літоўскіх харугваў, якія дзейнічалі ўсё больш сьмела. У канчатковым выніку, напэўна, можна прызнаць, што акцыя Хаванскага прынесла больш шкоды ягоным войскам, якія замардаваліся ў няспынных далёкіх і маланкавых рэйдах свайго правадыра, а ліцьвіны, акрамя магутнай дозы страху, не панесьлі большых стратаў, своечасова і спраўна пераходзячы на паўднёвы бераг Бугу.



**Маскоўскі артылерыст.**

# VIII. Ваенныя дзеяньні ад лютага да чэрвеня 1660 году. Аблога Ляхавічаў

Пэрыяд канца зімы і вясны 1660 г. праходзіў галоўным чынам пад знакам дзеяньняў арміі Хаванскага на Наваградчыне. З моманту зьяўленьня там для жыхароў гэтых зямель пачаўся новы трагічны разьдзел у іх жыцьці, які працягваўся да канца чэрвеня. Падчас вайны з Масквою, якая працягвалася з 1654 г., яны ўжо перажылі нашэсьці расейскіх войскаў. Асабліва жахліва адбіліся ў іх памяці злачынствы аддзелаў князя Івана Трубяцкога позьнім летам 1655 г.[1]. Аднак яны хутка сышлі з гэтых зямель, пакідаючы залогу ў Наваградзкім замку. Нягледзячы на яе прысутнасьць, напэўна, улада Масквы не адчувалася так моцна ў пэрыяд яе найбольшай перавагі ў 1655—1658 г. Гэта было зьвязана з аддаленасьцю гэтых зямель ад іншых, больш сур'ёзных цэнтраў маскоўскай улады на занятых літоўскіх землях, такіх, як Смаленск ці Полацак. Таксама вялікую ролю адыгрывала тут своеасаблівая адрэзанасьць ад гэтых гарадоў і іх гарнізонаў праз землі, на якіх моцную пазыцыю мелі ўсё больш непрыхільныя да цара казакі. Таму калі дайшло да выступленьня супраць Масквы ў канцы 1658 г., то пасьля здабычы царскай залогі ў Наваградку і разгрому менскай зямлі Наваградчыны сталі практычна свабоднымі.

Важную ролю адыгрывалі на гэтых землях моцныя прыватныя фартэцыі. Гэта быў Нясьвіж, а дакладней замак, атачаны валамі і ровам. У 1660 г. ён належаў літоўскаму падчашаму Міхалу Казімеру Радзівілу. Чарговай былі Ляхавічы, уладальнікам якіх быў вялікі літоўскі гетман Павел Сапега. Самай магутнай крэпасьцю быў, несумненна, Слуцак князя Багуслава Радзівіла. Гэтая старая фартэцыя, якая была цэнтрам вялізных радзівілаўскіх уласьцяў у паўднёвай Літве, выконвала таксама вялізную ролю ў абароне гэтых зямель. Яна ўзрастала аднасова з парушэньнем лініі абароны на Дняпры і станавілася ў той час разам з сапегаўскім Старым Быхавам апошняй перашкодай ад націску з Чарнігаўшчыны маскалёў і казакоў. Напярэдадні маскоўскай навалы ў 1654 і 1655 г. Б. Радзівіл зрабіў вялізныя фартыфікацыйныя працы, пераўтвараючы Слуцак у сучасную фартэцыю. Ён паставіў там свой рэгімэнт нямецкай пяхоты. Слуцкі гарнізон дасягнуў у той час колькасьці каля 1000 дасьведчаных жаўнераў з моцнай артылерыяй. Дзякуючы стараньням князя сойм 1659 г. уключыў яго ў літоўскі кампут і прыняў на жолд Рэчы Паспалітай. Гэта было выгадна Багуславу зь фінансавага боку, але стварала шэраг складанасьцяў. Хоць князь лічыў гарнізон сваёй уласнасьцю, аднак фармальна ён стаў падпарадкоўвацца Рэчы Паспалітай, а ад яе імя — вялікаму літоўскаму гетману. Адтуль, між іншым, вынікае шмат пазьнейшых прэтэнзій Сапегі наконт пасыўных паводзінаў Радзівіла ў час маскоўскіх дзеяньняў на Наваградчыне. Гарнізон не зрабіў абсалютна ніякіх крокаў супраць аддзелаў Хаванскага. Аднак не было вядома, што князь проста забараняў камэнданту гарнізону атакаваць маскоўскія войскі, не жадаючы ўскладняць свае стасункі з Масквою, што магло б вельмі блага адбіцца на стане ягонай маёмасьці.

Наваградчына чакала жахлівага князя з усё большым страхам. Яго надыход далёка апярэджвалі навіны пра жудасныя зьверствы, учыненыя на Падляшшы. Пры нагодзе згадваўся і ўвесь маштаб злачынстваў жаўнераў Трубяцкога некалькі гадоў таму. У выніку гэтага шмат шляхты вырашыла ўцячы да таго, як іх схопяць аддзелы Хаванскага. Аднак праблема была з кірункам уцёкаў. У краі, цалкам занятым ворагам,

[1] Гл.: Weryfikacya Ludu w Xięstwie Kleckim Wyciętego y wybranego przez Moskwę A. 1656. AGAD. AR. Dz. XVI, неўпарадкаваныя паперы.

ня вельмі было куды ўцякаць. Адзінай надзеяй папросту выжыць былі крэпасьці, што знаходзіліся на недалёкай адлегласьці. Менавіта ў іх скіроўвалася ваколічная шляхта, умацоўваючы іх залогі[2]. Але з увагі на вялікую колькасьць ахвотнікаў схавацца за іх валамі, ня кожнага можна было туды ўпусьціць. Было невядома, як доўга давядзецца абараняцца ў выпадку атакі. Найбольш баяліся недахопу харчоў, таму на ўзор Слуцку вырашалі пускаць толькі тых, хто разам з сабой прывозіў правіянту на цэлы год[3].

Хаванскага віталі 18 лютага ў Наваградку з сапраўдным жахам. Ніхто ня ведаў, якія будуць ягоныя наступныя крокі. З вуснаў князя ліліся словы заахвочаньня да вернай службы цару, зьмешаныя з выразнымі пагрозамі і першымі гвалтамі. Аднак Хаванскі хутка пакінуў Наваградчыну, скіроўваючыся супраць Палубінскага. Яго ад'езд і спачатку адносна прыстойныя паводзіны пакінутых жаўнераў уклалі пэўныя надзеі ў сэрцы застрашанай шляхты. Многія з тых, хто раней схаваўся ў крэпасьцях, выехалі зь іх і ў непакоі за свае пакінутыя маёнткі прыносілі прысягу ў вернасьці цару, каб гэтак захаваць іх ад зьнішчэньня. Зьмянілася сытуацыя, калі ў сярэдзіне сакавіка вярнуўся ў найгоршым настроі Хаванскі, паколькі яму не ўдалося злавіць палявога пісара і адпомсьціць за зьнявагу. Хутка зьмяніліся паводзіны маскалёў, якія пачалі нападаць на шляхецкія двары і вёскі, рабаваць іх, катаваць і забіваць людзей. Расейцы шукалі харчоў і схаваных каштоўнасьцяў. Аказалася, што прынясеньне прысягі на вернасьць цару і браньня ахоўныя граматы ня маюць вялікага значэньня. Тады шмат тых, хто нядаўна пакінуў прыстанак у фартэцыях, захацелі вярнуцца ў іх. Гэта было цяжка зрабіць так, каб маскалі не заўважылі гэтага і з помсты ня зьнішчылі маёнткаў. На нейкі час шляхце ўдалося справіцца з гэтай праблемай, калі яна патаемна дамовілася з залогамі фартэцый, каб тыя ў адпаведны момант інсцэнавалі напад і выкраданьне таго, з кім было дамоўлена, як каралеўскага здрадніка, які раней уцёк з замку. Пакуль Хаванскі зарыентаваўся ў гэтым фартэлі, шмат шляхты вярнулася ў крэпасьці[4].

У самім Наваградку паціху разьлічвалі на выкананьне абяцаньня Хаванскага і ягоны адыход з гэтых старонак. У роспачы былі і літоўскія камісары, у пазыцыі якіх яскрава адбіваліся настроі ўсёй шляхецкай супольнасьці Літвы. Гэта былі, хіба што, самыя змрочныя моманты ў іх жыцьці. Адна параза ішла за другой. Пад канец лютага, калі яны рыхтаваліся да ад'езду зь Сяльца ў Менск, яны бачылі ўжо згубу апошніх свабодных зямель сваёй айчыны, прычыну чаго яны ўгледзелі ў каралеўскай палітыцы. Ніхто не разьлічваў на тое, што тры крэпасьці на Наваградчыне будуць у стане даўжэй супраціўляцца Хаванскаму. Яны ня вельмі верылі і ў ратунак з боку Палубінскага, а тым больш Чарнецкага, пра якога было вядома толькі тое, што ён мусіў адысьці ва Украіну. У студзені кароль загадваў, каб, атрымаўшы царскую грамату, якая заклікае на перамовы, яны як мага хутчэй на іх ехалі. Каб ратаваць Літву, яны мусілі згаджацца з *armistitium*, прапанаваным Хаванскім, але толькі на літоўскіх землях. Пры гэтым кароль рэкамэндаваў, каб за гэта гандляваліся наконт вяртаньня Горадні, Берасьця і Быхава. Самі перамовы, калі б яны і пачаліся, камісары мусілі зацягваць наколькі магчыма, захоўваючы ў той час заключанае раней у Літве *armistitium*. Усё павінна было служыць выйгрышу часу і стрыманьню зьнішчальнага паходу Хаванскага, каб можна было адносна спакойна скончыць перамовы са шведамі і падрыхтаваць войскі Вяліка-

[2] Vorbek-Lettow. S. 286; Maskiewicz. S. 275, 284; K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 23 XII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 165.

[3] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 28 III 1660. Тамсама. S. 192; Summarius Roznych mieyskich transacty y Sessy. Тамсама. Dz. XXIII. № 151. S. 154; Vorbek-Lettow. S. 287.

[4] Maskiewicz. S. 286—289.

га Княства[5]. Аднак камісары сумняваліся, ці Рэч Паспалітая знойдзе сілы стрымаць непрыяцеля, які восеньню 1659 г. запатрабаваў межаў на Бярэзіне, а цяпер настойваў правесьці іх на Бугу. А наконт надзеі, што Масква ўзамен за замірэньне ўступіць тры гарады, камісары проста тлумачылі, што яе трэба пакінуць, паколькі *«Хаванскі вельмі добра зразумеў тое, што нам больш, чым яму, патрэбнае было armistitium, на якое ён вусна дазволіў нам, толькі каб мы ў рэшце фартэцый, а менавіта: Ляхавіцкай, Нясьвіскай, Слуцкай, загадалі камэндантам sine sanguine [без праліцьця крыві] на імя царскае прынесьці прысягу»*. Яны тлумачылі каралю, што на самой справе цяпер маскалі не хочуць замірэньня; можа, яго патрабавалі, калі змагаліся са швэдамі. А цяпер, калі ўжо вядуць зь імі мірныя перамовы, ім не патрэбнае *armistitium*. Ім застаецца толькі расправіцца з рэштай Рэчы Паспалітай. Камісары таксама добра зразумелі маскоўскую тактыку. Яны паінфармавалі караля, што Хаванскі ня будзе ім занадта перашкаджаць у перамовах, а сам у той час падпарадкуе сабе да канца Наваградчыну, а потым накіруецца ў Жамойць. Наконт гэтай небясьпекі папярэдзілі таксама літоўскага гетмана і канцлера Паца[6]. Бачачы, што дзеецца, яны паволі страчвалі надзею на сэнс камісіі. У сувязі з маскоўскімі посьпехамі ў Літве і Ўкраіне і адсутнасьцю дапамогі з Кароны час, здавалася, ішоў на карысьць царскіх паслоў. Сытуацыя Рэчы Паспалітай пагаршалася ў іх на вачах кожны дзень, умацоўваючы тым самым у перамовах, якія павінны былі распачацца, стартавую пазыцыю праціўніка. Нават такі вялікі прыхільнік перамоваў, як Юры Глябовіч, пачынаў схіляцца да меркаваньня, што на перамовы з Масквой быў час яшчэ восеньню 1659 г., а цяпер *«наша камісія ні на што, а маскоўскія дэкларацыі ня маюць ніякай вагі»*[7]. Нягледзячы на гэта, да распачацьця перамоваў падштурхоўвала іх усьведамленьне ўсё большай згубы Літвы і заўсёды выразнае пераканаíньне ў неабходнасьці паразумецца з царом нават коштам значных уступак. З другога боку стаялі дзяржаўныя інтарэсы Рэчы Паспалітай і выразнае жаданьне караля, якое наказвала як мага даўжэй зацягваць перамовы, ставячы нерэальныя патрабаваньні, і забараняла якія-небудзь уступкі.

Канец лютага і асабліва пачатак сакавіка быў для іх вельмі прыгнятальным. Вяртаючыся з выправы супраць Палубінскага, Хаванскі хваліўся перад імі, што разьбіў і прагнаў праціўніка. Паколькі яны ня ведалі, як сапраўды адбываліся падзеі на Падляшшы, то ім магло здавацца, што вось згінуў апошні шанец на ратунак. Тым больш, што раней яны даведаліся пра тое, што Чарнецкі пакінуў іх айчыну і адышоў ва Ўкраіну. Адначасова яны штораз даведваліся пра далейшы гвалт князя і ягоных жаўнераў. Неаднаразова дакаралі яго ў гэтым, а таксама ў варожых учынках у непасрэднай блізкасьці ад іх камісарскіх асобаў. У апошні час іх уразіла справа заняволеньня маці Палубінскага, а потым і спробы звабіць на месца перамоваў і заняволіць яго самога. Па праўдзе, з гэтага нічога ня выйшла, але ўчынены гвалт над паслом і людзьмі палявога пісара прывёў да таго, што камісары пасьля жорсткай слоўнай сваркі з Хаванскім паслалі ліст са скаргай да самога цара і чарговых ягоных вялікіх паслоў, інфармуючы, што яны ня ў стане скіравацца на месца перамоваў з прычыны гвалтаў іхняга вайскаводцы, якія ён чыніць над імі, і парушэньня тым самым прынцыпаў бясьпекі перамоўцаў, вызначаных яшчэ восеньню папярэдняга году пасламі караля і цара. Пасьля дасягненьня такіх вялікіх посьпехаў цару і ягоным камісарам было важна хутка распачаць і выгадна для сябе скончыць камісіі. Рэч была ў тым, каб зрабіць гэта яшчэ да заканчэньня польска-швэдзкіх перамоваў, пра якія ўсё больш выразна даносілі на царскі двор. З гэтай прычыны Хаванскі ў пачатку сакавіка атрымаў жорсткі наганяй

[5] Jan Kazimierz do Komisarzy, Gdańsk 28 I 1660. BCzart. 153. S. 126.
[6] Komisarze do Jana Kazimierza, Sielce 23 II 1660. Тамсама. S. 379—386.
[7] J. Hlebowicz do B. Radziwiłła, Sielce 5 II 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 5226. S. 134.

ад цара, які забараняў яму якім-небудзь спосабам непакоіць каралеўскіх камісараў. Ён мусіў гарантаваць ім бяспеку, а ягоныя людзі не павінны былі нават набліжацца да шляху, якім камісары паедуць на месца перамоваў. Забараніў яму ўсялякія спробы ўмешвацца ў справы камісіі і паслоў. Атрымаўшы вымову, князь абараняўся, што ўсе закіды з боку камісараў — гэта звычайны паклёп. Пераконваў цара, што патрэбна не камісіяў і міру, а толькі выйграць час, каб прывесці з Польшчы войскі. Спасылаўся на перахопленыя лісты, у якіх кароль загадваў камісарам зацягваць камісію, даючы яму тым самым час сабраць сілы. Асабліва закранула Хаванскага, што нават ягоныя апошнія дзеянні супраць ліцьвінаў камісарам удалося паказаць як гвалтоўныя акты над імі, якія перашкаджаюць распачаццю камісіі. Таму асьцерагаў цара ад хітрасці камісараў словамі: *«А дзе тваe ваенныя людзі над імі промысел учыняць, там яны абяртаюць гэта ў ашуканства і парушэньне добра пачатай справы»*. Даваў прыклад камісара Паўла Сапегі, які зусім ня думае ні пра якую камісію, а толькі зьбірае войскі, каб зь імі рушыць супраць людзей Аляксея Міхайлавіча. Усё гэта павінна было сьведчыць пра несумленную гульню караля і яго камісараў[8]. Несумненна, Хаванскі меў рацыю ў разуменьні матываў паводзін праціўніка. Зь цягам часу ён толькі яшчэ больш пераконваўся ў сваёй думцы і заўважаў усю небясьпеку, якая вынікала з памнажэньня цяжкасьцяў і адцягваньня распачацьця перамоваў каралеўскімі камісарамі. З гэтай прычыны, стоячы пад Ляхавічамі, ён стараўся заблякаваць ім дарогу на месца перамоваў і, будучы ўсё больш раззлаваным іх пазыцыяй, з часам пачаў пагрозамі падганяць да згоды на ўмовы, пастаўленыя царскімі пасламі, і распачаць урэшце перамовы.

На скаргі камісараў хутчэй адрэагавалі паслы Аляксея Міхайлавіча, якія былі бліжэй. Атрымаўшы ад іх са Смаленску заклік распачаць перамовы, яны вырушылі ў пачатку сакавіка ў Менск. Ведаючы, што перамовы могуць пачацца ў вельмі хуткім часе, яны паслалі лісты на каралеўскі двор з просьбай самай дакладнай інфармацыі пра посьпехі Рэчы Паспалітай як на перамовах са швэдамі, так і ў змаганьнях ва Украіне, *«бо зь іх будзем чэрпаць меру перамоваў нашых»*. Пісалі таксама Палубінскаму, каб ён не раздражняў Хаванскага, але таксама папярэджвалі, каб не давяраў ягоным мірным заявам, паколькі ён мае патайны наказ ад цара, які загадвае яму весьці варожыя дзеяньні на літоўскіх землях.

У Слоніме яны атрымалі сьпіс патрабаваньняў ад маскоўскіх камісараў, ад выкананьня якіх залежала распачацьце перамоваў. На іх зьдзіўленьне, там апынулася катэгарычная ўмова, каб на камісіі прысутнічалі казацкія паслы і бралі ў ёй поўны ўдзел. Дадаткова патрабавалася згода караля на той пункт, таму да яго быў адпраўлены асобны пасланец з гэтым заданьнем. Маскалі агаварылі, што бяз гэтага ня згодзяцца ні на якія перамовы. Зьдзіўленьне камісараў межавала з абурэньнем. Яны здагадаліся, што цар праз гэта хоча схіліць да сябе запароскае войска і ўсіх казакоў, да якіх яшчэ нядаўна ставіўся з пагардай, а цяпер *«як бы гэта яны [казакі. — Заўв. Аўт.] былі іхнія або нашыя суседзі, там высока іх цаніць пачалі, хоць на самай першай камісіі пад Вільняй не дазвалялі ім нават паміж сваімі дваранамі assistere [прысутнічаць], а ня тое, каб удавацца ў справу»*[9]. Прасілі ў караля інструкцыі ў гэтай нечаканай справе. Мелі таксама надзеі, што блізкія посьпехі ва Украіне каронных і татарскіх войскаў асьцюдзяць запал казакоў да аб'яднаньня з Масквою. Зьдзіўленыя камісары ня ведалі, што цар даў нядаўна гарантыю занепакоеным казакам, што будзе чакаць ад польскага караля межаў, у якіх яны бачылі сваё Рускае Княства аж да Бугу. На

[8] Copia Hramoty Chowańskiego pisaney do Cara Moskiewskiego b.m.d. [IV 1660]. RGADA. F. 389. Op. 2. № 598. K. 182v—183.

[9] Komisarze do M. Prażmowskiego, Słonim 11 III 1660. BCzart. 153. S. 479; Komisarze do P. Sapiehy, Słonim 12 III 1660. Тамсама. S. 495.

Літве ж мяжа павінна была праходзіць ад Дзьвінску лініяй Дзьвіны па Бярэзіне, дасягаючы Сьвіслачы, а адтуль пераходзіла б на раку Пціч, а па ёй да Прыпяці і далей да Дняпра. Цару павінны былі належаць таксама Берасьце-Літоўскае і Камянец-Падольскі, наконт якіх (як меркаваў) палякі найбольш будуць спрачацца[10]. Цяжка сказаць, ці Аляксей Міхайлавіч, захоплены посьпехамі сваіх войскаў, маляваў перад вачыма казакоў такія надзвычай шырокія межы толькі для таго, каб яшчэ больш наблізіць іх да сябе, ці таксама на самой справе лічыў, што пераможаная Рэч Паспалітая будзе схільная іх прыняць. Падобныя тэрытарыяльныя патрабаваньні, але ў іншым кантэксьце і ня так шырока, царскія дыпламаты ставілі ўжо ў Немежы ў 1656 г. Калі яны сутыкнуліся з польскімі надзеямі вярнуцца да стану, вызначанага ў Палянаве пасьля польскай перамогі ў Смаленскай вайне, станавілася зразумелым, што няма шанцаў на нейкае пагадненьне. Усё павінна была вырашыць вайна.

Расейцы адразу ставілі такія завышаныя ўмовы, ведаючы, наколькі важна ліцьвінам дасягнуць замірэньня. Маўкліва адмаўляліся ад патрабаваньня выбраць цара, пра што на каралеўскім двары даведаліся ад сына Афанасія Ардзін-Нашчокіна, які ўцёк у Польшчу. Затое стараліся выкраіць для Расеі як мага большы кавалак Рэчы Паспалітай[11]. Пры гэтым яны пачалі пасьпешна прымушаць да згоды царскіх камісараў, а Хаванскі грозна наказаў, каб усе перамовы закончыліся за тры сэсіі[12]. Якраз тады да расейцаў дайшлі навіны пра тое, што ў фінальную стадыю ўвайшлі польска-швэдзкія перамовы, якія маглі ў кожны момант скончыцца заключэньнем міру. Каб разьведаць, наколькі прасунуліся гэтыя перамовы, яны адпраўлялі на каралеўскі двор сваіх паслоў, сапраўднай мэтай якіх было выведваньне польска-швэдзкіх кантактаў[13]. Спрабуючы знайсьці для сваёй айчыны ратунак ад пагібелі, літоўскія камісары ўсё ж не маглі згадзіцца зь неверагоднымі царскімі патрабаваньнямі. Ім заставалася ісьці шляхам, які раней ім указаў Ян Казімер. Трэба было ашукваць праціўніка, адсылаць ягоныя патрабаваньні на разгляд каралю і ставіць свае немагчымыя для выкананьня патрабаваньні. Першым з такіх было вызваленьне гетмана В. Гасеўскага як прызначанага калісьці соймам камісара. Гэта спрычынялася да зацягваньня перамоваў і чаканьня надыходу абяцанага столькі разоў каралём ратунку[14].

У Менску камісары спыніліся 5 красавіка. Па дарозе яны бачылі край, датла зруйнаваны доўгай вайной, бадзяжнымі групамі маскоўскіх жаўнераў і *«літоўскіх прадаўчыкаў»*, якія чапляліся пры баку войскаў Хаванскага ці ўласнаручна рабавалі землякоў. Ніхто ня ведаў ні дня, ні гадзіны, а ад панаваньня тэрору не ахоўвалі ніякія прысягі ці ахоўныя граматы Хаванскага. Значная частка шляхты, што засталася на гэтых землях, бачыла адзіны ратунак у надыходзе з войскам самога караля і прагнавані непрыяцеля. Яна абяцала камісарам, што тады адразу б стала пры ім на барацьбу з маскалямі[15].

У Менску камісары яшчэ раз запратэставалі супраць далучэньня казацкіх паслоў да нарадаў, паколькі яны ўжо на сойме пакляліся ў вернасьці каралю, а Рэч Паспалітая прабачыла ім правіны. Расейцы абсалютна не намерваліся ўступаць. Яны ведалі, што згода на ўдзел казакоў як паўнапраўнага боку ў перамовах, што займае месца каля прадстаўнікоў цара, будзе азначаць уступную згоду Рэчы Паспалітай на яе адмову ад

[10] AJZR. T. V. S. 15.
[11] Jan Kazimierz do Komisarzy, Gdańsk 21 II 1660. BCzart. 153. S. 370.
[12] Komisarze do B. Radziwiłła, Mir 23 III 1660. Тамсама. S. 556.
[13] Jan Kazimierz do Komisarzy, Gdańsk III 1660. Тамсама. S. 595.
[14] Komisarze Królewscy do Komisarzy Carskich, Mir 22 III 1660. Тамсама. S. 534.
[15] Тамсама. S. 531—532; Komisarze do B. Radziwiłła, Mir 23 III 1660. Тамсама. S. 556; J. Hlebowicz do S. Przyborowskiego, Zasław 10 IV 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 5226. S. 146—147.

вяршынства яе над казакамі, а таму і ад панаваньня над Украінай. Камісары добра здавалі сабе з гэтага справу і таксама не намерваліся адступаць ні на крок. Затое зь Менску яны прыглядаліся, як маскоўскія камісары какетнічалі і абсыпалі ласкамі прыбылых ужо ў Барысаў казацкіх паслоў, якім у гэтым горадзе аддалі ў распараджэньне цэлую адну вуліцу. Яны наракалі, што ім нават пры закупе харчоў стваралі вялізныя цяжкасьці, завышаючы цэны. Спрэчка вакол казакоў хутка высунулася на першы плян уступных кантактаў паміж каралеўскімі і царскімі камісарамі. У сярэдзіне красавіка гэтая праблема перайшла на глебу пытаньня прысягі, якую абодва бакі мусілі рабіць перад распачацьцем перамоваў, гарантуючы ў ёй, між іншым, узаемную бясьпеку. У яе тэкст маскоўскія камісары спрытна ўплялі запісы пра царскія тытулы, якія ўказалі на цара як уладара Ўкраіны і Беларусі. Каралеўскія камісары адразу заявілі пратэст, не намерваючыся прысягаць на такі тэкст[16]. Адказ расейцаў быў хуткі і цьвёрды. Казакі будуць удзельнічаць у нарадах пры паўнамоцных маскоўскіх пaслах як падданыя цара незалежна ад таго, хочуць гэтага палякі ці не. Яны не прынялі таксама тлумачэньняў, што тыя прысягнулі каралю. Аргумэнтавалі, што пазьней у Пераяславе прысягнулі цару разам са сваім гетманам Юр'ем Хмяльніцкім, якога самі сабе выбралі. На іх просьбу цар прыняў іх у сваё падданства. Казацкія прысягі Рэчы Паспалітай, на якія спасылаліся палякі, былі для расейцаў і казакоў, што стаялі пры іх, несапраўднымі, паколькі, як тлумачылі яны літоўскім камісарам, былі напісаныя *«вором и изменником, преступником Ивашкой Выговским»*[17].

У першай палове красавіка нарэшце прыбыў да ліцьвінаў чарговы прызначаны соймам камісар, берасьцейска-куяўскі ваявода Геранім Вяжбоўскі. Ён прывёз дэталёвыя каралеўскія інструкцыі. У той час таксама прыйшлі чарговыя лісты з двара. Яны падбадзёрылі прыгнечаных камісараў, дазваляючы з пэўнай надзеяй глядзець у будучыню. З каралеўскага ліста, напісанага ў Гданьску 21 лютага, яны даведаліся, што мір паміж Масквой і Швэцыяй не заключаны, але намаганьні царскіх дыпляматаў у гэтым напрамку працягваюцца. З гэтай прычыны каралю вельмі важна, каб цяперашнім супольным высілкам пры заканчэньні перамоваў са шведамі апярэдзіць царскіх дыпляматаў у заключэньні міру[18]. У чарговым лісьце ён асьцерагаў ад згоды з *armistitium* на ўмовах Хаванскага, зь якімі, відаць, згадзілася літоўская шляхта. За замірэньне расейцы патрабавалі аддаць ім Ляхавічы, Нясьвіж і Слуцак. Ян Казімер рашуча забараніў дамаўляцца наконт гэтага, паколькі гэта было б сорамам і згубай для Вялікага Княства. Тады Маскве не былі б патрэбныя і перамовы, бо яна атрымала б тое, наконт чаго намервалася гандляваць, а прамаруджаньне з гэтым дало б Рэчы Паспалітай шанцы расправіцца зь ёй, давёўшы да канца мір са Швэцыяй[19]. У сярэдзіне красавіка яны таксама атрымалі ліст ад літоўскага канцлера Крыштапа Паца і далучаны да яго зашыфраваны ліст ад літоўскіх сэнатараў, які зболышага меў характар інструкцыі для камісараў[20]. Гэтыя два дакумэнты зьмяшчалі шмат каштоўнай інфармацыі і ўказаньняў. Канцлер адкрыта пісаў, што на камісіі гаворка ідзе галоўным чынам пра тое, каб *«затрымаць імпэт Хаванскага»*, пра што камісары добра ведаюць і з чым дагэтуль добра спраўляліся. Ён, як і літоўскія сэнатары, горача прасіў іх, каб вы стаялі, бо сытуацыя дрэнная. Масква імкнецца апярэдзіць Рэч Паспалітую ў заключэньні міру са Швэцыяй і робіць ёй вялізныя ўступкі, *«каб хут-*

[16] Pismo obrazowoje... b.m. IV 1660. BCzart. 153. S. 651—655.

[17] Reskrypt na punkta Jchmciów Panów Kommissarzów JKMci i Rzeczypospolitej od Panów Kommissarzów moskiewskich z Borysowa, Borysów IV 1660. Тамсама. S. 661—663.

[18] Jan Kazimierz do Komisarzy, Gdańsk 21 II 1660. Тамсама. S. 370.

[19] Jan Kazimierz do Komisarzy, Gdańsk III 1660. Тамсама. S. 592—595.

[20] K. Pac do Komisarzy, Gdańsk 22 III 1660. Тамсама. S. 536—537; List szyfrowany od senatorów WXLit. do komisarzy, Gdańsk 22 III 1660. Тамсама. S. 543—546.

*ка мір заканчвалі і лігу зь імі на нас заключалі»*. Таму прасіў, каб, разумеючы ўсю небясьпеку, стараліся стрымаць напор Масквы перамовамі, пакуль на каралеўскім двары не закончаць мірных перамоваў са швэдамі. Абяцаў, што, як толькі мір будзе заключаны, *«адразу таксама войскі вялікага кароннага маршалка [Юр'я Любамірскага. — Заўв. Аўт.], якія знаходзяцца ў Прусіі і якіх болей за дванаццаць тысяч, а таксама курляндзкія ВКЛ, а можа, і швэдзкія зараз супраць Масквы павернем»*. Аднак пакуль што камісарам проста загадвалася зацягваць перамовы, што дазволіла б прывесьці да міру са Швэцыяй. Таму іх настойліва прасілі і патрабавалі *«перамовы працягваць і найменшага выгляду, што мы зь імі міру ня хочам, па сабе не паказваць. Калі б сказалі, што мы са швэдамі ўклалі, ужо зь імі заканчваць ня будзем, адказаць, што і са швэдамі, і зь імі хочам міру»*. Калі ж настане мір са Швэцыяй, яны павінны былі супакойваць пратэсты паслоў Аляксея Міхайлавіча, што ён яшчэ не ратыфікаваны соймам. Напэўна, у той момант для камісараў найважнейшай была тая навіна, якую літоўскія сэнатары запісалі ў канцы свайго ліста. Інфармавалі камісараў, што прыбыў на каралеўскі двор царскі ганец, патрабуючы месца і голасу на камісіі для казацкіх паслоў. Таму ім перадалі, каб ні за што не адважваліся згаджацца з гэтым, паколькі казакі раней падчас сойму прысягнулі на вернасьць каралю і Рэчы Паспалітай[21]. Чарговыя каралеўскія інструкцыі, якія прыйдуць у наступныя тыдні, будуць падтрымліваць у казацкай справе пазыцыю, занятую ў момант, калі паўстала гэта праблема.

Спрэчка вакол казацкага пытаньня паміж бакамі перамоваў будзе разьвівацца ў новай сытуацыі, выкліканай тым, што Іван Хаванскі распачаў новыя ваенныя дзеяньні. Вярнуўшыся зь няўдалай выправы супраць Палубінскага на Падляшша, Хаванскі зноў прыбыў у ваколіцы Наваградку. Адтуль хутка перасунуў лягер сваіх войскаў да Жыровічаў пад Слонімам[22]. Ён падрыхтаваўся да завяршэньня плянаў поўнай заваёвы Наваградчыны. Намерваўся зьдзейсьніць іх яшчэ раней, але аддаліў гэта паход на Палубінскага. Канчатковае аваloданьне гэтымі землямі было магчымае пасьля заняцьця апошніх пунктаў супраціву, якія знаходзіліся ў літоўскіх руках. Гэта былі тры крэпасьці: Ляхавічы, Нясьвіж і Слуцак. У сярэдзіне сакавіка Хаванскі адправіў да іх пасланьні з патрабаваньнем здацца цару. Гэта не дало ніякіх вынікаў. Таму было загадана ехаць з такой місіяй прадстаўнікам наваградзкай шляхты, якая нібыта ад свайго імя павінна была ўгаворваць камандзіраў фартэцый адмовіцца ад супраціву. Пра такое пасольства ў Слуцак пісаў камісар князя Багуслава, Казімер Клакоцкі: *«Цяпер, пасьля заняцьця Масквою Наваградку, тая шляхта, якая паддалася Маскве, дэпутавала са свайго ліку паслоў і паслала ва ўсе тры фартэцыі — Ляхавіцкую, Нясьвіскую і нашу — з граматамі ад ваяводы. У Ляхавічах і Нясьвіжы былі пры паляках і маскаль. Але іх, не пусьціўшы ў фартэцыі, выправілі. А да нас не прыехаў маскаль, толькі два шляхцічы, якіх, не пускаючы ў горад, мы зь вёскі выправілі з тым, што, калі б маскаль мусіў пасылаць да нас такое пасольства, знайшоў бы зь ім і маскаля; але ад вас, шляхты, ня толькі гэтай выдуманай граматы бачыць ня хочам, але, наадварот, тое заяўляем, што, калі другі раз возьмецеся за такую паслугу, заплаціце за яе калом»*[23]. Атрымаўшы такія адказы, Хаванскі вырашыў заняць па чарзе тры фартэцыі сілай. Рыхтуючыся да атакі на іх, Хаванскі атрымаў 19 сакавіка царскую грамату, прывезеную князем Канстанцінам Шчарбатавым. Вытрыманая ў пахвальным і зычлівым да вайскаводцы тоне, яна заахвоціла яго да актывізацыі намаганьняў, скіраваных на скарэньне рэштак Літвы пад уладу Аляксея Міхайлавіча[24]. У першую чаргу Хаванскі вырашыў расправіцца з сапегаўскімі Ляха-

[21] Гл.: Senatus Consultum, Gdańsk 28 III 1660. BCzart. 401. S. 131—132.

[22] Komisarze do P. Sapiehy, Mir 23 III 1660. BCzart. 153. S. 562.

[23] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 16 III 1660. AGAD. AR. Dz.V. № 6865/I. S. 186.

[24] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 28 III 1660. Тамсама. S. 191; AMG. T. III. № 52. S. 56.

вічамі. Такі выбар, магчыма, быў зроблены і таму, што Сапега як літоўскі гетман быў вайскаводцам сілаў, зь якімі змагаўся Хаванскі, а дзьве астатнія крэпасьці належалі Радзівілам, якія змаглі дамагчыся ад маскоўскіх камандзіраў пэўных гарантый бясьпекі сваіх уладаньняў.

Пад Ляхавічы Хаванскі пайшоў са сваімі войскамі 23 сакавіка 1660 году[25]. Ён ня кінуўся адразу на штурм, здаючы сабе справу зь цяжкасьцяў здабыцьця крэпасьці з маршу. Ад пасьпешных крокаў яго адпалохваў факт значнай абароназдольнасьці фартыфікацыі. Гэта былі бастыёнавыя ўмацаваньні, забясьпечаныя моцнай артылерыяй. Паводле інвэнтара ад 26 лютага 1658 г., складзенага Самулем Нямцэвічам і Аляксандрам Масевічам, калі камандаваньне ў ёй ажыцьцяўляў рэчыцкі войскі Станіслаў Міхал Юдыцкі, на замкавых валах было 30 гармат рознага калібру: ад 1 да 24 фунтаў, няшмат было ручной агнястрэльнай зброі. Усё гэта патрабавала рамонту, паколькі знаходзілася ў дрэнным стане. Крэпасьць мела таксама вялікія запасы пораху і рознага роду амуніцыі. Маючы на ўвазе пазьнейшую доўгую абарону фартэцыі, трэба меркаваць, што Юдыцкі старанна паклапаціўся аб паляпшэньні стану яе забесьпячэньня зброяй і амуніцыяй[26]. Аднак, акрамя залогі, фартэцыя была перапоўненая вялізнай, як на свае магчымасьці, колькасьцю ахвочых да абароны. Збольшага гэта была ваколічная шляхта, якая знайшла прытулак у мурах Ляхавічаў, баючыся тэрору маскоўскіх войскаў. Ёй не займаць было ахвоты змагацца, аднак горш складалася справа вайсковай падрыхтоўкі да такой спэцыфічнай формы бою, як абарона валоў фартэцыі.

Першыя дні Хаванскі стаяў у табары і чакаў збору пад Ляхавічамі ўсіх сваіх войскаў, ня робячы рашучых дзеяньняў[27]. Ён, напэўна, меў надзею на добраахвотную капітуляцыю крэпасьці, што дазволіла б яму пазьбегнуць стратаў. Гэта надзея вельмі падвяла яго, і, што горш, ня толькі абаронцы Ляхавічаў, але і разьмешчанага далей Слуцку пачалі заўважаць істотныя слабыя месцы арміі князя, што сеяў жах. Аказалася, што яна была не такая шматлікая, а да таго ж вельмі стомленая. Таму Хаванскі ня мог дазволіць сабе доўга бязьдзейна стаяць пад валамі Ляхавічаў, што магло б толькі больш пераканаць шляхту ў справядлівасьці яе назіраньняў. 30 сакавіка ён адправіў пасольства да залогі асаджанай крэпасьці з патрабаваньнем здацца яму. Не выходзячы з валоў, яму адказалі адмоўна і папярэдзілі, каб другі раз не прысылаў з такімі патрабаваньнямі. Нягледзячы на гэта, 2 красавіка ён яшчэ раз зрабіў прапанову капітуляваць. Аднак абаронцы заставаліся нязломнымі. Заахвочваў іх да супраціву царскі маёр Даніла Ульф, які раней здаў ліцьвінам Навагрудак і перайшоў на іхні бок[28]. Убачыўшы безвыніковасьць сваіх намаганьняў, Хаванскі пачаў рыхтавацца да штурму. Маскалі спрабавалі выкарыстаць тактыку нечаканасьці, якая прынесла ім посьпех пад Берасьцем-Літоўскім. Позьнім вечарам 5 красавіка, калі шмат стомленых чуваньнем абаронцаў больш думала пра сон, чым пра назіраньне за рухамі ворага, Хаванскаму ўдалося незаўважальна прасунуць значныя сілы вельмі блізка да валоў. Там яны хіба што залеглі ў поўнай цішы. Толькі перад самым золкам на дадзены сыгнал маскоўскія войскі кіну-

[25] B. Maskiewicz. S. 291; K. Клакоцкі, які назіраў за гэтымі падзеямі з блізкага Слуцку, пісаў пра 24 III, гл.: K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 28 III 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 192. Там таксама шыфраваная заўвага ад 5 IV 1660 г.

[26] Inwentarz obronnego Zamku w Lachowiczach sporządzony 26 lutego 1658 roku // Zbiór dyplomatów rządowych i aktów prywatnych posługujących do rozjaśnienia dziejów Litwy i złączonych z nią krajów (od 1387 do 1710 r.) / Pod red. M. Krupowicza. Wilno, 1858. Cz. I. № XLVI. S. 116—118; Ткачев М.А. Замки и люди. С. 98.

[27] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 28 III 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 192, гл.: шыфраваная заўвага ад 5 IV 1660 г.

[28] AMG. T. III. № 58. S. 64.

ліся адтуль з гучным крыкам *«царев, царев город»* і вялікім запалам на штурм. Менавіта гэты крык уратаваў засьпетых цалкам зьнянацку абаронцаў, якія ў гэту пару зусім не чакалі атакі. Многія, усхапіўшыся ад сну, без арганізаванага камандаваньня і парадку кінуліся на валы. Нягледзячы на ўзмацненьне з кожнай хвіляй агню абаронцаў, царскія жаўнеры імкліва забіраліся на самыя валы. Сярод тых, хто штурмаваў, было шмат простага люду і літоўскай шляхты, якая стаяла пры Маскве; у гэтым і ў наступным штурмах яны, відаць, пацярпелі значныя страты. У многіх месцах ім удалося ўскараскацца на валы, але пасьля зацятага бою літоўскія абаронцы сьпіхнулі іх адтуль. Гэта азначала крах штурму. Хутчэй за ўсё, запальчывы маскоўскі вайскаводца не сьпыніўся на адной атацы, і адразу пасьля яе адбылася яшчэ адна або дзьве, такія ж няўдалыя, як і першая. Параза была адчувальная, а для таго, каб яна стала яшчэ больш відавочнай, жаўнеры Юдыцкага адразу ж павесілі на валах сямнаццаць узятых у палон людзей Хаванскага. Гэта вельмі балюча ўдарыла яго, і ён нібыта паабяцаў, што не адступіцца ад аблогі, пакуль не здабудзе фартэцыі, нават калі яму давядзецца страціць усіх сваіх людзей і пакласьці ўласную галаву[29]. У рапарце да цара Хаванскі называў колькасьць 30 забітых і 150 параненых, хоць, напэўна, страты царскіх войскаў былі значна вышэйшыя[30].

Адбіцьцё штурму было вялікім посьпехам абаронцаў. Гэта заахвоціла іх да наладжаньня ў наступныя тыдні вылазак на маскоўскія пазыцыі, падчас якіх яны нанесьлі шматлікія страты царскім жаўнерам. Навіна пра паразу Хаванскага маланкава разьлящелася па ўсёй бліжэйшай і далейшай ваколіцы. Дзеля падмацаваньня прыгнечаных апошнімі паразамі ліцьвінаў памнажалі колькасьць забітых у штурме маскалёў. І ўжо Сэбасьцян Пшыбароўскі паведамляў князю Багуславу пра больш за тысячу непрыяцеляў, палеглых на валах Ляхавічаў, у той час як з блізкага да штурмаванай крэпасьці Слуцку пісалі пра некалькі соцень страчаных жаўнераў і пару больш значных афіцэраў[31].

Аднак сярод абаронцаў былі і такія, што сумняваліся ў магчымасьці даўжэйшага супраціўляцца і вырашылі загадзя падумаць пра свой ратунак. У наступны дзень па штурме ўцёк з асаджанай крэпасьці ў лягер Хаванскага пакаёвы Станіслава Юдыцкага, Станіслаў Бальскі. Ён расказаў расейцам шмат дэталяў пра ўмовы абаронцаў за валамі. Рэгулярная залога складалася, паводле яго данясеньня, зь дзьвюх харугваў вугорскай пяхоты і трох драгунскіх харугваў, у якіх разам было 4500 чалавек. Акрамя таго, там было 2,5 тыс. шляхты, немцаў і габрэяў, якія таксама былі абароназдольнымі. Мелі яны 47 гармат. Пораху і правіянту было на год абароны. Унутры валоў знаходзіўся таксама водазабор, які, аднак, у недастатковай ступені забясьпечваў залогу і людзей, замкнёных у фартэцыі. Напэўна, дзеля здабыцьця прыхільнасьці Хаванскага, паведаміў яму, што падчас апошняга штурму загінула больш за 100 абаронцаў. Гэта падбадзёрыла маскоўскага вайскаводцу, які, раздражнёны ўчынкам Юдыцкага, загадаў рыхтавацца да наступнай атакі[32]. Тым часам, убачыўшы, што зьбіраецца на даўжэйшую аблогу, ён распачаў шырэйшыя земляныя працы. Вакол крэпасьці насыпаў шанцы, якія прасунуў аж пад самыя валы фартэцыі. Паставіў на іх гарматы, якія ўвесь час праводзілі абстрэл абаронцаў. Стараўся таксама адрэзаць абаронцам прыток вады. Хаванскі паслаў таксама ліст да цара, паведамляючы яму пра свае посьпехі. Тлумачыў, якое вялікае значэньне мае для ягонага панаваньня ў Літве заняцце гэтых апошніх крэпасьцяў,

[29] W. Starzyński do B. Radziwiłła, b.m. 9 IV 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 15027; S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Sielce 20 IV 1660. Тамсама. № 12561. S. 73; Maskiewicz. S. 297.

[30] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 24 IV 1660. Тамсама. № 6865/I. S. 195; AMG. T. III. № 58. S. 64.

[31] S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Sielce 20 IV 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 12561. S. 73.

[32] AMG. T. III. № 58. S. 65; Ткачев М.А. Замки и люди. С. 99.

якія дзякуючы сваім моцным залогам і няспыннай адпраўцы збройных аддзелаў падтрымліваюць супраціў насельніцтва. Знаходзячыся паміж заваяванымі Берасьцем, Наваградкам і Слонімам, яны ствараюць пагрозу для іх залог. Таму прасіў цара прысылаць яму «майстра» гарматы і гранаты, паколькі ў Ляхавічах драўляная забудова і вялікая цесната. Запэўніваў, што, маючы гэтыя сродкі, ён здолее прычыніць вялікую шкоду абаронцам і гэтым прысьпешыць зламаньне іх супраціву. Паслаў таксама ў Горадню па гармату, якую ўжо ў красавіку адтуль вывезла маскоўская пяхота[33]. Аднак цару быў зусім недаспадобы спосаб вядзеньня вайны Хаванскага. У пачатку траўня пад Ляхавічы прыйшла ягоная грамата, якая забараняла Хаванскаму праводзіць чарговыя штурмы ўмацаванай фартэцыі. Цар дамагаўся, каб князь хутчэй абдумаў спосабы, якія дазволяць заняць гэтую і іншыю крэпасьці, зьберагаючы жыцьці маскоўскіх жаўнераў. Асабліва цара абурала тое, што хоць у красавіцкім штурме загінула толькі 30 чалавек, але былі гэта самыя высокапастаўленыя афіцэры. У другі раз наказаў Хаванскаму выкарыстоўваць для падобных мэтаў звычайных жаўнераў[34].

Хаванскі, спыніўшы штурмы, абмежаваўся шчыльнай блякадай крэпасьці. Сілы, якія меў у распараджэньні, не дазвалялі яму бясьлапотна марнаваць жаўнераў у няпэўных атаках, якія маглі прынесьці чарговыя страты. Разумеў гэта і сам цар, наказваючы берагчы войскі. Таксама Клакоцкі, які сядзеў у блізкім Слуцку, здаваў сабе справу зь цяжкасьцяў, якія перажывае як залога асаджаных Ляхавічаў, так і камандзір царскіх войскаў. Пісаў пра іх наступным чынам: *«Непрыяцель душыць Ляхавічы, якія хоць добра бароняцца, аднак баімся, каб цеснаце тамтэйшай не нашкодзіў надыход цяпла і заразы якой не прынёс, чаму і трупы, якіх у штурме нямала набіта было, а не пахавана, дапамогуць. Не штурмавалі болей, толькі раз, але моцна абараняліся і выласкамі шкодзяць непрыяцелю, які цяпер такі слабы. І гэта ня толькі праз вайну людзей траціць, але і самі ад голаду ўцякаюць, што ледзьве на пяць тысяч войска, а ўсё ж захоўвае самаўпэўненасьць, відаць, спадзеючыся на падмацаваньні, якіх чакае. Калі нашы войскі гэтаму не перашкодзяць, непрыяцель зноў падмацуецца і казакі да іх падыйдуць»*[35]. Гэтыя цяжкасьці выпадалі на долю ня толькі войскаў Хаванскага. Аднак добра забясьпечаныя абаронцы не былі ў такой вялікай небясьпецы, якая вынікае зь недахопу правіянту. У гэтым, такім істотным моманце яны мелі перавагу над згаладнелымі царскімі войскамі.

Аднак Хаванскі не намерваўся бязьдзейна стаяць пад крэпасьцю. Акрамя інтэнсіўных намаганьняў, каб яму адправілі вайсковыя падмацаваньні, ён сам рабіў у меру сваіх магчымасьцяў дзеяньні супраць блізкіх літоўскіх аддзелаў. Найбліжэй да ягонага лягеру сталі харугвы Аскіркі, Мурашкі, Станішэўскага і Францкевіча, дысьлякаваныя пад Нясьвіжам, колькасьць якіх царскі вайскавода ацэньваў у 1500 чалавек. Раней яны знаходзіліся непадалёк ад Слуцку, але радзівілаўскія камісары не хацелі правакаваць Хаванскага, які набліжаўся. Перад самым ягоным прыбыцьцём пад Ляхавічы яны дамагліся, каб тыя адышлі з-пад Слуцку пад Нясьвіж. Сам Аскірка, спачатку, напэўна, спалоханы спыненьнем арміі Хаванскага пад блізкімі Ляхавічамі, бясплённа спрабаваў схіліць Палубінскага, каб той прыбыў у гэты раён для супольнага ратаваньня Ляхавічаў. Напалову разбойніцкія аддзелы гэтых чатырох правадыроў, якія складаліся зь людзей самага рознага тыпу і рэпутацыі, не былі ў стане ствараць пагрозу ўсёй арміі пад Ляхавічамі, але станавіліся для яе лішнім цяжарам, займаючы дарогі і перарываючы дастаўку правіянту. Яны таксама спусташалі ваколіцы, робячы здабычу правіянту для згаладнелых войскаў Хаванскага зусім немагчы-

[33] S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Sielce 20 IV 1660. Тамсама. № 12561. S. 73; AMG. T. III. № 58. S. 65.
[34] Тамсама. S. 65.
[35] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 7 V 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 199.

май. Таму хутка пасьля разьмяшчэньня сваіх войскаў пад Ляхавічамі Хаванскі распачаў дзеяньні супраць гэтых літоўскіх камандзіраў. Яны завяршыліся посьпехам, у выніку якога ліцьвіны былі вымушаныя ўцякаць з-пад Нясьвіжу пад Слуцак. У пагоні за імі ў самыя ваколіцы Слуцку маскоўскія войскі спалілі і выразалі Капыль, які належаў Б. Радзівілу, і навакольныя маёнткі, а ўцекачы адтуль дасягнулі нават Біржаў, разносячы паўсюль пагалоску пра жудасныя ўчынкі жаўнераў жахлівага князя[36].

У красавіку і траўні 1660 г. Ляхавічы ня столькі штурмаваліся, колькі трымаліся ў аблозе. Аднак удавалася перадаваць вонкі зьвесткі пра стан абаронцаў. Пэўная інфармацыя даходзіла з-за ляхавіцкіх валоў і да Слуцку. У гэтай радзівілаўскай крэпасьці, зь якой паходзіць найболыш захаваных сьведчаньняў таго пэрыяду, з асаблівай увагай прыглядаліся да разьвіцьця падзеяў пад валамі Ляхавічаў. Было зразумела, што калі яны будуць здабытыя, то Хаванскі адразу рушыць на Нясьвіж і на Слуцак[37]. Падчас дзеяньняў пад Ляхавічамі ў найбольшай небясьпецы з боку маскоўскіх войскаў быў Нясьвіж, які знаходзіўся бліжэй да ягоных пазыцыяў. Яго ўладальнік, князь Міхал Радзівіл, ня меў сярод маскоўскіх камандзіраў і ваяводаў такіх сувязяў, як яго сваяк Багуслаў, таму ня мог разьлічваць на вялікія паблажлівасьці да залогі свайго замку, якой энэргічна і спраўна кіраваў нясьвіскі аканом Лукаш Тыбароўскі. Сам князь Міхал у студзені 1660 г., калі было вядома, што Хаванскі намерваецца ісьці да Навагрудчыны, згадваў, што замак восеньню папярэдняга году быў добра забясьпечаны харчамі, амуніцыяй і людзьмі. Там было каля тысячы чалавек залогі без уліку сабранай шляхты. Акрамя замку, быў укамплектаваны горад Нясьвіж. У сакавіку перад надыходам да Навагрудчыны непрыяцеля Тыбароўскі не падаў духам і верыў, што пад Нясьвіжам ён *«моцна апячэцца»*[38]. Цалкам іншую думку наконт абароназдольнасьці Нясьвіжу мелі ў Слуцку. Калі прызнавалі, што Ляхавічы добра падрыхтаваныя да абароны, то пра Нясьвіж пісалі проста, што ён слабы. Указвалася перш за ўсё на тое, што там няма дасьведчаных жаўнераў, а сам Тыбароўскі таксама не жаўнер. Таму зь непакоем паўтаралі сабе словы Хаванскага, што калі зойме Ляхавічы і пойдзе на Слуцак, то Нясьвіж сам здасца[39].

Аднак часова Хаванскі ня меў дастаткова сілаў, каб распачаць аблогу дзьвюх фартэцый адразу. З гэтай прычыны ён абмяжоўваўся толькі нападамі разьездаў на нясьвіскую залогу. На іх адбіцьцё зь лішкам хапала людзей і ўзбраеньня, што знаходзілася ў фартэцыі. Гэтага магло хапіць нават, каб вытрываць працяглую аблогу[40]. Аднак з часам суседзтва з гэтай крэпасьцю пачало больш дакучаць Маскве, паколькі нясьвіская залога, асьмеленая слабымі дзеяньнямі маскоўскіх аддзелаў, сама рабіла ўсё больш дзёрзкія выпады на шляхі забесьпячэньня войскаў Хаванскага. Урэшце дайшло да таго, што аддзелы зь Нясьвіжу пачалі падыходзіць пад самы лягер непрыяцеля пад Ляхавічамі, зьнішчаючы сабраныя там ягоныя запасы і тузаючы жаўнераў.

Дзякуючы захаваным крыніцам мы найбольш арыентуемся ў сытуацыі і настроях, якія панавалі ў першай палове 1660 г. у Слуцку. Гэтая фартэцыя, найбольш прасуну-

[36] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 24 IV 1660. Тамсама. S. 193; S. Oskierka do A.H. Połubińskiego, w Romanowie 4 IV 1660. Тамсама. № 11013. S. 18; K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 6 VI 1660. BPAN Kr. 4011. K. 61; AMG. T. III. № 52. S. 58.

[37] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 28 III 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 5865/I. S. 191; гл. таксама ад 24 IV. S. 194; ад 11 V. S. 203; ад 12 VI. S. 215; ад 19 VI. S. 219—220.

[38] M.K. Radziwiłł do B. Radziwiłła, Lwów 25 I 1660. Тамсама. Dz. IV. T. 362. № 35. S. 25; Ł. Tyborowski do M.K. Radziwiłła, z Nieświeża 19 III 1660. Тамсама. Dz. V. № 16612. S. 23.

[39] K. Kłokocki, Słuck 31 III 1660. Тамсама. № 6865/VII. S. 212.

[40] Гл. складзены Тыбароўскім: Inwentarz Zamku Nieświeskiego r. 1658 Marca 29. AGAD. AR. Dz. XXV. № 2695/1. S. 1—7. Пра стан залогі і ўзбраеньня Нясьвіскага замку гл.: Тамсама. Dz. VII. № 720; Тамсама. Dz. II. № 1433; Ткачев М.А. Замки Белоруссии. Минск, 1987. С. 178; ён жа. Замкі і людзі. С. 16—17.

тая ў паўднёва-ўсходнім кірунку, была пад асаблівай пагрозай ня столькі маскоўскіх атакаў, як збройных казацкіх ватагаў, якія ўрываліся праз Палесьсе, Піншчыну ў бок багатага Слуцку. Пэрыяд адноснага спакою, а нават супрацоўніцтва зь мясцовымі казацкімі правадырамі, мінуў разам з падзеньнем ва Украіне пазыцыяў гетмана Івана Выгоўскага і паўторнага здабыцьця перавагі на тых землях Масквы. Распачаўся там пэрыяд хваляваньняў і змаганьняў, а іх хвалі сталі хутка даходзіць праз Палесьсе з поўдня і беларускае Падняпроўе з усходу да літоўскіх зямель у непасрэдную блізкасьць да Случчыны. Ужо 19 сьнежня 1659 г. маскоўскія загоны пагражалі з усходу, казакі напалі на Пінск, які на працягу пяці дзён рабавалі. Крыху пазьней у Глуску на Пцічы заняў пазыцыі чарговы моцны казацкі аддзел. Гэтая небясьпека павялічылася разам з падзеньнем у сьнежні Старога Быхава, таму і з боку Чарнігаўшчыны не было ўжо ніякай заслоны для зямель, якія разьмяшчаліся на захад ад Бярэзіны. У Слуцку доўга не хацелі верыць у падзеньне гэтай фартэцыі, паколькі спачатку адпраўленыя ў тым напрамку разьезды не прыносілі ніякіх пэўных зьвестак. У выніку гэтага яшчэ ў студзені хадзілі сярод яго жыхароў самыя дзіўныя апавяданьні пра лёс Нячая і абаронцаў[41]. Казацкія аддзелы разьмясьціліся ў раёне Турава і Мазыра, спустошаючы адтуль ваколіцы. Гэта былі хутчэй узброеныя банды, складзеныя збольшага зь сялянскага і мяшчанскага насельніцтва, якое, відаць, не прызнавала над сабой якой-небудзь улады, а дзейнічала самастойна, найбольш цікавячыся звычайнымі рабункамі. Таму багаты Слуцак мог быць для іх ласым кавалкам. Аднак ад непасрэднай атакі на яго іх адпалохвала вядомая сіла залогі гэтай крэпасьці[42]. Але ўжо ў сьнежні зьявіліся патрабаваньні ад нейкага Пятра Васількоўскага, які называў сябе аўруцкім і тураўскім казацкім палкоўнікам, каб Слуцак праявіў усялякую зычлівасьць запароскаму войску, а ён тады гарантуе яму бясьпеку ад іншых казацкіх палкоў[43]. Дэталі далейшых кантактаў паміж гэтым палкоўнікам і Слуцкам невядомыя, але можна быць упэўненым, што аўтара ліста цікавіла ня што іншае, як дамагчыся ад гораду нейкіх матэрыяльных карысьцяў для сябе, што ён называў праяўленьнем «зычлівасьці» да запароскага войска.

Ягоныя абяцаньні не прыдаліся ні да чога, бо іншыя збройныя групы надалей рабавалі шырокія ваколіцы Піншчыны і Случчыны. У пачатку студзеня на чале значных шляхецкіх сілаў вырушыў пад Мазыр Геранім Бруханскі, якога сабраная ў Слуцку шляхта абрала сваім ротмістрам. Выразаўшы некалькі ватагаў казакоў і мужыкоў, ён таксама вярнуўся ў раён трох фартэцый. Ад часу да часу, у момант асаблівай актывізацыі рабаўнічых атакаў, рэгулярныя войскі слуцкага гарнізону рабілі выправы супраць ватагаў, якія там гойсалі. Часам аддзелы са Слуцку забіраліся досыць глыбока ў Палесьсе, у ваколіцы Турава і Мазыра, забіраючы адтуль у Слуцак колькі ўдавалася патрэбных харчоў для насельніцтва гораду і коней. Значнай аховай для гораду былі аддзелы Аскіркі, Мурашкі і казацкага лідэра Станішэўскага, якія разам з паспалітым рушаньнем пільнавалі ваколіцы. У канцы лютага да іх далучыўся навагрудзкі харужы Мацей Францкевіч-Радзімінскі. Войскі гэтых чатырох камандзіраў мелі дамову са Слуцкам наконт узаемнай дапамогі ў гэтай небясьпецы, якая пагражала з усіх бакоў. Яны былі асабліва прыдатныя для змаганьня зь нерэгулярнымі казацкімі войскамі і меншымі маскоўскімі аддзеламі, якія падыходзілі ў ваколіцы Слуцку, тым больш, што слуцкі гарнізон ня меў вялікай коньніцы. Пад канец лютага Аскірка правёў адну са сваіх ма-

[41] P. Odyniec do P. Sapiehy, z Nowosiółek 17 I 1660. LvNB. F. 103. № 1739; AVAK. T. XXXIV. S. 139.

[42] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 16 III 1660. AGAD. AR. Dz.V. № 6865/I. S. 185. Пра стан арганізацыі абароны і ўзбраеньня Слуцку гл. дакумэнт ад 1659 г.: Lauda albo Uchwały do bronij, porządku i ozdoby miasta Słucka... Тамсама. Dz. II. № 69/14. S. 185—201.

[43] Kopia listu kozackiego do P. Commendanta Xięstwa Słuckiego. Pisał Petro Wasilkowski pułkownik Owrucki i Turowski, Turów 11 [21] XII 1659. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 169—171.

ланкавых выправаў у напрамку казацкіх і маскоўскіх пазыцыяў. Разам з аддзелам са слуцкага гарнізону пад кіраўніцтвам ротмістра Станіслава Скарбка ён атакаваў у Зубарэвічах пад Глускам, які належаў Палубінскаму, шматлікую казацкую ватагу, што, забраўшыся з Палесься ў гэтыя ваколіцы, бязьлітасна спусташала іх. Яна была амаль цалкам выразана. Пасьля гэтага посьпеху ён скіраваўся, але ўжо, напэўна, бяз Скарбка, у бок Турава, адкуль часта выходзілі рабаўнічыя казацкія выправы. Заняўшы гэты горад і навакольныя населеныя пункты, ён правёў там крывавую пацыфікацыю вядомага сваімі бунтаўнічымі настроямі тамтэйшага насельніцтва. Там ён даведаўся, што ў Нарынску сабралася значная колькасьць казакоў і маскалёў, якія намерваюцца ісьці ў ягоны бок. Гэта не спалохала Аскірку, які на чале сваіх харугваў вырушыў супраць іх у напрамку Мазыра. Ён забраўся ажно ў ваколіцы Петрыковічаў і Нарынску, выразаючы па дарозе групы сялянаў і казакоў, якія займаліся рабаўніцтвам. Аднак ён ня ведаў, што да Нарынску прыйшлі з дапамогай маскоўскія аддзелы, прысланыя з Кіева. Яны злучыліся з казакамі. 29 лютага да гэтага месца наблізіўся Аскірка, намерваючыся канчаткова падавіць гэты ачаг бунтаў. Аднак, як пісаў, *«там жа мне здарылася няшчасьце»*, віну за якое ён ускладаў на свае татарскія харугвы. Пасьля пачатковага посьпеху, забраўшыся занадта далёка, натыкнуўшыся на большыя колькасьцю маскоўскія аддзелы, ён сам апынуўся ў вялікай небясьпецы, ад якой ледзьве ўратаваўся, страціўшы вялікую частку пяхоты і драгуноў, у тым ліку ротмістра Мацея Казімера Эйсманта. Пацярпеўшы такую няўдачу, ён перасунуў свае аддзелы ў ваколіцы трох навагрудзкіх крэпасьцяў. У іх бясьпечным цені сабраліся неўзабаве ягоныя раскіданыя харугвы. Да іх далучыліся таксама аддзелы Дзяніса Мурашкі, Станішэўскага, а таксама Стэфана Францкевіча-Радзімінскага[44]. Нягледзячы на вялікую колькасьць шэрагаў гэтых аддзелаў, яны ўсё ж не былі ў стане значна перашкодзіць больш рашучым дзеяньням арміі Хаванскага. Іх мэтай было толькі адпалохваньне рабаўнічых ватагаў, пошук і дастаўка ў Слуцак усялякіх харчоў для людзей і пашы для коней.

Па меры наближэньня войскаў князя Хаванскага, які выклікаў жах, князя Багуслава стараліся інфармаваць пра трагічнае становішча фартэцыі. Яго прасілі даць дапамогу і паслаць лісты ад яго і ад электара Фрыдэрыка Вільгельма, якія можна было б паказаць царскаму вайскаводцу з мэтай забесьпячэньня аховы крэпасьці. Але ўсё цяжэй было знайсьці сьмельчака, які б захацеў скіравацца з такім лістом у далёкі і вельмі небясьпечны шлях да князя. І ўсё ж заўсёды знаходзіліся тыя, што даходзілі да Жамойці ў Кейданы і Біржы і там аддавалі лісты княскім чыноўнікам. У сакавіку прыбыў нейкі габрэй са Слуцку, які па дарозе патрапіў у маскоўскія рукі, быў кінуты ў вязьніцу ў Навагрудку і *«батогаў маскоўскіх скаштаваў»*. Аднак ён не раскрыў таямніцы і лістоў і, калі яго адпусьцілі, дайшоў да мэты. Потым скіраваўся ў дарогу назад, сьцьвярджаючы, што ўжо ня першы раз прабіраецца праз маскоўскія войскі. Аднак лягчэй і бясьпечней было выкарыстаць пошту камісараў, якія знаходзіліся непадалёк[45].

У Слуцку ў нашмат большай ступені, чым у астатніх дзьвюх фартэцыях, якія хутчэй былі абаронччымі замкамі, баяліся пагрозы з боку сталых жыхароў гораду. Як на беларускія ўмовы, ён быў вельмі населены. У 1650 г. у ім налічвалася 930, а ў 1667 г. — 1086 дымаў[46]. Большасьць насельніцтва складалася з рускага праваслаўнага і час-

[44] S. Oskierka do A.H. Połubińskiego, w Romanowie 4 IV 1660. Тамсама. № 11013. S. 18; W. Huryn do B. Radziwiłła, Słuck 3 III 1660. Тамсама. № 5569/I. S. 81; S. Oborski do B. Radziwiłła, Kiejdany 29 III 1660. VUB. Fond 4 (A—212). № 16681; M. Vorbek-Lettow. S. 289; AVAK. T. XXXIV. № 216. S. 245—246.
[45] S. Oborski do B. Radziwiłła, Kiejdany 18 III 1660. VUB. F. 4 (A—231). № 18011.
[46] Grickevič A.P. Warowne miasta magnackie na Białorusi i Litwie. PH. T. LXI, 1970, z. 3. S. 431—432; Грыцкевіч А.П., Кукуня В.Р., Самбук С.Ф. Слуцак // Архітэктура Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1993. С. 447—448.

та вельмі беднага элемэнту. Як аказалася, шмат жыхароў Слуцку праяўляла ўжо ў 1659 г. жаданьне перайсьці на бок казакоў. Гэтыя тэндэнцыі сталі больш відавочнымі ў пэрыяд зімы—вясны 1660 г., калі ўвесь горад пачаў адчуваць прыкметны недахоп харчоў, якія ўлады прытрымлівалі перш за ўсё для залогі на час чаканай аблогі. Узрасьлі таксама фінансавыя спагнаньні, прызначаныя на аплату жаўнераў, якія складалі залогу. Тыя ж, выкарыстоўваючы ўсякую нагоду для рабунку мяшчан, сваімі паводзінамі распальвалі, як толькі маглі, нядобрыя настроі. Да таго ж станавілася зразумелым, што ў выпадку надыходу маскалёў няма чаго разьлічваць на дапамогу гетмана, які ня быў у стане ўратаваць свайго Старога Быхава[47]. Таму зусім ня дзіўна, што вясной 1660 г. здараліся выпадкі выкрыцьця патаемных змоваў, якія мелі на мэце аблегчыць здабычу Слуцку царскім войскам. Акрамя таго, усё часьцей праяўляліся прыкметы *«схільнасьці да казакоў»* ня толькі сярод бядоты, але і ў багацейшых.

Іншай праблемай былі масы шляхты з Наваградзкага ваяводзтва, якая знайшла прыстанішча ў крэпасьці. Каб пазьбегнуць перанаселенасьці, згаджаліся пускаць толькі тых, хто меў з сабой запас харчоў, прынамсі, на год і быў забясьпечаны зброяй і амуніцыяй для сябе і сваёй чэлядзі. Непакорнай шляхце было выраблена таксама навязаць пэўныя строгія правілы як умову знаходжаньня ў фартэцыі. Яна мусіла згадзіцца з падпарадкаваньнем камісарам і камэнданту, пазьбягаць усялякіх натоўпаў, не зьбірацца ні на якія спатканьні і прыватныя вечарыны, быць добра ўзброенай, разам са сваёй чэлядзьдзю абараняць у выпадку небясьпекі крэпасьць. Яна павінна была таксама сфармавацца ў харугву, што і было зроблена, а іх ротмістрам быў абраны Геранім Уладыслаў Бруханскі, аршанскі стольнік. Камісары дзейнічалі паводле ўказаньняў Багуслава, які, маючы на ўвазе трагічныя прыклады апошніх дзён, катэгарычна забараняў камэнданту ў сваім студзеньскім лісьце зважаць на шляхецкія правы і прывілеі, наказваючы рабіць так, каб гарантаваць гораду бясьпеку: *«Бо такая далікатнасьць і разважнасьць цяпер Горадню загубілі. Сьцеражы, Божа, [ад такога. — Заўв. перакл.]».* у Слуцку: *пэўна, ніводзін ня высядзіць. Хто ня хоча падпарадкоўвацца oneribus [цяжкім абавязкам. — Заўв. перакл.], няхай выяжджае з гораду».* Князь быў таксама занепакоены зноў арганізаванай маскоўска-казацкай лігай, *«да якой Русь natutaliter inclinat [натуральна схіляецца. — Заўв. перакл.].* Баяўся таксама здрады ў Слуцку. Таму загадваў мякка сунімаць жыхароў гораду, пераконваючы іх у сваёй зычлівасьці да іх, а таксама нагадваючы ім, што ўсё ж *«на службе Пана застаюся, з Масквою пактамі зьвязанага».* Пры гэтым патрабаваў найвялікшай чуйнасьці, а ў выпадку чаго загадваў самых бедных загадзя выгнаць з гораду[48]. Гэты ліст і шмат іншых былі поўныя рэкамэндацыяў наконт таго, як клапаціцца аб фартэцыі, стане яе ўмацаваньняў, забясьпячэньні харчамі, як сьцерагчыся казацкай і маскоўскай небясьпекі. Аднак князь быў далёка, і часта ягоныя ўказаньні былі неактуальныя, таму шмат рашэньняў у сытуацыі, якая імкліва зьмянялася, камісары мусілі прымаць на хаду. Нягледзячы на ўсе гэтыя рэкамэндацыі, не ўдалося да канца суняць хваляваньня сярод бяднейшага праваслаўнага насельніцтва. Таксама не было таямніцай, што шмат шляхты мае на ўсякі выпадак маскоўскія граматы. Гэта выклікала непакой наконт іх ляяльнасьці ў выпадку падыходу Хаванскага ў ваколіцы Слуцку, і ўжо ў студзені зьявіліся падазрэньні, што гэтая шяхта ўзамен за *armistitium*

[47] W. Huryn do B. Radziwiłła, Słuck 3 III 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 5569/I. S. 81; K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 28 III 1660. Тамсама. № 6865/I. S. 190, ліст ад 23 XII 1659. S. 162.

[48] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 21 I 1660. Тамсама. S. 173; B. Radziwiłł do komisarzy słuckich, Królewiec 8 I 1660. Тамсама. Dz. IVa (копіі). T. 1. Kop. 2. K. 297v; Summarius Roznych mieyskich transacty y Sessy. Тамсама. Dz. XXIII. № 151. S. 154; Vorbek-Lettow M. S. 286—287.

[49] P. Odyniec do P. Sapiehy, z Nowosiółek 17 I 1660. LvNB. F. 103. № 1739.

была гатовая адступіцца ад абароны гораду[49]. Таму першая палова 1660 г. мінула для слуцкіх уладаў пад знакам няспыннага неспакою з боку войскаў Хаванскага, а таксама жыхароў гораду, вернасьць якіх не была пэўнай.

Найболып баяліся пры думцы пра падзеньне Ляхавічаў. Радзівілаўскія слугі былі амаль упэўненыя, што пасьля маскоўскія войскі рушаць на Слуцак, а тады пазыцыю масаў праваслаўнага насельніцтва малявалі ў самых чорных фарбах. З гэтай прычыны пільна назіралі за падзеямі пад Ляхавічамі, а іх абаронцам заўсёды зычылі, каб яны як мага даўжэй пратрывалі ў супраціве, затрымліваючы тым самым на сабе ўсю моц непрыяцеля. Асабліва задзейнічаны ў справу абароны гэтых дзьвюх крэпасьцяў, падобна, як і год раней у справе Старога Быхава, быў Казімер Клакоцкі. Як тады ён ня мог зразумець прычыны маруджаньня літоўскіх харугваў з аказаньнем дапамогі Івану Нячаю, так і цяпер не разумеў, чаму такая моцная залога Слуцку ня робіць ніякіх захадаў, каб падтрымаць блізкія фартэцыі, якія абараняліся, ці хоць бы аддзелы Аскіркі і Мурашкі, якія стаялі ў полі. Ня ён кіраваў залогай Слуцку. На яе чале стаяў асобны камэндант, які непасрэдна ад князя атрымліваў загады, да зьместу якіх Клакоцкі ня меў доступу. Таму, не разумеючы дзеяньняў камэнданта, ён перажываў балючыя абразы, якія даносіліся ў бок Слуцку з боку змагарскіх залогаў Ляхавічаў і Нясьвіжу з Масквой. Пад канец траўня ён пісаў Б. Радзівілу: *«Маем абразы ад Ляхавічаў і Нясьвіжу і ад войска, што вакол нас, што ім нічым не дапамагаем. Дый сапраўды, мы яшчэ нават аднаго разьезду не адправілі. Пан камэндант тым апраўдваецца, што не загадала Ваша княская міласьць людзей з фартэцыі пасылаць»*[50]. Стан поўнай пасыўнасьці залогі Слуцку трываў да канца чэрвеня, г.зн. да самага разгрому Хаванскага. Клакоцкі ня ведаў, што камэндант дзейнічаў згодна з выразнымі загадамі свайго далёкага начальніка. Багуслаў ужо ў пачатку лютага 1660 г. тлумачыў царскаму віленскаму ваяводу Данілу Мышэцкаму, што сваім людзям у Слуцку забараніў праводзіць якія-небудзь дзеяньні супраць царскіх войскаў. Ён растлумачыў гэта расейцам, калі тыя абвінавацілі яго, што гэта ягоныя людзі напалі ў канцы 1659 г. на Магілёў. Тлумачыў ім, што цяпер з Сасноўскім ён ня мае нічога агульнага, затое праўдай было, што да вайны ён быў слуцкім старастам, і таму яны маглі зьвязаць яго з асобай князя[51]. Князь ахоўваў сваю маёмасьць рознымі спосабамі, якія часта пярэчылі інтарэсам Рэчы Паспалітай. Як губэрнатар Княскай Прусіі ён абавязаўся перад Афанасіем Ардзін-Нашчокіным стрымліваць аддзелы электара, каб тыя не турбавалі царскіх залогаў Вільні і Коўна. Узамен ён мусіў трымаць абяцаньне аховы сваіх літоўскіх уладаньняў[52]. За паводзіны князя, якія станавіліся яўнымі, даводзілася апраўдвацца ў Варшаве ягонаму слузе, вількамірскаму маршалку Яну Мяжэнскаму, які пад канец чэрвеня даносіў адтуль Б. Радзівілу, што ў сталіцы некаторыя *«сябры разззванілі, што Слуцак мае з Масквой нэўтралітэт і што не рабілася вылазак на Зьмеева, які міма Слуцку ішоў пад Нясьвіж зь пяцьцю тысячамі, а ён ішоў за чатыры мілі ад Слуцку»*[53].

Тым часам Хаванскі асабіста не заставаўся ўвесь час пад Ляхавічамі. Ён ня страчваў нагоды, каб і самому ўзбагаціцца. З гэтай мэтай ён пакінуў на пэўны час лягер сваіх войскаў і скіраваўся ў Наваградак. Там пад выглядам зычлівасьці да мясцовай шляхты рабаваў яе ўсялякім спосабам ад рэштак захаванай маёмасьці. Зрэшты, падобна рабілі ў гэтым горадзе і ваколіцах ягоныя афіцэры і жаўнеры. Сапраўдным няшчасьцем былі

[50] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 21 V 1660. Тамсама. S. 210—211; таксама ліст ад 19 VI. S. 220.
[51] B. Radziwiłł do D. Myszeckiego, Królewiec 6 II 1660. BN. IV 3092. K. 11—11v.
[52] Гл.: Memoriał Piotrowi Hoffmanowi Posłannikowi memu do Jmci Pana Naszczokina, wojewody kokenhauskiego, wyprawionemu z Królewca dnia 2 stycznia 1660 roku. AGAD. AR. Dz. II. № 1404. S. 2.
[53] J. Mierzeński do B. Radziwiłła, Słuck 26 VI 1660. Тамсама. Dz. V. № 9646/II. S. 75.

маскоўскія паслы, якія шнырaлі паміж лягерам пад Ляхавічамі, Наваградкам, гарнізонамі іншых гарадоў і царом. Іх трэба было сустракаць, частаваць, абдорваць тым, чаго яны сабе пажадаюць, праводзіць. Гэта датла руйнавала шляхту, якой не дапамагала нават закопваньне ў патаемных месцах каштоўных прадметаў. Прагныя здабычы маскалі знаходзілі гэтыя схованкі, вельмі часта не без істотнай дапамогі шляхецкіх суседзяў іх уладальнікаў. Сталым элемэнтам пошуку здабычы і харчоў, якія вяліся хутка дэмаралізаванымі жаўнерамі, было паленьне вёсак, двароў, разгон і забойствы жыхароў. Для вясковага насельніцтва ў аднолькавай ступені цяжкімі, бо таксама рабаўнічымі, былі літоўскія жаўнеры з-пад штандараў Аскіркі, Радзімінскага і казацкія Мурашкі, а таксама іншых, больш дробных правадыроў, якія на гэтых землях змагаліся з Масквою. У такіх умовах было немагчыма зрабіць веснавую сяўбу, а рэштцы насельніцтва, якое вынішчалася гадамі, пачаў зазіраць у вочы голад[54].

Пад Ляхавічамі расейцы карысталіся любымі зручнымі спосабамі, каб заняць упартую крэпасьць. Некаторыя сьведчылі пра высокую ступень забабоннасьці Хаванскага, які хапаўся нават за выкарыстаньне чараў, прапанаваных яму мясцовымі заклінальнікамі. Адзін зь іх яму нібыта нават абяцаў пры дапамозе закляцьця зрабіць так, што гарматы і агнястрэльная зброя перастануць страляць, а іншы будаваў для яго вялізную ваенную махіну[55]. У другой палове траўня ён атрымаў значныя падмацаваньні. 19 траўня ў яго лягер прыйшлі пасланыя туды на ўказ самога Аляксея Міхайлавіча элітныя аддзелы маскоўскіх стральцоў у трох прыказах. Прысланьне менавіта гэтых фармаваньняў было знакам вялікай адзнакі і пашаны Хаванскага з боку цара. Маскевіч у сваіх успамінах згадваў пра прыбыцьцё ў той дзень у маскоўскі лягер трох тысяч адборнай, добра апранутай і ўзброенай пяхоты. Пра такую колькасьць падмацаваньняў пісалі і каралеўскія камісары, якія знаходзіліся ў Менску. Фактычна іх лічба была значна меншай. На чале гэтай пяхоты сталі камандзіры маскоўскіх стральцоў Васіль Лаўрэнцевіч Пушачнікаў, Цімафей Полціеў і Міхал Азьнібішын[56]. Іх прывіталі ў лягеры залпамі з ручной зброі, каб навіна пра падмацаваньні адразу дайшла да абаронцаў Ляхавічаў і напоўніла іх страхам. Іх прыбыцьцё пад асаджаныя ўжо два месяцы Ляхавічы павінна было натхніць Хаванскага надзеяй на ўдалы штурм і, нарэшце, здабыцьцё крэпасьці, якая ўпарта абаранялася. Таксама прыбылі сьвежыя войскі, і іх камандзіры праяўлялі непрыхаванае жаданьне ўдарыць па валах Ляхавічаў. Настрой Хаванскага папраўлялі навіны, якія прывёз у той дзень ксёндз Крыштап Казімер Хмялецкі. Ён меў доступ да навінаў зь непасрэднага атачэньня каралеўскіх камісараў і шырока расказваў князю пра падзеі ў Польшчы і па-за ёй. Так, царскі вайскаводца даведаўся пра мір Польшчы са Швэцыяй, і пра канфэдэрацыю літоўскіх войскаў на Падляшшы, і пра вострыя спрэчкі іх камандзіраў з каралём, Сапегам і Палубінскім. Канфэдэрацыя цалкам паралізавала на даўжэйшы час магчымасьць іх дзеяньняў супраць маскоўскіх войскаў. Іншы сьвятар ужо ў пачатку траўня інфармаваў яго, што камісары Рэчы Паспалітай маюць загад толькі зацягваць перамовы, каб даць час на збор каралеўскіх войскаў[57]. Хаванскі здаваў сабе з гэтага справу, але ня думаў, каб з тымі праблемамі, якія падточвалі Рэч Паспалітую, да гэтага магло б хутка дайсьці.

Можа быць, такі нечаканы прыліў аптымізму схіліў Хаванскага пасьлаць пехацінцаў на штурм, нягледзячы на тое, што цар сурова забараняў яму выкарыстоўваць іх

---

[54] J. Horbaczewski do B. Radziwiłła, Słuck 20 VI 1660. Тамсама. № 5347. S. 9—10; I.K. Radziwiłłowa do J.W. Radziwiłła, z Sielca 22 VI 1660. Тамсама. Dz. IV. T. 53. Kop. 681. № 106; Maskiewicz. S. 287—299.
[55] Maskiewicz. S. 298, 300.
[56] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 21 V 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 209; AMG. T. III. № 58. S. 65—66. № 86. S. 84; Maskiewicz. S. 299—300.
[57] AMG. T. III. № 57. S. 63—64; № 79/2. S. 80—81; № 86/1. S. 84—85.

для гэтага. Паводле Маскевіча, атака пачалася вечарам яшчэ ў той самы дзень, калі пяхота прыйшла пад Ляхавічы, а паводле маскоўскіх крыніц — 24 траўня. Яна закончылася поўнай няўдачай і вялізнымі стратамі сярод расейцаў. Хаванскі спрабаваў уначы працягваць наступ, выкарыстоўваючы падрыхтаваную раней вялікую махіну, якая мусіла дапамагчы ўскараскацца на валы. Як згадваў Маскевіч, ён падстрахаваўся таксама чарамі, паколькі раней мясцовы заклінальнік тройчы абышоў замак, раскручваючы сырую нітку. Аднак і гэтыя спробы не прынесьлі нічога, акрамя чарговых значных стратаў. Аказалася, што абаронцы надалей добра стралялі, а збудаваная махіна была такой цяжкай, што не ўдалося яе крануць зь месца. Навіна пра другі няўдалы штурм, праведзены маскоўскімі войскамі, і пра іх вялікія страты дайшла да тых, хто назіраў за падзеямі пад Ляхавіцкай крэпасьцю. Пісаў пра гэта адзін зь літоўскіх камісараў Цыпрыян Бжастоўскі, сьцьвярджаючы, што страты дасягнулі трацiны тых, што штурмавалі. Пра вялікія страты падчас адной атакі, якія дасягалі 2,5 тыс. жаўнераў, згадваў таксама Я.А. Храпавіцкі, які гэтыя зьвесткі зачарпнуў зь перадаваных яму з глыбі Літвы навінаў. Аднак найбольш верагодная інфармацыя, зьмешчаная пад пунктам «Т» у подпісе да гравюры XVII стагодзьдзя, якая паказвае аблогу, у тым ліку і махіны, якія ўжываліся маскоўскімі войскамі. Паводле яе, загінула 700 царскіх жаўнераў. Праўду кажучы, і гэтая лічба занадта высокая на колькасьць забітых. Яна становіцца адносна праўдападобнай, калі прымем яе за агульную лічбу забітых і параненых[58].

У канцы траўня і ў чэрвені 1660 г. маскоўскія войскі, хоць і не рабілі спробаў штурму, аднак не пакідалі намаганьняў заняць крэпасьць. Невядома, на чым яны грунтаваліся, але паводле словаў каралеўскіх камісараў, *«hostis curiosus [заўзяты непрыяцель] адважваецца на хітрасьць і на спрыт, нібыта ён можа здабыць [Ляхавічы. — Заўв. Аўт.]»*[59]. Самі гэтыя камісары заўважалі ў пачатку чэрвеня, што становішча нескароных Ляхавічаў усё ж пагоршылася. Такой самай думкі быў добра інфармаваны Клакоцкі, які 19 чэрвеня пісаў, што Ляхавічы ўжо канаюць[60]. Крэпасьць, заціснутую з усіх бакоў маскоўскімі войскамі, вельмі хутка пачалі турбаваць самыя розныя хваробы. Гэта ня дзіўна, калі згадаць, што ў яе валы пусьцілі нашмат больш уцеклых ліцьвінаў, чым яна была ў стане зьмясьціць. Таму ўмовы жыцьця павінны былі моцна зьнізіцца, што пры надыходзе веснавога пацяпленьня пагражала пачаткам пошасьці, тым больш, што пад валамі надалей ляжалі целы палеглых жаўнераў. Акрамя таго, аказвалася, што сабраныя запасы правіянту могуць таксама вычарпацца, калі аблога значна працягнецца. Таму абаронцы рознымі шляхамі стараліся паінфармаваць літоўскіх вайскаводцаў пра сваё цяжкае становішча. Відаць, часам удавалася пасланць інфармацыю па-за непрыяцельскі лягер, калі пад канец траўня Павел Сапега, ведаючы пра стан сваёй крэпасьці, роспачна прасіў Палубінскага аказаць яму дапамогу: *«Маю цяпер сьвежае папярэджаньне зь Ляхавічаў, што яны пільна патрабуюць ратунку, застаючыся ў вялікіх цяжкасьцях і небясьпецы як праз хваробы, якія значна пашырыліся, так і праз амуніцыю. Таму вельмі прашу, каб вашамосьці паны ратавалі гэтую фартэцыю без маруджаньня і неадкладна»*[61]. У чэрвені не выклікала сумненьняў, што калі ў найбліжэйшыя тыдні не падцягнецца дапамо-

[58] C. Brzostowski do B. Radziwiłła, Mińsk 4 VI 1660. AGAD. AR. Dz.V. № 1503/I. S. 62; J.A. Chrapowicki do B. Radziwiłła, Warszawa 25 VI 1660. Тамсама. № 2153. S. 8; Nowiny listowne z Warszawy od Jmci Rzepińskiego, Warszawa 3 VII 1660. BOssol. № 189. S. 1172—1173, 1178; Confessata o potędze... K. 214v; Maskiewicz. S. 300; Muzeum Narodowe w Krakowie, zbiory Czartoryskich, gabinet rycin. № 6945; Курбатов О. Литовский поход… С. 33.

[59] Komisarze do Jana Kazimierza, Mińsk 8 VI 1660. BCzart. 154. S. 300; гл.: Awizy z Warszawy, Juny 1660. BJag. № 5. S. 743.

[60] K. Kłokocki do B.Radziwiłła, Słuck 19 VI 1660. AGAD. AR. Dz.V. № 6865/I. S. 219.

[61] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, b.m. 29 V 1660. Тамсама. № 13868/IV. S. 49.

га, то Ляхавічы будуць вымушаны паддацца варожай перавазе. Было зразумела і тое, што іх падзеньне пацягне за сабой здачу Нясьвіжу. Застаўся б толькі Слуцак, які невядома колькі б вытрымаў напор непрыяцеля.

У красавіку і траўні 1660 г. Хаванскага, які стаяў без ніякіх посьпехаў пад Ляхавічамі, таксама мучылі іншыя праблемы, акрамя тых, што вынікалі з факту зацяжнога знаходжаньня перад нескаронай крэпасьцю. Як і іншыя маскоўскія камандзіры, ён здаваў сабе справу са штораз хутчэйшага прасоўваньня наперад польска-шведзкіх перамоваў, якія з часам маглі б прывесьці да сьцягваньня супраць царскіх армій у Літве і ва Украіне моцных войскаў Рэчы Паспалітай. Для Хаванскага асабліва небясьпечнымі мусілі быць прыкметы нарастаньня ў гэтыя месяцы актыўнасьці польскалітоўскіх харугваў, сабраных на Падляшшы. У траўні ён даведаўся ад Мікалая Парэмбскага, які прыбыў ад Б. Радзівіла, што яны налічваюць 10 тыс. добрых жаўнераў, і гэта бяз почтаў і свабодных людзей. Гэта вельмі ўстрывожыла ваяводцу, які ўсё больш безнадзейна загразаў пад Ляхавічамі. Яго суцяшаў толькі факт вядомых яму канфліктаў паміж камандзірамі польскіх і літоўскіх войскаў, антыпатыі на лініі кароль і гетман Сапега, праблемаў з выплатай жолду, якія турбавалі літоўскае войска, даводзячы яго вясной 1660 г. да арганізацыі канфэдэрацыі з маршалкам Самулем Кміцічам на чале. Магчыма, што да ведама Хаванскага дайшлі кіданыя канфэдэратамі пагрозы перайсьці на царскую службу, якія шырока абвяшчалі палітычныя праціўнікі, каб дыскрэдытаваць іх у вачах шляхты. Таму Хаванскі стараўся асаблівым чынам абярнуць на сваю карысьць усе праблемы і канфлікты, якія непакоілі літоўскае войска. Ён зьвярнуўся да цара з просьбай, каб літоўскі князь Тэадор Горскі, які стаяў па маскоўскім баку, мог наняць 500 чалавек зь літоўскай шляхты ў царскія харугвы. Адначасова прасіў, каб цар з належнай шчырасьцю ўзнагародзіў гэтых людзей. Як сам прызнаваў, гэта мела на мэце зрабіць уражаньне на жаўнераў Палубінскага і Чарнецкага, якія ўжо пяць гадоў не атрымлівалі жолду. Ён пераконваў Аляксея Міхайлавіча, што, калі тыя ўбачаць царскі спосаб узнагароджаньня войскаў на ягонай службе, тады напэўна пяройдуць на маскоўскі бок[62].

Хаванскаму было за што непакоіцца, бо чым больш стаяў пад Ляхавічамі, тым больш клопатаў яму рабілі рухі войскаў Рэчы Паспалітай, якія стаялі на Падляшшы. Асабліва актыўныя былі войскі Чарнецкага, разьезды якіх забіраліся ў ваколіцы Горадні, Ваўкавыску і Навагрудку. Рускі ваявода ня мог разьлічваць на падтрымку ліцьвінаў, пакольк тыя знаходзіліся ў вайсковай канфэдэрацыі. Нягледзячы на гэта, падтрымліваў кантакт з Палубінскім, якому ўдалося адарваць ад яе вялікую колькасьць харугваў[63]. Чарнецкаму, які сьпяшаўся выканаць даручанае заданьне ў Літве, было важна справіцца зь ім як мага хутчэй. Таксама кароль працягваў настойваць на правядзеньні супольнай выправы Палубінскага і Чарнецкага супраць Хаванскага[64]. Чарнецкі спрабаваў у другой палове красавіка наладзіць цеснае супрацоўніцтва камандзіраў войскаў, якія стаялі на Падляшшы і Мазоўшы. Здаецца, што да такіх спатканьняў і нарадаў урэшце дайшло, аднак яны ня скончыліся тады распачацьцем нейкіх больш дзеяньняў. Магчыма, дапамагла прымусіць літоўскі бок да больш значнай ініцыятывы рашучая заява рускага ваяводы ад 26 красавіка, што ён адправіцца на дапамогу Ляхавічам[65]. Ён сам не абмяжоўваўся толькі спробамі перамоваў зь ліцьвінамі. Разьезды ягонай дывізіі падбіраліся блізка да пазыцыяў маскоўскіх войскаў, выкарыстоўваючы тое, што тэрыто-

[62] AMG. T. III. № 52. S. 58.

[63] K. Pac do A.H. Połubińskiego, Gdańsk 5 V 1660. AGAD. AR. Dz.V. № 11208/I. S. 224.

[64] Jan Kazimierz do A.H. Połubińskiego, Gdańsk 9 IV 1660. BCzart. 153. S. 632.

[65] Гл. лісты Чарнецкага да Палубінскага ад 19, 23, 26, 29 красавіка 1660 г.: BRacz. № 76. S. 71—74; гл. таксама: Z.A. Słuszka do A.H. Połubińskiego, Lewartów 28 IV 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 14655.

рыя паміж Берасьцем і Наваградчынай была ў прынцыпе пазбаўленая расейскіх гарнізонаў. Здаецца, што толькі ў Ваўкавыску і Слоніме дастаткова часта знаходзілася маскоўская залога, напэўна, як ахова важнага для Хаванскага шляху ў напрамку Берасьця, Горадні і Вільні. На гэтыя прасторы таксама хіба толькі пранікалі разьезды, пасыланыя з арміі, што стаяла пад Ляхавічамі. У такіх умовах лёгка магло дайсьці да сустрэчы разьездаў двух бакоў. Асабліва значная сутычка здарылася пад канец красавіка. Чарнецкі адправіў у бок Слоніму аддзел, які налічваў 500 коней, які ў Ваўкавыску натрапіў на маскоўскага ваяводу і 60 ягоных жаўнераў. Усе маскалі былі перабітыя, а ў палон узяты толькі ваявода і дзевяць ягоных таварышаў[66].

Выпадак страшэнна разьюшыў Хаванскага, які адразу заявіў пратэст наконт гэтага літоўскім камісарам. Гэта абурыла яго, бо, як сьцьвярджаў, царскі ваявода быў пасланы ў гэтыя ваколіцы, каб засьцерагчы ад небясьпекі іхнія дамы і сем'і, чаго яны самі дамагаліся. Грозна загрымеў, што людзі Чарнецкага прыйшлі сюды не *«для доброго дела»*, а на згубу Вялікага Княства Літоўскага. У канцы прыгадаў тое, што ўжо здарылася Палубінскаму, калі той зрабіў падобныя ўчынкі[67]. Але камісары не намерваліся моўчкі выслухоўваць абвінавачаньні Хаванскага. Згадзіліся, што яго пасланец меў мірную місію гарантаваньня бясьпекі маёмасьці камісараў, але не падчас гэтай місіі быў злоўлены людзьмі Чарнецкага. У палон ён патрапіў у Ваўкавыскім павеце, *«дзе, прыняўшы ўсякую ўладу, складаў соймікі, шляхту судзіў і ўсякі парадак у тым краі наводзіў, што ўжо да аховы маёмасьці нашай ня зводзілася»*[68]. Камісары далі яму праз гэта выразна зразумець, што гэты край — ня ўласнасьць цара, каб ягоныя чыноўнікі маглі свабодна там устанаўліваць законы і панаваць, як у сябе.

Адказ Хаванскага на атакі польскіх разьездаў на тэрыторыі, занятыя ягонымі войскамі, быў вельмі хуткі. Палякаў і ліцьвінаў, якія пачыналі адчуваць сябе ўсё больш сьмела, ён вырашыў асадзіць чарговым маланкавым і зьнішчальным напалам на Падляшша. З гэтай мэтай паслаў, як несла пагалоска, 3 тыс. камунніку, які 30 красавіка стаў у Мсьцібаве. На самой справе гэтага войска было нашмат менш. Там войска разьдзялілася, і адна частка скіравалася да Крынак, а другая, якая налічвала толькі 400 рэйтараў, да Нарвы[69]. Пайшлі чуткі, што адразу за імі з усёй моцай павінен зьявіцца сам Хаванскі, а Чарнецкаму паведамілі, што 6 траўня ён асабіста спыніўся ў Ваўкавыску. Цяжка сказаць, як далёка зайшоў чарговы зьнішчальны маскоўскі напад у кірунку Падляшша. Напэўна, ужо ад Мсьцібава, што непадалёк ад Ваўкавыску, пачалося зьнішчэньне і спусташэньне ваколіц лятучымі маскоўскімі аддзеламі, якія праз адсутнасьць супраціву з боку каралеўскіх войскаў часам маглі зайсьці нават вельмі далёка ў напрамку Падляшша. Іх мэтай не была барацьба з харугвамі Палубінскага ці Чарнецкага, але толькі далёкая разьведка, а пры нагодзе рабаваньне мясцовага насельніцтва і помста яму за дапамогу, аказаную войскам разьезду рускага ваяводы, і запалохваньне ад чарговых спробаў стаць на баку каралеўскіх войскаў. Выразна пісаў пра гэта да Б. Радзівіла Ян Мяжэнскі: *«Тыя, што перад ім [Хаванскім. — Заўв. Аўт.] сякуць, паляць і людзей у палон бяруць без ніякай літасьці, supplicando [падазраючы], што шляхта і сяляне навялі разьезд рускага ваяводы на разьмешчаных у Ваўкавыску маскалёў»*[70]. Цяжка меркаваць, каб царскі вайскаводца, валодаючы ў той час вельмі аслабленай арміяй, наважыўся атакаваць галоўныя і большыя каралеўскія сілы над Падляшшам.

---

66 S. Czarniecki do A.H. Połubińskiego, b.m. 4 V 1660. BRacz. № 76. S. 75; J. Mierzeński do B. Radziwiłła, Gdańsk 14 V 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 9646/II. S. 55; Chrapowicki. S. 238—239.

67 Respons od Komisarzy do I.A. Chowańskiego, Mińsk 8 V 1660. BCzart. 154. S. 75—76.

68 Ibid.

69 A.M. Sakowicz do A.H. Połubińskiego, z Strzelców 11 V 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 13739. S. 47.

70 S. Czarniecki do A.H. Połubińskiego, Kozierady 8 V 1660. BRacz. № 76. S. 76; J. Mierzeński do B. Radziwiłła, Gdańsk 14 V 1660. AGAD. AR. Dz.V. № 9646/II. S. 55.

Ажыццяўленьне такога намеру магло лёгка закончыцца згубай маскоўскага аддзелу, што для арміі, якая стаяла пад Ляхавічамі, магло мець вельмі небясьпечныя наступствы. Аднак перш чым непадалёк ад Падляшша зьявіліся якія-небудзь маскоўскія аддзелы, туды дайшла навіна, няспынна перабольшваючыся, пра набліжэньне вялікіх войскаў Хаванскага. Сярод спалоханых жыхароў гэтых зямель, якія ўжо двойчы зьведвалі маскоўскія напады, гэтыя пагалоскі выклікалі сапраўдны жах. З вуснаў у вусны перадаваліся гэтыя перабольшаныя страхам навіны, паводле якіх непрыяцеля бачылі ўжо далёка ў межах Падляшша. Храпавіцкі, будучы ў гэтых ваколіцах, занатаваў інфармацыю, паводле якой у канцы красавіка і пачатку траўня маскоўскія войскі зьявіліся ў Заблудаве, Зэльве, на Нарве. Аднак хутка наступныя зьвесткі, якія даходзілі да яго, абвяргалі ранейшыя данясеньні[71]. Маскоўскія аддзелы так жа нечакана адышлі на ўсход, як і зьявіліся, пакідаючы за сабою папялішчы, руіны і спалоханых жыхароў ваколіц Мсьцібава, Ваўкавыску, а таксама Падляшша, якія яшчэ доўгі час будуць баяцца чарговага надыходу жахлівага князя.

Паніцы паддалося ня толькі простае насельніцтва. Паддаўся яму і палкоўнік Самуль Кміціч, які ўзначальваў сканфэдэраваныя літоўскія войскі. Даведаўшыся пра прыбыццё ў Мсьцібаў маскоўскіх войскаў, ён быў упэўнены, што тыя маюць намер ударыць на раскіданыя па паўночным Падляшшы і Мазоўшы літоўскія харугвы. Таму 11 траўня ён паслаў з Ломжы харугвам, якія стаялі лягерам у ваколіцах, ардынансы з наказам сабрацца на 14 траўня ў лягеры пад Замбровам[72]. Таксама Чарнецкі папярэджваў Палубінскага, каб той сабраў свае расьсеяныя адзінкі, напэўна, баючыся, каб не паўтарылася іх параза, як два месяцы таму. Папярэдзіў таксама Ярмаловіча і Русецкага, якія блякавалі Берасьце[73]. Трывожныя плёткі дайшлі нават да Гданьску, у якім, як згадваў у лісьце ад 14 траўня Ян Мяжэнскі, пачалі казаць пра поўнае зьнішчэньне каралеўскіх войскаў на Падляшшы.

Польскія і літоўскія камандзіры, якія стаялі на Падляшшы і Мазоўшы, не чакалі пасыўна зьяўленьня небясьпекі. Паводле сьведчаньня Яна Пасэка, супраць маскоўскіх войскаў былі адпраўленыя значныя сілы пад кіраўніцтвам Мікалая Скшатускага, якія мелі заданьне падысьці блізка пад самыя Ляхавічы[74]. Ян Мяжэнскі 14 траўня паведамляў, што з кароннага войска, а значыць, з дывізіі Чарнецкага было паслана 12 харугваў пад камандаваньнем Уладыслава Скарашэўскага, паручніка казацкай харугвы кароннага крайчага Вацлава Ляшчынскага, і 18 літоўскіх харугваў пад камандаваньнем літоўскага падстолія Марцыяна Аляксандра Агінскага. Такая значная колькасьць літоўскіх адзінак магла быць прадыктаваная імкненьнем забясьпечыць належную сілу групе, скіраванай на выправу. Напэўна, у большай ступені гэта было зьвязана з сытуацыяй літоўскага войска, якое знаходзілася ў канфэдэрацыі, і нацiскаў гетмана П. Сапегі з мэтай схіліць наяўныя адзінкі да ўступленьня ў яе. З другога боку, адданы каралю Палубінскі, якога падтрымліваў Чарнецкі, надалей прыкладаў намаганьні з мэтай адарваць харугвы ад канфэдэрацыі. У гэтай сфэры ён дасягнуў вялікіх посьпехаў і пад канец красавіка адарваў больш за трыццаць харугваў. У падобным духу дзейнічаў Агінскі, які быў праціўнікам канфэдэрацыі і дзякуючы ахвотнай дапамозе Чарнецкага здолеў адвесьці харугвы свайго палка, а таксама шмат іншых ад распачацьця бунту[75]. Напэў-

[71] Chrapowicki. S. 238—240.

[72] Пяць ардынансаў Кміціча пяці харугвам ад 11 V 1660: AGAD. AR. Dz. V. № 6873. S. 5—13.

[73] S. Czarniecki do A.H. Połubińskiego, Kozierady 8 V 1660. BRacz. № 76. S. 76.

[74] Pasek. S. 120—124.

[75] K. Pac do B. Radziwiłła, Gdańsk 5 V 1660. Тамсама. № 11208/II. S. 220, M. Ogiński do A.H. Połubińskiego, b.m. 13 V 1660. Тамсама. № 10718. S. 5; B. Olszewski do B. Radziwiłła, Kiersnów 30 V 1660. Тамсама. № 10816. S.155; Rachuba A. Konfederacja... S. 70—71.

на, каб уберагчы сьвежыя адзінкі ад уплыву Сапегі і канфэдэратаў, Палубінскі і рускі ваявода наважыліся адправіць іх у далёкі разьезд. Магчымы посьпех мог толькі ўмацаваць іх апазыцыю да вялікага гетмана і адпаведна паўплываць на тыя адзінкі, якія заставаліся ў канфэдэрацыі. Іншай мэтай было, напэўна, сабраць у шэрагі тых жаўнераў, якія ў выніку бязьдзейнасьці канфэдэрацыі і сварак вайскаводцаў паддаваліся паступовай дэмаралізацыі і пачыналі бадзяцца па Падляшшы, Мазоўшы і нават Люблінішчыне, нападаючы на шляхецкія двары, вёскі і мястэчкі. Рабуючы іх, дапускаючы самыя розныя злоўжываньні і жорсткасьці на гэтых тэрыторыях, яны ператвараліся з абаронцаў у жах для мясцовага насельніцтва. Скаргі дасягалі двара, а кароль даручаў камандзірам, каб супрацьдзейнічаць гэтаму, зьбіраць жаўнераў у лягер і быць гатовымі да маршу супраць ворага[76]. Зробленыя Палубінскім і іншымі афіцэрамі захады дазволілі мабілізаваць значную колькасьць адзінак на супольныя з Чарнецкім травеньскія заганы да зямель, кантраляваных маскоўскімі разьездамі. Аднак Пасэк, які ня надта любіў ліцьвінаў, ня згадваў пра іх удзел у разьезьдзе.

Адпраўленыя такія значныя сілы ня здолелі злавіць ворага падчас ягонай зьнішчальнай экспэдыцыі. Перш чым яны прыйшлі ў раён дзеяньня высланых Хаванскім войскаў, тыя ўжо пасьпелі, спустошыўшы землі ў раёне Мсьціслава і Ваўкавыску, адступіць у бок свайго лягеру пад Ляхавічамі. Дзеяньні польска-літоўскіх сілаў абмежаваліся назіраньнем за адыходам непрыяцеля з гэтых зямель, ачышчэньнем іх ад больш дробных маскоўскіх аддзелаў, якія свавольна там лютавалі. Найбольшы посьпех быў дасягнуты 12 траўня ў Пясках на рацэ Зальвянцы, крыху на поўнач ад Ваўкавыску. Там супольны разьезд натрапіў на харугвы, складзеныя зь літоўскай шляхты, нанятай на маскоўскую службу здраднікам, князем Геранімам Горскім-Друцкім. Сам ён у гэтыя дні на даручэньне Хаванскага вэрбаваў у недалёкім Слоніме казацкую харугву. Горскі разам са сваімі людзьмі даўся моцна ў знакі мясцовай шляхце. Яны нападалі на маёнткі, славіліся рабункамі і гвалтамі[77]. Яны былі засьпетыя зьнянацку нечаканай атакай каралеўскіх войскаў і цалкам разгромленыя. Шмат шляхты з-пад камандаваньня Горскага трапіла ў палон[78]. Пра гэтае здарэньне, цытуючы ліст Чарнецкага, інфармаваў М. Пражмоўскі Ю. Любамірскага: *«Піша мне [Чарнецкі. — Заўв. Аўт.], што ягоны разьезд, які паслаў да Ляхавічаў, добра справіўся, зьнішчылі харугву паўтараста коней, якую нанялі былі на імя царскае са шляхты літоўскай Ваніловічы, злоўленыя і самі. Рэшту гэтых гультаёў выкасіла шабля. Пытаецца і дакладае асабліва Вашамосьць пан, што зь імі робіць Кароль Ягамосьць... Відаць, павінны мець нейкія пратэкцыі гэтыя страшэнныя лотры, але такое даю пра іх сьведчаньне, што гэта былі найгоршыя бунтаўнікі шляхты і depraedatores [грабежнікі] шляхецкіх дамоў, касьцёлаў, горшыя самі за маскалёў»*[79]. Але Хаванскі не намерваўся пакідаць бескарана такой вялікай дзёрзкасьці і паслаў значныя сілы ў пагоню за харугвамі, якія адступалі. Яны здолелі дагнаць 14 траўня пад Нарвай разьезд каралеўскіх войскаў і крыху патузаць іх заднюю варту. Нягледзячы на гэта, удалося шчасьліва дабрацца да лягеру, а такі значны посьпех і вялікая колькасьць прыведзеных палонных вельмі падмацавалі мараль войскаў, што стаялі на Падляшшы[80].

---

[76] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Gdańsk 22 IV 1660. LvNB. F. 103. № 1743.

[77] K. Zwiartowski do J. Mierzeńskiego, Słuck 12 V 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 18836. S. 73—74; Uniwersał Jana Kazimierza na dobra po zdrajcy Teodorze Horskim, Warszawa 19 V 1660. Тамсама. Dz. II. № 1425.

[78] Chrapowicki. S. 242; Łoś. S. 92.

[79] M. Prażmowski do J. Lubomirskiego, b.m.d.[po 20 V 1660]. BPAN Kr. № 1065. S. 3—4. «Ваніловічы» — гэта, відаць, Вайніловічы, шляхта Навагрдзкага павету, якая нанялася ў гэтую харугву Горскага.

[80] Łoś. S. 49; Pasek. S. 124—126.

У чарговыя дні разьезды абодвух бакоў надалей падбіраліся блізка да праціўніка. Аднак Пшыбароўскі, які знаходзіўся ў разьмешчаных паміж Берасьцем і Слонімам Сельцах, паведамляў, што ў другой палове траўня значна зьмалела далечыня маскоўскіх разьездаў. Калі ў пачатку траўня яны дасягалі да Гарадку каля Заблудава і Крынак, то потым абмежаваліся толькі да пранікненьня ў ваколіцы Слоніму і Косава, што каля 40 км на поўдзень. Тлумачыў гэта асаблівым ростам пагрозы войску Хаванскага з боку арміі Аскіркі[81]. Напэўна, гэта была адна з праўдзівых прычын, якія ўпісваліся ў агульнае аслабленьне ў той пэрыяд царскіх войскаў пад Ляхавічамі. Больш значныя падмацаваньні да іх яшчэ не дайшлі, таму Хаванскі мусіў берагчы сілы. Перад магутнымі каралеўскімі разьездамі ён адмовіўся ад змаганьня зь імі і абмежаваўся толькі высылкай чатаў у бок Слоніму, адкуль чакаў чарговых польскіх і літоўскіх разьездаў, і нават назіраньня наступу праціўніка.

З-пад увагі вайскаводцы не выпадала таксама Піншчына, якая знаходзілася на недалёкай адлегласьці ад ягонага лягеру. Разам зь Пінскам гэта быў прастор адносна свабодны ад абсягу маскоўскіх наездаў. Затое яму пагражалі напады з боку Турава казацкіх ватагаў, якія найчасьцей складаліся зь мясцовага плябейскага, а таксама шляхецкага насельніцтва. Маскоўская небясьпека істотна павысілася, калі Хаванскі зьявіўся ў Навагрудчыне. Ягоныя разьезды пачалі ўжо ў пачатку сакавіка дасягаць Хомску над ракой Ясельдай. Харужы Пінскага павету Базыль Орда некалькі разоў заклікаў шляхту, каб тая зьбіралася ў Моталі. Аднак гэта не прынесла вынікаў нават тады, калі да павету дайшоў каралеўскі заклік. Сапраўдная пагроза ўзьнікла ў сярэдзіне траўня, калі дробныя аддзелы Хаванскага зьявіліся ў ваколіцах Лагішына, што каля 30 км на поўнач ад Пінску, і спалілі там некалькі вёсак, а іх жыхароў пазабівалі. Найгоршая была навіна, што маскалі шукалі броду на Ясельдзе, які ім павінны былі паказаць сяляне. Адразу пасьля гэтага зьявілася панічная навіна, што з-пад Ляхавічаў зьбіраецца вырушыць на Пінск трохтысячны варожы аддзел. Шляхту зноў заклікалі сабрацца на 14 траўня. Аднак нападу войскаў Хаванскага на гэтыя землі не адбылося. З боку Піншчыны нічога не пагражала і войскам, якія штурмавалі Ляхавічы, паколькі тамтэйшая шляхта, сама страшэнна напалоханая, не праяўляла ніякай ваяўнічасьці і мела досыць уласных клопатаў з нападамі казакоў і так званых лесуноў — бандытаў, якія хаваліся ў лесе. Канчаткова гэтыя пагрозы спраўдзіліся, калі 4 чэрвеня з боку Турава і Мазыра адбыўся вялікі наезд казакоў, якіх падтрымлівалі маскоўскія жаўнеры. Шляхта колькі разоў адбівала іх атакі, аднак урэшце Пінск быў узяты, абрабаваны і спалены, а шмат жыхароў было забіта[82].

Актыўнасьць польска-літоўскіх войскаў нарастала ў гэты пэрыяд ня толькі на адрэзку дзейнасьці харугваў Чарнецкага і літоўскіх. На працягу даўжэйшага часу яны блякавалі таксама Берасьце. Маскоўская залога пасьля адыходу Хаванскага праяўляла пэўную актыўнасьць, робячы вылазкі з гораду і зьнішчаючы навакольныя землі. Пасьля зьяўленьня ў пачатку сакавіка ў гэтых раёнах значных каралеўскіх войскаў, яны знаходзіліся ва ўсё цясьнейшай блякадзе. Аслабла таксама яе сіла, хутчэй за ўсё таму, што пэўная яе частка, пакліканая Хаванскім, адышла да галоўных сілаў пад Ляхавічы. Нягледзячы на гэта, блізкае суседзтва так далёка прасунутай маскоўскай пляцоўкі, якая магла стаць апорным пунктам для чарговых наездаў, прымушала польскіх і літоўскіх камандзіраў зрабіць захады, скіраваныя прынамсі на яе поўную блякаду. У сакавіку П. Сапега скіраваў пад Берасьце значныя сілы сваёй пяхоты і драгуноў пад камандаваньнем ротмістра Канстанціна Ярмаловіча, а асабліва загадаў яму пільнаваць недалёкі Воўчын, у якім знаходзіліся значныя запасы харчоў, сабра-

[81] S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Sielce 19 V 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 12561. S. 76.
[82] AVAK. T. XXXIV. № 127, 128, 129. S. 142—144. № 131. S. 145—146.

ныя яшчэ Масквою. У дашчэнту зьнішчанай ваколіцы валоданьне ім мела вялізнае значэньне[83].

Асабліва адзначаўся ў дзеяньнях пад Берасьцем добраахвотнік ротмістар Стэфан Русецкі. Ён згуртаваў пры сабе значную колькасьць людзей, часта зь вельмі падазронай рэпутацыяй, а таксама шмат бадзяжных аддзелаў былых казакоў. У пачатку красавіка яму і іншым падобным адзінкам загадалі зьбірацца пад Берасьцем. Там, напэўна, яго падтрымлівалі літоўскія харугвы, між іншым, берасьцейскага судзьдзі Станіслава Бабраўніцкага. На іх чале Русецкі пасьпяхова блякаваў маскоўскую залогу. Яго людзі спрабавалі нават прабіцца ў горад і замак. У ноч з 6 на 7 траўня яны нечакана ўварваліся ў Берасьце, забілі пэўную колькасьць маскоўскіх жаўнераў і выкралі ў тамтэйшай залогі коней і быдла. Іх выгнала з гораду толькі атака маскоўскіх жаўнераў з замку. Падобныя спробы паўтараліся і ў наступныя дні. Урэшце, змардаваная залога спаліла горад і адступіла ў Берасьцейскі замак. Хоць Русецкі меў у распараджэньні восем аддзелаў, цяжка было меркаваць, што на чале сваіх людзей ён спакусіцца на яго здабыцьцё. Яны не былі прыдатныя нават да правядзеньня штурмаў і рэгулярнай аблогі і хутка пасьля першага посьпеху зазналі адчувальную паразу, нанесеную ім вылазкай з аточанага замку. Дзеяньні Русецкага пад Берасьцем войска добра запамятала, дамагаючыся пазьней яго ўзнагароды. Інакш згадвала ягоных людзей ваколічная шляхта, вінавацячы яго ў дзікіх эксцэсах і тым, што дзеяньнямі супраць Берасьця ён мог справакаваць Хаванскага на чарговы наезд на гэтыя землі[84].

Усё большая небясьпека пачынала пагражаць маскоўскаму панаваньню вакол Вільні, Коўна, Горадні, Чадосаў таксама з боку моцнай групоўкі войскаў левага крыла, якое заставалася пад камандаваньнем М.К. Паца ў Курляндыі і Жамойці. Іх дзеяньні супраць царскіх войскаў сталі асабліва адчувальнымі пасьля заключэньня 3 траўня міру са Швэцыяй. Вызваленая жамойцкая дывізія распачала пераносіць свае пазыцыі ў ваколіцы ракі Сьвятой, якая надалей заставалася прызнаванай маскоўскімі ваяводамі мяжою паміж землямі пад літоўскім кантролем і заваяванымі царом. На ёй рыхтаваліся масты, а аддзелы Паца рабілі вылазкі за гэтую раку, забіраючы харчы. Маскоўскі віленскі ваявода Даніла Мышэцкі бездапаможна глядзеў на посьпехі ліцьвінаў, ня маючы дастатковa сілаў, каб іх спыніць. Паводле ягоных лістоў да цара на мяжы красавіка і траўня, у Вільні ён меў крыху больш за 600 жаўнераў. Да таго ж гарадзкія фартыфікацыі былі ў благім стане, а адзіным месцам, якое прыдавалася да супраціву ў выпадку атакі рэгулярных войскаў жамойцкай дывізіі, быў ніжні і верхні замак. У сярэдзіне траўня ён прасіў дапамогі ў Хаванскага, але яе не атрымаў. Затое да яго даходзілі з-пад Ляхавічаў шматлікія і настойлівыя патрабаваньні прыслаць чарговых жаўнераў, амуніцыю і харчы. У пачатку чэрвеня ліцьвіны ўжо цалкам авалодалі ваколіцамі Вільні, так што не было магчымасьці адпраўляць з гораду пасланцоў з навінамі[85].

Вільня найбольш цікавіла літоўскія харугвы. Была сталіцай, а спакуса яе заняцьця тым большай, што разыходзіліся чуткі, што там стаіць толькі 200 царскіх жаўнераў. Акрамя таго, мяшчанам было досыць цьвёрдага і жорсткага панаваньня Мышэцкага, і яны былі схільныя аказаць дапамогу літоўскім войскам. Яны наладзілі патаемнае пагаднень-

[83] Uniwersał P. Sapiehy do K. Jarmołowicza, Dęblin 28 III 1660. Ks. Gr. Trocka 1660—1661. VUB. Fond 7—3 /5957. K. 48; таксама ліст ад 3 IV 1660. Тамсама. K. 49.

[84] AMG. T. III. № 86. S. 85; K. Pac do M.K. Paca, Gdańsk 12 IV 1660. BCzart. 153. S. 642; S. Czarniecki do A.H. Połubińskiego, Kozierady 8 V 1660. BRacz. № 76. S. 76; Instructia Wielmożnemu... 9 XII 1660. AGAD. AR. Dz. II. № 1429; S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Sielce 20 IV 1660. Тамсама. Dz. V. № 12561. S. 73, таксама ліст ад 19 V. S. 77.

[85] AMG. T. III. № 55. S. 62; № 91. S. 91; № 94/1. S. 93.

не з палкоўнікам зь левага крыла Казімерам Даўмонтам-Сясіцкім, які стаяў на чале некалькіх харугваў на поўнач ад гораду ў Мусьніках. Дзякуючы атрыманай інфармацыі ён падышоў патаемна на золку 9 траўня на чале толькі васьмі харугваў пад горад. Па раней падрыхтаваных драбінах жаўнеры забраліся на яго муры і выразалі ў брамах варты, якія нібыта былі п'яныя. Усё адбывалася з захаваньнем як мага глыбейшай цішы. Пры дапамозе мяшчан, якія клалі кладкі на равах і праводзілі людзей Сясіцкага, удалося незаўважна зайсьці пад самыя гарадзкія пляцы, дзе іх урэшце заўважылі варожыя варты. Толькі тады дайшло да бою і абмену агнём. Усяго ўдалося забіць каля 150 маскоўскіх жаўнераў, вызваліць частку вязьняў і палонных, а таксама ўзяць у няволю некалькі значных афіцэраў з рускай і літоўскай шляхты, якія служылі цару, у тым ліку і Рамана Аскірку. Потым ліцьвіны рушылі на замак, але ў гэты момант аслабла напружанасьць дзеяньня, бо значная частка жаўнераў кінулася рабаваць і піць. У выніку засьпетыя цалкам зьнянацку маскалі асьтылі ад пярэпалаху і, нападаючы з замку, змаглі адбіць атаку ліцьвінаў, якія сыходзілі з гораду, пакідаючы ў ім вялікую колькасьць сваіх ап'янелых ад алькаголю таварышаў. За спробу захапіць горад найбольш заплацілі ягоныя мяшчане і духавенства, якое там знаходзілася. Мышэцкі разьвязаў чарговую хвалю жорсткіх рэпрэсій, якая каштавала жыцьця многім зь іх[86].

Атака на Вільню зрабіла вялікае ўражаньне на ўсю Літву. Зьявіліся чуткі, што горад быў заняты літоўскімі войскамі, і часам згадвалася, што кіраванымі князем Багуславам Радзівілам. Згодна з праўдай цару даносілі, што на землях, якія апынуліся ў межах літоўскіх харугваў, уся віленская шляхта, якая калісьці паклялася ў вернасьці цару, і мяшчане змаўляліся з каралеўскімі камандзірамі і пераходзілі на іх бок. Сам Хаванскі прызнаваў, што віну за гэта нясе Мышэцкі, паколькі праз сваю хцівасьць бязьлітасна рабаваў і мучыў шляхту і мяшчан, адштурхоўваючы іх тым самым ад вернасьці цару[87]. У наступныя тыдні ўзнавіліся атакі літоўскіх жаўнераў, а таксама шляхты з-за ракі Сьвятой у бок Віленшчыны і Браслаўшчыны. З дня на дзень чакалі іх у Мядзеле. Гэта прымушала царскіх камандзіраў зьвяртаць на гэтыя абшары ўсё большую ўвагу[88]. Гэта станавілася ўсё больш небясьпечным для маскоўскіх войскаў у Літве, паколькі перахоп ліцьвінамі кантролю над землямі паміж Коўнам, Вільняй і Дзьвіной ставіў пад пытаньне магчымасьць дастаўкі з Полацку якой-небудзь вайсковай дапамогі ці забесьпячэньня ў гэтыя два гарады, а таксама Хаванскаму, які вёў змаганьні крыху далей. Гэтае заданьне станавілася ўсё больш цяжкім і небясьпечным. Ужо ў канцы траўня адчуваліся вельмі балючыя наступствы зьменаў у сытуацыі гэтых зямель, а арганізаваныя зь цяжкасьцю вялікія дастаўкі часта ня мелі шанцаў дасягнуць да месца прызначэньня. 27 траўня з Полацку паслалі аддзел 150 жаўнераў, які эскартаваў значную колькасьць забесьпячэньня. Ідучы празь Вільню, яны павінны былі падмацаваць армію Хаванскага пад Ляхавічамі. Аднак 10 чэрвеня гэты аддзел быў заатакаваны непадалёк ад Вільні ліцьвінамі, вельмі вялікія сілы якіх зьявіліся ў ваколіцах. Расейцы былі вымушаныя адступіць да Глыбокага, а з Полацку напісалі цару, што калі Хаванскі хоча гэтых запасаў, то мусіць прыслаць па іх сваіх людзей. Вайскаводца, які стаяў пад Ляхавічамі, здаваў сабе справу зь небясьпекі, якая падсьцерагае транспарт, што ішоў да яго. На гэты раз ён паслаў аддзел, які павінен быў пераняць дастаўку забесьпячэньня. У ваколіцах Вільні ён сутыкнуўся зь людзьмі

[86] AMG. T. III. № 79. S. 80; NN (S. Oborski) do B. Radziwiłła, b.d.m. (maj 1660). VUB. Fond 4 (A—212). № 16671; K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 27 V 1660. BPANKr. 4011. K. 59v; Contenta listu ze Żmudzi de data 4 maj (1660). AGAD. AR. Dz. V, неўпарадкаваныя паперы; Protestacja Mikołaja Dołmat Isajkowskiego. Ks. Gr. Trocka 1660—1661. VUB. Fond 7—3/5957. K. 95—95v; Gazette de France, z Królewca 18 V 1660.

[87] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 21 V 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 212; AMG. T. III. № 79/1. S. 80.

[88] AMG. T. III. № 55/4. S. 62; № 99/1. S. 96.

Сясіцкага, страціўшы некалькі чалавек, і ўсё ж дайшоў да Глыбокага, прыняў транспарт і скіраваўся зь ім пад Ляхавічы. Аднак гэты канвой ніколі не дайшоў да жаўнераў, якія асаджалі Ляхавічы. У дарозе эскорт даведаўся пра паразу іхняга вайскаводцы і быў вымушаны адступаць[89].

У гэтых раёнах таксама дзейнічалі розныя шляхецкія партыі. Выкарыстоўваючы паўсюднае замяшаньне, шмат зь іх займалася звычайным бандытызмам і разбоем, найбольш ахвотна рабуючы безабаронныя шляхецкія двары. Прыкладам можа быць ватага, сабраная ў Лідзкім павеце Мікалаем Няцецкім, колькасьцю 150 чалавек, у тым ліку і сялянаў. На яе чале ішоў у пачатку 1660 г. за маскоўскімі войскамі Хаванскага праз Лідзкі і Гарадзенскі павет і нападаў на вёскі і мястэчкі, якія дашчэнту спустошаў, і рабаваў тое, што яшчэ засталося па расейцах. Падчас нападаў ягоныя людзі ўдавалі маскоўскіх жаўнераў і гарлапанілі па-расейску. Скончыўшы свой рабаўніцкі рэйд, частку здабычы ён падзяліў паміж сваімі людзьмі, а рэшту забраў сабе і зьехаў да сябе ў Лідзкі павет[90]. Існавалі і такія, якія рабілі атакі на маскоўскія аддзелы, што там праходзілі. На чале адной з такіх партый, якая налічвала больш за 100 чалавек, стаяў Фэрдынанд Рор, беліцкі арандатар. Ён дзейнічаў паміж Лідай і Ваўкавыскам. У першыя дні чэрвеня яму ўдалося зьнішчыць, хутчэй за ўсё пад Зэльвай паміж Ваўкавыскам і Слонімам, маскоўскі аддзел з Горадні, які вёз гарматы і порах у лягер пад Ляхавічамі. Ён захапіў такое патрэбнае Маскве ваеннае абсталяваньне, а ўзятых царскіх жаўнераў загадаў забіць. Разьюшаны Хаванскі чарговы раз паслаў у ваколіцы Ваўкавыску, а таксама ў Ліду карныя аддзелы, загадваючы ім зьнішчыць перш за ўсё Беліцу Рора, высечы мясцовую шляхту і няшляхту і спаліць іх маёнткі. Своечасова папярэджанае насельніцтва зdолела, аднак, уцячы і пахавацца ў лясной глушы. Затое яго маёнткі былі дашчэнту зьнішчаныя, а засьпетыя на месцы падданыя выбітыя. Моцна занепакоены князь таксама загадаў пільна назіраць за ваколіцамі Вільні, абяцаючы сваю дапамогу тамтэйшай залозе, калі б там актывізаваліся дзеяньні літоўскіх войскаў[91].

Цяжкія хвілі перажывала і навагрудзкая шляхта, якая няспынна сядзела ў трывозе пад бокам Хаванскага. Увесь час сярод маскоўскіх камандзіраў, асабліва ў меру пагаршэньня становішча іх войскаў пад Ляхавічамі, была задума перабіць яе, напэўна, каб ліквідаваць пагрозу яе выступленьня ў выпадку нейкіх больш сур'ёзных няўдач. Колькі ў гэтых пагрозах было праўды, невядома. Найбольш на такім рашэньні настойвалі наняты з рускай шляхты камандзіры, што, як Флярыян Слонскі, перайшлі на царскую службу. Яны найбольш папярэджвалі Хаванскага наконт магчымай здрады з боку нядаўна прысяглай навагрудзкай шляхты і раілі жорстка расправіцца зь ёй. Аднак вайскаводца не дазволіў гэтага, але запатрабаваў, каб шляхта станавілася на паспалітае рушаньне пры ягоным баку. На шчасьце, перш чым да гэтага дайшло, пачалося наступленьне каралеўскіх войскаў[92].

Становішча войскаў Хаванскага пад Ляхавічамі ў траўні і чэрвені 1660 г. усё больш пагаршалася. Два праведзеныя штурмы не прынесьлі ніякіх вынікаў, а толькі сур'ёзныя страты, якія маглі наклікаць на маскоўскага камандзіра вялікую няміласьць цара. Надалей сур'ёзнай і ўсё больш важнай праблемай заставалася справа забесьпячэньня войска харчамі. Зь вялікай цяжкасьцю яго дастаўлялі з далёкіх ваколіц Барысава, Смаленску і з-пад Полацку, адкуль яго прывозілі полацкія купцы, якія, забясьпечва-

[89] Тамсама. № 59. S. 66—67; № 155. S. 139.

[90] Protestacja Ferdynanda Rora na Mikołaja Nieciеckiego, Troki 20 II 1660. Ks. Gr. Trocka 1660—1661. F. 7—3/5957. K. 7—9.

[91] S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Jasiewicze 7 VI 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 12561. S. 81; P. Ror do B. Radziwiłła, b.m.d. (VI/VII 1660). Тамсама. № 13277. S. 87; Maskiewicz. S. 300—301.

[92] Maskiewicz. S. 301—302.

ючы раней маскоўскія войскі, што ваявалі ў Інфлянтах, зналіся на гэтым і добра ведалі, што ім найбольш патрэбна[93]. Аднак заўсёды была пагроза, што транспарт абрабуюць ці ён патрапіць у рукі разьездаў, якія рабілі вылазкі зь Нясьвіжу. Без дастаўкі харчоў не было чаго марыць пра здабыцьцё Ляхавічаў, калі войска разыходзілася па ваколіцы ў пошуках ежы, ператвараючыся ў звычайных злодзеяў. У дадатак, усё большай небясьпекі трэба было чакаць з боку каралеўскіх войскаў, сабраных на Падляшшы і ў Жамойці, тым больш, што ў пачатку траўня быў заключаны мір паміж Рэччу Паспалітай і Швэцыяй. У гэтай сытуацыі Хаванскі дамагаўся, каб цар як мага хутчэй прыслаў вайсковыя падмацаваньні і забесьпячэньне для сваіх аддзелаў, паколькі нараkaў на адсутнасьць належнай колькасьці жаўнераў у сваёй арміі. Яго стараньні хутка прынесьлі досыць значны плён. Былі выдадзеныя адпаведныя царскія ўказы, якія загадвалі скіраваць пад камандаваньне Хаванскага значныя сілы з Дняпра і Дзьвіны. Пра падрыхтоўку і падцягваньне маскоўскіх падмацаваньняў, а таксама казацкіх палкоў з Украіны для царскага вайскаводцы пад Ляхавічамі было вядома і сярод палякаў і ліцьвінаў. Гэта выклікала іх зразумелы непакой і ўказвала на неабходнасьць як мага хутэй распачаць наступ супраць войскаў Хаванскага, перш чым дойдзе да небясьпечнага ўзмацненьня яго арміі[94]. У траўні і чэрвені ў ягоны лягер пачалі прыбываць чаканыя вайсковыя аддзелы. Маючы адпаведны царскі ўказ, Хаванскі загадаў у пачатку траўня здольнаму вайскаводцу Сямёну Зьмееву, што стаяў пад Магілёвам, каб ён неадкладна злучыўся зь ягоным войскам. Той, атрымаўшы ліст, адразу сабраў свае сілы і разам з дробнымі падмацаваньнямі зь Віцебску, Смаленску, Быхава павёў пад Ляхавічы каля 2,5 тыс. жаўнераў. Ён прыбыў туды 6 чэрвеня 1660 г. Па дарозе непадалёк ад Слуцку ён дабраўся да войскаў Аскіркі, Мурашкі і Францкевіча. Здаецца, што літоўскія вайскаводцы намерваліся стрымаць надыход Зьмеева. Аднак яны былі засьпетыя зьнянацку непрыяцелем, які прадзёрся празь лясы і з усіх бакоў накінуўся на іх аддзелы. Разьбітыя ліцьвіны пачалі ўцякаць у кірунку крэпасьці, дзе спадзяваліся знайсьці ратунак. У пагоні маскалі натрапілі на жыхароў Слуцку, якія, нічога не чакаючы, працавалі на палях пад горадам. Шмат з тых, хто ня здолеў уцячы бліжэй да ўмацаваньняў крэпасьці, расейцы пазабівалі. Толькі магутны гарматны залп з валоў адагнаў непрыяцеля. Уцякаючы, літоўскія жаўнеры нібыта дабраліся да самога Турава. Ад схопленых палонных Зьмееў даведаўся, што разам Аскірка, Мурашка і Францкевіч маюць пад сваім камандаваньнем 2 тыс. чалавек[95].

Войскі, якія прыбылі ў лягер, Хаванскі скіраваў пад Нясьвіж, залога якога ўжо доўгі час давалася яму ў знакі, пераразаючы дастаўку правіянту і падыходзячы пад самы лягер пад Ляхавічамі. Раней ён пасылаў пад гэты замак разьезды, якія мелі на мэце ня столькі здабыць Нясьвіскую фартэцыю, колькі запалохаць яе залогу. Абаронцы зь лёгкасьцю адбівалі гэтыя выправы. Потым ён паслаў туды князя Восіпа Іванавіча Шчарбатага *«на агледзіны»*[96]. Рэгулярную аблогу распачаў толькі Зьмееў, які, зьявіўшыся пад валамі Нясьвіжу, разьбіў лягер і пасылаў разьезды пад Слуцак, чым асабліва спа-

[93] Гардзееў М. Падчас небяспекі ад Масквы… (Актавая кніга полацкага магістрату за 1656—1657 г. як крыніца па вывучэнні вайны 1654—1667 г.) // Беларускі гістарычны агляд. Т. VI. 1999. Сш. 1—2 (10—11). С. 213.

[94] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 11 V 1660. Тамсама. Dz. V. № 6865/I. S. 203; Komisarze do Jana Kazimierza, Mińsk 11 V 1660. BCzart. 154. S. 106; Jan Kazimierz do Komisarzy, Warszawa 21 VI 1660. BCzart. 154. S. 362.

[95] AMG. T. III. № 61. S. 68—69; NGAB. Fond. 1739. Op. 1. № 2. K. 40; K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 12 VI 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 215; C. Brzostowski do B. Radziwiłła, Mińsk 4 VI 1660. Тамсама. № 1503/I. S. 62.

[96] Тамсама. S. 63.

лохаў яго абаронцаў, якія ня верылі ў магчымасць доўгай абароны Нясьвіжу і з таго моманту з дня на дзень чакалі сваёй чаргі[97].

Апошнія два месяцы перад польска-літоўскім наступам надзвычай цікавыя таксама з пункту гледжаньня перамоваў, якія вяліся паміж каралеўскімі камісарамі і царскімі пасламі. У сярэдзіне красавіка 1660 г. маскоўскія пасы выдатна ведалі зь перадаванай ім інфармацыі, што з дня на дзень трэба чакаць заключэньня міру паміж Рэччу Паспалітай і Швэцыяй. Таму яны прыкладалі вялізныя намаганьні, каб прымусіць каралеўскіх камісараў згадзіцца на вечны мір з Расеяй на царскіх умовах. Яны ціснулі і запалохвалі другі бок. А камісараў нястомна падмацоўвалі ў нязломнасьці лісты, прысыланыя ім з каралеўскага двара. Рабілі гэта і два каронныя камісары, зь якіх С. Сарбеўскі прыбыў у лютым, а Г. Вяжбоўскі ў красавіку. Яны выказвалі іншы пункт гледжаньня на справу перамоваў з Масквою. Яны не былі такі доўгі час, як ліцьвіны, адрэзаныя ад падзеяў у краі і ведалі каралеўскія пляны. Ліцьвіны не падзялялі іх рашучасьці. Бачылі бедства свайго Княства, а адсутнасьць якіх-небудзь посьпехаў, нават рухаў каралеўскіх войскаў, прымушала іх бачыць рэчаіснасьць у самых змрочных фарбах, а адзіны ратунак — у хуткім заключэньні міру з расейцамі. Літоўскія камісары спасылаліся ў гэтым на соймавую інструкцыю і ад рады сэнату, якую атрымалі, ад'яжджаючы на восеньскую камісію. Яна была напісаная ў час трагічнай сытуацыі ў дзяржаве, таму і зьмяшчала шмат уступак расейцам узамен за замірэньне. Пазьней яны пачалі атрымліваць ужо ня соймавыя, а каралеўскія інструкцыі, якія заклікалі да супрацiву і зацягваньня перамоваў. З такімі, але толькі каралеўскімі інструкцыямі прыбылі таксама каронныя камісары. На глебе рознай пазыцыі ў дачыненьні да Масквы ў першай палове красавіка адбыўся востры канфлікт паміж камісарамі, за што пасьпешліва ўхапіўся Хаванскі. Ліцьвіны абвінавацілі палякаў, што тыя прыехалі са звычайнай «ліпай» і інструкцыямі ад караля, якія адлюстроўваюць выключна ягоныя думкі. Яны ж лічаць сябе камісарамі ад сойму і будуць трымацца толькі соймавых інструкцый, а каралеўскіх махлярстваў не намераны нават чуць. Акрамя таго, заявілі, што каралеўскія махлярствы навядуць на Літву канчатковую згубу. У канцы прыгразілі, што калі іх каронныя калегі будуць надалей настойваць на сваёй няўступлівасьці, то яны разам з усёй Літвой папросяць цара, каб той узяў іх пад сваю апеку. Каронныя камісары супакойвалі ліцьвінаў, пераконваючы іх, што яшчэ ня ўсё Вялікае Княства занятае непрыяцелем. Указвалі, што яшчэ ж абараняюцца тры крэпасьці, а кароль рыхтуе дапамогу. А поўныя роспачы ліцьвіны бачылі ўжо ўсю Літву занятую Масквой, бо ў яе руках знаходзілася прымежнае Берасьце[98].

Вельмі магчыма, што пераказ Хаванскага ў значнай ступені драматызаваў усе падзеі. Знаходзячыся ў Менску, ліцьвіны перажывалі спрэчныя пачуцьці. З аднаго боку, было відавочнае бедства іх айчыны, а адсутнасьць так доўга патрабаванай каронная дапамогі выклікала недавер да каралеўскай палітыкі. У красавіку яго распальвалі данясеньні розных праціўнікаў палітыкі двара, пра што самі згадвалі[99]. Асабліва моцныя сыгналы маглі прыходзіць ад Паўла Сапегі, які, будучы ў той час у вельмі дрэнных стасунках з дваром, жорстка крытыкаваў яго палітыку ў дачыненьні да Літвы і, нягледзячы на цьвёрдыя пратэсты Яна Казімера, склікаў віленскую канвакацыю ў Заблудаве, каб самастойна заняцца абмеркаваньнем таго, як ра-

[97] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 12 VI 1660. Тамсама. № 6865/I. S. 215; гл. таксама ліст ад 19 VI. S. 219.

[98] AMG. T. III. № 57. S. 63—64.

[99] Komisarze do Jana Kazimierza, Mińsk 11 V 1660. BCzart. 154. S. 108—109; ліст ад 18 IV. BCzart. 153. S. 688.

таваць сваю айчыну. Абвінавачаньні ў абыякавасьці караля да лёсу Літвы мелі ўжо некалькігадовую традыцыю і дастаткова лёгка ўводзіліся ў вушы сэнатарам і літоўскай шляхецкай масе, якая жадала заканчэньня вайны, а таксама камісарам. Таму такой нэрвовай была іх рэакцыя на каралеўскія лісты і пазыцыю каронных камісараў, якія раілі не ўступаць у імя чарговых абяцаньняў. З другога боку, рашучыя каралеўскія лісты, а таксама паўтораныя запэўненьні наконт канца вайны са Швэцыяй і скіраваньня ўсіх сілаў супраць Масквы прымушалі іх падбадзёрыцца і паверыць палітыцы Яна Казімера[100]. Гэтую веру падмацоўвала відавочная адсутнасьць посьпехаў Хаванскага пад Ляхавічамі і благі стан ягонай арміі. Крызыс настрояў у літоўскіх камісараў мінуў хіба што разам з канцом красавіка. У пачатку траўня атмасфэра паправілася настолькі, што ўсьлед за каронннымі камісарамі яны адкінулі думку пра якія-небудзь уступкі і пачалі выказвацца за перанос спатканьня з царскімі пасламі нават на верасень. Разглаванаму гэтымі задумамі Хаванскаму было зразумела, што камісары маюць на мэце ня што іншае, як зацягнуць час і даць каралеўскім войскам магчымасьць згуртавацца і ўдарыць па расейцаў у Літве. Сам прызнаваў, што каралеўскія камісары былі вельмі схільныя да ўступак, асабліва пасьля прагнаньня ў сакавіку Палубінскага. Іх пазыцыю на вельмі ганарыстую зьмянілі прыбылыя два каронныя камісары. Адзін толькі Глябовіч, які меў тайнае пагадненьне з Хаванскім і царом, супрацьўляўся гэтаму і патрабаваў як мага хутчэй дайсьці да згоды з Масквой, паколькі баяўся, што царскія войскі дашчэнту зьнішчаць Літву. Аднак адзін ягоны голас няшмат значыў у параўнаньні з супрацівам і ўплывам каронных камісараў, паколькі *«ў іх нічога добрага няма, і пакуль Карона Польская не зазнае на сабе шкоды ад тваіх ваенных людзей, і тады ніякай згоды ў польскага караля і ў сэнатараў ня будзе»*[101].

Усе заўважаныя няўдачы і цяжкасьці Хаванскага, усё большы супраціў камісараў, чуткі пра блізкі канец перамоваў Польшчы са Швэцыяй, якія рознымі шляхамі трапілі з Польшчы, навіны пра збор войскаў на Падляшшы і атакі на маскоўскія аддзелы — усё гэта з прагнасьцю ўспрымала мясцовая шляхта. Яна паволі адыходзіла ад першага шоку пасьля зазнаных паразаў і пачынала больш аптымістычна глядзець у будучыню. Яе стаўленьне да Хаванскага станавілася больш рашучым і, здаралася, яму проста казалі, што Вялікае Княства Літоўскае яшчэ не ягонае. Вырашэньне ўсіх гэтых цяжкасьцяў царскі вайскаводца бачыў у хуткай адпраўцы яму вайсковых падмацаваньняў. Тады супраціў і хітрыкі камісараў будуць канчаткова зламаныя, паколькі: *«І хоць пішуць польскія камісары да тваіх гасудара вялікіх і паўнамоцных паслоў, што чыняцца перашкоды пасольскаму зьезду з твайго боку, а ня зь іхняга, усё гэта будзе інačай, калі толькі прыйдуць твае ваенныя людзі з падмацаваньнем да мяне, халопа твайго, і да тваіх ваенных людзей, зьменіцца ў іх думка, хоць каронныя камісары і стануць упарціцца, тады вялікалітоўскія камісары не захочуць больш трываць у такім спусташэньні краёў сваіх ад тваіх ваенных людзей і будуць міласэрнасьці ў цябе прасіць»*[102].

Урэшце месца будучых перамоваў выбралі ў вёсцы Ўпіровічы паміж Менскам і Барысавам. Аднак там сустрэчы не адбылося, паколькі перад наступам польска-літоўскіх войскаў абодвум бакам не ўдалося паразумецца наконт уступных умоваў. На маскоўскія патрабаваньні дапусьціць казакоў да перамоваў як паўнапраўны бок

[100] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Gdańsk 25 III 1660. LvNB. F. 103. № 1741; Rachuba A. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569—1763. Warszawa, 2002. S. 303—309.
[101] AMG. T. III. № 79/2. S. 80—81; Copia Hramoty Chowańskiego pisanej do Cara Moskiewskiego, b.m.d. [IV 1660]. RGADA. F. 389. Op. 2. № 598. K. 182—182v.
[102] Тамсама.

ліцьвіны паставілі як умову згоды патрабаваньне дапусьціць таксама як паўнапраўных паслоў казакоў з боку Выгоўскага. Камісары ведалі, што расейцы ніколі не згодзяцца з такім рашэньнем, паколькі не прызнаюць паслоў ад *«вора»* Выгоўскага. Тады камісары мелі б прычыну не прызнаць казацкіх паслоў ад Хмяльнічэнкі[103]. Гэта няшмат чым дапамагло, паколькі расейцы ўпарта патрабавалі згадзіцца з гэтай умовай, як і з прызнаньнем царскіх тытулаў у тэксьце прысягі. Іншым спосабам, за які хапаліся, каб толькі зацягнуць уступныя перамовы, былі няспынныя справядлівыя і беспадстаўныя прэтэнзіі ў рабунках і перашкодах, якія чыняць людзі Хаванскага, і асабліва ў перахопе імі каралеўскай пошты[104].

11 траўня камісары атрымалі разам з каралеўскім лістом радасную навіну, што ўкладзены мір са швэдамі. Кароль з надзеяй абяцаў цяпер хуткую дапамогу Літве. Інфармаваў таксама, што адразу пасьля канчатковага заканчэньня перамоваў у Гданьску адпраўляецца ў Варшаву, каб там абмеркаваць пляны дзеяньня супраць Масквы. Забараніў ім усялякія ўступкі, паколькі ўжо не было патрэбы адмаўляцца ад правінцыяў узамен за мір[105]. Кароль быў таксама катэгарычна супраць прысутнасьці казацкіх паслоў падчас нарадаў. Яго пазыцыя ў гэтым пытаньні была выразна і найлепш выяўлена ў чэрвеньскім лісьце: *«Калі маскоўскі цар запароскіх казакоў мае за сваіх халопаў, як іх называе, то была б вялікая ганьба наша, каб мы з халопамі мусілі весьці перамовы»*[106]. Камісары павінны былі і надалей зацягваць перамовы, каб даць час дзяржаве і войску на апошнюю падрыхтоўку да распачацьця дзеяньняў супраць Масквы.

У камісараў зьявілася выразная надзея. Яны адказалі каралю, што пастараюцца выканаць ягоную волю. Адразу таксама не прынялі чарговага тэксту прысягі, прысланага ім царскімі пасламі, і патрабаваньня неадкладна дапусьціць казакоў да перамоваў. На шаленства расейцаў, сказалі, што рашэньне наконт гэтага хочуць мець ад караля, падданымі якога ёсьць казакі, паколькі прысягалі яму ў вернасьці ў Шубіне восеньню 1659 г. Паляпшэньне настрою камісараў разам з усё большым супраціваму дачыненьні да маскоўскіх патрабаваньняў ня выпала з-пад увагі Хаванскага. У сярэдзіне траўня ён пагрозьліва заявіў ім, што яны наўмысна не пачынаюць перамоваў, а толькі забаўляюцца п'янкамі і паляваньнямі. Паабяцаў, што не дапусьціць, каб так, як калісьці пад Вільняй, не закончыўшы перамоваў, разьехаліся[107].

Атмасфэру, якая пагаршалася з кожным днём, дадаткова псавалі ў першай палове траўня ўчынкі войскаў Аскіркі, Мурашкі і казацкага правадыра Станішэўскага. Хоць камісарам удалося стрымаць іх ад нападу на маскоўскую залогу ў Менску, абодва літоўскія камандзіры нагналі страчанае, напаўшы 15 траўня на горад Мір. Атаку ўчынілі ўначы з ваколіц Слуцку, і мела яна хутчэй напаўрабаўнічы характар. Засьпелі там зьнянацку каралеўскіх паслоў і царскіх камісараў, якіх заняволілі і адвезьлі ў Нясьвіж, а іх чэлядзь пасеклі. Пры нагодзе дачыста абрабавалі іх багаж і сам горад. Каралеўскія камісары заявілі рашучы пратэст супраць гэтага, сьцьвярджаючы, што праз гэта былі пастаўлены пад пагрозу перасьледу мірскія мяшчане і яны самі, а таксама перамовы, якія абураная Масква магла сарваць пасьля гэтага інцыдэнту. Яны баяліся тады актывізацыі ваенных дзеяньняў зь яе боку і пагрозы асабістай бясьпецы. Таму прасілі Чарнецкага, каб той гарантаваў ахову іх і царскіх паслоў нават ад людзей Аскіркі і Мурашкі.

[103] Komisarze do Jana Kazimierza, Mińsk 18 IV 1660. BCzart. 153. S. 693—694.
[104] Гл.: RGADA. F. 389. Op. 2. № 652 — ліст ад 25 IV [ст. стылю] 1660.
[105] Jan Kazimierz do Komisarzy, Gdańsk 15 IV 1660. Тамсама. S. 674.
[106] Jan Kazimierz do Komisarzy, Warszawa 21 VI 1660. BCzart. 154. S. 361—362.
[107] S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Sielce 19 V 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 12561. S. 78.

Рашучы супраціў камісараў Рэчы Паспалітай у казацкай справе заламаў нарэшце казацкіх прадстаўнікоў на чале з палкоўнікам Васілём Залатарэнкам, якія сядзелі ў Барысаве пад бокам царскіх паслоў. Пад канец траўня яны паслалі каралеўскім камісарам ліст, які сваёй агрэсіўнасьцю і абразьлівым тонам на галаву перавышаў лісты іх маскоўскіх калегаў. Дзівіліся напачатку, што палякі і ліцьвіны ня хочуць міру пасьля трынаццаці гадоў кровапраліцьця і ня могуць зразумець, *«што паколькі ўсе манархі на сьвеце дзякуючы ўсемагутнасьці Божай ажыцьцяўляюць сваю ўладу над дзяржавамі і над сваімі падданымі, так праз волю таго ж Бога паўстае суд і ўлада гэтых манархаў над падданымі. Такім чынам паўстае і паслушэнства падданых сваім манархам, паколькі гэта справа Яго Сьвятой Велічы — каралеўствы і землі ў аднаго манарха або злачыннай Рэчы Паспалітай забраць, а другому манарху, годнаму гэтых дзяржаў праз Сьвяты Суд Божы аддаць»*. Яны тлумачылі камісарам, што іх супраціў у казацкай справе раўназначны з супраціўам волі Божай, паколькі запароскае войска і яго гетман абараняюць старажытную хрысьціянскую рэлігію і цяпер вяртаюцца да свайго законнага айца, якім ёсьць праваслаўны маскоўскі цар. Яны адлучыліся ад Кароны і запэўнівалі, што цяпер няма ніякіх палкоў і аніводнага казака, які б падпарадкоўваўся Польшчы. Паабяцалі таксама, што не прызнаюць ніякіх прысягаў, прынесеных на сойме, паколькі не жадалі *«пад ярмо польскае ісьці»*. Яны паказвалі, што разумеюць польскую гульню на зацягваньне часу і асьцерагалі ад наступстваў такой палітыкі, пагражаючы пад канец ліста, што калі палякі ня хочуць міру, то *«немінуча дойдзе да таго, што Бог, убачыўшы такі канец гэтай камісіі, учыніць сваім судом, што чатырнаццаты год будзе падобны да першага корсунскага ці таго батаўскага»*[108].

Камісарам не засталося адказаць Маскве і казакам нічога іншага, каб не ганарыліся занадта цяпер, калі ім шэнціць. Бо швэдам таксама нязьмерна шэнціла, і яны занялі нашмат больш магутнейшых фартэцый у Кароне, чым іх ёсьць у Літве, *«а ўсё ж нядоўга ім даў Бог з гэтага цешыцца, бо ў выніку нічога не атрымалі, толькі згубу»*. Казакам сказалі, каб на волю Божую не спасыляліся. Бо паколькі Бог дае дзяржавы годным манархам, то чаму даў грэцкія туркам і не вяртае іх хрысьціянам. Аднак прасілі казакоў, каб тыя не лічылі, што нязгода дапусьціць іх паслоў да нарадаў азначае нейкую пагарду да іх. Ня могуць згадзіцца з гэтым толькі таму, што цар так ставіць справу, каб, выкарыстоўваючы казакоў, прымусіць Рэч Паспалітую аддаць яму Ўкраіну і Беларусь[109].

Чэрвеньскія лісты ад караля і з двара аптымістычна паведамлялі пра заключаны са Швэцыяй мір, пра выезд караля ў Варшаву і падрыхтоўку да ўдару на царскія войскі. Дзякуючы ўсяму гэтаму Ян Казімер завяршаў ліст словамі: *«Desperare тады Republica [адчайвацца тады за дзяржаву] ня трэба, але вытрываць гэты параксізм, каб потым цэлы корпус [цела] Рэчы Паспалітай ачуняць мог»*[110]. У прысыланай з двара травеньскай карэспандэнцыі камісараў найбольш падбадзёрыла вестка пра зак-

[108] Posłowie Kozaccy do Komisarzy Królewskich, Borysów 30 V 1660. BCzart. 154. S. 193—197. Адкрыта пагражаючы, казакі ўказалі, што вайна Рэчы Паспалітай з казакамі працягваецца ўжо чатырнаццаты год — з 1648 г., г.зн. ад выбуху казацкага паўстаньня пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага. Нагадалі пра некаторыя цяжкія паразы, якія яны, казакі, нанесьлі палякам у 1648 г. пад Корсунем, дзе зьнішчылі каронную армію і ўзялі ў палон двух гетманаў; і пад Батогам, дзе ў 1652 г. зьнішчылі чарговую польскую армію. Цяпер пагражалі, што калі камісія не распачнецца і ня пойдзе хутка і згодна з воляй іх і цара, то ў гэты чатырнаццаты год вайны паўторацца паразы Рэчы Паспалітай, якія яна зазнала ў ранейшыя гады. — *Аўт.*

[109] Komisarze Królewscy do Posłów Moskiewskich, Mińsk 31 V 1660. Тамсама. S. 200—201; Respons Komisarzy Królewskich na list Posłów Kozackich, Mińsk 31 V 1660. Тамсама. S. 205—210.

[110] Jan Kazimierz do Komisarzy, Gdańsk 3 V 1660. Тамсама. S. 43.

лючэньне міру са Швэцыяй і пра цяжкасьці Масквы ў намаганьнях дабіцца таго самага. Нягледзячы на гэта, яны прасілі, каб кароль з войскам прыбыў як мага хутчэй, паколькі стасункі з маскоўскімі пасламі станавіліся ўсё больш напружаныя.

У дні, якія непасрэдна папярэднічалі наступу польскіх і літоўскіх войскаў, упартасьць абодвух бакоў узрасла яшчэ больш. Каралеўскія камісары заўважылі актывізацыю спусташэньня літоўскіх зямель жаўнерамі цара і выгнаньня тамтэйшага насельніцтва за Бярэзіну ў няволю. Расейцы ўжо ведалі пра заключаны мір паміж Рэччу Паспалітай і Швэцыяй і чакалі ўдару польска-літоўскіх войскаў. Улічваючы, што іх панаваньне на літоўскіх землях пахіснулася, яны забіралі зь яе тое, што найкаштоўнейшае, а значыць, людзей. Гэтым промыслам яны займаліся ўжо ад пачатку вайны ў 1654 г. Такім чынам вялізная колькасьць насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага патрапіла ў глыб Расеі. Забіралі сялянаў, мяшчан, шляхту. Апошняя мела найбольш шанцаў вярнуцца ў рамках абмену ці пазьнейшых перамоваў. Затое тысячы беларускіх і літоўскіх сялянаў засталіся назаўсёды ў глыбі Расеі, пераносячы туды вядомую ім тэхніку землеапрацоўкі ці рамёстваў. Тое самае датычыла натоўпаў мяшчан, сярод якіх была значная колькасьць мастакоў і здольных рамесьнікаў. Асаджаныя ў расейскіх гарадах, яны зрабілі вялікі ўплыў на разьвіцьцё, між іншым, спэцыфічнай формы расейскага барока.

Не заўважаючы абяцаных дзеяньняў сваіх войскаў, камісары спрабавалі стрымаць тэрор маскоўскіх камандзіраў і выгнаньне насельніцтва, палохаючы іх заключаным мірам са Швэдамі, татарскімі войскамі ва Ўкраіне і надыходам вялікіх каралеўскіх войскаў. На іх зьдзіўленьне, гэта не рабіла на маскалёў абсалютна ніякага ўражаньня. Ня ўзьдзейнічала гэта і на маскоўскіх паслоў, якія ўсё больш жорстка патрабавалі неадкладнага выкананьня сваіх жаданьняў. Прычыны гэтага былі ў тым, што расейцы верылі ў свае сілы і абсяг здабычы, а таксама былі пэўныя, што надыдуць вялікія казацкія падмацаваньні[111]. У канцы 19 чэрвеня маскалі чарговы раз жорстка запатрабавалі ад камісараў пасьпяшацца ў справе распачацьця перамоваў. Дзень пазьней яны абвінавацілі камісараў у хітрай пранырлівасьці і тым, што яны імкнуцца не да міру, а да зацягваньня нарадаў, у чым іх ужо даўно падазравалі. Гэта не азначала, што расейцы абмяжуюцца выказваньнем сваіх скаргаў. Яны чарговы раз жорстка патрабавалі выкананьня сваіх умоваў, у тым ліку ўступкі Ўкраіны і Белай Русі па Бярэзіну. Ужо за пару дзён да гэтага камісарам, якія настойвалі на прыналежнасьці гэтых зямель да Рэчы Паспалітай, яны ганарыста і нахабна сказалі, што *«з Украіны і Белай Русі, што Бог справядліва даў цару Ягамосьці за праўду яго, трэба нас спачатку за ногі сьцягнуць, а толькі потым можаце патрабаваць, але гэтага да канца сьвету ня зробіце»*[112].

У гэты час, перад самым пачаткам наступу, камісары атрымалі лісты ад караля, якія ўпаўнаважвалі іх разарваць перамовы, калі маскалі надалей будуць настойваць на сваіх патрабаваньнях. Была на гэта і згода рады сэнату. У выпадку нябясьпекі пасьля іх зрыву мусілі ўцякаць у Слуцак[113]. Гэта дазволіла ўжо згуляць з маскоўскімі пасламі ў адкрытую, і на іх прэтэнзіі ва ўпартасьці і нежаданьні давесьці да вечнага міру камісары адказалі: *«Мы выкарыстоўваем усе магчымыя спосабы для распачацьця перамоваў і заключэньня Сьвятога міру, але пададзеныя з вашага боку пункты здаюцца такімі цяжкімі, што больш рваць добрую справу, чым да міру і згоды*

[111] Komisarze do A.H. Połubińskiego, Mińsk 16 VI 1660. Тамсама. S. 333; J.A. Chrapowicki do B. Radziwiłła, Warszawa 25 VI 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 2153. S. 8.
[112] Komisarze królewscy do Jana Kazimierza, Mińsk 17 VI 1660. BCzart. 154. S. 343; гл.: ліст ад 13 VI 1660. RGADA. F. 389. Op. 2. № 652.
[113] Senatus Consultum, Warszawa 25 V 1660. BCzart. 401. S. 134.

*прыступаць, хочаце»*[114]. У канцы і яны таксама запэўнівалі, што заўсёды шчыра прагнулі заключэньня праўдзівага міру.

Апошняе слова ў завяршэньні доўгіх кантактаў паміж камісарамі Рэчы Паспалітай і маскоўскімі належала першым. Гэтак адбылося дзякуючы паразе арміі Хаванскага, якая да таго часу трымала ў паслушэнстве Літву. Яны былі пераможным бокам, таму маглі проста дакараць Маскву ва ўсіх яе гвалтах, а паслоў — у круцельствах. Традыцыйна абодва бакі прамаўчалі пры гэтым пра свае шматмесячныя маніпуляцыі. Праз пару дзён пасьля посьпеху пад Палонкай каралеўскія камісары прыгадвалі царскім паслам, што шмат месяцаў тыя заклікалі іх і Хаванскага спыніць спусташэньне каралеўскіх зямель, але ўсё гэта не прыдалося ні да чога, а тады: *«Ужо цяпер больш стрымваць войскі Яго каралеўскай міласьці мы не маглі, якія, ня могучы цярпець такога вялікага спусташэньня, на абарону Айчыны сваёй прыйшлі. І ўсё, што гэтымі днямі з прысуду Божага стала (сьведчым на Пана Бога), тое ня нам, якія гэтага не жадалі і з жалем на гэтую з абодвух бакоў пралітую кроў глядзім, але таму, хто стрымацца ў заўзятасьці сваёй не хацеў, прыпісаць трэба»*[115]. У чарговым лісьце камісары нагадалі Маскве пра парушэньне *armistitium* і распачацьце ваенных дзеяньняў Хаванскім якраз тады, калі мусілі распачацца перамовы. Горка дакараючы за ягоную жудасную жорсткасьць, яны заявілі пра сваё жаданьне весьці далейшыя перамовы, абы маскоўскія камісары свае *«хітрыя задумы ў бок адклалі»*. Завяршаючы свой ліст, не забыліся ўказаць ім, як вельмі нечакана зьмянілася іхняя сытуацыя. Зазначылі, што цяпер могуць паўтарыць расейцам тое, што яшчэ нядаўна казалі яны самі: *«Няхай камісія камісіяй, а вайна вайной будзе»*[116].

У той час, калі каралеўскія камісары і царскія паслы абменьваліся апошнімі гнеўнымі лістамі, у Маскве прымалі рашэньне наконт далейшых ваенных плянаў. Там разумелі, што да перамоваў хутчэй ня дойдзе. Таму вырашыць канфлікт павінны былі ваенныя дзеяньні. Ужо праз пару дзён пасьля паразы Хаванскага, 2 ліпеня, у сакрэтным дакумэнце царскім арміям загадвалася рушыць у наступ супраць польскіх і літоўскіх войскаў у глыб Рэчы Паспалітай аж да Варшавы. Базамі на гэтым шляху меліся быць Горадня і Берасьце. Жаўнеры і камандзіры меліся ўзяць сабе на тых землях зарплату за сваю службу і пагнаць у глыб дзяржавы цара натоўпы насельніцтва. Мусілі толькі паклапаціцца пра харчы для яго, каб у дарозе з голаду і нягодаў не памерці. Мэтай чарговага пляванага паходу да сэрца Рэчы Паспалітай было паставіць яе на калені і прымусіць прыняць мір на царскіх умовах[117]. Гэтыя намеры перакрэсьліла параза Хаванскага пад Палонкай, а ў далейшыя месяцы — неспрыяльныя змаганьні ў Беларусі і параза царскіх войскаў ва Ўкраіне.

[114] Komisarze Królewscy do Komisarzy Moskiewskich, Mińsk 28 VI 1660. BCzart. 154. S. 404—405.
[115] Komisarze Królewscy do Komisarzy Moskiewskich, Mińsk 30 VI 1660. Тамсама. S. 407.
[116] Respons Komisarzy Królewskich do Komisarzy Moskiewskich, Mińsk 2 VII 1660. Тамсама. S. 429—440.
[117] Курбатов О. Литовский поход... С. 34.

**3. Бітва пад Палонкай. 28 чэрвеня 1660 г.**



# IX. Пачатак наступу польскіх і літоўскіх войскаў. Бітва пад Палонкай (28 чэрвеня 1660 г.)

З траўня 1660 г. у Аліве пад Гданьскам быў заключаны такі доўгачаканы мір паміж Швэцыяй і Рэччу Паспалітай. Ён нёс з сабою вялікія зьмены ў раскладзе сілаў на польска-маскоўскім фронце. На вялікім баявым пляцы Паўночна-Ўсходняй Эўропы засталіся адна супраць адной дзяржавы: Рэч Паспалітая, якую падтрымлівалі татары, і Расея, на баку якой зноў апынуліся казакі. Мір са Швэцыяй даваў абсалютна новыя магчымасьці польска-літоўскай дзяржаве. Цяпер яна магла з поўнай свабодай выкарыстаць усе свае войскі супраць Масквы. Цяжкія дыпляматычныя захады адступалі на далейшы плян, канфлікт мусіў вырашыцца на палях бітваў. У горшым становішчы апынулася на гэты раз Масква. Яна мела толькі трохгадовае замірэньне са Швэцыяй, якое ў сувязі зь нясхільнасьцю царскіх дыпляматаў да нейкіх уступак, ім не ўдалося замяніць у мір. Яшчэ восеньню 1659 г. Ардзін-Нашчокін спаткаўся з прадстаўнікамі швэдзкага караля Карла X Густава на рацэ Дзьвіне непадалёк ад Рыгі ў справе замены замірэньня на вечны мір. Стараньні царскага дыплямата закончыліся няўдачай. Стасункі паміж абедзьвюма дзяржавамі станавіліся ўсё больш напружанымі, што прымушала расейцаў асабліва з моманту заключэньня Аліўскага міру зьвяртаць усё больш пільную ўвагу на швэдзкія справы, тым больш, што швэды, вызваленыя ад змаганьняў на іншых франтах, пачалі праяўляць выразнае жаданьне вярнуць свае пазыцыі ў Інфлянтах[1]. Непакой маскоўскіх дыпляматаў з прычыны паводзінаў скандынаваў узрос яшчэ больш, калі 6 чэрвеня ў Капэнгагене швэды ўклалі мір з Даніяй. Шмат польскіх назіральнікаў прадказвала хуткую атаку вызваленай ад войнаў зь іншымі суседзямі Швэцыі на Маскоўскую дзяржаву. Гэта яшчэ больш умацоўвала польскія надзеі на вырашальную перамогу на ўсходзе, нават у пэўныя моманты канцавых перамоваў са швэдамі палякі разьлічвалі на антымаскоўскі саюз зь імі ці, прынамсі, атрыманьне ад скандынаваў падмацаваньняў. У траўні і чэрвені ў атмасфэры энэргічнай падрыхтоўкі да распачацьця дзеяньняў выразна адчувалася, што вось набліжаецца адзін з вырашальных момантаў у стасунках Рэчы Паспалітай зь яе ўсходнім суседам. Блізкае вялікае сутыкненьне магло вырашыць, якая з гэтых дзяржаў здабудзе гегемонію ў гэтым рэгіёне Эўропы. Ці захавае яе Рэч Паспалітая, якая падымаецца ад цяжкага крызысу, ці яна пяройдзе ў рукі Масквы, якая ў апошнія гады дасягнула так шмат посьпехаў у змаганьні са сваім найвялікшым ворагам.

Яшчэ за пару дзён да заключэньня міру са Швэцыяй, калі яго ўжо з дня на дзень чакалі, на каралеўскім двары былі складзены першыя пляны аднаўленьня ваенных дзеяньняў супраць маскоўскіх войскаў. Ужо тады была вызначаная першая дата пачатку наступу, які павінен быў адбыцца 15 чэрвеня. Зьвярнуліся да электара Фрыдэрыка Вільгельма з просьбай падмацаваньняў, якія на падставе вяляўска-быдгоскіх пагадненьняў 1657 г. ён павінен быў даць Рэчы Паспалітай[2]. Для ўсіх было відавочна, што змаганьні з Расеяй і казакамі, якія сталі за яе, будуць адбывацца на двух тэатрах, разьдзеленых балотамі Прыпяці: на літоўскім і на ўкраінскім. У траўні 1660 г. можна было найхутчэй распачаць іх супраць арміі Хаванскага ў Літве, паколькі

[1] Галактионов И., Чистякова Е. А.Л. Ордин-Нащекин, русский дипломат XVII в. Москва, 1961. С. 59, 63; Kersten A. Historia Szwecji. Wrocław, 1973. S. 210—211.

[2] J. Mierzeński do B. Radziwiłła, Gdańsk 1 V 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 9646/II. S. 53.

супраць яго даўно былі сканцэнтраваныя сілы на Падляшшы. Кароль Ян Казімер ніколі не адмаўляўся ад плянаў разьбіць гэтага вайскаводцу і ягоную армію і практычна ўвесь час заахвочваў да гэтага Чарнецкага і Палубінскага. Сыпяшацца з распачацьцем усімі сіламі Рэчы Паспалітай ваенных дзеяньняў супраць Масквы схіляла каралеўскі двор разуменьне сур'ёзнасьці небясьпекі, якая пагражала з боку Літвы ў выпадку ўмацаваньня сілаў Чарнецкага, але галоўным чынам нараканьні і пагрозы ліцьвінаў, якія рэзка патрабавалі выратаваньня сваёй айчыны.

На шляху да рэалізацыі гэтых намераў перад заключэньнем міру ў Аліве стаяла ня столькі вайна са Швэцыяй, колькі праблемы, якія прыгняталі літоўскае войска. Жаўнеры корпусу Палубінскага прыбылі ў лютым на Падляшша ў найгоршых настроях. Нечакана пачалі таксама псавацца стасункі паміж моцна апазыцыйным да двара Сапегам і палявым пісарам, які намерваўся нават расстацца з вайсковай службай. Супраць гэтага быў кароль і загадаў яму захоўваць асабісты склад войска ў належным парадку. З гэтым было цяжэй, паколькі не было магчымасьці дастаткова забясьпечыць яго і задаволіць даўно заяўленыя прэтэнзіі. Хутка аказалася, што да Рэчы Паспалітай ня дойдуць абяцаныя грошы. Усё гэта спрычынілася да таго, што ў сярэдзіне траўня на вайсковай сэсіі ў Дарагічыне была арганізаваная канфэдэрацыя значнай часткай войска правага крыла. Яе маршалкам стаў палкоўнік Самуль Кміціч, надзвычай адданы прыхільнік Сапегі. Не далучыўся да яе Палубінскі і разам зь вернай часткай жаўнераў адышоў у Ломжу. Фактычным аўтарам канфэдэрацыі быў, вельмі праўдападобна, сам Сапега, які адразу пасьля яе арганізаваньня, спасылаючыся на клопаты са здароўем, адмовіўся ад камандаваньня арміяй. Канфэдэрацыя магла сур'ёзна ўскладніць становішча войскаў на Падляшшы і каралеўскія пляны дзеяньняў супраць Масквы. У гэтай сытуацыі Ян Казімер перадаў камандаваньне ад Сапегі Палубінскаму і загадаў яму схіляць сканфэдэраваных афіцэраў і жаўнераў. Ён думаў нават пра ўзброенае падаўленьне канфэдэратаў, а заўсёды ласы на матэрыяльныя кампенсацыі Чарнецкі ўпрошваў манарха накант маёмасьці, што застанецца па бунтаўніку Кміцічу. Кароль зрабіў таксама спробы паўплываць на пазыцыю літоўскага гетмана, нагадаўшы яму, што разам зь Літвой гінуць ягоныя Ляхавічы, у той час калі войска гультаіць і спрачаецца з дваром. Гэта выкарыстоўвае непрыяцель, які гэтай парой, як інфармавалі камісары, адпраўлены на перамовы з царскімі пасламі, дасылае Хаванскаму падмацаваньні. Ян Казімер запэўніваў чарговы раз, што ўжо хутка з усімі сіламі Рэчы Паспалітай сам рушыць на дапамогу Вялікаму Княству. Пры гэтым ён прасіў Сапегу, каб той заахвоціў жаўнераў вярнуцца ў шэрагі, адкласьці прэтэнзіі да лепшых часоў і разам з Чарнецкім рушыць супраць ворага. Каралеўскае пераконваньне гетмана не нашмат што прыдалося. Інакш выглядала сытуацыя ў паасобных збунтаваных харугвах. Аднак у выніку розных захадаў афіцэраў, якія не падтрымалі канфэдэрацыі, усё большага асуджэньня з боку шляхецкай супольнасьці паступова шмат адзінак перайшло на бок караля і Палубінскага. У сярэдзіне траўня канфлікт паміж Сапегам, Палубінскім і дваром пачаў заціхаць. На гэта паўплывала шмат фактараў, але адным з самых істотных быў факт відавочнай вялікай падрыхтоўкі караля да вайны з Расеяй. Ліцьвінам, якія крытыкавалі палітыку Яна Казімера ў дачыненьні да іх айчыны, што зазнала такое бедзтва, гэта давала вялікую надзею на яе ўратаваньне і пасьпяховага адцягвала іх ад канфэдэратаў, якія выступалі супраць караля. Канфэдэраты таксама заўважылі, што шляхецкая супольнасьць усё больш непрыхільная і проста абвінавачвае іх, што, нягледзячы на бедзтва ў Літве, войска толькі аб'ядае Падляшша і Мазовію, ня думаючы нічога рабіць, у тым ліку і распачынаць дзеяньні супраць Хаванскага[3].

[3] M. Porębski do B. Radziwiłła, Wasilków 25 IV 1660. Тамсама. № 12196. S. 1—3.

У сярэдзіне траўня, паступова страчваючы падтрымку ў сваіх прыхільнікаў, пачаў шукаць прымірэньня з дваром сам літоўскі гетман. У гэты момант было добра вядома, што фіяскам закончыліся дзеяньні кіраванай кракаўскім біскупам Анджэем Тжабіцкім каронная апазыцыі, якая старалася прасунуць на польскі трон кандыдатуру Габсбурга. Здаючы сабе справу з аслабленьня сваёй пазыцыі, гетман абавязаўся перад каралём нават прыкласьці намаганьні да заканчэньня канфэдэрацы. Ён асабіста скіраваўся ў лягер канфэдэратаў пад Замбровам і стараўся там схіліць жаўнераў да службы. Урэшце, хутчэй за ўсё 17 траўня, бунт быў спынены, хоць гэта не азначала, што клопаты з войскам скончыліся. Яго яшчэ трэба было ўгаварыць да далейшай службы, пераканаўшы згадзіцца з каралеўскімі ўмовамі, зь якімі 5 чэрвеня адправіўся з Варшавы ў лягер пад Суражам пасол ад войска Ўладзімер Каменскі. Пасьля марудных перамоваў з удзелам прыбылага пару дзён пазьней каралеўскага камісара, плоцкага біскупа Яна Гэмбінскага, і гэта ўдалося ў чэрвені незадоўга да выправы на армію Хаванскага[4].

У канцы красавіка ў Гданьску было вырашана, што адразу пасьля заканчэньня перамоваў са швэдамі кароль паедзе ў Варшаву, дзе мусіла адбыцца ваенная нарада, якая датычыла распачацьця дзеяньняў супраць маскоўскіх войскаў. Гэтыя намеры былі зьдзейсьненыя, і ўжо 4 траўня кароль скіраваўся ў сталіцу, у якой на 20 мая была заплянаваная ваенная нарада[5]. Здаецца, што, едучы туды, Ян Казімер меў намер асабіста скіравацца на чале войскаў у Літву. Моцна настойвалі на гэтым літоўскія паны[6]. На нараду быў выкліканы з Падляшша рускі ваявода. У сувязі з выразнай заявай Паўла Сапегі пра гатовасьць вярнуцца да камандаваньня літоўскім войскам прасілі прыбыць і яго. Кароль не хацеў у той момант паглыбляць канфлікт у літоўскім войску, абвастраючы спрэчкі з ганарыстым і вельмі ўплывовым магнатам. Таму ён быў схільны прыняць ягоную прапанову камандаваньня войскам, што, зразумела, мусіла таксама адбыцца коштам пазыцыі Палубінскага. Гетману было паабяцана, што войску ўжо хутка будзе пасланая каралеўская дэклярацыя наконт задавальненьня жаўнераў. Каб заспакоіць і зьмякчыць далікатныя пытаньні, ранейшае маруджаньне апраўдвалася адсутнасьцю пры каралю літоўскіх пячатнікаў, што перашкодзіла пасляць у лягер афіцыйныя пісьмовыя рашэньні[7]. Чарнецкі, значна затрымліваючы свой ад'езд, скіраваўся ў Варшаву вельмі неахвотна, паколькі баяўся пакідаць сваіх людзей, якія стаялі ў лягеры пад Казярадамі (цяпер Канстантына, на поўнач ад Белай-Падляскі).

З пэўным спазьненьнем 25 траўня ў Варшаве прайшла заплянаваная ваенная нарада. Яе працягам была рада сэнату 28 траўня. Тады было канчаткова вырашана, што на Літву вырушыць Чарнецкі і Сапега, якому ўжо 27 траўня кароль дзякаваў за прыцягненьне войска правага крыла *«да далейшай службы Рэчы Паспалітай»*. Упартаму гетману на гэты раз было вельмі важна схіліць войска да службы і прывесьці яго ў гатовасьць да ваенных дзеяньняў. Даходзілі да яго шматлікія зьвесткі пра трагічны стан яго фартэцыі ў Ляхавічах. Таму, між іншым, раптам ён актывізаваў свае кантакты з Палубінскім, якога пачаў заахвочваць да службы і падганяць да збору войскаў, аргумэнтуючы, што рэшту свабодных літоўскіх зямель можна выратаваць толькі хуткім ударам на маскоўскія войскі[8]. Нягледзячы на стараньні гет-

[4] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Gdańsk 22 IV 1660. LvNB. F. 103. № 1743, таксама ліст ад 22 V 1660. № 1744; Rachuba A. Konfederacja... S. 61—79.

[5] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Gdańsk 20 IV 1660. APKr. Arch. Sang. 67. № 105.

[6] J. Mierzeński do B. Radziwiłła. Warszawa 26 VI 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 9646/II. S. 73.

[7] S. Czarniecki do A. H. Połubińskiego, Kozierady 14 V 1660. BRacz. № 76. S. 77; Jan Kazimierz do P. Sapiehy. Warszawa 22 V 1660. LvNB. F. 103. № 1744.

[8] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, w Ostrożynach 23 V 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/IV. S. 49.

мана і роспуск канфэдэрацыі 18 траўня, пазыцыя харугваў, асабліва тых, якія надалей заставаліся пад камандаваньнем Кміціча, а таксама самога палкоўніка была ў апошнія дні траўня яшчэ настолькі няпэўнай, што кароль яўна баяўся, каб не прывялі яны да выбуху чарговай моцнай хвалі бунту ў войску. Каб схіліць сканфэдэраваныя літоўскія харугвы, кароль павінен быў мякка і станоўча адказаць на прысланы імі сьпіс патрабаваньняў, нягледзячы на тое, што быў ён *«востра напісаны і годны вымовы»*. Аднак пасла ад войска, Уладзімера Каменскага, адправілі толькі амаль праз тыдзень[9]. Напэўна, гэта мела на мэце даць Сапегу час на зьмякчэньне настрояў, якія панавалі ў лягеры, паколькі было вядома, што, акрамя абяцаньня, у прынцыпе нічога выгаднага жаўнерам не прапаноўвалася.

28 траўня было вырашана, што ў Літве войскі распачнуць наступ 12 чэрвеня[10]. Крыху пазьней у сувязі зь няпэўнай пазыцыяй Сапегі кароль намерваўся аддаць камандаваньне літоўскім войскам Палубінскаму; галоўнае камандаваньне дзеяньнямі ў Літве меркавалася перадаць у рукі Чарнецкага. Пад канец траўня, нягледзячы на абяцаньні гетмана вярнуцца для камандаваньня войскам, Ян Казімер ня быў упэўнены ў шчырасьці ягонай пазыцыі. З аднаго боку, ён дзякаваў за заяву, за намаганьні, якія прыклаў, каб схіліць збунтаванае войска да службы, і за тое, што супакоеныя харугвы перасунуў бліжэй да літоўскай мяжы, да непрыяцеля. З другога боку, яшчэ 27 траўня кароль у сваім лісьце катэгарычна запатрабаваў ад яго, каб не наважваўся скасоўваць дадзенага раней Палубінскаму каралеўскага ардынансу, на падставе якога ў сувязі з аддаленьнем гетмана ад службы палявому пісару даручалася камандаваньне літоўскім войскам. Ён павінен быў надалей заставацца намесьнікам гетмана. Гэтае папярэджаньне было выклікана гетманскім намерам даручыць камандаваньне на час сваёй адсутнасьці Кміцічу, якога кароль абсалютна не жадаў бачыць на чале арміі. Ян Казімер баяўся таксама, што, калі пакінуць яго на гэтым камандаваньні, гэта выкліча вялікі супраціў іншых палкоўнікаў, чарговыя хваляваньні ў войску, і нават раскол. Прыкметы гэтага ўжо зьявіліся, калі харугвы з-пад камандаваньня Палубінскага і Агінскага, якія заставаліся па-за канфэдэрацыяй або адышлі ад яе, пачалі абурацца з прычыны гетманскага загаду, які наказваў ім ісьці ў лягер пад Сураж, але пад камандаваньнем Кміціча[11]. Застаецца фактам, што кароль баяўся пазыцыі Сапегі і ня вельмі верыў, што той да канца парваў з інтрыгамі ў войску, скіраванымі супраць двара. Яшчэ ня вельмі ўдавалася прадбачыць крокаў гетмана, таму як мага даўжэй захоўвалася дзеяньне ранейшага рашэньня пра даручэньне камандаваньня Палубінскаму. Гэта павінна было забясьпечыць пэўную стабільнасьць у войску на выпадак ажыўленьня бунту, а таксама служыць як сродак націску на віленскага ваяводу. Двор нашмат ахвотней бачыў на чале войска палявога пісара, чым непаслухмянага Сапегу. Аднак апошняму, калі ён выказаў жаданьне вярнуцца на службу, закон забясьпечваў галоўнае камандаваньне, з чым кароль павінен быў згадзіцца. Таму, калі Сапега чарговы раз заявіў пра сваё жаданьне згадзіцца з каралём, яму перадалі камандаваньне літоўскім войскам і фармальнае кіраўніцтва дзеяньнямі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага[12].

Падчас вядзеньня нарадаў кароль пакуль што адклаў рашэньне самому скіравацца ў літоўскія краі. Разам з пакінутым у рэзэрве корпусам вялікага кароннага мар-

[9] Chrapowicki. S. 244.

[10] Senatus Consultum, w Warszawie 25 V 1660. BCzart. 401. S. 133; 28 V 1660. Тамсама. S. 137; Jan Kazimierz do Komisarzy. Warszawa 5 VI 1660. BCzart. 154. S. 283—284.

[11] B. Olszewski do B. Radziwiłła, Kiersnowo 30 V 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 10816/I. S. 155.

[12] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, 27 V 1660. LvNB. F. 103. № 1745; Jan Kazimierz do A.H. Połubińskiego. Warszawa 28 V 1660. AGAD. AR. Dz. III. Kop. 9. S. 3—4.

шалка Юр'я Любамірскага ён мусіў прыглядацца да развою сытуацыі ў Літве і ва Ўкраіне. Былі выдадзеныя таксама ўнівэрсалы да Міхала Казімера Паца, каб разам са сваёй дывізіяй левага крыла ён як мага хутчэй сьпяшаўся да Ляхавічаў і злучаўся з войскамі Сапегі. Задача прыкрыцьця Жамойці з боку Інфлянтаў мусіла быць даручаная харугвам Упіцкага і Вількамірскага паветаў. Таксама блякадай замкаў у Вільні, Коўне, Горадні, Берасьці, Чадосах павінна была заняцца мясцовая шляхта. Чакаліся надалей нейкія падмацаваньні ад электара, якія, аднак, не прыйшлі. Пац таксама не сьпяшаўся выконваць загады і, нягледзячы на ўзмоцненыя заклікі Яна Казімера, вырушыў з Жамойці да Літвы толькі ў пачатку ліпеня. На ягоную дапамогу ў змаганьні з Хаванскім вельмі разьлічваў і Чарнецкі, што ён выказаў у напісаным да яго ліпчэ з Варшавы 4 чэрвеня лісьце. Ён спадзяваўся, што Пац таксама атрымае ад вернутага да кіраўніцтва Сапегі ардынанс, каб з усяе моцы сьпяшаўся да іх. Рускі ваявода разьлічваў на тое, што супольнымі сіламі яны расправяцца з маскоўскімі войскамі з-пад Ляхавічаў, пра штодзённае павелічэньне якіх да яго даходзілі зьвесткі[13].

Калі плян дзеяньняў быў складзены, Чарнецкі адразу пасьля 4 чэрвеня пасьпяшаўся да сваіх аддзелаў на Падляшша. Пад канец траўня, вяртаючыся да згоды з каралём, Павел Сапега загадаў, каб Палубінскі на 28 траўня сабраў войска ў Суражы пад Нарвай, што каля 50 кілямэтраў на паўднёвы ўсход ад Беластоку[14]. Там меркавалася чакаць канчатковых каралеўскіх рашэньняў, якія датычылі сканфэдэраванага літоўскага войска, але і з тых раёнаў плянавалася рушыць на войскі Хаванскага. Вялікі гетман зьявіўся ў лягеры ў першыя дні чэрвеня. Хутка пасьля яго вярнуліся туды пасол ад таго ж войска У. Каменскі зь лістом ад караля і каралеўскі камісар, плоцкі біскуп Ян Гэмбіцкі, які вёз адказ Яна Казімера на пастаўленыя раней вайсковыя патрабаваньні. Ён мусіў пасьля нарады з Сапегам намовіць войска, а гетман атрымаў параду ва ўсім яму дапамагаць[15]. Невядома, як праходзілі гэтыя перамовы. Ва ўсякім разе, трэба было прыкласьці ліпчэ шмат намаганьняў да супакаеньня жаўнераў і схіленьня іх прыняць далейшую службу на ўмовах двара. Аказалася, што канфэдэрацыя закончылася фіяскам, асуджэньнем з боку двара і шляхецкай супольнасьці, а таксама неабходнасьцю згадзіцца зь нявыгаднымі ўмовамі, прывезенымі Гэмбіцкім. Акрамя таго, жаўнеры мусілі падрыхтаваць да выправы ўзбраеньне, забясьпечыць сябе адпаведнымі коньмі і харчамі. Праз адсутнасьць грошай гэта было нялёгка, што ўжо ў хуткім часе мусілі балюча адчуць жыхары літоўскіх зямель, праз якія павінна было праходзіць войска. У лягеры пад Суражам да гетмана дайшоў ліст Яна Казімера з інфармацыяй, што на двор прыбылі паслы Слонімскага павету. Яны заявілі пра вернасьць каралю і Рэчы Паспалітай. Абяцалі таксама, што, калі толькі каралеўскія войскі ўвойдуць на іхнія землі, яны далучацца да іх. Падобныя заявы прыйшлі на двор ад шляхты Лідзкага, Гарадзенскага і Ваўкавыскага паветаў. Удзячны кароль загадаў гетману, каб войска, калі там апынецца, не наважвалася трактаваць тамтэйшых жыхароў як здраднікаў, прыцiскаць, зьнішчаць і рабаваць іх валасьці. Прасіў папярэдзіць войска, што ня ўсе, каго яны там засьпеюць, здраднікі. З такімі ліпчэ прыйдзе час на расправу, затое вялізная колькасьць надалей застаецца вернай каралю і, апынуўшыся пад маскоўскай няволяй, чакае ратунку і вызваленьня[16].

Надзвычай цяжка выхапіць з крыніц канкрэтную інфармацыю пра пэрыяд ад выезду Стэфана Чарнецкага пасьля праведзенай ваеннай нарады да моманту рушаньня войскаў супраць Хаванскага. Гэта датычыць таксама гетмана Паўла Сапегі. У той час

[13] S. Czarniecki do M.K. Paca. Warszawa 4 VI 1660. BCzart. 429. S. 237—238.

[14] Ordynans od P. Sapiehy dany A.H. Połubińskiemu, Dąbrowa 23 V 1660. AGAD. AR. Dz. II. № 1424.

[15] Jan Kazimierz do P. Sapiehy. Warszawa 5 VI 1660. LvNB. F. 103. № 1747.

[16] Jan Kazimierz do P. Sapiehy. Warszawa 3 VI 1660. APKr. Arch. Sang. 67. S. 393; Jan Kazimierz do P. Sapiehy. Warszawa 5 VI 1660. LvNB. F. 103. № 1746.

усе займаліся перш за ўсё падрыхтоўкай да наступу. Нязьмернай праблемай аказалася забесьпячэньне абодвух войскаў артылерыяй, порахам і амуніцыяй. Асабліва кепска справа стаяла ў літоўскім войску. З глыбі краю ўдалося даслаць Чарнецкаму толькі сем бочак пораху, якім да таго ж мусіў падзяліцца зь ліцьвінамі[17]. Не спускалі вачэй і з Хаванскага. З гэтай мэтай Чарнецкі паслаў чарговыя разьезды, якія пацьвердзілі, што маскоўскія войскі як і раней стаяць пад Ляхавічамі. Ён зь нецярплівасцю чакаў навіны ад Сапегі пра гатовасьць ягоных войскаў да выправы. Можа быць, якраз гэтыя спрэчкі з жаўнерамі, якія вяліся ў літоўскім лягеры, паўплывалі на спазьненьне наступу, які сьпярша быў заплянаваны на 12 чэрвеня. Урэшце, калі толькі дайшлі навіны, што войска схілілася да згоды, Чарнецкі рушыў да літоўскіх зямель. Гэта мусіла мабілізаваць ліцьвінаў, якія хутка пасьля гэтага рушылі за ім. Указвае на гэта меркаваньне Пасэка, які запісаў, што калі толькі гетман даў знаць, што войска літоўскае *«падрыхтавалася, як магло»*, рускі ваявода адразу рушыў свае харугвы ў кірунку на Мсьціслаў. Літоўскія аддзелы Сапегі ішлі ў наступ, але жаўнеры з пачуцьцём прайгранай справы былі ў жахлівым настроі. У пэўнай ступені мабілізацыйным чыньнікам магло быць ўсьведамленьне распачацьця наступу разам з моцнымі каронным падмацаваньнямі. Са свайго боку Чарнецкі не да канца давяраў літоўскаму войску. Некалькі месяцаў цяжкасьцяў зь ім і з гетманам Сапегам, самыя розныя плёткі наконт сакрэтных кантактаў з Масквой выклікалі тое, што рускі ваявода ў першыя дні наступу дастаткова падазрона ставіўся да літоўскіх аддзелаў. Ён мог быць няўпэўненым у іхняй пазыцыі, тым больш, што, нягледзячы на роспуск канфэдэрацыі, шмат жаўнерскіх праблемаў надалей не было вырашана, што павінна было прыкметна адбіцца на настроях у войску Сапегі. Гэта не было для Чарнецкага ніякай таямніцай, весткі пра гэта даходзілі з-пад Суражу да яго ведама. Усё гэта спачатку рабіла яго настолькі асьцярожным і недаверлівым, што ўжо пасьля распачацьця супольнага наступу ён заўсёды меў каля літоўскіх войскаў сваіх людзей, заданьнем якіх было назіраць за іх пазыцыяй[18].

Да Мсьціслава напрасткі кароннай дывізіі з-пад Казяградаў было каля 160 км. Ян Мяжэнскі, які знаходзіўся ў Варшаве, інфармаваў 26 чэрвеня Багуслава Радзівіла, што войскі Чарнецкага і Сапегі тыдзень таму выйшлі з Падляшша на Хаванскага, што давала б дату 19 чэрвеня[19]. І фактычна марш дывізіі Чарнецкага мусіў пачацца перад самым 20 чэрвеня. Як бачна, дзеяньні стартавалі з пэўным, хоць і невялікім спазьненьнем што да першапачатковых травеньскіх плянаў. У тыя дні, калі з Казяградаў мусіў вырушыць Чарнецкі, ці ў наступныя на выправу мусіў падняць свае аддзелы і гетман Сапега[20]. Зь лягеру пад Суражам яму да Мсьціслава напрасткі было каля 90 км.

23 чэрвеня войскі Чарнецкага апынуліся каля Мсьціслава. Абмінуўшы гэты горад, яны пайшлі ў напрамку Слоніму, што на адлегласьці каля 65 км на ўсход. Яны пачалі набліжацца туды 24 чэрвеня. Чарнецкі вельмі сьпяшаўся, паколькі даведаўся, што ў гэты горад якраз прыбыў вялікі аддзел маскоўскіх войскаў. Ён налічваў 200 жаўнераў і, магчыма, быў аддзелам адной з карных экспэдыцый, якія ў чэрвені дастаткова часта Хаванскі пасылаў у гэтыя раёны[21]. Па дарозе каронныя войскі

[17] M. Prażmowski do Jerzego Lubomirskiego, w Szopach 8 VI 1660. BPAN Kr. 1065. S. 6.

[18] Pasek. S. 126; гл. таксама тэрміны ў: B.Ossol. № 189. S. 1171; S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Jasiewicze 30 VI 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 12561. S. 85; Rachuba A. Konfederacja Kmicicowska... S. 78—79.

[19] J. Mierzeński do B. Radziwiłła. Warszawa 16 VI 1660. Тамсама. № 9646/II. S. 75.

[20] Скорабагаты (Skorobogaty. S. 79) зазначыў, што ліцьвіны рушылі 15 чэрвеня. Адпак гэта адбылося пару дзён пазьней.

[21] S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Jasiewicze 30 VI 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 12561. S. 84. Пра карныя экспэдыцыі ў чэрвені гл.: ліст Пшыбароўскага (S. Przyborowski) ад 7 VI. S. 81; Курбатов О. Полонка 1660... С. 32.

наладзілі кантакт зь літоўскай арміяй, якая якраз дайшла да Жыровічаў каля Слоніму. У гэты і ў наступны дзень літоўскія разьезды пад камандаваньнем Палубінскага, Агінскага і Ярмаловіча ліквідавалі некалькі меншых маскоўскіх аддзелаў, якія шныралі ў ваколіцах Мсьцібава і Слоніму[22]. Аднак перш чым адбылося цясьнейшае злучэньне літоўскіх і каронных войскаў, Чарнецкі вырашыў узяць Слонім і разьбіць варожы аддзел.

Жыхары гораду перажывалі драматычныя хвілі. Маскоўскія жаўнеры нічога ня ведалі пра набліжэньне літоўскіх і польскіх войскаў. Аднак хутка гэтая навіна звалілася на іх як гром сярод яснага неба[23]. Цалкам магчыма, што яны не здавалі сабе справы зь сілы войскаў, зь якімі ім давядзецца сутыкнуцца. Напэўна, прымалі іх за яшчэ адзін з большых польскіх ці літоўскіх разьездаў, якія ў апошні час забіраліся досыць глыбока ў гэтыя раёны. Расейцы на падставе ранейшых падзеяў выдатна ведалі, што мясцовае насельніцтва спрыяе палякам і ліцьвінам. Не давяраючы яму, яны вырашылі пазбавіцца ад жыхароў Слоніму, забіваючы іх. Спалоханая шляхта безвынікова спрабавала пераканаць расейцаў у сваёй вернасьці. Насельніцтва заганялі ў габрэйскую сынагогу і касьцёлы, дзе меркавалася спаліць усіх людзей жыўцом. Даходзіла да многіх жудасных сцэнаў, падчас якіх вялікая колькасьць людзей страціла жыцьцё ад рук, відаць, п'яных царскіх жаўнераў[24]. На шчасьце, хутка падасьпела дапамога, якая перашкодзіла расейцам зьдзейсьніць пляны. Чарнецкі паслаў 24 чэрвеня моцны аддзел пад кіраўніцтвам асецкага старасты Адама Чарнкоўскага. Засьпетыя зьнянацку надыходам гэтых харугваў расейцы выйшлі з гораду, жадаючы прыняць зь імі бой у полі[25]. Аднак былі разгромленыя палякамі, у чым ім пэўным чынам дапамагло сьмяротна напалоханае насельніцтва Слоніму. У няволю трапіў камандзір дваранскай сотні. У наступны дзень пад горад падышоў моцны разьезд з-пад Ляхавічаў колькасьцю 600 коней, які вяртаўся з-за Нёмна. Пад Слонімам ён нечакана для сябе натрапіў на яшчэ большыя, чым у папярэдні дзень, каронныя аддзелы. Яны рушылі ў колькасьці тысячы чалавек, на гэты раз, магчыма, пад кіраўніцтвам Аляксандра Паляноўскага, у атаку і каля гораду абрынуліся на засьпетых зьнянацку расейцаў. Тыя не супрацьўляліся занадта доўга і кінуліся наўцёкі. Іх перасьледавалі нібыта праз сам горад па мосьце на рацэ Шчары. Расейцы пакінулі 400 трупаў. Загінулі два ротмістры, а ў палон патрапіў паранены камандзір дваран. З абедзьвюх гэтых сутычак 18 палонных, пасьля іх папярэдняга допыту, былі адасланыя каралю[26]. Гэтыя пасьпяховыя сутычкі значна паднялі дух жаўнераў і добра падбадзёрылі перад вырашальнай бітвай. Радасьць у Слоніме зь нечаканага ратунку, перамогі над ворагам і распачацьця нарэшце наступу разам з кароннымі падмацаваньнямі была вялікай. Аднак хутка ў наступныя дні яна прыціхла,

---

[22] Gründliche und umständliche Kontinuation der von der Krone von Polen und des GroßFürstentums Litauen Armeen am 26. Juni 1660 erhaltenen Viktoria wider den moskowitischen Feldherrn Chowanski. BN. Mf 27345.

[23] Maskiewicz. S. 302.

[24] Апісаньне гэтых падзеяў зьмяшчаюць нямецкамоўныя друкаваныя лятучыя лісткі: Ausführliche Relation der glüclischen Victoria, welche die polnische Armee gegen den Moskowiter zwischen Sclonim und Mysz erhalten hat, BN. Mf 37746; Ausführliche Relation von der herlischen Victoria Ihrer Königlischen Majestät von Polen und der Niederlage der Moskowiter zwischen Sclonim und Lachowitz welche geschechen den 28 Junii 1660. BN. Mf 37745; Gründliche und umständliche Kontinuation... BN. Mf 27345. Іншае данясеньне гэтых баёў знаходзім у: Gazette de France // Les particularitez... S. 731; J.A. Morsztyn do J. Lubomirskiego, Warszawa 2 VII 1660. APKr. Arch. Sang. 247. № 13.

[25] Ausführliche Relation von der herlischen Victoria... BN. Mf 37745; Les particularitez... S. 730, 734.

[26] Chrapowicki. S. 249; S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Jasiewicze 30 VI 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 12561. S. 84; Курбатов О. Литовский поход... С. 36.

як і памяць пра рабаўнічыя злачынствы Масквы. А выйшла гэта ў выніку неверагодных рабункаў і гвалту ў дачыненьні да шляхты, яе двароў і прыгонных з боку каронных жаўнераў Чарнецкага[27].

Хаванскі быў засьпеты зьнянацку надыходам каралеўскіх войскаў, ён даведаўся пра гэта проста ў апошні момант ад зьбеглых недабіткаў з-пад Слоніму і спачатку меркаваў, што мае дачыненьне зь яшчэ адным моцным разьездам[28]. Аднак хутка дзякуючы ўцекачам з-пад Слоніму зарыентаваўся ў сапраўднай сіле праціўніка. Ён не намерваўся пасыўна чакаць надыходу непрыяцеля і такім чынам аддаваць яму ініцыятыву. Таму ўжо 26 чэрвеня Зьмееў, які праводзіў дзеяньні пад Нясьвіжам, згарнуў на загад Хаванскага аблогу. Табары адправіў за Нёман, а сам, спаліўшы лягер, скіраваўся пад блізкія Ляхавічы да Хаванскага. Аб'яднаўшыся, яны рушылі 27 чэрвеня супраць польска-літоўскіх войскаў, разьлічваючы засьпець іх зьнянацку падчас маршу, пасеяць паніку і разьбіць іх. У лягеры пакінулі пільнаваць асаджаных няпоўныя аддзелы наўгародзкай пяхоты. Перад выхадам зь лягеру маскоўскія вайскаводцы скіравалі ў напрамку Слоніму сотню Ўльляна Нашчокіна, якую ўзмоцнілі рэйтарамі. Гэты разьезд павінен быў разьведаць наконт перамяшчэньняў варожых войскаў[29].

Ужо данясеньні з ранейшых месяцаў выразна ўказвалі яму, што аб'яднаныя сілы Чарнецкага, Сапегі і Палубінскага перавышаюць ягоную стомленую армію. З траўня шмат інфармацыі сьведчыла пра тое, што іх наступу трэба чакаць з дня на дзень. Нягледзячы на гэта, а таксама на адсутнасьць мацнейшых падмацаваньняў, ён не прыняў рашэньня згарнуць аблогу і адступіць да Полацку ці Бярэзіны, бліжэй да ўмацаваных і ўкамплектаваных маскоўскімі гарнізонамі гарадоў. Замест гэтага, захоўваючы аблогу Ляхавічаў, ён выйшаў з усёй царскай арміяй супраць літоўскіх і польскіх сілаў, якія падцягваліся. Гэтае вельмі рызыкоўнае рашэньне выразна дыктавалася царскімі загадамі. У адказ на няспынныя данясеньні з-пад Ляхавічаў наконт сілы праціўніка і ўласнай слабасьці цар паслаў 4 чэрвеня сваю грамату, у якой наказваў Хаванскаму назіраць за польскімі і літоўскімі сіламі і рабіць усё, каб яны не маглі сканцэнтравацца, а ў выпадку, калі б да гэтага дайшло і непрыяцель скіраваўся б супраць яго, то яму нельга было спыняць аблогі, але абавязкова з галоўнай арміяй выйсьці насупраць яго. Аляксей Міхайлавіч выразна папярэджваў Хаванскага, каб ён не дапусьціў да такой сытуацыі, як пад Канатопам, дзе Аляксей Мікіціч Трубяцкой, які асаджаў у гэтым месцы казацкую залогу, дазволіў засьпець сябе зьнянацку казакам і татарам, якія ішлі ў ягоным кірунку. Царскі пасланец з такім загадам прыбыў да князя незадоўга да распачацьця дзеяньняў палякамі і ліцьвінамі[30]. Хаванскаму не засталося нічога іншага, як выканаць загады. А паколькі ён быў дастаткова імпульсіўным і «гарачым» вайскаводцам, які да таго ж дасягаў у апошнія месяцы неспадзяваных посьпехаў, ён згадзіўся з гэтым яшчэ лягчэй.

Падчас змаганьняў пад Слонімам ці крыху пазьней адбылося спатканьне Чарнецкага з Сапегам, на якім быў узгоднены плян супольных дзеяньняў. Літоўскі гетман паслаў з-пад Жыровічаў моцны разьезд 13 харугваў пад камандаваньнем дасьведчаных жаўнераў Самуля Кміціча і Станіслава Ліпніцкага[31].

[27] Тамсама. S. 85.

[28] B. Maskiewicz. S. 302; Les particularitez... S. 731. Сам Сапега пісаў, што Хаванскі быў засьпеты зьнянацку ўваходам войскаў у «слонімскі край», гл.: De data secunda Juliy. Z obozu w drodze. BJag. № 5. S. 750.

[29] Vorbek-Lettow. S. 290—291; Курбатов О. Литовский поход... С. 36—37.

[30] Тамсама. S. 36.

[31] De data secunda Juliy... S. 750; Ausführliche Relation der glüclischen Victoria... BN. Mf 37746.

Тым часам у іхні бок накіроўваўся маскоўскі разьезд Нашчокіна. Паводле польскіх крыніц, ён налічваў аж 2 тыс. жаўнераў, што абсалютна неймаверная лічба. Завышэньне колькасьці войскаў праціўніка было звычайным прыёмам у тагачасных аўтараў успамінаў, лістоў ці справаздачаў. Гэта мела на мэце ўзьняць перад чытачом важнасьць здабытай перамогі[32]. Абодва разьезды сутыкнуліся 27 чэрвеня, дзесьці на ўсход ад Слоніму, на нейкай зь лясных палянаў. Ліцьвіны спачатку спалохаліся, убачыўшы моцнага непрыяцеля, і думалі, што маюць дачыненьне з усёю моцай Хаванскага. Адразу да войска Сапегі і Чарнецкага, што стаяла ня так далёка, паслалі заклік дапамагчы. Спалоханы прывідам новай паразы літоўскі гетман неадкладна адправіў дапамогу і адначасова паслаў просьбу да рускага ваяводы як мага хутчэй падтрымаць[33]. Тым часам расейцы, убачыўшы ліцьвінаў, якіх прызвычаіліся перамагаць за кожным разам, жвава рушылі супраць іх. Аднак літоўскія харугвы давалі такі зацяты адпор, што пасьпелі прыйсьці літоўскія і каронныя падмацаваньні. Іх прыбыцьцё засьпела зьнянацку маскоўскіх жаўнераў. Пасьля кароткага супраціву яны пачалі ўцякаць у бок гораду Мыш, у кірунку пазыцыяў Хаванскага[34]. Ліцьвіны перасьледавалі ўцеклага праціўніка аж да ваколіц гэтага гораду, беручы там шмат палонных і праводзячы пры нагодзе далёкую разьведку войскаў праціўніка.

Занепакоены гэтымі змаганьнямі Чарнецкі падняў на працягу дня рэшту войска на марш у кірунку разьездаў, якія змагаліся. З увагі на магчымасьць бітвы расейцы пакінулі вазы і багаж. Яшчэ ў той самы дзень, напэўна, вечарам, войска стала на месцы пабоішча каля населенага пункту Палонка[35]. Да пазыцыяў Хаванскага адтуль было каля 40 км. Было зразумела, што да маскоўскага вайскаводцы ўжо дайшлі зьвесткі пра набліжэньне польскіх і літоўскіх войскаў, якія прымусілі яго да супрацьдзеяньня ім. Спатканьня з арміяй Хаванскага чакалі з хвілі на хвілю, таму былі пастаўленыя моцныя варты, а жаўнеры пакладаліся спаць у поўным узбраеньні. Усю ноч з 27 на 28 чэрвеня літоўскія харугвы вярталіся ў лягер зь пераможнай пагоні, прыводзячы з сабою шматлікіх маскоўскіх палонных. Тыя прызналіся, што пад Мышшу сабраліся войскі колькасьцю 3 тыс. жаўнераў. Чарнецкі пэўны момант разважаў пра магчымасьць ударыць на іх. Аднак хутка мусіў адмовіцца ад гэтых плянаў, бо на золку да яго прывялі пэўнага мясцовага шляхціца, які прыбыў у лягер, каб паведаміць, што Хаванскі з усёй сваёй арміяй выйшаў з акопаў пад недалёкімі Ляхавічамі і знаходзіцца ўжо зусім блізка да пазыцыяў каралеўскіх войскаў. Гэтую інфармацыю неўзабаве пацьвердзіў другі прыбылы шляхціц[36]. Аказалася, што параза аддзелу Нашчокіна не стрымала маршу Хаванскага. Ён ішоў усю ноч, і на золку 28 чэрвеня яго пярэднія аддзелы пачалі набліжацца да каралеўскіх войскаў на ўзроўні Палонкі. Пасьля пасьпешнай нарады войска паднялі ад сну. Тады яго перавялі ў блізкае суседзтва вёскі Палонкі ў лукавіне ракі Палонкі і там пачалі ставіць у баявым парадку[37].

Мясцовасьць, на якой мусіла разыграцца бітва, была вельмі спэцыфічная. Гэта была ўзгорыстая раўніна. У яе найніжэйшым месцы цякла невялікая рака Палонка.

[32] Ausführliche Relation von der herlischen Victoria... BN. Mf 37745; Лось (Łoś. S. 93) піша зь перабольшаньнем пра 24 маскоўскія харугвы, а заўсёды схільны да гіпэрбалізацыі Пасэк (Pasek. S. 127) — пра 5 тысячаў адборных маскоўскіх жаўнераў.

[33] Łoś. S. 93; Skorobohaty. S. 79—80.

[34] Апісаньне змаганьня гэтых двух разьездаў плястычна замаляваў Пасэк (Pasek. S. 127—128); гл. таксама: Ausführliche Relation von der herlischen Victoria... BN. Mf 37745

[35] Zwycięstwo z Moskwy od Polaków i Litwy, Roku 1660 otrzymane. B.Ossol. № 189. S. 1174; Ausführliche Relation der glüclischen Victoria... BN. Mf 37746; Pasek. S. 128.

[36] Zwycięstwo z Moskwy... S. 1174; Ausführliche Relation von der herlischen Victoria... BN. Mf 37745.

[37] Тамсама, BN. Mf 37745; Zwycięstwo z Moskwy... S. 1174—1175.

Яна ня проста цякла, але паблізу вёскі з аднайменнай назвай, на ўсход ад яе, утварала шырокую лукавіну радыюсам каля 2 км, куды і зайшлі каралеўскія войскі. Хоць яна была невялікіх памераў, а яе рэчышча не ўтварала шырокай плыні, аднак паабапал яе былі шырокія і вельмі забалочаныя ўзьбярэжжы. Насуха можна было перайсьці праз яе толькі праз грэблю ў непасрэдным суседзтве вёскі Палонкі. Гэта быў адрэзак тракту, які вёў з захаду ў кірунку Менску і перасякаў лукавіну ракі. За няпоўныя два кілямэтры на ўсход ён чарговы раз перасякаў раку, пераходзячы праз яе чарговай грэбляй, што знаходзілася там. За гэтую грэблю падчас бітвы вяліся зацятыя баі. Крыху ніжэй і вышэй за гэтую грэблю былі два ня вельмі зручныя броды, якія зь цяжкасьцю маглі прыдацца для пераправы войскаў. Адзін зь іх апынуўся на ўзроўні літоўскіх пазыцыяў, а другі — каронных. Тэрыторыя, якая знаходзілася ў лукавіне Палонкі, падымалася на пэўную вышыню, мякка ападаючы да берагоў ракі. Гэта давала магчымасьць схаваць частку войскаў з боку, нябачнага для Хаванскага, які надыходзіў з усходняга кірунку. Сухапутны ўваход на лукавіну з паўночнага боку быў амаль цалкам закрыты ляснымі зарасьнікамі і балоцістымі ўзьбярэжжамі гэтай ракі.

Войска пачалі пасьпешна ставіць а шостай раніцы[38]. Магчыма, яго вырашылі ўвесьці ў дастаткова нязручнае становішча ў лукавіне балоцістай ракі пад уплывам нечаканай навіны пра хуткае набліжэньне ворага. Рака і яе гразкія ўзьбярэжжы абаранялі ад неспадзявана моцнага ўдару праціўніка з маршу і прымушалі наступленьне Хаванскага затрымацца. Здабыты час і натуральная перашкода давалі каралеўскім войскам магчымасьць упарадкаваць шэрагі і астыць ад авеянага жахам непрыяцеля. Усе сілы не стараліся вывесьці далей, за чарговую грэблю. Па-першае, на гэта не было часу. Па-другое, такая пазыцыя не забясьпечвала б перад фронтам войскаў ніякага заслону, затое рака, якая была за сьпінай, была празьмерна небясьпечная ў выпадку паразы, адразаючы шлях да адступленьня. Занятая пазыцыя ў лукавіне ракі таксама магла стварыць вялікую пагрозу ў выпадку няўдачы і ўзьнікненьня панікі. Вузкім шляхам да адступленьня магла быць толькі грэбля на рацэ, якая знаходзілася ў тыле каралеўскіх войскаў каля вёскі Палонкі. Аднак цяжка сабе ўявіць уцёкі масаў войска праз такую нязручную пераправу. Іншы шлях уцёкаў з лукавіны ракі, які знаходзіўся вышэй за левае крыло літоўскіх войскаў, вёў па зямлі праз вельмі вузкі пераход паміж балоцістым цячэньнем Палонкі і лесам, які закрываў выхад з лукавіны. Гэты пераход быў небясьпечны тым, што ў выпадку посьпеху Хаванскага на літоўскім адрэзку ён мог быць вельмі лёгка заблякаваны ягонымі аддзеламі. Такім чынам, занятая каралеўскімі войскамі пазыцыя стварала абарону ад нечаканага нападу раніцай 28 чэрвеня. Аднак у выпадку паразы яна станавілася сьмяротнай пасткай. Яна папросту асуджала Чарнецкага і Сапегу на энэргічныя і наступальныя дзеяньні, каб ініцыятыва ў бітве не перайшла ў рукі праціўніка і ня выклікала замяшаньня ў польска-літоўскіх войсках, што пагражала ім паразай з абсалютна непрадказальнымі вынікамі.

Ліцьвіны сталі на поўначы ад усходняй грэблі, а каронныя войскі — на поўдні. Цалкам магчыма, што з прычыны вузкасьці месца ў лукавіне ракі нейкую частку аддзелаў пакінулі на заходнім беразе ракі Палонкі ў раёне вёскі з аднайменнай назвай. Магчыма таксама, што літоўскае крыло забясьпечыла сябе ад спробы ахопу сваіх флянгаў праціўнікам, прасоўваючы нейкія адзінкі да ўзьлеску, які закрываў з поўначы ўваход у лукавіну ракі, а нават за яе. Грэбля апынулася на адрэзку фронту каронных войскаў. Чарнецкі прадбачыў, што падчас бою ўвага засяродзіцца на ёй, таму клапаціўся пра яе лёс, жадаючы гарантаваць праз гэта пасьпяховае выкананьне задуманага ім пляну бітвы. Рускі ваявода паставіў аддзелы сваёй дывізіі ў наступным парадку: правае, крайняе польскае крыло, якое знаходзілася насупраць разьмешчанага за ракою фальварку Па-

[38] Тамсама. De data secunda Juliy... BJag. № 5. S. 750.

цяны, занялі аддзелы панцырнай і лёгкай коньніцы пад камандаваньнем Габрыэля Вайніловіча. Яны былі схаваныя за ўзвышшам і нябачныя для разьмешчанага за ракой праціўніка. У цэнтры, насупраць грэблі, Чарнецкі разьмясьціў свой рэгімэнт драгуноў, усе дзьве каронныя гусарскія харугвы, а таксама астатнія казацкія і харугву казакоў Кабылецкага. Чарнецкі асабіста камандаваў гэтым адрэзкам. Левым крылом, якое сутыкалася з правым літоўскім крылом, камандаваў Аляксандар Паляноўскі. На ім была сканцэнтраваная рэшта пяхоты і невялікая артылерыя, якою валодаў Чарнецкі, складзеная з 7 лёгкіх палявых гармат. Далей цягнуліся літоўскія пазыцыі. У тыле Чарнецкі схаваў за пагоркам у якасьці невялікага рэзэрву дзьве згаданыя гусарскія харугвы, якія ў адпаведны момант павінны былі паслужыць для нанясеньня вырашальнага ўдару[39]. Войскі рускага ваяводы не стаялі непасрэдна пры рацэ. Галоўныя сілы былі схаваныя за невысокім пагоркам, каб непрыяцель ня мог зарыентавацца ні ў рэальнай сіле, ні ў разьмяшчэньні, што магло б навесьці яго на пэўныя высновы наконт пляну правядзеньня бітвы, складзенага польска-літоўскім бокам[40]. Напэўна, яшчэ да таго як пачаў расстаўляць войска, Чарнецкі паслаў праз грэблю на ўсходні бераг ракі чатыры лёгкія харугвы пад камандаваньнем вельмі дасьведчанага вэтэрана данскай кампаніі, паручніка Пятра Мэнжынскага, якія заселі ў невялікім гайку, што рос непадалёк ад гарлавіны грэблі. Яны павінны былі назіраць за перамяшчэньнем непрыяцеля, затрымаць боем яго лабавыя аддзелы, даючы тым самым знаць пра непасрэдную пагрозу атакі. Гэтак яны выконвалі функцыю авангарду.

У прынцыпе з моманту заняцьця пазыцыяў па берагах Палонкі рускі ваявода меў абдуманы плян правядзеньня бітвы. Шмат хто ў яго ным атачэньні лічыў, што трэба даваць бітву на сваім беразе, аднак Чарнецкі вырашыў правесьці яе на пераправах, прабіцца праз пераход з войскам на бераг непрыяцеля і там шукаць развязкі. Канчаткова да такога рашэньня яго схіліла тое, што значная частка і так вузкага месца ў лукавіне ракі была забітая літоўскімі табарнымі вазамі. Гэта не дазваляла войскам свабодна манэўраваць у выпадку прыняцьця бітвы на сваім баку[41]. Каб зьдзейсьніць згаданы плян, трэба было вырашыць праблему пераправы праз раку. Найпрасьцей яе можна было перайсьці па грэблі. Але чакалася, што непрыяцель таксама ўпарта будзе імкнуцца авалодаць ёю і адкрыць сабе тым самым шлях на польска-літоўскі бераг. Акрамя таго, Хаванскі меў у распараджэньні мацнейшую артылерыю, што дадаткова не абяцала посьпеху пераправы праз грэблю пад гарматным абстрэлам ворага. Таму Чарнецкі вырашыў правесьці яе, выкарыстоўваючы броды, разьмешчаныя на крылах каралеўскіх войскаў. З гэтай мэтай ён сканцэнтраваў там свае моцныя аддзелы коньніцы. Аднак гэта не азначала, што ён адмаўляўся ад бою за грэблю. Пастаўленая там пяхота мела заданьне ўвесь час прыцягваць увагу Хаванскага да гэтага месца, сваімі атакамі ў кірунку грэблі пераконваючы яго ў намеры фарсаваць яе. Ударыць праз яе ў цэнтар сілаў Хаванскага Чарнецкі плянаваў, толькі дасягнуўшы посьпеху на крылах.

У чвэрць па восьмай гадзіне на ўсходнім баку зьявілася армія Хаванскага[42]. Маскоўскі вайскаводца спачатку імкнуўся адразу ж нечакана атакаваць з маршу. А асаблівасьці ляндшафту давалі найлягчэйшы падыход да ракі на літоўскім адрэзку. Таму ўжо падчас непасрэднага набліжэньня да каралеўскіх пазыцыяў менавіта на гэтым адрэзку да яе магло найхутчэй дасягнуць маскоўскае правае крыло. Аднак яму заставалася атакаваць у лоб літоўскі адрэзак праз раку. Нельга было абыйсьці ягонага

[39] На падставе: Encyklopedia Wojskowa / Pod red. O. Laskowskiego. Warszawa, 1934—1939. S. 666; Kopia listu Jmci P. Wojewody Ruskiego do Króla JMci de data pod Myszą w polu die 28 Junij Anno 1660. BJag. S. 749—751.

[40] Zwycięstwo z Moskwy... S. 1175.

[41] Тамсама.

[42] Тамсама.

левага крайняга крыла, паколькі яно было прыкрытае поймай Палонкі. Да таго ж пойма была на значнай плошчы пароспая густым лесам, які цягнуўся далёка па-за размешчаны прыблізна за 1 км фальварак Важгінты. Левае ж крыло Хаванскага засталося досыць далёка ў тыле. Бо тут свабодна наблізіцца да ракі перашкаджаў ужо згаданы таёк, які знаходзіўся блізка ад грэблі[43]. Намеры Хаванскага былі досыць простыя. Ён плянаваў, пераходзячы сваім правым крылом праз раку, адціснуць ад яе ліцьвінаў, якіх прызвычаіўся трактаваць як слабога праціўніка. Калі б яму ўдалося адкінуць літоўскае крыло ад ракі, можа, нават зьнішчыць яго частку ці выклікаць у ім замяшаньне, тады ён мог бы адціснуць яго ў тыл каронных войскаў, выклікаць паніку ва ўсім каралеўскім войску і потым абедзьве гэтыя групы сьпіхнуць у балоты Палонкі, дзе іх поўніцай зьніштожыць.

Маскоўскі вайскаводца ня здолеў засьпець праціўніка зьнянацку, паколькі ўжо раней было вядома пра яго набліжэньне. Адбыліся таксама першыя баі ягонага авангарду з польскімі харугвамі Чарнецкага, адпраўленымі на суседні бераг Палонкі. Хаванскі паслаў перад сваімі галоўнымі сіламі аддзелы, складзеныя зь беларускай шляхты, пад камандаваньнем Флярыяна Слонскага. Гэтыя войскі, значна апраджваючы рэшту маскоўскіх сілаў, яшчэ на самым досьвітку, перш чым апусьціўся туман, ударылі харугвы польскага авангарду. Пры гэтым завязаўся зацяты бой. Аддзелы шляхты валодалі вялікай перавагай, ад іх шчыльнага агню кавалерысты панесьлі значныя страты ў конях. Наступаючы пеша, беларуская шляхта праявіла вялікую зацятасьць у баі. Ідучы на штурм схаваных у лесе палякаў, крычалі: *«Сёньня, сёньня спаснаеце Хаванскага»*. Аднак маскоўскай мэтай быў ня лес, а грэбля. Чарнецкі заахвочваў жаўнераў, каб тыя вытрывалі як мага даўжэй[44]. Жаўнеры Мэнжынскага не былі ў стане занадта доўга стрымліваць напор непрыяцеля, тым больш, што ў кожны момант маглі надысьці далейшыя маскоўскія войскі і зьнішчыць схаваныя ў лесе харугвы. Убачыўшы гэта, Чарнецкі адклікаў іх на грэблю. Яны здолелі заняць пазыцыю на пераправе і, магчыма, былі там падтрыманыя нейкімі дадатковымі аддзеламі. Гэта дало магчымасьць разьбіць Слонскага падчас яго далейшых атакаў, а сам ён патрапіў у палон і хутка быў пасаджаны на кол як здраднік. Ягоныя ж аддзелы былі адкінутыя ў напрамку Хаванскага, які надыходзіў з усёй сваёй моцай[45].

Першы бой закончыўся посьпехам палякаў. Пры гэтым яны падпалілі Палонку і іншыя блізкія фальваркі, каб дым дадаткова засланіў іх войскі ад вачэй варожых камандзіраў[46]. Маскоўскі князь быў упэўнены ў перамозе і досыць выразна пагарджаў праціўнікам. Калі дагэтуль ваеннае шчасьце нязьменна спадарожнічала яму, дык чаму цяпер перамога павінна была абмінуць яго? *«Ішлі сьмела, як на мёд і на ігрышча якое, маючы верную зброю, бердышы блісkучыя, паліраваныя, вострыя, на пасах шнуркі канапляныя для вязаньня нашых»*, — пісаў стары жаўнер з дывізіі рускага ваяводы Яахім Ерліч, падкрэсьліваючы ўпэўненасьць у перамозе, якая спадарожнічала прывыклым да няспынных посьпехаў маскоўскім войскам[47]. Хаванскі, падвёу-

[43] Ausführliche Relation von der herlischen Victoria... BN. Mf 37745; Ausführliche Relation der glücklischen Victoria... BN. Mf 37746.

[44] Апісаньне гэтых баёў у найпаўнейшым выданьні знаходзіцца ў: Ausführliche Relation von der herlischen Victoria... BN. Mf 37745; згадвае пра іх таксама Лось (£о . S. 94) і В. Кахоўскі (W. Kochowski. Historya panowania Jana Kazimierza / Wyd. E. Raczyński. Poznań, 1859. T. II. S. 66—67).

[45] Лось (£о . S. 94) і Скорабагаты (Skorobohaty. S. 81) падаюць, што яму адсеклі галаву 18 ліпеня пад Бабром і насадзілі яе на кол.

[46] Zwycięstwo z Moskwy.... S. 1175.

[47] Jerlicz. S. 49; гл. таксама меркаваньне Клакоцкага пра Хаванскага: K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 6 VII 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 224; Gründliche und umständliche Kontinuation... BN. Mf 27345.

шы сваю армію да ракі, канчаткова расставіў яе шэрагі для ажыццяўлення сваіх намераў. Ён не хацеў адмаўляцца ад намеру разьбіць літоўскае крыло, якое лічыў найслабейшым пунктам у каралеўскай арміі. Таму насупраць яго сканцэнтраваў галоўныя сілы сваёй конніцы, асабіста ўзначальваючы іх. Цэнтар свайго шыхту, пакінуў пад камандаваньнем Сямёна Данілавіча Зьмеева. Ён складаўся зь пяхоты і рэйтараў, а таксама меў у распараджэньні значную частку артылерыі. Левае крыло, якое знаходзілася насупраць каронных войскаў, узначаліў Сямён Лукіч Шчарбатаў. Пад яго камандаваньнем апынулася частка кавалерыі, пяхоты і дастаткова вялікая колькасьць гармат. У рэзэрве на чале з князем Трубяцкім пакінулі пэўную колькасьць конніцы. Яна стаяла дастаткова далёка ў тыле за гайком, які знаходзіўся каля грэблі[48]. Баючыся нейкага дзеяньня з боку каронных войскаў у кірунку свайго левага крыла, ён укамплектаваў аддзелам пяхоты і чатырма гарматамі фальварак Пацяны. Ён знаходзіўся далёка (каля 800 мэтраў) ад краю гэтага крыла, за забалочаным ручаём, які з усходу ўпадаў у раку Палонку. Хаванскі паслаў туды няшмат пяхоты, бо, як згадваў Пасэк, які змагаўся зь ёй пазьней, было яе толькі 100 жаўнераў, хоць крыху раней заяўляў ужо пра некалькі сотзень[49]. Яна павінна была абараняць край левага крыла ад магчымых спробаў палякаў пераправіцца праз раку. Як аказалася пазьней, гэта была вельмі слабая абарона. Няўвага да краю левага крыла аказалася найвялікшай памылкай маскоўскага вайскаводцы, які за гэта сурова паплаціўся. Ён абсалютна не прадбачыў, што туды будзе накіраваны галоўны ўдар найлепшых каронных войскаў. З крыніцаў дастаткова выразна відаць, што Хаванскі вельмі хутка падыходзіў раніцай 28 чэрвеня да пазыцыі сваіх праціўнікаў. Ён ня меў часу на іх уважлівую разьведку. Хаванскі нічога ня ведаў і пра нябачную для яго групу Вайніловіча, якая схавалася за пагоркам на супрацьлеглым баку лукавіны Палонкі. Сваё левае крыло ён лічыў менш важным ва ўсёй апэрацыі, а яго апірышча на струмень, які ўпадаў у раку Палонку, напэўна, палічыў дастатковай засьцярогай, дадаткова ўмацаванай пасланай у Пацяны сотняй пехацінцаў. Ён зусім не чакаў, што моцная група варожай конніцы пераправіцца праз дзьве цяжкапраходныя водныя перашкоды, каб ударыць уласна ў гэтае крыло. Затое бачная грэбля і бачная канцэнтрацыя каронных сілаў вакол яе маглі навесьці на думку, што Чарнецкі менавіта на ёй засяродзіць увесь цяжар сваіх ваенных высілкаў.

Хаванскі намерваўся шукаць перамогі на сваім правым крыле і тут сканцэнтраваў найвялікшую колькасьць сваіх найлепшых аддзелаў. Каб дабіцца такога вырашэньня, ён істотна аслабіў астатнія адрэзкі сваіх войскаў. Вельмі магчыма, што грэблю ён расцэньваў так жа, як і Чарнецкі. Ён імкнуўся ёй авалодаць, каб у выніку посьпеху кінуць праз яе свае галоўныя сілы на разьбітага праціўніка. З другога боку, ён баяўся, што каронныя войскі паспрабуюць здабыць яе ў час, калі ён сам намерваўся расправіцца зь ліцьвінамі. З увагі на гэта ён перасунуў у яе напрамку галоўныя сілы пяхоты і артылерыі. Яны павінны былі абараняць пераправу, а таксама ствараць уражаньне, што на ёй засяроджана галоўная ўвага маскоўскіх войскаў. А на самой справе бітву мусіла вырашыць кіраваная асабіста Хаванскім маса конніцы на правым маскоўскім крыле, сканцэнтраваная супраць літоўскага крыла.

Здарылася, што абодва бакі склалі ў прынцыпе падобныя пляны бітвы, толькі шукаючы вырашэньня на супрацьлеглых крылах праціўніка. Усё павінна было залежаць ад таго, ці левае літоўскае крыло акажацца больш устойлівым да ўдару варожых аддзелаў. Трэба прызнаць, што Чарнецкі забясьпечыў сабе значную перавагу ў гэтым пункце яшчэ да вырашальнай сутычкі. Яго левае крыло стварала ўся літоўская армія, зь

[48] Encyklopedia... S. 667; Zwycięstwo z Moskwy... S. 1175.
[49] Pasek. S. 130.

якой, недаацэньваючы яе, намерваўся справіцца Хаванскі. А паколькі маскоўскі вайскаводца не заўважыў схаванай у далінцы і прыкрытай дымам падпаленай Палонкі значнай колькасьці каронных сілаў на правым польскім крыле, левае маскоўскае крыло было слабейшае і да таго ж не пакрывала цалкам размаху кароннага крыла. Шчарбатаў, які кіраваў гэтым адрэзкам, быў больш занятыназіраньнем за грэбляй, чым сваім левым флянгам. Такім чынам, схаваныя польскія харугвы пад камандаваньнем Вайніловіча, выйшаўшы з укрыцьця на бераг ракі, па сутнасьці мелі перад сабою на яе другім беразе пустую прастору паміж краем левага маскоўскага крыла і нешматлікім аддзелам расейскай пяхоты, пасланай да фальварку ў Пацянах. Гэта давала хуткай польскай коньніцы вялізныя магчымасьці манэўру перад левым маскоўскім крылом, разам з абходам яго і глыбокім выхадам на тыл варожай арміі. Ужо першы погляд на гэтую сытуацыю паказваў, што нашмат цяжэй будзе адолець левае крыло польска-літоўскай арміі. Гэта зойме, прынамсі, нашмат больш часу, падчас якога можа адбыцца вырашальная для ўсёй бітвы сутычка на левым маскоўскім крыле.

Набліжаючыся да ракі, Хаванскі адправіў сваіх ганцоў да Чарнецкага, каб у задзірлівых словах паведаміць яму пра сваё прыбыцьцё. Паінфармаваў польскага вайскаводцу пра сваё шчасьце сутыкнуцца зь ім у баі. Словы Хаванскага як быццам былі поўныя пыхі і самаўпэўненасьці. Чарнецкі зрабіў выгляд, што ён ня хоча прымаць бітвы, а намераны адступіць, а сустрэчу з царскім вайскаводцам адкласьці на іншы час. Не дазволіў таксама, каб паслы заўважылі ўсе ягоныя войскі. А Хаванскі, наадварот, заўважальна высунуў свае аддзелы да ракі, зрабіўшы іх бачнымі для камандзіраў польска-літоўскай арміі[50].

Хаванскі ня думаў выпускаць праціўніка са сваіх рук і, здавалася, набіраўся ўпэўненасьці ў перавазе сваіх войскаў. У гэты момант ён заўважыў таксама пэўныя рухі па другім баку ракі, якія ўспрыняў за пачатак адступленьня Чарнецкага[51]. Польскі манэўр быў накіраваны на тое, каб пераканаць праціўніка ў сапраўднасьці намераў Чарнецкага адысьці з поля бітвы. Праз гэта меркавалася выцягнуць расейцаў за грэблю з выгадных для іх пазыцыяў. Далейшай мэтай было, напэўна, адцягнуць увагу камандзіра левага маскоўскага крыла Шчарбатава ад таго, што робіцца на ягоным левым флянгу. Ён павінен быў засяродзіць увагу на грэблі і выкарыстоўваць на яе абарону як мага больш сваіх сілаў. Хаванскі дазволіў зьлавіць сябе ў пастаўленай Чарнецкім пастцы. Яго адступленьне ён расцаніў самым сур'ёзным чынам і, бачачы яго, загадаў адразу рушыць пяхоце Шчарбатава за грэблю, каб прымусіць праціўніка прыняць бітву. Стрымлівалі яго больш асьцярожны Зьмееў і Шчарбатаў. Князь не дарма меў рэпутацыю «гарачага» вайскаводцы. Ён пагардліва адкінуў іх перасьцярогі, указваючы, што Літва ўцякае[52]. На яго загад на грэблю скіраваліся два аддзелы маскоўскай пяхоты[53]. Яны зь лёгкасьцю адштурхнулі жаўнераў Мэнжынскага, якія там яшчэ заставаліся. Перайшлі грэблю і пачалі разьмяшчацца па яе заходнім баку, прывалокшы нават некалькі гарматак і распачаўшы малаэфэктыўны з прычыны адлегласьці абстрэл польскай пяхоты[54].

[50] Апісаньне візыту паслоў Хаванскага на падставе: Les particularitez... S. 731—732; Ausführliche Relation der glüclischen Victoria... BN. Mf 37746.
[51] Les particularitez... S. 732; Maskiewicz. S. 302.
[52] J.A. Chrapowicki do B. Radziwiłła. Warszawa 25 VI 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 2153. S. 8; Maskiewicz. S. 302.
[53] Пасэк зь вялікім перабольшаньнем кажа, што гэта было 6 тыс. жаўнераў (с. 129); Лось згадвае пра 1700 (с. 94); «Ausführliche Relation von der herlischen Victoria...» (BN. Mf 37745) падае, што гэта былі два рэгімэнты; а Кахоўскі піша пра два палкі (с. 66). Хутчэй за ўсё, было некалькі соцень жаўнераў.
[54] Ausführliche Relation von der herlischen Victoria... BN. Mf 37745; Les particularitez... S. 732.

У крыніцах, якімі мы валодаем, гэты этап бітвы крыху расплывісты. Данясеньні, пісаныя адразу пасьля яе часта мелі форму ліста, які мусіў інфармаваць, напрыклад, караля пра здабытую перамогу. Яны не ўдаюцца ў апісаньне дэталяў, а сваю ўвагу зьвяртаюць галоўным чынам на тыя падзеі падчас бітвы, якія, па-першае, разыгрываліся на адрэзку аўтара апісаньня, а па-другое, былі вырашальнымі і найбольш важнымі для ходу баталіі дзеяньнямі. Таму некаторыя эпізоды, істотныя з нашага пункту погляду, маглі выпасьці з-пад іхняй увагі ці быць папросту адзначанымі без шырэйшага апісаньня.

Гэта датычыла таксама моманту пераправы маскоўскай пяхоты праз грэблю. Найбольш дэталёвымі апісаньнямі гэтага аказваюцца нямецкамоўныя данясеньні. Аўтар адной зь іх, напэўна, быў афіцэрам пяхоты, якая змагалася зь пяхотай Хаванскага пры грэблі, і з гэтай прычыны ягонае апісаньне пралівае найбольш сьвятла на падзеі, якія разыгрываліся там. Калі іншыя данясеньні бачаць хутчэй адну, тую канчатковую атаку на грэблю польскай коньніцы, якая пераламіла маскоўскую пяхоту, то гэты аўтар заўважае іх дзьве, а паміж імі — дастаткова доўгі час, калі пяхота абодвух бакоў білася на гэтай самай пераправе. Папоўненая захаванымі абрыўкамі інфармацыі зь іншых крыніц, гэтае данясеньне паказвае нам адносна поўную карціну баёў, якія вяліся ў цэнтры польскіх пазыцыяў.

Чарнецкі, назіраючы за рухам непрыяцеля, не дапусьціў да занадта вялікага яго ўмацаваньня на сваім беразе. Калі палічыў, што настала адпаведная хвіля, ён маланкава высунуў зь нябачнага для маскоўскіх жаўнераў месца схаваныя дагэтуль харугвы. Хутчэй за ўсё, у атацы ўзялі ўдзел перш за ўсё драгунскія харугвы разам зь іншымі, якія павінны былі выгнаць маскоўскіх пехацінцаў са свайго берагу ракі. Сярод іх на чале маглі быць аддзелы гусараў, якія мусілі зламаць на сваім вузкім адрэзку грэблі націск пехацінцаў Хаванскага, шыхт якіх у гэтым месцы мусіў быць нашмат глыбейшы. Хутчэй за ўсё, у гэты момант бітвы яны атакавалі бязь дзідаў, а толькі з палашамі ў руках, ламаючы маскоўскія шэрагі сваім цяжарам. Атакуючы з імклівым імпэтам, коньніца рынулася на маскоўскіх пехацінцаў, якія толькі раз здолелі выстраліць з мушкетаў. Моцны ўдар разьбіў іх шэрагі і сьпіхнуў у ваду. Польскія коньнікі прагляпавалі потым праз разьбітыя шэрагі пяхоты і прабіліся на грэблю, зь якой сагналі маскоўскую пяхоту. Царскіх жаўнераў, якія засталіся на польскім беразе, высеклі ў наступныя хвілі кавалерысты і перастралялі аддзелы пяхоты Чарнецкага, што ішлі за імі. Тым часам гусары, якія імкнуліся наперад, наблізіліся да супрацьлеглай гарлавіны грэблі і, праўдападобна, выйшлі на супрацьлеглы маскоўскі бок у пагоні за разьбітай пяхотай[55].

Хаванскі, які кіраваў дзеяньнямі сваіх войскаў, убачыўшы паразу і выхад цяжкай польскай коньніцы на свой бераг, мог баяцца, што праціўнік паспрабуе выкарыстаць гэты посьпех. Таму ён мусіў адкласьці ўдар супраць ліцьвінаў і зьвярнуў увагу на пастаўлены пад пагрозу адрэзак Шчарбатава, разьмешчаны на ўзроўні грэблі. Супраць палякаў ён скіраваў значныя аддзелы коньніцы зь яго групоўкі, што дадаткова паўплывала на аслабленьне і так ня надта моцнага маскоўскага левага крыла. Пераходзячы ў атаку, маскоўская коньніца хутка адціснула праціўніка праз грэблю на польскі бераг ракі[56]. Адразу пасьля гэтага за ёй да ракі падцягнуліся моцныя аддзелы маскоўскай пяхоты, якая зноў заняла грэблю. На гэты раз Хаванскі выкарыстаў для гэтых дзеяньняў нашмат мацнейшыя войскі, падтрыманыя ў дадатак моцнай артылерыяй.

---

[55] Z pod Kojdanowa de data 2 Julii rano 1660. Wiadomość od Jmci P. Sapiehy Hetmana WXLitt. BJag. № 5. S. 747; Łoś. S. 94—95; Encyklopedia... S. 666.
[56] Ausführliche Relation von der herlischen Victoria... BN. Mf 37745; Kochowski. S. 67.

У той момант, калі Хаванскі адклаў убок плянаваныя дзеяньні на правым крыле сваёй арміі, ён пачаў пераводзіць сваю ўвагу на яе адрэзак бліжэй да цэнтру шыхту, каля грэблі. Гэта ліквідавала непасрэдную небясьпеку, якая навісла зь ягонага боку над літоўскімі войскамі, і дало ім большую свабоду дзеяньня. Маскоўскі князь заняўся ўмацаваньнем сваіх пазыцыяў на грэблі, выкарыстоўваючы для гэтага пяхоту зь іншых адрэзкаў фронту. Ён ведаў, што Чарнецкі распачаў чарговую атаку на грэблю. Рускі ваявода разьмясьціў у шэрагі моцную ўдарную групу, якая складалася зь пяці драгунскіх харугваў пад камандаваньнем палкоўніка Яна Тэдтвіна, дзьвюх гусарскіх, адной Чарнецкага, якою кіраваў ягоны паручнік Пётар Касакоўскі, і другой каралеўскай, якую вёў яе харужы Даманеўскі. Да гэтай групы належалі таксама дзьве казацкія харугвы. Адна — уласная Чарнецкага, якую вёў Пётар Мэнжынскі, а другая — зяця рускага ваяводы, кароннага крайчага Вацлава Ляшчынскага. Гэтыя аддзелы былі падтрыманыя дзьвюма палявымі гарматамі[57]. Чарнецкі ня выкарыстаў адразу ўсе сабраныя сілы. Спачатку ён увёў у бой харугвы апешаных драгуноў пад камандаваньнем Тэдтвіна. Коньніца засталася ззаду, чакаючы вынікаў змаганьняў пяхоты.

Наступ распачалі драгуны Тэдтвіна. У сьмяротных сутычках пяхоты іх падтрымалі казакі Францішка Кабылецкага. Супольнымі сіламі ўдалося адціснуць маскоўскіх пехацінцаў і коньнікаў за грэблю і нават здабыць там пляцдарм. Іх адкінулі да самага лесу, які рос каля пераправы па ўсходнім баку ракі. Адступаючы з грэблі, расейцы ня здолелі забраць з сабой усіх сваіх гармат і частка зь іх патрапіла ў рукі палякаў[58]. Заняцьце грэблі і пераход на ўсходні бераг ракі стала вялікім посьпехам польскага боку. Аднак пры гэтым былі панесеныя значныя страты ў пяхоце і казацкай харугве. Быў цяжка паранены яе камандзір Ф. Кабылецкі, і некаторыя былі нават перакананыя, што ён загінуў[59].

Хаванскі вырашыў за ўсякую цану спыніць гэтае, такое небясьпечнае ўварваньне палякаў у ягоныя пазыцыі. Ён скіраваў туды чарговыя значныя сілы пяхоты і артылерыі. Распачаў забойчы абстрэл занятага палякамі пляцдарму. На гэтым напрамку ён сабраў таксама дастаткова вялікую групу коньніцы, якая павінна была дапамагчы пяхоце выгнаць палякаў на іхні бераг[60]. У выніку посьпехаў драгуноў Тэдтвіна Чарнецкі атрымаў значную перавагу ў цэнтры і тут рэалізаваў свае мэты, якія дазвалялі яму ў той жа момант распачаць вырашальныя для ўсёй бataліі апэрацыі на крылах. Увага маскоўскага шыхту была ўжо ў такой ступені скіраваная ў іх цэнтар, асабліва на левым крыле, да грэблі, што край яго левага адрэзку зусім выпаў з-пад увагі маскоўскіх камандзіраў. Такім чынам, расейцы цалкам адкрывалі свой левы флянг, а высаджаны ў Пацянах аддзел пяхоты станавіўся ўсё больш пэрыфэрыйнай і забытай групай жаўнераў.

Вырашальны польскі ўдар павінны былі зьдзейсьніць схаваныя на далёкім правым крыле харугвы групы Вайніловіча. Аднак Чарнецкі непакоіўся за літоўскае крыло. Хоць Хаванскі ня здолеў ударыць на яго, але надалей стаялі насупраць яго шматлікія аддзелы добрай маскоўскай коньніцы. Яны маглі і не абавязкова пад камандаваньнем самога князя стварыць пагрозу ліцьвінам, што пахавала б якраз распачатыя польскія наступальныя дзеяньні. У кожным разе яны былі таксама вялікімі рэзэрвовымі сіламі, якія Хаванскі мог перакінуць у цэнтар ці супраць групы Вайніловіча і выкарыстаць іх дзеяньні. Чарнецкі ня мог дапусьціць рэалізацыі ніводнай з гэтых магчымасьцяў.

[57] Zwycięstwo z Moskwy... S. 1175—1176.
[58] Kopia listu Jmci P. Wojewody Ruskiego... S. 750; Les particularitez... S. 732—733.
[59] Kopia listu Jmci P. Wojewody Ruskiego... S. 750; Kochowski. S. 68; Kersten A. Kobyłecki Franciszek // PSB. T. XIII. S. 173.
[60] Ausführliche Relation von der herlischen Victoria... BN. Mf 37745.

Таму ён вырашыў зьвязаць боем маскоўскія войскі, якія стаялі насупраць ліцьвінаў. Гэтае заданьне мусілі выканаць людзі Сапегі. Таму, распачынаючы атаку на грэблю сіламі драгуноў Тэдтвіна, ён адначасова паслаў заклік да Паўла Сапегі, каб той распачынаў літоўскімі харугвамі наступ на правае расейскае крыло[61]. У гэты ж час ці, можа, крыху пазьней ён аддаў падобны загад Вайніловічу. Ён павінен быў фарсаваць Палонку ў кірунку Пацянаў і вывесьці на далёкі тыл войскаў Хаванскага, абыходзячы левы флянг групоўкі Шчарбатава. Чарнецкі адначасова распачынаў далейшыя дзеяньні, якія мусілі затрымаць расейцаў у цэнтры. Для польскага вайскаводцы бітва ўваходзіла ў вырашальную фазу. Разам з распачацьцем пераправы ягоных войскаў на абодвух крылах ініцыятыва змаганьня пераходзіла ўжо цалкам у яго рукі. Хаванскі ў той момант быў адсунуты на драматычную абарону з каралеўскімі групоўкамі, якія зьяўляліся і націскалі адусюль.

Атрымаўшы заклік да атакі, Сапега паслаў пяхоту, якая праз брод адкінула нешматлікую там маскоўскую пяхоту. Потым да імклівай атакі на масы моцнай варожай коньніцы кінуў дзьве літоўскія гусарскія харугвы пад камандаваньнем Палубінскага. Гэта былі адна каралеўская харугва, паручнікам якой быў сам Палубінскі, а другая — вялікага літоўскага гетмана з паручнікам Уладыславам Юр'ем Халецкім. З данясеньня Сапегі вынікае, што ўдар Сапегі меў жахлівыя вынікі для маскоўскай пяхоты, што стаяла ў яе на шляху. Яе шыхт быў разьбіты дзідамі так пасьпяхова, што *«ніводзін дрэўка дарма не раструшчыў»*. Прызнаваў, што хоць сам гэтага ня бачыў, *«але годны веры таварыш кажа, што шэсьць маскалёў на адной дзідзе бачыў»*[62]. За бегам гусарыі ішлі далейшыя лягчэйшыя літоўскія харугвы, якія пераходзілі Палонку. Аднак вялікі імпэт літоўскіх войскаў быў праз пэўны час затармажаны зацятай абаронай шматлікай маскоўскай коньніцы, што знаходзілася на гэтым крыле. Праз нейкі час расейцы перайшлі нават да контратакі, здолелі акружыць зь левага літоўскага боку войскі Сапегі, якія наступалі, і нават выйшлі на іх тыл. Праз гэта расейцы стварылі для іх вельмі небясьпечную сытуацыю. У вялікай пагрозе апынуўся сам Сапега і Палубінскі. Гетман страціў каня. У цяжкай сытуацыі ўратавала іх ахвярнасьць і адвага двух латнікаў, якія ў імклівай атацы папросту ўратавалі абодвух вайскаводцаў. Ратуючы гетмана, аддаў сваё жыцьцё швэдзкі афіцэр Зас, якога як палоннага пасьля заключэньня міру са Швэцыяй Сапега наняў на сваю службу. На полі бітвы пад Палонкай ён уратаваў жыцьцё гетману, аддаўшы яму свайго каня. Праз гэта загінуў сам ад рук маскоўскіх коньнікаў. Гэтыя перажываньні надоўга адбіліся ў памяці вялікага гетмана. Ён згадваў пасьля бітвы: *«З гэтай вялікай цяжкасьці, з рук ворага амаль сам Бог мяне цудоўна зь ягамосьцю пісарам вырваў ад іх, бо ўжо пасеклі б нас»*[63]. На працягу далейшых змаганьняў жаўнеры Сапегі здолелі ўтрымаць на ўсходнім беразе, адбіць атаку Хаванскага і выкруціцца з трагічнага становішча. На шчасьце для ўсёй каралеўскай арміі, часовы крызыс удалося адолець. Магчыма, дапамагло ў гэтым зьяўленьне штораз большых літоўскіх адзінак, якія, фарсуючы брод на рацэ, паступова далучаліся да бою. А таксама, напэўна, вялікую ролю адыграла тут чарговае аслабленьне правага маскоўскага крыла, зь якога па пазьнейшым этапе бітвы адцягваліся сілы ў кірунку пастаўленага пад пагрозу левага крыла арміі Хаванскага. Ва ўсякім разе, літоўскія войскі былі затрыманыя і на даўжэйшы час ублытаныя ў пазыцыйныя змаганьні на правым маскоўскім крыле, цалкам страціўшы хуткасьць дзеяньня.

---

[61] Так паказвае падзеі добрасумленная нямецкамоўнае данямленьне, гл.: Ausführliche Relation von der herlischen Victoria... BN. Mf 37745; гл. таксама: Z pod Kojdanowa... S. 747.

[62] Z pod Kojdanowa... S. 748; Les particularitez... S. 726.

[63] Z pod Kojdanowa... S. 748; Les particularitez... S. 727; Chrapowicki. S. 250.

Тым ня менш, задачу, якую Чарнецкі ставіў перад войскамі Сапегі, яны выканалі. Правае маскоўскае крыло цяпер само павінна было абараняцца ад шматлікіх літоўскіх харугваў і не магло пагражаць каралеўскай арміі ці аказаць большую дапамогу іншым адрэзкам арміі Хаванскага. Яго самога зацікалі ў цэнтар, таму ў яго зьявілася дадатковая прычына непакоіцца за правае крыло, а на далёкі край левага крыла маскоўскі вайскаводца тым больш не зважаў. Чарнецкі мог сьмела распачаць рэалізацыю манэўру, які павінен быў прынесьці вырашальную разьвязку ў змаганьнях з арміяй Хаванскага.

Распачынаючы атаку, Вайніловіч вывеў свае харугвы з прыкрыцьця і хутка пайшоў да ракі. Незаўважаны маскоўскімі войскамі, ён зь вялікай цяжкасьцю прайшоў празь яе балоцістае рэчышча, паростае густым і высокім зарасьнікам. Ён ішоў проста на фальварак Пацяны. Калі ягоныя коньнікі ўжо апынуліся па-за зарасьнікам, іх заўважыла пяхота, разьмешчаная ў забудове фальварку. Яна рэзка адкрыла на палякаў агонь, аднак Вайніловіч здолеў паставіць у шыхты сваю коньніцу і абрынуўся на пехацінцаў. Яны мужна абараняліся, прыносячы вялікія страты палякам бердышамі. Аднак хутка былі высечаныя ўсе да аднаго. Адгалоскі бою, якія даходзілі з аддаленага фальварку, зьвярнулі ўвагу Трубяцкога, які камандаваў рэзэрвовай коньніцай, складзенай з баярскіх аддзелаў і рэйтараў. Імгненна зарыентаваўшыся ў небясьпецы, ён адразу кінуў яе ў атаку. Удар быў такі хуткі і імклівы, што людзі Вайніловіча ня мелі часу, каб пасьля папярэдняй атакі перазарадзіць зброю. Палякі вытрымалі залп, дадзены па іх рэйтарамі з блізкай адлегласьці, а потым разгарэўся ўпарты бой пад самымі Пацянамі. Перамога досыць доўга вагалася ў абодва бакі, існавала нават пагроза адцісьненьня палякаў назад у балоты Палонкі. Толькі калі польскі коньнік параніў ударам шаблі Трубяцкога ў галаву, маскоўскі напор быў зламаны, а царская коньніца кінулася наўцёкі, зацята гнаная харугвамі Вайніловіча[64].

Убачыўшы гэты посьпех, Чарнецкі вырашыў нечакана ўзмоцніць націск на маскоўскі цэнтар праз грэблю, каб гэтак аблегчыць заданьне Вайніловічу і падтрымаць сваіх моцна атакаваных драгуноў, якія адважна трымалі пляцдарм. Занятая грэбля дазваляла яму з адносна малымі стратамі і замяшаньнем правесьці наступ адзінак на другі бок ракі, на невялікі пляцдарм, і разьвіць зь іх поўную атаку. Для яе правядзеньня ён выкарыстаў падрыхтаваныя раней дзьве гусарскія і дзьве казацкія харугвы, якія стаялі ззаду. Яны рушылі ў атаку праз грэблю на цэнтар непрыяцеля. Абмінаючы пяхоту Тэдтвіна, якая абараняла пляцдарм, яны сутыкнуліся з маскоўскай коньніцай, што стаяла непадалёк ад лесу і рыхтавалася да дзеяньняў супраць польскага пляцдарму. Там завязаўся жорсткі бой коньніцы, якая аддаліла пагрозу маскоўскай атакі на стомленых драгуноў. Польскія харугвы адступілі з кірунку сваіх драгуноў[65]. Увага Хаванскага зноў была прыкаваная да грэблі. Аднак гэта не працягвалася доўга, паколькі нечакана радыкальна зьмянілася сытуацыя на забытым ягоным левым крыле. Праз трагічны для царскіх войскаў абарот падзеяў у тым баку, цэнтральны кірунак павінен быў адразу саступіць таму, што пачынала разыгрывацца на левым крыле і ў маскоўскім тыле.

Коньнікі Вайніловіча, перасьледуючы Трубяцкога, забраліся далёка ў тыл арміі Хаванскага. Дзякуючы гэтаму стала нарастаць замяшаньне ў шэрагах маскоўскіх жаўнераў на адрэзку Шчарбатава і Зьмеева, якія біліся з войскамі Чарнецкага, што націскалі праз грэблю. Для іх, як і для Хаванскага, узьнікла вельмі небясьпечная сытуацыя. Пад магутным націскам з боку пераправы яны ўбачылі пераможнага праціўніка ў сваім тыле. Да таго ж на правым крыле ўсё мацней націскалі ліцьвіны.

[64] Апісаньне наступу войскаў Вайніловіча на падставе: Pasek. S. 130—132.
[65] Kopia listu Jmci P. Wojewody Ruskiego... S. 750; Les particularitez... S. 733.

Бачачы ў сваім тыле моцную групу польскай коньніцы, Хаванскі павінен быў як мага хутчэй распачаць супрацьдзеяньне ёй. У адваротным выпадку яна пагражала яму атакай ззаду на войскі, якія змагаліся з Чарнецкім, або на крыло, якое дагэтуль білася без асаблівага посьпеху зь літоўскімі харугвамі. Ня маючы ўжо аддзелаў Трубяцкога і апынуўшыся перад неабходнасьцю ратаваць сваю армію, Хаванскі быў вымушаны прыняць імгненнае рашэньне перакінуць выцягнутыя з правага крыла аддзелы сваёй коньніцы супраць палякаў, якія знаходзіліся ў тыле. Аднак гэта мінімалізавала шанцы адкінуць ці, прынамсі, стрымаць ліцьвінаў, а нават стварала пагрозу таго, што яны вырвуцца з тупіку і зломяць аслабленае царскае крыло. Значныя аддзелы царскай коньніцы адразу рушылі на пераможных палякаў. Сутычка зь імі завязалася ў тыле груповак Шчарбатава і Зьмеева[66]. Аднак, як пісаў Пасэк, націск гэтых новых войскаў слабеў усё больш, а яны самі ішлі ў атаку няўпэўнена і з усё горшымі прадчуваньнямі, бачачы, як імклівa пагаршаецца сытуацыя ўсёй іхняй арміі. Таму жаўнерам Вайніловіча ўдавалася яшчэ лягчэй адбіваць гэтыя аддзелы, так што яны мелі нават час набіваць агнястрэльную зброю.

Убачыўшы, як разьвіваюцца падзеі за ракой, Чарнецкі зразумеў, што для бітвы настаў вырашальны момант і што цяпер яе пераможнае завяршэньне залежыць ад хуткасьці і эфэктыўнасьці яго дзеяньня ў цэнтры на ўзроўні грэблі. Маруджаньне магло прывесьці нават да зьнішчэньня войскаў Вайніловіча, на якія накінуліся чарговыя аддзелы маскоўскай коньніцы, і дазволіць Хаванскаму супакоіць замяшаньне, што зьявілася ў яго шэрагах. Таму ў гэты момант трэба было правесьці моцны ўдар, скіраваны ў цэнтар непрыяцеля. Пры посьпеху атакі харугвы Вайніловіча маглі выканаць ролю кавадла, на якім будзе раструшчана ўся армія Хаванскага.

Распачынаючы зьдзяйсьняць свой намер, Чарнецкі меў падрыхтаваныя для гэтага дзьве ўжо згаданыя гусарскія харугвы. За імі павінны былі ўдарыць лягчэйшыя казацкія. Таксама пяхота на пляцдарме і тая, што знаходзілася на левым каронным крыле пад камандаваньнем Паляноўскага, атрымала заданьне рушыць супраць пераможнай коньніцай. Чарнецкі таксама паслаў Сапегу настойлівы заклік узмоцніць намаганьні і пачаць націск усімі сіламі. Ён заклікаў літоўскага гетмана: *«Дзеля Бога, каб усімі сіламі націснуць і разарваць Маскву, бо згубім каралеўскі полк»*[67]. Чарнецкі меў на ўвазе як падтрымку харугваў Вайніловіча, так і разгром і дэзарганізацыю правага маскоўскага крыла, каб Хаванскі ня мог браць адтуль падмацаваньні для свайго цэнтру. Акрамя таго, Чарнецкі чакаў выхаду ліцьвінаў у тыл арміі праціўніка і канчатковага атачэньня ягоных аддзелаў.

Магутная атака праз грэблю на цэнтар ворага прынесла поўны посьпех, прыводзячы да паразы арміі Хаванскага. Маскоўская коньніца, якая спрабавала супрацьдзейнічаць атацы гусараў, была цалкам разьбітая і рассыпалася па баках. Хаванскі спрабаваў яшчэ арганізаваць сваю коньніцу для далейшай абароны. Таму ў цэнтры закіпеў бурны бой паміж маскоўскай коньніцай і польскімі гусарамі разам зь лягчэйшымі харугвамі, што ўваходзілі за ёй. Польская коньніца спрабавала ўдарыць на расейскую пяхоту, якая вельмі адважна абаранялася і сама пераходзіла ў атакі, шчыльна страляючы з агнястрэльнай зброі[68]. Хаванскі нібыта аж чатыры разы заварочваў з уцёкаў сваю коньніцу ў чарговыя атакі на польскую коньніцу[69]. Аднак яны няспынна слабелі, і напор маскоўскіх коньнікаў хутка страчваў рашучасьць. Жаўнеры Хаванскага ўсё больш пачыналі думаць пра ўласны ратунак, чым пра далейшы супраціў пераможным палякам. Да таго ж вялікая частка беларускай і літоўскай шляхты з-пад штандараў Хаван-

[66] Pasek. S. 132; Kopia listu Jmci P. Wojewody Ruskiego... S. 750.
[67] Pasek. S. 132.
[68] Ausführliche Relation von der herlischen Victoria... BN. Mf 37745.

скага, убачыўшы паразу, пачала пераходзіць на бок пераможцаў. Маскоўскіх пехацінцаў, якія стаялі каля гайку, атачылі драгуны разам з польскай пяхотай, якая густа ўлівалася на маскоўскі бераг праз занятую грэблю. Першая сутычка з царскай пяхотай, што цьвёрда абаранялася, не прынесла значных посьпехаў. Удалося толькі забраць у іх гарматы. Яны яшчэ не адчувалі паразы, паколькі каля іх усё яшчэ білася маскоўская коньніца. Таму яны ня толькі абаранялі, але і пераходзілі да мясцовых атакаў[70].

Падзеі разгортваліся з усё большай імклівасьцю. Убачыўшы, што цэнтар церпіць паразу, кінуліся наўцёкі маскоўскія коньнікі, якія дагэтуль змагаліся з Вайніловічам. Яны і тыя з правага крыла, за якімі не замкнуліся польска-літоўскія клешчы, мелі найбольшыя шанцы выйсьці жывымі з поля бітвы. За імі здолела ўцячы таксама амаль траціна пяхоты. Яны ўцякалі першымі, але жаўнеры Вайніловіча ня кінуліся ў пагоню, а ўдарылі ззаду на маскоўскія шэрагі Шчарбатава. Адзначыўся там на чале сваіх жаўнераў асецкі староста Адам Чарнкоўскі, паручнікам казацкай харугвы якога быў Мікалай Скіпатускі[71]. У той жа час мабілізаваныя на заклік Чарнецкага ліцьвіны прарвалі супраціў аслабленага правага маскоўскага крыла, і з гэтага боку пераможныя харугвы Сапегі моцна ўбіліся ў правы бок коньніцы Хаванскага, якая білася з харугвамі Чарнецкага. Націскаючы наперад, яны адсунулі частку варожай коньніцы з маскоўскага правага крыла на царскую коньніцу, якая білася ў цэнтры, што паглыбіла хаос і замяшаньне, якія і так ужо ахоплівалі маскоўскія шэрагі[72].

У гэты момант узьнікла сытуацыя, у якой большасьць войскаў арміі Хаванскага, асабліва тыя, што змагаліся ў цэнтры і на левым крыле, былі заатакаваныя з усіх бакоў. Тады закіпеў самы ўпарты бой ва ўсёй бітве. Атачаная адусюль маскоўская коньніца білася ўжо не за перамогу, а за ўласны ратунак[73]. Зацяты адпор давала ў цэнтры маскоўская пяхота, атакаваная драгунамі Тэдтвіна. У гэты момант бітвы да яе зноў спрабавалі дабрацца і польскія коньнікі, але пехацінцы, якія ўпарта абараняліся, адбілі іх мушкетным агнём, а таксама доўгімі дзідамі і бердышамі. Таму, калі настаў час перасьледаваць маскоўскую коньніцу, яны адступіліся ад гэтага цяжкага бою і кінуліся ў пагоню. Здаецца, што Чарнецкі даручыў пільнаваць гэтых расейцаў мальтыйскаму кавалеру Мікалаю Уладыславу Юдыцкаму[74]. Змаганьне з маскоўскай пяхотай і коньніцай у цэнтры, хоць і вельмі ўпартае, ужо не працягвалася доўга. Аднак яно прынесла вялізныя страты маскоўскім войскам. Вельмі хутка гэтага ня вытрымала абарона, якую ўвесь час падтрымліваў Хаванскі. Першым быў зламаны супраціў коньніцы. Яна кінулася панічна ўцякаць у свой тыл. За ёй пагналіся харугвы польскай коньніцы пад камандаваньнем Паляноўскага, якія перасьледавалі ўцёкі непрыяцеля на вялікую адлегласьць[75]. У пагоню за імі кінуліся таксама літоўскія харугвы пад камандаваньнем Кміціча. Яны вялі перасьлед да позьняй ночы, цалкам расьсеяўшы ўцекачоў[76]. Масы маскоўскіх коньнікаў падчас уцёкаў стварылі нават пагрозу для аддзелаў Вайніловіча, паколькі з усёю моцай ляцелі ў іхні бок. Аднак спалоханыя ўцекачы і ня думалі ўцягвацца ў новыя баі.

[69] Les particularitez... S. 733. Паводле «Ausführliche Relation der glüclischen Victoria...» (BN. Mf 37746), коньніца Хаванскага вярталася тры разы.

[70] Ausführliche Relation von der herlischen Victoria... BN. Mf 37745; Курбатов О. Литовский поход... С. 37.

[71] Pasek. S. 132; Kopia listu Jmci P. Wojewody Ruskiego... S. 750; Ausführliche Relation von der herlischen Victoria... BN. Mf 37745.

[72] Ausfьhrliche Relation von der herlischen Victoria... BN. Mf 37745; Z pod Kojdanowa... S. 748; Les particularitez... S. 728.

[73] Kochowski. S. 67.

[74] Ausführliche Relation der glüclischen Victoria... BN. Mf 37746; Kochowski. S. 67.

[75] Kopia listu P. Wojewody Ruskiego... S. 750.

[76] Z pod Kojdanowa.... S. 748.

Калі ж стала бачна, што маскоўская конніца ўжо цалкам уцякла з поля бою, тады і жаўнеры Вайніловіча імкліва кінуліся за ёй[77]. Распачалася разня недабіткаў, якія заставаліся ззаду, а асабліва зацята гналіся за баярамі і дваранскай знаццю, якія вылучаліся багацейшым і больш пярэстым адзеннем. Аднак галоўнае заданне весці пагоню выпала літоўскай конніцы. Сярод уцекачоў апынуўся сам Хаванскі, які ў апошнія хвілі супраціву быў двойчы паранены шабляй у галаву і, напэўна, тады страціў апошняе жаданне працягваць супраціў і кінуўся наўцёкі. З поля бітвы ён выйшаў пры значнай падтрымцы віцебскай шляхты і віцебскага стальнікoвіча Юр'я Храпавіцкага[78]. Падчас гэтай пагоні адзін з маскоўскіх камандзіраў, Сямён Лукіч Шчарбатаў, спрабаваў нават спыніць Хаванскага, каб далей супраціўляцца пераможцам і хвалебна загінуць на полі бітвы. Аднак галоўны вайскаводца не паслухаўся яго і ўцёк, Шчарбатаў таксама выбраўся з пасткі. Затое іншы з вайскаводцаў, які меў такое самае прозвішча, Восіп Іванавіч Шчарбатаў, патрапіў у палон, і да 1661 г. Чарнецкі трымаў яго ў Тыкоціне[79]. Адважна біліся аддзелы смаленскіх рэйтараў пад камандаваньнем С. Зьмеева. Яны не падддаліся паніцы, але, зь вялікай стараннасьцю адбіваючы атакі, здолелі выбрацца з поля бітвы. Пры гэтым ім удалося вывесьці з-пад паразы значную колькасьць пяхоты і частку царскіх штандараў і дайсьці да Полацку. Насуперак цьверджаньням польскіх мэмуарыстаў і аўтараў лістоў, з поля бітвы ўдалося выйсьці каля 800 стральцам і 400 чалавекам салдацкай пяхоты, г.зн. траціне пяхоты Хаванскага, якая брала ўдзел у бітве[80].

Пасьля разгрому маскоўскай конніцы на пляцы засталася яшчэ моцная групоўка пяхоты з арміі Хаванскага, які стаяў вельмі блізка да лесу, што рос непадалёк грэблі. Сярод пехацінцаў апынуўся чарговы расейскі вайскаводца Зьмееў. Аднак гэта быў не камандзір цэнтру Сямён Ільліч Зьмееў, які, цяжка паранены, здолеў уцячы, але ягоны сын. Нейкі час шыхты пехацінцаў стаялі нерухома, адбіваючы спробы палякаў разьбіць іх. Відаць, царскія жаўнеры мелі надзею, што Хаванскі вернецца на поле бітвы. Праз нейкі час на полі бою пачалі зьяўляцца польскія харугвы, якія вярталіся зь перасьледу[81]. У першую атаку на пяхоту кінуўся на загад Чарнецкага Юдыцкі на чале гусараў. Удар цяжкай конніцы здолеў разьбіць шэрагі пяхоты. Тады з бакоў, краем лесу, літоўскі гетман паслаў у атаку іншыя лягчэйшыя харугвы, каб адштурхнуць пехацінцаў ад лесу[82]. Гэта мела на мэце адрэзаць пяхоту ад сьцяны дрэваў і выпіхнуць яе на адкрытую прастору, дзе польскім і літоўскім войскам было лягчэй разграміць яе, пазбаўленую заслоны, прынамсі з аднаго боку, лесам. Аднак царскіх пехацінцаў аказалася надзвычай цяжка перамагчы. Яны здолелі адступіць у лес і там арганізаваць зацятую абарону. Тады ўвесь пералесак атачылі пяхотай і гарматай і пачалі страляць у пяхоту, якая там шчыльна стаяла[83]. Моцны абстрэл прывёў да вялізных стратаў у шэрагах маскоўскіх жаўнераў. Напэўна, тады панёс сьмерць іхні камандзір Зьмееў, якому нібыта патрапілі стрэлам у галаву[84]. Уцалелыя маскоўскія жаўнеры выйшлі з-за дрэваў і прасілі спыніць бой, жадаючы здацца. Аднак да іх не праявілі ніякай літасьці. На іх кінулася каронная і літоўская конніца на чале зь Юдыцкім. І нават тады, як прызнавалі іх праціўнікі, яны абараняліся надзвычай мужна і ўпарта, наносячы падчас атакі шмат стратаў конніцы.

[77] Pasek. S. 132—136.

[78] Тамсама. S. 137; Rachuba A. Metryka Litewska. № 131. Op. cit. № 741.

[79] J.A. Morsztyn do Jerzego Lubomirskiego. Warszawa 2 VII 1660. APKr. Arch. Sang. 247. № 13.

[80] AMG. T. III. № 161. S. 143—144; Курбатов О. Литовский поход... С. 38.

[81] Ausführliche Relation von der herlischen Victoria... BN. Mf 37745.

[82] Ausführliche Relation der glüclischen Victoria... BN. Mf 37746 i Les particularitez... S. 736.

[83] Pasek. S. 137.

[84] Ausführliche Relation von der herlischen Victoria... BN. Mf 37745; Gazette de France, z Warszawy 10 VII 1660. S. 715; Łoś. S. 96.

Жаўнеры Хаванскага не былі ў стане занадта доўга даваць адпор і зноў адступілі ў лес. Аднак яшчэ перад сьцяной дрэваў іх дагнала коньніца і шмат каго высекла. А тых, што здолелі ўцячы ў лес, перабілі пешыя драгуны, якія рушылі за імі ў лес[85]. У гэтай апошняй фазе бітвы польска-літоўскі бок панёс яшчэ балючыя страты. Падчас атакі палегла шмат польскіх і літоўскіх коньнікаў і пехацінцаў. З афіцэраў загінулі Казімер Кулак, паручнік кароннага стольніка Яна Казімера Браніцкага, пан Гуроўскі, паручнік харугвы сэрмскага старасты Пятра Апалінскага з Бніна. Паранены быў Мікалай Скшатускі, харужы каралеўскай харугвы Даманеўскі, а Палубінскі атрымаў нязначны ўдар бердышом па галаве[86]. Пасьля разгрому і зьніштажэньня гэтай пяхоты на полі бітвы засталіся пераможныя польскія і літоўскія аддзелы, а здалёк было чуваць адгалоскі пагоні. Бітва была выйграная, а жахлівы Хаванскі, які зь мінулага году мучыў Вялікае Княства Літоўскае, і яго жаўнеры ўцякалі, ратуючы ўласнае жыцьцё.

Апошнія баі пад Палонкай былі асабліва ўпартыя. Вялікая колькасьць царскіх жаўнераў са сваімі камандзірамі ўжо змагалася не за тое, каб выбрацца з пасткі, але ў імя гонару, і жадала, ня здаўшыся, загінуць з гонарам. Асабліва зацята яны абаранялі царскія харугвы. Пры іх загінуў 31 чалавек з ганаровага аддзелу, які складаў іх ахову. Там таксама палегла і патрапіла ў палон найбольш афіцэраў[87].

Цяжка сказаць, якія страты панесла армія Хаванскага. Лічыцца, што на полі бою палегла каля 800 коньнікаў і каля 2,5 тыс. царскіх пехацінцаў. Пераважная частка коньніцы і значная колькасьць пяхоты здолела ўцячы з поля бітвы. Шмат зь іх загінула падчас пазьнейшай заўзятай літоўскай пагоні. Да Полацку, Барысава і нават Смаленску дабраліся мізэрныя рэшткі арміі. Пазьней зьвіліся, што на палях пад Палонкай і падчас уцёкаў армія Хаванскага страціла 5 тыс. жаўнераў. У рукі пераможцаў патрапілі ўсе расейскія гарматы, было здабыта шмат іншай зброі. Былі захоплены ўсе запасы амуніцыі ворага, але порах зьболшага спаліла пяхота, якая абаранялася ў лесе. Дасталіся пераможцам запасы харчоў, сабраныя для жаўнераў, а таксама вайсковая каса маскоўскага ваяводы. Была здабытая вялікая колькасьць маскоўскіх харугваў, у тым ліку вялікая царская, якую Хаванскі атрымаў ад Аляксея Міхайлавіча, калі адпраўляўся ў свой літоўскі паход. У рукі пераможцаў патрапіла вайсковая каса Хаванскага, шмат ваеннага абсталяваньня, а таксама вялікія запасы харчоў. У палон патрапіла шмат афіцэраў, у тым ліку Шчарбатаў і камандзіры маскоўскіх стральцоў Міхал Азьнібішын і Нікіфар Воўкаў[88]. Найвышэйшыя рангам маскоўскія палонныя патрапілі пераважна ў рукі Чарнецкага, які ў суровых умовах заняволіў іх потым у сваім Тыкоціне, патрабуючы за іх вялікага водкупу. Урэшце, паводле распаўсюджаных паглосак, атрымаў за іх ва ўласную кішэню вялізную суму ў 2 млн. злотых. У рукі пераможцаў патрапіла таксама вялікая колькасьць рускай шляхты, якая змагалася на баку цара, а таксама шмат жаўнераў і стральцоў. Шляхта, якая хацела, стала на службу ў харугвах Сапегі, а частку яе адаслалі да караля. З простымі жаўнерамі ня страчвалі часу. Паводле звычаю тагачаснай эпохі, іх падзялілі сярод паасобных каралеўскіх адзінак, папаўняючы гэтак панесеныя страты[89]. Жаўнеры

---

[85] Ausführliche Relation von der herlischen Victoria... BN. Mf 37745; Les particularitez... S. 736; Zwycięstwo z Moskwy... S. 1176—1177; Z pod Kojdanowa... S. 748; Pasek. S. 137; Kochowski. S. 67.

[86] Kopia listu Jmci P. Wojewody Ruskiego... S. 750; Les particularitez... S. 736; Gründliche und umständliche Kontinuation... BN. Mf 27345.

[87] Курбатов О. Литовский поход... С. 38.

[88] Тамсама; Gazette de France, z Warszawy 5 VII 1660. S. 691, а таксама ад 10 VII 1660. S. 715; Les particularitez... S. 736; Kopia listu Jmci P. Wojewody Ruskiego... S. 750; Ausführliche Relation der glüclischen Victoria... BN.Mf 37746; Ausführliche Relation der glüclischen Victoria... BN.Mf 37745.

[89] Car Aleksy Michajłowicz do Jana Kazimierza, Moskwa 4 (14) VIII 1663. BCzart. 156. S. 311; AMG. T. III. № 135. S. 124; A. Kersten, Stefan Czarniecki, Op. cit. S. 424—425.

сабралі на месцы пабоішча шчодрыя трафэі. Лягерная чэлядзь і шмат болыш значных жаўнераў ня грэбавалі абдзіраць палеглых праціўнікаў. Нават апраналіся ў маскоўскія строі, так што *«войска і галота нашая пабралі адзеньне, з Масквы зьдзіраючы, і нашых можна было адрозьніць ад маскоўскіх людзей толькі па чупрыне»*[90]. Лічылі таксама сваіх палеглых. Страты, хоць і балючыя, не былі такія вялікія. Павел Сапега ацэньваў іх у сваім войску ў 80 забітых. Страты войскаў Чарнецкага ацэньваліся ў 100 забітых. Магчыма, яны былі крыху вышэйшыя, бо Каховскі ацэньваў іх разам зь літоўскімі ў больш за 300 забітых і шмат параненых. Найбольшыя страты, напэўна, былі панесеныя падчас канцавога бою з узброенай бердышамі маскоўскай пяхотай. Акрамя таго, было страчана шмат коней, але іх запасы можна было папоўніць трафэйнымі[91].

Быў самы разгар летняга дня. Бітва скончылася каля 12 гадзіны. Шмат данясеньняў падкрэсьліваюць, што яна працягвалася нядоўга, усяго 3 гадзіны[92]. Аднак столькі часу хапіла, каб армія князя Хаванскага падлегла зьніштажэньню. Разам зь ёю ўпала маскоўскае панаваньне на заходніх землях Вялікага Княства Літоўскага. Перад войскамі Сапегі і Чарнецкага адкрываўся свабодны шлях на ўсход і на поўнач. Першага сур'ёзнага супраціву яны маглі чакаць на лініі Бярэзіны і Дняпра, да якіх павінны былі скіравацца. Пакінутыя ў тыле фартэцы з царскімі залогамі станавіліся ўсё больш ізаляванымі пляцоўкамі.

Навіна пра цудоўную перамогу ўсё шырэй разыходзілася маланкава па ваколіцы. Да Варшавы радасныя навіны дасягнулі 3 ліпеня. Прынёс іх пасланы Чарнецкім хутка пасьля заканчэньня бітвы пазнанскі харужы Уладыслаў Скарашэўскі. Падчас ягонай дарогі ў Варшаву змардаваныя жыхары спустошаных Хаванскім зямель даведваліся пра поўную паразу жахлівага князя і яго панічныя ўцёкі. Гэтую навіну яны напэўна прымалі з такою ж палёгкай і радасьцю, як наваградзкая шляхта. Харужы прынёс добрую навіну ў сталіцу, калі каралеўская пара малілася ў Візыткоўскім касьцеле ў Варшаве. Як пісаў вількамірскі маршалак Ян Мяжэнскі, які быў там: *«Гэтая перамова невымоўна ўзрадавала Караля з Каралевай і ўсіх»*[93], — асабліва калі ўлічыць, што адбылася яна, як некаторыя заўважылі, у гадавіну таксама шчасьлівай бітвы пад Берастэчкам[94]. Адразу дадалі да напісанага 2 ліпеня, але яшчэ не пасланага ліста камісарам, якія знаходзіліся ў Менску, каб у такой зьмененай сытуацыі яны не ішлі ні на якія ўступкі ў перамовах з Масквой, ні ў казацкіх справах, ні ў тэрытарыяльных, ні ў якіх іншых. Затое павінны былі цьвёрда патрабаваць вяртаньня ўсяго таго, што ад пачатку вайны захапілі расейцы. А ўсім камандзірам былі пасланыя лісты зь віншаваньнямі і просьбамі дэталёва апісаць бітву[95]. Варта дадаць, што данясеньне пра бітву пяра рускага ваяводы, прывезенае Скарашэўскім, стала падставай узьніклых у набліжэйшыя дні ў Варшаве апісаньняў гэтай баталіі, якія *«пайшлі ў сьвет»*. Данясеньне зьмяшчала асноўныя зьвесткі пра яе, якія ўжо на полі бітвы пераможныя камандзіры, афіцэры і жаўнеры палічылі вартымі пераказаць у форме пісьмовых данясеньняў. Таму апісаньні часам папаўняліся дэталямі зь іншых данясеньняў, якія прыходзілі на каралеўскі двор, але збольшага паўтаралі дадзеныя рускага ваяводы.

[90] De secunda Julij... S. 751.

[91] Les particularitez... S. 729, 736; Kochowski. S. 68.

[92] Z pod Kojdanowa... S. 748; Zwycięstwo z Moskwy... S. 1176; Ausführliche Relation der glüclischen Victoria... BN. Mf 37746; Chrapowicki. S. 250.

[93] J. Mierzeński do B. Radziwiłła, Warszawa 3 VII 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 9646. Cz. II. S. 77; Gazette de France. Z Warszawy 10 VII 1660. S. 714.

[94] M. Prażmowski do NN, b.m. 2 VII 1660. BPAN Kr. 1065. S. 5.

[95] Jan Kazimierz do komisarzy, Warszawa 2 VII 1660. BCzart. 154. S. 444; Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Warszawa 3 VII 1660. LvNB. F. 103. № 1751.

## 4. Сытуацыя на землях Вялікага Княства Літоўскага летам 1660 г.



# X. Пасьля Палонкі. Да Бярэзіны і Дняпра

Радасць польскіх і літоўскіх жаўнераў з дасягнутага пад Палонкай посьпеху была бясконцай. Яны ня толькі разьбілі, але і зьнішчылі варожую маскоўскую армію, якая дагэтуль перамагала. У вайне з усходнім суседам, якая працягвалася з 1654 г. гэта была першая перамога такога маштабу. На полі бітвы не затрымаліся надоўга і ўжо ў той самы дзень позьнім вечарам рушылі ў далейшы шлях. Найбліжэйшай мэтай былі разьмешчаныя непадалёк гераічныя Ляхавічы[1]. Напэўна, асабліва гетман Сапега жадаў зьявіцца ў сваёй крэпасьці на чале літоўскай арміі і каронных падмацаваньняў, каб гэтай падзеяй пакласьці канец распаўсюджаным заўвагам наконт ягонай асобы, што ён зусім не клапаціўся пра Ляхавічы, як нядаўна не клапаціўся пра лёс таксама свайго Старога Быхава. Сьпяшаючыся туды, ён не забываўся на сваіх шматлікіх жаўнераў, якія, параненыя пад Палонкай, не маглі скіравацца ў далейшы шлях. Каб яны маглі ачуняць у адносна добрых умовах, ён паразьмяшчаў іх у дастаткова добра захаваных уладаньнях Багуслава Радзівіла. Рабіў так, у значнай ступені кіруючыся зацятай антыпатыяй да князя, гарнізон якога ня даў дапамогі ягоным Ляхавічам. Рабаваньне князевых уладаньняў харугвамі знаходзіла таксама простае і добра зразумелае вайсковым служакам абгрунтаваньне. Яны здавалі сабе справу, што змагаючыся на службе Рэчы Паспалітай, яны вызвалялі таксама вялізныя ўладаньні Багуслава, які, будучы ўвесь час за мяжой, не праяўляў цікавасьці да лёсу айчыны. Таму гетман і ягоныя палкоўнікі, адказваючы на пратэсты чыноўнікаў князя, маглі тлумачыць свае рашэньні тым, *«што Літва ўся in armis [пад зброяй], а князь ягамосьць нічога для айчыны ня робіць»*[2].

Перш чым войска рушыла зь месца пабоішча да Ляхавічаў, Чарнецкі паслаў пад камандаваньнем Паўла Бажэнцкага, зяця Станіслава Сарбеўскага, аднаго з камісараў, 12 харугваў у Менск, каб забясьпечыць ахову каралеўскім дастойнікам, якія знаходзіліся там. Гонячы з усяе моцы коней, яны праскакалі дыстанцыю 150 км, прыбыўшы ноччу з 29 на 30 чэрвеня ў Менск. Там засьпелі камісараў жывых і здаровых, хоць і моцна напалоханых. Тыя перажывалі цяжкія хвілі, бо праз горад праходзілі шматлікія маскоўскія аддзелы, якія адступалі пасьля паразы на ўсход. Падобна, у апошнія дні нейкі расейскі аддзел намерваўся замахнуцца на іхнія асобы, схапіць у палон ці нават пазбавіць жыцьця. Гэтыя пагрозы сталі вельмі рэальнымі, калі маскоўскі камандзір у Менску, які павінен быў іх абараняць, пачуўшы навіну пра паразу, сам уцёк са сваімі жаўнерамі 29 чэрвеня з гораду. Аднак камісары змаглі адпалохаць пагрозьлівых расейцаў, паабяцаўшы навесьці на іх полк каралеўскія войскі. Зрэшты, самі царскія жаўнеры хутка перасталі цікавіцца імі, бо зразумелі, што трэба як мага хутчэй ратаваць уласнае жыцьцё. Аднак для большай бясьпекі камісары разам са сваімі драгунамі адступілі ў пакінутую маскоўскімі жаўнерамі невялікую фартэцыю, разьмешчаную над ракой, і, забарыкадаваўшыся там, чакалі надыходу польскіх і літоўскіх харугваў[3]. Уцякаючы, маскалі іх ужо не чаплялі. Іх клапаціла толькі выратаваньне ўласных галоваў ад ліцьвінаў і палякаў, якія наступалі, а таксама ад сялянаў, якія пільнавалі на дарогах, пачаўшы паляваць на пераможаных прыгнятальнікаў[4].

Пасьля адпраўкі гэтых харугваў у Менск, войска скіравалася ў бок Ляхавічаў. Аднак першымі там зьявіліся спалоханыя маскалі, уцеклыя з поля бітвы. Разам зь

[1] Kopia listu Jmci P. Wojewody Ruskiego do Króla Jmci... BJag. № 5. S. 749; Kochowski. S. 68.

[2] J. Mierzeński do B. Radziwiłła, Królewiec 31 VIII 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 9646/II. S. 97.

[3] Komisarze do Jana Kazimierza, Mińsk 6 VII 1660. BCzart. 154. S. 445—447; Pasek. S. 138—140; K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 6 VII 1660. AGAD. AR. Dz.V. № 6865/I. S. 224.

[4] Komisarze do Jana Kazimierza, Słuck 6 VII 1660. BCzart. 154. S. 447.

імі прыбег пераможаны Хаванскі. Дзякуючы ім навіна пра вялікую перамогу караляўскіх войскаў разыходзілася па ваколіцы. Яна ўразіла нават пакінутых у шанцах пад фартэцыяй жаўнераў. Узнікла папросту страшэнная паніка. Шмат зь іх пакідалі пазыцыі і ўцякалі. Аднак большасьць пакінутых там перад бітвай пехацінцаў наваградзкага прыказу Хаванскі забраў з сабой і рушыў зь імі ў кірунку Полацку[5]. Частка, асабліва складзеная з хворых і параненых, засталася на месцы, чакаючы раніцы наступнага дня і высьвятленьня сытуацыі. Гэта прыцягнула ўвагу мужнага камэнданта Ляхавічаў, рэчыцкага войскага Станіслава Міхала Юдыцкага. На самым золку 29 чэрвеня навіны пра маскоўскую паразу пацьвердзіліся, а ўдалечыні абаронцы ўбачылі надыход літоўскіх харугваў. Захопленыя радасьцю, яны ўчынілі разам са сваім войскам напад на пакінутых на валах цалкам разгубленых нешматлікіх маскоўскіх пехацінцаў. Здабылі расейскія гарматы, агнём якіх, скіраваўшы іх супраць непрыяцеля, зьнішчылі земляныя працы, якія павінны былі дапамагчы ў здабыцьці фартэцыі. З другога боку на рэшту маскалёў напалі жаўнеры, якія ішлі з-пад Палонкі[6]. Гэта не заняло шмат часу, і Ляхавічы былі вызвалены ад аблогі, якая працягвалася цэлую вясну. У занятых шанцах завалодалі ўсёй маскоўскай артылерыяй, якой Хаванскі ня браў, скіроўваючыся пад Палонку, а таксама вялізнымі запасамі абсталяваньня для аблогі і харчоў, што асабліва ў апошнія дні ў вялізнай колькасьці адпраўляліся Хаванскаму са Смаленску і Барысава[7]. Радасьці вызваленых абаронцаў Ляхавічаў, жаўнераў і шматлікай сабранай там шляхты не было канца. Пад стрэлы на *«віват»* гармат, крык радасьці і плач ад шчасьця пераможныя вайскаводцы ўрачыста ўехалі ў асаджаную дагэтуль крэпасьць, перад Сапегам несьлі здабытую пад Палонкай вялікую царскую харугву. У мясцовым касьцеле было наладжана набажэнства падзякі. Перад аўтаром расклалі царскія штандары і тапталіся па іх. Камандзіраў віншавалі пад магутныя залпы гармат на трыюмф. Сапега і Чарнецкі праслаўлялі гераічную пазыцыю абаронцаў і іх кіраўніка Юдыцкага. Той у адказ таксама віншаваў іх, жадаючы ўсялякай перамогі[8]. Затое няўдзячнае заданьне спаткала гераічных пехацінцаў, якія цэлыя месяцы абаранялі Ляхавічы, а таксама мясцовых сялянаў. Ім загадалі хаваць палеглых пад Палонкай жаўнераў. Здолелі пахаваць іх усяго толькі тысячу, вырыўшы 30 зборных магілаў. Далейшыя працы мусілі спыніць з прычыны вялікага смуроду, выкліканага раскладаньнем у ліпеньскай сьпёцы трупаў[9].

У гэтым месцы варта згадаць, што заслужаныя ў першых такіх пасьпяховых змаганьнях з маскоўскімі войскамі ў Літве жаўнеры не былі забытыя Рэччу Паспалітай. Кароль, а таксама сойм 1661 г. стараліся ўзнагародзіць іх высілкі. Стэфан Чарнецкі атрымаў пацьверджаньне наданьня яму Тыкоцінскага староства разам з усімі дварамі, фальваркамі, вёскамі і прыналежнасьцямі, якія прыпадалі да гэтай маёмасьці[10]. Не абмінулі і мужнага абаронцу Ляхавічаў, рэчыцкага войскага Станіслава Міхала Юдыцкага. Праслаўляючы яго заслугі, сойм перадаў яму ў вечнае валоданьне маёнткі Галдовічы і Дзянісаўшчыну, што паблізу Ляхавічаў. З прычыны іх вялікага разбурэньня вызваліў іх на 30 гадоў ад усялякіх падаткаў. Для сябе і для жонкі атры-

[5] Курбатов О. Литовский поход... С. 38.

[6] Ewaryst Jan Bebiecki do W. Lanckorońskiego, Warszawa 9 VII 1660. BCzart.154. S. 463; Gazette de France.Z Warszawy 10 VII 1660. S. 715; Kochowski. S. 68—69.

[7] Łoś J. S. 97.

[8] Z pod Kojdanowa de data 2 Julii rano 1660... BJag. № 5. S. 748; NN do NN, z obozu w drodze 2 VII 1660. Тамсама. S. 750; Pasek. S. 142—143.

[9] Łoś. S. 97; Chrapowicki. S. 256.

[10] VL. T. IV. S. 328—329.

маў прывілей свабодна правозіць тавары ракою Вяльлёй пад Коўна. Юдыцкаму таксама гарантавалі зварот выдаткаваных ім на абарону Ляхавічаў сродкаў у памеры 21400 зл.[11]. Доўга трывала памяць пра мужнага абаронцу гэтай фартэцыі. Праз шмат гадоў пасьля слаўнай аблогі гэтае месца наведвалі ва ўспамін пра яго абаронцу. У апісаньні жыцьця вялікага літоўскага маршалка Яна Караля Дольскага, аўтар Януш Вішнявецкі запісаў: *«Я паехаў быў у Ляхавічы ў наваградзкі край паглядзець тамашнюю фартэцыю, слаўную абсыдыяй (аблогай) маскоўскай, але і слаўнейшай мужнасьцю Юдыцкага, які, маючы там камандаваньне, шмат чаго ўчыніў, перш чым надышоў Чарнецкі з Сапегам, якія пад Палонкай зьнішчылі тое маскоўскае войска»*[12]. Былі ўзнагароджаны і самі Ляхавічы, якія вызвалілі на 10 гадоў ад усялякіх падаткаў, а іх уладальніку Паўлу Сапегу дазволілі ў час вайны трымаць у іх 200 жаўнераў пяхоты за кошт дзяржаўнага скарбу[13]. За заслугі перад Рэччу Паспалітай з боку Нясьвіжу, гэты горад быў вызвалены на 4 гады ад падаткаў і цяжкіх жаўнерскіх пастояў, а яго ўладальнік Міхал Казімер Радзівіл — ад даўгоў, якія віселі на ім[14]. Кароль Ян Казімер адразу пасьля бітвы пад Палонкай пачаў адорваць ласкамі аддана Аляксандра Палубінскага і яго жаўнераў. У ліпені 1660 г. ён узнагародзіў палявога пісара і жаўнераў сваёй гусарскай харугвы, паручнікам якой быў Палубінскі, грашовымі прэміямі. Ён наказаў сваім распарадчыкам узяць іх у Магілёўскай эканоміі. Аднак аказалася, што яна настолькі спустошаная, што, як кароль да гэтага не падганяў, зь яе не ўдавалася выцiснуць такіх вялікіх грошай[15]. Сойм у 1661 г. дадаў Палубінскаму маёнтак Рудабелку ў Мазырскім павеце[16]. Памяталі і пра заслужаных ротмістраў, палкоўнікаў і жаўнераў. У недалёкай будучыні ім прызначылі маёмасьць здраднікаў, якія ўпарта чапляліся за Маскву. Тым часам Сапегу паслалі ўнівэрсалы, пры дапамозе якіх меркавалася заклікаць іх вярнуцца на каралеўскую службу. Маёмасьць тых, хто б не падпарадкаваўся, была б аддадзеная заслужаным жаўнерам[17].

Радаснае сьвяткаваньне перамогі яшчэ ў гэты дзень азмрочыў першы ў гэтай кампаніі канфлікт паміж літоўскім гетманам і Чарнецкім. Нягледзячы на супрацоўніцтва на полі бітвы і ўзаемнае выхваляньне ў лістах да караля заслугаў калегі, стасункі паміж абодвума вайскаводцамі не былі да канца добрымі. Канфлікт разгарэўся на грунце падзелу трафэяў, здабытых пад Палонкай, а асабліва пад Ляхавічамі. Пры нагодзе дало пра сябе знаць старое пытаньне гетманскага кіраўніцтва над кароннай дывізіяй. Сапега заявіў прэтэнзіі на здабытыя гарматы, палонных і харугвы. Ведомы сваёй ненасытнасьцю рускі ваявода не намерваўся іх аддаваць. Пры гэтым ён выразна дадаў, што ён прыбыў у Вялікае Княства Літоўскае з дапамогай, што ён не знаходзіцца на літоўскім утрыманьні і не падпарадкоўваецца камандаваньню вялікага літоўскага гетмана. Гэта, напэўна, балюча закранула Сапегу, тым больш, што паводле закону Чарнецкі, будучы ў Літве са сваёй дывізіяй, павінен яму падпарадкоўвацца. Праблема трафэяў псавала стасункі ня толькі паміж абодвума вайскаводцамі. Крыва на свайго вайскаводцу пагля- далі і каронныя жаўнеры, бо Чарнецкі загадаў пааддаваць схопленых палонных, за

[11] Тамсама. S. 379—380; RGADA. Fond 389, ML 132. № 412. K. 542—544.

[12] Żywot Jana Karola Dolskiego marszałka wielkiego litewskiego pisany przez Janusza Wiśniowieckiego 1701, BKórn. 1351. S. 44—44v.

[13] VL. T. IV. S. 385.

[14] Тамсама. S. 377, 386.

[15] Rescript od JKMci na Instructią Companiey Chorągwi JKMci... dnia XVI Miesiąca Lipca Roku 1660 w Warszawie danej. AGAD. AR. Dz. X. № 216. S. 6. Гл.: Jan Kazimierz do Ekonomii Mohylowskiej. Warszawa 20 VII 1660. Тамсама. S. 26; чарговы ліст караля да той жа эканоміі ад 27 XI 1660 г. Тамсама. S. 28.

[16] VL. T. IV. S. 378.

[17] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Warszawa 11 VII 1660. LvNB. F. 103. № 1753.

якіх спадзяваўся атрымаць значны водкуп. Шмат каго зь іх ён пазьней заняволіў у перададзеным яму Тыкоціне. Туды таксама паслаў большую частку здабытай ім артылерыі, беручы толькі няшмат гармат для далейшых дзеяньняў[18].

У выніку гэтага канфлікту пакрыўджаны Сапега вырашыў пакінуць таварыства кароннай дывізіі, якой камандаваў расхвалены каралём *«слаўны рэгімэнтар»*, і яшчэ ў той самы дзень разам зь літоўскім войскам пакінуў Ляхавічы. Ён рушыў у паўночным кірунку ў далейшую пагоню за ўцеклымі маскоўскімі войскамі. Асабліва стараліся дагнаць Хаванскага, які, паводле чуток, з-пад Палонкі дабраўся да свайго лягеру ў Ляхавічах і адразу адправіўся ў дарогу на поўнач да Полацку. Адна з групаў, што перасьледавала яго пад камандаваньнем Самуля Кміціча і Станіслава Ліпніцкага, зь якімі быў таксама іншы мужны камандзір, літоўскі стольнік Крыштап Францішак Сапега[19], ужо 29 чэрвеня дайшла да разьмешчанага прыблізна за 50 км на поўнач ад Ляхавічаў Міра. У тамтэйшым старым замку была пакінутая маскоўская залога, якая налічвала 120 жаўнераў. Ні яе камэндант, ні ягоныя жаўнеры ў сувязі з паразай галоўнага войска ня мелі занадта вялікай ахвоты да бою і *«пасьля некалькіх эспэрымэнтаў»* яшчэ ў той жа дзень здалі замак.

Разьбіты маскоўскі ваяводзкі тым часам уцякаў у паўночным напрамку да Полацку. Насуперак польскім сьведчаньням з поля бітвы, ён ня страціў усю пяхоту. Ягоная траціна, якая змагалася пад Палонкай, здолела ўцячы зь месца разгрому і злучыцца са зьбеглым ваяводзкім. Ён меў пры сабе таксама вялікую колькасьць ўратаванай конніцы. Дзякуючы такім значным сілам Хаванскі быў у стане на працягу найбольш небясьпечных для сябе першых дзён пасьпяхова стрымліваць у зручных месцах літоўскую пагоню, якую надалей энэргічна вялі Кміціч і Ліпніцкі. Справіўшыся з залогай у Міры, яны здолелі наблізіцца да ўцеклых войскаў Хаванскага пры пераправе праз Нёман у Жукавым Барку, што крыху далей на поўнач. Аднак яна аказалася занадта добра ўкамплектаваная маскоўскай пяхотай і драгунамі, войскі якіх разам налічвалі, як падавалася зь перабольшаньнем, 2 тыс. жаўнераў. Ліцьвіны былі вымушаны ўцягнуцца ў доўгія і цяжкія змаганьні зь імі. Калі ўрэшце ўдалося зламаць непрыяцельскі напор, схопленыя ў няволю палонныя засьведчылі, што некалькі гадзін раней тут праходзіў сам Хаванскі, уцякаючы ў Полацак. Ахвярнасьць ягоных жаўнераў, якія абаранялі нёманскую пераправу, уратавала яго ад няволі. Нягледзячы на тое, што на далейшай дарозе да Полацку ліцьвіны ўжо не турбавалі яго сур'ёзна, рэшткі аддзелаў, якія ён вёў, таялі страшэннымі тэмпамі. Гэта адбывалася ў выніку нарастаньня панікі, падзеньня ўсякай дысцыпліны, стомленасьці жаўнераў і ператварэньня іх у звычайных марадэраў, а найбольш, праз масавае дэзэртаваньне. Нягледзячы на гэта, праз Даўгінава, Докшыцы і Глыбокае пераможаны маскоўскі ваяводзкі здолеў прывесьці ў Полацак вялікую колькасьць рэйтараў і пяхоты. У сваім рапарце да цара ад 11 ліпеня з Полацку Хаванскі падаваў, напрыклад, што з драгунскага палка, які налічваў пад Ляхавічамі 219 жаўнераў, па дарозе ўцякло 208 чалавек; з пэўнага салдацкага палка, які налічваў перад бітвай пад Палонкай 281 чалавека, да Полацку дайшло 49; у іншым, колькасьцю 361 жаўнер, дацьчыліся іх 128. Прызнавалася, што найвялікшыя страты ў гэтых палках былі выкліканыя дэзэртаваньнем ужо ў дарозе да Полацку. Колькасьць жаўнераў, якія не паддаліся паніцы і дэмаралізацыі, можна ўсё ж павялічыць, паколькі пэўная іх колькасьць, уцякаючы, дайшла да Барысава, Віцебску ці нават Смаленску[20].

[18] Kochowski. S. 69; Pasek. S. 143—144.
[19] Гл.: Metryka Litewska. Księga wpisów. № 131 / Wyd. A. Rachuba. № 1020. S. 336.
[20] De data secunda Juliy. BJag. 5. S. 751; Z pod Kojdanowa... Тамсама. S. 748; Gründliche und umständliche Kontinuation... BN. Mf 27345; AMG. Т. III. № 126. S. 117—119; Курбатов О. С. 35.

Ня бачачы шанцаў на ўдалы перасьлед Хаванскага, Сапега скіраваў свае аддзелы ў напрамку Менску. Першага ліпеня яны натрапілі на дарозе, якая вядзе да Нясьвіжу, на пакінутыя маскоўскімі войскамі вазы, на якія кінулася чэлядзь і абчысьціла іх[21]. Другога ліпеня віленскі ваявода быў ужо ў Койданаве, а ў Менск паслаў 18 харугваў на чале зь літоўскім падстоліем Марцыянам Аляксандрам Агінскім, якія занялі гэты горад. Гетман не забыўся пра пакінуты ў тыле Навагрудак, у замку якога знаходзіўся моцны маскоўскі аддзел на чале з маёрам Даніэлем Эйтафам. Туды быў пасланы старэйшы навагрудзкі ваявода Крыштап Валадковіч[22]. У наступныя дні Сапега адправіў на розныя бакі разьезды, якія мелі задачу ачысьціць лясы і дарогі ад маскоўскіх аддзелаў, якія там яшчэ блукалі[23].

Навіна пра перамогу і разгром пад Палонкай страшнага праціўніка дайшла да дзьвюх літоўскіх крэпасьцяў, разьмешчаных непадалёк. Пасланы 29 чэрвеня разьезд са Слуцку злавіў некалькі ўцеклых маскоўскіх жаўнераў, якія пацьвердзілі паразу Хаванскага. У той жа дзень ад камэнданта Нясьвіжу Лукаша Тыбароўскага было атрыманае паведамленьне пра неабходнасьць пасласць са Слуцку моцны аддзел, які загарадзіў шлях уцеклым маскоўскім войскам. Сам Тыбароўскі выбраўся на пераправу ў Жукавым Барку з аддзелам 600 нясьвіскіх жаўнераў. Для гэтага сабралася ў Слуцку шляхта і сфармавалася ў харугву на чале з ротмістрам Геранімам Уладыславам Бруханскім, аршанскім стольнікам. Слуцкі камэндант Аляксандар Шылінг дадаў да іх аддзел 700 жаўнераў добрай гарнізоннай пяхоты і 200 драгуноў. Пастаўлены над гэтым войскам Клакоцкі наладзіў кантакт з Сапегам і Чарнецкім. Тыя з удзячнасьцю прынялі прапанаваную дапамогу[24]. Пра далейшыя ваенныя дзеяньні гэтых жаўнераў са Слуцку мы нічога ня ведаем. Вядома толькі, што Клакоцкі шчодра забясьпечыў каралеўскія войскі зь літоўскіх складаў порахам, паколькі, як пісаў князю Багуславу Радзівілу, *«было нягожа адмаўляць у тым, што можа дапамагчы справам ВКЛ, а шкоды ніякае ня зробіць»*. Напэўна, Клакоцкі, яшчэ больш ахвотна падтрымліваў войскі, якія праходзілі, паколькі хацеў зацерці нядобрае, яшчэ жывое ўражаньне калябарацыі з расейцамі, калі слуцкая залога так шмат месяцаў заставалася абыякавай да лёсу Ляхавічаў. Таму, калі ўжо войскі, асабліва Паўла Сапегі, мінулі блізкія да гораду раёны, Клакоцкі мог уздыхнуць з палёгкай, пішучы князю: *«Слуцак мінулі з ласкі Божай, але не безь вялікага нараканьня наконт Ляхавічаў, што іх ратаваць не хацелі і найменшым разьездам непрыяцеля не памагалі»*[25]. Аднак літоўскі гетман яшчэ доўга ня мог забыцца пра адсутнасьць клопату аб ягонай крэпасьці з боку моцнай слуцкай залогі. Ён страшэнна разлуецца яшчэ восеньню 1660 г.[26].

Пра вялікую паразу Хаванскага даведаліся 30 чэрвеня таксама маскоўскія пасла, якія знаходзіліся ў Барысаве. Папярэдзілі іх маскоўскія ўцекачы. Не чакаючы нічога, паслы як найхутчэй уцяклі ад небясьпекі з гораду, не адказаўшы на апошні ліст ад каралеўскіх камісараў[27]. Сам Хаванскі паслаў да іх хутка пасьля паразы пасьпешнага ганца. У лісьце да іх пісаў: *«Богам прашу, уцякайце! Ідуць на вас людзі з Жамойці, а на нас ужо прыйшоў Чарнецкі з таварышамі. Пакіньце пасольства, яны вас ашукваюць… Уцякайце!»*[28] Убачыўшы набліжэньне пагрозы, яны зьбеглі ў Смаленск. Па сут-

[21] De data secunda Juliy... BJag. 5. S. 748; Les particularitez... S. 728.
[22] Z pod Kojdanowa... BJag. 5. S. 748.
[23] Pod datą 3 Julii z Kojdanowa sam Jmść Hetman pisze. BJag. 5. S. 751.
[24] Vorbek-Lettow. S. 291—292.
[25] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 6 VII 1660. AGAD. AR. Dz.V. № 6865/I. S. 224.
[26] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 30 XI 1660. Тамсама. Cz. II. S. 13.
[27] Komisarze do Jana Kazimierza, Mińsk 6 VII 1660. BCzart. 154. S. 445.
[28] Цытата паводле: Соловьев С.М. Op. cit. С. 84.

насьці, гэта быў канец распачатых восеньню 1659 г. спробаў наладзіць перамовы. Каралеўскія камісары ў зьмененай сытуацыі яшчэ адказалі *«не мядовымі словамі»* на апошні абвінавачвальны ліст царскіх паслоў і намерваліся разьехацца. Ня мелі на гэта выразнай згоды караля, але нарэшце адʼехалі ў Слонім, дзе дарэмна спадзяваліся на лепшае забесьпячэньне харчамі. Кароль настойваў, каб яны яшчэ заставаліся гатовымі да перамоваў, бо ён меў надзею, што *«гэты непрыяцель па лупцаваньні звычайна больш уступлівы»* і, як паказваў прыклад пасольства Жалябурскага пасьля царскай паразы пад Канатопам, так і цяпер прышле паслоў на перамовы. У той жа час кароль пажадаў, каб не распачыналі зь імі перамоваў, калі надалей будуць згадваць пра Украіну, Беларусь ці казацкіх паслоў. Камісарам, напэўна, гэта ўжо сапраўды надакучыла, а найбольш — часта нерэальныя жаданьні на адрас Масквы, якія выказваў каралеўскі двор пасьля кожнага посьпеху. Яны яшчэ раз указалі каралю, што расейцы, нягледзячы на адну паразу, ня думаюць добраахвотна аддаваць спрэчныя землі. Каб прымусіць іх да гэтага, патрэбныя вялізныя намаганьні і шмат чарговых посьпехаў войскаў Рэчы Паспалітай[29]. Тым часам у атачэньні Яна Казімера на хвалі нястрыманага аптымізму пасьля Палонкі, цалкам інакш бачылі сытуацыю на ўсходзе. Спачатку кароль наказаў Сапегу, каб той не задавальняўся адной, хоць такой значнай перамогай, але ішоў за ўцякаючым непрыяцелем, каб *«ганарыстага Тырана зламаць да канца»*. Ён чакаў, што пасьля нарады ў Менску камісараў і віленскага ваяводы яны разам адразу рушаць за Бярэзіну. Паабяцаў таксама хуткую падтрымку з боку жамойцкай дывізіі, камандзіра якой *«потым ужо дастаткова вострым»* ардынансам падганялі да пасьпешнага маршу да беларускіх зямель[30]. Праз два тыдні, напэўна, пад уплывам вельмі аптымістычных данясеньняў аб разьвіцьці наступу, камандзірам у Літве было загадана працягваць пераможны марш і весьці войскі яшчэ далей, у самую глыб маскоўскай дзяржавы пад Пуціўль. Можа быць, меркавалася абʼяднаць іх там з каронными і татарскімі аддзеламі, якія пасьля распачацьця наступу на Украіне павінны былі зайсьці за варожыя межы з таго боку. А камісарам рэкамэндавалася, каб яны ня толькі патрабавалі ад Масквы аддаць усе захопленыя землі, але і каб цар даў яшчэ нешта са сваіх у якасьці адплаты за зьведаныя Рэччу Паспалітай шкоды[31].

Ня ўсе так хутка, як царскія паслы, даведаліся пра паразу маскоўскай арміі. Пра яе ня ведалі пасланцы, адпраўленыя да Зьмеева з двух казацкіх палкоў, якія стаялі каля Бабруйску. Яны павінны былі спытацца пра тое, куды павінны скіравацца, паколькі намерваліся ісьці ім на дапамогу. Аднак былі схопленыя па дарозе каралеўскімі камісарамі і дастаўленыя ў Менск. Калі ж навіна пра паразу прыйшла ў Бабруйск і пра яе даведаліся разьмешчаныя там чарнігаўскі, нежынскі і таксама добраахвотніцкія казацкія палкі, камандзір чарнігаўскага палка Анікей Сіліч, ня ведаючы, што рабіць, пытаўся ў цара, куды яму накіроўвацца ў зьмененай сытуацыі[32]. Праз Тураў у тым самым напрамку цягнуліся казакі з кіеўскага палка. Яны таксама павінны былі прыпыніць свой марш, але паколькі ўжо апынуліся на беларускім Палесьсі, то дачыста спусташылі ў сярэдзіне ліпеня Піншчыну. Галоўныя казацкія сілы адступілі да Чарнігава. Аднак іх залогі засталіся ў Гомелі і Бабруйску[33].

---

[29] Komisarze do Jana Kazimierza 6 VII 1660; BCzart. 154. S. 449—450; ліст ад 25 VII 1660. S. 507; ліст да С. Чарнецкага 22 VII 1660. Тамсама. S. 489; Jan Kazimierz do komisarzy, Falenty 23 VII 1660. Тамсама. S. 495—499.

[30] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Warszawa 11 VII 1660. LvNB. № 1753.

[31] J. Mierzeński do B. Radziwiłła, Królewiec 31 VIII 1660. AGAD. AR. Dz. V. Nr 9646/II. S. 98; K. Pac do A.H. Połubińskiego, Warszawa 24 VII 1660. Тамсама. № 11208/II. S. 231; Ordynans Jana Kazimierza do P. Sapiehy, Sambor 27 IX 1660. LvNB. Fond 103. № 1756.

[32] Komisarze do Jana Kazimierza, Mińsk 6 VII 1660. BCzart. 154. S. 447; AMG. T. III. № 119. S. 114—115.

[33] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 17 VII 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/I. S. 229.

Тым часам войскі Чарнецкага засталіся на пару дзён пад Ляхавічамі[34]. У першыя дні ліпеня яны пайшлі сьледам за войскамі Сапегі[35]. Землі да Бярэзіны і Дзьвіны былі ўжо амаль цалкам пакінутыя маскоўскімі жаўнерамі. Таму не было значных перашкодаў для хуткага перасоўваньня войскаў. Пасьля кароткай разлукі ўжо 3 ліпеня Чарнецкі і Сапега спаткаліся ў Менску ў прысутнасьці камісараў, якія надалей заставаліся там. Абодва вайскаводцы стараліся там абмеркаваць далейшыя ваенныя пляны. Зноў аказалася, што іх бачаньне спосабу і кірунку правядзеньня дзеяньняў сур'ёзна разыходзіцца. Можа быць, на гэтыя адрозьненьні мела ўплыў меркаваньне камісараў, якія з прычыны доўгага знаходжаньня сярод маскоўскіх вайскоўцаў маглі лічыцца знаўцамі ваеннай тактыкі маскалёў. Свае заўвагі яны зьмясцілі ў тыя дні ў лісьце да Яна Казімера. Камісары папярэджвалі, што, няглядзячы на вялікую перамогу, каралеўскія войскі яшчэ чакае цяжкая і доўгая барацьба за літоўскія землі. Указвалі, што Масква больш, чым за блізкую да татараў і апанаваную казацкай анархіяй Украіну, будзе змагацца за спакойныя беларускія землі, стараючыся пры гэтым захаваць іх сабе. Ва ўсім гэтым цар намераны абаперціся на моцныя фартэцыі, залогі якіх умацуе, а сам тым часам падрыхтуе магутную армію, якая рушыць супраць літоўскіх і каронных войскаў. Таму яны заклікалі, каб кароль асабіста прыбыў сюды з падмацаваньнямі дывізіі вялікага кароннага маршалка Юр'я Любамірскага, а шляхце загадаў зьбірацца і блякаваць пакінутыя ў тыле фартэцыі з маскоўскімі залогамі. Камісары таксама ўказалі каралеўскім камандзірам на слабасьць у дадзены момант маскоўскіх гарнізонаў у гарадах на Бярэзіне і Дняпры і нагоду захапіць іх пад умовай хуткага дзеяньня[36]. Улічваючы ўсе гэтыя шанцы і пагрозы, Сапега больш схіляўся да працягу наступальных дзеяньняў. Гэта было відаць зь ягоных далейшых крокаў у чарговыя тыдні. Ён хацеў вярнуць як мага больш літоўскіх зямель і ачысьціць іх ад моцных маскоўскіх залогаў, якія засталіся ў тыле. Рускі ваявода ў той час меў падобныя намеры. А значыць, паміж гэтымі двума вайскаводцамі не было значных разыходжаньняў, і таму войскі скіраваліся да гэтых дзьвюх вялікіх рэкаў. Хутка пасьля гэтага аказалася, што ідэя далёкага маршу на ўсход мела поўную падтрымку караля. Ян Казімер таксама рэальна ацэньваў сытуацыю і, ведаючы пра валоданьне Масквой моцнымі фартэцыямі ў Беларусі, не спадзяваўся, што яна добраахвотна адступіць з гэтых зямель. Таму ён прымаў неабходнасьць рашуча расправіцца зь імі праз далёкі наступ з тэрыторыі Літвы і Украіны ў глыб маскоўскай дзяржавы. Гэта павінна было зламаць супраціў Масквы, узрушыць яе пасады і прывесьці да заключэньня чаканага і выгаднага для Рэчы Паспалітай міру, нават з тэрытарыяльнымі набыткамі.

Слабым пунктам яго разважаньня было толькі тое, што, будучы здалёк ад тэатру дзеяньняў, ён ня браў пад увагу шэраг фактараў, якія ўжо доўгі час моцна ўплывалі на ход дзеяньняў каронных і літоўскіх войскаў. Кароль не надаваў значэньня нядобрым настроям, якія панавалі ў войску Рэчы Паспалітай, стомленасьці жаўнераў, праблемы з забесьпячэньнем харчамі і амуніцыяй, факту надзвычайнай зацятасьці непрыяцеля. Іначай ён падыходзіў і да праблемы фартэцый на Бярэзіне і Дняпры, укамплектаваных моцнымі царскімі гарнізонамі, ня бачачы неабходнасьці ў тым, каб рэгулярныя сілы спрабавалі іх здабыць у дадзены момант. Нібы не заўважаючы гэтых і іншых чыньнікаў, ён увесь час пасьля перамогі пад Палонкай упарта спадзяваўся, што станоўчы наступствы ў вайне пачнуць праяўляцца толькі пасьля ўварваньня літоўскіх, карон-

[34] Pasek. S. 144.

[35] AMG. T. III. № 112. S. 108.

[36] Gründliche und umständliche Kontinuation... BN. Mf 27345; Komisarze do Jana Kazimierza, Mińsk 6 VII 1660. BCzart. 154. S. 448; ліст да С. Чарнецкага, Слонім. 22 VII 1660. Тамсама. S. 489.

ных і татарскіх войскаў у глыб царскіх зямель. Таму кароль інфармаваў камісараў, што для зьдзяйсьненьня гэтага таксама з боку Літвы, ужо загадана, каб Міхал Пац, які ішоў на чале дывізіі левага крыла з Жамойці, злучыўся з Сапегам і Чарнецкім і каб яны разам ішлі за Дняпро. Каралеўскае бачаньне пераняседньня ваенных дзеяньняў ажно ў маскоўскія межы мела падтрымку Чарнецкага. Ня бачачы патрэбы затрымлівацца пад фартэцыямі, якія знаходзяцца на шляху да колішніх межаў Рэчы Паспалітай, Ян Казімер загадаў сваім вайскаводцам далёкі марш па-за колішнія межы польска-літоўскай дзяржавы. Паводле ягонай канцэпцыі, войскі павінны былі абмінуць крэпасьці і рушыць да маскоўскіх зямель, ажно пад самы Пуціўль. Блякадай царскіх залогаў за Бярэзінай павінна была заняцца тамтэйшая шляхта, да якой кароль выдаў унівэрсалы з заклікам на паспалітае рушаньне, а таксама некалькі даданых да іх наёмных харугваў[37]. Гэтых каралеўскіх плянаў абсалютна не разумеў асьцярожны Сапега, асабліва калі ўлічыць, што зь цягам часу ён ня мог дачакацца ўзмацненьня сваіх сілаў праз надыход жамойцкай дывізіі. А замест гэтага ўсё больш відавочным станавілася паглыбленьне цяжкасьцяў сярод літоўскіх войскаў, слабасьць Рэчы Паспалітай і немагчымасьць нанесьці вырашальны ўдар па Маскве. Таму ён станавіўся ўсё больш рашучым праціўнікам маларэальных, на яго думку, плянаў паставіць Маскву на калені далёкімі наступальнымі дзеяньнямі. Сапега ўсё больш схіляўся да таго, каб абмежаваць збройныя намаганьні да выгнаньня праціўніка зь межаў Рэчы Паспалітай і, перш за ўсё, прыйсьці да пагадненьня з усходнім суседам. Чарнецкі ж, які ў значнай ступені меў характар аматара вайсковых рэйдаў, больш схіляўся да каралеўскай канцэпцыі далёкага наступу. Ня маючы ў гэтым рашучай падтрымкі Сапегі, ён ня мог сам распачаць такія дзеяньні. Акрамя таго, летам ён яшчэ ня мог разьлічваць на падтрымку з боку каронных і татарскіх войскаў з Украіны, паколькі там яшчэ ня рушыў іх наступ. Такім чынам, яму засталося стаяць пад Барысавам, а потым Магілёвам і, не марнуючы сілаў у штурмах, чакаць разьвіцьця падзеяў. На глебе такіх розных спосабаў вядзеньня вайны з Расеяй з часам паміж літоўскім гетманам і рускім ваяводам разам зь Янам Казімерам, які стаяў за ім[38], разгарэліся мацнейшыя канфлікты.

Пара дзён пастою ў Менску была выкарыстаная для адпачынку і папаўненьня неабходнага для будучых дзеяньняў узбраеньня. Перад маршам войскаў на ўсход знаходзіліся моцныя фартэцыі, наконт якіх былі пэўныя надзеі, што яны пажадаюць здацца добраахвотна. У выпадку супраціву іх меркавалася напалохаць пагрозай аблогі, а нават зрабіць пэўныя крокі ў гэтым напрамку, каб толькі хутчэй прывесьці іх да капітуляцыі. Для такіх дзеяньняў патрэбна была моцная артылерыя, пяхота і добрае забесьпячэньне порахам і амуніцыяй. Усяго гэтага цалкам неставала абодвум вайскаводцам. Таму яшчэ больш нерэальнымі былі надзеі здабыць сілай добра ўмацаваныя і ўкамплектаваныя Масквой вялікія беларускія гарады, калі яны адмовяцца ад капітуляцыі. З глыбі краю атрымлівалі толькі данясеньні пра фінансавыя цяжкасьці і абяцаньні даслаць гарматы і амуніцыю, выкананьня якіх нельга было дачакацца. Таму зьвярнуліся да Слуцку па дапамогу. Адтуль атрымалі шматлікую колькасьць пораху, волава, куляў. Узамен за гэта вайскаводцы выставілі асэкурацыі, за якія Рэч Паспалітая мусіла вярнуць належныя грошы са скарбу князя Багуслава Радзівіла[39]. У гэтыя і наступныя дні ліпеня да каралеўскіх аддзелаў пачалі прыходзіць пэўныя падмацаваньні. Каронная

[37] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Sambor 27 IX 1660. LvNB. Fond 103. № 1756.

[38] Komisarze do Jana Kazimierza, Mińsk 6 VII 1660. BCzart. 154. S. 448—449; Jan Kazimierz do Komisarzy, Falenty 23 VII 1660. Тамсама. S. 496; K. Pac do A.H. Połubińskiego, Warszawa 24 VII 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 11208/II. S. 231.

[39] Гл. асэкурацыі П. Сапегі, С. Чарнецкага і М.У. Юдыцкага, выстаўленыя ў лягеры пад Менскам 5 і 10 ліпеня 1660: Тамсама. Dz. IVa (копіі). Т. 2. Кор. 10. К. 16—16v.

дывізія была ўзмоцненая трыма харугвамі. Канёўскі староста Стэфан Станіслаў Чарнецкі, пляменьнік рускага ваяводы, прывёў казацкую і рэйтарскую харугву, а шмэльтынскі староста Кароль Лужэцкі — казацкую харугву. Прыбыцьцё гэтых запозьненых адзінак, напэўна, таксама было вынікам выданьня каралеўскіх ардынансаў, якія наказвалі ўсім заблукалым харугвам дывізіі рускага ваяводы як мага хутчэй далучыцца да рэшты ягоных войскаў. Да літоўскіх войскаў адразу далучыліся нанятыя на службу Рэчы Паспалітай непакорныя аддзелы Стэфана Русецкага, якія кранулiся з-пад Берасьця пад канец чэрвеня, у пачатку наступу. Плянавалася, што яны павінны былі мець 1500 чалавек добрай пяхоты. Гэтыя і іншыя аддзелы, ідучы на ўсход, праходзілі ў ліпені праз Сялец, *«і гэтага галадранства было больш за 70 харугваў»*. Так малапахвальна, памятаючы пра іх разбойніцкія паводзіны, выказваўся пра іх верны слуга Б. Радзівіла, браслаўскі маршалак Самуль Пуцята[40].

Пасьля праведзенае нарады літоўскія і каронныя харугвы рушылі 6 ліпеня зь Менску да Барысава, што каля 80 км на паўночны ўсход ад Менску[41]. Маскоўскі ваявода ў гэтым горадзе, як і царскія паслы, якія былі там, быў упэўнены, што каралеўскія войскі скіруюцца зь Менску ў напрамку Полацку ў далейшай пагоні за Хаванскім. Таму ён паслаў да Менску моцны разьезд, які, на думку каралеўскіх камісараў, павінен быў там схапіць іх у палон. Нечакана для сябе адпраўленыя царскія жаўнеры натрапілі ў дарозе на марш каралеўскіх палкоў і былі імі разьбітыя[42]. Каралеўскія аддзелы хутка прайшлі прасторы, якія знаходзяцца на захад ад Бярэзіны. Ідучы ў некалькіх групах, літоўскія і каронныя войскі ўжо да 10 ліпеня[43] апынуліся пад Барысавам, *«у якім замак зь зямлі зроблены зь дзевяцьцюстамі маскоўскімі пяхотнікамі засьпелі»*, — як пісаў жаўнер дывізіі рускага ваяводы Якуб Лось. Блякаду гораду сьпярша пачалі абодва войскі, абстрэльваючы яго зь нешматлікіх гармат, якімі валодалі. Як прызнаваў іншы каронны жаўнер, Ян Хрызастом Пасэк, усе здавалі сабе справу з магутнасьці фартэцыі і недахопу ўласных сілаў на яе здабываньне, але паціху разьлічвалі, што сам жах перад пераможнымі войскамі прывядзе да яе добраахвотнай капітуляцыі. Досыць хутка аказалася, што няма што разьлічваць на такое вырашэньне[44]. Праз пару дзён пад Барысавам застаўся Чарнецкі. Яго падтрымліваў Палубінскі. А Сапега разьмясьціўся на невялікай адлегласьці на поўдзень ад кароннага лягеру ў горадзе Глівін на Бярэзіне. Ён меў пры сабе пераважна коньніцу. Яго адыход быў прадыктаваны неабходнасьцю забясьпечыць шматлікім коням корм. Адтуль ён павінен, з увагі на рухі непрыяцеля, галоўным чынам прыкрываць дзеянні пяхоты і артылерыі пад умацаваным Барысавам і не падпускаць да яго магчымыя царскія падмацаваньні. Літоўскі гетман, напэўна, таксама ня надта бачыў сэнс стаяць пад грунтоўна ўмацаваным горадам і хутка пачаў зьвяртаць увагу на неабходнасьць рушыць усімі сіламі супраць фартэцыі на ўсходнім баку Бярэзіны, пакуль да іх не дайшлі сур'ёзныя маскоўскія падмацаваньні[45].

[40] S. Puciata do B. Radziwiłła, b.m.d. (VII 1660). AGAD. AR. Dz. V. № 12631. S. 105; S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Jasiewicze 30 VI 1660. Тамсама. № 12561. S. 85; Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Sambor 27 IX 1660. LvNB. Fond 103. № 1756, таксама ліст ад 11 VII. Тамсама. № 1753; Wimmer J. Wojsko polskie. Op. cit. S. 127.
[41] Chrapowicki. S. 252.
[42] Komisarze do Jana Kazimierza, Słonim 25 VII 1660. BCzart. 154. S. 506—507; AMG. T. III. № 119. S. 118—119.
[43] Адтуль у гэты дзень паклікаў да сябе са Слуцку вугорскую харугву Станіслава Скарбка, датуючы свой ліст наступным чынам: «У лягеры пад Глівінам на Бярэзіне 10 чэрвеня г. 1660». AGAD. AR. Dz. V, неўпарадкаваныя паперы.
[44] Łoś. S. 97; Pasek. S. 145.
[45] S. Czarniecki do M.K. Paca, w obozie pod Borysowem 16 VII 1660. BCzart. 154. S. 475; AMG. T. III. № 135. S. 124.

Адразу пасьля падыходу пад Барысаў, а можа, і крыху раней, Чарнецкі паслаў моцныя разьезды далёка за Бярэзіну. Яны дайшлі да Дняпра пад Шклоў, Копысь і Магілёў. На думку царскіх паслоў, якія ўцякалі з Барысава ў Шклоў і Смаленск, ён намерваўся злавіць іх і дзеля гэтага паслаў моцны разьезд, які за пару дзён да 12 ліпеня павінен быў перапраўляцца за Бярэзіну. Паслы, якія ў той дзень пісалі да цара зь мястэчка Славені, што на сярэдзіне шляху паміж Барысавам і Шкловам, былі настолькі ўпэўненыя ў небясьпецы, што вырашылі зьмяніць шлях і скіраваліся на Талачын і Копысь[46]. Цалкам магчыма, што далёкі загон меў задачу схапіць маскоўскіх дастойнікаў, за якіх можна было чакаць шчодрага водкупу. Аднак ягонай галоўнай мэтай было, напэўна, правядзеньне далёкай і грунтоўнай разьведкі сілаў праціўніка. Харугвы рускага ваяводы паказалі сябе там надзвычай добра, бо ўжо 20 ліпеня ў далёкім Каралеўцы ведалі, што, правеўшы акцыю на землях на ўсход ад Бярэзіны, яны разьбілі пад Галоўчынам і пад Шкловам царскія аддзелы[47].

На разьмешчаныя за Бярэзінай землі рускі ваявода зьвяртаў увагу і ў чарговыя дні, але свае галоўныя дзеяньні на працягу даўжэйшага часу канцэнтраваў на Барысаве. Празь некалькі дзён пасьля таго, як пад гэтым горадам быў разьбіты лягер, шырока пасыланыя Чарнецкім чарговыя моцныя разьезды перайшлі Бярэзіну і зноў падышлі пад Шклоў, Копысь і Магілёў. Магчыма, што, акрамя разьведкі і здабычы харчоў, меркавалася здабыць прыдняпроўскія гарады. Напэўна, разьлік рабіўся на страх і замяшаньне сярод царскіх залогаў, а таксама на фактар нечаканасьці, выкліканы неспадзяваным зьяўленьнем у такіх далёкіх раёнах палякаў. Разьезды шырока пранíклі ў землі паміж Бярэзінай і Дняпром, затое самíх прыдняпроўскіх фартэцый гэтыя войскі не былі ў стане здабыць з маршу. Усе гэтыя гарады былі моцна ўфартыфікаваныя Масквою. Нават у невялікім мястэчку Багуслава Радзівіла — Копысі, якое да вайны мела толькі драўляны двор, атачаны частаколам, падчас маскоўскага панаваньня на беразе Дняпра быў пабудаваны замак, абведзены валам, на якім таксама стаяў крыты паркан з пакоямі для жаўнераў. Дзеля даўжэйшай абароны ў межах замку былі пабудаваныя стайні, сьвіраны і пякарні[48].

Пры такіх салідных фартыфікацыях сапраўднай праблемай царскіх вайскаводцаў быў недахоп дастатковай колькасьці войска ў гэтых крэпасьцях. Вясной 1660 г. ніхто не прадбачыў паразы арміі Хаванскага, і вельмі вялікая частка залогаў, а таксама запасаў была пасланая пад Ляхавічы ці да войскаў ва Ўкраіне. Параза пад Палонкай, а потым хуткае прасоўваньне польскіх і літоўскіх аддзелаў было сапраўднай нечаканасьцю, якая сур'ёзна ўскладняла расейцам утрыманьне беларускіх фартэцый. Разам з наплывам вестак пра паразу і набліжэньне рэгулярных каралеўскіх войскаў імкліва праявілася зьмена настрояў не на карысьць маскоўскіх уладаў сярод жыхароў беларускіх гарадоў і вёсак, якіх ня так даўно жорстка заняволілі царскія войскі. Зьяўленьне далёка на Дняпры рэгулярных каралеўскіх харугваў толькі ўмацавала іх. Царскія гарнізоны раптам сталі цалкам чужародным целам у мясцовай супольнасьці, якое атачала ўсё большая варожасьць. Гэта нагадала сытуацыю з канца 1658 г., калі гэтыя землі ахоплівала паўстаньне Нячая. Толькі на гэты раз становішча мясцовых царскіх гарнізонаў выразна пагаршалася. Бо цяпер яны мелі дачыненьне не з разрозьненымі аддзеламі казакоў, шляхты і сялянаў, а з рэгулярнай і пераможнай арміяй. Ужо напярэдадні бітвы пад Палонкай смаленскі ваявода Барыс Аляксандравіч Рапнін зь непакоем паведамляў цару пра настроі ў Смален-

[46] AMG. T. III. № 114. S. 109.
[47] K. Dobkiewicz do B. Radziwiłła, Królewiec 20 VII 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 3089/I. S. 34.
[48] Гл.: Inwentarz Kopysi z 1651 r. AGAD. AR. Dz. XXV. № 1766; Inwentarz Kopysi po odebraniu z rąk moskiewskich, z 10 I 1661. Тамсама. № 1768. S. 23—24.

ску. У горад прыязджала шляхта зь Літвы, з Барысава, патаемна кантактуючыся са смаленскай шляхтай і мяшчанамі. А чыноўнікі ваяводы не маглі ад яе нічога даведацца. Да таго ж, шляхта пачала праяўляць адкрытае непадпарадкаваньне, а ў пачатку ліпеня разам са сваімі ротмістрамі Пятром Сакалінскім і Данілам Гурком адмовілася зьяўляцца на царскую службу і скіроўвацца ў Полацак[49].

На вестку аб разгроме Хаванскага Рапнін паслаў цару рапарт з апісаньнем колькасьці залогаў у асобных гарадах. Наймацнейшы гарнізон меў Смаленск, усяго 1452 жаўнеры. У Барысаве стаяла моцная залога ў колькасьці 818 чалавек. У Магілёве было ўжо толькі 13 жаўнераў, а ў Старым Быхаве — 952. Зусім трагічна было ў меншых цэнтрах. У Воршы знаходзілася толькі 85 чалавек, у Дуброўне — 40, у Копысі — 102, у Крычаве — 188, у Мсьціславе — 266, у Рославе — 221, у Чачэрску — 28, а ў Горы-Горках — 95. Сьціплая лічба жаўнераў не вычэрпвала клопатаў ваяводы. Тыя, што не былі пасланыя ў армію Хаванскага і засталіся ў Смаленску, былі ў слабым стане, часта бяз коней і ў няпоўным узбраеньні. З сапраўдным непакоем паведамляў, што ўсе артылерысты ліцьвіны, а расейца сярод іх няма ніводнага. Баяўся, што калі прыйдуць ліцьвіны і палякі, то іх вернасьць будзе вельмі сумнеўнай. Яшчэ горш было ў меншых гарадах, дзе пры малой колькасьці пешых жаўнераў зусім не было коньніцы. Смаленскі ваявода прасіў цара прыняць рашэньне і падводзіў да думкі, што меншыя залогі трэба перавесьці ў Смаленск. Аднак прасіў не вінаваціць яго як ваяводу, калі цар аддасьць іншы загад і ў яго выніку непрыяцель разаб'е гэтыя гарнізоны. Чарговым кашмарам, які не даваў спаць ваяводу, быў адчувальны недахоп харчоў і страшэнная дарагавізна гэткіх тавараў. Пры гэтым ён заўважыў, што прадаваныя боханы хлеба становяцца штораз надзіва меншымі. Прызнаваў, што значная частка сабраных у Смаленску запасаў згніла, а іншых няма адкуль узяць. Галодныя жаўнеры ўцякалі са службы да сваіх дамоў, а дэзэртаваньне з залогаў паасобных гарадоў пачынала набіраць небясьпечныя памеры. У Смаленску жаўнерскія настроі дадаткова пагоршыліся ў жніўні, калі жаўнеры пабачылі на патокі караблёў, што стаялі ля берагу Дняпра, загружаныя збожжам і сухарамі, якія на царскі загад павінны былі плысьці ў Кіеў. З прычыны пагрозы з боку літоўскіх і польскіх войскаў, транспарт затрымалі ў Смаленску. Іх пільнаваў эскорт, а караблі, якія стаялі на рацэ, гнілі, а разам зь імі і харчы, якія перавозіліся. Бяз царскага загаду ніхто не наважваўся кранаць іх на патрэбы смаленскіх жаўнераў[50].

Было зразумела, што ў выпадку надыходу мацнейшых войскаў праціўніка жаўнеры меншых гарнізонаў будуць асуджаныя на згубу. Ужо праз дзесяць дзён Аляксей Міхайлавіч паслаў Рапніну свой адказ. Ён загадваў яму захоўваць асьцярожнасьць з прычыны набліжэньня польскіх і літоўскіх войскаў. Раіў яму самому ацэньваць сытуацыю на хаду і пры неабходнасьці дазваляў яму эвакуяваць залогі з Воршы і Дуброўны. Затое ён павінен быў паклапаціцца аб умацаваньні і ўтрыманьні іншых гарадоў. Падобны ліст цар паслаў ваяводу ў Магілёве, каб той умацаваў і пільнаваў дарučаны яму горад, а ў выпадку пагрозы вывеў залогу з Горы-Горак[51]. Асабліва старанна абараняліся буйныя цэнтры на Дняпры: гэта быў вельмі зручны шлях, па якім з глыбі Расеі праз Смаленск дастаўлялася забесьпячэньне для царскіх войскаў у Беларусі і ва Украіне. Таму зьвесткі пра набліжэньне палякаў і ліцьвінаў да Шклова і Магілёва прывялі ў сярэдзіне ліпеня да прыпыненьня высылкі ракой харчоў і артылерыйскай амуніцыі ў Кіеў і Пераяслаў для маскоўскіх войскаў, што там стаялі. Жаўнеры, якія суправаджалі дастаўку, павінны былі разам са смаленскімі

[49] AMG. T. III. № 99/2. S. 96; № 112. S. 108—109.

[50] AMG. T. III. № 68/1. S. 72; № 110/2. S. 105—106; № 112. S. 108; № 133/1. S. 122.

[51] AMG. T. III. № 110/3. S. 106.

ўмацаваць гарнізоны Шклова, Магілёва і Копыся. А наконт апошняга, то ўпершыню зьявілася думка, што ў выпадку неабходнасьці гэты горад трэба пакінуць. Цар загадаў смаленскаму ваяводу падсілкаваць згаладалых жаўнераў запасамі, якія захоўваліся ў горадзе, каб яны не зьбягалі са службы, паколькі, як яго павучаў, *«гарады перад непрыяцелем умацоўвающца людзьмі, а ня хлебам»*[52].

Тым часам войскі Чарнецкага пасьля адыходу ліцьвінаў зрабілі спробу асадзіць Барысаў. Гэта аказалася невымоўна цяжкім і папросту невыканальным заданьнем для кароннай дывізіі. Таму ад пачатку палякі адмовіліся ад штурмаў, якія каштуюць жаўнерскіх жыцьцяў, і абмежаваліся ў прынцыпе толькі блякадай. Горад меў вялікае значэньне, паколькі знаходзіўся на важным шляху і пераправе, якая вяла зь Менску ў Смаленск. Калі пакінуць горад нездабытым, то ён пасьпяхова заблякаваў бы гэты шлях і прымушаў запаволіць усе дзеяньні, накіраваныя на землі на ўсход ад Бярэзіны. Расейцы правільна ацанілі значэньне Барысава і ператварылі горад, які дагэтуль ня меў сур'ёзных умацаваньняў, у моцную фартэцыю са шматлікай залогай. Вялікія заслугі ў галіне фартыфікацыі гораду меў барысаўскі ваявода Фёдар Нарбекаў. Ён атачыў яго землянымі валамі, умацаванымі драўлянымі канструкцыямі. Пабудаваў спэцыяльныя фартыфікацыі над Бярэзінай, якія забясьпечвалі лёгкі доступ да вады ў выпадку аблогі, а абодва берагі злучыў адноўленым мастом. Галоўнымі ўмацаваньнямі былі земляныя шанцы і бастыёны з артылерыйскімі пазыцыямі. Ваявода паклапаціўся таксама аб забесьпячэньні ўнутры ўмацаваньняў адносна выгодных памяшканьняў для жаўнераў і афіцэраў. Надзвычай энэргічны і прадбачлівы Нарбекаў таксама сабраў у горадзе ўсякія запасы харчоў. Ён меў моцную артылерыю. Шмат гармат як сапсаваных пакінуў у Барысаве восеньню 1658 г. Даўгарукі, які вяртаўся з-пад Вільні. Нарбекаў там адрамантаваў іх, здабываючы цяжкадаступнае жалеза зь мясцовай руды. Гэтаксама ён заняўся і вялікай колькасьцю пашкоджаных мушкетаў[53]. Зьявіўшыся ў сярэдзіне ліпеня пад Барысавам, палякі ўбачылі перад сабою грунтоўна ўмацаваны горад, укамплектаваны шматлікай і добра забясьпечанай залогай з адважным ваяводам на чале.

Пад умацаваньнямі Барысава ўжо ў першыя дні праявілася ўся слабасьць польскага майстэрства аблогі. Вялізнай праблемай аказаўся недахоп моцнай артылерыі, амуніцыі і пораху. Адыход Сапегі ня надта паўплываў на пагаршэньне сытуацыі каронных жаўнераў у гэтым пляне. Гетман таксама валодаў вельмі слабой артылерыяй. Яна складалася з трох гармат, здабытых пад Ляхавічамі, і чатырох уласных. Праз некалькі дзён пасьля адыходу з-пад Барысава ён меў у распараджэньні толькі адну бочку пораху, затое ў яго не было ніякай амуніцыі для гармат[54]. Войскам Чарнецкага, якія засталіся на Бярэзіне, пачаў адчувальна дапякаць голад. Усё ж гэта быў пэрыяд перад жнівом, а ў дашчэнту зьнішчаным краі цяжка было чакаць добрага ўраджаю. Таму не засталося нічога іншага, як зноў зьвярнуцца да радзівілаўскіх камісараў у Слуцку, каб з добра забясьпечаных гарнізонных і гарадзкіх складоў далі дапамогу. Ужо 20 ліпеня Чарнецкі прасіў з-пад Барысава, узамен за асэкурацыю са скарбу Рэчы Паспалітай, сем ці восем гармат, у тым ліку хоць бы пару дванаццаціфунтавых, мартыраў, патрэбных для пасьпяховага абстрэлу ўмацаваньняў унутры, і 30 цэнтнэраў пораху. Праз лукаўскага лоўчага Адама Мысьлішэўскага хадайнічаў таксама аб падтрымцы харчамі свайго згаладалага войска. Менш пераборлівы быў генэрал літоўскай артылерыі Мікалай Уладыслаў Юдыцкі. Ён прыгадаў сабе пад Барысавам, што пэўная частка гармат, якія належалі Рэчы Паспалітай падчас ваеннага канфлікту апошніх гадоў, у выніку розных ака-

[52] AMG. T. III. № 118/1. S. 113—114; № 133/2. S. 122—123.
[53] AMG. T. III. № 45. S. 49—52.
[54] AMG. T. III. № 135. S. 124.

лічнасцяў патрапіла ў Слуцкую фартэцыю. З увагі на свой чын і надзёную патрэбу ён запатрабаваў аддаць іх і даставіць разам з порахам, амуніцыяй, чэлядзьдзю і пушкарамі пад Барысаў. У выпадку супрацьву адкрыта пагражаў суровымі карамі[55].

З падобнымі праблемамі змагаліся пэўны час таксама навагрудзкія грамадзяне, якім у спадчыну ад разгромленай арміі Хаванскага засталася царская залога ў Навагрудзкім замку. Камандзір пастаўленага там рэгімэнту цара, які налічваў 400 чалавек, маёр Даніэль Эйтаф здаўся разам з усёю залогай у каралеўскія рукі 20 ліпеня 1660 году[56]. Ён папросту перайшоў на польскую службу. Камэндант хутка зарыентаваўся, што яго пазыцыя пройгрышная. Ён бачыў таксама, што навагрудзкая шляхта не на жарты рыхтуецца да ўсеагульнай расправы зь ягонымі жаўнерамі. Яна ня мела гармат, але зьвярнулася да нясьвіскага камэнданта Лукаша Тыбароўскага з просьбай пазычыць дзьве гарматы, мартыру і порах[57]. Кемлівы Эйтаф, убачыўшы гэтую падрыхтоўку, пажадаў не раздражняць і так ужо дастаткова спакутаваную ад маскоўскіх войскаў навагрудзкую шляхту. Ён памарудзіў яшчэ пэўны час і ўрэшце запатрабаваў, каб толькі зь ім вёў перамовы віленскі ваявода. Можа быць, гэтую ролю выконваў пасланы Сапегам навагрудзкі ваявода К.Валадковіч. Ва ўсякім разе Эйтаф у адпаведны момант перайшоў на бок пераможцаў. Сваім учынкам ён заслужыў сабе ўдзячнасьць той жа шляхты, якая на сойме ў Варшаве ў 1661 г. патрабавала ўзнагароды для яго. Там 29 ліпеня за тое, што, *«стаўшы ад таго ж цара камэндантам над Навагрудзкім замкам, замак добраахвотна дзеля паслугі нашай і Рэчы Паспалітай аддаў»*, ён і ягоная жонка Кацярынка Быкоўская атрымалі маёмасьць ад здраднікаў Габрыэля і Яна Ільлінічаў, якія ў сьнежні 1659 г. здалі Стары Быхаў Маскве[58].

Капітуляцыя Міра і Навагрудку дала ліцьвінам вялікую колькасьць маскоўскіх палонных. Іх выслалі ў тыл і разьмясцілі на загад гетмана ў Любечы, які належаў Б. Радзівілу. Нягледзячы на рэзкія пратэсты княскіх чыноўнікаў, іх прынялі ў пакоі радзівілаўскага замку, які разам з ваколічнымі воласьцямі быў цалкам спустошаны. Не абмінула гэта і разьмешчаных вакол яго маёнткаў князя, паколькі жаўнеры *«загадваюць выдаваць ім розныя экзакцыі (спагнаньні) і хлеб»*. На іх няшчасьце аказалася, што Сапега, які адыходзіў да Беларусі, ня выдаў наконт гэтых палонных ніякіх ардынансаў, і ў выніку яны яшчэ ў канцы 1660 г. руйнавалі гэтыя княскія ўладаньні. У гэтым тады ім спраўна дапамагла павятовая харугва, нанятая навагрудзкімі грамадзянамі, якія не хацелі ісьці на паспалітае рушаньне[59].

Пакуль Чарнецкі стаяў пад валамі Барысава, Сапега рыхтаваўся перанесьці дзеяньні сваіх войскаў за Бярэзіну і дайсьці да Дняпра. З гэтай мэтай ён таксама прасіў у Слуцку пораху і амуніцыі. Ён прыгадаў сабе, што з 1659 г. слуцкі гарнізон, які ўваходзіць у склад літоўскага кампуту, падпарадкоўваецца ягоным загадам як вялікага літоўскага гетмана. Таму ён запатрабаваў умацаваньня сваіх войскаў харугвай вугорскай пяхоты з таго гарнізону і 10 ліпеня паслаў з Гліўіна ў Слуцак свой ардынанс, які наказваў яго ротмістру Станіславу Скарбку неадкладна зьявіцца разам з жаўнерамі ў літоўскім лягеры на Бярэзіне. Гэта не падабалася князю Багуславу, які спасы-

[55] S. Czarniecki do K. Kłokockiego, w obozie pod Borysowem 20 VII 1660, NGAB. Fond 694. Op. 1. № 300; M.W. Judycki do komisarzy słuckich, z pod Borysowa 21 VII 1660. AGAD. AR. Dz. XXIII. T. 159/1. S. 86.

[56] J. Hlebowicz do B. Radziwiłła, Słonim 22 VII 1660. Тамсама. Dz. V. № 5226. S. 161; A. Towarnicki do B. Radziwiłła, Lubecz 20 VII 1660. Тамсама. № 16369. S. 1; Vorbek-Lettow. S. 292.

[57] Szlachta nowogródzka do Ł. Tyborowskiego, Nowogródek 10 VII 1660. AGAD. AR. Dz. II. № 1427.

[58] Ausfürliche relation von der herzlichen Victoria... BN. Mf 62088; RGADA. Fond. 389, ML. № 134. K. 153—153v.

[59] E. Tedrażycki do B. Radziwiłła, Lubecz 30 X 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 16180. S. 6; A. Towarnicki do B. Radziwiłła, Lubecz 19 XII 1660. Тамсама. № 16369. S. 6.

лаўся на соймавую канстытуцыю, якая запэўнівала, што гарнізон ня будзе выводзіцца з гораду, пакуль будзе працягвацца вайна. Гетман прымаў гэтае рашэньне, у значнай ступені кіруючыся сваёй антыпатыяй да князя. Гэтая антыпатыя мела шмат прычын. Адной зь іх была пазыцыя гарнізону ў дачыненьні да асаджаных Ляхавічаў. І гэта ня быў канец клопатаў, якія выпадалі на долю слуцкіх уладаньняў з боку войскаў Сапегі. Аказалася, што Сапега будзе выцягваць забесьпячэньне са Слуцкай фартэцыі без усякіх згрызотаў сумленьня. Ён злаваўся на яе ўладальніка, а ў руках меў сур'ёзную зброю для зьдзяйсьненьня помсты. Дзякуючы сваёй гетманскай уладзе ён мог прызначыць для войска Случчыну месцам, зь якога яно павінна пабіраць сабе харчы. Вядома, што гэта прынесла б вялізныя страты княскім маёнткам, што там знаходзіліся. Таму слугі Багуслава Радзівіла не асьмеліліся пратэставаць, калі гетман у сваёй асыгнаце да скарбу не акрэсьліваў, за які кошт узяў амуніцыю са слуцкіх складаў. Панесеныя на гэта кошты палічылі на 3 тыс. зл. Згадзіліся са стратай гэтых грошай, пачуўшы, што Сапега напаўголасу сказаў пра магчымасьць разьмясьціць у гэтых уладаньнях сваё войска ці, што яшчэ горш, харугвы Чарнецкага, *«калі б яму гэтым рот не заткнулі»*[60].

Падрыхтаваўшы свае войскі, наколькі гэта было магчыма, Павел Сапега распачаў пераправу на ўсходні бераг Бярэзіны[61]. Гэта адбылося нават перад 15 ліпеня, паколькі ўжо 21 у Варшаве ведалі пра гэта. Пераправіўшыся, літоўскія харугвы рушылі да ракі Друці. Яны прасоўваліся ў некалькіх групах, не сустракаючы супраціву. Маршавалі на Талачын, а па дарозе войска стаяла лягерам пад Бабром, дзе адсеклі галаву ці пасадзілі на кол схопленага пад Палонкай здрадніка Флярыяна Слонскага. Праз нейкі час лягер перанесьлі да мястэчка Славені, перад самай ракой Друцьцю. 25 ліпеня гетман паслаў моцны разьезд на чале зь літоўскім стольнікам Крыштапам Сапегам за Дняпро. Ён павінен быў перайсьці раку паміж Шкловам і Магілёвам, дзе ім пашчасьціла перахапіць два гатовыя паромы. Хутчэй за ўсё ён першы наладзіў падчас гэтага свайго маршу кантакт зь мяшчанамі ў Шклове, што хутка пасьля гэтага дапамагло Палубінскаму прывесьці да іх здачы каралю і капітуляцыі гораду[62]. Мэтай віленскага ваяводы было перанесьці дзеяньні на другі бок гэтай вялікай ракі, а перш за ўсё, заблякаваць наступленьне маскоўскіх падмацаваньняў у прыдняпроўскія фартэцыі. У розных напрамках на чале вылучаных харугваў былі таксама адпраўленыя такія дасьведчаныя камандзіры, як мальтыйскі кавалер Мікалай Уладыслаў Юдыцкі ці аршанскі падкаморнік Крыштап Статкевіч, якія на Дняпры перахапілі маскоўскія караблі, што плылі ў Магілёў, і каштоўных цэнных грузаў. Да дзеяньняў такога кшталту Сапега заклікаў і Палубінскага, які ўжо раней на чале вылучанага корпусу пранік у тэрыторыі на верхнім Дняпры. Супрацоўнічаць зь ім павінен быў Крыштап Сапега і Самуль Кміціч[63]. Далёкі загон палявога пісара прынёс вялізны посьпех. Выкарыстоўваючы слабасьць праціўніка, паўсюднае замяшаньне і непрыхільнае стаўленьне да расейцаў мяшчан, яму ўдалося ўжо каля 25 ліпеня заняць Воршу і Копысь. У гэтым другім горадзе Палубінскі прыйшоў да своеасаблівай дамовы зь мяшчанамі, гарантуючы ім, што не пакіне ў залозе гораду больш за 100 драгуноў.

[60] S. Skarbek do B. Radziwiłła, Słuck 18 VII 1660. Тамсама. № 14423. S. 21; Kopia ordynansu P. Sapiehy. Тамсама, неўпарадкаваныя паперы; S. Petelczyc do B. Radziwiłła, Słuck 5 VIII 1660. Тамсама. Dz. V. № 11517. S. 3; S. Leźnicki do B. Radziwiłła, Słuck 9 VIII 1660. Тамсама. № 8451. S. 42.

[61] M. Prażmowski do J. Lubomirskiego, Warszawa 21 VII 1660. BPANKr. 1065. S. 91.

[62] Metryka Litewska. Księga wpisów № 131 / Wyd. A. Rachuba. № 1020. S. 336.

[63] P. Sapieha do A.H.Połubińskiego, w obozie pod Hlinnikiem 25 VII 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/IV. S. 55; Skorobohaty. S. 81.

Як у кожным горадзе, так і тут мяшчане баяліся вялізных цяжкасьцяў, зьвязаных з абавязкам утрымліваць уведзены гарнізон, а таксама жаўнерскага самаўпраўства. Добра пра гэта ведаючы, усьцешаны навіною пра здабыцьцё Копыся гетман вельмі прасіў Палубінскага, каб ён «сьціпла» абыходзіўся зь мяшчанамі і забясьпечыў жаўнерам правіянт на тыдзень. Здаецца, што невялікая царская залога ў Копысі, засьпетая цалкам зьнянацку зьяўленьнем ліцьвінаў і пераходам на іх бок мяшчан, кароткі час вагалася, ня ведаючы, што рабіць у такой неспадзяванай для іх сытуацыі. Урэшце і яна прыняла рашэньне капітуляваць. Чарговай мэтай Сапегі быў Шклоў, які знаходзіцца на невялікай адлегласьці ўніз па Дняпры ад Копыся. Пакінуўшы залогу ў Копысі, Палубінскі скіраваўся і туды. Чакаючы супраціву маскоўскай залогі, Сапега наказваў яму паклапаціцца аб здабытых у Копысі гарматах і пораху, якія маглі прыдацца пад Шкловам, хоць прадбачылася, што горад можа здацца бяз бою, як Копысь. Палявы пісар павінен быў таксама паінфармаваць Крыштапа Сапегу, каб той са сваімі людзьмі ішоў пад Шклоў. Такі загад атрымаў і Юдыцкі. А Кміціч павінен быў рушыць у напрамку Віцебскага ваяводзтва. Сам гетман, будучы яшчэ на заходнім беразе ракі Друць, спачатку намерваўся разьбіць галоўны лягер на Дняпры і там прызначыць паасобным адзінкам месцы пабору імі харчоў. Канчаткова ён вырашыў яшчэ не пераходзіць Дняпро і разьбіць лягер пад Галоўчынам ці недзе ў ваколіцы недалёка ад Шклова. Вырушыць у тым кірунку ён плянаваў асабіста з усімі войскамі 30 ліпеня[64].

Па дарозе з Барысава ён шырока пасылаў разьезды, задачай якіх, акрамя збору інфармацыі пра ворага, было здабыцьцё правіянту. Па харчы пасылалася таксама чэлядзь з розных харугваў. Гэтыя загоны заходзілі далёка ў Віцебскі, Аршанскі і Магілёўскі паветы. Пад Віцебскам у рукі маскоўскіх жаўнераў патрапілі некалькі чалавек чэлядзі разам з адным шляхціцам. Перш чым павесіць іх у Смаленску, расейцы даведаліся, што ўсе сілы Сапегі і Палубінскага налічваюць 6 тыс. жаўнераў, якія галадаюць, і што не прыйшлі да іх ніякія падмацаваньні, а гетман няспынна мае надзею на прыход з Жамойці войскаў Міхала Казімера Паца. Зь лягеру ў Славенях Сапега дасылаў лісты Чарнецкаму, каб той пакінуў безнадзейную аблогу, ня страчваў там людзей, а ішоў далучацца да яго[65]. Адтуль літоўскае войска рушыла 28 ліпеня, хутка перайшло Друць і празь дзень разьбіла лягер пад Старасельлем, што за 20 км на паўночны захад ад Шклова[66]. Аддзелы Палубінскага, якія зьявіліся там пару дзён раней, заблякавалі гэты горад, адразаючы падступы для якой-колечы дапамогі. Можа быць, за некалькі дзён да надыходу ліцьвінаў у горад змаглі ўвайсьці нейкія падмацаваньні. У пазьнейшыя дні не было шанцаў іх даставіць, паколькі ваколічныя маскоўскія ваяводы на чале са смаленскім, які валодаў найбольшай збройнай сілай, самі змагаліся зь вялікімі цяжкасьцямі. У гэтыя дні завязаліся кантакты паміж Палубінскім і Сапегам і шклоўскімі мяшчанамі, якія абяцалі аддаць горад у рукі ліцьвінаў. Яны не падвялі гетмана, і ўжо праз два дні дзякуючы стараньням Палубінскага горад патрапіў у літоўскія рукі без праліцьця крыві. Прыгнечаная шматлікімі праблемамі маскоўская залога, убачыўшы блізка вялікую армію і варожае стаўленьне мяшчан, адразу зразумела, што супраціўляцца даўжэй немагчыма, і прыняла рашэньне скласьці зброю. Адбылося гэта, хутчэй за ўсё, 31 ліпеня; у кожным разе ў гэты дзень гетман пісаў пра здачу Шклоўскай фартэцыі без праліцьця крыві. Сапега наказаў Палубінскаму ні ў якім разе не трымаць царскіх жаўнераў у замку і горадзе, але абавязкова вывесьці іх на вёску. Таксама і ў выпадку гэтага

[64] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, w obozie 27 IX 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/IV. S. 121—123.
[65] AMG. T. III. № 135. S. 124.
[66] Chrapowicki. S. 255.

гораду бралася пад увагу пазыцыя мяшчан. Палубінскі павінен быў старанна паклапаціцца пра фартыфікацыі Шклова, адрамантаваць усе недахопы і сабраць патрэбную для абароны зброю, амуніцыю і харчы. Аднак пры гэтым гетман катэгарычна забараніў яму ўводзіць у горад большую колькасьць жаўнераў, чым было абумоўлена, напэўна, падчас абмеркаваньня зь мяшчанамі ўмоваў здачы гораду. Пасьля такой шчасьлівай падзеі, якая цалкам кантраставала зь бясплённымі намаганьнямі Чарнецкага пад Барысавам, гетман вырашыў скіравацца пад Магілёў, што за 40 км адтуль уніз па Дняпры. Туды ж загадаў Палубінскаму перасунуць свае харугвы. Яго непакоіла толькі адсутнасьць зьвестак ад літоўскага стольніка, пра якога ведаў толькі тое, што на ўсходнім баку Дняпра добра спраўляецца з даручаным яму заданьнем не дапускаць царскіх падмацаваньняў на гэтую раку[67].

Падзеньне гэтых гарадоў зрабіла вялікае ўражаньне ў глыбі Літвы. Разыходзіліся чуткі, што ня толькі ў іх, але таксама ў Шклове і Магілёве выразалі ўсіх да аднаго маскоўскіх жаўнераў. Не было гэтага ў Шклове, а тым больш у Магілёве. Можа быць, гэткія інцыдэнты мелі месца ў двух астатніх гарадах. Тым часам загады гетмана Паўла Сапегі наконт маршу на Магілёў, відаць, дастаткова рана дайшлі да літоўскага стольніка Крыштапа Сапегі, які быў за Дняпром. Разам са сваім аддзелам ён апынуўся пад горадам ужо 10 жніўня, а магчыма, і на дзень раней. Ён адразу распачаў дзеяньні супраць Магілёва, падыходзячы са сваімі жаўнерамі на вельмі блізкую адлегласьць да яго ўмацаваньняў і абстрэльваючы іх. Ліцьвіны вытрымалі моцны абстрэл з валоў, а 15 жніўня ім удалося нават паставіць мост на Дняпры. Праз два дні жаўнеры з маскоўскай залогі зрабілі магутную вылазку. Ліцьвіны здолелі яе адбіць, наносячы сур'ёзныя страты расейцам. Аднак за ўтрыманьне пазыцыяў даваялося заплаціць вялікай колькасьцю застрэленых з гармат латнікаў і коней. Нарэшце, 19 жніўня зьявіўся каля Магілёва, крыху на поўнач ад яго, гетман Сапега разам з галоўнымі літоўскімі сіламі[68].

Такія шчасьлівыя падзеі ўсё глыбей азмрочваліся здабыванай ліцьвінамі інфармацыяй, якая пацьвярджала яшчэ ранейшыя зьвесткі пра тое, што цар зьбірае магутную армію, каб пасласць яе супраць літоўскіх і каронных войскаў у Беларусі. Гэтыя данясеньні выклікалі небеспадстаўную трывогу. Іх адразу пераслалі Чарнецкаму, які надалей стаяў пад Барысавам, і запатрабавалі ад яго хуткай дапамогі[69].

Рускі ваявода, стоячы тры тыдні пад Барысавам, не дасягнуў ніякіх посьпехаў пад валамі гэтай моцнай фартэцыі. Да таго ж нішто ня сьведчыла, што іх удасца дасягнуць у найбліжэйшы час. Да адыходу з-пад яе яго мабілізавалі прыкметы блізкай маскоўскай пагрозы. Да Чарнецкага даходзілі весткі ад Сапегі, а таксама зь іншых крыніц ён даведваўся пра актывізацыю Хаванскага, які зьбіраў у Полацку сілы. Пад канец ліпеня ён спаліў горад Чашнікі, што зразумелі як пачатак яго дзеяньняў у кірунку Барысава. Гэта прымусіла Сапегу яшчэ больш націснуць на Чарнецкага, каб ён злучыў сілы. Падобныя загады гетман аддаў Палубінскаму, якому таксама наказаў шукаць кантакту з аддзелам Крыштапа Сапегі, які застаецца дзесьці за Дняпром, і заклікаў вяртацца[70]. Акрамя таго, абодва вайскаводцы не маглі ігнараваць небясьпекі з боку адданых Маскве моцных казацкіх палкоў: нежынскага, чарнігаўскага і іншых. Магчыма, наконт іх

[67] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, z obozu pod Starosielem 29 VII 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/IV. S. 59; list z Czarczyna 31 VII 1660. S. 63—64 i b.m. 31 X 1660. S. 137; AMG. T. III. № 139. S. 127—128.
[68] Skorobohaty. S. 82; AMG. T. III. № 186/3. S. 168—169; Metryka Litewska. Księga wpisów. № 131 / Wyd. A. Rachuba. № 1020. S. 336.
[69] K. Dobkiewicz do B. Radziwiłła, Królewiec 24 VIII 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 3089/I. S. 43; W. Huryn do B. Radziwiłła, Słuck 13 VIII 1660. Тамсама. № 5569/I. S. 88.
[70] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, b.m. 1 VIII 1660. Тамсама. № 13868/IV. S. 67.

ужо тады была інфармацыя, што яны намерваюцца з Чарнігаўшчыны рушыць у Беларусь. Сур'ёзнасьць сытуацыі разумеў і Чарнецкі. Нельга было дапусьціць аб'яднаньня варожых армій, а тым больш таго, каб яны засьпелі каралеўскія і літоўскія сілы раздзеленымі. Таму рускаму ваяводу не заставалася нічога іншага, як далучыцца да Сапегі пад Магілёвам. Невядома, калі дакладна ён пакінуў аблогу, але гэта адбылося перад самым 10 жніўня, паколькі з аддаленага на 150 км Слуцку Уладыслаў Гурын паведамляў пра гэта праз тры дні. Войскі Чарнецкага перайшлі Бярэзіну і хуткім маршам прыбылі 20 жніўня пад Магілёў. Там злучыліся зь літоўскімі харугвамі. Свой лягер Чарнецкі разьбіў у Буйнічах, што на невялікай адлегласьці на поўдзень ад Магілёва[71].

Пры адыходзе з-пад Барысава фартэцыю не пакінулі самой сабе. Пад ёй засталася польская і літоўская пяхота колькасьцю каля 3 тыс. чалавек, якая на загад ісьці пад Магілёў, напэўна, паступова адыходзіла з-пад Барысава. Блякадай гораду павінна была заняцца менская шляхта, скліканая каралеўскімі ўніверсаламі, як і шляхта іншых ваяводзтваў, на паспалітае рушаньне адразу ж пасьля распачацьця чэрвеньскага наступу. Менскія грамадзяне сабраліся пад сваім харужым Аляксандрам Вяжэвічам і пад Барысавам у цяжкіх умовах праслужылі болей за прадпісаную чвэрць, г.зн. даўжэй за тры месяцы. Пайсьці туды павінна была і наваградзкая шляхта, якая замест паспалітага рушаньня вырашыла наняць 200 каронных жаўнераў і адправіць іх пад Барысаў. Пасьля заканчэньня чвэрці жаўнеры з гэтых ваяводзтваў маглі вярнуцца дамоў. Аднак шляхта, якая жыла ў ваколіцах, баялася, што спушчаны з вока непрыяцель пачне спусташаць іх землі. Паколькі паблізу не было ніякіх значных рэгулярных літоўскіх войскаў, пакінутыя самі сабе грамадзяне Менскага ваяводзтва вырашылі самастойна выставіць пяхоту, каб яна пільнавала залогу Барысава. Не сабралі яе шмат, але пад выбраным ротмістрам Аляксандрам Пшычэўскім з разьмешчанага непадалёк Зембіна яна захоўвала бясьпеку Менскага ваяводзтва. Праз два тыдні маскалі з Барысава даведаліся, зь якім нешматлікім праціўнікам яны маюць дачыненьне. Адправілі супраць яго 500 пяхотнікаў з гарматай і крыху коньніцы. Менскіх ваякаў засьпелі зьнянацку ноччу ў Зембіне і дашчэнту зьнішчылі, а камандзіраў схапілі ў палон і пасадзілі ў барысаўскую вязьніцу, дзе тыя сядзелі яшчэ праз два гады[72].

Літоўскіх і польскіх жаўнераў, якія адышлі з-пад нездабытых валоў Барысава і заўсёды няўпэўнена адчувалі сябе пад усялякімі ўмацаванымі пунктамі, павінен быў цалкам прыгнесьці выгляд Магілёва. Гэта быў чарговы вельмі грунтоўна ўмацаваны горад. Ён меў цэлыя тры лініі абароны. Яе цэнтрам быў замак, разьмешчаны на высокім пагорку каля вусьця рэчкі Дубровенкі ў Дняпро. Замак быў абнесены земляным валам з драўлянымі сьценамі і сямю вежамі. Іх дадаткова аддзяляў ад гораду глыбокі роў з вадой. Іх ад гораду аддзяляў чарговы вал, зьвянчаны драўлянымі сьценамі і высунутымі бастыёнамі. Чарговая, трэцяя лінія абароны, пэрыметар якой складаў больш за 5 км, атачала ўсё прадмесьце. Гэта быў невысокі вал з бастыёнамі і засьцерагальным ровам. Здабыцьцё такога ўмацаванага гораду пераўзыходзіла магчымасьці нават аб'яднаных польскіх і літоўскіх сілаў. У абодвух войсках было шмат камандзіраў, якія добра памяталі высілкі вялікага літоўскага гетмана Януша Радзівіла, які ў 1655 г. падчас некалькіх месяцаў безнадзейных змаганьняў змарнаваў пад гэтай фартэцыяй літоўскую армію[73]. Горад не ўдалося заняць і казакам Нячая пад канец 1658 г. Стрыжань

[71] Skorobohaty. S. 82.

[72] W. Huryn do B. Radziwiłła, Słuck 19 X 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 5569/I. S. 99; LVIA. SA 1. K. 1443—1444v; AMG. T. III. № 162. S. 145.

[73] Гл.: Bobiatyński K. Kampania zimowo-wiosenna wojsk Janusza Radziwiłła 1654—1655 // Staropolska sztuka wojenna XVI—XVII wieku. Prace ofiarowane Profesorowi Jaremie Maciszewskiemu / Pod redakcją Mirosława Nagielskiego. Warszawa, 2002. S. 185—198.

абароны Магілёва складала маскоўская залога ў горадзе. Аднак шмат залежала ад пазыцыі шматлікіх мяшчан, акурат ім у будучыні было наканавана вырашыць лёс свайго гораду. Хоць у ліпені, паводле рапарту Барыса Рапніна, у Магілёве стаяла толькі 130 жаўнераў, аднак у пазьнейшыя дні залога была значна падмацаваная, хоць бы залогамі, эвакуаванымі зь іншых гарадоў. Паводле розных польскіх крыніц, адных маскоўскіх жаўнераў у жніўні там павінна было знаходзіцца 2 тыс.[74]. Пра такі важны горад клапаціўся сам Аляксей Міхайлавіч. Ён загадаў Сямёну Данілавічу Зьмееву, які стаяў у Полацку, адыходзячы ад атрыманых пад Палонкай ранаў, сабраць сваіх людзей і скіравацца зь імі ў Магілёў. Ён вырушыў 28 ліпеня, ведучы за сабою 565 жаўнераў. Маскоўскі вайскаводца добра ведаў гэтыя тэрыторыі, паколькі вясной 1660 г. з-пад Старога Быхава праз Магілёў ён ішоў з войскам пад Ляхавічы. Аднак ён ня мог простым шляхам дайсьці пад гэты горад, бо на ўсіх шляхах яму пагражалі харугвы ліцьвінаў. У пачатку верасьня вакольным шляхам яму ўдалося прыйсьці ў раён Мсьціслава. Там ён паклікаў зьявіцца на царскую службу магілёўскую і крычаўскую шляхту, якая раней разьехалася па дамах. Аднак аказалася, што ўжо няма гаворкі пра ўваход у Магілёў, паколькі ён атачаны каралеўскім войскамі[75].

Дзеяньні пад горадам зббльшага зводзіліся да яго блякады, нічога не было чутна пра спробы штурмаваць яго. Праз некалькі дзён сам Сапега пісаў, што *«Магілёў цьвёрды па-старому, conclusum [было вырашана] спаліць прадмесьці і змарыць голадам»*. Таму пусьцілі з дымам прадмесьці Магілёва і заблякавалі горад, разьлічваючы, што там скончацца харчы. Гетман ня надта верыў у хуткі эфэкт такой тактыкі, аднак ня ведаў, чым яе замяніць. Больш правакацыйныя дзеяньні рабіла маскоўская залога. 8 верасьня яна наладзіла моцную вылазку з гораду на пазыцыі ліцьвінаў. Аднак яна была адбітая зь вялікімі стратамі на баку маскалёў. Каб не марнаваць людзей у штурмах, ад пачатку рабіліся спробы схіліць мяшчанаў і залогу добраахвотна капітуляваць. Яшчэ да прыбыцьця каралеўскіх войскаў пад горад Сапега і Чарнецкі пасылалі да шляхты і мяшчан лісты з угаворамі здаць горад і абяцаньнямі каралеўскай ласкі. Гэтыя спробы паўтараліся, калі войскі ўжо стаялі пад Магілёвам. Палякі і ліцьвіны набліжаліся да валоў і схілялі магілёўцаў адчыніць брамы. Як пазьней пісалі ў Маскве, шляхецкія прыхільнікі цара і ваявода Мацей Палуехтаў угаворвалі мяшчан цярпець. Маскалі ведалі, што павінны прыкласьці да гэтага шмат намаганьняў, бо апазыцыя да маскоўскага панаваньня ў горадзе была моцнай. Асабліва падбухторваў настроі магілёўскі ляндвойт Баляслаў Шалкоўскі. Яшчэ ў 1655 г. маскалі зьняволілі яго на даўжэйшы час у цяжкай магілёўскай вязьніцы, а потым пры дапамозе патаемных спатканьняў і рассыланых лістоў ён зносіўся з *«канфідэнтамі сваімі»*, таксама як і ён, усё больш непрыхільнымі да прысутнасьці і панаваньня маскалёў у іхнім горадзе. Апанэнты Расеі траплялі з гэтым на добрую глебу, паколькі пара гадоў уладараньня маскоўскіх ваяводаў і афіцэраў здолела дыямэтральна зьмяніць стаўленьне магілёўцаў да новых парадкаў. Калі ў 1655 г. зь вялізнай ахвярнасьцю і разам з царскай залогай яны адбівалі штурм ліцьвінаў, то ў 1660 г. іх настроі закіпалі, што ў пачатку 1661 г. прывяло да выбіцьця ўсіх маскоўскіх жаўнераў у горадзе. У жніўні і верасьні 1660 г., калі пад горадам стаялі ліцьвіны і палякі, сярод простанародзьдзя пачаліся выступленьні за здачу гораду. Аказалася, што да адданасьці Маскве больш схільная старшына, і гэта яна супакойла хваляваньні. Можна здагадвацца, што ахвочых прыняць прапановы, якія паступалі з-за валоў, было больш, чым тых, хто гэта выразна паказваў. Большасьць, баючыся за свой лёс, затойвала свае спадзяваньні. А тых, хто занадта відавочна цікавіўся прапановамі з-за валоў, адразу зьнявольвалі, а нават меркавалася распачаць супраць іх жорсткія рэпрэсіі[76].

[74] Łoś. S. 97; Skorobohaty. S. 83.
[75] AMG. T. III. № 139. S. 127—128; № 161. S. 143.

Цалкам магчыма, што ўтрымаць горад дапамог расейцам страх многіх мяшчан перад помстай каралеўскіх камандзіраў за пазыцыю гораду ў 1655 г., а галоўным чынам — яшчэ ня высьветленая сытуацыя на фронце. Не было вядома, які будзе вынік змаганьняў войскаў Сапегі і Чарнецкага з (як даносілі чуткі) магутнай арміяй Даўгарукага і якім чынам будуць разьвівацца змаганьні ў не такой далёкай Украіне. Адтуль даходзілі зьвесткі, што, як у 1655 г., некалькі моцных казацкіх палкоў набліжаецца з дапамогай войскаў Аляксея Міхайлавіча. Мяшчане лёгка маглі заўважыць шэраг падабенстваў з сытуацыяй вясны 1655 г. Ніхто ня мог гарантаваць, што ў сувязі з надыходам маскоўскіх армій і казацкіх падмацаваньняў падзеі ня будуць адбывацца так, як тады, а польска-літоўскія войскі ня будуць вымушаныя ўрэшце адступіць, як пяць гадоў таму, калі імі камандаваў тагачасны вялікі гетман Януш Радзівіл.

Больш чым месячнае знаходжаньне пад Магілёвам было ў прынцыпе чаканьнем руху маскоўскіх войскаў. Адусюль прыходзілі ўсё больш сур'ёзныя данясеньні пра падцягваньне болышых непрыяцельскіх сілаў. Найбольш непакоілі тыя, што зьбіраліся з боку Смаленску, паколькі ў тых ваколіцах павінен быў зьбіраць вялікую армію Юры Аляксеевіч Даўгарукі. Літоўскія вайскаводцы яго добра ведалі, паколькі акурат ён разьбіў пад Веркамі Гасеўскага і ўзяў яго ў палон, а потым уцёк з-пад пагоні войскаў Сапегі. Інфармацыя, якая даходзіла да вайскаводцаў пад Магілёвам, усё больш выразна ўказвала, што ўжо хутка ім давядзецца сыйсьціся з арміяй гэтага царскага вайскаводцы ў генэральнай бітве.

На царскім двары разгром і зьнішчэньне арміі Хаванскага былі ўспрынятыя як вельмі цяжкі ўдар. Пляінаваныя раней зь вялікім размахам дзеяньні ў кірунку Варшавы з мэтай канчаткова зваліць Рэч Паспалітую і забраць у яе вялікія літоўскія і ўкраінскія тэрыторыі раптоўна саступілі месца клопатам аб выратаваньні хоць часткі літоўскай здабычы. Для гэтай задачы былі прызначаны зьбіраныя летам у вялікай сьпешцы аддзелы, якія спачатку мусілі пайсьці на падмацаваньне войскаў Хаванскага, каб разам зь імі і казакамі з Наваградчыны скіравацца да каронных зямель. У моцна пагоршанай сытуацыі ім аддалі загад стрымаць і разьбіць войскі Сапегі і Чарнецкага, якія наступаюць на ўсход. Ужо 7 ліпеня ў Маскве гэтае заданьне было даручана князю Ю.А. Даўгаруку, які павінен быў прыняць камандаваньне фармаванай арміяй. Спадарожнічаў яму ў гэтай падрыхтоўцы ягоны даўні баявы таварыш, стольнік Восіп Сукін. На царскі загад у склад фармаванай арміі прыйшла першая тысяча зь пешага выбарнага палка з палкоўнікам Ангелам Аляксеевічам Шэпелевым[77]. Гэта быў аддзел драгуноў, складзены зь вельмі старых і дасьведчаных жаўнераў[78]. Ужо пад канец ліпеня Даўгарукі атрымаў царскі загад адпраўляцца з Масквы супраць палякаў і ліцьвінаў. Хутка пасьля гэтага ён спыніўся ў Вязьме. З сабраным там яшчэ не-

[76] E. Bobiecki do W. Lanckorońskiego, Sambor 5 IX 1660. BCzart. 154. S. 609—610; Русско-белорусские связи. Сборник документов (1570—1667) / Изд. Л.С. Абецедарский и М.Я. Волков. Минск, 1963. № 414. С. 445—447; RGADA. Fond. 389, ML 132. № 370. K. 486; Kochowski. S. 76.

[77] Малов А.В. Московские выборные полки солдатского строя в начальный период своей истории 1656—1671. Москва [у друку]. Тут хачу шчыра падзякаваць спадару Аляксандру Віталевічу Малаву за аказаную мне дапамогу і парады, якія датычылі тэмы майго дасьледаваньня.

[78] У гэты час у царскай арміі існавалі два выбарныя палкі новага строю. Іх пачалі фармаваць у 1656 г. пасьля досьведу ў змаганьні са швэдамі. Кожны з гэтых палкоў налічваў 3 тыс. дасьведчаных жаўнераў, якія дзяліліся на тысячы, а кожная тысяча на 10 ротаў. Першы, на чале з Ангелам Аляксеевічам Шэпелевым, насіў пераважна драгунскі характар. Якаў Максімавіч Калюбакін камандаваў другім палком, які быў салдацкім. Жаўнеры Шэпелева ўдзельнічалі ў змаганьнях у Беларусі ў 1658—1659 г. і ў аблозе Старога Быхава, гл.: Малов А.В. Начало выборных полков — предвестников петровской гвардии // С верой и верностью. 300 лет Российской императорской гвардии. Санкт-Петебрург, 2000. С. 56—59.

шматлікім войскам ён скіраваўся 18 жніўня ў Дарагабуж, да якога дайшоў праз чатыры дні. Падчас гэтага маршу расейцаў занепакоілі зьвесткі пра зьяўленьне на дарозе перад гэтым горадам літоўскіх разьездаў, якія злавілі некалькіх смаленскіх шляхціцаў, што служаць цару. Хоць пасланыя расейцамі разьезды не натрапілі на ліцьвінаў, але гэтыя зьвесткі зрабілі няўпэўненымі паводзіны Даўгарукага, які нейкі час нават баяўся за лёс Дарагабужу[79]. Пасьля кароткага пастою ў гэтым горадзе ён скіраваўся да Смаленску, дзе зьявіўся 29 жніўня. Праз два дні, за гадзіну да сьвітаньня, пад гэты горад падабраліся літоўскія разьезды, выкралі некалькі царскіх жаўнераў, больш за 100 коней і прымусілі Даўгарукага перасунуць свой лягер у больш абаронены горад на Дняпры[80].

Каралеўскія камандзіры не забываліся назіраць за праціўнікам і пасылалі шматлікія разьезды ў ягоны бок. У другой палове жніўня на даручэньне Сапегі ў бок Смаленску скіраваўся Палубінскі на чале моцнай групы харугваў, якая налічвала 3 тыс. жаўнераў і пару гармат. Яго заданьнем было назіраць за тым, як зьбіраюцца там маскоўскія войскі Даўгарукага, з боку якіх чакалася найбольшай пагроза. Палубінскі павінен быў зарыентавацца ў іх рэальнай сіле, кірунку маршу і пераканацца, ці яны сапраўды маюць намер рушыць у найбліжэйшы час да каралеўскіх войскаў. Калі Палубінскі ўпэўніцца ў слабасьці гэтых маскоўскіх сілаў, гетманскі загад наказваў яму заатакаваць расейцаў і разьбіць іх. А калі б яны аказаліся шматлікімі, ён павінен быў адступаць да літоўскага лягеру, здабываючы толькі інфармацыю наконт праціўніка.

Як толькі палявы пісар апынуўся за Дняпром, ён энэргічна ўзяўся за выкананьне даручанага яму заданьня. Пранікаючы ў мясьціны вакол Смаленску, ён даведаўся пра маскоўскі аддзел, адпраўлены з гэтага гораду, і намерваўся яго перахапіць і зьнішчыць. Аднак своечасова папярэджаныя царскія жаўнеры здолелі вярнуцца пад прыкрыццё гарадзкіх фартыфікацый. Іншы аддзел са Смаленску павінен быў у гэтыя дні заняць пераправу на Дняпры і ўкамплектаваць іх пяхотай. Напэўна, там дайшло да нейкіх змаганьняў, паколькі ўжо 5 верасьня ў далёкім Менску чыталі ліст аднаго з жаўнераў Палубінскага, што той нібыта выразаў цэлыя 2 тыс. добрай маскоўскай пяхоты[81].

Калі атрыманая палявым пісарам інфармацыя пацьвердзіла зьвесткі пра набліжэньне Даўгарукага да Смаленску, Сапега пачаў баяцца, што Палубінскі можа ня вытрымаць напору большых царскіх войскаў, і параіў яму ў такой сытуацыі адступіць да Шклова. Аднак палявы пісар у гэты час ня меў намеру вяртацца, а ягоныя разьезды, якія сягалі за Дарагабуж і Ельню, сутыкаліся з аддзеламі фармаванай арміі Даўгарукага, якія набліжаліся да Смаленску. Сапега асьцерагаў Палубінскага, каб той ня ўцягваўся ў змаганьне зь імі, і прасіў толькі канкрэтнай інфармацыі пра гэтага царскага вайскаводцу і найвышэйшай асьцярожнасьці. У кожным лісьце нагадваў, каб Палубінскі адступаў на лініі Дняпра ў выпадку надыходу значных варожых сілаў. Аднак палявы пісар на пэўны час прапаў са сваімі людзьмі дзесьці далёка на ўсход ад Шклова і Воршы і не даваў прыкметаў жыцьця. Гэта вельмі непакоіла гетмана, паколькі ў той час пачалі зноў даходзіць зьвесткі пра рухі войскаў Хаванскага з Полацку, які пасылаў у той час заклікі ў Віцебск, каб тамтэйшая залога атакавала ліцьвінаў, якія шныраюць паблізу гэтага гораду, а таксама стаяць у Чашніках і Лепелі. А сам са сваімі войскамі павінен быў рушыць з Полацку ў напрамку Віцебску, а потым Смаленску, каб там аб'яднацца з арміяй Даўгарукага. Каб засьцерагчыся ад небясьпекі, гетман перад 25 жніўня паслаў загад дывізіі Міхала Паца, якая нарэшце набліжалася, каб яна спынілася пад Воршай.

[79] AMG. T. III. № 127. S. 119; № 144/2 i 3. S. 130—131.
[80] AMG. T. III. № 144/3. S. 131; № 154. S. 138.
[81] Chrapowicki. S. 258; AMG. T. III. № 186/1. S. 165.

Ён тады нават лётаў з думкай загадаць Пацу супрацоўнічаць з Палубінскім. Аднак праз некалькі дзён атрымаў яшчэ больш трывожныя зьвесткі пра Хаванскага і паслаў ліст да Паца, каб той, пакінуўшы пад Воршай гусарскія харугвы, скіраваў свае войскі бліжэй да Віцебску. Такім чынам ён намерваўся загарадзіць шлях магчымаму маршу Хаванскага да Смаленску і перашкодзіць небясьпечнаму для каралеўскіх войскаў аб'яднаньню войскаў з Полацку з фармаваньнямі Даўгарукага. Можа быць, тады ці праз пару дзён для ўмацаваньня літоўскіх сілаў, што знаходзіліся там, ён паслаў таксама ў напрамку Віцебску 500-асабовы полк Самуля Кміціча, які стаў у Чарэі і адтуль рабіў больш далёкія выправы. Нарэшце да гетмана пачала прыходзіць канкрэтная і дакладная інфармацыя ад Палубінскага пра сілы і крокі Даўгарукага. Яны выразна ўказвалі на тое, што ў хуткім часе моцная маскоўская армія гэтага вайскаводцы вырушыць на войскі Сапегі і Чарнецкага. Праўдападобна, палявы пісар меў намер весьці больш энэргічныя дзеяньні супраць царскіх войскаў, якія яшчэ зьбіраліся, і дзеля гэтага прасіў Сапегу даслаць яму падмацаваньні. Напэўна, у гетмана не засталося занадта шмат сілаў, таму ён не хацеў пасылаць да Палубінскага ў якасьці падтрымкі полк Самуля Кміціча. Затое ён прасіў падчас нарады Чарнецкага, каб ён адправіў да Палубінскага пяць каронных харугваў. Аднак рускі ваявода абсалютна не хацеў з гэтым згаджацца, што Сапега ўзяў вельмі блізка да сэрца, скардзячыся палявому пісару, што рускі ваявода зрабіў насуперак публічнаму дабру[82].

Стасункі паміж абодвума вайскаводцамі складаліся блага. Таму, калі не было патрэбы, яны не супрацоўнічалі паміж сабой. Сапега як найвышэйшы вайскаводца ў Літве ня мог цярпець праяваў незалежнасьці Чарнецкага. А рускі ваявода наракаў, што ліцьвіны ня вельмі зважаюць на ягоныя парады і заклікаюць да супрацоўніцтва толькі тады, калі патрэбная дапамога кароннай дывізіі. Факт сваркі абодвух вайскаводцаў і выкліканага гэтым слабога супрацоўніцтва ня быў ніякай таямніцай ня толькі для жаўнераў, але і для шырокіх колаў назіральнікаў у глыбі Рэчы Паспалітай[83]. На пазыцыю Чарнецкага ў той час маглі ўплываць розныя неспрыяльныя для яго падзеі. Ужо на пачатку кампаніі ён прасіў караля прыслаць яму татарскія падмацаваньні. Не атрымаў іх. Затое ягоную дывізію пакінула добрая казацкая харугва брацянскага старасты Адама Дзялынскага. У той час ён браў удзел у змаганьнях ва Ўкраіне пад камандаваньнем вялікага кароннага маршалка Юр'я Любамірскага і паклікаў сваю харугву ісьці ў тамтэйшы тэатар змаганьняў з Масквой і казакамі. Гэта была балючая страта для ня надта шматлікай дывізіі Чарнецкага, якая павінна была сутыкнуцца з магутным непрыяцелем. Ягоныя рэзка напісаныя лісты з пратэстамі нічога не далі. Найбольш шкада было Чарнецкаму адпускаць здольнага афіцэра Аляксандра Паляноўскага — паручніка гэтай харугвы[84].

Тым часам Палубінскі сам добра ваяваў на Смаленшчыне і ў раёне Ельні. Пад канец жніўня ён стаў са сваім аддзелам у Дасухаве, што каля 50 км на паўднёвы захад ад Смаленску. Адтуль пасылаў меншыя групы жаўнераў, якія ў напрамку Смаленску шырока пранікалі ў ваколіцы. Гэтыя раёны ў параўнаньні зь землямі на Бярэзіне і беларускім адрэзку Дняпра былі адносна мала спустошаныя. У той час тут не было значных маскоўскіх войскаў, таму, акрамя назіраньня за праціўнікам, яны дастаткова беспакарана забіралі зь вёсак і мястэчкаў каштоўныя харчы і коні. Усё гэта

[82] Гл.: Listy Sapiehy do Połubińskiego z obozu pod Mohylewem z 25, 26, 31 VIII i 3 IX 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/IV. S. 71—89; AMG. T. III. № 163. S. 146; № 186/1. S. 166; № 188/1. S. 174.

[83] K. Dobkiewicz do B. Radziwiłła, Królewiec 24 VIII 1660. Тамсама. № 3089. Cz. I. S. 44; J. Mierzeński do B. Radziwiłła, Królewiec 28 IX 1660. Тамсама. № 9646/II. S. 102; B. Olszewski do B. Radziwiłła, Kiersnowo 28 VII 1660. Тамсама. № 10816/I. S. 163.

[84] M. Prażmowski do J. Lubomirskiego, Sambor 4 X 1660. BPAN Kr. 1065. S. 25; Pasek. S. 145—146.

адвозілася ў лягер у Дасухаве разам з больш каштоўнымі палоннымі, якія давалі патрэбную інфармацыю пра перамяшчэньні войскаў праціўніка. Так адбылося, між іншым, у разьмешчаным прыблізна за 25 км на захад ад Смаленску мястэчку Катыні і навакольных вёсках, у якіх літоўскі аддзел забраў усе харчы, быдла і коней. У апошні дзень жніўня менавіта жаўнеры Палубінскага падабраліся пад Смаленск, выкраўшы ў расейцаў коней і ўзяўшы ў палон некалькі маскоўскіх жаўнераў. Крыху раней яны дайшлі ажно да ваколіц Дарагабужу. Весткі пра ўчынкі жаўнераў Палубінскага пачуліся нават у аддаленым Ржэве і Белай, выклікаючы там панічныя настроі. Занепакоіла гэта і Аляксея Міхайлавіча, які выдаў граматы да тых гарадоў з наказам рамантаваць умацаваньні, зьбіраць правіянт і быць чуйнымі. А Даўгарукаму даручыў пакінуць у Дарагабужы для залогі некалькі соцень жаўнераў[85].

У лягеры ў Дасухаве палявы пісар стаяў амаль месяц. Можа быць, ён чакаў там падмацаваньняў, якія дазволілі б яму сутыкнуцца зь ящчэ не такім шматлікім непрыяцелем, які надыходзіў. Прыбыўшы ў Смаленск, Даўгарукі быў вымушаны распачаць канкрэтныя дзеяньні супраць такога блізкага праціўніка. 5 верасьня ён паслаў ваяводу Восіпа Іванавіча Сукіна з 6 тыс. жаўнераў, якія рушылі супраць літоўскага лягеру. На другі дзень іх засьпела зьнянацку навіна, што на дапамогу Палубінскаму ідзе Чарнецкі. Атрымаўшы яе, асьцярожны Даўгарукі адправіў разьезд, які прывёў нейкага селяніна, што раней быў у руках Палубінскага. Палонны, якога прыпальвалі агнём, на гэты раз расейцы, прызнаўся, што палявы пісар адышоў недалёка ад Дасухава і спыніўся ў ўмацаваным месцы, каб чакаць Чарнецкага. А той са шматлікім войскам выйшаў да яго з-пад Магілёва і стаў у вёсцы Зьверавічы, што амаль за 100 км на паўночны ўсход ад кароннага лягеру, але ўжо ня так далёка ад лягеру палявога пісара. Тады моцна занепакоены Даўгарукі вярнуў Сукіна назад у свой лягер, бо ня мог дапамагчы ягоным войскам у выпадку сутычкі зь ліцьвінамі і палякамі. Чарговыя разьезды прынесьлі каля 10 верасьня іншыя зьвесткі. Найбольш верагодныя былі атрыманыя ад вайскоўцаў і чэлядзі з аддзелаў Палубінскага, якіх злавілі падчас пошуку правіянту па смаленскіх паселішчах. Аказалася, што Чарнецкі ўвесь час стаяў разам з Сапегам пад Магілёвам, ня робячы ніякіх штурмаў. А вось наконт сілы корпусу Палубінскага царскі вайскаводца ня мог зарыентавацца. Ён даведаўся, што з палявым пісарам мусіла быць ажно 5—6 тыс. жаўнераў, хоць згадвалася і сапраўдная лічба, пададзеная літоўскімі палоннымі — 3 тыс. Пры ім нібыта былі такія афіцэры, як Агінскі (можа, Марцыян Аляксандар), Юры Пётар Вяжэвіч, Крыштап Статкевіч і Стэфан Русецкі. Ён даведаўся таксама, што ў лягеры Палубінскага не чакалі дапамогі Чарнецкага, затое разьлічвалі на прыбыцьцё жамойцкай дывізіі Міхала Паца, якая, паводле сьведчаньняў палонных, налічвала 4 тыс. чалавек. Яна стаяла ў Воршы і ўжо перапраўлялася праз Дняпро[86]. Намаляваная карціна дастаткова моцнага праціўніка і маса цяжкасьцяў са зборам свайго войска і яго забесьпячэньнем яшчэ доўга прымушалі Даўгарукага вельмі асьцярожна паводзіць сябе ў дачыненьні да Палубінскага, які там лютаваў. Ён рушыў у яго напрамку толькі тады, калі выйшаў са Смаленску ўжо з усёй арміяй супраць галоўных польска-літоўскіх сілаў.

У той час, калі Палубінскі ішоў да Смаленшчыны, Сапега з-пад Магілёва паслаў ва ўсходнім кірунку пад Мсьціслаў і Крычаў, якія знаходзяцца на адлегласьці 100 км, палкоўніка Станіслава Ліпніцкага з палком коньніцы і пяхоты колькасьцю 800 чалавек. Ён зьявіўся пад Мсьціславам уначы 26 жніўня. Горад абараняла маскоўская залога на чале з Савам Аўчыным. Праз тыдзень аблогі мсьціслаўская шляхта і мяшчане запатрабавалі ад камандзіра, каб той здаўся ліцьвінам. Упартага Аўчына

[85] AMG. T. III. № 149. S. 135; № 152. S. 137.
[86] AMG. T. III. № 154. S. 138; № 162. S. 144—146.

хацелі зьвязаць і разам зь яго жаўнерамі аддаць Ліпніцкаму. У выніку ў яго забралі ключы ад гарадзкіх брамаў і ўпусьцілі ліцьвінаў. Яны ўвайшлі ў горад 2 верасьня. Жаўнераў з залогі выпусьцілі разам са зброяй. Жаўнеры Ліпніцкага адвялі іх да ракі Сож, а далей тыя самі павінны былі пайсьці да Рослава. Аднак мсьціслаўскія мяшчане і людзі з ваколічных вёсак не намерваліся так лёгка адпусьціць маскалёў. Напэўна, яны добра памяталі пра зьверствы царскіх жаўнераў, учыненыя на гэтых землях падчас падаўленьня паўстаньня Івана Нячая, у якім брала ўдзел шмат мсьціслаўцаў. Яны затаіліся на людзей Аўчына ў лясах за Сожам. Заатакавалі іх на вузкіх лясных дарогах, страляючы з абодвух бакоў. Баі вяліся на плошчы некалькіх дзясяткаў кілямэтраў. Удалося забіць 57 царскіх жаўнераў і самога Аўчына. Да Рослава дайшоў 161 чалавек з залогі, у тым ліку 28 параненых. Яны, праз пару дзён уцякаючы з Крычава, прынесьлі навіну, што наступнай мэтай войскаў Ліпніцкага будзе Рослаў.

Можа быць, Ліпніцкі і насамрэч плянаваў далейшы марш на Рослаў, але перш чым ён рушыў у тым напрамку, да ліцьвінаў, што стаялі пад Мсьціславам, прыехала шляхта з аддаленага на 30 км Крычава. Абяцалі, што, як толькі ліцьвіны падыдуць пад гэты горад, жыхары адразу аддадуць яго блізкім літоўскім войскам. Ліпніцкага ня трэба было доўга пераконваць, і 4 верасьня ўночы ён падышоў пад Крычаў. Засьпець залогу зьнянацку не ўдалося, паколькі пад горадам адбылася жорсткая перастрэлка. Урэшце, прымушаная пазыцыяй мяшчан, маскоўская залога здалася. У тых раёнах Ліпніцкі заставаўся некалькі дзён. Заняўшы Крычаў, ён зноў пачаў плянаваць атаку на Рослаў, але не пасьпеў ажыцьцявіць гэты намер, бо гетман Сапега пачаў заклікаць яго вяртацца ў Магілёў. Сыходзячы адтуль, Ліпніцкі пакінуў у Крычаве літоўскую залогу[87].

Полк Ліпніцкага ня быў занадта шматлікі, але такія далёкія дзеяньні ён мог праводзіць, абапіраючыся на пацьверджаны факт слабасьці маскоўскіх сілаў на землях Мсьціслаўскага ваяводзтва. У тых раёнах ён мог таксама разьлічваць на падтрымку аддзелаў Самуля Аскіркі, Дзяніса Мурашкі і іншых добраахвотніцкіх фармаваньняў, якія ў той час дзейнічалі там. Раней яны доўгі час знаходзіліся ў ваколіцах Слуцку, пэўным чынам ахоўваючы гэты горад і разам з тым рабуючы ўладаньні Багуслава Радзівіла. Пасьля разгрому Хаванскага князь, маючы досыць такога цяжкага суседзтва войскаў, дамагаўся каралеўскіх і гетманскіх унівэрсалаў, каб пазбыцца ад іх там[88]. Такія задачы далі відавочны плён, паколькі гэтыя аддзелы перайшлі далей на ўсход і, магчыма, неяк узаемадзейнічалі з палком Ліпніцкага. Тэрыторыя дзеяньняў Аскіркі і Мурашкі разьмяшчалася далей на поўдзень. Пад канец жніўня лягер гэтых войскаў знаходзіўся ў Жлобіне на Дняпры, а іх аддзелы дайшлі далей на ўсход да ракі Сож і занялі разьмешчаны над ёй Чачэрск. Відавочным для ўсіх фактам была адчувальная пагроза з боку Чарнігаўшчыны, і несумненным заданьнем Аскіркі і Мурашкі была абарона паўднёвага крыла каралеўскіх войскаў ад атакі казацкіх палкоў, якія стаялі на баку Масквы. Асаблівай адданасьцю сярод казацкіх камандзіраў адзначаўся нежынскі палкоўнік Васіль Залатарэнка. Ён нястомна заяўляў цару і Юр'ю Даўгарукаму пра гатовасьць сваіх войскаў да маршу супраць ліцьвінаў і палякаў, так як за пару месяцаў да гэтага прыбыў у ваколіцы Бабруйску, каб падтрымаць Хаванскага. Цяпер ён атрымаў ад цара і гетмана Юр'я Хмяльніцкага загад на марш і 1 жніўня, як паведамляў у Смаленск, вырушыў зь Нежыну з гарматамі і нежынскім, чарнігаўскім, ста-

[87] Merita Jmp. Stanisława z Lipnik Lipnickiego... VUB. Fond. 3. № 89. K. 345; AMG. T. III. № 164. S. 147—148; № 173. S. 154.

[88] B. Radziwiłł do J. Mierzeńskiego, Berlin 2 VII 1660. AGAD. AR. Dz. IV, T. 4. Kop. 51. № 158. S. 17; таксама ліст ад 15 VII. Тамсама. № 159. S. 19.

радубскім палкамі і іншымі жаўнерамі на Літву. 5 жніўня ён быў ужо ў Салтыковай Дзявіцы і адтуль пытаўся ў Даўгарукага, куды яму скіравацца з прыведзенымі людзьмі. Атрымаў адказ, каб ішоў праз Гомель на Магілёў і Шклоў. Злучыцца з войскам, якое ішло са Смаленску, ён павінен быў паміж гэтымі двума апошнімі гарадамі. Царскі вайскаводца казаў яму, што супольнымі сіламі яны ўдараць на каралеўскія войскі[89]. Аднак Залатарэнка не сьпяшаўся і вельмі павольна прасоўваўся на поўнач. Праходжаньне шляху з Чачэрску да Жлобіну, што напрасткі складае каля 230 км, заняло яму амаль месяц. Калі ў пачатку верасьня ягоныя аддзелы на чале з палкоўнікам Гурскім нарэшце прыйшлі туды, ім удалося засьпець людзей Аскіркі і Мурашкі. Казакі разьбілі абодвух ліцьвінаў, асадзілі Чачэрск і здабылі іх лягер у Жлобіне разам са складзенай там маёмасьцю жаўнераў і ўсёй назьбіранай імі здабычай. Войскі Залатарэнкі разьмясьціліся потым у тых ваколіцах, чакаючы далейшых рухаў маскоўскіх аддзелаў. Пры неабходнасьці яны маглі там карыстацца прыкрыцьцём царскіх гарнізонаў у Старым Быхаве і ў Гомелі. Разьбітыя аддзелы Аскіркі і Мурашкі адступілі да галоўных літоўскіх і каронных сілаў, якія стаялі пад Магілёвам. Зьяўленьне ў гэтых ваколіцах шматлікіх казацкіх войскаў зноў адчулі жыхары літоўскага Палесься. Для іх распачаўся чарговы пэрыяд узмоцненых спусташальных наездаў, якія дасягалі нават блізкіх ад Слуцку раёнаў[90].

Набліжэньне ў напрамку каралеўскіх пазыцыяў моцнай арміі Даўгарукага перастала зь верасьня быць нейкай таямніцай. Ужо 20 верасьня пра гэта даведаліся і ў асаджаным Магілёве. Пачуўшы гэту навіну, маскоўская залога пачала на віват магутна залпаваць з гармат і ручной зброі. Новыя весткі натхнілі вялікай надзеяй тую частку жыхароў, якая жадала застацца на баку цара. Іх стаўленьне ў дачыненьні да абложнікаў стала вельмі жорсткім. Магілёўцы паабяцалі, што калі тыя здолеюць перамагчы блізкага Даўгарукага, то яны самі здадуць каралю Магілёў. Нават жартавалі з каралеўскіх вайскаводцаў, якія стаялі пад горадам, дзякуючы ім за спаленьне прадмесьця. Ім тлумачылі, што гэта толькі адбіла ахвоту ў жыхароў гэтай часткі гораду здацца, бо ўласна дзеля сваіх дамоў яны былі моцна схільныя капітуляваць перад палякамі і ліцьвінамі. Аднак як на польска-літоўскім, так і на маскоўскім баках добра разумелі, што рэальныя настроі ўнутры фартыфікацый і лёс гораду ў вялікай ступені вырашыць блізкая бітва праціўнікаў. Было вядома, што вялізная частка магілёўскіх мяшчан чакае яе выніку, у залежнасьці ад якога яны стануць на той ці іншы бок[91].

Варожыя войскі, якія падцягваліся з трох напрамкаў, прымушалі Сапегу і Чарнецкага прыняць рашэньне наконт канцэнтрацыі сваіх аддзелаў. Пасьля атрыманьня чарговых папярэджаньняў ад Палубінскага наконт арміі Даўгарукага Сапега накіраваў 3 верасьня ліст да Паца, які стаў пад Воршай, каб ён не перапраўляўся там праз Дняпро, але скіраваўся да галоўнага лягеру пад Магілёў. Гетман, напэўна, меў намер сканцэнтраваць як мага больш сваіх сілаў пад гэтым горадам і зь імі, як пісаў Палубінскаму, выйсьці насупраць Даўгарукага, калі б той пачаў наступаць на войскі палявога пісара. Праз тры дні ён паслаў яму ліст, каб той вяртаўся разам са сваімі людзьмі. Сказаў таксама, што на наступны дзень сам будзе перапраўляцца праз Дняпро і адправіцца да ракі Басі, дзе войскі стануць лягерам. Гэта было выклікана атрыманьнем зь іншай крыніцы інфармацыі пра тое, што Даўгарукі выйшаў са Смаленску да Крас-

[89] AMG. T. III. № 148/1 i 2. S. 134—135.

[90] AMG. T. III. № 148/2. S. 134—135; № 171. S. 152; № 186/1. S. 165; K. Zwiartowski do J. Mierzecskiego, z Ostaszyna 10 IX 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 18836. S. 88.

[91] M. Prażmowski do J. Lubomirskiego, Sambor 4 X 1660. BPAN Kr. 1065. S. 25; AMG. T. III. № 186/1. S. 165—167; Łoś. S. 98.

нага. 8 верасьня Сапега зьмяніў думку, паколькі да палявога пісара прыйшоў ліст з данясеньнем, што маскоўская армія надалей стаіць у Смаленску. Тады прасіў яго, каб застаўся яшчэ нейкі час у лягеры пад Дасухавам і назіраў за дзеяньнямі ворага, а сам гетман пачакаў з маршам на Басю.

Адначасова Сапега паведамляў палявому пісару пра нарастаньне цяжкасьцяў у войску. Надалей заставаліся нявырашанымі самыя розныя праблемы, якія напластоўваліся за гады вайны, у тым ліку самая сур'ёзная справа запазычанага жолду. Дзяржаўны скарб быў пусты, край зруйнаваны, шляхта не хацела і часта ня мела з чаго плаціць зацьверджаныя падаткі, а няспраўная скарбовая сыстэма не магла справіцца зь іх хуткім спагнаньнем. Нічым не дапамог летам 1660 г. абавязак зьяўляцца на цяжкія паспалітыя рушаньні, якім Ян Казімер запалохваў шляхецкую супольнасьць. Выразна паказаны ва ўнівэрсалах цяжары будучых змаганьняў і неабходнасьць добрага забесьпячэньня паспалітакаў, якія ідуць на вайну, павінны былі схіліць шляхту ўхваліць падаткі ўзамен за іх малакаштоўную ў вайсковым пляне службу. Соймікі аказаліся нячулымі да каралеўскіх заклікаў і намёкаў і не прынялі ніякіх пастановаў ні ў справе падаткаў, ні ў справе паспалітага рушаньня. Таму давялося схапіцца за прынятыя на радзе сэнату надзвычайныя падаткі. Накладаліся і павышаліся акцызы, прызначалі чопавыя, калекты, якія абцяжарвалі таксама царкоўную маёмасьць. Зьяўленьня грошай з тых крыніц трэба было чакаць даставкова доўга, дый і зьяўляліся яны ў значна меншай колькасьці, чым меркавалася[92]. Усё гэта адбівалася на жаўнерскай зарплаце і перад канцом кожнай чвэрці напружвала і так ужо нядобрыя настроі, якія панавалі ў войску. Прыкметы гэтага зьяўляліся таксама пад Барысавам і Магілёвам, і ўжо, пераходзячы ў ліпені Бярэзіну, Сапега скардзіўся, што жаўнеры ня маюць ахвоты далей служыць і думаюць разьехацца[93]. Чарговая чвэрць сканчалася ў войску 9 жніўня, і за нейкі час да гэтай даты гетман пасылаў да караля лісты з гарачай просьбай «схіліць» войска, выдатна разумеючы немагчымасьць урэгуляваць справу платы. Жаўнеры надалей наракалі на адсутнасьць жолду. Пад канец чэрвеня яны адправілі ў гэтай справе свайго пасла да караля. Тым часам 30 чэрвеня рада сэнату ў Варшаве вызначыла выплату войску 200 тыс. зл., але фантамі. У выніку жаўнеры згадзіліся з гэтым, аднак запатрабавалі, каб іх кошт быў такі, за які іх на месцы маглі купіць. З гэтым не згадзіўся кароль і павысіў цану фантаў, растлумачыўшы, што трэба дадаць прыбытак купцоў, якія задарма ня будуць дастаўляць іх здалёк. А ад Сапегі запатрабаваў, каб ён даў добры прыклад і першы згадзіўся на вызначаную цану фантаў. Таму зусім ня дзіўна, што войска адчула сябе ашуканым махінацыямі двара, што паглыбляла і так непрыязнае стаўленьне да далейшай службы. Пры гэтым жаўнеры ўказвалі на шырока вядомую праблему, што пры адсутнасьці наяўных грошай яны ня ў стане аднавіць зьнішчаны за доўгія змаганьні баявы рыштунак, купіць харчы ці таксама набыць новых добрых коней[94].

Іншы цэлы комплекс праблемаў, якія пагаршалі атмасфэру сярод вайскаводцаў, датычыў розных канцэпцыяў дзеяньня супраць Масквы. Гетман быў прыхільнікам змаганьня з маскоўскімі войскамі на землях Вялікага Княства Літоўскага. Яго злавалі прыхільнікі пераносеньня ваенных дзеяньняў аж на зямлю непрыяцеля, якія,

[92] List Króla Jmci Jana Kazimierza na Sejmiki o podatki bez Sejmu pospolitym ruszeniem strasząc, 11 VII 1660. BCzart. 154. S. 467—469; Wimmer J. Wojsko polskie w drugiej połowie XVII wieku. Warszawa, 1965. S. 127.

[93] M. Prażmowski do J. Lubomirskiego, Warszawa 21 VII 1660. BPANKr. 1065. S. 91.

[94] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Warszawa 3 VII 1660. LvNB. F. 103. № 1750; Rachuba A. Konfederacja Kmicicowska... S. 82—83.

на думку гетмана, дзеля рэалізацыі тых намераў былі гатовыя нават пакінуць літоўскія землі на волю непрыяцеля. Пры гэтым ён указваў на ўсё большую стомленасьць і слабасьць войскаў і дамагаўся падмацаваньняў. Пераконваў у немагчымасьці такіх далёкіх наступальных дзеяньняў самога караля, які меў супрацьлеглае меркаваньне. Усім гэтым занялася ў Самбары рада сэнату і Ян Казімер. Зь яе літоўскаму гетману далі пераканаўчы адказ, што ніякіх падмацаваньняў у Літву паслана ня будзе, бо ўсе войскі пайшлі ва Ўкраіну з Патоцкім і Любамірскім. Аднак гетману сказалі, што прыкладзены намаганьні, каб атрымаць ад брандэнбурскага электара паўтары тысячы пяхоты, якія на падставе вяляўска-быдгоскіх пагадненьняў ён павінен даваць на кожную вайну, якую вядзе Рэч Паспалітая. Гетману таксама параілі, каб ён сам паклапаціўся аб тым, каб схіліць войска застацца на службе. Паколькі пачала даходзіць інфармацыя пра зьяўленьне зь некалькіх бакоў новых маскоўскіх армій, часова былі адкладзеныя пляны ўваходжаньня з войскам на тэрытырыі непрыяцеля. Кароль адмаўляўся ад гэтага з прыкметным шкадаваньнем і злосьцю на гетмана, якога адкрыта абвінавціў, што пасьля такой цудоўнай перамогі пад Палонкай войска не было яшчэ стомленае і зруйнаванае і калі б Павел Сапега прыслухаўся тады да каралеўскіх парадаў, то разам з Чарнецкім яны даўно б увайшлі на землі непрыяцеля. А так ён змарнаваў нагоду і, ня маючы абсталяваньня для аблогі, траціў час пад беларускімі фартэцыямі. Пры тым сам абвінавачваў перад каралём Міхала Паца, якога не любіў, за тое, што ён упарта стаяў пад Вільняй[95]. Ужо дастаткова пасварыўшыся з дваром (узяць хоць бы далікатнае пытаньне ліквідацыі адасобленасьці жамойцкай дывізіі) і не атрымаўшы адмовы наконт падмацаваньня, Сапега мог зноў папракаць двор у незацікаўленасьці літоўскімі справамі. Акрамя нявыплаты жаўнерам жолду і іх незадавальненьня, гэта давала яму ў рукі чарговы важны аргумэнт супраць усякіх плянаў далёкага ўварваньня ў маскоўскія землі.

Тым часам настроі ў літоўскім войску пагаршаліся. Яшчэ да таго як Сапега атрымаў даручэньне рады сэнату самому заняцца перакананьнем войска, яно дало яму зразумець, што застанецца на службе да 30 верасьня. Цяжка сказаць, колькі было праўды ў інфармацыі пра гэтыя інцыдэнты, якую Сапега дасылаў каралю. Ва ўсякім разе навіна пра гэта выклікала вельмі нэрвовую рэакцыю Яна Казімера, які абураназаў, што яшчэ нядаўна тыя самыя жаўнеры абяцалі застацца на службе да часу поўнага міру ў айчыне. Кароль прасіў, каб Сапега пазбавіў войска гэтых намераў, рэальна ўказваючы, што зруйнаваная дашчэнту дзяржава, ведучы вайну, ня можа выканаць сваіх абавязаньняў перад жаўнерамі, пакуль яны сваімі намаганьнямі не забясьпечаць ёй мір. Аднак, каб часова супакоіць іх настроі, 5 верасьня на каралеўскім двары было вырашана ахвяраваць літоўскаму войску Лоеўскае і Любецкае стараствы. Большая частка даходаў зь іх абарачалася на патрэбы жаўнераў да канца іхняга жыцьця. Аднак праблема была ў тым, што пакуль што яны знаходзіліся на землях, цалкам занятых непрыяцелем[96]. Варта згадаць, што Рэч Паспалітая прыклала рэальныя намаганьні дабіцца ад Фрыдэрыка Вільгельма прускіх падмацаваньняў. Аднак гэтыя спробы былі асуджаныя на няўдачу. Як выразна згадваў пра гэта ягоны сваяк і намесьнік Княскай Прусіі, князь Багуслаў Радзівіл, пакуль спрэчная з Рэччу Паспалітай справа Эльблёнгу ня будзе вырашана згодна з жаданьнем электара, ня будзе гаворкі пра падмацаваньні. А што важнейшае, ён жадаў

[95] Гл.: Listy Sapiehy do Połubińskiego z obozu pod Mohylewem z 3, 5, 6, 8 IX 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/IV. S. 85—102; Senatus Consultum, Sambor 3 IX 1660, B. Czart. 401. S. 138—139; Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Sambor 27 IX 1660. LvNB. Fond 103. № 1756.

[96] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Sambor 18 IX 1660. BPAN Kr. 363. S. 69; RGADA, ML 134. K. 43—43v.

даваць іх супраць Масквы, бо меў зь ёй мірную дамову і не намерваўся ставіць яе пад пагрозу парушэньня[97].

Больш-менш у той самы час, што да Паца, Сапега паслаў заклік вярнуцца палкоўніку С. Ліпніцкаму. Ён прыбыў з-пад Крычава ў лягер, паколькі браў удзел у пазнейшых змаганьнях на Басі. Адыход ягоных войскаў цалкам адкрыў толькі што здабытыя землі Мсьціслаўскага ваяводзтва. З поўдня зноў рушыў Залатарэнка, які, паводле данясеньняў гетманскіх шпегаў, меў пад сабой 8 тыс. казакоў. З усходу распачаў дзеяньні ў гэтым напрамку царскі ваявода Максім Рцішчаў. Ён дзейнічаў у ваколіцах Крычава, блякуючы пакінутую там залогу. Скіроўваўся туды трохтысячны казацкі аддзел, ідучы на дапамогу гораду, паколькі казакі былі перакананыя, што ён надалей абараняецца ад Ліпніцкага. Рцішчаву не ўдалося тады здабыць Крычаў, але ён, напэўна, заняў Мсьціслаў. Падобны гетманскі наказ скіравацца ў галоўны лягер літоўскіх войскаў атрымалі, напэўна, Аскірка і Мурашка, жаўнеры якіх змагаліся пазьней на Басі і пільнавалі Магілёў. Вярнуўся ў лягер і адпраўлены раней пад Віцебск Самуль Кміціч[98].

Пад канец верасьня паміж Магілёвам і Шкловам пачалі канцэнтравацца каралеўскія войскі, паступова пераходзячы на другі бераг Дняпра. Ужо 12 верасьня перапраўлялася ў Шклове пад наглядам самога гетмана дывізія М. Паца, разьбіўшы лягер у Вуглах па рацэ Басі. Сапега загадаў ёй так рана перапраўіцца туды, паколькі, атрымаўшы апошнія весткі ад Палубінскага, быў вельмі занепакоены лёсам ягонага корпусу. Ён наказаў яму адступаць, а насустрач за Дняпро паслаў яму на дапамогу дывізію Паца. 26 верасьня прайшла па часовым мосьце дывізія Чарнецкага. Пакідаючы пазыцыі пад нездабытым Магілёвам, жаўнеры выслухоўвалі кпіны маскоўскай залогі і мяшчан, якія захоўвалі вернасьць цару. Спадзеючыся на блізкую армію Даўгарукага, яны абяцалі каралеўскім камандзірам, што, калі яны яе пераможуць, тады яны і самі здадуцца[99]. У той дзень да лягеру Паца падцягваўся Палубінскі, вяртаючыся з далёкай выправы. Гэтым ён вельмі ўзрадаваў жаўнераў жамойцкай дывізіі і падбадзёрыў іх перад блізкай сутычкай. Ім абодвум Сапега загадаў стаяць там, чакаючы надыходу Даўгарукага і адасланць усе вайсковыя вазы і багаж пад Шклоў. А Палубінскага выклікаў на нараду, якую меркавалася праводзіць з Чарнецкім. Пац і Палубінскі адразу пасьля аб'яднаньня сваіх сілаў паслалі ў напрамку, зь якога чакалася набліжэньне ворага, моцны разьезд. Ён натрапіў на маскоўскі разьезд. У праведзеным баі ўзялі ў палон царскага рэйтара. Той прызнаўся, што Даўгарукі паслаў наперадзе аддзел 2 тыс. жаўнераў і што ўся ягоная армія ўжо блізка. Таму неадкладна паслалі заклік Чарнецкаму і Сапегу, каб яны з астатнімі сіламі як мага хутчэй скіраваліся ў лягер пад Вуглямі[100].

У гэты час рэшту свайго войска перапраўіў праз Дняпро і літоўскі гетман, хоць некаторыя ягоныя адзінкі стаялі пад Магілёвам да 30 верасьня, сутыкаючыся там з залогай гораду. Пакідаючы пазыцыі пад валамі фартэцыі, яе блякаду даручылі прыбылым з поўдня аддзелам палкоўнікаў Самуля Аскіркі і Дзяніса Мурашкі. Гэта былі слабыя аддзелы, хутчэй малапрыдатныя для дзеяньня гэтага кшталту. Каб падчас змаганьняў з галоўнай маскоўскай арміяй пазьбегнуць небясьпечных складанасьцяў пад Магілёвам і пагрозы з боку моцнай царскай залогі, спачатку абодвум пал-

---

[97] B. Radziwiłł do J. Mierzeńskiego, Brunsberg 27 IX 1660. AGAD. AR. Dz. IV. T. 4. Kop. 51. № 165. S. 36; B. Radziwiłł do S. Oborskiego, Holland 17 X 1660. Тамсама. Dz. IVa (копіі), T. 1. Kop. 4. K. 375v.

[98] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, pod Mohylewem 27 IX 1660. Тамсама. Dz. V. № 13868/IV. S. 117; Aktikacja Attestaty należącey Ichm Panom Poniatowskim, wrzesień 1662 Kazań. LVIA, SA 2. K. 1220; AMG. T. III. № 186/1. S. 166; 187/3. S. 172.

[99] Łoś. S. 98.

[100] AMG. T. III. № 186/1—2. S. 165, 168.

коўнікам пакінулі для дапамогі 12 казацкіх харугваў і 600 драгуноў. Аднак адразу ў наступныя дні, можа быць, нават падчас першых баёў з Даўгарукім гэтыя войскі былі забраныя. А на пэўнай адлегласці ад Магілёва была пакінутая толькі нязначная частка людзей Мурашкі для назірання за горадам. А галоўнай іх мэтай была ахова дарагіх сэрцу жаўнераў пакінутых у Шклове багажоў[101].

Сапега і Чарнецкі ўжо ведалі, што армія Даўгарукага рушыць у іх напрамку і што павінна адбыцца вырашальная сутычка. Са Смаленску царскі вайскаводца пачаў выводзіць свае войскі 17 верасьня. У той дзень у бок Дасухава выруіпыў Восіп Сукін з загадам дзейнічаць супраць палякаў і ліцьвінаў і гэтым самым несьці дапамогу Магілёву. Праз дзень сам галоўны вайскаводца пайшоў у гэтым напрамку на Краснае. Ён лічыўся з магчымасьцю бітвы з Палубінскім. Палявы пісар, пачуўшы вестку пра марш расейцаў, адступіў з-пад Дасухава, дзе стаяў яшчэ 17 верасьня, і скіраваўся да галоўных польска-літоўскіх сілаў. Распачынаючы дзеяньні, Даўгарукі жадаў забясьпечыць сабе як мага большую падтрымку з боку згрупаваных царскіх войскаў, якія знаходзіліся б як мага бліжэй. З гэтай мэтай ён паслаў заклік, які прысьпешваў Хаванскага, каб той згодна з царскай граматай ішоў у напрамку Смаленску. У адказ на падобныя заклікі Даўгарукаму паведамлялі з царскага двара, што таксама ягонаму брату Пятру было загадана зьбіраць войска і ісьці на дапамогу, а таксама напісалі да Залатарэнкі, каб ён пасьпяшаўся са сваімі казакамі на падтрымку арміі Даўгарукага[102].

Гэтыя і іншыя дзеяньні царскага вайскаводцы досыць выразна сьведчылі пра тое, што ён рэальна ацэньваў праціўніка і баяўся сутычкі зь ім. Таму ён імкнуўся як мага лепш падрыхтавацца да гэтага і забясьпечыць сабе найвялікшую перавагу. У верасьні цар і Даўгарукі з усёй сілы заклікалі розных маскоўскіх і казацкіх вайскаводцаў зьбірацца каля арміі, якая мела ісьці да пазыцыяў Чарнецкага і Сапегі. Гэта магло прынесьці трагічныя наступствы каралеўскім войскам. Пераходзячы Дняпро ў кірунку Басі, яны яшчэ далей высоўваліся да арміі Даўгарукага, яшчэ больш ставячы тым самым пад пагрозу атакі свае крылы — з поўдня казакоў, а з поўначы войскаў Хаванскага. Калі б у адпаведны тэрмін удалося сканцэнтраваць каля пазыцыяў каралеўскіх вайскаводцаў тры арміі, якія павінны былі туды ісьці, іх супольная перавага над польска-літоўскімі войскамі была б вялікай. Таму ўсё залежала ад энэргічнасьці Хаванскага і Залатарэнкі, а лёс змаганьня Рэчы Паспалітай і Масквы, як ніколі, быў на гэты раз у іх руках.

---

101 Poczobut Odlanicki. S. 139—140; Łoś. S. 98; Skorobohaty. S. 83—84; AMG. № 186/1. S. 165—166; № 186/2. S. 169.

102 Chrapowicki. S. 262; AMG. T. III. № 173. S. 153—154.



**Жаўнер нямецкай пяхоты.**

# XI. З Жамойці на Басю. Дзеяньні дывізіі Міхала Казімера Паца

Пасьля адыходу ў канцы студзеня 1660 г. войскаў Палубінскага з Курляндыі там засталіся харугвы дывізіі левага крыла. Яе аддзелы на працягу нейкага часу надалей блякавалі швэдзкую залогу ў Боўску. Яшчэ ў лютым Міхал Казімер Пац, які камандаваў там, плянаваў нейкія сур'ёзныя дзеяньні супраць гэтай апошняй швэдзкай фартэцыі ў гэтай правінцыі. Ён якраз атрымаў ад Нашчокіна пацьверджаньне заключанага ў папярэднім годзе *armistitium*, што дазваляла яму не баяцца пагрозы з боку маскоўскіх войскаў з Чадосаў ці зь Дзьвіны. Затое яму нехапала гармат, амуніцыі да іх, а таксама дасьведчаных артылерыстаў. Апошніх не хапала настолькі, што не ўдалося выкарыстаць гармат і мартыраў, атрыманых зь Біржаў. Недасьведчаныя артылерысты ня ведалі, як патрапіць у Боўскі замак, і ў выніку гэтага шмат снарадаў наогул не далятала да яго ці пралятала міма. Таму яму давялося паўторна выпрошваць у Біржах у маёра Карліка асадных гармат. Пры гэтым прасіў пасьпяшаць, *«бо зручны час скарачаецца»*. Ён ведаў, што хутка настане разводзьдзе, якое заўсёды ўскладняла ўсякія ваенныя дзеяньні. А перш за ўсё, напэўна, Паца хвалявала, што яму ня будзе дадзена завяршыць такой доўгай блякады гэтай крэпасьці канчатковым посьпехам. Іншай, хіба самай сур'ёзнай праблемай была вельмі дрэнная атмасфэра ў войску. Да добрай службы не схілялі жаўнераў убачаныя імі сваркі, у якіх удзельнічалі іх вайскаводцы, а нярэдка і яны самі. Новы рэгімэнтар М. Пац ня меў аўтарытэту ў жамойцкай дывізіі. У выніку гэтага войска страчвала сваю баяздольнасьць і думала не пра вядзеньне вайны, а пра тое, дзе знайсьці харчы і як найпрыемней правесьці час у лягеры. Іх чэлядзь разьбягалася па ваколіцы, становячыся жахам для змардаваных жыхароў. Ніякія скаргі не прыносілі выніку, Пац няшмат мог зрабіць, *«пакольні вялікая ў войску нязгода. Ня толькі рэгімэнтара, але таксама ані караля Ягамосьці слухаць ня хочуць, кожны ў свой бок, на зьдзірства ўсе разам скіраваліся. Пяхота і драгуны паміраюць з голаду, а гусары і казакі банкетуюць, віна ўдосталь і здабычы»*, — пісаў 4 лютага пра стан жамойцкага войска князю Багуславу ягоны маёр зь Біржаў. Голад даваўся ў знакі асабліва пяхоце і драгунам. Урэшце дайшло да таго, што жаўнеры з гэтых фармаваньняў пачалі ўцякаць нават да швэдаў, якія трымалі Боўскі замак[1].

Нягледзячы на ўсе гэтыя цяжкасьці, Пац рабіў крокі, каб блякада Боўску скончылася пасьпяхова. Аднак, насуперак усім стараньням, да сур'ёзных змаганьняў пад Боўскам не дайшло. Згасаньне змаганьняў паміж Швэцыяй і Рэччу Паспалітай, а таксама стомленасьць літоўскіх жаўнераў і падзеньне іх дысцыпліны, а значыць, і баяздольнасьці прывялі да таго, што вясной 1660 г. харугвы дывізіі левага крыла былі разьмешчаны іх камандзірам, літоўскім абозным Міхалам Казімерам Пацам, на кватэрах, таму іх дзеяньні зводзіліся ў прынцыпе да назіраньня за войскамі праціўніка. Войскі атрымлівалі прызначаныя харчы, але ўжо ў красавіку стараліся не ўваходзіць па іх у заняты Масквой Браслаўскі павет і іншыя, бліжэйшыя да Дзьвіны. У гэты момант яшчэ баяліся парушыць заключанае зь ёй *armistitium* і справакаваць магчымую атаку царскіх войскаў зь Дзьвіны[2]. Затое без асаблівых згрызотаў сумленьня рабавалі шляхецкую, царкоўную і каралеўскую маёмасьць у пошуках харчоў, што выклікала лявіну скаргаў жамойцкай шляхты на афіцэраў, жаўнераў і іх чэлядзь.

[1] M.K. Pac do K. Karlicka, z Bowska 11 II 1660. BPAN Kr. 4027. K. 65v; таксама ліст ад 12 II 1660. K. 66; гл. карэспандэнцыю К. Карліка за люты 1660 г.: BPAN Kr. 4011. K. 33—44.

[2] K. Pac do M.K. Paca, Gdańsk 15 IV 1660. BCzart. 418. S. 146; K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 11 III 1660. BPAN Kr. 4011. K. 45.

Разам зь яўным набліжэньнем канца вайны са швэдамі каралеўскі двор праводзіў інтэнсіўную падрыхтоўку да распачацьця дзеяньняў супраць Масквы. Гэта не абмінула моцнай жамойцкай дывізіі. Хоць вясной галоўныя ваенныя дзеяньні вяліся на Наваградчыне, аднак у Жамойці надалей баяліся войскаў Нашчокіна, што сталі на Дзьвіне, ці іншых маскоўскіх вайскаводцаў. Іншай сталай пагрозай былі моцныя царскія залогі ў Вільні і Коўне, якія неаднаразова рабілі зьнішчальныя вылазкі ў кірунку жамойцкіх паветаў. Гэтым і тлумачыцца няспынны ўдзел шляхты гэтых зямель у шэрагах паспалітага рушаньня і яе заўсёдная гатовасьць па першым заклiку сядаць на каня. З прычыны слабой баяздольнасьці шляхецкіх паспалітакаў ім найчасьцей даручалася блякада варожых фартэцый і дарог, што да іх вялі. Іншай рэччу, якой чакалі ад гэтых незанятых ворагам паветаў, была няспынная дастаўка войску правіянту і грошай. У апошнія гады Жамойць мела вялізнае значэньне для войска. Як адзін зь незанятых літоўскіх абшараў яна была сапраўдным складам для харугваў. Інакш гэта даводзілася адчуваць жыхарам гэтага краю. Шляхецкая брацьця бурчала і абуралася на гэта, але ў асноўным давала жаўнерам падтрымку такога кшталту. Горш было зь яе жаданьнем служыць у паспалітым рушаньні. Шляхта станавілася неахвотнай да службы, а добрай адгаворкай была спасылка на рабункі з боку вайскоўцаў і іх чэлядзі, што чыніліся імі ў пошуках харчоў, а таму і неабходнасьць абароны сваіх уладаньняў, двароў і сем'яў ад іх. Гэтую адгаворку выкарысталі ў траўні 1660 г., каб апраўдаць адсутнасьць адказу на каралеўскі ўнівэрсал, які заклікаў на паспалітае рушаньне і да выхаду шляхты на поле супраць непрыяцеля[3]. Таму таксама дзеяньні ўдзельнікаў паспалітага рушаньня, нават звычайнае забесьпячэньня прыкрыцьця пад фартэцыямі, укамплектаванымі дасьведчанымі маскоўскімі залогамі, найчасьцей былі малаэфэктыўнымі. Ня раз яны заканчваліся вылазкай аддзелу з фартэцыі, разгонам паспалітакаў, спусташэньнем навакольных зямель і забіраньнем зь іх усякіх харчоў, такіх патрэбных асаджаным жаўнерам, каб даўжэй вытрываць.

У красавіку ўсё часьцей да войскаў Паца даходзілі зьвесткі пра набліжэньне шчасьлівага канца перамоваў са швэдамі. Адначасова даведваліся пра няўдачу перамоваў царскіх прадстаўнікоў са скандынавамі, што давала падставы спадзявацца нават на ўзьнікненьне саюзу са швэдамі супраць Масквы. Такі напрамак апошніх падзеяў разумелі таксама царскія камэнданты фартэцый, якія знаходзіліся паблізу Курляндыі і Жамойці. Яны добра ведалі, што заключэньне міру паміж Рэччу Паспалітай і Швэцыяй вызваліць у Курляндыі моцную жамойцкую дывізію, якая несумненна далучыцца да барацьбы з войскамі Хаванскага, што вядзецца ў Літве[4].

Заключэньне міру ў Аліве засьпела дывізію левага крыла ў Курляндыі і Жамойці. Змаганьні на швэдзкім фронце ў прынцыпе спыніліся ўжо раньняй вясной. Таму, перш чым дайшло да падпісаньня мірнага трактату, частка харугваў жамойцкай дывізіі, хоць бы ў выніку іх раскватараваньня, перасунулася бліжэй да ракі Сьвятой, якая лічылася мяжой захопленых Масквою зямель. Гэта вельмі непакоіла маскоўскіх ваяводаў у Вільні і Коўне, якія, ведаючы пра заключэньне міру Рэччу Паспалітай са Швэцыяй, спадзяваліся на хуткую атаку літоўскіх сілаў з Жамойці. Гэта станавілася яшчэ больш трывожным, паколькі расейцы добра ўсьведамлялі тое, што шляхта і мяшчане толькі чакаюць сыгналу, каб выступіць супраць царскіх жаўнераў. Магчымай атацы яны не маглі супрацьпаставіць занадта шматлікія гарнізоны, а да таго ж іх забесьпячэньне зброяй і харчамі пасьля няспынных высылак гэтых рэчаў пад Ляхав-

[3] K. Pac do M.K. Paca, Gdańsk 27 III 1660. BCzart. 416. S. 144—145; W.K. Mleczko, sędzia ziemski żmudzki do K.K. Paca, z Rosień 29 V 1660. BCzart. 413. S. 103.

[4] K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 7 IV 1660. BPAN Kr. 4011. K. 53—53v; ліст ад 27 V 1660. K. 59v.

ічы пакідала жадаць лепшага. Даслоўна штодня да цара пісаліся лісты з просьбамі дапамагчы. Вясной 1660 г. гэта мала да чаго прыдавалася, паколькі першынство мела армія Хаванскага і войскі, якія зьбіраліся ва Украіне.

З красавіка нарастаў ціск літоўскіх сілаў на землі паміж Нёмнам і ракой Сьвятой. Аддзелы, падначаленыя М.К. Пацу, безь ніякіх праблемаў перамяшчаліся ў любым напрамку. Увесь час назіралі за пачынаньнямі маскоўскіх камандзіраў у Вільні і Коўне. Не спускалі з вачэй і войскаў Нашчокіна на Дзьвіне і яшчэ ў красавіку баяліся атакі зь іхняга боку. З другога боку, разумеючы, што вырашальная сутычка з Масквою — гэта пытаньне найбліжэйшых месяцаў, на каралеўскім двары задумваліся над кірункам будучых дзеяньняў жамойцкай дывізіі. У красавіку зьявілася думка выкарыстаць іх супраць царскіх войскаў, якія стаялі на Дзьвіне, і адбіць іх нечаканай атакай Дзьвінск. З гэтай прычыны М.К. Пац павінен быў, захоўваючы ўсялякую асьцярожнасьць, зарыентавацца праз сваіх шпегаў у велічыні варожых сілаў у гэтым горадзе. Ён таксама распачаў падрыхтоўку да аблогі фартэцыі ў Чадосах і прасіў маёра Карліка, камандзіра залогі князя Багуслава Радзівіла ў Біржах, падтрымаць цяжкімі гарматамі і амуніцыяй для іх. Спадзеючыся на супрацу гэтага афіцэра, адначасова палохаў яго значнымі маскоўскімі сіламі, якія нібы зьбіраюцца для атакі на Жамойць. Карлік ня надта верыў у гэта і выкручваўся, як мог, ад гэтай чарговай адпраўкі ваеннага абсталяваньня ў літоўскі лягер[5]. Задумы выправіцца на Дзьвінск ці Чадосы хутка закінулі, а галоўная ўвага ліцьвінаў засяродзілася на землях вакол Вільні. Таму хутка непакой з прычыны маскоўскіх войскаў на Дзьвіне слабеў, а накіраваная на землі Віленскага ваяводзтва актыўнасьць літоўскіх войскаў узрастала. Кантроль над імі, за выключэньнем укамплектаваных залогамі гарадоў, выкоўзваўся з рук царскіх ваяводаў, а атрыманьне на іх правіянту станавілася ўсё цяжэйшым заданьнем. Праявай зьмены ў раскладзе сілаў стала атака харугваў Казімера Сясіцкага на Вільню і іх уварваньне ў гэты горад 9 траўня. Зьяўленьне пад імі большых рэгулярных літоўскіх сілаў было толькі пытаньнем часу. У сярэдзіне траўня да віленскага ваяводы, князя Мышэцкага, дайшлі зьвесткі, што жаўнеры Міхала Паца зьбіраюцца ў Жамойці, вакол Кейданаў, і пачынаюць будаваць пераправы на рацэ Сьвятой, якраз на дарозе, што вядзе ў Вільню. Залогі Вільні, Коўна ці разьмешчанай далей Горадні не глядзелі бязьдзейна, як нарастае пагроза. Яны пасылалі разьезды, нападалі на шляхецкія ўладаньні, спусташалі і зьнішчалі іх, забіраючы ўсякія харчы. Ня раз забівалі шляхту і сялянаў, а іх гаспадаркі пускалі з дымам. 19 чэрвеня нечаканы напад зьнішчыў мястэчка Даугі (Daugi). Маскоўскія жаўнеры забілі шмат людзей, а больш значных забралі ў вязьніцу. Паколькі зьніклі ўжо ўсякія ілюзіі перамоваў паміж Рэччу Паспалітай і Расеяй і распачаліся вырашальныя ваенныя дзеяньні, захопнікі адкінулі ўсякі сорам. Жорсткія дзеяньні павінны былі адпалохаць шляхту ад дапамогі літоўскім жаўнерам і, перш за ўсё, забясьпечыць маскоўскія залогі такім патрэбным падчас чаканай блякады правіянтам[6].

З сакавіка 1660 г. большасьць адзінак жамойцкай дывізіі ня ўдзельнічала ў баявых дзеяньнях. Аднак пэўная колькасьць аддзелаў, як напрыклад Сясіцкага, праводзіла дзеяньні супраць царскіх аддзелаў. У траўні на фоне падрыхтоўкі каралеўскага двара да пераходу ў наступ на ўсходнім фронце жамойцкай дывізіі далі заданьне далучыцца да войскаў Сапегі і Чарнецкага. Чарговы раз Пацу паслалі такія загады пасьля ваеннай нарады, праведзенай у Варшаве 6 чэрвеня. М.К. Пацу загадалі, каб

[5] K. Pac do M.K. Paca, Gdańsk 15 IV 1660. BCzart. 418. S. 145; M.K. Pac do B. Radziwiłła, b.m. 11 IV 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 11209/II. S. 16; M.K. Pac do K. Karlicka, w Medz. Mujzie 11 IV 1660. NGAB. Fond. 694. Op. 12. № 300. K. 11—11v; K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 20 IV 1660. BPAN Kr. 4011. K. 57.

[6] AMG. T. III. № 55/3. S. 62; Ks. Gr. Trocka 1660—1661. VUB. Fond 7—3/5957. K. 109—109v.

ён неадкладна сабраў войска ў адным месцы і быў гатовы да маршу пад Ляхавічы, дзе павінен быў злучыцца з войскамі, што ішлі з Падляшша. У Жамойці для абароны гэтых зямель ад непрыяцеля ён мусіў пакінуць 600 чалавек і склікаць жамойцкае паспалітае рушанье[7]. Выкананьне гэтага даручэньня праходзіла вельмі марудна. Шмат жаўнераў, якія паходзілі з Жамойці, адправіліся па сваіх дамах і потым цэлымі тыднямі сьцягваліся ў шэрагі. Меркаванае злучэньне з войскамі Паўла Сапегі не было даспадобы Міхалу Пацу. Паміж імі былі проста варожыя стасункі. Такія самыя пачуцьці мела да гетмана вялікая частка афіцэраў і жаўнераў дывізіі левага крыла. Было добра зразумела, што прыбыцьцё ў гетманскі лягер стане нагодай для спробаў Сапегі падпарадкаваць сабе войскі, прыбылыя з Жамойці. Таму, баючыся злучэньня з гетманам, М. Пац марудзіў, колькі мог, з маршам у ягоным кірунку. Да ўсіх гэтых цяжкасьцяў дадавалася вельмі складаная сытуацыя ў войску левага крыла. Пазыцыя Міхала Паца, які ўзначальваў яго з канца кастрычніка 1659 г., надалей не была трывалай. Сярод вайсковай старшыны поруч з варожымі да вялікага гетмана існавала вялікая група непрыхільных да Пацаў. Затое моцную падтрымку меў князь Багуслаў Радзівіл, да якога значную частку 1660 г. шматразова зьвярталіся афіцэры з просьбай перанясьць камандаваньне дывізіяй[8]. Аднак князь не намерваўся распачынаць на гэтай глебе канфлікт з Сапегам, Пацамі і каралём і ня выкарыстаў прапанаваных яму ў першыя месяцы 1660 г. запрашэньняў.

У такой цяжкай для сябе сытуацыі М. Пац атрымаў загады на марш пад Ляхавічы. Будучы яшчэ ў Курляндыі, ён выдаў 5 чэрвеня ўнівэрсал да жамойцкай шляхты, каб тая на чале са сваім харужым Янам Грушэўскім зьбіралася на паспалітае рушаньне. Каб яшчэ больш падштурхнуць яе да дзеяньня, ён напалохаў шляхецкую брацьцю, спасылаючыся на зборы маскоўскіх войскаў у Браслаўскім павеце і, адпаведна, пагрозу Жамойці. У рукі шляхты ён даручаў абарону яе зямель, паколькі сам са сваім войскам у найбліжэйшы час мусіў пакінуць іх. Для падтрымкі яе дзеяньняў даў дадаткова з жамойцкай дывізіі некалькі харугваў на чале зь вількамірскім харужым Казімерам Даўмонтам-Сясіцкім, разам 600 жаўнераў. Больш чым праз месяц ужо зь Вільні прасіў камэнданта залогі Багуслава Радзівіла ў Біржах падтрымаць гэтых жаўнераў порахам[9]. Рэшце войскаў прызначыў на 20 чэрвеня месца канцэнтрацыі пад Вількамірам, які знаходзіцца на рацэ Сьвятой[10]. Яны зьбіраліся паволі ў разьмешчаным побач Дзевялтове, а тым часам з Падляшша адпраўляўся наступ войскаў Чарнецкага і Сапегі. Адсутнасьць зьвестак пра адпраўленьне літоўскага абознага выклікала зьдзіўленьне і нарастаньне гневу на каралеўскім двары. У апошнія дні чэрвеня ў вількамірскі лягер даставілі ліст літоўскага канцлера К. Паца, у якім ён прасіў свайго сваяка нарэшце вырушыць з войскам. Тлумачыў яму, што злучэньне з Сапегам не прынясе шкодных вынікаў ні яму, ні тым афіцэрам і жаўнерам, якія баяцца гетмана. У той жа час асьцерагаў абознага, што калі ён ня рушыць з дапамогай, то Сапега ў выпадку паразы з Хаванскім зможа ўсю віну скінуць на паводзіны М. Паца. Таму раіў яму як мага хутчэй, нават самім камунікам, гэта значыць без абцяжараньня войска багажом, скіроўвацца да гетмана[11].

---

[7] K. Pac do M.K. Paca, Warszawa 30 V 1660. BCzart. 410. S. 25; ліст ад 20 VI. S. 81.

[8] Напрыклад, гл.: J. Rogucki do B. Radziwiłła, w Memlu 14 II 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 13181; гл. лісты С. Аборскага (S. Oborski) ад пачатку 1660 г.

[9] M.K. Pac do K. Karlicka, Wilno 20 VII 1660, NGAB. Fond 694. Op. 12. № 300. K. 13; K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 5 VIII 1660. BPAN Kr. 4011. K. 65.

[10] Uniwersał M.K. Paca do Xstwa Żmudzkiego na pospolite ruszenie, w Medz Mujzie 5 VI 1660. Ks. Gr. Żmudzka 1660. VUB. Fond 7—20/14472. K. 336—336v.

[11] K. Pac do M.K. Paca, Warszawa 20 VI 1660. BCzart. 410. S. 81—83.

Загад маршу да гетманскага лягеру і пад яго камандаваньнем абсалютна не выклікаў захапленьня ў жаўнераў Паца. Зноў зь вялікай моцай ажылі ўсе спрэчкі наконт Сапегі. Прыгадвалася, што за апошнія месяцы яго як галоўнага вайскаводцу ўжо парадкам настроілі супраць сябе. Зноў зьвярталася ўвага на магчымае прыняцьце камандаваньня дывізіяй князем Б. Радзівілам, які сваім аўтарытэтам мог бы захаваць яе ад непасрэднага падпарадкаваньня гетману. Гэтыя надзеі распальваў прысутны ў лягеры пад Вількамірам аддана слуга князя Стэфан Аборскі, якому было надзвычай важна, каб ягоны гаспадар заняў гэты чын. Ён заўважаў жахлівыя настроі войска: *«Увогуле цяпер усе як зваранія ходзяць і, як на сьмерць, так пад гэты гетманскі рэгімэнт ісьці ня хочуць»*. Ён паведамляў таксама пра жаданьне многіх вайскоўцаў пакінуць службу, калі Радзівіл ня прыме камандаваньня[12].

Далейшы націск з боку літоўскага канцлера і караля прывёў да таго, што Міхалу Пацу ўдалося схіліць жаўнераў выйсьці зь лягеру пад Вількамірам у бок непрыяцеля. Войска вырушыла 8 ліпеня. Аборскі, які прысутнічаў там у той час, з прызнаньнем выказваўся пра харугвы жамойцкай дывізіі. Ён падкрэсьліваў высокую ступень аднаўленьня пасьля апошніх змаганьняў, так што былі *«як здаўна харугвы бывальыя»*. Асабліва ягонае зьдзіўленьне выклікалі дзьве гусарскія харугвы, латнікі якіх уласным коштам прыдбалі ўласьцівае гэтым элітарным адзінкам узбраеньне[13]. Да адпраўкі ў лягер пад Дзевялтовам здолелі дайсьці весткі пра разгром арміі Хаванскага і рух войскаў Сапегі і Чарнецкага ў беларускія краі. Пац мог на нейкі час адчуць сябе вызваленым ад абавязку хутка аказаць падтрымку войскам, якія ішлі супраць гэтага царскага вайскаводцы. Да таго ж многія афіцэры пачалі марудзіць і выказаліся за неабходнасьць заняцца пакінутымі ў тыле фартэцыямі, укамплектаванымі маскоўскімі залогамі. Пры гэтым усе кешкаліся, наколькі магчыма. Аборскі, які інфармаваў пра ўсё Багуслава Радзівіла, паведамляў, што гэта рабілася, каб выйграць час, бо ўсё яшчэ была надзея на прыбыцьцё князя. За дзень да выйсьця зь лягеру войска склала ліст да абознага, які той паслаў разам са сваім лістом да караля. Мы ня ведаем яго зьместу, але, напэўна, у ім былі зьмешчаныя прэтэнзіі вайскоўцаў наконт маршу да беларускіх зямель. Па сутнасьці, гэта было вельмі на руку таксама неахвочаму да спатканьня з гетманам М. Пацу, які цяпер мог заўсёды прыкрыцца ад каралеўскага гневу супрацівам войска. Урэшце, замест таго, каб скіравацца проста за войскамі Сапегі і Чарнецкага, харугвы Паца пайшлі ў напрамку Вільні. Пасьля прыбыцьця туды шмат афіцэраў, жаўнераў і шляхты надалей чакала князя Багуслава, хоць надзеі на яго зьяўленьне ў войску паволі слабелі. Падобныя пачуцьці меў хіба і сам Міхал Пац, які зь нядаўняга часу стаў камандзірам дывізіі як рэгімэнтар. Здаецца, што на працягу значнага часу пасьля прыняцьця гэтай функцыі яна была для яго настолькі цяжкай, што ён ахвотна пазбавіўся б ад яе без асаблівага шкадаваньня. У той час ён няшмат атрымаў з канфліктаў, якія раздзіралі войска, і гульні, якую вёў каралеўскі двор і гетман Сапега. Прайсьці праз гэты цяжкі для яго пэрыяд канца 1659 і значнай часткі 1660 г. яму ўдалося ў вялізнай ступені дзякуючы рашучай падтрымцы, якую аказваў канцлер К. Пац і сам Ян Казімер, якія не хацелі бачыць на чале гэтай дывізіі нікога іншага[14].

Адлегласьць 70 км, якая аддзяляла лягер пад Вількамірам ад Вільні, была пройдзеная за пару дзён, і 11 ліпеня войска стаяла пад літоўскай сталіцай. Першыя аддзелы ўварваліся ў горад і занялі яго без вялікіх цяжкасьцяў. Адразу пад яго мурамі адсеклі галаву здрадніку Раману Аскірку, якога два месяцы таму схапілі ў Вільні людзі

[12] S. Oborski do B. Radziwiłła, w obozie pod Wiłkomierzem 3 VII 1660. VUB. Fond 4 (A—212). № 16669.
[13] Тамсама; Poczobut Odlanicki. S. 137.
[14] S. Oborski do B. Radziwiłła, b.m.d. (VII 1660). VUB. Fond 4 (A—212). № 16702; K. Pac do M.K. Paca, b.m. 17 VII 1660. BCzart. 413. S. 79.

Казімера Сясіцкага. Маскоўская залога не намервалася толькі пасыўна прыглядацца да пачынаньняў ліцьвінаў і ўначы зрабіла магутную вылазку на толькі што прыбылых жаўнераў. Яна засьпела зьнянацку людзей Паца, якім нанесьлі пэўныя страты, а таксама было схоплена пару палонных. Мышэцкі хутка зарыентаваўся, што мае дачыненьне не з чарговай атакай на горад, але з пачаткам рэгулярнай аблогі. Усьведамляючы слабасьць уласных сілаў, ён пакінуў горад і разам са сваімі жаўнерамі, якіх меў калі 700, закрыўся ва ўмацаваным і добра забясьпечаным зброяй і амуніцыяй ніжнім і верхнім Віленскім замку[15]. Іх фартыфікацыі і разьмяшчэньне, асабліва верхняга замку, стварылі ліцьвінам, якія вялі аблогу, значныя цяжкасьці. Дала пра сябе знаць жахлівая падрыхтоўка войскаў Рэчы Паспалітай да ўсялякіх абложных дзеяньняў. А адсутнасьць адпаведнага абсталяваньня чарговы раз прымусіла Паца прасіць прыслаць яму зь Біржаў гарматы, мартыру, порах, амуніцыю, і нават кнатоў і артылерыстаў[16].

Раскватараваўшы войскі ў Вільні і яе ваколіцах, М.К. Пац адправіў ліст князю Багуславу, просячы яго прыбыць разам з гарматай, мартырамі і запасам амуніцыі. Ён спакушаў князя славай заваёўніка літоўскай сталіцы. Падаў таксама прычыну, зь якой пайшоў у Вільню, а ня ў гетманскі лягер, калі даведаўся пра зьнішчэньне Хаванскага. Гэта былі жорсткія паводзіны віленскага ваяводы Мышэцкага ў дачыненьні да насельніцтва гораду. Напэўна, у гэтым было шмат праўды. Пасьля травеньскай атакі Сясіцкага расейцы распачалі суровыя рэпрэсіі, забіваючы і кідаючы ў вязьніцы шмат людзей. Скаргі на гэта і заклікі дапамагчы даходзілі і да літоўскіх войскаў, якія стаялі ў Жамойці. Больш сур'ёзныя прычыны таго, што напрамак маршу быў зьменены насуперак каралеўскім ардынансам, хаваліся ў нечым іншым. Але заўсёды як апраўданьне можна было падаць тое, што датычыла абароны насельніцтва Вільні[17].

Устанавіўшы вакол гораду блякаду, ліцьвіны пачалі рыхтавацца да штурму. Мабыць, яны лічылі, што зь першага разу можа атрымацца здабыць замак. Атаку зрабілі 31 ліпеня. Аднак маскалі, якія сядзелі там, не былі засьпетыя зьнянацку і *«далі нашым ад замку моцна перцу ў нос»*, як пісаў відавочца, мэмуарыст і жаўнер Ян Уладыслаў Пачобут-Адляніцкі. Штурм закончыўся поўнай паразай, былі вялікія страты забітымі і параненымі. Калі стала бачна, што абавязковым будзе распачацьце даўжэйшай аблогі, і гэтым разам давялося зьвяртацца да добра забясьпечанай фартэцыі Б. Радзівіла ў Біржах з просьбай падтрымаць порахам, мартырай і цяжкімі гарматамі[18].

Знаходжаньне жаўнераў жамойцкай дывізіі на землях Віленскага і Троцкага ваяводзтваў надоўга запомнілася іх жыхарам. Спрычыніліся да гэтага ўчыненыя імі вялізныя рабункі і злоўжываньні. Такія паводзіны не былі нечым небывалым у тагачасных ваенных рэаліях, а пры адсутнасьці жолду і спусташэньні краю самі вайскаводцы глядзелі скрозь пальцы на гэткае забесьпячэньне сваіх падначаленых харчамі і грашыма. Ад запісаных пазьней у гарадзкіх кнігах скаргаў аж раіцца на іх старонках. Зразумела, тут трэба браць папраўку на фантазію тых, хто скардзіўся, і драматызацыю апісаньня, каб дабіцца выгаднага прысуду і кампэнсацыі, якая зь яго вынікае. Ва ўсякім разе, афіцэрам і жаўнерам хапала вынаходлівасьці і рашучасьці ва ўчынках. У найлепшым выпадку яны патрабавалі ад рабаваных уладаньняў дамовы, г.зн. звычайнага водкупу грашыма ці харчамі. Часам, каб засьцерагчыся ад скаргаў, яны прымушалі пабітага

[15] Poczobut Odlanicki. S. 137—138; Ks. Gr. Trocka 1660—1661. VUB. Fond 7—3/5957. K. 391—391v; Rachuba A. Wilno pod okupacją moskiewską w latach 1655—1661 // Lithuania. № 3 (12). 1994. S. 70.
[16] K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 5 VIII 1660. BPAN Kr. 4011. K. 65—65v.
[17] M.K. Pac do B. Radziwiłła, Wilno 16 VII 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 11209/II. S. 17—18.
[18] Poczobut Odlanicki. S. 138; AMG. T. III. № 186/1. S. 165; гл.: Asekuracja obersztерleutnanta Krzysztofa von der Roppa wystawiona w Birżach 6 VIII 1660, NGAB. Fond 694. Op. 12. № 300. K. 16.

шляхціца, як гэта 1 траўня 1660 г. выпала Яну Бушкоўскаму, напісаць сьведчаньне, што прыбылыя ў ягоныя ўладаньні паводзілі сябе сыціпла і годна. А раней, уварваўшыся ў ягоны маёнтак, заявілі яму, што *«ў цябе, сабачая барада, харугвы пана маёра стаяць будуць»*, потым спусташылі яго будынкі, а яго самога, жонку і дачку пабілі шаблямі. Баючыся судоў, праз дзень пагражалі яму сьмерцю, каб засьведчыў пра іх спакойныя паводзіны. Жаўнеры шчыра прызнаваліся яму, што не баяцца ніякіх пакараньняў, паколькі *«маем заслуг у скарбе шэсьцьдзесят тысяч, але калі б нам і ўсе за тваю галаву далі, усё адно цябе пры жыцьці не пакінем»*. Шляхта абаранялася ад такіх вайсковых эксцэсаў, як магла, найчасьцей дамагаючыся ахоўных універсалаў ад камандзіра дывізіі, рэгімэнтара М.К. Паца. Потым рабіла іх копіі і вывешвала на брамах сваіх двароў. Гэта мала што давала. Пац яшчэ не зарабіў сабе аўтарытэту сярод афіцэраў і жаўнераў, таму не паважалі і ягоных універсалаў. У гэтым пераканаўся Юры Кутылоўскі, на двор якога наехалі жаўнеры татарскай харугвы слыннага ротмістра Давіда Бараноўскага. Яны засьпелі там толькі жонку Кутылоўскага, якая паказала ім ахоўны ўнівэрсал, дадзены М.К. Пацам, і старалася іх стрымаць. Дакумэнт не зрабіў ніякага ўражаньня на жаўнераў-рабаўнікоў. У адказ на яе намаганьні яны разагналі жанчын і дзяцей, а яе саму адлупцавалі каньчугамі (*каньчугаті*) і дашчэнту абрабавалі двор. Калі крыху пазьней з тым самым унівэрсалам Паца ў руках прыбег скардзіцца да Бараноўскага сам Кутылоўскі, ён нічога не дабіўся, а толькі разьюшыў ротмістра, які *«на вялікую пагарду і абразу вяльможнага ягамосьці пана рэгімэнтара, унівэрсал ягоны па зямлі кідаў, нагамі таптаў, кажучы тое, што сёньня пан Пац рэгімэнтарам, а заўтра я магу быць»*[19]. На пана Тамаша Герцыка, памешчыка Полацкага ваяводзтва, напаў 25 жніўня аддзел драгуноў з рэгімэнту гарадзенскага падкаморага Станіслава Масальскага. Не дапамаглі ахоўныя ўнівэрсалы, разьвешаныя на брамах арандаванага ім маёнтку ў Мэтэлях у Троцкім ваяводзтве. Жаўнеры ўварваліся ў двор і паралізаваную сястру Герцыка выкінулі з ложку, а чэлядзь, якая супраціўлялася, паразганялі ўдарамі абухоў. Калі ўжо спыніўся рабунак і жаўнеры адышлі, жонка Герцыка паслала нейкую шляхцянку да капітана, які камандаваў драгунамі. Той спыніўся ў недалёкай карчме. Шляхцянка запратэставала і паказала яму ахоўны ўнівэрсал: *«А калі пану капітану ў рукі гэты ўнівэрсал падала гэтая шляхцянка, згаданая вышэй, падхапіўся з-за стала, унівэрсал на зямлю кінуў, а саму яе ў карак ударыў і загадаў пад варту ўзяць»*. Прысутныя пры гэтым шляхціцы пачалі супакойваць капітана. Указалі яму, што нягожа нападаць на выгнанца, папярэдзілі яго таксама, што Герцык будзе ў судах дамагацца пакараньня за прычыненую крыўду. Крыху супакоены капітан загадаў адпусьціць шляхцянку, але не аддаў захопленых рэчаў. Праз пару дзён Герцык адшукаў яго ў недалёкім мястэчку Сімна, прыйшоўшы да яго разам зь некалькімі шляхціцамі як сьведкамі. Скардзіўся на ўчынены разбой і патрабаваў нарабаваных рэчаў. Аднак нічога не дамогся, паколькі *«тамсама адразу пан Міхал капітан, не даючы з сабой гаварыць, аблаяў і зганьбаваў ягамосьця пана Герцыка, і нічога вярнуць і справядлівасьці ўчыніць не хацеў, кажучы: „Калі б і ты сам на той час быў, і табе б самому дасталося, што і чэлядзі тваёй“»*. Герцык і яго таварышы спалохаліся. Выразна пераканаўшыся, што нічога не даб'ецца, а толькі паставіць сябе ў небясьпеку, *«ягамосьць пан Герцык, убачыўшы распаленага лютай злосьцю, як мага хутчэй з карчмы ягонай, будучы словамі ягонымі зьняважаны, з тымі сваімі вышэйзгаданымі сябрамі прэч адышоў»*[20]. Такіх прыкладаў было шмат, а гэткімі дасягненьнямі адзначалася ня толькі жамойцкая дывізія. Гэтаксама паводзілі сябе харугвы правага крыла ці жаўнеры Чарнецкага. Шляхта цешылася, што маскалі, якія сеялі тэрор і зьнішчэньне, прагнаныя ці

[19] Ks. Gr. Trocka 1660—1661. VUB. Fond 7—3/5957. K.89—90, 219—219v, 225—225v.

[20] Тамсама. K. 225—225v.

заблякаваныя. Але яшчэ большая радасьць перапаўняла яе, калі бачыла, што, выканаўшы гэтыя заданьні, жаўнеры, якія нясуць свабоду, пакідаюць яе землі.

У той жа час прысутнасьць жаўнераў-разбойнікаў і наяўнасьць укамплектаваных варожымі залогамі фартэцый была для шляхты добрым апраўданьнем, каб не зьяўляцца на паспалітае рушаньне, на якое склікалі ўнівэрсалы караля і М. Паца. Сабраўшыся 31 ліпеня ў лягеры пад Яшвойнямі, шляхта ўхваліла, што з прычыны вышэйзгаданай пагрозы іхнім дамам яны выстаўляць замест паспалітага рушаньня гусарскую і казацкую харугвы, добра забясьпечаныя ўсім патрэбным для бою. Маючы вялікі досьвед у зносінах са шляхтай, жамойцкі харужы Ян Грушэўскі ў той жа дзень у лягеры напісаў асобны дакумэнт сьведчаньня, што шляхта абавязалася зьявіцца з гэтымі харугвамі пад Яшвойнямі 17 жніўня, аплаціць ім тэрмін службы і выбраць ротмістраў. За дзень да гэтага тэрміну Ян Казімер даў шляхце заходніх літоўскіх паветаў заданьне блякаваць маскоўскія залогі ў Коўне і Горадні. Яму было важна адкрыць водны шлях па Нёмне, што дало б дадатковыя прыбыткі скарбу ад сплаву Нёмнам і Вяльлёй. Аднак было дарэмна чакаць ад шляхецкай брацьці ахвоты змагацца. Праз пару месяцаў кароль горка папракаў жамойтаў, што ў іх зьнікла жаданьне абараняць айчыну: самі не зьявіліся на паспалітае рушаньне, а выстаўленыя імі жаўнеры былі вельмі нешматлікія і ні да чога непрыдатныя[21].

На пачатку жніўня ў шляхты зьявілася надзея, што нарэшце яна пазбудзецца суседства літоўскіх войскаў. Пац некалькі разоў атрымаў лісты ад караля, які падганяў яго хутчэй скіравацца да войскаў Сапегі. 9 ліпеня з Варшавы паслалі рэгімэнтару ўжо чацьвёрты ліст такога кшталту. Ян Казімер выказваў сваё зьдзіўленьне несубардынацыяй Паца і папярэджваў, што калі з войскамі ў Беларусі здарыцца нейкае няшчасьце, то вінаваціць за гэта будуць менавіта яго. Навіна пра тое, што войска накіравалася пад Вільню, а не на ўсход, а таксама прысланы 7 ліпеня ліст з войска давялі Яна Казімера да сапраўднага шаленства. Супакоіўшыся, як інфармаваў сваяка моцна занепакоены Крыштап Пац, кароль абяцаў войску левага крыла, што да яго, а потым да Сапегі будзе пасланы ў якасьці пасярэдніка смаленскі біскуп Юры Белазор, які атрымае заданьне ахоўваць іх ад злосьці і інтрыгаў гетмана. Канцлер упрошваў абозната, каб той нарэшце вырушыў, а калі падыдзе блізка да гетманскага лягеру і ня будзе патрэбы злучыцца зь ім, стаў за некалькі міляў ад яго. А для захаваньня спакою раіў *«усе ардынансы браць ад яго і настроям ягоным ва ўсім падпарадкоўвацца»*. Пры гэтым папярэджваў, што хоць кароль не асуджае дзеяньняў пад Вільняй, аднак ён загадваў Пацу ісьці да Сапегі. Дзяліўся таксама сваімі трывогамі, што за ўсякае спазьненьне абозната, якое б навяло якія-небудзь няшчасьці на войскі гетмана і рускага ваяводу, дастанецца і яму. Канцлер ведаў, што піша, паколькі кароль усё больш падазрона глядзеў на малазразумелае маруджаньне абозната. Ян Казімер пачынаў думаць, што гэта робіцца ў выніку нейкіх інтрыгаў Крыштапа Паца[22]. У ліпені ў лягер у Вільні прыйшло шмат вытрыманых у рэзкім тоне прысьпешваньняў з боку абуранага манарха і самога Сапегі. Настойваў і Чарнецкі, які дзякаваў Пацу за ўсе лісты, пасланыя яму з данясеньнямі пра змаганьні пад Вільняй. Аднак падкрэсьліваў, што войскам, якія стаяць над Бярэзінай і Дняпром, патрэбныя ня столькі ягоныя лісты, колькі ён сам з войскам, каб можна было весьці далейшыя дзеяньні супраць непрыяцеля[23]. Асабліва гетман, войскі якога выходзілі на Дняпро, зь нецярплівасьцю чакаў

[21] Ks. Gr. Żmudzka 1660. VUB. Fond 7—20/14472. K. 356—357, 482—482v, 493—494v; Ks. Gr. Żmudzka 1661. VUB. Fond 7—21/14473. K. 131—132.

[22] K. Pac do M.K. Paca, b.m. 17 VII 1660. BCzart. 413. S. 79—80; A. Kotowicz do M.K. Paca, Sambor 5 IX 1660. BCzart. 414. S. 105.

[23] S. Czarniecki do M.K. Paca, Borysów 1 VIII 1660. BCzart. 413. S. 137.

падтрымкі з боку моцнай жамойцкая дывізіі, якая адпачыла. Ён некалькі разоў пісаў Пацу, але той адгаворваўся падрыхтоўкай да штурму Віленскага замку, пераконваючы, аднак, што незалежна ад вынікаў адразу пасьля яго ён камунікам пасьпяшаецца да Сапегі. Гетман не давяраў гэтым абяцаньням, ведаючы, што жамойцкае войска ня хоча зь ім аб'ядноўвацца, і прызнаваўся Палубінскаму, што *«сьмярдзіць ім сопіпсta [злучэньне войскаў] і рэгімэнт мой»*. Праз некалькі дзён кароль паслаў чарговы ліст, гарантуючы Пацу, што Сапега ад яго і з боку сэнатараў мае наказ ласкава абыходзіцца з жамойцкім войскам[24].

Урэшце ў лягеры зьявіўся абяцаны спэцыяльны каралеўскі камісар, смаленскі біскуп Юры Белазор з рэзкім каралеўскім ардынансам, які наказваў Пацу ісьці і аб'ядноўвацца з Сапегам. Хоць, як прызнаваў віленскі стольнік Казімер Жаромскі, Пац дагэтуль выкарыстоўваў усе спосабы, каб не злучацца з гетманскім войскам, цяпер ён ня мог далей марудзіць, калі не хацеў сабе сур'ёзных непрыемнасьцяў. Аднак распачатай аблогі нельга было спыняць, бо гэта паставіла б жыхароў Вільні і далейшых пад пагрозу жахлівай помсты маскоўскага гарнізону. Таму Пац вырашыў пакінуць пад замкам пяхоту, рэйтараў і драгуноў, а таксама дзьве татарскія харугвы, разам недзе 2—3 тыс. жаўнераў[25]. Камандзірам гэтых колькасна значных войскаў стаў віленскі стольнік Казімер Жаромскі, бывалы і дасьведчаны жаўнер. Рыхтуючыся да адыходу, М. Пац 7 жніўня заклікаў жамойцкую шляхту аказаць гэтым войскам дапамогу пешымі рэкрутамі з сваіх уладаньняў, а таксама дастаўкай харчоў. Пяхота была патрэбная для ўсіх прац пры фартэцыі і яе штурмаў. Нязьменна таксама адчуваўся недахоп правіянту, і менавіта ў выніку гэтага падчас месячнага пастою пад Віленскім замкам з шэрагу паўцякала шмат драгуноў. На думку Паца, жыхары закліканых паветаў маглі засяродзіць свае намаганьні пад Вільняй, паколькі не было пагрозы маскоўскіх войскаў зь Дзьвіны. Якраз у тыя дні маскоўская залога ўцякла з Чадосаў, а адпраўлены ў тыя раёны Сясіцкі наближаўся да Браслава[26].

Посьпехі, якіх дасягнуў у пачатку ліпеня на Браслаўшчыне пакінуты ў Жамойці для прыкрыцьця корпус Сясіцкага, дадаткова пазбаўлялі Паца аргумэнтаў, якімі можна было апраўдваць зацягваньне свайго знаходжаньня пад Вільняй. Напэўна, яшчэ перад адпраўкай з-пад Дзевялтова пад Вільню харугвы Сясіцкага разам зь іншымі з жамойцкага войска ўвайшлі ў Браслаўшчыну. Дзейнічаў там таксама аддзел абэрштэра Тэафіла Шварцгофа. Ён стаяў на чале дзьвюх рэйтарскіх харугваў, што засталіся ад ягоных дваіх братоў Фромгальда і Вільгельма, палеглых пад Веркамі, а таксама дзьвюх драгунскіх. Паводле прыпаведных лістоў, разам гэтыя адзінкі павінны былі налічваць 400 жаўнераў[27]. Уварваўшыся ў Браслаўшчыну, аддзелы Сясіцкага і Шварцгофа выразалі разьмешчаныя там маскоўскія залогі ў ваколіцах Відзаў, Зарасая, Дрысьвятаў, а іншых схапілі ў палон. Затое залога ў замку Іказьні, усьведамляючы небясьпеку, зруйнавала фартэцыю і ўцякла ў Браслаў. Пры гэтым зьявіўся шанец заняць Чадосы, паколькі сярод татараў, якія складалі значную частку тамтэйшай залогі, зьявіліся моцныя галасы незадавальненьня службай, асабліва калі яны даведаліся, што іх родныя краі спусташаюць казакі і іншыя татары. Урэшце выбух іх бунт супраць камэнданта. Таму расейцы былі вымушаны распусьціць іх у колькасьці 300 па

---

[24] Jan Kazimierz do M.K. Paca, Warszawa 9 VII 1660. BCzart. 411. S. 101; ліст ад 18 VII, BCzart 412. S. 140; M. Prażmowski do J. Lubomirskiego, Warszawa 14 VII 1660. BPAN Kr. 1065. S. 20.

[25] Rachuba A. Wilno pod okupacją moskiewską // Lithuania. № 3 (12). 1994. S. 71.

[26] K. Żeromski do B. Radziwiłła, Wilno 10 VIII 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 18969. S. 13; M.K. Pac do obywateli Xstwa Żmudzkiego, Wilno 7 VIII 1660. VUB. Ks. Gr. Żmudzka 1660. Fond 7—20/14472. K. 489—490; AMG. T. III. № 186/1. S. 165.

[27] RGADA. Fond 389, ML 130. K. 459—459v; LVIA, SA 3410. K. 365, 421.

дамах, а на іхняе месца прыслаць іншых жаўнераў. Папоўніць залогу было цяжка, таму знайшлі ўсяго толькі 80 пяхотнікаў, якімі былі нядаўна ўзятыя ў войска і безь ніякай вывучкі беларускія сяляне. Гэта мала чым дапамагло, а неспрыяльнае разьвіцьцё сытуацыі пасьля заключэньня міру са Швэцыяй і прыкметная пагроза наступу ліцьвінаў Сясіцкага напаўнялі расейцаў трывогай за лёс гэтай высунутай на захад фартэцыі. Урэшце, 31 ліпеня чадоскі гарнізон зруйнаваў замак і ўмацаваньні і ў апошні момант, забраўшы ўсё абсталяваньне і правіянт, эвакуаваўся ў Кокенгаўзэн. Для гэтай апэрацыі прыслалі 200 жаўнераў, якія павінны былі прыкрываць пяхотнікаў і канвой падчас адступленьня. Яны спаткалі харугвы Сясіцкага, што якраз накіроўваліся пад Чадосы, каб асадзіць гэты замак. Ліцьвіны, нягледзячы на невялікую колькасьць маскоўскага аддзелу, не наважыліся на яго напасьці, і ён спакойна адышоў, хоць жаўнеры баяліся атакі ліцьвінаў. Адыход чадоскай залогі ня выпаў з-пад увагі лідзкага маршалка Тэафіла Раецкага. Чадосы былі ягонай спадчыннай уласнасьцю, а сам ён пасьля іх заняцьця царскімі войскамі ў пачатку 1659 г. жыў у сваіх уладаньнях паблізу. Са сваімі сарака драгунамі ён адразу заняў замак, апярэдзіўшы ў гэтым ужо блізкіх людзей Шварцгофа. Можа быць, гэты абэрштэр разьлічваў на славу заняцьця гэтага гораду ці, хутчэй, на нейкую здабычу. Калі ягоныя спадзяваньні не апраўдаліся, ён разьмясьціў у Чадосах драгуноў Раецкага[28].

Канфлікт паміж Раецкім і Шварцгофам быў хутка вырашаны. Якім чынам, невядома. Ва ўсякім разе праз пару дзён Раецкія маглі банкетаваць у Чадосах, укамплектаваных сваімі драгунамі. Моцна залітая алькаголем сямейная бяседа скончылася сваркай, падчас якой лідзкі маршалак *«звадзіўся са сваяком сваім Зыгмундам і шыю яму моцна парэзаў»*. Тым самым далейшая трывога царскіх ваяводаў, выкліканая нечаканымі дзеяньнямі Сясіцкага і Шварцгофа, пачала саступаць месца мэтанакіраваным дзеяньням. У Кокенгаўзэн сьцягнулі дадатковыя сілы, лепш укамплектавалі Дзьвінск. Сілы, сабраныя ў гэтым першым замку, павінны былі пайсьці на дапамогу браслаўскай залозе. Яе становішча было вельмі цяжкае. Яна сама была невялікая, а да таго ж пасьля ўваходу ў гэтыя землі ліцьвінаў браслаўская шляхта масава перайшла на бок Сясіцкага. Ён сам у той момант ня вельмі намерваўся пачынаць нейкія шырокія дзеяньні супраць Браслава, паколькі неахвотна браў гэтую шляхту ў свае харугвы, баючыся, што маскоўскія жаўнеры могуць потым помсьціць ёй[29].

З-пад Вільні войскі жамойцкай дывізіі зь Міхалам Пацам на чале адышлі 8 жніўня. Жаўнеры крочылі ў найгоршым настроі і зь яшчэ горшымі прадчуваньнямі, *«бо, як д'ябла, баяцца гетмана, дый сапраўды маюць чаго, бо даліся яму ў знакі за тыя часы, не жадаючы быць пад ягоным камандаваньнем»*, — пісаў Стэфан Аборскі, які назіраў за настроямі жамойцкай дывізіі[30]. Міхал Пац вёў толькі коньніцу зь невялікай колькасьцю багажу. Было няшмат пораху для агнястрэльнай зброі, і пра гэта абозны раней інфармаваў караля. Пацу паабяцалі даць порах, калі ён прыбудзе ў лягер Сапегі, бо адміністратар літоўскага скарбу Адам Мацей Саковіч ужо адправіў туды запасы пораху. Да беларускіх земель Вялікага Княства Літоўскага ішло зь ім каля 3 тыс. жаўнераў. Акрамя той часткі, што засталася пад Вільняй, вялікая частка жаўнераў была накіраваная ў Браслаўшчыну. Нешматлікія харугвы, насуперак загадам, надалей заставаліся ў Курляндыі. Марш праходзіў дастаткова хутка, і ўжо 19 жніўня войскі дайшлі да Лепеля, што каля 220 км ад Вільні. Там яны засьпелі зьнянацку невялікі маскоўскі аддзел, які быў разгромлены. Ён, н'апэўна, складаўся з полацкай

[28] K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 16 VII 1660. BPAN Kr. 4011. K. 63v; ліст ад 5 VIII 1660. K. 65, 66; ліст ад 20 I 1660. K. 27.
[29] K. Karlick do B. Radziwiłła, Birże 12 VIII 1660. Тамсама. K. 67.
[30] S. Oborski do B. Radziwiłła, Królewiec 17 VIII 1660. VUB. Fond 4 (A—231). № 18013.

шляхты, якая служыла цару і была падначаленая Івану (Яну) Кісажэўскаму, палкоўніку Полацкага ваяводзтва. Праціўніку былі нанесеныя вялізныя страты, а сам Кісажэўскі ледзьве ўцёк, затое ў рукі ліцьвінаў патрапілі дзьве трафэйныя харугвы[31]. Аднак гэты посьпех ня мог засланіць усё большага непакою перад злучэньнем з Сапегам. У гэтым Паца супакойваў сваімі лістамі літоўскі канцлер, указваючы, што здабыў пасярэдніцтва і апеку над жамойцкай дывізіяй рускага ваяводы С. Чарнецкага[32]. Напэўна, чарговы раз падагнаныя да пасьпеху, жаўнеры ў досыць сумным настроі пакінулі свае вазы над ракою Плісай і пайшлі далей на ўсход. 27 жніўня яны дайшлі да Воршы на Дняпры. Настрой войскаў Паца пагаршаўся па меры набліжэньня іх да лягеру гетмана. А вось літоўскіх дастойнікаў пры баку Яна Казімера вестка пра іх доўгачаканую адпраўку зь Вільні, наадварот, узрадавала. Асабліва гэта датычыла канцлера Крыштапа Паца. Надзіва доўгае зацягваньне ягоным сваяком маршу насустрач войскам Сапегі, такое прыкметнае спачатку ў Жамойці, а потым пад Вільняй, пачынала выклікаць у караля падазрэньні, што канцлер вядзе нейкую сакрэтную прыватную палітыку за кошт ваенных дзеяньняў супраць непрыяцеля. Весткі пра марш гэтай дывізіі да беларускіх зямель дазволілі ўхіліць падобныя абвінавачаньні[33].

У Воршы войскам Паца давялося затрымацца на некалькі дзён. Гэта было зьвязана з назіраньнем за рухам войскаў Даўгарукага, а таксама за аддзеламі Хаванскага, якія пагражалі з боку Полацку. Пэўны час гетман меў намер паслаць гэтую дывізію адно да Смаленшчыны на дапамогу Палубінскаму, які там дзейнічаў. У выніку яна засталася на Дняпры і на працягу кароткага часу выконвала ролю заслоны з боку Полацку і Віцебску галоўных сілаў Сапегі і Чарнецкага. Атрымаўшы гетманскі ардынанс, жамойцкая дывізія 5 верасьня рушыла з Воршы пад недалёкі Копысь, а адтуль адразу ж пад блізкі Шклоў. Там трэба было спыніцца і чакаць далейшых ардынансаў ад вялікага гетмана.

Разам з набліжэньнем жамойцкай дывізіі ўзрастала напружанасьць паміж Пацам і вялікім гетманам. У сувязі з блізкасьцю непрыяцеля гэты канфлікт мог прывесьці да непрадбачаных і сур'ёзных наступстваў. Таму з сэнату паслалі ў лягер пад Магілёвам пасярэдніка. Быў ім смаленскі біскуп Юры Белазор. У першыя дні верасьня пры дапамозе Чарнецкага ён правёў шэраг перамоваў з Сапегам. Гетман абяцаў адпусьціць жамойцкаму войску і паасобным людзям усе правіны, але рашуча не жадаў дазваляць таго, каб *«ягамосьць пан абозны ВКЛ быў генэральным палкоўнікам дывізіі ягамосьці пана падскарбія ВКЛ»*. Тым самым ён не згаджаўся на захаваньне падзелу літоўскай арміі і незалежнае ад яго функцыянаваньне асобнай дывізіі пад асобным камандаваньнем. Затое ён паабяцаў добра ставіцца да самога літоўскага абознага Міхала Паца і пасьля расправы зь непрыяцелем дазволіць разлучыць войскі. Дастаткова жорсткая пазыцыя вялікага гетмана зрабіла М.К. Паца крыху няўпэўненым у намерах Сапегі. У той час актыўна ўдзельнічаў у заспакаеньні настрояў Чарнецкі. Зрэшты, такую ролю даручыў яму кароль. У наступныя дні ён размаўляў з Сапегам, а камандзіру жамойцкай дывізіі пасылаў свае лісты, інфармуючы яго пра дасягнутыя вынікі. Паведамляў, што атрымаў ад гетмана *«айцоўскую дэклярацыю»* і паўторнае запэўненьне, што ён будзе добра ставіцца да прыбылай дывізіі. Акрамя таго, гетман паабяцаў, што не парушыць парадкаў, якія склаліся ў жамойцкай дывізіі, і што яна застанецца пад камандаваньнем Паца. Сапега патрабаваў толькі прызнаньня свайго гетманскага аўтарытэту. Пераказаўшы Пацу чаканьні гетмана, рускі ваявода прасіў

---

[31] Poczobut Odlanicki. S. 138; P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, w obozie pod Mohylewem 25 VIII 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/IV. S. 75; Русско-белорусские связи. Op. cit. № 428. С. 456—457.

[32] K. Pac do M.K. Paca, b.m.d. [po 9 VIII 1660]. BCzart. 416. S. 53.

[33] A. Kotowicz do M.K. Paca, Sambor 5 IX 1660. BCzart. 414. S. 105; Poczobut Odlanicki J.W. S. 138.

абознага, каб са свайго боку ён не ствараў цяжкасьцяў у момант, калі набліжаецца непрыяцель. Чарнецкі настойваў, каб ён прызнаў уладу Сапегі і далучыўся да войскаў правага крыла. У выпадку клопатаў з боку гетмана абяцаў сваю дапамогу. Пры нагодзе, крыху абяляючы самога сябе, указваў на свой прыклад. Казаў, хоць тут, у Літве, ён толькі госьць, аднак падчас усіх нарадаў згаджаецца з гетманам і ў імя публічнага дабра ня хоча яму ні ў чым пярэчыць. Урэшце Пац быў вымушаны скарыцца і згадзіўся на аб'яднаньне з войскам Сапегі[34].

Пасьля заканчэньня перамоваў, якія праводзіліся пад Магілёвам, гетман прыбыў у лягер жамойцкай дывізіі. Там, напэўна, адбыліся далейшыя перамовы паміж ім і Пацам. Потым у прысутнасьці Сапегі 12 жніўня жаўнеры левага крыла пераправіліся ў Шклове на ўсходні бераг Дняпра. Хоць прыведзенае Пацам войска налічвала няпоўныя 3 тыс. жаўнераў, яно зрабіла вельмі добрае ўражаньне на вялікага гетмана. Ён не хаваў свайго задавальненьня ягоным прыбыцьцём, асабліва калі ўлічыць падрыхтоўку да блізкіх змаганьняў з царскімі арміямі. За тры дні пасьля пераправы харугвы прыйшлі на Басю, дзе пад Вугламі разьбілі ўмацаваны лягер. Было вядома, што набліжаецца варожая армія, сутыкненьне зь якой непазьбежнае. 26 верасьня на загад Сапегі вазы былі адпраўленыя ў Шклоў, і ў той жа дзень прыбыў у лягер са сваімі людзьмі палявы пісар А.Г. Палубінскі. Праз пару дзён яны злучыліся зь сіламі Сапегі. Палубінскі чарговы раз пацьвердзіў, што за ім набліжаецца галоўная маскоўская армія на чале зь Юр'ем Даўгарукім. Жаўнеры, якія прыбылі з Жамойці, ня мусілі доўга чакаць, каб у гэтым пераканацца. 30 верасьня частка пасланай па харчы іхняй чэлядзі была схопленая расейскімі разьездамі. Прыбыцьцё Даўгарукага стала фактам, а найбліжэйшыя дні павінны былі прынесьці вырашальную бітву[35].

---

[34] Reskrypt Jmci Xa Biskupa Smoleńskiego do Woyska, w obozie pod Mohylewem 4 IX 1660. BCzart. 154. S. 619—622; S. Czarniecki do M.K. Paca, w obozie pod Mohylewem 7 IX 1660, таксама другі ліст ад 7 IX, лісты ад 10 і 12 IX. Тамсама. S. 629—636.

[35] Poczobut Odlanicki. S. 139—140.



**Жаўнер панцырнай коньніцы XVII ст.**

## 11. Разьмяшчэньне і перамяшчэньне войскаў на мяжы 1660—1661 г.



# XII. Бітва на Басі

У той час як польска-літоўскі бок праводзіў нэрвовую пераправу сілаў на ўсходні бераг Дняпра і чакаў надыходу непрыяцеля, армія Юр'я Даўгарукага набліжалася да месца канцэнтрацыі каралеўскіх сілаў. Пад канец верасьня ён спыніўся недалёка ад месца будучай бітвы, у вёсцы Рамановічы. Ад схопленых у той час літоўскіх і польскіх палонных расейскі вайскаводца даведаўся пра месца канцэнтрацыі і колькасьць арміі праціўніка. Часам яны падавалі завышаныя лічбы, але большасьць сьведчаньняў падкрэсьлівала, што пад Чарнецкім стаіць 4 тыс. жаўнераў, пад Сапегам — 6 тыс., а Пац прывёў няпоўныя 3 тыс. чалавек. Згадваліся таксама аддзелы Самуля Аскіркі і Дзяніса Мурашкі, якія налічвалі 3 тыс. жаўнераў. Жаўнер жамойцкай дывізіі Ян Пачобут-Адляніцкі, які ўдзельнічаў у гэтай бітве, ацэньваў колькасьць войскаў Рэчы Паспалітай у 12 тыс., але, напэўна, бяз добраахвотнікаў Мурашкі. Каралеўскія войскі мелі 16 гармат. Цяжка дакладней акрэсьліць колькасьць войскаў Даўгарукага ў пачатку красавіка 1660 г. Гэты вайскаводца, ідучы з-пад Вязьмы, зьбіраў, дзе толькі можна, жаўнераў. З царскага двара зь ліпеня выходзілі суровыя загады для паасобных аддзелаў, каб яны сьпяшаліся далучыцца да зьбіранай арміі. Такі заклік атрымала шмат афіцэраў, якія калісьці пад камандаваньнем Даўгарукага ўдзельнічалі ў віленскай выправе і бітве пад Веркамі. Зьявіцца на месцы канцэнтрацыі ў Смаленску заклікалі дваран, баярскіх дзяцей, гарадавых казакоў, татараў і падняволенае насельніцтва. Сабраць армію належнай колькасьці не было лёгка, і гэта каштавала царскаму вайскаводцу вялікага высілку. Гэтаму заданьню былі прысьвечаны амаль месячны пастой у Смаленску. Там, між іншым, ён уключыў пад сваё камандаваньне значную частку гарадзкога гарнізону, жаўнераў з суправаджэньня вялікіх царскіх паслоў, якія чакалі распачацьця перамоваў у Менску, а таксама большую частку жаўнераў і запасаў, якія з прычыны заняцьця дарог палякамі і ліцьвінамі ваявода Канстанцін Шчарбаты ня здолеў даставіць у Кіеў. У канцы жніўня Даўгарукаму ўдалося сабраць амаль 15 тыс. жаўнераў. На працягу чарговых некалькіх тыдняў дзякуючы стараньням вайскаводцы і цара прыбылі чарговыя аддзелы. Таму можна меркаваць, што, выходзячы са Смаленску, Даўгарукі вёў супраць палякаў і ліцьвінаў армію, якая мела ў сваіх шэрагах да 18 тыс. жаўнераў[1], у большасьці складзеную з аддзелаў «новага строю», часткова вельмі дасьведчаных. Сярод іх было шмат заходніх афіцэраў, што на польска-літоўскім баку яшчэ потым доўга згадвалі[2]. Гэтага нельга сказаць пра ўсе адзінкі той арміі. На несумненную іх слабасьць уплывала іх пасьпешнае фармаваньне за два папярэднія месяцы. Не было гаворкі пра старанную падрыхтоўку войска. Да таго ж вялікая частка вырваных з дамоў жаўнераў ня надта ахвотна ішла на вайну і была схільная дэзэртаваць пры першай нагодзе. Таму агульная колькасьць жаўнераў арміі Даўгарукага ўвесь час мела моцную тэндэнцыю да зьніжэньня. Нягледзячы на ўсякія цяжкасьці, фармаваньне арміі прасоўвалася наперад, а паралельна са зборам войска шмат намаганьняў прыкладалася да адпаведнага забесьпячэньня зброяй, амуніцыяй, харчамі і грашыма[3].

Пакінуўшы Краснае, армія Даўгарукага скіравалася да Магілёва. Царскі вайскаводца ведаў, што перад ім крочыць са сваім моцным корпусам Палубінскі, які адступаў з-пад Смаленску ў напрамку галоўных каралеўскіх сілаў. Што цікава, няма згадак, што

[1] AMG. T. III. № 144. S. 132; Continuation der von den höchsten... BN. Mf. 37747. Poczobut Odlanicki. S. 140.

[2] Mowa tegoż JMP Skoraszewskiego chorążego poznańskiego do króla JM od woyska o wiktoriey z Moskwy oznaymuiąc. B.m.d. BN. BOZ 826. № 9. K. 21v.

[3] AMG. T. III. № 116. S. 111; № 127. S. 119; № 144/4. S. 131—132; № 154. S. 138; № 159. S. 142—143; № 172. S. 152—153; № 186/2. S. 186; Jerlicz. S. 58; Poczobut Odlanicki. S. 140.

Даўгарукі ўцягнуўся ў нейкі перасьлед войскаў палявога пісара, каб дагнаць ягоную групу і разьбіць яе да аб'яднаньня з галоўнымі польска-літоўскімі сіламі. Ён быў асьцярожным і разважным вайскаводцам і, напэўна, баяўся, што неабдуманая пагоня за ворагам можа пагражаць нечаканым сутыкненьнем з усімі сіламі праціўніка на выбранай ім тэрыторыі. Таму ён нясьпешна прасоўваўся да галоўнай польска-літоўскай арміі і паступова ўваходзіў у прасторы, кантраляваныя яе аддзеламі. Каб не дазволіць засьпець сябе зьнянацку, а таксама здабыць актуальную інфармацыю аб праціўніку, Даўгарукі пасылаў перад сваімі войскамі моцныя разьезды, якія скіроўваліся за харугвамі Палубінскага. Перад самым 26 верасьня некаторыя зь іх апынуліся на заходнім беразе Басі і пачалі там, а таксама на другім беразе сутыкацца з разьездамі палявога пісара і літоўскага абознага Міхала Паца, які стаяў пад Вуглямі. Па дарозе з Краснага, ужо недалёка ад гораду Горкі, што на рацэ Проні, 28 верасьня Даўгарукі даведаўся, што каралеўскія войскі пакінулі шанцы пад Магілёвам, перайшлі Дняпро і наблізіліся да ракі Басі. Акрамя таго, ад мясцовых сялянаў былі атрыманыя данясеньні, што па заходнім баку гэтай ракі ў Вуглях разьбілі лягер войскі Паца і што да іх далучыўся за два дні да гэтага Палубінскі са сваімі людзьмі. Да гэтых людзей паслалі разьезды, якія 30 верасьня схапілі некалькі чалавек чэлядзі і прывялі іх у маскоўскі лягер. Тыя, напэўна, пацьвердзілі ранейшую інфармацыю. Неадкладна адтуль быў пасланы ліст у Магілёў, які даваў знаць пра набліжэньне дапамогі і заахвочваў тамтэйшых мяшчан захаваць вернасьць цару. Пераправіўшыся праз Проню, маскоўскія войскі ўвайшлі ў вузкае міжрэчча паміж Проняй і Басяй і паволі выходзілі на вышыню літоўскага лягеру. Даўгарукі рэальна ацэньваў праціўніка, які стаяў па другім баку Басі. Будучы ўжо недалёка ад ліцьвінаў, але не пераходзячы гэтай ракі, ён выбраў 4 кастрычніка пазыцыю на адлегласьці крыху больш за 10 км ад іх лягеру, каля вёскі Гасподы[4].

Яму не было дадзена доўга стаяць у гэтым лягеры. У той жа дзень ён даведаўся, што ў лягер непрыяцеля прыбылі сілы Сапегі і Чарнецкага. Неўзабаве пасьля атрыманьня гэтай навіны пад рыхтаваным лягерам, напэўна, нечакана для расейцаў зьявіліся польскія і літоўскія разьезды. Іх не было настолькі шмат, каб нейкім чынам пагражаць арміі Даўгарукага. Ва ўсякім разе Хаванскі вывеў супраць іх значныя сілы, якія бязь цяжкасьці прагналі праціўніка. Дыхаючы ў карак палякам і ліцьвінам, яны гналіся да самай Басі, па другім баку якой знаходзіўся польска-літоўскі лягер. Да вечара расейцы здолелі сьцягнуць блізка да яе вялікую колькасьць коньніцы і пяхоты. Даставілі і гарматы, зь якіх пачалі абстрэльваць заходні бераг ракі. Ім адказалі польскія і літоўскія гарматы. Узаемны абстрэл не працягваўся доўга, паколькі надыход зьмяркання перарваў бой. У сутычцы на ўсходнім беразе Басі маскоўскія жаўнеры здолелі забіць некалькіх літоўскіх і каронных жаўнераў, узялі таксама палонных. Сярод сваіх жаўнераў прызналі 3 забітых, 22 параненых і 4 схопленых у палон. Сярод схопленых у палон маскалёў апынуліся адзін ротмістар і паручнік, якіх здабыў літоўскі ротмістар Крыштап Адахоўскі. Яны маглі даць шмат каштоўнай інфармацыі пра армію Даўгарукага і ягоныя пляны дзеяньняў. Па маскоўскім баку гэтую сутычку палічылі вялікай перамогай. Данясеньне пра яе адразу паслалі цару. У выніку гэтага бою Даўгарукі вырашыў ноччу перасунуць свой лягер бліжэй да польска-літоўскіх пазыцыяў. Ён спыніўся пад вёскай Губарава, прыблізна за 3 км ад пазыцыяў праціўніка[5].

Даўгарукі ня меў багата часу, каб аналізаваць станоўчыя і адмоўныя бакі новай пазыцыі. Аднак трэба прызнаць, што выбраў яе добра[6]. Па ягоным баку ракі расьцягва-

[4] AMG. T. III. № 186/1. S. 163—164.

[5] AMG. T. III. № 186/1. S. 164; Skorobohaty. S. 84.

[6] Пакдрэсьліваюць гэта нямецкамоўныя данясеньні: Continuation der von den höchsten... BN. Mf. 37747; Ausführliche Relation von einem Treffen... BN. Mf. 19809.

лася шырокая, зьлёгку перасечаная тэрыторыя. Пасярод гэтай плоскасьці мясцовасьць падымалася на невялікую вышыню. Пагорак быў пакрыты кустамі, рос на ім таксама рэдкі, доўгі, але ня вельмі шырокі лес. Свой лягер Даўгарукі паставіў за гэтым узвышэньнем і дзякуючы гэтаму быў закрыты для праціўніка, які знаходзіўся на супрацьлеглым баку ракі. З другога боку, ён сам ня мог інакш кантраляваць таго, што адбываецца ў лягеры праціўніка, як толькі пасылаючы да ракі разьезды. У некаторых месцах блізка ад маскоўскага лягеру знаходзіліся шырокія балоцістыя мясьціны. Затое здалёк рос густы лес, які амаль атачаў бязьлесую раўніну, на якой павінна была разыграцца бітва. Таксама ўзьбярэжжы Басі былі пакрытыя густым зарасьнікам. Сама рака не была шырокай, але мела вельмі балоцістыя берагі. Не была яна і глыбокай, аднак глеістае дно рабіла небясьпечнай пераправу нават для коньніцы. Войскі, якія выходзілі на яе ўсходні бераг, мелі перад сабой досыць значную прастору, на якой перашкодай у дарозе напрасткі да маскоўскага абозу былі згаданы кусьцісты і лясісты пагорак.

Асьцярожны і прадбачлівы царскі вайскаводца здаваў сабе справу, што палякі і ліцьвіны якасьцю жаўнераў перавышаюць ягоныя войскі, асабліва калі б дайшло да адкрытай бітвы ў полі, дзе галоўную ролю мусіла б адыгрываць коньніца. З гэтай прычыны ён грунтоўна ўмацаваў свой лягер, насыпаючы вакол яго валы і ставячы гарматы, якіх меў вялікую колькасьць. Ён разьмясьціў лягер на вялікай адлегласьці ад ракі, на лёгкім узвышшы, адразу пры сьцяне лесу, якая добра прыкрывала яго тыл, а згаданыя балоты, напэўна, сур'ёзна ўскладнялі падыходы зь іншых бакоў. Загадаў таксама падрыхтаваць вялікую колькасьць драўляных засекаў, пазьбіваных з тоўстых драўляных калоў. Імі павінна была засланяцца ў баі пяхота. Яны дазвалялі пасьляхова абараняцца ад атакаў коньніцы і трапна страляць з-за іх мушкетным агнём па праціўніку. Пакуль што іх расставілі вакол лягеру, каб яшчэ больш эфэктыўна абараніцца ад магчымай атакі[7].

У той жа дзень, калі на супрацьлеглым баку Басі стаў Даўгарукі, г.зн. 4 кастрычніка, да літоўскіх войскаў пад Вуглямі прыбыў са сваёй дывізіяй Чарнецкі. Ліцьвіны таксама здолелі ўмацаваць свой лягер, які, разьмешаны непадалёк ад ракі, быў прыкрыты і зь іншага боку забалочанай тэрыторыяй. Сярод каралеўскіх вайскаводцаў падчас праведзеных нарадаў не было адзінадушнасьці, што рабіць з разьмешчаным на другім баку ракі непрыяцелем. Яшчэ стоячы на Дняпры, Павел Сапега быў прыхільнікам трымацца берагоў гэтай ракі і стрымліваць на ёй напор ворага, які хоча даць падтрымку магілёўскай залозе. Апынуўшыся ўжо на Басі, ён, напэўна, схіляўся да канцэпцыі правядзеньня бітвы на яе пераправах. Аднак гэта залежала ад ініцыятывы Даўгарукага, які мусіў бы наважыцца на штурм пазыцыяў праціўніка праз раку. Аднак хутка аказалася, што маскоўскі вайскаводца зусім не жадае рабіць такіх атакаў, а намераны стаяць у сваім умацаваным лягеры ці, найбольш, дзейнічаць часткай сілаў каля яго на сваім беразе ракі. Узьнік тупік, які быў вельмі небясьпечны для войскаў Рэчы Паспалітай. Было вядома, што ўжо зь нейкага часу Даўгарукі чакае прыбыцьця казацкіх падмацаваньняў, і былі зьвесткі, што яны ўжо рушылі на чале з палкоўнікам Васілём Залатарэнкам на поўнач. Жаўнеры з трывогай верылі, што ён вядзе ажно 20 тыс. чалавек, хоць зьвесткі ад шпегаў, якія прыносіліся камандзірам, падавалі лічбу 8 тыс. казакоў. Непакоілі таксама данясеньні пра актыўнасьць Хаванскага на Дзьвіне і зьвесткі, што ён павінен ісьці на дапамогу Даўгарукаму. Ягоныя сілы ацэньваліся прыблізна ў 10 тыс. чалавек. Бязьдзейнае знаходжаньне палякаў і ліцьвінаў над Басяй магло прывесьці да катастрафічнай для іх сытуацыі. Прыбыцьцё хоць з аднаго боку падмацаваньняў, якія набліжаліся, празьмерна павысіла б лічбу і так большых колькасьцю маскоўскіх войскаў. Перамога над імі стала б тады вельмі

[7] AMG. T. III. № 186/1. S. 164; Pasek. S. 148—149; Kochowski. S. 77.

сумнеўнай, затое зьявілася б вельмі праўдападобная пагроза таго, што, атрымаўшы вялікую колькасную перавагу, яны самі перайшлі б да моцных правакацыйных дзеяньняў. Даўжэй стаяць у ваколіцы не дазвалялі таксама меркаваньні забеспячэньня войска. Харчаваньне такой значнай колькасьці людзей і коней стварала вялізныя клопаты польска-літоўскаму камандаваньню. Напярэдадні бітвы войска моцна адчувала недахоп правіянту, а зь цягам далейшага пастою ў адным месцы гэты недахоп мог толькі павялічвацца[8].

Іншым выйсьцем зь цяжкай сытуацыі быў удар на Даўгарукага. З гэтага вынікала неабходнасьць штурмаваць ягоны лягер. З досьведу было вядома, што польскія і літоўскія войскі ня вельмі прыдатныя для такіх дзеяньняў. Яны ня мелі моцнай артылерыі і дастатковай для яе колькасьці амуніцыі. Уцягваньне ў такія змаганьні цалкам зьнішчала ўсе вартасьці, якія дазвалялі перавышаць расейцаў у адкрытым полі бітвы. Дадаткова гэта было зьвязана з пэўнай рызыкай вялікіх стратаў, што магло адбіць ахвоту і так незадаволеных службай жаўнераў. Затое як мага даўжэйшы пастой палякаў і ліцьвінаў у лягеры ці распачацьце імі штурмаў было вельмі выгадным для Даўгарукага, якому заставалася толькі дачакацца падмацаваньняў і супольнымі сіламі расправіцца з праціўнікам. Таму каралеўскім вайскаводцам не заставалася нічога іншага, як пастарацца ўсякімі сродкамі прымусіць маскалёў выйсьці з-за лягерных умацаваньняў і навязаць ім бітву на адкрытай прасторы.

Спробы рэалізаваць гэтыя пляны былі зробленыя ўжо ў наступны дзень. Сам Чарнецкі, узяўшы пяць добрых каронных харугваў, у тым ліку дзьве панцырныя і адну рэйтарскую, пайшоў за раку ў разьезд. Там на адным узгорку ў густым зарасьніку ён загадаў схавацца большасьці сваіх людзей. А выбраныя людзі рушылі пад маскоўскі лягер. Калі іх заўважылі, з-за ўмацаваньняў паслалі шмат коньнікаў. Хутка пасьля гэтага за імі пачалі выходзіць большыя адзінкі войска. Тады Чарнецкі кінуў на дапамогу свайм адну з харугваў, схаваных у зарасьніку. Расейцы, убачыўшы гэта, пачалі падазраваць, што на іх бок перапраўлілася большасьць польска-літоўскіх сілаў. Паднятыя па трывозе, яны выводзілі тады зь лягеру свае чарговыя аддзелы, якія паставілі ў шыхты і пачалі энэргічна наступаць на польскіх коньнікаў. На загад Даўгарукага камандаваньне імі апынулася ў руках стольніка Восіпа Сукіна. З увагі на вялізную перавагу ворага супраціў людзей Чарнецкага ня мог доўга працягвацца. Дый не было мэты даваць адпор. Палякі пачалі адступаць і нават уцякаць, падводзячы запаленых расейцаў пад схаваныя ў зарасьніку на пагорку астатнія харугвы Чарнецкага. Калі настаў адпаведны момант, рускі ваявода кінуў у моцную атаку дзьве харугвы. Іх зьяўленьне засьпела маскоўскіх коньнікаў зьнянацку. Яны адразу падаліся паніцы і страцілі харугву, а таксама некалькі палонных. Гэты інцыдэнт на пэўны час зьбіў з панталыку далейшыя больш моцныя аддзелы, якія ішлі на пэўнай адлегласьці за ўцякаючымі палякамі, асабліва калі з кустоў высунуліся дзьве харугвы. Аднак перш чым эфэкт нечаканасьці зьнік і расейцы кінуліся ў пагоню, палякі здолелі адысьці на бясьпечную адлегласьць і вярнуцца ў свой лягер. Зразумела, і гэтай сутычкай Даўгарукі не абмінуў пахваліцца цару. Толькі паводле ягонага данясеньня колькасьць палякаў, якія атакавалі, узрасла аж да 4 тыс. чалавек, а ў баі нібыта было забіта 50 чалавек Чарнецкага пры страце толькі 4 сваіх жаўнераў[9].

Падчас гэтай сутычкі расейцы крычалі палякам, што не прыйшлі сюды біцца, а толькі размаўляць наконт міру. І запрашалі на другі дзень каралеўскую старшыну пры-

[8] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, w obozie pod Mohylewem b.d. 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/IV. S. 141; Podbereski do rotmistrza JKM, nad Basią b.d.[pocz. X 1660]. AGAD. A—Tyz. G—388; Kochowski. S. 77.

[9] Łoś. S. 99; AMG. T. III. № 186/1. S. 164.

**5. Бітва на Басі 8 кастрычніка 1660 г. (фаза I: спроба рэканструкцыі)**



быць на распачацьце перамоваў. Гэта зьдзівіла і зьбянтэжыла літоўскіх і польскіх вайскаводцаў, бо назаўтра, г.зн. 6 кастрычніка, яны насамрэч падышлі да маскоўскіх пазыцыяў з пытаньнем наконт прапанаваных перамоваў. Паехалі туды Сапега, Чарнецкі, Палубінскі, Пац і шмат іншых вышэйшых і ўвогуле паважаных афіцэраў. Да расейскага лягеру паслалі трубача і пасольства, каб спытацца, пра што павінна ісьці размова. Паводле рапарту Даўгарукага да цара, гэта палякі і ліцьвіны выйшлі з просьбай спыніць змаганьні і кровапраліцьцё. Цяжка дашукацца праўды, каму належала ініцыятыва. Здаецца, Даўгарукаму, якому было найбольш важна выйграць час, каб закончыць умацаваньне лягеру і дачакацца падмацаваньняў. У кожным разе польскія і літоўскія вайскаводцы адразу пераканаліся, што няма гаворкі ні пра якія перамовы, а ўчарашняя прапанова была толькі подступам. Маскоўскі лягер быў ужо добра ўмацаваны, а маскалі, якія сядзелі ў ім, кпілі з наіўных праціўнікаў, інфармуючы, што ім не патрэбны ніякія перамовы, хіба што палякі і ліцьвіны іх моцна жадаюць.

Гэта выклікала вялікі гнеў на паводзіны маскалёў. Хутка пасьля гэтага здарэньня гетман Павел Сапега вырашыў пасылаць супраць іх пад лягер некалькі харугваў. Яны былі пад рукой, бо спадарожнічалі яму на спадзяваныя перамовы як эскорт. Яны сутыкнуліся з царскімі аддзеламі, якія стаялі на варце перад лягерам. Іх удалося перамагчы і загнаць у лягер. Аднак расейцы ўчора здолелі добра пазнаёміцца зь мясцовасьцю і не далі чарговаму нападу засьпець іх зьнянацку. Спраўна зь лягеру выйшлі большыя маскоўскія сілы, аказалася таксама, што ў зарасьніках па-за лягерам таксама пахаваліся жаўнеры Даўгарукага. Пастаўлены паўмесяцам маскоўскі шыхт рушыў на ліцьвінаў. Маючы вялізную колькасную перавагу, расейцы бязь цяжкасьці адкінулі іх. Ня здолела вытрымаць напору маскалёў кінутая супраць іх панцырная харугва гетмана і казацкая Мікалая Шмэта. У небясьпецы апынулася вайсковая старшына, якая выехала на перамовы. Зь лягеру каралеўскіх войскаў заўважылі цяжкую сытуацыю, у якой апынуліся літоўскія харугвы, і паслалі ім на дапамогу нейкія аддзелы з каронных войскаў. Супольнымі сіламі ўдалося выбрацца з турботаў, дайсьці да ракі і зь цяжкасьцю пераправіцца на яе заходні бераг. Аднак ліцьвіны панесьлі балючыя страты. У палон патрапіла некалькі жаўнераў, у тым ліку Крыштап Чыж, латнік гусарскай харугвы Сапегі, які бываў на ваенных нарадах. Вельмі баяліся, што ён раскрые Даўгарукаму шмат прынятых там рашэньняў, якія датычылі плянаў бліжэйшых дзеяньняў супраць ягоных войскаў. Чыж перажыў няволю, але бальшыню сярод 19 схопленых за апошнія тры сутычкі жаўнераў адразу пасьля бою 6 кастрычніка вырвалі разьюшаныя драгуны і простыя жаўнеры Даўгарукага і пабілі на сьмерць. У чарговым рапарце да Аляксея Міхайлавіча пра ўжо трэці посьпех вайскаводца пісаў, што страціў толькі 2 забітых, 2 схопленых у палон і 17 параненых, што, зразумела, здаецца зусім непраўдападобным[10].

На працягу трох дзён маскоўскім войскам удалося атрымаць тры перамогі над каралеўскімі аддзеламі. Аднак гэта не былі вялікія посьпехі, і Даўгарукі як дасьведчаны вайскаводца пра гэта добра ведаў. Хоць іх каштоўнасьць не была найвышэйшай, яны падбадзёрвалі і самога Даўгарукага, і іншых царскіх камандзіраў, даючы надзею перамагчы праціўніка. Напэўна было вядома, што пад Палонкай колькасная перавага была на баку Сапегі і Чарнецкага. На Басі яна належала расейцам. Гэты факт разам з трохразовым пераможным прагнаньнем з уласнага берагу Басі каралеўскіх войскаў мог прыбраць усялякі неспакой перад больш сутычкай зь імі ў полі.

Тым часам у польска-літоўскім лягеры задумаліся над тым, якім чынам працягваць змаганьне. Далейшыя вылазкі разьездаў пад маскоўскі лягер ня мелі сэнсу, паколькі не прыводзілі да канчатковай перамогі. Было зразумела, што Даўгарукі ма-

[10] Poczobut Odlanicki. S. 142; Skorobohaty. S. 84—85; Łoś. S. 99—100; AMG. T. III. № 186/1. S. 164.

рудзіць, каб выйграць час і дачакацца падмацаваньняў. 7 кастрычніка не было сур'ёзных змаганьняў, толькі коньнікі перапраўляліся за Басю і пад варожым лягерам сутыкаліся з маскоўскімі ахвотнікамі. Найбольш у апошнія дні баяліся дзеяньняў з боку войскаў Залатарэнкі. Магчымасьць іхняга надыходу асабліва трывожыла простых жаўнераў. Таму марш казацкіх палкоў быў пад пільнай увагай, і было вядома, што яны сталі пад Чачэрскам. Аднак перад самай бітвай з Даўгарукім да каралеўскіх вайскаводцаў пачалі прыходзіць зьвесткі пра адыход Залатарэнкі з-пад Чачэрску і адступленьне ягоных войскаў назад за раку Сож. Гэтая навіна іх зьдзівіла і ў той час зьняла ім гэты камень з сэрца. Небясьпека з поўдня надалей пагражала польскім і літоўскім войскам, паколькі казацкія палкі не адышлі далёка. Аднак найважнейшым было тое, што яны перасталі набліжацца з дапамогай да царскіх войскаў[11]. Нягледзячы на гэта, сытуацыя заставалася цяжкай. Па-першае, ускладнялі яе праблемы з правіянтам. Па-другое, пагражала магчымае прыбыцьцё арміі Хаванскага ці брата Даўгарукага, Пятра. Апошні, як ужо пасьпелі даведацца, на чале новай фармаванай арміі павінен пасьпяшацца на дапамогу. Зразумеўшы ўсе гэтыя неспрыяльныя чыньнікі ўжо ў верасьні, а тым болей перад маскоўскай арміяй, якая стаяла за Басяй у першыя дні кастрычніка, польскія і літоўскія вайскаводцы былі рашуча настроены на бітву зь ёй. Трэба было толькі як мага хутчэй знайсьці спосаб выцягнуць усю варожую армію з умацаванага лягеру. Гэтай праблеме была прысьвечана пасьпешна скліканая 7 кастрычніка ваенная нарада. Падчас яе было вырашана перакінуць уначы ня толькі выбраныя харугвы, але ўсе свае аддзелы на другі бераг Басі і там прымусіць Даўгарукага прыняць бітву[12].

У сваю чаргу паводзіны Залатарэнкі выклікалі разгубленасьць Даўгарукага. Яму заставалася разьлічваць толькі на падтрымку з боку Хаванскага і арміі свайго брата Пятра. Паводзіны казакоў былі прадыктаваныя разьвіцьцём падзеяў ва Ўкраіне. Там у першай палове верасьня рушыў наступ каронных войскаў з падтрымкай татараў. 14 верасьня пад Любарам завязаліся першыя сутычкі з войскамі маскоўска-казацкай арміі Васіля Шарамецьева. Змаганьні ў чарговыя дні разьвіваліся трагічна для царскага вайскаводцы, а ягоная армія была разьбітая і ў канцы верасьня аточаная ў лягеры пад Чуднавам. На дапамогу тым войскам ішла казацкая армія на чале з гетманам Юр'ем Хмяльніцкім. Гэта ня быў ні добры вайскаводца, ні правадыр. Паразы Масквы ў Літве і Шарамецьева ва Ўкраіне падточвалі веру яго і многіх з казацкай старшыны ў перамогу цара. Убачыўшы цяжкую сытуацыю і тое, што перамога схіляецца ў бок Рэчы Паспалітай, Хмяльніцкі паслаў Залатарэнку і іншым палкоўнікам, якія знаходзіліся на Задняпроўі, загад пачакаць з атакай на каралеўскія войскі. Напэўна, і самі гэтыя палкоўнікі, даведаўшыся пра паразу ва Ўкраіне, палічылі лепшым ня ўцягвацца пасьпешна ў змаганьні, а назіраць за барацьбой зь бясьпечнай адлегласьці.

Пасьля прыняцьця Сапегам і Чарнецкім рашэньня перапраўціць усю армію на ўсходні бераг Басі войску загадалі рыхтавацца да заўтрашніх змаганьняў. Узброіцца сякерамі і іншай зброяй павінна была таксама свабодная чэлядзь. Вельмі позьнім вечарам у лягеры правілі набажэнствa, падчас якога жаўнеры даручылі свае лёсы Богу. Потым было абвешчана, каб з гэтага моманту ніхто пад карай сьмерці не наважваўся ні страляць, ні нават гучна гаварыць. У поўнай цішы былі пакладзены часовыя кладкі на рацэ і войска пачало перапраўляцца на другі бераг. Усю апэрацыю ўдалося захаваць у таямніцы перад расейцамі, тым больш, што палі на Басі пакрыў густы туман. Адразу драгунам загадалі насыпаць шанцы пры пераправе, каб у выпадку няўдачы

[11] AMG. T. III. № 186/1. S. 166.

[12] Continuation der von den höchsten... BN. Mf. 37747; Ausführliche Relation von einem Treffen... BN. Mf. 19809.

яе можна было абараняць, забяспечваючы сабе гэтым адступленьне праз раку. Жаўнеры хутка ўзьвялі часовыя ўмацаваньні і паставілі на іх некалькі гармат. Хутка пасьля пераправы войскаў, перш чым яшчэ стала сьвітаць, у тумане былі пачутыя водгукі свабодных размоваў блізкага маскоўскага аддзелу, які ішоў у рутынную разьведку ў бок зарэчных польскіх і літоўскіх пазыцыяў. У густым тумане, абсалютна нічога не чакаючы, ён натрапіў на літоўскіх жаўнераў Міхала Паца. Не было часу аддаваць загады харугвам. Літоўскія добраахвотнікі адразу ўдарылі на цалкам аслупянелых расейцаў. Іх камандзір і шмат жаўнераў на месцы страцілі жыцьцё, а іншыя галопам паскакалі ў лягер, ставячы на ногі Даўгарукага[13].

Пасьля гэтага не было патрэбы далей хаваць сваю прысутнасьць на маскоўскім беразе. Сапега адразу паслаў да царскага вайскаводцы трубача з заклікам выходзіць зь лягеру на крывавую бітву, *«бо мы сюды на вайну прыйшлі, а не на пастой»*. Каб выразна паказаць гэта праціўніку, адразу пад яго ныя ўмацаваньні падабралася некалькі харугваў. Замяшаньне ў маскоўскім лягеры было вялікае, але расейцы хутка авалодалі сытуацыяй, і войскі пачалі выходзіць вонкі з валоў і станавіцца ў шыхты да бою. Перш чым адпраўленыя Сапегам пасланцы дасягнулі варожага аддзелу, то ўжо па дарозе напаткалі аддзелы непрыяцеля, якія прасоўваліся да палякаў і ліцьвінаў. Магчыма, калі раней царскія камандзіры думалі, што на іх бераг зноў перапраўвіўся нейкі разьезд, то цяпер яны хутка зарыентаваліся, што на гэты раз маюць дачыненьне з усёй польска-літоўскай арміяй, якая рыхтуецца да генэральнай бітвы. Рыхтуючыся да бою, маскоўская армія стала на месцы, якое было крыху вышэй за пазыцыі непрыяцеля. Ззаду застаўся ўмацаваны лягер. Гэта забяспечвала большую эфэктыўнасьць іхнім атакам на польска-літоўскія шыхты, а таксама, у выпадку няўдачы, адступленьне да лягеру. Даўгарукі высунуў наперад сваіх войскаў артылерыю. За ёй паставілася рэшта войска. У цэнтры, якім сам камандаваў, разьмясьціў большасьць сваёй пяхоты. Дадаў да яе таксама пэўную колькасьць конніцы. Крылы сьпераду прыкрывалі моцныя аддзелы пяхоты і кап'ёўшчыкаў. За імі стаялі моцныя фармаваньні конніцы паперамена з традыцыйнымі дваранскімі і «новага строю» аддзеламі драгуноў і рэйтараў. Здаецца, што Даўгарукі паступова ўзмацняў сваё левае крыло, якое, як даведаўся, стаяла насупраць грознага Чарнецкага, які займаў пазыцыі на правым крыле польска-літоўскай групоўкі. Магчыма і тое, што на гэтым левым, найбольш небясьпечным крыле прыняў камандаваньне стары баявы таварыш Даўгарукага, дасьведчаны жаўнер, ваявода Восіп Сукін.

Усе крыніцы падкрэсьліваюць, што ў адрозьненьне ад «гарачага» Хаванскага, Даўгарукі быў асьцярожным і разважлівым вайскаводцам. Расстаноўка яго ных войскаў таксама ўказвала на гэта. Раней ён падрабязна дапытаў схопленых у папярэднія дні ў палон ліцьвінаў і палякаў. Ад іх ён даведаўся пра колькасьць і род войскаў праціўніка. Пацьвердзілася слабое забесьпячэньне каралеўскіх войскаў гарматамі, якіх яны мелі разам толькі 16 штук. Асабліва яго цікавіла дакладная колькасьць усіх і паасобных гусарскіх харугваў. Баяліся таксама цяжкай конніцы і яе жудаснай сакрушальнай моцы. У выніку атрымаў інфармацыю, што насупраць яго стаіць 9 гусарскіх харугваў; такую колькасьць згадаў у сваіх успамінах і Пасэк. Палонныя давалі і колькасьць паасобных адзінак, якія разам складалі 1560 коней. Агульную колькасьць каралеўскіх войскаў палонныя ацэньвалі ў 15 тыс. чалавек. Жадаючы як мага лепш засьцерагчыся ад імклівай атакі выдатнай каралеўскай конніцы, Даўгарукі паставіў перад фронтам крылаў моцныя аддзелы пяхоты з доўгімі пікамі. Зь іх дапамогай адпаведна вывучаныя пяхотнікі маглі пасьпяхова адбіць атаку конніцы. Акрамя таго, пешыя жаўнеры штурхалі перад сабой падрыхтаваныя раней загародкі і частаколы,

[13] Kochowski. S. 77—78; Poczobut. Odlanicki. S. 142—143.

якія палякі называлі гуляйгародамі. Гэта былі цяжкія драўляныя бэлькі, зьвязаныя рамянямі і счэпленыя жалезнымі скобамі. На іх былі насаджаныя доўгія завостраныя калы, скіраваныя ў напрамку атакі. Праз спэцыяльныя адтуліны пяхота, якая стаяла за імі, магла страляць у праціўніка з мушкетаў. Пяхотнікі Даўгарукага несьлі перад сабою гэтыя цяжкія загароды, ствараючы пры іх дапамозе рухомую сьцяну, якую было складана пераадолець коньнікам. Сярод такіх прыкрытых густымі і апчацінемымі пікамі і бердышамі шэрагаў пяхоты прасоўвалася конніца, якая складалася з традыцыйных дваранскіх адзінак і рэйтараў «новага строю». Расстаноўка такога тыпу забясьпечвала маскоўскім шыхтам вялікую ўстойлівасьць на чаканую атаку варожай конніцы, а пры неабходнасьці — магчымасьць перайсьці да моцных наступальных дзеяньняў уласнай конніцы з падтрымкай агню гармат і пяхоты[14].

Насупраць маскоўскіх войскаў стаялі шыхты польска-літоўскай арміі. Цэнтар заняў з войскам правага крыла вялікі гетман Павел Сапега, а таксама Аляксандар Палубінскі. На правым крыле стала ў шыхты каронная дывізія Стэфана Чарнецкага. А левае заняў з жамойцкай дывізіяй Міхал Пац. Галоўнае заданьне зламаць варожыя шыхты даручылі гусарам. Іх было 9 харугваў, але часта досыць слаба ўзброеных. Замест тыповых гусарскіх дзідаў жаўнеры ня раз трымалі ў руках пафарбаваныя жардзіны з абпаленым канцом замест наканечніка. Гусараў падзялілі на тры групы і паставілі перад фронтам войскаў. У якасьці падтрымкі да іх дадалі панцырныя харугвы. Ззаду за войскам, за лёгкім узвышшам, падрыхтавалі рэзэрвы. Яны складаліся зь некалькіх добраахвотніцкіх харугваў Дзяніса Мурашкі. Да іх дадалі свабодную чэлядзь, якую падзялілі ў малыя аддзелы. На чале кожнага такога аддзелу паставілі дасьведчанага латніка з рэгулярных харугваў. Гэтая група заставалася ў прыкрыцьці і павінна была ў адпаведны момант бітвы выскачыць з-за ўзвышша, ствараючы тым самым у непрыяцеля ўражаньне раптоўнага павелічэньня каралеўскіх войскаў[15].

Расстаноўка войскаў выразна ўказвала на наступальны плян вядзеньня бітвы. Галоўную ролю павінна была выконваць цяжкая конніца. Яе заданьнем было разарваць шыхты непрыяцеля. У выпадку дасягненьня ёй посьпеху ў зробленыя праломы мусілі ўварвацца за цяжкімі адзінкамі панцырныя харугвы і лягчэйшыя. Вырашальны ўдар плянавалася правесьці на крылах, і там сканцэнтраваліся галоўныя масы конніцы. Кіраваны Сапегам цэнтар, дзе таксама стаяў Палубінскі, павінен быў пры патрэбе падтрымліваць крылы. Наяўныя аддзелы пяхоты былі спачатку разьмешчаныя больш ззаду шыхтоў і больш за цэнтрам, якім камандаваў Сапега. Пры патрэбе на лініі бою яе ролю маглі выканаць апешаныя аддзелы драгуноў, якія хутка перамяшчаліся.

Калі толькі маскоўскія войскі пачалі станавіцца на полі, рускаму ваяводу далі знаць пра гуляйгароды і засекі, якія пяхота праціўніка перасоўвала перад сабой. Зьявілася пагроза, што пры сваёй колькаснай перавазе, засланяючыся імі, расейцы змогуць небясьпечна блізка падысьці да неабароненых шыхтоў польска-літоўскай арміі, а нават прабіцца ў іх, дэзарганізуючы дзеяньні конніцы, якая стаіць наперадзе іх. Здаючы сабе з гэтага справу, Чарнецкі адразу загадаў чэлядзі і пяхоце насыпаць перад шыхтамі конніцы шанцы. Дзякуючы ліхаманкавай працы гэта ўдалося зрабіць. Потым іх укамплектавалі пяхотай, прыведзенай з тылу, і паставілі малыя гарматы, якія мусілі стрымаць прасоўваньне гуляйгародаў. Тады зьявілася больш абарончая канцэпцыя правядзеньня бітвы перад гэтымі шанцамі, якія павінны былі служыць як заслона. За ёй у выпадку неабходнасьці мусіла хавацца ці рабіць

[14] Ausführliche Relation von einem Treffen... BN. Mf. 19809; AMG, t. III. № 186/1. S. 165—166; Pasek. S. 149—150; Łoś. S. 101; Jerlicz. S. 60.
[15] Pasek. S. 149; Łoś. S. 100—101.

з-за яе вылазкі польская і літоўская коньніца. Аднак хуткая зьмена падзеяў прымусіла забыцца на гэтыя праекты.

Яшчэ калі працягвалася расстаноўка войскаў, Чарнецкі паслаў да маскоўскіх аддзелаў коньнікаў. Яны прабраліся пад варожыя шыхты і заселі ў ляску, які рос паміж каралеўскай і царскай арміяй. Да іх адразу кінуліся маскоўскія добраахвотнікі, а строй іхняй арміі паволі, але няспынна прасоўваўся за імі да лініі каралеўскай арміі, якая нерухома стаяла пры шанцах. Войскі яшчэ не маглі ўбачыць адно другое, паколькі паміж імі ўзносіўся парослы кустамі і рэдкім лесам пагорак. Расейцы, захоўваючы строй, паволі спусьціліся з узвышша, на якім пастроіліся ў бой. Прайшлі плоскі адрэзак і наблізіліся да таго ўзвышша, якое знаходзілася паміж імі і польска-літоўскай арміяй. Цікава, што Даўгарукі наважыўся пакінуць пазыцыі пад сваім лягерам, які мог бы забясьпечыць добрае прыкрыцьцё ягоным войскам падчас бітвы. Можа, ён палічыў, што пазыцыя на падобнай мясцовасьці — на пагорку і зь лесам за сьпінай, толькі крыху далей ад лягеру, — дасьць яму некалькі важных козыраў. Набліжаючыся да ракі, ён мог мець надзею, што моцна звузіць поле дзейнасьці варожай арміі і тым самым абмяжуе свабоду рухаў праціўніка на досыць вузкай тэрыторыі каля ракі. Калі б яму ўдалося адбіць атакі польскай коньніцы і нанесьці паразу каралеўскім войскам, тады ён тым больш мог разьлічваць на зьнішчэньне войскаў праціўніка, які б у ягоным блізкім суседзтве тоўпіўся пры адзіным шляху да ўцёкаў — небясьпечных пераправах праз балоцістую і глыбокую раку.

Падчас гэтага маршу пастроеных на бой маскоўскіх войскаў сярод густых зарасьнікаў і небясьпечных ямаў, якіх было поўна на пагорку паміж абедзьвюма арміямі, адбываліся сутычкі коньнікаў. Маляўніча апісаныя іх удзельнікам Пасэкам, яны прынесьлі ўдачу палякам. Нягледзячы на пэўныя страты забітымі, была схопленая вялікая колькасьць палонных, якіх адаслалі да рускага ваяводы. У выніку коньнікі сышлі з поля і вярнуліся ў свае шэрагі, паколькі маскоўскі строй, які прасоўваўся наперад, ужо дайшоў да пагорку, падняўся на яго, перайшоў яго вяршыню і спыніўся на парослым кустамі схіле, зьвернутым да ўжо блізкага фронту галоўных літоўскіх сілаў. Такім чынам, расейцы зноў пачалі займаць выгадную пазыцыю, паколькі яна была крыху вышэйшай за праціўніка. За іх сьпінамі апынуўся той рэдкі лес, які мог забясьпечыць тыл. Аднак аказалася, што праз гэты густа парослы кустоўем і няроўны ўчастак немагчыма перацягнуць усе цяжкія гуляйгароды. Таму іх пакінулі ў тыле, паставіўшы ў форме табару і ўкамплектаваўшы часткай пяхоты. Маскоўскім пяхотнікам удалося ўзяць з сабой толькі лягчэйшыя загародкі і частаколы[16].

Калі ўжо царскія войскі наблізіліся на невялікую адлегласьць да пазыцыяў праціўніка, на іх правае крыло вышаў удар арганізаванай у значкі* свабоднай чэлядзі з жамойцкай дывізіі. Магчыма, удар меў на мэце разьведаць сілы праціўніка на гэтым адрэзку, а таксама мог быць спробай выцягнуць яго да літоўскіх пазыцыяў для атакі. Шэрагі чэлядзі былі хутка адкінутыя царскімі аддзеламі. Тым часам прасунутая на-

[16] Pasek. S. 150—153.

*«Значкамі» называлі аддзелы, якія складаліся з чэлядзі, якой у якасьці камандзіра давалі з рэгулярнага войска нейкага латніка. Велічыня «значка» была рознай і залежала ад сытуацыі і патрэбаў. Зазвычай стараліся не ўлучаць чэлядзь у рэгулярныя баі. Яе заданьнем была абслуга шляхецкіх жаўнераў (догляд за рыштункам, конямі, здабыча харчоў для людзей і коней, гатаваньне ежы і г.д.). Аднак часам, жадаючы павялічыць свае сілы на полі бітвы, пасылалі на бой чэлядзь, сфармаваную ў т.зв. значкі са шляхецкім жаўнерам на чале. Такія значкі арганізоўвалі таксама тады, калі чэлядзь рассылалі па маёнтках, прызначаных войску для атрыманьня зь іх харчоў. Тады, напрыклад, з харугвы адпраўлялі ў паасобныя маёнткі значак, які складаўся з чэлядзі і аднаго ці пары афіцэраў на яе чале. — *Аўт.*

перад артылерыя і маскоўская пяхота пачала шчыльны абстрэл пазыцыяў праціўніка. Ім адказалі пастаўленыя перад шыхтамі каралеўскіх войскаў літоўскія і польскія гарматы. Чарнецкі загадаў таксама адкрыць агонь уласным драгунам. Аднак колькасная перавага гармат была на царскім баку, і яны хутка пачалі прычыняць вялікую шкоду коньніцы, якая стаяла шчыльным строем. Пад асаблівай пагрозай апынуліся коні, сярод якіх імкліва расла лічба забітых і параненых. Усчалося таксама вялікае замяшаньне ў шэрагах. Польска-літоўскаму боку заставалася толькі распачаць як найхутчэйшую атаку, каб вырвацца з-пад шчыльнага абстрэлу і пазьбегнуць шматлікіх далейшых стратаў. Гэта было тым больш неабходным, паколькі станавілася зразумела, што Даўгарукі, акрамя інтэнсіўнага абстрэлу, не намервацца пакуль што рабіць іншых дзеяньняў. Ужо набліжаўся поўдзень, і калі хацелася ў гэты ж дзень давесьці да развязкі, то трэба было сьпяшацца і хутка прымаць адпаведныя рашэньні[17].

Чарнецкі на сваім крыле зноў паслаў коньнікаў, якія, падступіўшыся пад строй непрыяцеляў, мелі заданьне справакаваць яго да атакі. Праз нейкі час гэта дало такі доўгачаканы эфэкт. На каронныя пазыцыі рушыла атака маскоўскіх войскаў левага крыла. Убачыўшы гэты рух непрыяцеля, рускі ваявода хутка пастроіў каралеўскі полк пад камандаваньнем старога жаўнера Габрыэля Вайніловіча і паволі скіраваў яго насустрач непрыяцелю, які набліжаўся. Калі адлегласьць паміж абедзьвюма групамі зьменшылася, яны галёпам рынуліся адна на адну. Коньніца вяла зацяты рукапашны бой, які працягваўся дзесяць зь нечым хвілін. Шалі перамогі не перахіліліся ні на той, ні на другі бок. Аднак колькасная перавага маскоўскіх коньнікаў выклікала непакой у Сапегі, які назіраў за гэтым боем з цэнтру строю. Ён паслаў на дапамогу каронным войскам дзьве харугвы. Не здаецца, каб гэта былі (як гэтага хоча Пасэк) харугвы зь левага крыла Паца і каб гэта быў аддзел з 1500 чалавек. Сапега кінуў у атаку, напэўна, некалькі соцень людзей са свайго адрэзку. Гэтая дапамога, якую, напэўна, вёў Палубінскі, прыбыла да стомленых жаўнераў Чарнецкага ў самы час, *«жорсткім імпэтам»* ударачы ў бок непрыяцеля. Маскоўскі строй перамяшалі і пачалі адпіхваць яго назад, наносячы цяжкія страты. Урэшце расейцы кінуліся наўцёкі, а палякі і ліцьвіны імкліва пагналіся за імі. Аднак каля варожага строю яны натыкнуліся на густыя залпы пяхоты і артылерыі, якая там стаяла і за якую схавалася ўцякаючая коньніца. Яны адбілі са стратамі атаку харугваў, якія вярнуліся да сваіх пазыцыяў[18].

Пасьля гэтых першых сутычак настаў часовы перапынак у баі, хоць надалей працягваўся артылерыйскі абстрэл з абодвух бакоў. Паволі над шэрагамі войскаў пачаў павісаць настолькі густы туман парахавога дыму, што пушкарам, якія абслугоўвалі гарматы, цяжка было трапна прыцэліцца. Пад уплывам няспыннага шчыльнага абстрэлу літоўска-польскі строй пачаў зьлёгку выгінацца, набываючы форму выпуклага паўмесяца. Жаўнеры каралеўскай арміі атрымалі суровы загад, каб ніхто, нягледзячы на забойчы агонь непрыяцеля, не наважваўся кранацца зь месца. Трэба было чакаць, пакуль увесь маскоўскі строй рушыць у адказ на правакацыйныя дзеяньні[19].

Часовы перапынак у бітве войскі выкарысталі для перагрупаваньня сваіх войскаў. Даўгарукі пачаў выводзіць на першую лінію чарговыя аддзелы коньніцы і пяхоты, якія стаялі ззаду пры гуляйгародах. Ён расставіў іх паводле добрых заходніх узораў, як шахматную дошку. Паміж аддзеламі коньніцы паставіў пяхоту з гарматамі. Агонь гармат і пяхоты, а таксама доўгія пікі і бердышы павінны былі ўзмоцніць націск уласна коньніцы. Пры патрэбе яна магла схавацца паміж ці за аддзеламі пяхотнікаў, якія

[17] Ausführliche Relation von einem Treffen... BN. Mf. 19809; Kochowski. S. 78; Łoś. S. 101; Poczobut Odlanicki. S. 143; Skorobohaty. S. 85.

[18] Pasek. S. 153—154.

[19] Kochowski. S. 78.

сваім агнём, пікамі і бердышамі маглі пасьпяхова стрымліваць атакі непрыяцельскай коньніцы.

На баку каралеўскіх войскаў паклікалі Мурашку, каб ён вывеў сваіх добраахвотнікаў і арганізаваную чэлядзь з-за ўзвышша, якое іх прыкрывала. Палкоўнік зрабіў гэта з такім размахам, што выклікаў гэтым і сваёй пазыцыяй павагу ў рэгулярных жаўнераў, якія глядзелі на гэта адвоішча і звычайна непахвальна выказваліся пра ягоных людзей. За фронтам войскаў група Мурашкі была перасунутая да левага крыла Паца, якое было колькасна слабейшым і таму магло патрабаваць падтрымкі. Падчас гэтага манэўру сярод польскіх і літоўскіх шэрагаў, якія назіралі за рухамі Мурашкі, падняўся спантанны крык. Яго пачулі і жаўнеры Даўгарукага і заўважылі, як за лініяй каралеўскіх войскаў падымаюцца з-за пагорку новыя аддзелы праціўніка. Гэта магло сьведчыць пра надыход нейкіх новых падмацаваньняў да супрацьлеглага боку. Аднаčасова царскаму вайскаводцу паслалі ганарыстыя заклікі біцца далей, на якія атрымалі такі ж задзірлівы адказ. Тады Даўгарукі актывізаваў сваю падрыхтоўку да вырашальнай расправы і паскорыў перакіданьне аддзелаў з тылу ў першыя шэрагі.

Сярод польскіх і літоўскіх вайскаводцаў адбылася тым часам кароткая нарада наконт далейшага бою. Было вызначана, што пасьля аднаўленьня бітвы першым выступіць Сапега і што ён надалей будзе падтрымліваць сваімі дзеяньнямі абодва крылы. Аднак усё давялося зьмяніць, калі ў пэўны момант зноў рушылі ў атаку маскоўскія войскі. Надыходзіў час вырашальнага сутыкненьня. Да каронная крыла зноў пачалі набліжацца моцныя аддзелы праціўніка, складзеныя з пастаўленых папераменна коньніцы і пяхоты. Яны стараліся абысьці гэтае крыло праціўніка. Супраць іх Чарнецкі кінуў у атаку дзьве харугвы: кароннага краўчага Вацлава Ляшчынскага і сахачэўскага кашталяна Францішка Мышкоўскага. У атаку на войскі праціўніка, якія валодаў колькаснай перавагай, іх павялі два вельмі дасьведчаныя паручнікі. Першую вёў Уладыслаў Скарашэўскі, а другую — Павел Бажэнцкі. Падчас набліжэньня малую групу польскіх коньнікаў пачала абкружаць маскоўская дваранская коньніца і райтары. Палякі хутка вырашылі ўдарыць на аддзелы ворага, якія атачалі крылы. На дваран рушыла харугва Мышкоўскага, а ў кірунку рэйтараў павярнуліся жаўнеры Ляшчынскага. Завязаўся бязьлітасны бой, у якім, напэўна, мяккі супраціў дваран хутка прынёс посьпех харугве Мышкоўскага, якая прабілася праз іх шэрагі. Затое цяжэй даводзілася другой харугве: яна загразла ў масе дасьведчаных і дысцыплінаваных рэйтараў. На гэтым адрэзку некалькі разоў адбываліся сутычкі бяз значнага выніку, пасьля якіх праціўнікі зноў кідаліся ў атаку[20].

У той самы час на супрацьлеглым краі групоўкі каралеўскіх войскаў, на адрэзку жамойцкай дывізіі таксама заўважылі рух аддзелаў праціўніка ў сваім напрамку. Убачыўшы гэта, вялікі гетман паслаў да камандзіра левага крыла Міхала Паца загад адразу атакаваць на чале гусарыі правае маскоўскае крыло. Напэўна, Сапега таксама паслаў яму са свайго адрэзку пэўную падтрымку з паручнікам сваёй гетманскай гусарскай харугвы Уладыславам Юр'ем Халецкім. Рэгімэнтар высунуў для атакі чатыры гусарскія і тры, напэўна, панцырныя харугвы, якія стаялі на ягоным адрэзку, а камандаваньне над імі было даручана ўласна Халецкаму. З захаванага нямецкамоўнага данясеньня вядома, што атакавалі дзьве гусарскія харугвы палявога гетмана Вінцэнта Гасеўскага, які знаходзіўся ў царскай няволі; трэцяй, перанятай па памерлым у кастрычніку 1659 г. Самулю Камароўскім, была харугва літоўскага канцлера Крыштапа Паца; ротмістрам чацьвёртай быў вількамірскі харужы Казімер Сясіцкі,

[20] Pasek. S. 155; Łoś. S. 102—103.

[21] Ausführliche Relation von einem Treffen... BN. Mf. 19809; Kochowski. S. 78.

**6. Бітва на Басі 8 кастрычніка 1660 г. (фаза II: спроба рэканструкцыі)**



які ў той час дзейнічаў супраць маскоўскіх войскаў на Браслаўшчыне[21]. Разам у гэтых чатырох харугвах было каля 500 гусараў. Іх магутная атака, падтрыманая трыма іншымі харугвамі, мела жахлівыя наступствы для правага маскоўскага крыла. Яны разграмілі пяхоту, якая стаяла на дарозе, і тая кінулася ўрассыпную ўцякаць па баках. Потым цяжкая літоўская конніца галёпам наляцела на масу конніцы праціўніка, якая набліжалася. Убачыўшы, што ў выніку такога значнага поспеху ўдарнай групы пахіснулася маскоўскае крыло, Пац кінуў у атаку рэшту сваіх харугваў жамойцкай дывізіі. За імі пайшлі натоўпы добраахвотнікаў і чэлядзі з-пад штандараў Мурашкі. Закіпеў бурны бой з конніцай Даўгарукага на правым крыле. Ён працягваўся досыць доўга, але ўрэшце царскія жаўнеры пачалі згінацца і адступаць пад шалёным напорам ліцьвінаў. Іх зацятасьць у гэтым баі была надзвычайнай, бо нават Пасэк, які іх на надта любіў, зь вялікім прызнаньнем выказваўся накont пазыцыі літоўскіх жаўнераў, выхваляючы нават паводзіны (як зазвычай казаў) *«галоты»* Мурашкі. Расейцы, даючы цьвёрды адпор, усё больш нэрвова адступалі да глыбокіх шэрагаў сваёй пяхоты, якая стаяла ззаду. Тут бой працягваўся досыць доўга, і ліцьвіны падчас атакі панеслі вялікія страты. Напэўна, там быў страчаны штандар жамойцкага войска, які насілі пры М.К. Пацу, а таксама штандар гусарскай харугвы палявога гетмана В. Гасеўскага, паручнікам якой быў Казімер Жаромскі. У маскоўскія рукі патрапіла яшчэ некалькі літоўскіх знакаў і, акрамя таго, крыху палонных.

Жаўнеры Паца адпіхвалі царскую конніцу ў тыл строю войскаў Даўгарукага, і яна набліжалася да шыхтоў пяхоты, якія там стаялі. Аднак, не жадаючы натыкнуцца на іх, афіцэры, якія камандавалі конніцай, намерваліся сысьці ў бакі па-за строем групоўкі правага крыла. Гэты манэўр, праведзены пры нарастаньні націску ліцьвінаў і дэзарганізацыі, што закрадалася ў расейскія шэрагі, закончыўся вельмі трагічна для войскаў правага крыла арміі Даўгарукага. Тады разарвалася лінія маскоўскай конніцы і пачаліся яе беспарадкавыя і панічныя ўцёкі па баках, як найдалей ад поля бітвы. За ёй рушыла пагоня часткі літоўскай конніцы. Забівалі кожнага, каго дасягала шабля. Ня бралі палонных. Шмат уцеклых жаўнераў Даўгарукага, ня ведаючы мясцовасьці, трапляла ў балоты, якія знаходзіліся непадалёк. Шмат каго туды загналі ліцьвіны, якія потым бязьлітасна секлі загразлых там маскалёў. Значная частка захопленай поспехам літоўскай конніцы потым пагнала далёка за поле бітвы, зацята перасьледуючы царскіх коньнікаў.

На полі бітвы з правым царскім крылом засталіся яшчэ моцныя маскоўскія рэгімэнты пяхоты. Разагрэтая незвычайным поспехам гусарыя і рэшта конніцы, якая не ўзяла ўдзелу ў пагоні, кінулася ў чарговую атаку. Было праведзена, напэўна, некалькі атакаў на царскіх пяхотнікаў, якія, як звычайна, мужна абараняліся. Тады былі панесены найвялікшыя страты ад іх агню, пікаў і бердышоў. Аднак урэшце супраціў маскоўскай пяхоты зламаўся, і яна рассыпалася пад ударамі гусараў і, несучы вялізныя страты, кінулася безладна ўцякаць да атачанага гуляйгародамі табару. На яе карках ехалі натхнёныя перамогай ліцьвіны, секлі шаблямі кожнага, хто толькі трапляў пад руку. Імкнучыся наперад, харугвы здабылі пакінутыя гарматы і выйшлі ў выніку ў самы тыл правага маскоўскага крыла, якое фактычна перастала існаваць. Разагнаўшы і высекшы царскіх жаўнераў, ліцьвіны дабраліся да самога табару, атачанага засекамі і гуляйгародамі, але не спрабавалі здабываць гэтае ўмацаванае месца[22]. У гэты час яны ўбачылі, што з боку супрацьлеглага варожага крыла, у тыле строю маскоўскага цэнтру бяжыць навуцёкі ў іхнім напрамку спалоханая маса царскіх жаўнераў. Стала зразумела, што каронным войскам таксама ўдалося зламаць крыло непрыяцеля, што стаяла насупраць іх.

[22] Poczobut Odlanicki. S. 143—144; Kochowski. S. 77—78; Ausführliche Relation von einem Treffen... BN. Mf. 19809.

У той час як ліцьвіны разьвівалі свой наступ на правае маскоўскае крыло, на кароннім флянгу Чарнецкі назіраў за змаганьнямі сваіх дзьвюх харугваў перад шэрагам варожых войскаў, якія няспынна прасоўваліся наперад. Урэшце, калі палічыў, што настаў адпаведны момант, кінуў у атаку сваю гусарскую харугву. Яе галоўным заданьнем была падтрымка жаўнераў харугвы В. Ляшчынскага, якая цяжка змагалася з маскоўскімі рэйтарамі. Потым выбраў каралеўскую гусарскую харугву, дадаў да яе восем іншых харугваў, ствараючы чарговую ўдарную групу на чале з Г. Вайніловічам. Астатнія харугвы аддаў пад камандаваньне шмяльтынскага старасты Станіслава Караля Лужэцкага. Рускі ваявода заахвоціў жаўнераў актывізаваць намаганьні, указваючы, што вечар ужо блізка і толькі так, да зьмярканьня, можна выбіць жаданую перамогу. Ён указаў ім, што ў атацы іх будзе падтрымліваць сваімі наступамі цэнтар Сапегі. Абедзьве гусарскія харугвы моцна ўдарылі ў лінію маскоўскай конніцы. На ўсёй кароннай лініі закіпеў зацяты рукапашны бой. Калі змагаліся зь непрыяцельскай конніцай, адважнага ўдзельніка тых падзеяў Пасэка асабліва прыгнятала тая колькасьць барадатых дваран, якіх яму даводзілася бачыць у варожых шэрагах. Палякам надзвычай цяжка было разарваць маскоўскі строй, паколькі паміж конніцы стаялі моцныя аддзелы пяхоты. Кожны раз, калі адкідалі назад царскую конніцу, натыкаліся на пяхоту, якая вельмі часта была прыкрытая частаколамі і загародкамі. Прабіцца за іх і дабрацца дзідамі і шаблямі да мужных пяхотнікаў было нязьмерна цяжка. Яны ж сваім агнём і доўгай зброяй на працягу доўгага часу пасьпяхова стрымлівалі напор палякаў: *«Пяхота, між камунікам памяшаная, вельмі нам шкодзіла; бо як трохі падапром непрыяцеля і на гэтых здраднікаў нападзём, то быццам хто па зубах даў»*, — надзвычай вобразна згадваў праз гады гэтыя драматычныя падзеі іх удзельнік Пасэк. Бязьлітасныя змаганьні працягваліся ўжо вельмі доўга, калі рускі ваявода пачаў чарговы раз падбадзёрваць сваіх жаўнераў да далейшага высілку. Адначасова ён паслаў да Сапегі просьбу, каб ён таксама як мага мацней наступіў на сваім адрэзку. Тым часам гусарская харугва Чарнецкага досыць нечакана для сябе прабілася праз пярэднія шэрагі ворага і забралася паміж рэгулярна пастаўленых груповак маскоўскай пяхоты. Яна панесла пры гэтым пэўныя страты, але па пустой прасторы нястрымна ляцела наперад. Відовішча грозных коньнікаў, якія гналі наперад, было вялікай нечаканасьцю для глыбейшых маскоўскіх аддзелаў. Некаторыя з тых, *«што баяліся за жываты»*, каб ня даць насадзіць сябе на доўгія дзіды гусарыі, разыходзіліся перад імі, прапускаючы тым самым далёка ў тыл. Хутка, як і ліцьвіны на правым крыле ворага, яна апынулася за сьпінамі левага маскоўскага крыла. Там якраз патрапіла ў ваколіцы аточанага гуляйгародамі табару і тое месца, у якім зь яго выходзілі войскі. Гусары спыніліся пры ім, павярнуўшыся перадам да тылу царскага левага крыла. Такім чынам яны блякавалі шлях магчымых уцёкаў у яго жаўнерам праціўніка[23].

Наконт зьяўленьня гусараў у далёкім тыле ворага адразу далі знаць Чарнецкаму. Гэта была надзвычай шчасьлівая навіна і прадвесьце перамогі ў гэтай зьнясільваючай бітве. Затое гэта страшэнна занепакоіла маскоўскіх камандзіраў і жаўнераў, тым больш, што ў гэты час пад ударамі ліцьвінаў разьбівалася іх правае крыло. Аднак бітва працягвалася далей, і ў баі ўсё яшчэ заставалася вялікая колькасьць адзінак Даўгарукага, якія захоўвалі парадак, у тым ліку амаль непарушаны цэнтар. Ён мог у кожны момант рашучым дзеяньнем паўплываць на далейшы ход баталіі.

Змаганьні на Басі працягваліся ўжо некалькі гадзін. Дзень пачынаў хіліцца да зьмярканьня. Убачыўшы гэта і, перш за ўсё, выйсьце сваёй гусарскай харугвы ў тыл ворага, рускі ваявода яшчэ раз падбадзёрыў сваіх жаўнераў да чарговага высілку.

---

[23] Pasek. S. 157—158; Kochowski. S. 78; Jerlicz. S. 60.

Цяпер мэтай было канчатковае зламаньне маскоўскага крыла. Чарнецкі хацеў таксама хутка дапамагчы сваёй адзінокай харугве, якая ў адваротным выпадку магла быць лёгка зьнішчаная маскалямі. Жаўнеры кінуліся ў чарговы наступ, натхнёныя прыкладам свайго вайскаводцы, які асабіста рушыў у бой. Сілаў дадавала таксама ўсьведамленьне штораз бліжэйшага посьпеху. Прыблізна ў гэты момант адбылася чаканая моцная літоўская атака на маскоўскі цэнтар. Ранейшыя заклікі Чарнецкага падтрымаць намаганьні кароннага крыла дайшлі да Сапегі. Вельмі праўдападобнае тое, што літоўскі гетман заўважыў насупраць сябе рух у адрэзку войскаў непрыяцеля. Даўгарукі, бачачы несрыяльнае для яго разьвіцьцё сытуацыі на сваіх крылах, сабраў, колькі мог, пяхоты ў цэнтар і, няспынна страляючы са сваіх гармат у адрэзак Сапегі, пачаў прасоўвацца ў ягоным напрамку. Маючы заклік ад Чарнецкага, а таксама ўбачыўшы нарастаньне небясьпекі сваіх войскаў, Сапега загадаў Палубінскаму на чале астатніх літоўскіх гусарскіх харугваў ударыць у цэнтар маскоўскага строю. Палявы пісар адважна справіўся са сваім заданьнем і, напэўна, часова дасягнуў пэўнага посьпеху. Аднак яго не падтрымалі далейшыя сілы і пад усё большым з кожнай хвіляй напорам маскоўскіх масаў, пераважна пяхоты, ён быў вымушаны адступіцца ад штурмаваньня варожага строю[24].

Атака Палубінскага таксама моцна закранула і левае крыло арміі Даўгарукага, якое змагалася з Чарнецкім[25]. Царскія жаўнеры пачалі хістацца пад напорам палякаў і чарговага ўдару ў іхні бок людзей палявога пісара. Зьявіліся першыя прыкметы замяшаньня, якое, хутка нарастаючы, прывяло да панікі і ўцёкаў коньніцы да табару ў тыле. Паніка галоўных адзінак у пагрозьлівым тэмпе пачала перадавацца прыцісканым дальнім царскім аддзелам ззаду, на якія насядалі жаўнеры, уцеклыя зь першай лініі. Як прызнаваў у лісьце да цара Даўгарукі, перамешваліся нават старыя драгунскія палкі і рэйтарскія, якімі камандавалі дасьведчаныя афіцэры, і пачыналі ўцякаць, пакідаючы сваіх камандзіраў. Тое самае адбывалася і на правым крыле, якое разьбілі ліцьвіны. Убачыўшы рэтыраду коньніцы, запанікавала пяхота, якая стаяла на атакаваным палякамі крыле, і таксама пачала ўцякаць у тым самым напрамку з поля бою. Для каронных харугваў настаў час пагоні. Бітва пачала зьмяняцца ў разьню ўцеклых масаў пераможаных коньнікаў і пяхотнікаў. Дэзарганізаваныя натоўпы царскіх жаўнераў з трывогай убачылі каля табару, што шлях да ратунку ім закрывае, стоячы там, гусарская харугва. Пры кожнай спробе падысьці да брамы табару яна апускала свае дзіды, паказваючы на гатовасьць да бою. Яна ня мела б шанцаў стрымаць напору вялікай колькасьці жаўнераў, але паўсюдная паніка не дазволіла ім правесьці нейкую прадуманую акцыю. Маючы за сьпінай пагоню палякаў, усё большы натоўп уцекачоў пралазіў пад гуляйгароды і засекі табару. Пяхота і артылерыя, якая там стаяла, не маглі сваім агнём біць у палякаў, паколькі баяліся, што больш стратаў выклікаюць сярод цісканіны ўласных таварышаў. Ад польскіх шабляў загінула там шмат царскіх жаўнераў. Ня могучы лёгка прабрацца ўнутар умацаваньняў табару, спалоханыя жаўнеры пачалі ўцякаць па баках. Найбольш магло папшчасьціць тым, каму ўдалося вырвацца з поля бітвы і ўцячы ў лясы. Тыя ж, хто ўцякаў у тыл свайго цэнтру, з жахам убачылі перад сабой наступ літоўскіх харугваў. Яны патрапілі ў пастку. Там палегла найбольш царскіх жаўнераў. Шмат каму, нягледзячы ні на што, удалося ўцячы з пасткі, дабрацца да шэрагаў маскоўскага цэнтру і сярод іх знайсьці ратунак. Таксама вялікая частка ўцекачоў здолела ўрэшце прабрацца ў табар, а найбольш недабіткаў, абмінаючы яго, уцякло ў лясы, толькі б найдалей ад поля жахлівай бітвы. За імі ў далёкую пагоню кінулася значная частка лягчэйшых каронных харугваў. Сьледам за пера-

[24] Ausführliche Relation von einem Treffen... BN. Mf. 19809.

[25] Kochowski. S. 79.

**7. Бітва на Басі 8 кастрычніка 1660 г. (фаза III: спроба рэканструкцыі)**



можнай коньніцай рушылі польскія і літоўскія пяхотнікі, якія дагэтуль заставаліся ў шанцах крылаў каралеўскай арміі. У прынцыпе не беручы ўдзелу ў змаганьнях, менавіта яны, на шчырае абурэньне Пасэка, мелі найбольшую нагоду нажыцца, абшукваючы палеглых непрыяцеляў. А мелі да гэтага нагоду, паколькі загінула шмат маскоўскіх баяраў, дваран і афіцэраў[26].

Посьпех Рэчы Паспалітай на абодвух крылах быў несумненны. Абедзьве гэтыя часткі маскоўскай арміі былі зьнішчаныя. Аднак гэта не азначала, што бітва ў той час завяршылася. Калі палякі на адным крыле, а ліцьвіны на другім заканчвалі зьнішчажэньне рэштак царскіх аддзелаў, адбывалася драматычная барацьба ў цэнтры. Даўгарукі выдатна здаваў сабе справу з паразы сваіх крылаў. Ён быў пад вялізным уражаньнем зацятасьці атакі польскіх і літоўскіх войскаў. Гэта абсалютна не адпавядала ўражаньню, якое склалася ў папярэднія дні. Аднак ён ня падаў духам і не паддаваўся прыкметнай навокал паніцы, якая ахапіла значную частку ягонага войска. Яму застаўся яшчэ вельмі моцны цэнтар арміі. Перад сабою ён меў сярэдзіну каралеўскай арміі, якой камандаваў Сапега. Ягоныя флянгі былі практычна адкрытыя, паколькі жаўнеры Паца з аднаго боку, а Чарнецкага з другога ўцягнуліся ў захапляльную пагоню за разьбітымі маскоўскімі крыламі. У гэты момант адрэзак Сапегі быў пазбаўлены большасьці сваёй коньніцы. Паводле складзенага раней пляну, яе частка была пасланая на дапамогу Міхалу Пацу, які атакаваў правае маскоўскае крыло, а найлепшыя цяжкія адзінкі на чале з палявым пісарам былі кінутыя ў атаку на цэнтар Даўгарукага. Яны не дасягнулі там посьпеху і без своечасовай падтрымкі былі адкінутыя ворагам. Частка гэтых сілаў уцягнулася каля каронных войскаў у змаганьні з царскімі жаўнерамі на левым крыле варожай арміі, а рэшта, напэўна, вярнулася ў цэнтар да Сапегі.

Заўважыўшы такую зручную для сябе сытуацыю, Даўгарукі паскорыў марш свайго цэнтру да адрэзку Сапегі. Удар масы маскоўскіх войскаў на адрэзак Сапегі абрынуўся як гром сярод яснага неба. Убачыўшы наступ непрыяцеля, які шчыльна біў з агнявой зброі, нешматлікая коньніца, што стаяла перад пярэдняй лініяй уласнай пяхоты, паддалася паніцы. Яна павярнула коней і кінулася наўцёкі. Зрабіла гэта так няўдала, што наляцела на пяхоту, якая стаяла ззаду на шанцах. Зь ёй перамяшаліся коньнікі. Якраз на гэтую мітусьню натрапілі, наступаючы, расейцы. Пад добрым камандаваньнем, яны моцна ўдарылі на строй каралеўскай арміі, ламаючы яго. Не сустрэлі вялікага супраціву і безь вялікіх цяжкасьцяў разьбілі іх. Загінула там крыху літоўскіх коньнікаў, у вялікай небясьпецы апынуўся сам Сапега, пад якім забілі каня. Аднак найвялікшыя страты панесла пакінутая і дэзарганізаваная ўласнай коньніцай пяхота цэнтру. Расейцы выгналі яе з шанцаў, прычыняючы ёй страты, якія пазьней ацэньваліся ў 500 чалавек. У палон былі схопленыя 32 чалавекі. Там яны захапілі найвялікшую гармату. Аднак не былі ў стане весьці далейшага наступу і забіраць іншых, меншых гармат, бо ў сувязі з паразай сваіх крылаў маглі быць лёгка атачаныя польскімі і літоўскімі харугвамі, якія паволі пачалі заўважаць катастрофу цэнтру арміі і скіроўвацца яму на дапамогу. Тады расейцы распачалі, захоўваючы ўзорны парадак, павольнае адступленьне да свайго табару. У прыцемку, сярод імглы парахавога дыму, сярод паўсюднага крыку і грому гармат і мушкетаў польскія і літоўскія камандзіры ня вельмі арыентаваліся ў нешчасьлівым павароце сытуацыі ў цэнтры. Калі яны гэта заўважылі, шмат часу прайшло, перш чым сабралі крыху сваіх аддзелаў, якія былі ў пагоні, каб зь імі адносна арганізавана рушыць супраць Даўгарукага. Царскія афіцэры вельмі спраўна засланяліся сваёй пяхотай ад ня вельмі энэргічных атакаў непрыяцеля. У выніку самі каралеўскія камандзіры стрымалі сваіх стомленых жаўнераў ад далейшых атакаў, якія давалі надзею разьбіць ворага. Ужо было цёмна,

[26] AMG. T. III. № 186/3 i 4. S. 167—171; Pozobut Odlanicki. S. 143—144; Pasek. S. 158—159; Łoś. S. 102—103.

неставала сілаў для вядзеньня далейшай цяжкай бітвы, баяліся нечаканай небясьпекі. Дзякуючы гэтаму маскоўскай групоўцы ўдалося дайсьці да свайго табару. Калі па дарозе да яго і каля яго знаходзіліся польскія і літоўскія аддзелы, то яны сыходзілі са шляху перад набліжэньнем масы пяхоты і коньніцы Даўгарукага ці былі адкінутыя адтуль. Такім чынам войскі маскоўскага цэнтру здолелі дабрацца да ўмацаванага табару і закрыцца ў ім разам з жаўнерамі, якія былі пастаўленыя там яшчэ да бітвы, і тымі, што з разьбітых крылаў здолелі там схавацца[27].

Манэўр, выкананы цэнтрам войскаў Даўгарукага, прынёс яму бясспрэчны посьпех. Нейкім чынам ён кампэнсаваў відавочную паразу на абодвух крылах і панесеныя там значныя страты. Гэта было магчыма дзякуючы цудоўнай пазыцыі мужнай маскоўскай пяхоты з цэнтру, якая, нягледзячы на паразу крылаў, ня падала духам, а захоўвала ўзорную дысцыпліну. Дзякуючы ёй удалося бясьпечна вярнуцца ў табар, даставіўшы здабытую гармату як знак перамогі. Аднак расейцы заплацілі за гэта вялікую цану. Акрамя палеглых ад рукі працІўніка жаўнераў, якіх, напэўна, было мала, шмат пяхотнікаў загінула ў выніку ўласнага мушкетнага агню. Жаўнеры стралялі, стоячы ў вельмі цесным шыхце, і ў іх запальваліся ад агню парахавыя мушкетныя зарады, што насіліся на пасах, якімі пяхотнікі падпярэзваліся праз грудзі. Ад іх пачыналі гарэць абкладзеныя бавоўнай кафтаны. Такім чынам пад Басяй загінула шмат маскоўскіх жаўнераў у цэнтры групоўкі Даўгарукага, як, відаць, і ў іншых аддзелах пяхоты. Якуб Лось, які аб'язджаў на другі дзень месца пабоішча, са зьдзіўленьнем бачыў парэштკі палеглых гэтак жаўнераў, і праз гады ён не забыў згадаць пра гэта ў сваіх успамінах[28].

Бітва была па сутнасьці скончаная. Здалёк ад месца бою яшчэ працягвалася зацятая пагоня, але зьмярканьне прымусіла ад яе досыць хутка адмовіцца і вярнуцца на месца праведзенай бітвы. Цяжка і небясьпечна было гнацца ва ўсё большым змроку за шматлікім непрыяцелем па малавядомай тэрыторыі, а тым больш па лясах. Заклікалі вяртацца і камандзіры, а на ўскрайках месца пабоішча загадалі распаліць вялікія вогнішчы, каб палегчыць арыентацыю на мясцовасьці. Зносілі забітых таварышаў і параненых, сярод якіх значная частка памерла ў наступныя дні. Зьбіралі здабычу як знак перамогі. Пры страце адной сваёй гарматы ў ворага ўдалося забраць восем гармат. У рукі палякаў і ліцьвінаў патрапіла шмат харугваў, але таксама шмат іх было здабыта і маскоўскімі жаўнерамі. Падобная сытуацыя склалася і з палоннымі. Поле бітвы засталося ў руках палякаў і ліцьвінаў. Гэта быў знак перамогі, аднак усе добра ўсьведамлялі, што непрыяцель калі і разьбіты, але не разгромлены, і ён надалей застаецца небясьпечным у сваім блізкім табары. Цешыліся з разгрому двух крылаў маскоўскай арміі. Аднак нішто не засланіла факту, што ў цэнтры была панесеная цяжкая параза. Суцяшаліся толькі прагнозамі, што калі б ня ноч, то Даўгарукаму не далі б уцячы ў лягер, але разграмілі б ягоную пяхоту, як тую, што атачылі і выбілі пад Палонкай[29].

Яшчэ ў тую самую ноч войска пачало пакідаць месца пабоішча і перапраўляцца праз Басю ў свой лягер. Гэта адбывалася так няспраўна, што згадвалася пазьней, што, калі б у той час ударыў непрыяцель, каралеўскія войскі несумненна панесьлі б паразу. Тым часам у маскоўскім лягеры суцішалі паніку і парадкавалі разьбітыя аддзелы. Разьюшаныя царскія жаўнеры кінуліся на палонных, большасьць зь якіх забілі на месцы. Зь іх рук удалося вырваць толькі сем чалавек. Калі ўрэшце ўдалося

[27] W. Huryn do B. Radziwiłła, Słuck 19 X 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 5569/I. S. 102; AMG. T. III. № 186/3. S. 167; Kochowski. S. 79—80; Poczobut Odlanicki. S. 144—145; Łoś. S. 103.

[28] Łoś. S. 103.

[29] Kochowski. S. 80; Łoś. S. 103—106; J.H. Ukolski do Klimańskiego, z obozu nad rzeką Basią 24 X 1660. VUB. Ks. Gr. Wiłkomirska 1661—1664. F. 7—24/13900. K. 138—139.

навесьці нейкі парадак і расейцы ўбачылі, што палякі і ліцьвіны адышлі за раку, таксама і Даўгарукі а трэцяй гадзіне ўначы вывеў сваё войска з табару і скіраваўся зь ім у галоўны лягер, які быў далей у тыле. Адтуль адразу паслаў рапарт пра бітву да цара, у якім абвінавачваў Хаванскага і Залатарэнку, што яны не прыйшлі да яго з дапамогай. У каралеўскім лягеры падобныя прэтэнзіі заявіў да М. Паца вялікі гетман, што яшчэ доўгія месяцы вярэдзіла і так благія стасункі паміж імі. Гетман вінаваціў Паца, што калі б той не пакінуў пад Вільняй значных аддзелаў, то вынік бітвы на Басі быў бы больш выгадны. Сапега бедаваў аб паразе свайго адрэзку і шукаў вінаватага. У гэтым мог быць схаваны дакор да самога сябе, бо ён добра ведаў, што каля 15 жніўня кароль даў гетману паўнамоцтва сьцягнуць жаўнераў з-пад Вільні і з-пад Браслава, чаго ён не зрабіў. Калі пра няпоўны посьпех на Басі даведаўся Ян Казімер, ён адразу падзякаваў войску і гетману, але ў сваю чаргу не забыўся дакарыць Сапегу, што, калі б ён узяў пад увагу яго жнівеньскія парады, перамога магла б стаць вырашальнай[30].

Цяжка дакладна вызначыць людзкія страты, панесеныя абодвума бакамі. Звычай бакі трымаліся правіла заніжаць уласныя страты і завышаць нанесеныя праціўніку. Трэба прызнаць, што ў польскіх апісаньнях бітвы досыць выразна згадвалася пра бязьлітаснасьць змаганьня, цьвёрдасьць праціўніка і высокія ўласныя страты. Называюцца прозьвішчы забітых таварышаў, але гэта толькі знаёмыя аўтару апісаньня. Я.У. Пачобут-Адляніцкі згадвае сярод палеглых ротмістра Мікалая Шэмета, а таксама некалькі іншых больш вядомых яму таварышаў[31]. Шмат іншых не было згадана. Затое памяталася, што ў цэнтры загінула 500 пяхотнікаў падчас атакі Даўгарукага. Узятыя ў палон польскія і літоўскія жаўнеры праз пару дзён пасьля бітвы сьцьвердзілі, што падчас баёў у першыя дні кастрычніка каралеўскія войскі страцілі забітымі больш за паўтары тысячы чалавек. Аднак можна быць упэўненым, што Даўгарукі, які пасылаў гэтыя зьвесткі цару, завышаў страты, нанесеныя праціўніку, каб падняць гэтак вагу сваіх дасягненьняў. Вялізныя страты польска-літоўская армія панесла ў конях. Асаблівую шкоду прынесла ім доўгае знаходжаньне пад агнём маскоўскай артылерыі, а таксама атакі на апшчаціненыя пікамі і бердышамі аддзелы пяхоты. З поля бітвы забралі таксама сотні параненых жаўнераў. Іх адсылалі на лячэньне ў недалёкі Шклоў. Шмат зь іх у наступныя дні памерла. Іх, а таксама сабраных з поля пабоішча палеглых літоўскіх і польскіх жаўнераў пахавалі пры касьцеле кляштару дамініканаў у Шклове. У чарговыя гады, перапоўненыя далейшымі войнамі з Масквою, памяць пра палеглых на Басі братоў па зброі не была забыта. У чэрвені 1664 г. палявы гетман Міхал Казімер Пац ад імя ўсяго літоўскага войска выставіў асыгнату для шклоўскіх айцоў дамініканаў на 1 тыс. зл., каб яны правялі набажэнствы за душы палеглага рыцарства, а асабліва тых, што палеглі на Басі. Атрымліваючы праз месяц гэтыя грошы са скарбу, дамінікане абавязаліся ў Вільні, што ў іх шклоўскім касьцеле на вечныя часы будзе правіцца імша за душы гэтых палеглых[32]. Да пераліку польска-літоўскіх стратаў трэба дадаць тых, каму не пашчасьціла, і яны патрапілі ў палон. Цяжка сказаць, колькі іх было. Можна згадаць Крыштапа Чыжа з гусарскай харугвы Паўла Сапегі, а таксама Адама Каменскага-Длужыка, аўтара ўспамінаў пра няволю ў Сібіры. Прыгнаны разам зь іншымі палоннымі пасьля бітвы ў лягер, ён быў

[30] AMG. T. III. № 186/3. S. 168; K. Pac do M.K. Paca, Kraków 10 XI 1660, BCzart. 418. S. 266; Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Kraków 30 X 1660. LvNB. Fond 103. № 1757.
[31] J.W. Poczobut Odlanicki. S. 144—145; J.H. Ukolski do Klimańskiego, z obozu nad rzeką Basią 24 X 1660. VUB. Ks. Gr. Wiłkomirska 1661—1664. F. 7—24/13900. K. 138—139; Listy Gąseckiego, z obozu b.d. [X 1660]. BJag. 5. S. 764—766.
[32] LVIA, SA, 4107. S. 175, 188; AMG. T. III. № 186/3. S. 168.

прыкаваны да гарматы, і там, у галечы і холадзе, яму давялося сядзець, пакуль Даўгарукі ня змог адысьці да Магілёва. У гэтым горадзе ён заставаўся ў вязьніцы, пакуль маскоўскія войскі ў сьнежні не адышлі ў Смаленск. А ён сам разам зь іншымі палоннымі патрапіў у Маскву. Там яго разам зь іншымі вязьнямі паказалі цару, а потым выслалі ў Сібір. Вярнуўся ў край толькі ў 1671 г., пасьля заканчэньня вайны Андрусаўскай дамовай у 1667 г. Затое ў магілёўскай вязьніцы застаўся ўзяты ў палон на Басі Лукаш Дамінік Клішэўскі, латнік каралеўскай гусарскай харугвы, паручнікам якой быў Палубінскі. У пачатку 1661 г. ён адзначыўся энэргічным удзелам у змове і падбухторваньні мяшчан да выступленьня супраць царскай залогі, якое скончылася ў лютым яе выбіцьцём і здачай гораду каралеўскім войскам. Гэта прынесла Клішэўскаму свабоду і грашовую ўзнагароду ад караля[33].

Страты царскай арміі на польскім баку ацэньвалі ў залежнасьці ад крыніцы ў 3—4 тыс.[34]. Затое ў адным з найбольш падрабязных і добрасумленных нямецкіх данясеньняў згадваецца лічба 1 тыс. палеглых у гэтай бітве расейцаў з заўвагай, што яна не ахоплівае тых, што загінулі ў зарасьніках. У складзеным Даўгарукім адразу пасьля бітвы як звычайна ў такіх выпадках падрабязным і дакладным пераліку стратаў сваёй арміі зьяўляецца лічба 1155 чалавек, а ў тым ліку 427 забітых[35]. Цалкам магчыма, што гэтая лічба найбліжэйшая да праўды. Ня вельмі высокая колькасьць палеглых можа здавацца дзіўнай у параўнаньні са згадкамі пра высокія страты польскіх і літоўскіх войскаў, якія хутчэй маглі ганарыцца дасягненьнем значных посьпехаў у гэтай бітве. Лічба, пададзеная Даўгарукім, можа таксама зьдзіўляць, асабліва калі згадаць пра нашмат вышэйшыя страты арміі Хаванскага ў нашмат карацейшай бітве пад Палонкай. Аднак трэба памятаць, што там адбыўся разгром царскай арміі і працяглы перасьлед, які вёўся днём, а працівнік ня меў магчымасьці схавацца ў разьмешчаным паблізу табары ці лесе. Пад Палонкай пяхоту атачылі і зьбольшага высеклі. На Басі вялікая колькасьць маскоўскіх жаўнераў закрылася ў блізкім табары, шмат схавалася ў лесе, да таго ж іх ратавала ноч. Трэба таксама памятаць, што сама барацьба польскай і літоўскай конніцы пры наступленьні на непрыяцельскую конніцу, якую моцна падтрымлівалі агонь і доўгая ручная зброя дадаткова прыкрытай засекамі пяхоты, магла прывесьці да значна большых стратаў сярод пераможцаў, чым сярод тых, хто ўрэшце сышоў з поля бітвы. Бітва прынесла арміі Даўгарукага нашмат больш адчувальныя страты і з той прычыны, што вялікая колькасьць яго ных жаўнераў уцякла з поля бою. Праз пару дзён пасьля яе зьявіліся цэлыя групы ўцекачоў, якія налічвалі нават па некалькі дзясяткаў чалавек, у Красным, Смаленску, Ельні. Яны разносілі панічныя весткі, што армія іх вайскаводцы зьнішчаная, а ён сам асаджаны палякамі і ліцьвінамі. Гэтых уцекачоў вылоўлівалі і адсылалі ў лягер Даўгарукага. Там іх адпаведным чынам каралі. Іх білі батогамі ці кнутом на казьле, вадзілі па лягеры і клеймавалі іх за пазыцыю, а потым прымалі назад у аддзелы. Некалькіх для запалохваньня павесілі ў лягеры і пры дарогах[36]. Ян Хрызастом Пасэк згадвае таксама пра некалькі соцень маскоўскіх пяхотнікаў, узятых у палон. Зразумела, што і такім шляхам армія Даўгарукага страціла са сваіх шэрагаў жаўнераў. Звычаем той эпохі іх разьдзялілі паміж аддзеламі Сапегі і Чарнецкага, папаўняючы такім чынам панесеныя страты[37].

Назаўтра пасьля бітвы ў лягеры каралеўскіх войскаў было праведзенае набажэнства падзякі і сьпявалася *«Te Deum laudamus»* [«Цябе, Божа, славім». — *Заўв. пе-*

[33] AVAK. T. XXXIV. № 180. S. 202—203.
[34] AMG. T. III. № 186/3. S. 168; Continuation der von den höchsten... BN. Mf. 37747; Kochowski. S. 79.
[35] Ausführliche Relation von einem Treffen... BN. Mf. 19809; AMG. T. III. № 186/4. S. 169—171.
[36] AMG. T. III. № 186/5. S. 171.
[37] Pasek. S. 159.

*ракл.*]. Тым часам маскалі выйшлі зь лягеру і шыхтам пасунуліся аж на ўчарашняе поле бітвы. Здавалася, што яны рыхтуюцца да чарговай бітвы. Да іх рушылі войскі Рэчы Паспалітай. Расейцы, убачыўшы набліжэньне праціўнікаў, адступілі да сваіх шанцаў, толькі сабраўшы сваіх палеглых у папярэдні дзень. 10 кастрычніка зноў магло здавацца, што бітва будзе працягнута, паколькі войскі сталі ў шыхтах насупраць адно аднаго. Аднак нічога ня здарылася, толькі ў той і наступны дзень сутыкаліся коньнікі. Войскі заставаліся насупраць адно аднаго ў сваіх лягерах, разьдзеленых ракою. Тое, што надалей існавала баяздольная армія Даўгарукага, зрабіла праведзеную бітву невырашальнай. Каб зрабіць свой посьпех поўным, Сапега і Чарнецкі павінны былі дабіць варожую армію і разграміць яе войскі. На гэта не было сілаў, а штурмаваньне маскоўскага лягеру зусім не разглядалася хоць бы з увагі на малую колькасьць пяхоты, артылерыі і амуніцыі. Не было шанцаў заблякаваць і змарыць голадам праціўніка, бо прадбачлівы Даўгарукі шчодра забясьпечыў сябе харчамі. Затое правіянту пачало нехапаць палякам і ліцьвінам, як і корму для коней. З гэтай прычыны 15 кастрычніка было вырашана крыху перасунуць лягер. Ужо перад першай бітвай, калі змагаліся з праблемай харчаваньня жаўнераў, а тым больш пасьля яе задумваліся над падзелам для войска канкрэтных паветаў, зь якіх яны змогуць узяць сабе правіянт. Меркаваньні наконт гэтага караля і Сапегі зноў разышліся. Ян Казімер запратэставаў, каб, насуперак яго ранейшаму жаданьню, Сапега ўдзяліў апекаванай манархам жамойцкай дывізіі землі цалкам спустошанага і часткова занятага ворагам Мсьціслаўскага ваяводзтва і тэрыторыі на верхнім Дняпры. Кароль папярэдзіў гетмана, каб не рабіў гэтага, паколькі нястача, якая чакае на тых землях жаўнераў, прымусіць разысьціся гэтую частку войска на тэрыторыі, ад якой у значнай ступені залежыць лёс айчыны. Нарэшце адкрыта абвінаваціў Сапегу, што ён упарта імкнецца зьнішчыць дывізію, якая выкошваецца з-пад яго камандаваньня, і загадаў яму абыходзіцца зь ёй нароўне са сваім правым крылом[38].

У гэтыя першыя дні пасьля правядзеньня цяжкай бітвы настрой у літоўскім войску быў вельмі благі. Жаўнеры здавалі сабе справу, што апошняя баталія разьвівалася ня цалкам шчасьліва і што яе нельга параўнаць зь бітвай з-пад Палонкі. Праціўнік ня быў разгромлены, а панаваньне над чарговымі землямі Рэчы Паспалітай не было вернутае. Наадварот, былі страчаны нават пэўныя здабыткі. Чакаліся чарговыя цяжкія змаганьні з разьмешчаным на другім баку Басі праціўнікам і войскамі, якія ішлі яму на дапамогу. Стомленыя жаўнеры заўважалі вялізныя страты і паведамлялі ў глыб краю, што разам іх, палякаў і ліцьвінаў, засталося ня больш за 12 тыс. Хоць праз адсутнасьць поўнага посьпеху перавага праціўніка перабольшвалася, аднак яшчэ была надзея хутка расправіцца зь ім. Нашмат больш аптымізму было сярод жаўнераў Чарнецкага, а ліцьвінаў ахоплівала чарговая хваля бунтаўнічых настрояў[39].

Іншым чыньнікам, які адмоўна ўплываў на мараль войска, была агульнавядомая антыпатыя вайскаводцаў. Было моцнае напружаньне таксама на лініі кароль — літоўскі гетман, а Сапега пачынаў адкрыта пагражаць, што пакіне войска і скіруецца пад Вільню[40]. Крыва глядзелі на сябе жаўнеры абедзьвюх літоўскіх дывізій, якія да таго ж абураліся з прычыны няспыннага парушэньня Рэччу Паспалітай абяцаньняў наконт выплаты належнага ім жолду. Мала таго, адразу пасьля бітвы адбылася фатальная, асабліва для літоўскіх войскаў, падзея, наступствы якой адбіліся на далейшых змаганьнях з Масквою. З Падляшша прыбылі ў лягер на Басі пасланцы, інфар-

[38] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Kraków 30 X 1660. LvNB. Fond 103. № 1757, 1758.

[39] Nowiny z listów pana Goseckiego z pułku Jmci Pana Czarnieckiego Woiewody Ruskiego w Litwie in Novembri et Decembri 1660 pisane. BJag. 5. S. 764.

[40] Jan Dziewałtowski do B. Radziwiłła, Zasuń 25 X 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 3522. S. 10.

муючы, што на тамтэйшыя радзівілаўскія ўладаньні збройна напаў князь Багуслаў Радзівіл. Справа гэтых уладаньняў цягнулася зь верасьня 1655 г., калі ў сувязі з ашаламляльнымі швэдзкімі перамогамі і распадам польска-літоўскай дзяржавы Ян Казімер, будучы ў трагічным становішчы, аддаў войску, якое адступала ад вялікага літоўскага гетмана Януша Радзівіла і не пераходзіла зь ім да швэдаў, усю маёмасьць ад яго, Багуслава, і іншых здраднікаў. У чарговыя гады сытуацыя Рэчы Паспалітай зьмянілася, князь Багуслаў прысягнуў у вернасьці польскаму манарху, а быдгоска-вяляўскія пагадненьні 1657 г. і потым у Аліве ў 1660 г. забясьпечылі яму поўную амністыю і вяртаньне ягонай маёмасьці. Аднак засталася праблема з войскам, якое, ня могучы дачакацца са скарбу Рэчы Паспалітай жолду, не хацела так проста сыходзіць з багатых радзівілаўскіх маёнткаў. Пагадненьні наступных гадоў і прапановы князю выплаціць прэтэнзіі войска наяўнымі грашыма не прыносілі плёну. У пачатку 1660 г. у падляскіх і разьмешчаных у Гарадзенскім павеце ўладаньнях Багуслава гаспадарылі жаўнеры літоўскага правага крыла, пасьпяхова руйнуючы іх. Скіраваўшыся ў чэрвені супраць Хаванскага, яны пакінулі там свой набытак і сем'і. Пасьля іх адыходу далёка ў глыб Літвы князь вырашыў напасьці на гэтыя ўладаньні і забраць іх сілай. Пад канец жніўня з Кнаскай Прусіі вырушыў аддзел 150 драгуноў, які ў верасьні ўвайшоў у гэтыя ўладаньні і забраў іх для князя. Паводле ягоных прыхільнікаў, гэта адбылося без ніякіх крыўдаў. Іншую думку мелі сямейнікі жаўнераў і самі жаўнеры дывізіі Сапегі. Як яны сьцьвярджалі, даходзіла да гвалту, зьбіцьця афіцэрскіх жонак і іх слугаў, выгнаньня цэлых сем'яў і масавых рабункаў[41]. Войска, якое стаяла на Басі, было страшэнна абуранае на князя, які не хацеў служыць айчыне. Яго дакаралі, што *«калі мы ваявалі, то князь ягамосьць меў некалькі тысяч чалавек, пры швэдах будучы, а цяпер ня толькі ніякіх людзей на службу Айчыны нам не дае, але яшчэ ў той час, калі мы праліваем кроў, ён вaюе з нашымі жонкамі і дзецьмі»*. Жаўнеры, падазраючы, што ва ўсёй гэтай справе Радзівіл меў падтрымку каралеўскага двара, пачалі пагражаць, што пакінуць службу і разьедуцца па дамах. Пагроза была яшчэ больш рэальнай, калі ўлічыць, што набліжалася 9 лістапада, чарговы тэрмін выплаты жолду, пра які і так усе ў войску ведалі, што, як і ў папярэднія гады, і на гэты раз ня дойдзе. Зьявіліся галасы за тое, каб сярод харугваў, што стаяць у Беларусі, арганізаваць збройную выправу на Падляшша і адбіць забраныя ўладаньні[42].

Гэтыя вялізныя хваляваньні былі асабліва небясьпечныя для каралеўскіх войскаў, да якіх усё часьцей даходзілі весткі пра набліжэньне чарговых маскоўскіх сілаў. Ніхто не сумняваўся, што наперадзе былі чарговыя змаганьні. Усё гэта пагражала папросту разгромам ці, прынамсі, паралізаваньнем дзейнасьці сапегаўскай дывізіі і, магчыма, жамойцкай дывізіі, якая салідарна выказала сваю падтрымку праваму крылу. З найвялікшаю цяжкасьцю гетману ўдалося суняць хваляваньні жаўнераў, якія паслалі толькі сваіх паслоў са скаргай да караля. Але ўсё адно засталася вельмі благая атмасфэра ў войску, якая пазьней дадаткова пагоршылася, калі пераканаліся, што насамрэч яго справа прайграная. Імкліва ўпала ахвота несьці цяжкую службу. З усё большаю сілай зноў падымаліся прэтэнзіі наконт пратэрмінаванага жолду і абвінавачаньні, што ў войска забіраюць нават тое, што яму далі раней як кампэнсацыю ці ўзнагароду. Люта раззлаваны на князя быў і без таго непрыязны да яго Сапега. У сваім лісьце ён даў Радзівілу прыклад сваіх уладаньняў, зь якіх у такі цяжкі для айчыны пэрыяд жыве войска. А Сэбасьцяну Пшыбароўскаму, які стараўся зьмякчыць гнеў гетмана і яго жаўнераў, тлумачыў,

[41] J. Mierzeński do B. Radziwiłła, Królewiec 6 VIII 1660, ліст ад 17 і 31 VIII. Тамсама. № 9646/II. S. 81—99; K. Łopata do B. Radziwiłła, Zabłudów, 25 XI 1660. Тамсама. № 8916. S. 17; Rachuba A. Sprawa dóbr Radziwiłłów birżańskich w latach 1655—1662 // Miscellanea Historico-Archivistica. 7 (1997). S. 51—66.
[42] K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 30 XI 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/II. S. 11—14.

што гэты ўдар па інтарэсах войска быў зроблены ў самы фатальны момант. Указаў, што напад трэба было зрабіць або нашмат раней, або напачакаць зь ім, пакуль армія справіцца зь непрыяцелем. А так абяцаў, што жаўнеры задаволяць крыўду коштам копыскіх і слуцкіх уладаньняў князя, якія знаходзяцца паблізу[43].

У апошнія дні, якія міналі пад знакам такіх небясьпечных жаўнерскіх хваляваньняў, прыходзіла ўсё больш новых данясеньняў пра набліжэньне ў раён нядаўняй бітвы чарговых маскоўскіх войскаў. Гэта не давала спаць каралеўскім вайскаводцам, а асабліва, напэўна, літоўскаму гетману. Зьвесткі пра тое, што з Полацку падцягваецца з дапамогай Даўгарукаму армія князя Хаванскага, з кожны днём станавіліся ўсё больш выразнымі. Урэшце прыйшла навіна, што ягоныя жаўнеры стаяць ужо ў Лепелі. Каб пры патрэбе засьцерагчыся ад іх нечакана блізкага набліжэньня да каралеўскіх пазыцыяў, ужо адразу пасьля 10 кастрычніка гетман, напэўна, узгадніўшы гэта з Чарнецкім, паслаў у бок Хаванскага паўтаратысячны аддзел жаўнераў на чале з палкоўнікамі Самулем Кміцічам і Самулем Аскіркам. Хіба што тады яшчэ не было дакладнага пляну далейшых крокаў супраць войска непрыяцеля. З усё больш слабай надзеяй разьлічвалі на чарговую магчымасьць вырашальнага сутыкненьня з Даўгарукім, але гэта ўскладняла жахлівае надвор'е. У наступныя дні надзея на расправу з арміяй Даўгарукага, якая стаяла за Басяй, слабела, затое ўзрастала пагроза з боку Хаванскага. Таму давялося лічыцца з патрэбай адмовіцца ад шчыльнай блякады з выкарыстаньнем усіх сілаў. Каб заняць лепшую пазыцыю пры магчымым сутыкненьні з дапамогай, якая павінна была надысьці з Полацку, каралеўскія вайскаводцы думалі перанесьці лягер паміж Шкловам і Копысем[44].

У польска-літоўскім лягеры чулі таксама пра фармаваньне чарговай варожай арміі пад камандаваньнем Пятра Даўгарукага — брата Юр'я Даўгарукага, які сядзеў у лягеры на Басі. Дрэнныя навіны прыходзілі нават з Палесься. Хоць пінскай шляхце ўдалося непадалёк ад Турава разьбіць 15 кастрычніка моцны казацкі аддзел, аднак палонныя прызнавалі, што былі пляны з дапамогай казакоў з Кіева рушыць большымі сіламі праз Тураў, Мазыр на Пінск. Меркавалася заняць і выразаць яго, а потым пасьлаць дапамогу Берасьцю. У гэты час сытуацыя ва Ўкраіне не была яшчэ да канца высьветленая і ніхто ня мог сказаць, наколькі рэальная небясьпека адтуль[45].

Калі ўзяць пад увагу ўсе гэтыя зьвесткі пра маскоўскія падмацаваньні, а таксама абвастрэньне праблемаў з харчамі і хваляваньні ў войску, станавілася зразумелым, што час адназначна ідзе не на карысьць палякаў і ліцьвінаў. Як бы ў пацьверджаньне гэтага 14 кастрычніка ў лягер Даўгарукага прыйшоў з-пад Крычава паклікаены адтуль раней ваявода Максім Рціщчаў. Ён прывёў аддзел з 893 жаўнераў. Гэта была досыць значная сіла, якая ў пэўнай ступені кампэнсавала страты, панесеныя падчас бітвы. Для каралеўскіх вайскаводцаў гэта было вельмі дрэннае прадвесьце. Гэта прымушала іх прыняць канкрэтнае рашэньне: ці, даўжэй застаючыся на месцы, чакаць надыходу далейшых сілаў ворага (у дадзеным выпадку арміі Хаванскага), ці таксама вырушыць супраць яе[46]. Пры гэтым вялося назіраньне за рухамі варожых войскаў. Высылаліся далёкія разьезды, якія пры нагодзе здабывалі такія патрэбныя харчы. Яны абышлі армію Даўгарукага і перапраўіліся за раку Проню ў кірунку Смаленшчыны. Увайшлі ў

[43] P. Sapieha do B. Radziwiłła, w Mieleszkiewiczach 23 XI 1660. Тамсама. Dz. V. № 13868/IV. S. 155—156; A.H. Połubiński do B. Radziwiłła, z obozu pod Uhłami 13 X 1660. Тамсама. № 12080/I. S. 54; S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Kopyś 14 X 1660. Тамсама. № 12561. S. 95.
[44] Тамсама. S. 96—97; NN do B. Radziwiłła, ze Słucka, b.d. [X/XI 1660]. Тамсама, неўпарадкаваныя паперы.
[45] AVAK.T. XXXIV. № 164. S. 184—185.
[46] Łoś. S. 106; Poczobut Odlanicki. S. 145; Skorobohaty. S. 86; Kochowski. S. 81.

Малыя Горы, а каля іх стаяў нейкі час вялікі аддзел Агінскага. Іншыя разьезды рушылі ў ваколіцы Мсьціслава. Таксама ў полацкім кірунку да мястэчка Чарэі дайшлі каралеўскія загоны з харугваў Кміціча і Аскіркі, якія набліжаліся туды. Паводле гетманскіх загадаў яны павінны былі спыніцца ў Лукомлі і там сачыць за рухамі войскаў непрыяцеля, якія ішлі з боку Полацку. Адзін з пасланых разьездаў, напэўна, з кароннага войска, меў загад, вяртаючыся ў лягер, пераходзіць бліжэй да ўмацаваньняў Магілёва. У той час аказалася, што весткі з поля бітвы вельмі асьцюдзілі аптымістычныя настроі сярод абаронцаў. Калі каралеўскія харугвы адыходзілі з-пад гэтага гораду супраць блізкага непрыяцеля, магілёўцы кпілі зь іх, пагражалі Даўгарукім, кайданамі і няволяй. Аднак цяпер ціха сядзелі на валах і моўчкіназіралі за праходжаньнем разьезду. Нельга зьдзіўляцца з паводзінаў маскоўскай залогі і тых мяшчан, якія выказваліся за тое, каб стаяць на царскім баку. Іх надзеі на тое, што падзеі ў ваколіцах Магілёва будуць разьвівацца падобна, як у 1655 г., ня спраўдзіліся, і было не зусім вядома, што прынясе найбліжэйшая будучыня. У гэты час для здабыцьця інфармацыі і харчоў Даўгарукі таксама пасылаў са свайго лягеру разьезды. Яны падбіраліся і пад пазыцыі польска-літоўскіх войскаў. Даходзіла тады да дробных сутычак. Адбыліся яны і тады, калі ў полі даваліся сустрэцца двум варожым разьездам[47].

У цяжкім становішчы знаходзіўся і Даўгарукі. Каралеўская армія не дала сябе разьбіць і нават дасягнула значнага посьпеху на полі бітвы. Хоць, стоячы на другім баку Басі, яна не атакавала, але яе разьезды шырока пранікалі ў далёкія ваколіцы. Гэта не дазваляла Даўгарукаму распачаць далейшыя дзеяньні. Выхад з прыгнечанай апошняй бітвай арміяй на адкрытую прастору, дзе яе не ахоўвалі б умацаваньні лягеру, пагражаў яму атакай і атачэньнем з боку выдатнай і хуткай каралеўскай коньніцы. Гэта магло прынесьці і паразу, і зьнішчэньне арміі. Таму Даўгарукаму заставалася трымацца лягеру і чакаць надыходу падмацаваньняў. Вера ў прыбыцьцё казакоў Залатарэнкі ўжо зьнікла, але было вядома пра царскія загады хутка скіравацца да поля бітвы на Басі, аддадзеныя Хаванскаму, Пятру Даўгарукаму (брату Юр'я, што стаяў на Басі) і іншым царскім вайскаводцам. Сам вайскаводца, які сядзеў ва ўмацаваным лягеры на Басі, пасылаў шмат лістоў цару, свайму брату і Хаванскаму, каб тыя пасьпяшаліся з дапамогай. Незвычайнай радасьцю было прыбыцьцё войскаў Рціщчава. Гэтая падзея нязьмерна падбадзёрыла вайскаводцу і ягоных жаўнераў. Яна пацьвердзіла, што пра іх не забыліся, што дапамога магчымая і можа з дня на дзень зьявіцца над каркамі каралеўскіх жаўнераў. Усё гэта, нягледзячы на апошнія няўдачы, дазваляла расейцам з пэўнай надзеяй глядзець у найбліжэйшую будучыню і надалей спадзявацца на дасягненьне яшчэ ў гэтую восень значных посьпехаў на Дняпры і Бярэзіне.

[47] Copia listu JMci Xiędza Pikarskiego Soc: Jesu Spowiednika JMci Pana Woiewody Ruskiego, b.m.d. [X/XI 1660]. BJag. Akc. 69/52. K. 9v; AMG. T. III. № 194/2. S. 180; № 209. S. 190; № 220/1. S. 205.

**8. Сытуацыя ў Літве ў пэрыяд з кастрычніка да сьнежня 1660 г.**





# XIII. Разгром Хаванскага. Апошнія змаганьні на Дзьвіне

У Маскве, адправіўшы супраць каралеўскіх войскаў армію Юр'я А. Даўгарукага, рыхтавалі падтрымку для яе. З гэтай мэтай фармавалася чарговая армія пад камандаваньнем ягонага брата, ваяводы і акальнічага Пятра Аляксеевіча. 18 верасьня ён быў у цара, які адправіў яго ў шлях з войскам. 23 верасьня ён вырушыў з Масквы са сваімі людзьмі, якіх удалося сабраць. Зь імі ён павінен быў скіравацца на дапамогу свайму брату пад Магілёў. Да ягонага сьціплага войска праз пару дзён было загадана далучыцца пакінутаму ў Маскве швадрону зь першага выбранага палка А. Шэпелева, якім камандаваў маёр Дзьмітры Пятроў-Дураў. Крыху пазьней таксама было загадана, каб да П. Даўгарукага ішла другая тысяча другога выбарнага палка Якава Калюбякіна, якім камандаваў Іван Жданаў[1]. Здаецца, што Пётар Даўгарукі ня вельмі сьпяшаўся з маршам, паколькі зь вялікімі цяжкасьцямі зьбіраў сілы для сваіх шэрагаў. Паволі ён дайшоў да Вязьмы і затрымаўся там.

Тым часам зьвесткі пра бітву на Басі хутка дасягнулі Крамля, выклікаўшы там сур'ёзны непакой. Хоць расейцы на ўсе бакі званілі пра свой посьпех, адразу ж вырашылі пасылаць дадатковыя падмацаваньні Даўгарукаму. Таксама тыя, каму раней было наказана ісьці з расейскім войскам у армію гэтага вайскаводцы, атрымалі загады, якія прысьпешвалі іх да хуткага маршу. Ужо 13 кастрычніка цар наказаў Пятру Даўгарукаму, каб ён неадкладна ішоў з войскам да свайго брата. Ён павінен быў зьбіраць жаўнераў у Вязьме, што паміж Масквой і Смаленскам. Акрамя таго, туды было загадана скіравацца пакліканым на службу дваранам і баярскім дзецям з розных гарадоў паўночна-ўсходняй Расеі. У той жа дзень з Масквы паслалі Сямёна Зьмеева з тым самым заданьнем, а смаленскаму ваяводу Барысу Рапніну наказалі, каб аддаў яму ўсіх жаўнераў, якія калісьці былі ў палку Зьмеева. Ваяводу Максіму Рцішчаву таксама загадалі неадкладна ісьці з-пад асаджанага Крычава са сваімі людзьмі на Басю, што той ужо даўно зрабіў. Асаблівы заклік накіравалі Хаванскаму. Ён павінен быў пакінуць у Полацку столькі людзей, колькі палічыць неабходным, і без маруджаньня адпраўляцца, каб разам з Даўгарукім зьнішчыць армію Чарнецкага і Сапегі. Пры нагодзе цар, ведаючы гарачы характар гэтага вайскаводцы, не забыўся нагадаць яму, каб у дарозе захоўваў асаблівую асьцярожнасьць, разьбіваў лягеры, пасылаў разьезды, абы толькі праціўнік не засьпеў яго зьнянацку. З думкай пра падтрымку вайскаводцы, які стаяў над Басяй, нават полк з Тулы і Разані быў перасунуты пад камандаваньнем акальнічага Міхала Сямёнавіча Валынскага ў Калугу. Аднак хутка гэтыя пляны зьмянілі і паслалі гэтыя адзінкі ў напрамку Украіны, дзе ваенныя падзеі набылі ў той час для Масквы яшчэ горшы абарот, чым у Літве[2].

Хаванскі апраўдваў перад царом сваё ранейшае маруджаньне з хуткай выправай на дапамогу Даўгарукаму пагрозай, якая зьявілася ў сярэдзіне верасьня з боку заўважаных каля Полацку харугваў Самуля Кміціча і добраахвотніцкіх харугваў вядомага на гэтых землях ужо з 1654 г. палкоўніка Караля Лісоўскага. Ён меў таксама сур'ёзныя клопаты са збунтаванымі жаўнерамі ў Полацку, што ўскладняла распачацьце хуткіх шырокамаштабных дзеяньняў. Хваляваньні сярод жаўнераў князя, якія стаялі на Дзьвіне, былі настолькі сур'ёзныя, што сам цар павінен быў накіраваць туды свайго пасланца, каб пакласьці ім канец[3]. Насамрэч Хаванскі, напэўна, меў яшчэ адну

[1] Малов А.В. Московские выборные полки...

[2] AMG. Т. III. № 187/1—6. S. 171—173; № 188/2. S. 174; № 193. S. 178—179.

[3] AMG. Т. III. № 165. S. 148—149.

важную для яго прычыну марудзіць з маршам у кірунку Басі. Яму было недаспадобы ісьці да галоўнай арміі, якой камандаваў ніжэйшы рангам Даўгарукі. Ганарысты і запальчывы князь мог успрыняць гэта як ганьбу і рабіць усё, каб не дайсьці занадта хутка да лягеру, у якім галоўную ролю будзе адыгрываць з волі цара той вайскаводца, а ён сам будзе яму ўскосна падпарадкаваны. Зноў падагнаны Аляксеем Міхайлавічам, ён рушыў 2 кастрычніка ў кірунку Лепеля на чале арміі, якая налічвала 5 тыс. жаўнераў. Там ён намерваўся прыняць рашэньне, пайсьці яму ў кірунку Магілёва ці Вільні, куды яго клікаў з-пад аблогі Жаромскага ваявода Даніла Мышэцкі. Вестка пра нерашучасьць князя выклікала абурэньне Даўгарукага, якому так моцна ў гэтыя дні была патрэбна яго дапамога. 20 кастрычніка цар чарговы раз прысьпешыў Хаванскага, каб той ішоў на Дуброўну і там пераправіўся праз Дняпро. Адначасова загадаў камандзірам, якія былі ў ваколіцы, злучыцца з Хаванскім, каб падмацаваць ягоныя сілы. А смаленскі ваявода Барыс Рапнін чарговы раз атрымаў заданьне здабыць харчы, але на гэты раз і для арміі Хаванскага, і для арміі Пятра Даўгарукага, які набліжаўся хуткім маршам да Смаленску. Гэтым двум вайскаводцам ён павінен быў дадаць таксама патрэбныя ім гарматы і амуніцыю. Нягледзячы на шматлікія лісты да цара, якія тлумачылі, што ў Смаленску ўжо няма дастатковай колькасьці войска, ён атрымаў загад папоўніць жаўнерамі блізкія войскі Пятра Даўгарукага. Аляксей Міхайлавіч у раптоўна пагоршанай сытуацыі на фронце зьвярнуўся таксама з палкім заклікам да ўсіх падданых, пасланых з Масквы ў армію гэтага вайскаводцы. Заклікаў іх да пасьпешнасьці і адданай службы ў абароне праваслаўнага хрысьціянства, каб, памятаючы пра *«страх Божы»*, біліся з палякамі, не шкадуючы сваіх галоў. Каб дзейсна заахвоціць іх да ахвярнасьці, цар абяцаў ім узнагароду ад Бога ў выпадку сьмерці, а іх пакінутым дзецям і жонкам — сваю царскую апеку[4].

Такое хуткае, як хацеў Аляксей Міхайлавіч, выкананьне ягоных загадаў арганізавала пасьпяховую дапамогу арміі, што стаяла на Басі, сутыкалася са шматлікімі перашкодамі. У час, калі Хаванскі паволі накіроўваўся з Полацку ў Лепель, у Вязьму прыбыў з Масквы 14 кастрычніка Пётар Даўгарукі. Адолеўшы вельмі цяжкую дарогу, ён прывёў з сабой 1993 жаўнеры. Іх магло быць і больш, але па дарозе многія дэзэрталі з шэрагаў. У Вязьме яго чакала чарговае расчараваньне. Там пасьпела сабрацца ўсяго толькі 37 дваран і баярскіх дзяцей. Тыя пераконвалі, што падцягнуцца іншыя, як толькі замерзнуць балоцістыя дарогі. Падчас нядоўгага пастою правёў агляд войска і рээрганізацыю даручанай яму на царскі загад другой тысячы выбарнага палка. Паводле загаду ён павінен быў служыць як салдацкая пяхота. Перафарматаваць гэтую адзінку пачалі яшчэ пад Масквой, а цяпер закончылі. Такім чынам, перад выйсцем зь Вязьмы П. Даўгарукі ў сваёй арміі меў 380 адборных драгуноў з палка А. Шэпелева пад камандаваньнем Д. Дурава і 700 адборных салдатаў з палка Я. Калюбякіна, якімі камандаваў І. Жданаў[5]. Гэта былі, несумненна, самыя каштоўныя адзінкі ў ягонай малой арміі, і яны складалі стрыжань войскаў, скіраваных на дапамогу ягонаму брату.

У Вязьме 16 кастрычніка ён атрымаў царскі загад як мага хутчэй ісьці на дапамогу свайму брату. Яшчэ ў той жа дзень ён рушыў на чале 2030 чалавек у далейшы шлях, пасылаючы на дарогі, што вялі да Масквы, некалькіх жаўнераў, каб яны зьбіралі і пасылалі ў войска ўсіх, хто, марудзячы ў дарозе, ішоў яшчэ толькі да Вязьмы. 24 кастрычніка ён быў у Дарагабужы, дзе атрымаў царскі загад папоўніць сілы ў Смаленску. Вельмі хуткім маршам ён дайшоў туды праз чатыры дні. Па дарозе да яго далучы-

[4] AMG. T. III. № 186/3. S. 168; № 188/2. S. 174; № 191/1—4. S. 176—177; № 192. S. 177—178; № 220/2. S. 207.

[5] Малов А.В. Московские выборные полки...

лася некалькі дзясяткаў чарговых дваран і баярскіх дзяцей, якія зьбіраліся вельмі павольна. У Смаленску ён атрымаў папаўненьне аддзеламі стральцоў, салдацкай пяхоты і драгуноў. Гэтак ягоная армія ўзрасла да 4356 жаўнераў. Ён узяў таксама 10 гармат, але Рапнін ня мог даць яму шмат амуніцыі для іх. Назаўтра пасьля прыбыцьця ў Смаленск атрымаў ліст ад свайго брата, у якім той заклікаў як найхутчэй прыбыць з усімі сіламі ў Краснае, каб адтуль ісьці да ягонага лягеру на Басі. Пасьля атрыманьня гэтага ліста яшчэ два дні яму заняла апошняя падрыхтоўка і прыняцьце да сваёй арміі дададных яму Рапніным чатырох стралецкіх прыказаў, што сумарна складала, за выключэньнем хворых і зьбеглых, 2194 жаўнеры. Марш у кірунку войскаў брата распачаўся 31 кастрычніка[6].

У той час як Пётар Даўгарукі набліжаўся да Смаленску, большы непакой Чарнецкага і Сапегі выклікалі дзеяньні Хаванскага. Ідучы з Полацку і змагаючыся зь нясьпынным дэзэртаваньнем, ён дайшоў найпазьней 9 кастрычніка да разьмешчанага прыблізна за 70 км на поўдзень Лепеля. Адтуль у наступныя дні ён паслаў разьезды ў Лукомль і Чарэі. Яны схапілі палонных, між іншым, каронных і літоўскіх жаўнераў. Ад іх ён даведаўся пра колькасьць войскаў Рэчы Паспалітай і іх разьмяшчэньне. Болш даспадобы яму былі, напэўна, сьведчаньні мяшчан з Чарэі, якія, пачуўшы пагалоскі, якія раней разыходзіліся з ваколіц Басі, пераказвалі іх Хаванскаму. Расказалі яму пра бітву з Даўгарукім на Басі, сьцьвярджаючы, што каронныя войскі панесьлі там цяжкую паразу. Літоўскія жаўнеры нібыта ўцякалі з поля бітвы, а Сапега са сьлязьмі на вачах маліў іх застацца пры ім і Чарнецкім і ісьці на бой з маскоўскім ворагам. Таксама дадалі Хаванскаму, што казакі прыйшлі на дапамогу і стаяць пад недалёкім ад Магілёва Старым Быхавам. Пачуўшы гэта, князь вельмі падбадзёрыўся і 19 кастрычніка рушыў зь Лепеля ў недалёкі Лукомль. Адтуль намерваўся скіравацца ў Талачын і далей у Шклоў, дзе, як чуў, стаіць лягер каралеўскіх войскаў, якія надалей знаходзяцца на Басі. Плян быў просты, і Хаванскі вельмі верыў у яго пасьпяховасьць. Царскія арміі павінны былі наблізіцца да лягеру літоўскіх і каронных войскаў з трох бакоў, пазбавіць іх магчымасьці здабываць харчы і заблякаваць іх паміж Басяй і Дняпром. Князь чакаў, што войскі Чарнецкага і Сапегі ня будуць стаяць бязьдзейна, ведаючы пра яго набліжэньне. Здагадваўся, што распачнуць дзеяньні супраць яго, перапраўляючыся за Дняпро і скіроўваючыся насустрач яму. З гэтай прычыны ўжо 13 кастрычніка ён адправіў пасланца да Юр'я Даўгарукага, інфармуючы яго пра свае пляны. Прасіў яго, каб ішоў на дапамогу са сваімі людзьмі, калі каралеўскія войскі адступяць ад ягонага лягеру, кіруючыся супраць арміі, якая ідзе з Полацку. Хаванскі разьлічваў на тое, што тады ўдасца дабрацца да іх дзьвюм маскоўскім арміям і здабыць супольную перамогу. Аднак з увагі на разьмешчаныя там польскія і літоўскія харугвы павінен быў адправіць да Даўгарукага свайго пасланца вельмі вакольным шляхам, праз Віцебск і Смаленск. У пэрспэктыве імклівых падзеяў, якія сталі разгортвацца ў наступныя дні, ён меў мізэрныя шанцы своечасова данесьці гэтыя паведамленьні ў пункт прызначэньня[7].

У Лукомлі Хаванскі зьявіўся, напэўна, ужо 20 кастрычніка. Праз дзень ён атрымаў там навіну, што 1000 чалавек Кміціча і Аскіркі спыніліся ў аддаленай за няпоўныя 15 км Чарэі. Абодва літоўскія палкоўнікі хіба што ня ведалі, што ў той самы час так блізка ад іх стаяў Хаванскі. Яны былі для яго сур'ёзнай перашкодай на далейшым шляху да Шклова і Магілёва. Таму ён вырашыў як мага хутчэй расправіцца зь імі і рушыў 22 кастрычніка супраць іх. Ліцьвіны, зарыентаваўшыся ў небясьпецы, пачалі

[6] AMG. № 194/1—2. S. 179—180; № 225/1. S. 212.
[7] AMG. T. III. № 197. S. 181; № 204. S. 187—188; NN do B. Radziwiłła, ze Słucka, b.d. [X/XI 1660]. AGAD. AR. Dz. V, неўпарадкаваныя паперы.

адступаць з Чарэі, але да іх задніх аддзелаў здолелі дабрацца пасланыя наперадзе маскоўскія войскі і на значнай адлегласьці перасьледавалі ліцьвінаў, якія адыходзілі. Калі ўжо ўся армія Хаванскага апынулася ў Чарэі, было выкарыстана вельмі зручнае разьмяшчэньне гораду. Паміж чарэйскім манастыром і разьмешчанымі ў непасрэдным суседзтве азёрамі расейцы разьбілі грунтоўна ўмацаваны валамі лягер. Туды таксама перавезьлі ўвесь правіянт і іншыя запасы[8]. Затое ліцьвіны затрымаліся падчас адступленьня ў разьмешчаным за няпоўныя 40 км ад Чарэі мястэчку Талачыне. Яно знаходзілася вельмі блізка ад берагоў балоцістай рэчкі Друці. Абодва літоўскія палкоўнікі мелі там крыху часу на ўпарадкаваньне сваіх аддзелаў, адразу ж скіравалі пасланцоў да Сапегі і Чарнецкага з трывожнымі навінамі. У той час Хаванскі неўласьцівым для сябе спосабам прышыніў свае дзеяньні і некалькі чарговых дзён займаўся ўмацаваньнем разьбітага ў Чарэі лягеру. Гэта была вялікая памылка, бо ён упусьціў шанец апынуцца на Дняпры ў Шклове, перш чым на заходні бераг пачала перапраўляцца дывізія Чарнецкага. Хаванскі зрабіў таксама іншую, яшчэ больш сур'ёзную памылку. За ўсе гэтыя дні ён не паслаў ніводнага разьезду, каб сачыць за пачынаньнямі праціўніка. Увесь час ён быў глыбока пераканаңы, што ўсе каронныя і літоўскія войскі стаяць пад лягерам Даўгарукага. Ужо хутка за гэты недагляд маскоўскі князь жорстка паплаціўся.

Дзеяньні войскаў Хаванскага ня выпалі з-пад увагі занепакоеных літоўскіх і каронных вайскаводцаў. Навіны пра набліжэньне ягонай арміі, а з боку Смаленску — войскаў Пятра Даўгарукага разыходзіліся і сярод жаўнераў, якія стаялі ў лягеры на Басі. Зьявілася няўпэўненасьць, а паручнік казацкай харугвы М.К. Паца Юры Геранім Укольскі пісаў свайму сябру: *«Пан Бог ведае, ці мы вытрымаем»*[9]. Тым часам пацьвердзілі набліжэньне ворага разьезды, адпраўленыя Кміціцам і Аскіркам, якія дзейнічалі паблізу Хаванскага. У гэтай сытуацыі нельга было даўжэй марудзіць і заставацца на займаным дагэтуль месцы на Басі. Калі б Хаванскаму ўдалося ўвайсьці ў вузкі пас тэрыторыі паміж рэкамі Друцьцю і Дняпром і заняць Шклоў і Копысь, то каралеўскія войскі, якія знаходзіліся на ўсходнім беразе гэтай апошняй вялікай ракі, апынуліся б у пастцы. Было б надзвычай цяжка, маючы па другі бок ракі Хаванскага, а за сабой армію Даўгарукіх, паставіць мост і пераправіць усё войска, каб атрымаць свабоду дзеяньня. Адбылася нарада, падчас якой Чарнецкі прапанаваў плян выйсьця з войскам зь лягеру супраць Хаванскага. Спачатку насіліся з намерам ударыць на Хаванскага каароннымі сіламі і сапегаўскай дывізіяй. Жамойцкая дывізія мусіла б застацца і пільнаваць Даўгарукага, пакуль войскі ня вернуцца пасьля расправы з арміяй, якая ідзе з Полацку. Усё трэба было правесьці так, каб трыманы ў блякадзе маскоўскі вайскаводца ня надта хутка зарыентаваўся ў рухах каралеўскіх войскаў. Сапега згадзіўся з гэтым, і было вырашана з часткай сілаў пайсьці за Дняпро. У ноч з 23 на 24 кастрычніка рушыў са сваёй дывізіяй Чарнецкі і хутка пасьля гэтага на лодках, паромах і праз часовы мост перапраўіўся пад Шкловам праз Дняпро. Адразу пасьля яго пакінуў лягер гетман Сапега са сваёй дывізіяй. Войскі выйшлі зь лягеру ноччу, каб не будзіць чуйнасьці праціўніка за Басяй, а таксама ня даць ніякай магчымасьці, каб пра выправу супраць сябе даведаўся Хаванскі. Плян дзеяньняў нейкі час удавалася захоўваць у таямніцы ад сваіх жаўнераў, асабліва з жамойцкай дывізіі, якая павінна была застацца на месцы і пільнаваць лягер Даўгарукага. Баяліся хіба што пратэстаў і зьвязаных з гэтым складанасьцяў, якія маглі б парушыць ажыццяўленьне гэтага пляну ці небясьпечна запозьніць яго. Спачатку нечаканы сыход зь лягеру

[8] AMG. T. III. № 220/1. S. 203; Copia listu Jmci Xiędza Pikarskiego. BJag. Akc. 56/52. K. 9v.
[9] J.H. Ukolski do Klimańskiego, z obozu nad rzeką Basią 24 X 1660. VUB. Ks. Gr. Wiłkomirska 1661—1664. F. 7—24/13900. K. 138v.

каронных жаўнераў выклікаў у пакінутай літоўскай арміі працьму плётак і здагадак, якія тлумачылі адыход Чарнецкага вядомымі канфліктамі паміж ім і Сапегам. А выправа вялікага гетмана з войскам занепакоіла пакінутых жаўнераў Паца, якія засталіся адныя пад самым бокам ворага. Гэтая трывога вельмі паглыбілася, калі раптам 24 кастрычніка з маскоўскага лягеру пачуўся шум гармат і мушкетаў. Ліцьвіны па-рознаму тлумачылі гэта, спадзеючыся, што або дайшлі да Масквы зьвесткі аб разгроме каронных войскаў ва Ўкраіне, або што ў лягер за Басяй прыйшлі нейкія большыя падмацаваньні. У выніку высьветлілася, што тамтэйшыя жаўнеры такім чынам цешацца, атрымаўшы навіну пра абяцаную ім царскую ўзнагароду. Былі і здагадкі, што ім, магчыма, аб'явілі пра ўжо блізкую дапамогу арміі, якая ідзе з Полацку[10].

На другі дзень прыйшлі нечаканыя ардынансы гетмана, каб жамойцкая дывізія таксама адпраўлялася з-пад Басі ў Шклоў, паблізу якога на Дняпры, але па яго заходнім баку, стаяла дывізія Чарнецкага. На месцы ранейшага пастою паставілі на варту полк Станіслава Ліпніцкага. Аднак ужо 27 кастрычніка яго там не было, паколькі ён скіраваўся да галоўнай арміі. Такая імклівая зьмена плянаў і рашэньне пакінуць блякаду Даўгарукага былі выкліканыя весткамі ад Кміціча і Аскіркі пра тое, што набліжаецца Хаванскі і будуе ўмацаваны лягер. Прагнаныя з Чарэі палкоўнікі, магчыма, настолькі перабольшылі сілы праціўніка, што было вырашана пераправіць за Дняпро таксама жамойцкую дывізію, каб у выпадку неабходнасьці мець яе пад рукой. Правядзеньне яе пераправы ў вялізным беспарадку і страху заняло цэлыя тры дні. У той час, калі літоўскія жаўнеры жамойцкай дывізіі заканчвалі пераправу праз Дняпро, рускі ваявода рушыў са сваімі харугвамі ў напрамку разьмешчанага на адлегласьці каля 50 км на паўночны захад Талачына. Да Кміціча і Аскіркі паслалі вестку, што падцягваецца дапамога. Пераправіўшыся праз раку, Сапега загадаў умацаваць фартыфікацыі Шклова, дадаць забесьпячэньня харчамі, амуніцыі і для абароны гэтага гораду пакінуў у ім невялікі аддзел пяхоты пад камандаваньнем дасьведчанага афіцэра Гуга Акелія. А сам з рэштай войска сваёй дывізіі скіраваўся за Чарнецкім. Пад Шкловам пакінуў жамойцкую дывізію з Пацам і Палубінскім. Стоячы там, яны павінны былі сачыць за пачынаньнямі Даўгарукага, прыкрываючы апэрацыю супраць Хаванскага[11].

Тым часам Чарнецкі, які рушыў з-пад Шклова ў кірунку Талачына, паслаў да ўкамплектаванай Хаванскім Чарэі моцны разьезд. Ён падышоў пад самы непрыяцельскі лягер і схапіў вялікую колькасьць палонных. Паводле рускага ваяводы, маскоўскі князь быў перакананы, што гэта было справай Кміціча і Аскіркі. Як заўсёды ў падобных выпадках, так і на гэты раз вельмі хутка прыняў рашэньне расправіцца зь імі і 26 кастрычніка паслаў супраць іх моцны аддзел войска, у тым ліку два ўзброеныя палкі рэйтараў, якімі камандавалі нямецкі палкоўнік Якуб Більс і маскоўскі Аляксей Данілаў. Ён налічваў цэлыя 2,5 тыс. жаўнераў. Плянавалася засьпець ліцьвінаў зьнянацку, таму марш адбываўся ўначы. Праўдападобна, яны крыху заблукалі, але, нягледзячы на гэта, раньнім восеньскім золкам 27 кастрычніка маскалі нечакана для Кміціча і Аскіркі зьявіліся пад Талачыном. Расейцы з маршу атакавалі засьпетых цалкам зьнянацку і непадрыхтаваных да бою ліцьвінаў. За дзень да гэтага абодва літоўскія камандзіры атрымалі вестку, што набліжаюцца людзі Чарнецкага, а замест яго на іх абрынуліся людзі Хаванскага. І хоць ліцьвіны давалі моцны адпор, яны не былі ў стане даўжэйшы час

[10] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, w obozie [nad Basią] 24 X 1660. Тамсама. № 13868/IV. S. 135; Copia listu Jmci Woiewody Ruskiego, w obozie pod Czereią 1 XI 1660, BJag, Akc. 69/52. K. 8v; Nowiny z listów pana Gąseckiego; BJag. 5. S. 764; AMG. T. III. № 220/1. S. 206; Pasek. S. 168; Poczobut Odlanicki. S. 145—146.

[11] P. Sapieha do A.H. Połubińskiego, w obozie [nad Basią] 24 X 1660, ліст ад 31 X. AGAD. AR. Dz. V. № 13868/IV. S. 135, 137; AMG. T. III. № 209. S. 190.

вытрымліваць націск пераважных сілаў праціўніка. Урэшце ўзнялася замятня, і літоўскія харугвы кінуліся наўцёкі да аддаленага за 10 км спаленага мястэчка Друцку, што на рацэ Друці. Там знаходзіліся пераправы праз раку і нейкі невялікі мост. Расейцы заўзята гналі ўцякаючых жаўнераў. Урэшце тыя ўварваліся ў Друцак, дзе аказалася, што пераправы былі надзвычай цяжкапраходныя, паколькі берагі ракі ў гэтых месцах былі вельмі высокія. Па нетрывалым мосьце з цэлага літоўскага аддзелу ўдалося ўцячы Кміціцу, Аскірку і толькі 100 іх людзям. Як толькі расейцы, якія гналі разьбітых ліцьвінаў, дабраліся да мосту, адразу яго скінулі, адразаючы тым самым шлях ратунку для рэшты раскіданых жаўнераў. Ім заставалася толькі перапраўляцца ўплаў. Першыя ўцекачы, якія кідаліся да пераправаў, пачалі тануць, што адпалохала ад гэтага шляху выратаваньня іншых. Там-сям яшчэ бараніліся, але паволі страчвалі веру ў сэнс далейшага супраціву. Усё больш жаўнераў спрабавала ўцячы з поля бітвы ў навакольныя лясы ці схавацца ў вялікім балоцістым ставе, які атачаў мястэчка, і чароце. Тады людзі Хаванскага распачалі паляваньне на жаўнераў і афіцэраў праціўніка, выцягваючы іх з трысьнягу і балота, вязаць злоўленых і браць у палон. Паводле пазьнейшага рапарту Хаванскага да цара, было ўзята 150 палонных. Каб не абцяжарваць імі, адразу выразалі большасьць, пакінуўшы толькі 15 больш значных шляхціцаў.

Такі вялікі посьпех мог радаваць камандзіраў Хаванскага. Занятыя паляваньнем і забойствам палонных, яны не зьвярталі ўвагі на другі бок ракі і пераправы. І ня вельмі мелі для гэтага прычыны. Адзіны аддзел, які, паводле іхняй інфармацыі, знаходзіўся па гэтым баку Дняпра, якраз быў імі разгромлены. Аднак яны ня ведалі, што па другім баку Друці хутка набліжаўся да пераправаў Чарнецкі з усёй каронная дывізіяй і 26 кастрычніка ён зьявіўся ў Стараселі. У наступны дзень дайшоў у раён Друцку і Талачына, якія знаходзіліся па супрацьлеглым баку ракі. Недалёка ад яго войскаў прасоўваўся полк літоўскага стольніка Крыштапа Сапегі. Водгаласы страляніны і бою, якія даходзілі да гэтых двух гарадоў на Друці, прымусілі ягоныя харугвы хутка паляцець у бок Друці. На каронныя войскі, якія падыходзілі да ракі, натыкнуліся перапалоханыя літоўскія ўцекачы з Кміціцам на чале, якім удалося ўцячы ад разгрому, пераправіўшыся праз раку. Яны паведамілі Чарнецкаму пра ўсю трагічную сытуацыю і папрасілі неадкладнай дапамогі. Адразу ж адправілі пасланца зь весткамі да гетмана Паўла Сапегі, які знаходзіўся ззаду. Адначасова рускі ваявода хутка павёў свае аддзелы да ракі і пачаў уплаў перапраўляцца праз яе. Напэўна, гэта адбывалася не на той самай пераправе, дзе быў мост, але вышэй ці ніжэй, хоць найбольш праўдападобна, што войскі пераходзілі раку ніжэй за Друцак. Дзякуючы гэтаму ён мог паступова і хутка правесьці, хоць і зь вялікай цяжкасьцю, свае войскі праз Друць абсалютна незаўважна для расейцаў, якія ў той час лютавалі ў Друцку. На другім беразе рос лес, які дадаткова засланяў яго ад вачэй непрыяцеля. Чарговыя харугвы, якія зьяўлялася на заходнім беразе, Чарнецкі скіроўваў у гэты лес, каб яны заставаліся там ва ўкрыцьці. Калі там ужо зьявіліся каралеўская казацкая харугва, якую вёў Габрыэль Вайніловіч, уласная казацкая Чарнецкага на чале зь Пятром Мэнжынскім і Вацлава Ляшчынскага на чале з Уладыславам Скарашэўскім, вайскаводца адразу кінуў іх у атаку на маскоўскія войскі. Сам застаўся на беразе, і калі толькі праз балоцістую і небясьпечную раку пераправіліся чарговыя адзінкі, ён адразу накіраваў іх у атаку сьледам за трыма першымі. Кінуўшыся ў атаку, польскія жаўнеры ўсчалі магутны крык. Шок сярод пераможных расейцаў быў неверагодны. Доўгі час яны абсалютна ня мелі паняцьця, што за войскі атакуюць іхні бок. Расьсеяўшыся па мястэчку і ваколіцы, маскалі пачалі даваць пэўны, але вельмі неарганізаваны адпор. Іх афіцэры двойчы спрабавалі сабраць шэрагі сваіх жаўнераў і навесьці ў іх нейкі парадак. Два разы яны спрабавалі стрымаць агнём налёт на іх чарговых харугваў. Спачатку, калі атакавалі першыя харугвы, ім гэта нават пасьпяхова ўдавалася. Расейцам дапамагала тэрыторыя бою, якой было спаленае мястэчка. Шмат-

лікія папялішчы стваралі пэўную цяжкасьць для коньніцы, а да таго ж дзе-нідзе пад коньнікамі пачалі правальвацца зводы падвалаў спаленых дамоў. Аднак гэта не працягвалася доўга, паколькі тых, хто арганізавана супраціўляўся, не было шмат. Іх ззаду абышла адна з харугваў, хутчэй за ўсё, на чале зь Пятром Мэнжынскім, і разагнала. У той час Чарнецкі ўжо меў большасьць сваіх сілаў на заходнім баку Друці. Лягчэйшыя харугвы сталі ў лесе, а гусарскія і драгунскія ён пакінуў пры пераправе ў рэзэрве. Маскоўскіх афіцэраў пэўны час падбадзёрвала меркаваньне, што іх атакуюць нейкія рэшткі харугваў толькі што разьбітых ліцьвінаў. Аднак у пэўны момант яны ўбачылі, як зь лесу выходзяць чарговыя аддзелы, якія галёпам кінуліся на іх у атаку. Гэтае відовішча прывяло ў паніку расейцаў, якія яшчэ толькі што трыюмфавалі. Яны пакінулі думку пра нейкі супраціў, забыліся пра сваю здабычу і палонных, дабраліся да коней і пачалі ўцякаць у кірунку Талачына. Праз Друцак за імі праскакалі каронныя жаўнеры, а далучаліся да іх вызваленыя і прагныя помсты за толькі што панесеную паразу ліцьвіны. Уцёкі расейцаў вельмі хутка ператварыліся ў разьню. Іх коні былі змардаваныя доўгім маршам з-пад Чарэі і нядаўняй пагоняй за Кміцічам і Аскіркам. Таму ліцьвіны і палякі безь вялікіх клопатаў дагналі ворага, якога загналі аж пад Талачын. Простых жаўнераў пераважна забівалі, старшыну бралі ў палон і дастаўлялі Чарнецкаму.

Параза расейцаў была поўнай, хоць на поле бітвы падчас яе вядзеньня не пасьпеў зьявіцца полк Крыштапа Сапегі, які ня здолеў хутка прабрацца праз цяжкія пераправы на Друці. І хоць цяжка паверыць польскім данясеньням, што толькі адзінкі маскоўскіх жаўнераў уцяклі ад разгрому, панесеныя ворагам страты былі вялізныя. Хаванскі сцьвярджаў толькі пра 300 сваіх забітых і ўзятых у палон жаўнераў. Беручы пад увагу доўгую пагоню за змардаванымі, выпадае схіліцца да таго, што страты былі значна вышэйшыя. Спавядальнік Чарнецкага, ксёндз Адрыян Пякарскі пісаў хутка пасьля бітвы, што было ўзята 80 палонных, большасьць зь якіх афіцэры. Гэтых каштоўных палонных, а таксама здабытых у чарговых сутычках, рускі ваявода адаслаў у свой Тыкоцін. Былі вернутыя таксама ўсе літоўскія багажы і страчаныя людзьмі Кміціча і Аскіркі харугвы[12]. Каронным жаўнерам цяжка было паверыць, што яны такім нечаканым спосабам разграмілі сур'ёзнага праціўніка. Зусім ня дзіўна, што праз пару месяцаў Уладыслаў Скарашэўскі, які ад іх імя прамаўляў перад каралём, расказаўшы пра перамогу пад Палонкай і на Басі, закончыў успамінам пра сутычку з Хаванскім: *«Заўсёды сьпіс нашых працаў зноў уваскрэшаны Хаванскі..., які на дапамогу Даўгарукаму ідзе, але і той зноў нядоўга гэтым кірмашом цешыўся, бо, не вытрымліваючы нашых вострых шабляў, шэсьць міляў сьцелючы акопам, лягер і ўсю амуніцыю з порахам аддае пад ногі Вашай каралеўскай міласьці і Панны найсьвяцейшай Марыі»*[13].

З Друцку войска рушыла разам з вызваленымі з маскоўскіх путаў ліцьвінамі ў бок Талачына. Там пераначавалі, чакаючы надалей Сапегу. Гетман, даведаўшыся па дарозе ад войска Чарнецкага пра бітву, адразу паслаў у Шклоў загад, каб адтуль рушыла жамойцкая дывізія. Навіна пра перамогу дайшла да яе 28 кастрычніка, а праз дзень жаўнеры Паца скіраваліся ў бок места баёў, пакідаючы ў Шклове толькі невялікую залогу драгуноў[14]. У той жа дзень Чарнецкі з Талачына скіраваўся да

[12] Апісаньне бітвы на падставе: Copia listu Jmci Woiewody Ruskiego, w obozie pod Czereią 1 XI 1660, BJag, Akc. 69/52. K. 8v—9; Copia listu Jmci Xiędza Pikarskiego, B. Jag. Akc. 56/52. K. 9v—10; Wahrhaftige Relation... wobei ein Bericht von dem siegreichen Treffen des Herrn Kronmarschalls mit dem moskowittischen Unterfeldhauptmann Chowański bei Szkłow, BN. Mf 19822; AMG. T. III. № 220/1. S. 203—206; Pasek. S. 168—171; Łoś. S. 107—108; Majewski W. Mężyński Piotr // PSB. T. XX/3. S. 518—519.

[13] Mowa tegoż JMP. Skoraszewskiego chorążego poznańskiego do króla JM od woyska o wiktoriey z Moskwy oznaymuiąc. BN BOZ, 826. № 9. K. 22.

[14] AMG. T. III. № 216/1. S. 195.

Чарэі і стаў за 5 км ад лягеру Хаванскага. На працягу цэлага дня 29 кастрычніка чакаў прыбыцьця літоўскага гетмана, напэўна, баючыся сам падыходзіць да моцных фартыфікацый, укамплектаваных шматлікім войскам. Тым часам у маскоўскім лягеры нарастала паніка. Прыбылыя ўцекачы ня здолелі расказаць, хто нанёс ім такую вялікую паразу. Не маглі паверыць меркаваньням, што Даўгарукі дапусьціў, каб ліцьвіны і палякі без праблемаў адышлі ад ягонага лягеру і пераправіліся праз Дняпро. Усё высьветлілася, калі камандзір полацкай шляхты на царскай службе Іван (Ян) Кісажэўскі схапіў пяцярых пахолкаў з войска Сапегі і Чарнецкага, якое ўжо стаяла пад Чарэяй. Яны адкрылі ўсю праўду аслупянелым царскім камандзірам, якія раптам зразумелі, што стаяць перад пераможным і колькасна моцным праціўнікам, сустрэцца зь якім яны абсалютна не чакалі. Жах сярод афіцэраў хутка замяніўся амаль панічным настроем. У пазьнейшым, складзеным для цара апісаньні гэтых падзеяў Хаванскі запэўніваў, што настойваў на тым, каб застацца ва ўмацаваным лягеры, дзе было сабрана шмат харчоў і ваенных запасаў. У ім ён хацеў чакаць дапамогі ад Юр'я Даўгарукага. Ва ўсім нібыта аказаліся вінаватымі дваране, якія дакучалі яму сваімі просьбамі і патрабаваньнямі пакінуць лягер і сысьці ў Полацак, пераконваючы, што, седзячы на месцы, няма чаго спадзявацца на ратунак. Напэўна, праўда была такая, што і самога князя ахапіла трывога, якая прымусіла яго прыняць рашэньне адступаць. Выходзіць зь лягеру пачалі цёмнаю ноччу з 29 на 30 кастрычніка патаемна ад палякаў і ліцьвінаў, стараючыся захаваць як найглыбейшую цішу. Тыповае восеньскае надвор'е з праліўным дажджом і пахмурным небам толькі дапамагло ў правядзеньні манэўру, мэтай якога было адарвацца ад непрыяцеля. Большую частку гармат пад эскортам аддзелаў дваран і рэйтараў паслалі карацейшым шляхам да Лепеля, а астатняя частка войска, пераважна пяхота, з Хаванскім рушыла на Чашнікі. Яна скіравалася вельмі благой забалочанай дарогай уздоўж возера да далейшых балот і лясоў, каб пад іх прыкрыцьцём адарвацца ад ворага. Хоць усю апэрацыю выйсьця зь лягеру здолелі правесьці так, што палякі, стоячы ня так далёка, ні ў чым не зарыентаваліся, аднак ужо на першым адрэзку дарогі дысцыпліна была парушана. Уцякаць уласнымі сіламі кінуліся дваране і рэйтары. Пакінулі там пяць гармат і шмат вазоў з амуніцыяй. Аднак удалося адысьці ад лягеру прыблізна на 15 км.

У той час, калі расейцы рыхтаваліся да ўцёкаў, зь іх лягеру вырваўся адзін паляк, які быў на службе ў Хаванскага, і ў начным змроку скіраваўся да войскаў Чарнецкага, якія стаялі на пэўнай адлегласьці. Здарылася так, што ён пераблытаў дарогі і пасьля доўгіх блуканьняў дайшоў да яго толькі на золку 30 кастрычніка. Ён данёс пра тое, што маскоўскі лягер ахапіла замяшаньне і яго ў паніцы пакідаюць царскія аддзелы. Не чакаючы даўжэй літоўскага гетмана, Чарнецкі хутка паслаў зьвестку пра гэта літоўскаму стольніку Крыштапу Пацу, які якраз надыходзіў, і сам са сваім войскам, нягледзячы на глыбокі змрок, рушыў у кірунку варожага лягеру. Ён аказаўся пустым. У цудоўна ўмацаваным лягеры было знойдзена багата харчоў для людзей і коней, узьведзеныя буданы для жаўнераў. Каронная дывізія ўвайшла туды, займаючы найлепшыя месцы для зімовых кватэраў. Яе жаўнеры мусілі правесьці там і ў ваколіцах Чарэі крыху часу, што пазьней адлюстравалася ў скаргах насельніцтва на ўчыненыя імі рабункі[15]. Тым часам Чарнецкі не губляў часу і, ведаючы пра фатальны стан расейцаў, якія адступаюць, кінуў за імі моцную пагоню. Сьледам Хаванскага рушылі літоўскія харугвы Крыштапа Сапегі, Кміціча і Аскіркі, хутка пасьля гэтага да іх далучыліся іншыя, якія ішлі з-пад Шклова. З кароннага войска ўзялі ўдзел у пагоні значныя сілы на чале з асецкім старастам Адамам Чарнкоўскім. Па дарозе натыкаліся на

[15] AVAK. T. XXXIV. № 202. S. 228—231.

**9. Бітва пад Талачыном 27 кастрычніка 1660 г.**
**(фаза I: спроба рэканструкцыі)**



чарговыя пакінутыя гарматы і вайсковае абсталяваньне, якое Чарнецкі загадаў забіраць і дастаўляць у лягер. Нягледзячы на вельмі благі стан балоцістых дарог, Хаванскага дагналі пад Чашнікамі над ракой Вулай. Завязаліся баі з маскалямі, якія ўцякалі на другі бераг. Аднак яны пасьпелі перапраўіцца, скінуць мост і ў шалёным тэмпе зноў кінуцца наўцёкі ў кірунку Полацку. Аднак сярод расейцаў зноў пачалася паніка, і шмат пешых жаўнераў пакінула шэрагі і паўцякала ў лясы, а полацкая шляхта зьбегла ў напрамку Віцебску. Там былі кінутыя чарговыя гарматы і амуніцыя. Маскалям зноў удалося адарвацца на невялікую адлегласьць ад палякаў і ліцьвінаў. У хуткім часе яны зноў убачылі за сабою хуткія харугвы непрыяцеля, якія ўжо перайшлі раку Вулу. Яны дабраліся да ўцякаючых расейцаў. Убачыўшы блізкую небясьпеку, Хаванскі паставіў у сваім тыле тры гусарскія харугвы, кожная па 90 коней. Відаць, гэты род польскай коньніцы зрабіў на яго ўражаньне, і перад выправай з Полацку ён утварыў тры яе адзінкі. Па баках ішлі рэйтары, а ў сярэдзіне пяхотнікі, якія ахоўвалі царскія харугвы. Распачаўся найбольш драматычны адрэзак адступленьня. З усіх бакоў атакаваныя палякамі і ліцьвінамі, маскоўскія жаўнеры, якія яшчэ засталіся ў шэрагах, мужна адбівалі чарговыя атакі коньніцы, страляючы густым агнём. Забойчы марш працягваўся да канца дня і цэлую ноч. Чакалася, што маскоўскі строй разаб'ецца пад уплывам няспынных атакаў, стомленасьці, голаду і няспаньня. Калі да гэтага не даходзіла, літоўскія камандзіры прапанавалі Хаванскаму, каб ён даў поле для бітвы. Царскі вайскаводца не згадзіўся з гэтым, бо ведаў, што яму нестае для гэтага сілаў, акрамя таго, баяўся, што да атакі харугваў праціўніка далучыцца рэшта польска-літоўскіх сілаў.

Урэшце, 31 кастрычніка змардаваныя да крайнасьці маскоўскія жаўнеры дайшлі да ракі Шуя, што на адлегласьці каля 25 км ад Полацку. Там ліцьвіны намерваліся атачыць уцякаючыя войскі і перакрыць ім дарогу ззаду. Хаванскі быў вымушаны прыняць бітву. Пасьля драматычнай нарады з афіцэрамі ён паставіў стралецкую пяхоту ў лесе, наперадзе — усіх рэйтараў, якіх у яго засталося ўсяго 200. Рэшту коньніцы, якую яшчэ меў, у колькасьці 300 жаўнераў разам з гусарамі пакінуў у рэзэрве. Складзены плян прадугледжваў, што падчас атакі рэйтары ўцягнуць ліцьвінаў пад агонь схаванай пяхоты, а тая нанясе вялікія страты праціўніку і стрымае яго. Камандзір літоўскіх харугваў Крыштап Сапега ўдарыў на маскоўскіх рэйтараў. Яны ня вытрымалі гэтага і былі разьбітыя. Напэўна, нічога ня выйшла з пляну зламаць праціўніка агнём пяхоты, паколькі ў апісаньні бітвы Хаванскі ні словам ня згадваў пра гэта. Затое зь яго вынікае факт, што пяхота адразу патрапіла пад шаблі ліцьвінаў. І хоць яна мужна баранілася, аднак у пэўны момант мусіў умяшацца на чале рэзэрваў сам князь. Ударам гусараў і іншай коньніцы, што засталася, ён здолеў уратаваць сваіх пяхотнікаў, хоць бой працягваўся яшчэ доўга. Ва ўсякім разе Хаванскаму ўдалося вывесьці рэшткі жаўнераў з пасткі і ўцячы ў Полацак. Акрамя забітых, ён страціў шмат палонными, у тым ліку рэйтарскага палкоўніка Сьцяпана Ўварава і палкоўніка шляхціца Язэпа Косаўскага. Ліцьвіны не адмовіліся ад пагоні, і харугвы Крыштапа Сапегі дайшлі за расейцамі аж пад самы горад. Зацятай пагоні ліцьвінаў не ўдалося дагнаць самога князя і схапіць яго ў палон, хоць былі на гэта сур'ёзныя шанцы. У іх рукі патрапіў толькі царскі стольнік, які вёз Хаванскаму ў Полацак лісты ад Аляксея Міхайлавіча.

Больш пашчасьціла другой групе войска, якая, уцякаючы зь лягеру ў Чарэі, пайшла на Лепель. І тут не абышлося бяз панікі, кіданьня гармат і вазоў з амуніцыяй. Магчыма, у Лепелі адбыліся нейкія сутычкі зь ліцьвінамі ці палякамі. Ва ўсякім разе гэтыя жаўнеры здолелі дайсьці да Полацку. Аднак яны страцілі ўсе гарматы, а бочкі з порахам разьбілі і патапілі ў балотах. Туды таксама пакідалі шмат мушкетаў і іншай зброі, каб яна не патрапіла ў рукі непрыяцеля.

Толькі 30 кастрычніка ў заняты кароннымі жаўнерамі лягер у Чарэі прыйшоў на чале літоўскіх сілаў Сапега. У наступныя дні падцягнуліся далейшыя адзінкі з жамойцкай дывізіі. Чарнецкага публічна віншавалі зь перамогай, а сам гетман выхваляў яго заслугі перад Літвой. Чарговая і такая сакрушальная перамога над Хаванскім падняла на кароткі час настрой у войску. Досыць хутка ў Літве пачалі складаць фантастычныя аповеды, што пасьля стольках паразаў няўдалы маскоўскі вайскаводца намераны паддацца каралю. Дадавалася, што ўжо пасьля паразы пад Палонкай яго ледзь уратавалі ў Маскве ад сьмяротнага прысуду, вынесенага царом. Пасьля чарговай паразы яго лёс у Крамлі ўжо быў, як апавядалася, прадвырашаны[16].

Прыбыўшы да войскаў Чарнецкага, ліцьвіны разьбілі лягер непадалёк ад каронных войскаў. Гэта азначала спыненьня дзеяньняў на полацкім напрамку ў гэтым годзе. Аднак яны ўжо страцілі сваю энэргію і адчуваньне каштоўнасьці супольных шырокамаштабных акцый. Зрэшты, на полацкім кірунку яны ня мелі перад сабой сур'ёзнага праціўніка. Сапраўднай перашкодай быў сам Полацак. Хоць гэты вялікі і грунтоўна ўмацаваны горад і ня меў занадта моцнай і добра забясьпечанай залогі, аднак, як паказаў пранейшы досьвед, быў вялікай перашкодай для польскіх і літоўскіх войскаў, якія ня ўмелі здабываць фартэцый. Палякі і ліцьвіны ўжо ня мелі сілаў распачынаць аблогу Полацку ці значныя апэрацыі за Дзьвіной, а да таго ж войска было стомленае амаль паўгадовымі змаганьнямі. Акрамя таго, сярод літоўскіх жаўнераў нарастала незадавальненьне і нежаданьне служыць далей. Гэта азначала неабходнасьць даць войскам даўжэйшы адпачынак. Дзякуючы адступленьню войскаў Хаванскага пераходнымі кватэрамі і месцамі пабораў правіянту для літоўскіх войскаў было вызначана Віцебскае ваяводзтва, а для польскіх — Полацкае[17]. Праз пару дзён супольнага пастою ў лягеры літоўскія харугвы перайшлі да прыдзьвінскіх Бешанковіч. Жаўнеры дывізіі Сапегі апынуліся там, напэўна, 4 лістапада, а жамойцкая дывізія зьявілася два дні пазьней. У Бешанковічах спыніліся гусарскія харугвы, а іншыя разьмясьціліся па ваколічных вёсках, аж но да Вяжычаў у бок Віцебску. Таксама Чарнецкі паволі скіраваўся ў напрамку Полацку, паколькі ў тыя дні зьявілася інфармацыя, што ягоныя войскі сталі ў Лепелі, а ў сярэдзіне лістапада дайшлі аж да Сушы. У выніку наблізіліся яшчэ бліжэй да Полацку і сталі ў разьмешчаных крыху больш чым за 30 км на паўднёвы захад ад гэтага гораду Бабынічах[18]. Нягледзячы на ўсякія цяжкасьці, Сапега і Чарнецкі, напэўна, яшчэ пэўны час насіліся з плянамі распачацьця ваенных дзеяньняў на другім беразе Дзьвіны.

Тым часам адразу пасьля прыбыцьця ў Полацак, разгромлены Хаванскі лічыў свае страты і задумваўся над прычынамі паразы. У напісаным 1 лістапада рапарце да цара ён прызнаваў, што прывёў з сабой няшмат людзей, паколькі іх вялізная колькасьць уцякла, спалохаўшыся палякаў і ліцьвінаў. Ён ня мог, а можа, і не хацеў даць нейкага рацыянальнага тлумачэньня таму, што адбылося. Усё зьвальваў на кару Божую за вялікія грахі і проста на чары і хітрыкі палякаў. З жахам прызнаваў, што ягоныя войскі ахопленыя нечуванай панікай і на кожную вестку пра непрыяцеля кідаюцца наўцёкі. Тым часам ведаў, што ліцьвіны і палякі падыходзяць блізка да

[16] Апісаньне гэтых змаганьняў на падставе: Copia listu Jmci Woiewody Ruskiego, w obozie pod Czereią 1 XI 1660, BJag, Akc. 69/52. K. 8v—9; Copia listu Jmci Xiędza Pikarskiego. BJag. Akc. 56/52. K. 9v—10; P. Sapieha do B. Radziwiłła, w obozie pod Biesienkowiczami 13 XI 1660; AGAD. AR. Dz. V. № 13868/IV. S. 149—150; NN do B. Radziwiłła, Słuck b.d. [XI 1660]. Тамсама, неўпарадкаваныя паперы; Wahrhaftige Relation... BN. Mf. 19822; AMG. T. III. № 220/1. S. 204—205; Poczobut Odlanicki. S. 147—148; Chrapowicki. S. 268—269.

[17] S. Przyborowski do B. Radziwiłła, z Horodka 13 XI 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 12561. S. 103.

[18] AMG. T. III. № 220/3. S. 208; № 222/1—2. S. 210; Poczobut Odlanicki. S. 148.

**10. Бітва пад Талачыном 27 кастрычніка 1660 г.**
**(фаза II: спроба рэканструкцыі)**



Полацку, і дрыжэў ад думкі пра тое, што будзе, калі маразы закуюць лёдам Дзьвіну. Дадавала страху і тое, што ўцекачы з польскага і літоўскага палону, якія прыбывалі ў Полацак, сьведчылі, што непрыяцель толькі і чакае, пакуль замерзьне рака, каб з усімі войскамі пераправіцца на яе паўночны бераг. Не лічыў сваёй кампаніі цалкам прайгранай. Указваў цару, што ўсё ж сваімі дзеяньнямі ён зьняў блякаду Даўгарукага, на якога таксама часткова звальваў віну за свае няўдачы. Сцьвярджаў, што, нягледзячы на пасыланыя яму лісты, Даўгарукі не пайшоў за палякамі і ліцьвінамі, калі тыя адступілі ад яго і пайшлі з Басі супраць арміі, якая рушыла з Полацку[19].

Вельмі хутка да Хаванскага вярнулася вера ў магчымасьць стрымаць пераможнага непрыяцеля. Ён прасіў толькі цара прысылаць падмацаваньні. Яны былі яму вельмі патрэбныя, паколькі прызнаваў, што мае вельмі мала добрых жаўнераў у Полацку. Тым часам пагроза расла з дня на дзень. На Дзьвіне зьявіліся ліцьвіны, а Крыштап Сапега разьбіў лягер у абароненым месцы — аточаным азёрамі і балотамі населеным пункце Цетча, досыць блізка ад Полацку. Быў зь ім са сваім палком Кміціч, а таксама войскі Аскіркі. Крыху далей, каля 40 км на ўсход ад Полацку, ля вусьця ракі Вулы ў Дзьвінску ліцьвіны пачалі перапраўляць сваіх людзей на паўночны бераг, дзе іх загоны спусташалі ваколіцы і зьбіралі харчы. Адначасова Чарнецкі, стоячы ў Чарэі, паслаў загад палкоўніку добраахвотнікаў Каралю Лісоўскаму, які стаяў на захад ад Полацку, каб ён пераправіўся празь Дзьвіну вышэй гораду Дзісна. Той не прымусіў доўга чакаць сваіх дзеяньняў і 15 лістапада пераправіўся праз раку на адлегласьці крыху больш за 20 км ад Полацку. Яму спрабавалі перашкодзіць маскоўскія драгуны, але былі адціснутыя ад берагу і разьбітыя. Аднак добраахвотнікі нічога значнага ня зьдзейснілі і хутка вярнуліся на свой бераг. Насуперак панічным весткам пра вялікія літоўскія і польскія войскі, якія перапраўляюцца на паўночны бераг Дзьвіны, туды прабіраліся толькі асобныя адзінкі. Цяжка было пераправіць цэлыя масы войска праз шырокую плынь гэтай ракі. Таму Хаванскі не дарма баяўся надыходу зімніх маразоў і яе замярзаньня. Ад схопленых палонных ён даведваўся пра наступальныя пляны Чарнецкага і ліцьвінаў. Як яму даносілі, яны намерваліся па лёдзе перайсьці Дзьвіну і скіравацца да царскіх зямель на Пскоў, Вялікія Лукі і Тарапец. Да яго даходзілі весткі пра пляны шчыльнай блякады Полацку, а гэта непакоіла тым больш, што ў горадзе былі ў той час мізэрныя запасы харчоў, а колькасьць жаўнераў ацэньвалася ўсяго толькі ў 657 чалавек, а жыхароў зь дзецьмі засталося ледзьве 1499 чалавек. З такой колькасьцю жаўнераў і жыхароў нельга было нават марыць пра ўтрыманьне дастаткова вялікага гораду, калі б праціўнік распачаў сур'ёзныя спробы ягонай аблогі і штурмаў. Да ўсіх гэтых праблемаў даходзіла і тое, што насамрэч царскія ўлады не былі ўпэўненыя ў пазыцыі насельніцтва, якое часам паводзіла сябе падазрона, што выразна сьведчыла пра рост непрыхільнасьці да маскоўскага панаваньня. У наступным годзе ў атмасфэры чарговых літоўска-польскіх посьпехаў паблізу Полацку гэтыя настроі прывялі да патаемных змоваў, на чале якіх сталі бурмістры Полацку. У 1654 годзе яны былі адданымі прыхільнікамі Масквы. Праз пару гадоў ім настолькі абрыдлі новыя парадкі, што ў 1661 г. яны патаемна схілялі мяшчан здаць горад у рукі ліцьвінаў[20].

Усе гэтыя трывогі асабліва моцна непакоілі Хаванскага ў першую палову лістапада. Шок пасьля пройгрышу, слабасьць уласных сілаў на Дзьвіне і блізкасьць каронных і літоўскіх войскаў толькі паглыблялі гэтыя настроі. Такую цяжкую сытуацыю мог зьмяніць толькі надыход значных падмацаваньняў з глыбі маскоўскай дзяржавы

[19] AMG. T. III. № 220/2. S. 207—208; VS. № 60/I. S. 123—124.

[20] Гардзееў М. Полацкі магістрат у часы вайны 1654—1667 г. // Вести Национальной академии наук Беларуси. Серия гуманитарных наук. 2000. № 3. С. 66.

або канчатковая адмова каралеўскіх камандзіраў ад наступальных намераў у дачыненьні да Полацку і зямель, разьмешчаных за Дзьвіной[21].

Цалкам магчыма, што каралеўскія вайскаводцы насіліся з намерам перайсьці Дзьвіну, раскватараваць там войскі на зіму і распачаць шчыльную блякаду Полацку. Здаецца, што гэтыя пляны зьявіліся падчас нарадаў з вайсковай старшынай у пачатку лістапада пад Бешанковічамі і ў сярэдзіне месяца ў лягеры пад Ведраньню. На карысьць такіх плянаў сьведчыла тое, што на тых землях надалей не было большых сілаў праціўніка, якія маглі б ім супрацьдзейнічаць. І, магчыма, іх ня столькі прыцягваў плян уваходжаньня ў маскоўскія землі, колькі магчымасьць адпачыць і забясьпечыць сябе харчамі на неспустошанай праз вайну тэрыторыі. Лісоўскі і Чарнецкі спрабавалі таксама іншыя спосабы, каб звонку пасеяць у Полацку браджэньне супраць маскоўскай улады, якое палегчыла б здабыцьцё гораду. Яны адпусьцілі некалькіх значных мяшчан, якіх раней спрабавалі ўгаварыць, каб тыя ў горадзе стараліся схіліць бурмістра, радцаў і лаўнікаў да вернасьці польскаму каралю. Чарнецкі нават паслаў праз іх лісты, якія заклікалі іх здаць горад палякам і ліцьвінам. У выпадку адмовы пагражаў штурмам і помстай жаўнераў. Аднак з гэтага нічога ня выйшла, бо, прыбыўшы ў Полацак, мяшчане адразу адкрылі ўсё бурмістру і Хаванскаму, аддаючы лісты рускага ваяводы. Хаванскі ж не чакаў даўжэй, а толькі прыняў у прадстаўнікоў гораду прысягу на вернасьць. Мяшчане прынесьлі яе без супраціву і абавязаліся месяц карміць маскоўскую залогу. Лісты Чарнецкага, у якіх ён, на думку Хаванскага, *«своим злым вымыслом»* інфармаваў мяшчан, што гетманы ва Украіне разьбілі Шарамецьева, а казакоў прымусілі да вернасьці каралю, адаслаў да цара. А мяшчан пераконваў, што гэта няпраўда і такім ашуканствам палякі хочуць толькі схаваць сваю паразу ва Украіне[22].

Падобныя праблемы зьявіліся ў Дзісьне, разьмешчанай непадалёк на захад таксама на Дзьвіне. Пад гэты горад у лістападзе пачалі падыходзіць добраахвотніцкія аддзелы палкоўніка Караля Лісоўскага. Ня маючы сілаў на штурм, Лісоўскі пачаў пасылаць у горад і ягонаму бурмістру лісты, якія схілялі яго здацца. Для дастаўкі лістоў выкарыстоўваў шляхціца Стэфана Шчыта. У хуткім часе, 1 сьнежня, гэтыя войскі сталі лягерам каля Дзісны, пагражаючы штурмам. Лісты, пасланыя мяшчанам і весткі пра цяжкае становішча гэтага гораду дайшлі да Полацку. Там вельмі спалохаліся, што горад можа патрапіць у рукі ліцьвінаў, паколькі гэта аддало б у іхнія рукі свабодную магчымасьць перайсьці на паўночны бераг Дзьвіны і ўскладніла б зносіны з разьмешчанай далей на захад Друяй і Дзьвінскам. Таму, каб падбадзёрыць мяшчан і ўмацаваць абарону гэтага гораду, з Полацку ім паслалі лісты з заклікам захаваць вернасьць Аляксею Міхайлавічу. А на дапамогу даслалі ў Дзісну 80 стральцоў і дзьве роты салдацкай пяхоты. Аднак гэта адбылося коштам полацкага гарнізону, колькасьць якога ўпала да 500 жаўнераў, якія несьлі стамляльную службу пад няспыннай пагрозай атакі польскіх і літоўскіх войскаў на Полацак[23].

Чарговая параза Хаванскага зрабіла прыгнятальнае ўражаньне ў Маскве. Аляксей Міхайлавіч вырашыў адхіліць яго ад камандаваньня наўгародскім прыказам і перадаць адзінку ваяводу Данілу Сьцяпанавічу Вялікаму-Гагіну, а Хаванскаму загадаў ехаць у Маскву. Аднак праз тыдзень адклікаў сваё рашэньне, згаджаючыся, каб Хаванскі застаўся на старой пасадзе, але павінен быў скіравацца на чале значных аддзелаў з Полацку ў Невель, каб там зьбіраць харчы і жаўнераў, якія зьбеглі са службы. Гэта быў

[21] AMG. T. III. № 220/3. S. 208; № 222/1—2. S. 209—210; № 230/1—2. S. 220—222; № 233. S. 224; VS. № 60/III—V. S. 126—128.

[22] S. Przyborowski do B. Radziwiłła, z Horodka 13 XI 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 12561. S. 103—104; AMG. T. III. № 223/1—3. S. 211—212; № 241. S. 248.

[23] VS. № 60/IX. S. 130—131.

сапраўдны ўдар па гонары славалюбнага князя, паколькі было зразумела, што гэта ганаровае адхіленьне яго ад непасрэднага ўплыву на ваенныя дзеяньні[24]. У царскай сталіцы вельмі сур'ёзна расцанілі данясеньні пра зімовыя пляны непрыяцеля. Хаванскаму і іншым вайскаводцам загадалі спаліць усе вёскі і паселішчы ў Полацкім і Віцебскім ваяводзтвах, яшчэ не занятыя непрыяцелем. Пад канец лістапада і ў студзені яму прыслалі загады, каб спаліў усё на поўнач ад Дзьвіны, аж да раёну Вялікіх Лукаў. Ваяводам гэтага гораду, Тарапца, Невеля і Вяліжу было загадана, каб у вёсках сваіх паветаў яны забралі ўсе харчы і зьвезьлі ў гарады, а рэшту спалілі датла. У той час вельмі баяліся нашэсьця ліцьвінаў і адначасова ліхаманкава забясьпечвалі і ўмацоўвалі гарады на чаканым шляху нашэсьця непрыяцельскіх войскаў. Сам Хаванскі атрымаў інструкцыю, каб, будучы ў Невелі, у выпадку пагрозы з боку палякаў, сыпоў адтуль у Вялікія Лукі[25]. На выкананьне ўсіх гэтых царскіх загадаў налягалі яшчэ больш, бо ў той час Хаванскі зноў атрымаў інфармацыю, што ў Бешанковічах было вырашана чакаць, пакуль замерзьне Дзьвіна, а Сапега пераканаўся, што пад Шклоў не прыйшоў Даўгарукі з арміяй і з таго боку ліцьвінам нічога не пагражае. Спалоханы князь зьвярнуўся да цара з заклікам, каб ён загадаў Юр'ю Даўгарукаму падысьці з арміяй хоць да Чарэі ці Віцебску, што аслабіла б націск на Полацак каралеўскіх войскаў[26]. Гэтыя просьбы не былі задаволены, але цар прыслухаўся да аргумэнтацыі Хаванскага, якая тлумачыла невыкананьне ім загаду скіравацца ў Невель. У сьнежні амбіцыйны князь пераканаўча ўказваў цару, што, калі палякі і ліцьвіны, якія стаяць паблізу Полацку, даведаюцца пра яго выйсьце з гораду разам з войскам, могуць палічыць гэта пачаткам уцёкаў. Тады кінуцца за імі і сапраўды ўвойдуць у маскоўскія паветы за Дзьвіной. Зьвярнуў увагу, што тады нельга будзе мець упэўненасьць у вернасьці полацкіх мяшчан. Таксама, убачыўшы ўсё гэта, напэўна ўпадзе Дзісна, на якую моцна націскае Лісоўскі. Хаванскі застаўся ў Полацку, а пад канец 1660 г. і ў пачатку 1661 г. царская канцылярыя выдала шэраг загадаў наўгародзкаму разраду, каб ён выдаткаваў зь яго чарговых жаўнераў і паслаў іх у Полацак пад камандаваньне князя[27].

На шчасьце для Хаванскага, у другой палове лістапада рэзка пагоршылася сытуацыя ў літоўскім войску. Сыход зь лягеру вайсковай старшыны пачаў набываць сапраўды сур'ёзны маштаб. Паступова ад'язджалі Міхал Казімер Радзівіл, КрыштапВаладковіч, Уладыслаў Валовіч. Зь місіяй ад жаўнераў, раззлаваных захопам радзівілаўскіх уладаньняў на Падляшшы, да караля скіраваўся разам з ротмістрам Уладзімерам Каменскім літоўскі стольнік Крыштап Сапега. Манарха асабліва непакоіла, што ў ваенны час такі здольны афіцэр, прызначаны на гэтае заданьне, пакінуў лінію фронту. Пакінуў лягер і Палубінскі, скіроўваючыся з загаду Сапегі пад Вільню, а таксама шмат іншых старэйшых афіцэраў і жаўнераў. Жаданьне далей служыць у лягеры пачаў страчваць сам гетман. Апраўдваючыся слабым здароўем, ён прасіў у караля дазволу зьехаць зь лягеру. Замест сябе на камандаваньне войскам ён выбраў трох кандыдатаў: Аляксандра Гілярыя Палубінскага, Мікалая Юдыцкага і Міхала Паца. Кароль без праблемаў згадзіўся з гэтым, вызначаючы камандзірам правага крыла Палубінскага і захоўваючы ў жамойцкай дывізіі кіраўніцтва Паца[28]. Перш чым навіна пра гэта прыйшла ў лягер, 9 лістапада настаў чарговы тэрмін выплаты жолду, на што ўжо чарговы, невядо-

[24] AMG. T. III. № 218/4. S. 200; № 221/2. S. 209; № 228/1—3. S. 217—218.

[25] AMG. T. III. № 220/3. S. 209; № 222/3. S. 210; 228/2. S. 218; № 256. S. 261; № 264. S. 269.

[26] AMG. T. III. № 230/1. S. 221.

[27] AMG. T. III. № 228/5. S. 219; № 236/4—6. S.233—239.

[28] K. Pac do M.K. Paca, Kraków 10 XI 1660. BCzart. 418. S. 265; K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Nieśwież 26 XI 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 6865/II. S. 5—7; B. Radziwiłł do J. Hoverbecka, Królewiec 3 XII 1660. Тамсама. Dz. IVa (копіі). T. 1. Kop. 5. K. 441v.

ма які раз не зьявіліся грошы. Гэта выклікала новую хвалю незадавальненьня сярод жаўнераў. Да таго ж войска пачало адчуваць вялізныя праблемы са здабыцьцём правіянту для сябе і корму для коней у дашчэнту зруйнаваным вайною краі. Зьявіліся патрабаваньні перасунуць войскі ў больш спакойныя, аддаленыя ад непрыяцеля і багацейшыя землі. Згадзіцца з гэтым — азначала б цалкам закінуць далейшыя ваенныя дзеяньні супраць Масквы. Распаленыя змардаванасьцю жаўнераў і вялізнымі цяжкасьцямі змаганьняў сярод ліцьвінаў ажылі грашовыя прэтэнзіі да Рэчы Паспалітай, да князя Багуслава Радзівіла — у нападзе на ўладаньні, да каралеўскага двара — у ігнараваньні іх просьбаў і патрабаваньняў. Вайскоўцы пачалі пагражаць пакінуць шэрагі. Сапега, як мог, стараўся стрымаць жаўнераў ад бунту і адмовы ад службы. Прасіў, каб, дасягнуўшы такіх вялікіх посьпехаў, яны пажадалі іх працягваць. У гэтых захадах яго падтрымлівалі яшчэ прысутныя пры войску Міхал Казімер Радзівіл, КрыштапВаладковіч і Палубінскі. Урэшце гетман адкрыта паабяцаў войску ўкласьці замірэньне з ворагам, прызначыць зімовыя кватэры і гэткім чынам даць жаўнерам адпачыць. У ваяводзтвах і паветах войску прызначылі зімовы хлеб, г.зн. акрэсьлілі, па колькі злотых павінна быць выдаткавана з каралеўскіх, царкоўных і арандаваных уладаньняў. Тады таксама, каб затрымаць войска на службе, яму далі прывілей на радзівілаўскія ўладаньні Невель і Себеж у Полацкім ваяводзтве, што вельмі абурыла Багуслава Радзівіла[29]. Пры дапамозе ўсіх гэтых захадаў і абяцаньняў урэшце былі дасягнуты пэўны кампраміс, але стан войска і так значна пагоршыўся. Гэта было вельмі прыкметна ня толькі для вайскоўцаў, але і для пабочных назіральнікаў. Гэта прымушала іх да сумнага розуму, што *«да непрыяцеля прыходзяць сьвежыя падмацаваньні, а нашых войскаў меншае»*[30]. У гэтай сытуацыі далейшыя рашучыя дзеяньні супраць Масквы апынуліся пад вялікім пытаньнем[31]. Сапраўдным посьпехам гетмана ў гэты момант стала тое, што ён схіліў жамойцкую дывізію да маршу пад Шклоў супраць войскаў Пятра Даўгарукага, якія зьяўляліся там. Заахвоціла іх да гэтага прызначэньне ім сярод тых земель зімовых кватэраў[32].

Гэтыя любыя жаўнерскім сэрцам авансы і абяцаньні выклікалі паніку ў зруйнаванай войнамі шляхты. Разьмяшчэньне войскаў каля іхніх маёнткаў азначала іх поўны ўпадак. Тыя, што былі разьмешчаныя далей і якім не пагражала сутыкненьне з аддзеламі войскаў, мусілі выдаць прызначаныя грошы на зімовы хлеб. Гэта азначала спустошальны візыт вайсковых дэпутатаў разам зь іх чэлядзьдзю, якія ўсялякімі спосабамі гвалтам выбівалі нашмат больш, чым ім было першапачаткова прызначана. Спадчынныя шляхецкія ўладаньні былі вызваленыя ад гэтага законам. Аднак практыка паказвала іншае. Ні ў якім выпадку яны не маглі адчуваць сябе ў бясьпецы і ў такой жа ступені, як і іншыя ўладаньні, былі пад пагрозай жаўнерскіх рабункаў. Таму нічога дзіўнага, што весткі пра разьмяшчэньне войска і прызначэньне квоты, якая належала яму з уладаньняў, выклікалі вялікі непакой у Слуцку. Князю паведамілі, што калі ня ўдасца падкупіць падарункамі і вялікімі сумамі грошай гетмана, то ён не забудзецца пра наезд на падляскія маёнткі і выкіданьне адтуль сем'яў сваіх жаўнераў. Тады ён накіруе жаўнераў да княскіх арэндаў, што будзе азначаць для іх канчатковы ўпадак[33].

[29] P. Sapieha do wojska M.K. Paca, w obozie pod Wiedreniem 8 XI 1660. BCzart. 415, ліст ад 14 XI. S. 77, 85; Jan Kazimierz do M.K. Radziwiłła, Kraków 15 XII 1660. BCzart. 154. S. 695—696; AMG. T. III. № 259. S. 263—264.

[30] S. Przyborowski do B. Radziwiłła, z Horodka 13 XI 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 12561. S. 105.

[31] Тамсама. S. 103—104; K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Nieśwież 26 XI 1660. Тамсама. № 6568/II, ліст ад 30 XI. S. 5—7, 11—14.

[32] T. Pękalski do B. Radziwiłła, Wilno 13 I 1661. Тамсама. № 11560/I. S. 5—6.

[33] NN do B. Radziwiłła, Słuck b.d. [XI 1660]. Тамсама, неўпарадкаваныя паперы.

Агульны дрэнны стан войскаў і жаўнерскіх настрояў у літоўскіх шэрагах прымусіў Сапегу задумацца над магчымасьцю прыпыніць змаганьні, уклаўшы з Масквой *armistitium*. Гаворка ішла пра замірэньне з галоўным вайскаводцам царскіх войскаў у Беларусі Юр'ем Даўгарукім. Было добра вядома, што пасьля разгрому Хаванскага з боку Дзьвіны, прынамсі, нейкі час ня будзе пагражаць сур'ёзная небясьпека. Затое ўвесь час заставалася небясьпечнай армія, якую калісьці пакінулі на Басі. Дачакаўшыся падмацаваньняў, яна магла распачаць небясьпечныя для польска-літоўскага боку дзеяньні на Дняпры. Пры тагачасным стане войска цяжка было думаць пра наладжаньне чарговай зьнішчальнай апэрацыі, накіраванай супраць гэтага праціўніка. Магчымая параза ў сутыкненьні зь ім магла зьніштожыць плён апошніх посьпехаў. Таму Сапега схіляўся да замірэньня з Даўгарукім, тым больш, што ён, як было вядома, таксама змагаецца з многімі цяжкасьцямі, якія зазнаюць ягоныя жаўнеры. Ужо 12 лістапада ў лягеры пад Саройцай (Sorojcą) сэнатары, якія былі пры гетману — наваградзкі ваявода Крыштап Валадковіч, віцебскі ваявода Уладыслаў Валовіч і наваградзкі капталян Мікалай Уладыслаў Юдыцкі — напісалі Даўгарукуму ліст і адправілі зь ім смаленскага харужага Юр'я Пятра Вяжэвіча, прапануючы ўкласці *armistitium*, якое было б уступам да распачацьця далейшых мірных перамоваў. Укласці яго трэба было да часу, пакуль не дайшлі б адпаведныя рашэньні ў гэтай справе ад караля і цара. Хоць сэнатары ў лісьце падалі гэта як сваю ўласную ініцыятыву, якая магла б схіліць Чарнецкага і Сапегу спыніць кровапраліцьцё і аднавіць калісьці перарваныя мірныя перамовы, аднак было вядома, што адным з ініцыятараў гэтай акцыі быў сам вялікі гетман. Недзе пад канец лістапада Вяжэвіч прыбыў у лягер Даўгарукага пад Магілёвам. Пазьней зьявіліся чарговыя паслы ад Сапегі, якія ўзгаднялі ўмовы чарговага замірэньня, а паслы ад Даўгарукага прыбывалі ў літоўскі лягер. Царскі вайскаводца сьпярша ахвотна згадзіўся на спыненьне дзеяньняў, але канкрэтныя перамовы ў гэтай справе мусілі пачацца ў прызначаны ім дзень 12 сьнежня. Сваю згоду на прыпыненьне змаганьняў выказаў таксама Аляксей Міхайлавіч, паінфармаваны Даўгарукім наконт літоўскай прапановы. Цар загадаў свайму вайскаводцу, каб ён прызначыў і паслаў на гэтыя перамовы годных людзей, царскіх дваран. Такім чынам, у прызначаны дзень пад Шклоў зьехаліся пасланыя Сапегам і Даўгарукім прадстаўнікі абодвух бакоў. Маскоўскі вайскаводца ў той час, напэўна, быў яшчэ больш схільны да спыненьня змаганьняў, паколькі ў апошнія дні поўным фіяскам закончыліся для яго спробы здабыць Шклоў і Копысь. Аднак там да *armistitium* не дайшло, паколькі палкоўнік Рыгор Казімер Падбярэскі, падначалены зьвязанаму з каралём М.К. Пацу, заявіў, што бяз волі караля вялікі гетман ня можа заключаць замірэньня. Гэта азначала канец перамоваў і фіяска афіцыйнага *armistitium*[34]. Аднак шырокамаштабныя баявыя дзеяньні не былі аднаўленыя, паколькі абодва бакі былі настолькі зьнясіленыя, што ўжо не праяўлялі ніякага жаданьня змагацца далей і паволі пачалі адводзіць свае войскі. На гэтыя кантакты паміж абодвума бакамі Аляксей Міхайлавіч спасылаўся праз сваіх пасланцоў да караля і ў лютым наступнага году, стараючыся ў вельмі нявыгаднай для сябе сытуацыі наладзіць мірныя перамовы і прывесьці да спыненьня баявых дзеяньняў, ён спасылаўся на тое, што тады ўдалося стрымаць войскі ажно да ўсталяваньня абодвума бакамі міру, а пачатак перамоваў прадугледжваўся на чэрвень ці ліпень 1661 г.[35].

---

[34] Гл.: List do hetmana wojsk carskich, w obozie pod Sorojcą 12 XI 1660. AGAD. AKW, dz. ros. 55c/38. Адказ Даўгарукага зь лягеру пад Магілёвам. Тамсама. Адказ цара ад 7 II 1661. Тамсама, 55c/39; S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Kopyś 4 XII 1660. Тамсама. Dz. V. № 12561. S. 108—109; K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 19 XII 1660. Тамсама. № 6865/II. S. 16; Chrapowicki. S. 277.

[35] Jan Kazimierz do Aleksego Michajłowicza, Warszawa 24 VII 1661. RGADA. F. 79. Op. 1. № 113; ліст ад 25 VII 1661. № 114; T. Morsztyn do A. Lubomirskiego, Kielce 16 II 1661. APKr. AKPot. 3227/I. S. 273.

Празь некалькі дзён 22 сьнежня войскі Даўгарукага пачалі пакідаць лягер пад Магілёвам, скіроўваючыся ў напрамку Смаленску. Супакоены перамовамі з расейцамі гетман пакінуў у другой палове сьнежня свае войскі і разам з трыма харугвамі скіраваўся да Вільні. Ён ня мог, згодна з ранейшай воляй караля, прызначыць сваім намесьнікам у камандаваньні Палубінскага, паколькі той раней зь ягонага гетманскага дазволу ад'ехаў пад асаджаную літоўскую сталіцу. Сапега зрабіў ім навагрудзкага кашталяна Мікалая Ўладыслава Юдыцкага, кандыдатуру якога Ян Казімер таксама прыняў. Гэты адважны афіцэр, хутчэй за ўсё, пачаў заяўляць нейкія начальніцкія прэтэнзіі на адрас жамойцкай дывізіі, карыстаючыся адсутнасьцю ў ёй М. Паца. Весткі пра гэта дайшлі да літоўскага абознага і моцна яго раззлавалі. Аднак яго магутны сваяк, літоўскі канцлер К. Пац супакойваў яго, пераконваючы, што *«з камандаваньня пана навагрудзкага кашталяна сьмяяцца, а ня слухаць яго вашамосьці пану трэба, бо ты маеш дадзенае табе асаблівае камандаваньне ад самога караля Ягамосьці»*[36]. На чале жамойцкай дывізіі ў гэты час не было М. Паца, які скіраваўся да заходніх літоўскіх ваяводстваў. Яго замяшчаў прызначаны ім упіцкі староста Рыгор Казімер Падбярэскі. Гэтай дывізіі Сапега прызначыў пазыцыі на верхнім Дняпры, але з прычыны іх поўнага спусташэньня і немагчымасьці здабыць там харчы яна ў хуткім часе пачала самавольна перамяшчацца на Браслаўшчыну.

Такое разьвіцьцё падзеяў было нязьмерна спрыяльнае для Расеі. Паразы 1660 г., якія яна пацярпела ў Літве і Ўкраіне, паставілі яе ў вельмі складаную сытуацыю. Узьнік вялікі непакой за лёс Масквы. Баяліся маршу палякаў і ліцьвінаў у глыб маскоўскіх зямель, а таксама рэйдаў татарскіх аддзелаў, якія падтрымлівалі іх. Зноў зьявілася пагроза з боку казакоў, якія пасьля паразы пад Чуднавам і Слабадышчамі зноў у сваёй пераважнай большасьці сталі на бок Рэчы Паспалітай, а ў астатніх палках іх вернасьць была вельмі хісткай. Акрамя ўсяго гэтага непакоілі неўрэгуляваныя стасункі са Швэцыяй. Таму зьмяншэньне пагрозы з боку Літвы было вельмі пажаданае ў Маскве. Расейцы не спалохаліся няўдалых перамоваў пад Шкловам. Адразу пасьля іх адправілі спэцыяльных паслоў да польскага караля, каб у такім цяжкім для яе становішчы дабіцца калі ня міру, дык, прынамсі, такога замірэньня, якое б дазволіла Маскве паволі выблытацца з трагічнай ваеннай і ўсё горшай эканамічнай сытуацыі[37].

Дзеяньні 1660 г. на Дзьвіне пачалі паволі згасаць у лістападзе і сьнежні. Хоць даходзіла да паасобных акцый, але яны ня мелі большага стратэгічнага значэньня. За Дзьвіну пераправіліся большыя і меншыя аддзелы, галоўным чынам, для здабычы харчоў. 5 сьнежня з боку Бешанковічаў увайшлі людзі Кміціча і Аскіркі. Яны скіраваліся аж на Невель і Завалочча. Да гэтага рэйду іх падштурхнула вестка ад Чарнецкага пра тое, што Хаванскі з войскам пакінуў Полацак і накіраваўся да Невеля. Яны стараліся перахапіць маскоўскага вайскаводцу і з гэтай мэта пазаймалі дарогі, якія вялі на Невель і Завалочча. У выніку нічога з гэтых плянаў ня выйшла, але абодва палкоўнікі глыбока праніклі ў землі за Дзьвіною да самых Азярышчаў. Іх праваднікамі і памочнікамі ў гэтай акцыі былі полацкія мяшчане, якія, зьбегшы з гораду, прыйшлі да каралеўскіх войскаў. У сярэдзіне сьнежня ў тыя землі ўвайшла чэлядзь і добраахвотнікі палкоўніка Гальляша Сурына. Іх мэтай было ня столькі змаганьне, колькі збор харчоў і звычайны разбой. На гэты раз людзям Хаванскага ўдалося дабрацца да гэтых рабаўнікоў і прагнаць іх за Дзьвіну[38]. Паралельна з гэтымі дзеяньнямі ліцьвіны няспынна падыходзілі пад Віцебск, а ў сярэдзіне сьнежня пераправіліся недалёка ад гэтага гораду празь Дзьвіну

[36] K. Pac do M. K. Paca, Wiłkowiszki 31 I 1661. BCzart. 416. S. 32; Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Częstochowa 8 II 1660. LvNB. Fond 103. № 1769; AMG. T. III. № 260/3. S. 266.
[37] Wójcik Z. Traktat andruszowski... Op. cit. S. 84—88.
[38] AMG. T. III. № 218/6. S. 201; № 259. S. 263—264; T. Wasilewski, Oskierka Samuel // PSB. T. XXIV. S. 364.

і заблякавалі яго з гэтага боку, плянуючы адначасовыя вылазкі пад самыя Азярышчы[39]. А пад Полацак падбіраліся жаўнеры Чарнецкага з-пад Бабынічаў. Супраць гэтых разьездаў Хаванскі вырашыў арганізаваць выправу сваіх жаўнераў і полацкай шляхты на чале з Іванам Кісажэўскім. Яны вырушылі 22 сьнежня ўначы. Калі падышлі пад Бабынічы, аказалася, што там ужо не было палякаў. Аднак Хаванскі хацеў пасьля сэрыі паразаў хоць нейкай сур'ёзнай перамогі над ворагам, каб падняць у вачах цара сваю моцна папсаваную рэпутацыю. Таму, моцна прыхарошваючы гэтае здарэньне ў сваім лісьце да Аляксея Міхайлавіча, ён апісаў яго як свой вялікі посьпех. Пераконваў цара, што Чарнецкі за пару дзён да гэтага даведаўся, што на яго ідзе выправа з Полацку. І на гэтую вестку 19 сьнежня палякі ў вялікім страху ўцяклі да Бярэзіны, пакідаючы па дарозе мноства свайго вайсковага абсталяваньня. Пасланыя пазьней разьезды данесьлі, што каралеўскія войскі на самай справе адышлі на поўдзень, пераходзячы праз Бярэзіну і праз Докшыцы, і скіраваліся ў глыб Літвы[40].

Аддаленьне каралеўскіх войскаў азначала тое, што зьнікла адна з найбольшых пагрозаў для маскоўскай лініі абароны на Дзьвіне. Было вядома і пра адыход да Шклова жамойцкай дывізіі, і ўрэшце пачалі даносіцца галасы, што лягер літоўскіх войскаў пакінуў сам Сапега. Выкарыстоўваючы гэта, Хаванскі плянаваў скіравацца супраць людзей Лісоўскага, якія стаялі паміж Полацкам і Дзіснай. Аднак адыход зь Дзьвіны чарговых каралеўскіх войскаў не азначаў, што скончацца напады розных аддзелаў на паўночны бераг Дзьвіны. Перад 23 сьнежня гэтую раку перайшло 7 добраахвотніцкіх харугваў, якія занялі дарогі ад Полацку на Невель і Азярышчы. На даручэньне Сапегі яны павінны былі блякаваць дастаўку харчоў і забесьпячэньня ў Полацак. У выніку гэтага Хаванскі быў вымушаны адмовіцца ад пляну расправіцца зь Лісоўскім і рушыць за Дзьвіну. Супраць непрыяцеля ён накіраваў войскі з Полацку, падтрыманыя тымі, якія вярнуліся з выправы да Бабынічаў. Яны засьпелі ліцьвінаў зьнянацку 25 сьнежня ў населеным пункце Сітна, што каля 50 км на паўночны захад ад Полацку, і дашчэнту разьбілі іх. Палонныя яшчэ раз засьведчылі, што дывізія М. Паца адышла на Шклоў. Яны пацьвердзілі таксама, што Сапега ўклаў *armistitium* зь Юр'ем Даўгарукім, а сам ад'ехаў у Вільню[41]. Таму Хаванскі мог уздыхнуць з палёгкай. Больш не было небясьпекі значных апэрацый каралеўскіх войскаў, якія маглі б пагражаць маскоўскаму панаваньню за Дзьвіной. Сур'ёзная пагроза на адрэзку гэтай ракі, размешчаным на захад ад Полацку, зьявілася толькі ў пачатку 1661 г. з боку войскаў мальтыйскага кавалера Мікалая Ўладыслава Юдыцкага. Затое Хаванскі ня быў у стане адбіцца ад лятучых, найчасьцей нерэгулярных літоўскіх аддзелаў, якія няспынна ўрываліся ў землі на поўнач ад Дзьвіны. Апошні дзень году, які так добра пачынаўся для Хаванскага, а заканчваўся так фатальна, таксама належаў ягоным працiўнікам. 31 сьнежня далёкі літоўскі загон падабраўся пад горад Завалочча, які знаходзіўся ўжо па-за даўнімі межамі Рэчы Паспалітай. Ён быў абрабаваны, а гэты напад выклікаў вялікую паніку ў шырокай ваколіцы і ўцёкі цэлых сем'яў ва ўмацаваныя Вялікія Лукі[42].

[39] AMG. T. III. № 269. S. 273—274.
[40] AMG. T. III. № 260/1—2. S. 264—265.
[41] AMG. T. III. № 260/3. S. 265—266.
[42] AMG. T. III. № 268. S. 273.



**Маскоўскія стральцы (шарагоўцы).**

# XIV. Апошнія змаганьні на Дняпры. Марш дывізіі Чарнецкага ва Украіну

Адыход польскіх і літоўскіх аддзелаў з Басі ў другой палове кастрычніка дазволіў Юр'ю Даўгарукаму, які дагэтуль стаяў у лягеры, распачаць дзеяньні на Дняпры. Акрамя таго, да ягоных войскаў пачалі сьцякацца пэўныя падмацаваньні, і было вядома, што найбольш чаканы Пётар Даўгарукі разам са сваёй арміяй ідзе на дапамогу брату. Аднак у Смаленск ён прыбыў толькі 28 кастрычніка і, падагнаны лістамі, пасланымі братам яшчэ зь лягеру на Басі, выйшаў зь яго толькі праз тры дні. Да таго часу сытуацыя на Басі пасьпела вельмі зьмяніцца.

Дзеяньні арміі Хаванскага на поўначы прымусілі палякаў і ліцьвінаў адмовіцца ад плянаў далейшай блякады арміі Даўгарукага. Іх апошнія аддзелы адышлі зь лягеру па заходнім баку Басі 27 кастрычніка. Ім удалося зрабіць гэта патаемна ад расейцаў. Толькі ў той дзень да Даўгарукага дайшлі весткі, што Чарнецкі і Сапега разам з войскам адышлі ў Шклоў, а на месцы застаўся толькі Палубінскі. Інфармацыя наконт Палубінскага не была дакладная, але было вырашана паслаць супраць яго людзей ваяводы Максіма Рціщчава, якім далі ў дапамогу моцныя аддзелы з галоўнай арміі. Гэтыя войскі не засьпелі па другім баку Басі нікога — аказалася, што ўсе польскія і літоўскія аддзелы адышлі ў напрамку Шклова. Выкарыстоўваючы гэта, Даўгарукі сабраў усіх людзей, пасланых у разьведку і на пошукі харчоў, і 28 кастрычніка з вазамі і гарматамі пакінуў лягер. Яшчэ ў той жа дзень расейцы пераправіліся праз Басю і на пару дзён спыніліся ў вёсцы Сухары. У далейшы шлях, накіроўваючыся да Магілёва, адправіліся 31 кастрычніка[1].

Пад тым горадам яны апынуліся на другі дзень. Не было там мосту, таму некалькі дзён трэба было прысьвяціць на яго пабудову. У гэты час Даўгарукі прыняў дэклярацыю вернасьці магілёўскіх мяшчан, запэўніў іх у царскай міласьці і ўдзячнасьці за занятую імі пазыцыю. Спаткаўся таксама з маскоўскім ваяводам гэтага гораду, Максімам Палуехтавым. Адразу пасьля прыбыцьця пад Магілёў, а можа, яшчэ па дарозе з Басі, адправіў пасланца да нежынскага палкоўніка Васіля Залатарэнкі, які стаяў непадалёк, каб на доказ сваёй вернасьці і жаданьня служыць цару ён неадкладна прыбыў са сваімі людзьмі пад Магілёў. Казацкі вайскаводца зьявіўся там ужо 2 лістапада, але спыніўся на адлегласьці амаль 5 км ад гораду. Даўгарукі паслаў да яго паром, каб пераправіў сваіх людзей на заходні бераг Дняпра, а сам пачаў будаваць мост, каб пераправіць па ім сваю армію. Яго намерам было злучыць войскі на другім баку ракі і распачаць супольна з казакамі марш на Шклоў супраць харугваў Чарнецкага і Сапегі. Тым самым маскоўскі вайскаводца намерваўся ажыцьцявіць складзены раней плян узаемадзеяньня ягоных войскаў з арміяй Хаванскага. Ён яшчэ ня ведаў, як не пашчасьціла арміі, якая выйшла з Полацку. Але калі б яму ўдалося разам з казакамі, спраўна пераўшоўшы праз Дняпро, рушыць у бок Шклова і далей, то ён мог мець надзею, што разам з Хаванскім дабярэцца да перамножных дагэтуль ліцьвінаў і палякаў і расьцісьне іх паміж абедзьвюма арміямі. Такога павароту сытуацыі вельмі баяліся і ліцьвіны, назіраючы з блізкай адлегласьці за гэтымі падзеямі[2].

Аднак Даўгарукі быў вымушаны хутка зьмяніць свае ваенныя пляны і пакінуць надзею на хуткую расправу з праціўнікам. У першыя дні лістапада пад Магілёў прыйшлі жаўнеры з арміі Хаванскага, якія за некалькі дзён да гэтага пад Талачыном патрапілі ў польскі палон. Адасланыя ў тыл, яны здолелі ўцячы і дабрацца да лягеру

[1] AMG. T. III. № 209. S. 190.

[2] S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Kopyś 30 X 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 12561. S. 99.

Даўгарукага. Расказалі яму пра паразу арміі, якая ішла з Полацку, і пра яе панічнае адступленьне да Дзьвіны. Чарговая перамога палякаў і ліцьвінаў моцна ўразіла Даўгарукага. З гэтага моманту ён ня мог разьлічваць на супрацоўніцтва з войскамі Хаванскага. Ён зноў застаўся адзін перад праціўнікам. Казакам было цяжка даваран, тым больш, што ў гэтыя дні прыходзілі весткі пра трагічную для Расеі паразу ва Ўкраіне, нанесеную ім пад Чуднавам і Слабадышчамі войскамі каронных гетманаў і татараў. Адзінай падтрымкай, на якую ён мог спадзявацца, была даўно чаканая армія ягонага брата. Параза Хаванскага зьнішчыла пляны Даўгарукага. Затое з увагі на аддаленасьць войскаў праціўніка зьявілася нагода для менш маштабных дзеяньняў, якія дазволілі б дасягнуць пэўных мясцовых посьпехаў. У той самы дзень прыбылі магілёўскія мяшчане, якія дагэтуль знаходзіліся ў Шклове. Яны паінфармавалі, што ў гэтым горадзе і ў яго ваколіцах няма каралеўскіх войскаў, а застаўся толькі літоўскі гарнізон колькасьцю 200 драгуноў. Пачуўшы гэта, Даўгарукі адразу напісаў ліст шклоўскаму бурмістру, радцам і лаўнікам, каб яны пакінулі палякаў і здалі горад людзям Аляксея Міхайлавіча. Ён заклікаў іх, каб памяталі пра сваю прысягу на вернасьць цару, прынесеную калісьці на крыжы, каб адмовай не напрошваліся на штурм, помсту жаўнераў і праклён, які наклічуць на свае душы. Царскаму вайскаводцу было вельмі важна заняць гэты прыдняпроўскі горад. Тое, што ён заставаўся ў літоўскіх руках, нязьмерна ўскладняла дастаўку са Смаленску забесьпячэньня зручным рачным шляхам да маскоўскіх гарнізонаў, разьмешчаных ніжэй за Шклоў, а таксама ва Ўкраіне.

Адказ на дастаўленыя 3 лістапада лісты шклоўскія мяшчане абяцалі даць 7 лістапада. Яны ня вельмі хваляваліся з прычыны даўняй прысягі, а пагрозы праклёну і маляваныя маскоўскім вайскаводцам карціны пякельных пакутаў, якія ім пагражаюць, не рабілі на іх ніякага ўражаньня. Прамарудзіўшы некалькі дзён, яны хацелі зарыентавацца, як далёка знаходзяцца войскі літоўскіх і каронных вайскаводцаў і якое разьвіцьцё набылі справы іх барацьбы з Хаванскім. Было таксама вядома, што за пазыцыяй шклоўцаў пільным вокам назіралі жаўнеры літоўскай залогі. Каб дапамагчы ім прыняць адпаведнае рашэньне, Даўгарукі ўвесь час пасылаў пад гэты горад свае разьезды. Нягледзячы на гэта, ягоныя надзеі на добраахвотную здачу Шклова хутка зьніклі разам са зьвесткамі аб разгроме Хаванскага. З гэтага моманту тамтэйшыя мяшчане ані думалі слухаць угавораў расейскага вайскаводцы. Каб здабыць горад, ён наважыўся на больш радыкальныя крокі супраць яго. Быў вымушаны іх зрабіць, паколькі, стоячы пад Магілёвам, атрымаў царскі загад, які наказваў яму вызваліць ад літоўскіх залогаў Шклоў і Копысь, а тым самым — рачны шлях для адпраўкі са Смаленску ўніз па Дняпры транспарту з правіянтам. У важнасьці гэтага заданьня ён мог якраз пераканацца амаль на ўласныя вочы, калі плывучы канвой 11 лістапада быў атакаваны спачатку ў Копысі, а потым у Шклове мяшчанамі і залогай. У бітве на рацэ яны захапілі некалькі байдакоў з правіянтам і забілі 21 маскоўскага жаўнера, а многіх паранілі[3].

Даўгарукі, стоячы ў Магілёве, ня мог наракаць на адсутнасьць работы. 2 лістапада ён атрымаў роспачныя лісты са Старога Быхава ад тамтэйшага ваяводы, які маліў яго як найхутчэй дапамагчы. Людзі ягонага гарнізону працяглы час былі блякаваныя ў гэтай фартэцыі палкоўнікам Дзянісам Мурашкам, якога паслалі з каралеўскага лягеру ў тыя раёны, напэўна, яшчэ з Басі пасьля бітвы з Даўгарукім. Залога была страшэнна зморана голадам і не магла адбіцца ад няспынных нападаў праціўніка, які шныраў вакол крэпасьці. Праз дзень з Магілёва паслалі ў Стары Быхаў у рамках дапамогі транспарт з харчамі, а разам зь ім таксама войска, якое павінна было прагнаць з тых

[3] AMG. T. III. № 235. S. 228.

зямель Мурашку. Апошні, не чакаючы сутыкненьня, а пачуўшы пра выправу, уцёк аж за Бярэзіну. Вызваленаму ад блякады старабыхаўскаму ваяводу Даўгарукі наказаў паклапаціцца аб нарыхтаваньні адпаведных запасаў правіянту. У Магілёве яго таксама не было настолькі шмат, каб надалей пасылаць у іншыя гарады, і паволі жыхары і жаўнеры, якія сталі пад горадам, пачалі адчуваць усё мацнейшы голад[4].

Урэшце, 9 лістапада ўдалося паставіць на Дняпры мост, і войскі пачалі перапраўляцца на заходні бераг, каб распачаць выкананьне царскага загаду і рушыць на Шклоў і Копысь. У гэты час адбылася зьмена надвор'я і насталі маразы. Зьявіліся крыгі, якія абарвалі мост і пашкодзілі паром. У выніку пасьпелі перакінуць толькі частку сілаў, якія, напэўна, былі занадта малыя, каб зь імі распачаць нейкія дзеяньні. Таму трэба было пачакаць, пакуль замерзьне рака, каб па лёдзе магла перайсьці ўся армія. Гэта стала магчымым толькі 23 лістапада, але моцныя маразы разам зь недахопам корму прывялі да вопадзі большасьці коней, што зрабіла немагчымым транспартаваньне гармат і абсталяваньня для аблогі.

Чакаючы, пакуль Дняпро пакрыецца лёдам, Даўгарукі зрабіў чарговую акцыю на землях на ўсход ад Дняпра. У размешчаным там Крычаве надалей абаранялася залога шляхты і літоўскіх драгуноў, пакінутая там калісьці Ліпніцкім. Даўгарукі вырашыў канчаткова расправіцца зь ёй і накіраваць туды старадубскага наказнога казацкага палкоўніка Пятра Іванавіча Раслаўчэнку зь ягонымі казакамі. Ён павінен быў схіліць мяшчан здацца на міласьць цара. Даўгарукі мог сабе ў той час дазволіць вялікую акцыю, паколькі 14 лістапада да Магілёва пачалі прыходзіць першыя аддзелы войскаў ягонага брата Пятра, а праз два дні падцягнулася рэшта арміі. Ён прывёў 4600 жаўнераў. Адразу пасьля гэтага быў зроблены агляд прыбылых войскаў, сярод якіх асабліва цешылі Даўгарукага 400 адборных драгуноў і 700 жаўнераў салдацкай пяхоты. А 19 лістапада прыйшоў доўгачаканы стольнік і ваявода Сямён Зьмееў, а зь ім 1030 жаўнераў. Абодва вайскаводцы прывялі з сабой пераважна аддзелы «новага строю». Затое трэба сумнявацца, што, за выключэньнем выбарных адзінак, пасьпешна набіраныя ў армію жаўнеры адзначаліся адпаведнымі баявымі ўменьнямі.

Сабраўшы такія значныя сілы пад Магілёвам, Юры Даўгарукі вырашыў распачаць нарэшце дзеяньні супраць Шклова і Копыся. 21 лістапада ён паслаў туды свайго брата Пятра і Максіма Рцішчава зь іхнімі войскамі. Даў ім таксама пэўную колькасьць пешых казакоў з-пад камандаваньня Пятра Раслаўчэнкі, якія засталіся ў лягеры пасьля адыходу свайго камандзіра пад Крычаў. Яны рушылі туды пад кіраўніцтвам наказнога палкоўніка Кірылы Зражэўскага. Накіраваных пад Шклоў двух вайскаводцаў Даўгарукі праінструктаваў, як ім там ваяваць. Забараніў ім распачынаць штурмы, наказаў толькі насыпаць шанцы, абстрэльваць з гармат гарадзкія ўмацаваньні і няспынна ўгаворваць мяшчан здацца на міласьць цара. Затое войскам Зьмеева загадаў стаяць каля Магілёва. Аднак яны былі вымушаны перасунуцца да размешанага амаль за 50 км на ўсход Радамля, паколькі на ранейшым месцы было немагчыма знайсьці харчы для людзей і корм для коней. Даўгарукі ня мог цалкам разьлічваць на казакоў Залатарэнкі, паколькі тыя занялі, на ягоны непакой, вычакальную пазыцыю. Іх паводзіны сталі яшчэ больш падазронымі, калі пасланы да іх Ю. Даўгарукім Іван Хвастоў ня толькі не дачакаўся адказу наконт супольных дзеяньняў, але яшчэ быў імі затрыманы[5].

Жаўнеры Пятра Даўгарукага і Рцішчава хутка набліжаліся да Шклова. Яны былі каля яго ўжо 22 лістапада. Пачулі, што мяшчане намераныя спаліць навакольныя

[4] S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Kopyś 13 XI 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 12561. S. 104; AMG. T. III. № 216/1—2. S. 195—197.

[5] AMG. T. III. № 194/3. S. 180; № 216/2—4. S. 197—198.

вёскі і паселішчы. Такое зьніштажэньне ваколіцаў было б вельмі небясьпечнае для расейцаў, бо іх войску не было б куды схавацца ад холаду, а перш за ўсё, яны б хутка пачалі адчуваць голад, які і так ужо даваўся ім у знакі. Таму яны пастанавілі рашуча супрацьдзейнічаць гэтаму і прагнаць мяшчан, якія зьнішчалі ваколіцы[6].

Небясьпека, якая магла пагражаць тылу каронных і літоўскіх войскаў ад арміі Даўгарукага, не выпадала з-пад увагі Сапегі і Чарнецкага. Атакуючы Хаванскага, яны лічыліся з магчымасьцю ўскладненьня сытуацыі на Дняпры. Аднак досыць нязграбныя дзеяньні маскоўскага вайскаводцы, яго доўгае чаканьне падмацаваньняў і зручнага часу для пераправы праз Дняпро дазволілі каралеўскім войскам выйграць дзесяць зь нечым вельмі каштоўных дзён. У час, калі расейцы зьбіралі свае войскі пад Магілёвам, Сапега здолеў так-сяк паразумецца з блізкімі да бунту жаўнерамі і падумаць пра арганізацыю дапамогі прыдняпроўскім гарадам, што апынуліся ў небясьпецы. Гэтаму павінна было паслужыць разьмяшчэньне літоўскіх войскаў на зімовыя кватэры. Вылучаючы дывізіі Міхала Паца землі ад Магілёва да самага Глыбокага, тым самым ён даў ёй заданьне засланяць іх ад непрыяцеля. Жаўнеры гэтых харугваў выдатна разумелі, што дадзены ім ад гетмана адпачынак зьвязаны зь вельмі цяжкім і небясьпечным ваенным высілкам. Гэта не выклікала ў іх захапленьня, як і ўсьведамленьне таго, што яны накіроўваюцца ў раёны, цалкам зьнішчаныя вайной і нядаўна старанна вычышчаныя ад харчоў кароннымі і літоўскімі войскамі[7].

Набліжэньне маскоўскай небясьпекі страшэнна спалохала Сэбасьцяна Пшыбароўскага, які з пачатку кастрычніка знаходзіўся ў Копысі, што належаў Багуславу Радзівілу. Ён быў адпраўлены ў тыя раёны, перш за ўсё, з прычыны настрояў і, галоўным чынам, намераў абураных на князя літоўскіх жаўнераў. Ён павінен быў ад ягонага імя зьмякчаць магчымыя спробы адпомсьціць за зьведаныя крыўды і нявыкананыя абяцаньні ўладаньням Радзівіла. Іншым ягоным заданьнем было перацягваньне на свой бок прыхільных да князя афіцэраў і жаўнераў, а таксама суцішэньне варожых да яго парываў вялікага гетмана[8]. Як толькі Пшыбароўскі абсталяваўся ў Копысі, ужо пасьля адыходу каралеўскіх войскаў з Басі, ён апынуўся на чале далёка прасунутай да пазыцыяў ворага пляцоўкі. Нейкім чынам яго засланяў ад варожых войскаў блізкі Шклоў, які быў укамплектаваны невялікай залогай. Затое ў Копысі не было ніякіх жаўнераў, а ўсё ваеннае абсталяваньне разам з амуніцыяй было раней вывезенае літоўскімі жаўнерамі для забесьпячэньня Шклова. Сам горад быў зьнішчаны, а нешматлікія засталыя жыхары — змардаваныя вайной і пераходамі войскаў. Закруціўшыся вакол справаў, зьвязаных з абаронай, ён арганізаваў мяшчан у тры харугвы, так-сяк узброеныя стрэльбамі. Аднак здаваў сабе справу, што ў выпадку надыходу непрыяцеля гэта нічым не дапаможа. Яму была патрэбная падтрымка рэгулярнай пяхоты і гарматы. Просьба наконт гэтага, скіраваная да Сапегі, не прынесла станоўчага адказу. Гетман адвязаўся ад Пшыбароўскага, кажучы, што ня толькі ня можа дапамагчы Копысю, але і сам мае ў войску цяжкую сытуацыю[9].

Праз пару дзён аказалася, што войскі Даўгарукага скіроўваюцца на суседні Шклоў. Было вядома, што пры нагодзе яны спакусяцца і Копысем. Разумеючы немагчымасьць яго абароны, у пачатку лістапада ён як найхутчэй пагнаў у лягер Сапегі паблізу Віцебску, каб прасіць у яго дапамогі. На яго шчасьце, гетман выдатна ўсьведамляў неабходнасьць пасласць туды значныя сілы, каб захаваць кантроль над землямі паміж Друцьцю і Дняпром. Якраз у сваім лягеры ён меў харугву вугорскай пяхоты ротміст-

[6] AMG. T. III. № 216/4. S. 198.
[7] K. Pac do M.K. Paca, Kraków 10 XI 1660. BCzart. 418. S. 266.
[8] J. Mierzeński do B. Radziwiłła, Królewiec 17 VIII 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 9646/II. S. 91.
[9] S. Przyborowski do B. Radziwiłła, z Horodka 13 XI 1660. Тамсама. № 12561. S. 104—105.

ра Станіслава Скарбка колькасцю каля 100 жаўнераў, якая належала князю Багуславу. Яшчэ ў ліпені гетман выклікаў яе да сябе са слуцкага гарнізону. Яна прыбыла да яго толькі празь дзень пасьля бітвы на Басі. Цяпер, у адказ на просьбы Пшыбароўскага, ён адразу скіраваў яе да Копыся, які апынуўся ў небясьпецы, каб яна засталася там на даўжэйшы час у залозе[10].

Скарбак з Пшыбароўскім, не марудзячы, адправіліся ў шлях. Вельмі сьпяшаючыся, яны дасягнулі Копыся 22 лістапада. Будучы ўжо недалёка, даведаліся, што пад суседнім Шкловам у той жа дзень спыніўся Пётар Даўгарукі. Прыйшла таксама навіна, што Копысь здаўся царскім войскам. Не паверыўшы гэтаму, яны прыйшлі пад горад, які аказаўся свабодным ад непрыяцеля. Аднак з боку Шклова было відаць вялікія вогнішчы, якія распальваў непрыяцель. Даведаліся таксама, што маскоўскія войскі абстрэльваюць з гармат Шклоўскую фартэцыю і ўсё прадмесьце. Не чакаючы даўжэй, Скарбак пераправіў усю сваю пяхоту на ўсходні бераг Дняпра, дзе знаходзіўся галоўны горад, і стаў жвава арганізоўваць абарону. У гэтым яму значна дапамагалі мяшчане і ваколічныя сяляне, якія схаваліся ў горадзе.

Тым часам жаўнеры Пятра Даўгарукага заатакавалі пад Шкловам мяшчан, якія спрабавалі зьнішчыць ваколіцы. Зь лёгкасьцю прагналі іх, шмат каго забілі, а іншыя ўцяклі ў горад. Маскалі адразу пачалі сыпаць вакол яго шанцы, паставілі на іх гарматы і пачалі абстрэльваць горад. Можа быць, Даўгарукі атрымаў у той час вестку, што ў недалёкім Копысі няма ніякіх войскаў. У гэтым горадзе знаходзіўся пабудаваны яшчэ маскоўскай залогай да 1660 г. замак. Заняцьце яго і гораду было б першым сур'ёзным крокам да разблякаваньня рачнога шляху. Гэта станавілася яшчэ больш патрэбным, паколькі яшчэ да таго, як Скарбак зьявіўся там са сваёй пяхотай, мяшчане заатакавалі транспарт з харчамі і порахам, які плыў са Смаленску па Дняпры. Таму Пётар Даўгарукі паслаў 23 лістапада аддзел войска, які павінен быў заняць гэты горад. Аднак ён ня ведаў, што літаральна за дзесяць зь нечым гадзін да гэтага там апынулася харугва літоўскай пяхоты. Яго жаўнеры сьмела падышлі пад парканы ўмацаваньняў і нечакана ўбачылі, што на іх рынуліся жаўнеры. Засьпетыя цалкам зьнянацку, яны хутка адступілі назад, толькі страцілі палоннага. Ён прызнаўся, што П. Даўгарукі паслаў іх спаліць горад, а ўсіх жыхароў і ваколічных сялян выразаць. Пра гэтае прызнаньне адразу ж расказалі ўсім, хто быў у горадзе, што яшчэ больш мабілізавала жаўнераў і грамадзян да пільнай увагі і абароны. З маскоўскага боку паслалі трубача пад умацаваньні Копыся заклікаць да вернасьці цару. Яго адразу адправілі назад з адказам, што будуць стаяць на баку караля. Расейцы не рабілі ніякіх дзеяньняў, хоць абаронцы з пэўным страхам іх чакалі, ведаючы, што ня маюць вялікіх шанцаў на абарону. Тым часам праз два дні пад паркан пракраўся пэўны маскоўскі рэйтарскі афіцэр, які паінфармаваў, што хоча перайсьці на літоўскі бок. Ён раскрыў прычыну, зь якой расейцы не прыкладаюць намаганьняў, каб заняць Копысь. Аказалася, што войска зморанае страшэнным голадам, масава падаюць коні, а жаўнеры дэзэртуюць з шэрагаў. Уцёкі набылі такі масавы характар, што ў асобных аддзінках засталося па некалькі або па дзесяць зь нечым чалавек. Даведаліся таксама, што казакі, якія стаяць пры маскоўскіх войсках пад Копысем і Шкловам, намерваюцца перайсьці на бок польскага караля.

Гэтая навіна нязьмерна суцешыла абаронцаў. Такога каштоўнага палоннага адразу ж адправілі да Сапегі, які стаяў у Беліцы, што паміж Копысем і Віцебскам. Гэтыя зьвесткі, напэўна, паказалі яму маштаб праблемаў, зь якімі змагаюцца царскія вайскаводцы, і заахвоцілі да энэргічных дзеяньняў. Выданыя ардынансы паднялі на

[10] S. Skarbek do B. Radziwiłła, Kopyś 27 XII 1660. Тамсама. № 14423. S. 29—30; S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Kopyś 4 XII 1660. Тамсама. № 12561. S. 107.

марш у кірунку Копыся частку харугваў левага крыла, якімі кіраваў Міхал Пац, а таксама некаторыя харугвы сапегаўскай дывізіі. Войска вырушыла 29 лістапада, а 1 сьнежня затрымалася пад Смалянамі. Адтуль паслалі з дапамогай абаронцам Шклова казацкія харугвы на чале з Уладыславам Юр'ем Халецкім, Станіславам Ліпніцкім і Станіславам Бабраўніцкім. Яны зьявіліся пад Шкловам 3 сьнежня, засьпелі там зьнянацку казакоў, якія былі на маскоўскай службе, і расьсеялі іх. Гэтыя казакі хацелі перайсьці на польскі бок, але сярод тых, хто атакаваў, нямногія пра гэта ведалі — *«таму, хто пра гэта ведаў, апекаваўся, а хто не, біў»*. Паводле Скарбка, праз гэтае няведаньне ліцьвінаў многія казакі так і засталіся на баку Масквы, хоць частка зь іх перайшла да літоўскага войска. Аднак самі царскія вайскаводцы разабраліся ў казацкіх намерах і адразу ўзялі іх пад варту. Ліцьвіны спрабавалі дабрацца таксама да жаўнераў Даўгарукага і Рціпічава. Спробы перамагчы ўмацаваньні іх лягеру скончыліся няўдачай, і ў той дзень было страчана пару чалавек, схопленых у палон.

Літоўскія войскі заставаліся пад Шкловам адзін тыдзень. У шанцах пад горадам надалей сядзелі жаўнеры Пятра Даўгарукага. Урэшце ліцьвіны павярнуліся і пайшлі да гетманскага лягеру, спыніўшыся ў Смалянах. Аднак пасьля іх засталася магутная навіна, што ў гэтыя раёны накіроўваецца з усім літоўскім войскам гетман Сапега. Пачуўшы пра прыбыцьцё ліцьвінаў пад Шклоў, Юры Даўгарукі адправіў з-пад Магілёва на дапамогу свайму брату значныя сілы пад камандаваньнем Восіпа Сукіна, Сямёна Зьмеева. Можа быць, чакаючы там сур'ёзных сутычак, ён аддаў пад камандаваньне Сукіна адны з найлепшых адзінак сваёй арміі, сярод якіх быў рэйтарскі полк Грыгорыя Тарбеева, адборны драгунскі полк А. Шэпелева і салдацкі полк генэралмаёра Віліма Драмонта. Зьмееў вёў рэйтарскі полк і дзьве сотні яраслаўскіх татараў[11]. Яны мелі загад разам з войскамі, якія былі пад Шкловам, распраўіцца зь ліцьвінамі. Аднак калі пачуюць, што наступае сам гетман з арміяй, то мусяць адысьці ў лягер пад Магілёвам. Якраз пад Копысем і Шкловам найбольш казалі пра марш у гэтыя раёны Сапегі з усімі літоўскімі войскамі. Гэтыя чуткі, рашучае жаданьне шклоўскіх мяшчан, а таксама трагічны стан маскоўскай арміі, які імкліва пагаршаўся, схілілі Пятра Даўгарукага пакінуць пазыцыі пад Шкловам і адысьці ў галоўны лягер пад Магілёвам, хоць ён здолеў даведацца ад палонных, што супраць яго ідзе не Сапега, а Міхал Пац, затое з усёй сваёй дывізіяй. Застаючыся даўжэй пад Шкловам, ён баяўся аказацца адрэзаным ад галоўных сілаў свайго брата і быць заблякаваным ліцьвінамі. Адыходзячы, ён загадаў свайму войску зьнішчаць і паліць што толькі можна ў як мага шырэйшых ваколіцах, абы толькі пакінуць за сабой для літоўскіх войскаў абсалютна зьнішчаную зямлю. Засьпетых у дамах сялянаў або забівалі, або забіралі з сабой. Са шклоўскіх ваколіц ураваліся толькі тыя, хто схаваўся ў непралазных пушчах або своечасова ўцёк у горад[12].

Шклоў і Копысь былі ўратаваныя. Захаваньне ў руках такіх важных пунктаў на Дняпры мела вялізнае значэньне, паколькі надалей блякавала для маскоўскіх войскаў зручныя зносіны зь іх залогамі ў Магілёве, Старым Быхаве ці Кіеве. А літоўскаму боку гэта дазволіла захаваць зручныя пераправы на гэтай рацэ і зыходныя пункты для магчымых далейшых апэрацый. Надзвычай важным быў таксама псыхалягічны эфэкт, якога ўдалося дасягнуць сярод беларускага насельніцтва. Аказалася, што войскі Рэчы Паспалітай ня толькі занялі гэтыя землі і гарады, але і не дазволілі новым царскім войскам вырваць іх у сябе. Значэньне гэтага фактару ацэньвалі на каралеўскім два-

[11] Малов А.В. Московские выборные полки...

[12] S. Skarbek do B. Radziwiłła, Kopyś 27 XII 1660. Тамсама. № 14423. S. 30—31; S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Kopyś 4 XII 1660. Тамсама. № 12561. S. 107—109; AMG. T. III. № 216/4. S. 198. № 237/1—2. S. 242—243; Русско-белорусские связи. № 410. С. 441—42; Poczobut Odlanicki. S. 148.

ры. У апошні дзень сьнежня пра гэта пісала Сапегу каралева Людвіка Марыя, якая хваліла гетмана за дзейсную дапамогу Шклову: *«Калі б, ня дай Божа, гэтая фартэцыя здалася, мы страцілі б давер іншых гарадоў, паколькі няздольныя своечасова падтрымліваць іх»*[13].

Пад Магілёў Пётар Даўгарукі вярнуўся 4 сьнежня і разьбіў там свой лягер. Абодва браты мусілі згадзіцца зь няўдачай пад Шкловам і Копысем. Затое лепшыя навіны прыйшлі з-пад Крычава, пад якім са сваімі казакамі стаяў Пётар Раслаўчэнка. Юры Даўгарукі хацеў пасляць яму на дапамогу рэгулярных маскоўскіх жаўнераў, але яго адгаварылі ад гэтага мяшчане, адзін з Магілёва, а другі ўцякач з Крычава. Яны добра ведалі настрої ў Крычаве і растлумачылі вайскаводцу, што калі там зьявяцца царскія жаўнеры, то горад ніколі добраахвотна ня здасца цару. Угаворы Раслаўчэнкі далі жаданы плён. У гэтым яму пасьпяхова дапамагаў крычаўскі мешчанін Аляксандар Батхевіч, для якога потым Раслаўчэнка выпрошваў узнагароду ў Юр'я Даўгарукага. Паволі з гораду ўцякалі да казакоў чарговыя мяшчане і чэлядзь залогі. Пазбаўленыя ў той момант усялякай надзеі на хуткую дапамогу астатнія мяшчане 3 сьнежня здалі горад і прысягнулі на пажыцьцёвую вернасьць цару. Раслаўчэнка забраў схопленых у палон літоўскіх драгуноў і камэнданта Яна Трамблінскага ў свой табар, а ў горадзе пакінуў 40 казакоў з сотнікам Рубанам у залозе. Адразу дайшло таксама да вострага канфлікту паміж Раслаўчэнкам і людзьмі Даўгарукага. Аказалася, што мяшчане здаліся пры ўмове, што іх горад будзе пад кіраўніцтвам запарожскага войска, што будзе належаць таму, каму гэтае войска будзе служыць, і што толькі казацкая залога будзе стаяць у ім. Гэта страшэнна пакрыўдзіла расейцаў, якія хацелі пакінуць там сваю залогу. Урэшце Даўгарукі быў вымушаны зрабіць добрую міну пры кепскай гульні і згадзіўся пакінуць там залогу Раслаўчэнкі, пакуль ня прыйдзе іншы загад ад цара. У той час нявыгадна было абвастраць стасункі з задняпроўскімі казакамі, якія пасьля маскоўскай паразы ва Украіне ўсё больш выразна пачыналі пагладаць у бок Рэчы Паспалітай, а царскія камандзіры ўсё часьцей атрымлівалі інфармацыю пра чарговыя бунты казацкіх палкоўнікаў на Задняпроўі. Таму Крычаў застаўся ў руках казакоў, хоць моцны цень маскоўскага падазрэньня ў тайных варожых намерах лёг нават на самога Залатарэнку. Урэшце Раслаўчэнка і Залатарэнка паслалі Даўгарукаму ўжо пад Смаленск свае лісты. Першы зь іх апраўдваў свой учынак, а другі заяўляў пра сваю вернасьць і абяцаў пакараць казакоў за неразумны ўчынак пад Крычавам. За іх абодвух заступіўся нежынскі пратапоп Максім Філімонаў, які таксама напісаў Залатарэнку, каб той загадаў Раслаўчэнку забраць казацкія залогі з Прапойску, Чачэрску, Чавусаў і Крычава, каб туды можна было ўвесьці царскіх жаўнераў. Нежынскі палкоўнік загадаў зрабіць гэта ва ўсіх згаданых гарадах, але ад Крычава ня вельмі хацеў адмаўляцца і заявіў, што чакае, пакуль у гэтай справе прыйдзе грамата Аляксея Міхайлавіча. Урэшце, пра ўсю справу забыліся. Найгорш з усіх гэтых канфліктаў было схопленым у палон літоўскім драгунам і шляхце. Раслаўчэнка ўрэшце адаслаў іх да Залатарэнкі ў Нежын. Там іх некалькі тыдняў трымалі ў вязьніцы, а потым адаслалі ў Маскву. У выніку яны далучыліся да многіх іншых літоўскіх палонных у далёкай Казані, якіх высылалі туды ад пачатку вайны ў 1654 г.[14].

У гэты час у атачэньні Яна Казімера нічога ня ведалі пра страту гораду. Надалей цешыліся зь вяртаньня такога важнага стратэгічна месца. Дамагацца яго пачаў крычаўскі староста і адначасова троцкі ваявода Мікалай Стэфан Пац. Кароль згадзіўся зь ім і 16 сьнежня паслаў да Сапегі ліст, каб яму вярнулі горад. На крычаўскага стара-

[13] Ludwika Maria do P. Sapiehy, Kraków 31 XII 1660. LvNB. F. 103. № 1765.

[14] Aktikacja Attestacy należącej Ichm Panom Poniatowskim, wrzesień 1662 Kazań. LVIA, SA 2. K. 1220—1220v; AMG. T. III. № 237/2. S. 244; № 245/1, 3. S. 250, 251; № 273. S. 275—276.

сту надалей быў ускладзены абавязак клапаціцца пра захаваньне Крычава ў літоўскіх руках. Гетман павінен быў яму ў гэтым дапамагаць, даючы з войска жамойцкай дывізіі пэўную колькасьць жаўнераў для залогі[15].

Змаганьні пачалі паволі згасаць. Пасланцы Сапегі і Даўгарукага ўжо пачалі весьці размовы наконт замірэньня. Ні ліцьвіны, ні расейцы не былі ў той час зацікаўленыя працягваць баявыя дзеяньні. Вельмі цяжкія ўмовы, недахоп харчоў, узмацненьне маразоў, незадавальненьне ў абедзьвюх арміях і ўцёкі жаўнераў наказвалі абодвум бакам выкарыстаць нагоду прыпыніць змаганьні і даць магчымасьць адпачыць сваім людзям, нават нягледзячы на правал літоўска-маскоўскіх перамоваў 12 сьнежня наконт заключэньня афіцыйнага замірэньня. Юры Даўгарукі атрымаў яшчэ ў першыя дні сьнежня царскі дазвол на заключэньне *armistitium*, а таксама загад, каб добра забясьпечыў Магілёў і скіраваўся пасьля гэтага на Смаленшчыну. Сабраўшы ў лягеры сваіх жаўнераў, ён забясьпечыў Магілёў харчамі, амуніцыяй і порахам, а таксама пакінуў там пад камандаваньнем даўняга тамтэйшага ваяводы Мацея Палуехтава 100 рэйтараў, 650 жаўнераў салдацкай пяхоты і 30 чалавек з магілёўскай шляхты разам з афіцэрамі. Ён паслаў таксама як падтрымку ў Стары Быхаў 150 драгуноў. Аднак найгорш было з забясьпячэньнем гэтых жаўнераў асноўным правіянтам. Гэта стварала шмат цяжкасьцяў і не абяцала нічога добрага маскоўскім залогам у гэтых крэпасьцях у выпадку надыходу больших літоўскіх і польскіх сілаў. Праблема надалей заставалася надзённай нават пасьля дастаўкі пад канец году ў гэтыя фартэцыі значных запасаў са Смаленску[16].

Урэшце войскі Даўгарукага пачалі пакідаць лягер пад Магілёвам 22 сьнежня. Яны рушылі двума шляхамі, каб палегчыць сабе марш і харчаваньне. Юры Даўгарукі пайшоў на Чавусы, а рэшта войска, якую вёў яго брат, скіравалася на Горкі і Дасухаў. Пад Чавусамі злавілі трох казакоў Раслаўчэнкі, якія па начах уцякалі на поўдзень. Калі іх дапыталі, прызналіся, што пад Шкловам яны патрапілі ў літоўскі палон і іх адаслалі ў Беліцу да Сапегі. Там палкоўнік Ліпніцкі ўгаварыў гетмана вызваліць іх і даць ім лісты да казацкай старшыны ў Нежыне, Чарнігаве, Пераяславе і Старадубе, якія пераконваюць яе перайсьці на бок Рэчы Паспалітай. Адначасова прызналіся, што Сапега і Чарнецкі ня думаюць пра мір, а толькі чакаюць падмацаваньняў, каб распачаць далейшыя баявыя дзеяньні.

Гэтыя сьведчаньні сеялі пэўны непакой у маскоўскіх вайскаводцаў. Але, з другога боку, расейцы здавалі сабе справу, зь якімі цяжкасьцямі змагаецца войска праціўніка. Таму вырашылі працягваць марш да Смаленшчыны. Па дарозе сур'ёзна актывізавалася дээртаваньне з шэрагаў. Урэшце войска дабралася ў ваколіцы Смаленску 6 студзеня 1661 г. Яно было змардаванае да крайняй ступені. Усю дарогу і пад самым Смаленскам нарастала праблема з уцёкамі жаўнераў. Гэтая зьява хутчэй актывізавалася, давёўшы армію Юр'я Даўгарукага да такога стану, што ў бліжэйшы час яе нельга было выкарыстоўваць для сур'ёзных ваенных дзеяньняў[17]. Гэтага не змаглі стрымаць ні абяцаньні ўзнагарод ад цара грашыма, харчамі, ні пагоні за ўцеклымі і іх пакараньні. Калі Даўгарукі прыбыў у Смаленск, там не знайшлося дастаткова харчоў, і голад, які месяцамі мучыў жаўнераў, узмоцніўся яшчэ больш. Затое там былі знойдзеныя царскія загады, дадзеныя калісьці смаленскаму ваяводу Б.А. Рапніну. Яны загадвалі яму са смаленскага гарнізону паслаць 300 жаўнераў для падтрымкі Белай, якой пагражалі ліцьвіны. А паколькі амаль усіх жаўнераў са Смаленску ўжо паслалі да арміі Ю. Даўгарукага, калі яна стаяла на Басі і пад Магілёвам, то царскі загад

[15] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Kraków 6 XII 1660. LvNB. F. 103. № 1761.

[16] AMG. T. III. № 234/1—3. S. 224—227.

[17] AMG. T. III. № 265/2—5. S. 270—272.

ваявода аддаў уласна таму вайскаводцу, які са сваімі войскамі зьявіўся ў Смаленску. Добра ведаючы стан сваёй арміі, Ю. Даўгарукі шчыра напісаў у адказе, што ня можа выканаць гэтага даручэньня і пасланць людзей да Белай: няма ні рэйтараў, ні драгуноў, бо яны паўцякалі са службы. Указваў, што ў самым шматлікім драгунскім палку засталося толькі 220 жаўнераў, а ёсьць і такі, у якім можна налічыць усяго толькі 24 драгуны. Хоць засталіся драгуны адборных палкоў і элітарныя маскоўскія стральцы, але ён не наважваўся кранаць іх без спэцыяльнага дазволу цара[18]. Такім чынам заканчвалася для гэтага вайскаводцы кампанія 1660 году на землях Вялікага Княства Літоўскага.

На польска-літоўскім баку ў той час працягвалася раскватараваньне войскаў абедзьвюх дывізій. Паводле плянаў Сапегі, войскі ягонай дывізіі павінны былі скіравацца ў Браслаўскі і Ашмянскі паветы, прыкрываючы заходнія землі Літвы ад магчымай пагрозы з боку царскіх гарнізонаў з Полацку і Дзьвінску. Асабліва гетман баяўся пагрозы з боку энэргічнага Хаванскага. З гэтай прычыны Сапега выдаў ардынанс пакінутаму на чале яго дывізіі Юдыцкаму, каб той пільна сачыў за пачынаньнямі царскага вайскаводцы. Жамойцкая дывізія атрымала землі паміж Глыбокім і Магілёвам, стаячы тым самым на варце верхняй лініі Дзьвіны і верхняга Дняпра. Гэта выклікала вялікія пратэсты сярод жаўнераў левага крыла, бо яны пачуваліся пакрыўджанымі прызначэньнем ім на зімовыя кватэры земель, якія былі дашчэнту спустошаныя апошнімі ваеннымі дзеяньнямі[19]. Каб хоць крыху супакоіць гэтыя настроі і затрымаць харугвы на прызначаных ім месцах, хутка пасьля вяртаньня войскаў з-пад Копыся і Шклова гетман дазволіў абодвум крылам атрымліваць праз дэпутатаў зімовы хлеб з каралеўскіх і царкоўных уладаньняў Літвы і Жамойці. Абедзьве дывізіі павінны былі выбраць са свайго ліку гэтых дэпутатаў. Правае крыло прызначала аршанскага падкаморага Крыштапа Статкевіча, які быў у Навагрудку. Левае крыло выбрала біржынскага цівуна Крыштапа Адахоўскага. Ён павінен быў стаяць у Расенях у Жамойці. Арандатарам загадалі выдаваць грошы. Іх папярэджвалі, што ўпартых будуць падганяць спэцыяльнымі лістамі. А калі і гэта не дапаможа, то дэпутаты павінны былі папрасіць іншых вайскоўцаў, каб тыя прыехалі і разам *«скіравалі да такой уласнасьці і, ветла абыходзячыся, дапамаглі ўзяць належнае»*[20]. У гэтым была відавочная пагроза, паколькі такія «ветлыя» паводзіны грамады вайскоўцаў азначалі поўны ўпадак наведанага імі маёнтку. Дэпутаты павінны былі сабраць грошы да красавіка 1661 г., а потым іх разьдзяліць войску.

Паволі большасьць сапегаўскіх адзінак адышла на захад. Пакінутыя паміж верхняй Дзьвіной і верхнім Дняпром жамойцкія харугвы не праяўлялі жаданьня змагацца, а таксама далей заставацца ў спустошаных раёнах. Яны былі занятыя пошукам кватэраў і харчоў. Напатканае ў гэтых пошуках расчараваньне толькі пагоршыла настроі жаўнераў і прымусіла іх, насуперак гетманскаму ардынансу, скіравацца да больш заможнай, на іх думку, Браслаўшчыны, ужо прызначанай Сапегам для ягонай дывізіі. Жаўнеры жамойцкай дывізіі не перажывалі з-за гэтага, ведаючы, што заўсёды могуць разьлічваць на падтрымку караля і літоўскага канцлера К. Паца. Пад канец 1660 г. побач зь імі не было іхняга камандзіра М. Паца, які, напэўна, з часткай свайго войска скіраваўся ў глыб Літвы. Камандаваньне рэштай харугваў ён пакінуў у руках прызначанага ім упіцкага старасты Рыгора Казімера Падбярэскага, які ня меў пярэчаньняў

[18] AMG. T. III. № 227/3. S. 217.

[19] T. Pękalski do B. Radziwiłła, Wilno 13 I 1661. AGAD. AR. Dz. V. № 11560/I. S. 5—6; M.W. Judycki do H. Podbereskiego, b.m. 22 I 1661. BCzart. 155. S. 67—68.

[20] Actikacja patentu od Woyska należącego IchMsciom PP. Komissarzom, w obozie pod Smolanami 8 XII 1660. Ks. Gr. Żmudzka 1661. VUB. F. 1—21/14473. K. 238—239v.

накont перамяшчэньня дывізіі насуперак гетманскім загадам. Не чакалі таксама вяртаньня адпраўленых да караля паслоў са скаргамі на гетмана і прызначаныя ім кватэры. У той час надзеі на далейшае правядзеньне ваенных дзеяньняў меў толькі што прызначаны Сапегам камандзір правага крыла, мальтыйскі кавалер М.У. Юдыцкі. 28 сьнежня, будучы яшчэ ў Чашніках, ён зьвярнуўся да М.К. Паца з просьбай зьявіцца на сустрэчу камандзіраў абодвух крылаў у Верхаве, дзе будзе праведзена нарада. Аднак Паца ўжо некалькі дзён не было ў гэтых раёнах, а ліст атрымаў прызначаны ім камандзірам левага крыла Падбярэскі. 2 студзеня 1661 г. у Чашніках адбылося спатканьне Юдыцкага і Падбярэскага зь іншымі афіцэрамі абодвух крылаў. Зробленая Юдыцкім прапанова распачаць супольную апэрацыю супраць царскіх войскаў была адкінутая. Харугвы жамойцкай дывізіі праз пару дзён пачалі пакідаць прызначаныя ім тэрыторыі на верхнім Дняпры і ў ваколіцах Віцебску. Потым яны скіраваліся на Браслаўшчыну[21]. Адыходзячы, жаўнеры пакідалі за сабой укамплектаваныя нешматлікімі літоўскімі залогамі Шклоў і Копысь. У выніку адыходу жамойцкай дывізіі яны станавіліся пляцоўкамі, найдалей высунутымі да маскоўскіх пазыцыяў. Гэта пагражала тым, што пасьля адыходу жаўнераў з гэтых гарадоў яны патрапяць у рукі непрыяцеля. Занепакоены такой магчымасьцю і стратай свайго Копыся князь Багуслаў Радзівіл паслаў Сэбасьцяну Пшыбароўскаму і ротмістру разьмешчанай там вугорскай пяхоты Станіславу Скарбку строгі загад пільнаваць гэтае месца, абараняць яго і кантактавацца з гетманам. У Сапегі прасіў падтрымаць пры неабходнасьці тамтэйшы гарнізон, а ў копыскіх мяшчан — вернасьці і падтрымкі жаўнерам пры пагрозе[22]. З часам выбіцьцё маскоўскага гарнізону ў блізкім Магілёве і прыбыцьцё ў раёны верхняга Дняпра некалькіх харугваў дазволілі забясьпечыць залогам Копыся і Шклова большую бясьпеку.

У сьнежні літоўскі ваенны тэатар вырашыў пакінуць са сваёй дывізіяй Чарнецкі. Падобна як і ў лютым, так і на гэты раз ягонае рашэньне выклікала вялікі непакой ліцьвінаў, якія ў ім і ў ягоных жаўнерах бачылі самую дзейсную абарону іх айчыны ад маскоўскай небясьпекі. Рускі ваявода, напэўна, ня бачыў сэнсу далей заставацца каля Полацку, пасьля таго як Сапега ўклаў зь непрыяцелем замірэньне і ўжо сам ня думаў пра змаганьні ні на Дняпры, ні на Дзьвіне. Таксама стан літоўскай арміі не дазваляў мець сур'ёзнай надзеі на распачацьце ў бліжэйшы час шырокамаштабных ваенных дзеяньняў. Крыху раней Чарнецкі прапаноўваў, каб пераможныя літоўскія і каронныя войскі рушылі ў межы маскоўскай дзяржавы. Заахвочваць да гэтага маглі чуткі пра падрыхтоўку швэдаў да аднаўленьне вайны з Масквой. Фіяска надзеі на супольныя з Сапегам далейшыя дзеяньні схіліла кароннага вайскаводцу пакінуць пазыцыі на Дзьвіне і скіравацца на Украіну, дзе ў той час палявы гетман Юры Любамірскі схіляўся ўвайсьці з войскам у маскоўскія межы. Чарнецкі яшчэ пэўны час вагаўся і прасіў у Міхала Паца інфармацыі наконт магчымых ваенных плянаў Сапегі. Калі ён зарыентаваўся, што зь іх нічога ня выйдзе, спрабаваў пацягнуць за сабой Паца, спасылаючыся на каралеўскую волю[23].

Рускі ваявода, згадваючы пра пазыцыю Яна Казімера, напэўна, спасылаўся на ягоныя словы з атрыманых лістоў. На двары рашэньне Сапегі ўкласьці *armistitium* выклікала вельмі благое ўражаньне і хвалю магутнага абурэньня на сваволю гетма-

[21] Uniwersał Jana Kazimierza na chleb do Żmudzi wydany, Warszawa 17 III 1661. VUB. Ks. Gr. Żmudzka 1661. F. 7—21/14473; K. Pac do B. Radziwiłła, Wiłkowiszki 7 II 1661. AGAD. AR. Dz. V. № 11208/II. S. 241—242; Poczobut Odlanicki. S. 148—149; Skorobohaty. S. 87.

[22] Гл.: лісты Б. Радзівіла да іх ад 16 і 17 I 1661 г. AGAD. AR. Dz. IVa (копіі). T. 1. Kop. 6. K. 502—503.

[23] S. Czarniecki do M.K. Paca, Bobynicze 13 XII 1660. BCzart. 1380. S. 7; M. Prażmowski do J. Lubomirskiego, Kraków 22 XI 1660, B.PAN Kr 1065. S. 28; Nowiny z listów pana Gąseckiego. BJag. 5. S. 765; Kersten A. Stefan Czarniecki. Op. cit. S. 432.

на. Пасьля апошніх посьпехаў у Літве, а таксама ва Ўкраіне здавалася, што канчатковая перамога пад рукой. Зноў вельмі разьлічвалі на казакоў. На каралеўскім двары настолькі пераацэньвалі іх вернасьць пасьля перамогі над імі і заключэньня зь імі Чуднаўскай дамовы, што Сапегу тлумачылі, што з дапамогай Залатарэнкі ён цяпер раздушыць Даўгарукага і Хаванскага. Таксама ў дакучлівай для літоўскага войска справе недахопу пораху і амуніцыі яму наказвалі зьвярнуцца з просьбай аб дапамозе да гэтага нежынскага палкоўніка. На каралеўскім двары лічыліся з магчымасьцю далейшых ваенных дзеяньняў і ўваходжаньня разам з татарамі і вернутымі да паддантства казакамі ў глыб Маскоўскай дзяржавы. Абсалютна не жадалі спыняць ваенных дзеяньняў. Ян Казімер выразна выключаў такую магчымасьць у дасланым пад канец кастрычніка лісьце да гетмана: *«А што найважнейшае, то пакуль войскі будуць на Дняпры ў Беларусі (пакуль падмацуюцца праз злучэньне з каронымі войскамі, з татарамі і з казакамі і in hosticum [у межы непрыяцельскіх земель] увойдуць), датуль будзе загароджаны шлях непрыяцелю, і ў выніку гэтага ён ня зможа ўвайсьці ў глыб зямель Вялікага Княства Літоўскага. Secus [інакш] было б, калі б гэтыя нашыя войскі адступілі на лежы (адпачынак пасьля змаганьня. — Заўв. Аўт.). Тады нічога больш пэўнага, як тое, што гэты непрыяцель (маскоўскія войскі зь Дзьвіны і Дняпра. — Заўв. Аўт.), як у апошнюю зіму Хаванскі, in viscera [наскрозь] цэлае Вялікае Княства Літоўскае, а можа, нават і Карону перайшоў бы»*[24].

Калі стала вядома пра ўчынак гетмана і абяцаньні, якія давалі расейцам, зьбянтэжаньню і абурэньню ў атачэньні Яна Казімера не было канца. На галаву Сапегі пасыпаліся абвінавачаньні. А ўжо зусім не маглі згадзіцца асабліва з тым, што пасьля стольких посьпехаў з просьбай *armistitium* выступіў літоўскі бок, што толькі падкрэсьліла ягоную слабасьць. А непрыяцеля гэта магло падбадзёрыць і зрабіць больш жорсткай ягоную пазыцыю. На каралеўскім двары лічыліся зь неабходнасьцю далейшага вядзеньня вайны, у якой зноў адну з галоўных роляў павінен быў адыгрываць жамойцкі стараста Юры Глябовіч. Аднак чакалася, што пасьля стольких вялікіх посьпехаў у Літве і Ўкраіне *«сам цар аслабіў тую ганарыстасьць, падаўляць якую і далей захоча справядлівая Божая рука»* і што ён сам выступіць з прапановай замірэньня, што разам з ранейшымі польскімі і літоўскімі перамогамі дасьць салідныя падставы для перамоваў з Масквой, якія прынесьлі б выгадныя для Рэчы Паспалітай вынікі[25]. Калі дайшла навіна пра гэты крок літоўскага гетмана, пачалі баяцца, што ініцыятыва Сапегі ў значнай ступені аслабіць моц уражаньня, якое на Крэмль зрабілі апошнія маскоўскія паразы. У атачэньні Яна Казімера здавалі сабе справу зь цяжкай сытуацыі ва ўласным войску, для якога не было грошай і гатовых спосабаў знайсьці іх. Было зразумела, што набалелыя праблемы ў войску могуць прывесьці да чарговага выбуху і змарнаваць неспадзяваныя і цудоўныя посьпехі. Між іншым, дзеля гэтага склікалі сойм і запрашалі на яго Сапегу, каб супольна раіцца наконт таго, як задаволіць войска і як далей весьці вайну з царом. Аднак да пачатку сойму яшчэ пара месяцаў, а да сумненьнага ажыцьцяўленьня яго пастановаў — яшчэ больш. Таму, каб нейк зьмякчыць жаўнерскае незадавальненьне, меркавалася ўвесьці войска на землі непрыяцеля, дзе яно зможа ажыць і насыціцца здабычай. Гэта дазволіла б, як спадзяваліся, хоць часткова распружыць напружаньне ў арміі. Крок літоўскага гетмана і стрыманьне наступальных дзеяньняў прынесьлі тым часам сур'ёзны непакой, што войска, патрабуючы платы, пойдзе не на землі непрыяцеля, а ў глыб уласнага краю, абдзіраючы шляхту і каралеўскія маёнткі, кампэнсуючы гэтак нявыплату належнага

[24] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Kraków 30 X 1660. LvNB. Fond 103. № 1757.

[25] K. Pac do J. Hlebowicza, Kraków 6 XII 1660. AGAD. Ar. Roskie. Supl. № 95; Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Kraków 3 I 1661. LvNB. Fond 103. № 1768.

жолду зь дзяржаўнага скарбу. З гэтых меркаваньняў яшчэ ў пачатку лютага 1661 г. кароль адмовіў маскоўскаму ганцу ў заключэньні *armistitium*. Акрамя таго, было зразумела, што пачуцьцё палёгкі ў жаўнераў, выкліканае прыпыненьнем вайны, прывядзе да масавых ад'ездаў жаўнераў, асабліва афіцэраў па дамах. А потым будзе надзвычай цяжка іх сабраць. Аднак найболып баяліся, што замірэньне дазволіць Маскве выкарыстаць сілы зь беларускага фронту супраць войскаў ва Ўкраіне. Таму кароль не намерваўся даваць расейцам перадышку і катэгарычна адмовіўся прызнаваць самавольныя стараньні гетмана, адначасова загадваючы яму адразу, як замерзнуць рэкі, рушыць на непрыяцеля. У адказ на скаргі гетмана на слабое забесьпячэньне войска ваенным абсталяваньнем і на малую колькасьць людзей Ян Казімер заяўляў, што прыкладзеныя вялікія намаганьні ўжо хутка дапамогуць добра забясьпечыць яго людзей порахам і амуніцыяй. Абяцаў таксама ўзмоцніць вайсковыя сілы ў Літве, паслаўшы Чарнецкаму пяць харугваў на чале з татарскім ротмістрам Антановічам і papасіўшы каронных гетманаў прысласць татарскія і каронныя падмацаваньні[26].

Вялікі літоўскі канцлер Крыштап Пац таксама доўга ня мог перажыць гэты крок Сапегі і несубардынацыю літоўскага войска. У гэтым нежаданьні ахвярнасьці і перанясеньня вайны на тэрыторыю варожай дзяржавы ён бачыў змарнаваную нагоду перамагчы і нават пашырыць межы Рэчы Паспалітай, якія нядаўна зазналі чарговую страту на захадзе, *«бо нам ніколі дрэнна не выходзіла маскоўская вайна, і ўсё, што зь нямецкага боку адымалася ад нашых межаў, там дадавалася і пашыралася»*. Аднак, калі ўжо дайшло да спыненьня дзеяньняў у Літве, ня вельмі ведалі, як паставіцца да пачынаньняў Чарнецкага — ці дазволіць яму адысьці да Ўкраіны, ці затрымаць яго ў Вялікім Княстве[27].

Пакуль на каралеўскім двары задумваліся над гэтай праблемай, рускі ваявода 19 сьнежня выйшаў зь лягеру ў Бабынічах і скіраваўся да Бярэзіны. Ён пераправіўся праз яе і праз Докшыцы прыйшоў у Даўгінава. Там спыніўся на некалькі дзён, чакаючы надыходу ўсіх харугваў сваёй дывізіі. Адтуль паслаў Міхалу Пацу чарговы ліст, прызнаючыся, што ахвотна б зь ім далей супрацоўнічаў. Паінфармаваў яго таксама, што праз Случчыну накіроўваецца да Чарнігаўшчыны і што хоць літоўскі канцлер стараецца, каб ён застаўся ў Літве, аднак жаданьне караля такое, каб ён працягваў свой марш. Акрамя таго, выказаў тут свае вельмі напружаныя стасункі з Сапегам, бо *«ягамосьць пан віленскі ваявода ня толькі не затрымлівае мяне тут, але ўжо таксама і дабраслявіў у гэты шлях»*[28]. Стомлены і схільны да спыненьня змаганьняў і пагадненьня з Расеяй, а таксама з думкай пра сойм, які сьпярша мусіў пачацца пад канец траўня, Сапега з палёгкай пазбаўляўся кампаніі ваяўнічага Чарнецкага. А таго клікалі ва Ўкраіну каронныя гетманы. Пад канец сьнежня ён адправіўся з Даўгінава ў далейшы шлях. З Ільлі зноў напісаў Міхалу Пацу, інфармуючы яго, што каронныя і татарскія войскі пераходзяць на Задняпроўе і ён сьпяшаецца туды, каб узяць удзел *«у такой пабожнай імпрэзе»*. Прасіў яго і заахвочваў, каб ішоў разам зь ім у маскоўскую зямлю. Каб хутчэй дайсьці туды, выправіў усе вазы і багаж пакінуць на Случчыне[29]. Тамтэйшых ураднікаў князя Багуслава ахапіў страх. Яны ўжо раней ведалі пра намеры сквапнага да грошай рускага ваяводы разьмясьціць свае войскі ў слуцкіх уладаньнях і пра тое, што ён ужо раней хадайнічаў перад літоўскім гетманам, каб той

[26] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Kraków 3 I 1661. LvNB. Fond 103. № 1768, ліст ад 27 XII 1660. Тамсама. № 1764; A. Kotowicz do A. Lubomirskiego, b.m. 7 II 1661. APKr, AKPot. 3227/II. S. 192; Nowiny z listów pana Gąseckiego. BJag. 5. S. 764.
[27] K. Pac do S. Czarnieckiego, b.m. 6 I 1661. BCzart. 155. S. 55—57, 61.
[28] S. Czarniecki do M.K. Paca, Dołhinów 26 XII 1660. BCzart. 429. S. 205.
[29] S. Czarniecki do M.K. Paca, z Ilji 30 XII 1660. Тамсама. S. 193.

прызначыў пастой ягоным жаўнерам на Случчыне, на што ўрэшце атрымаў згоду[30]. Ведаючы гэтым разам пра яго набліжэньне, яны выехалі насустрач яму ў Койданава. Усе просьбы і спасылкі на ролю Слуцку і гарнізону ў абароне паўднёвых ускраін Літвы нічым не дапамаглі. Чарнецкі таксама пад уплывам сваіх палкоўнікаў, змардаваных няспынннымі змаганьнямі і стомлены нягодамі, папярэдзіў людзей князя Багуслава, што або войска ўвойдзе на два тыдні на Случчыну, або яны выплацяць яму 10 тыс. зл. Урэшце згандляваліся на 7 тыс. зл., але харугвы ваяводы і так увайшлі на ўладаньні князя. Сам Чарнецкі з палкоўнікамі і больш значнай старшыной зьявіўся ў Слуцку, дзе радзівілаўскія камісары Казімер Клакоцкі і Уладыслаў Гурын былі вымушаныя зь вялікімі выдаткамі іх частаваць. А каронныя жаўнеры разышліся па ўладаньнях, бязьлітасна рабуючы іх. Тады ў вачах слуцкіх грамадзянаў разьвеяліся ілюзіі наконт слыннай дысцыпліны ў шэрагах Чарнецкага. Аказалася, што гэтыя жаўнеры нікога ня слухаюць і, нягледзячы на афіцыйныя забароны, рабуюць, як толькі могуць, княскія ўладаньні, не пагарджаючы і іншымі. Іншая справа, што мелі на гэта маўклівы дазвол сваіх камандзіраў[31].

Праз пару дзён Чарнецкі пакінуў Случчыну, калі з другога боку ў яе ўваходзілі гусарскія харугвы Сапегі, якія ён хацеў забясьпечыць там харчамі і выцягнуць адтуль крыху грошай. Рускі ваявода скіраваўся праз Мазыршчыну і Брагін да пераправаў на Дняпры ў Любечы. Перайшоўшы гэтую раку, пайшоў на Чарнігаў да каронных гетманскіх войскаў і татарскай арды, зь якімі злучыўся за горадам. Рускі ваявода, напэўна, добра ўсьведамляў, што яго адыход зь Літвы выкліча пратэсты ліцьвінаў і каралеўскага двара. Так ужо было ў пачатку года. Таму ён напісаў каралю ліст, у якім паведамляў пра пераход праз Дняпро і адначасова вельмі нязграбна тлумачыў, што надалей будзе мецьн а воку Хаванскага. У атачэньні Яна Казімера ваяводу адразу папікнулі, што немагчыма адначасова быць ва Ўкраіне і пільнаваць Хаванскага, які стаіць у Полацку[32]. Набліжаючыся да ўкраінскіх зямель, ён даслаў праз праваслаўнага духавенства Брагіну лісты ніжынскаму казацкаму палкоўніку Васілю Залатарэнку і чарнігаўскаму Анікею Сілічу, каб яны здаліся польскаму каралю. Пад канец студзеня ён атрымаў у адказ на іх рашучую адмову абодвух палкоўнікаў. Сіліч дастаткова горка папікаў Чарнецкага, згадваючы незвычайную жорсткасьць людзей Мурашкі, якія крыху раней перайшлі на ўсходні бераг Дняпра. Іх учынкі ў дачыненьні да насельніцтва тых зямель былі такімі страшэннымі, *«што аж пранізьлівы голас плачу людзкога неба прабівае»*, — пісаў у сваім лісьце чарнігаўскі палкоўнік[33]. У выніку Чарнецкі нічога не ўчыніў ва Ўкраіне, хоць ягоныя загоны забіраліся далёка за Нежын і ён дастаткова доўга трымаў у блякадзе фартэцыю ў Чарнігаве. Казакі пазьбягалі бою і ці пахаваліся па недаступных лясах, ці закрыліся ва ўмацаваных гарадах[34]. Жаданьне атакаваць маскоўскія землі страціў таксама Любамірскі. Калі толькі на каралеўскім двары даведаліся пра адыход дывізіі рускага ваяводы зь Літвы, ліцьвіны адразу пачалі ціснуць на Яна Казімера, каб яе вярнулі з маршу. Асабліва хадайнічаў аб гэтым канцлер Крыштап Пац, а яшчэ ў сьнежні пра намеры каронага вайскаводцы інфармаваў гетман Павел Сапега. У гэты момант станавілася зразумела, што канчаткова з заключэньня ў Літве *armistitium* з Даўгарукім нічога ня выйдзе.

[30] B. Radziwiłł do S. Czarnieckiego, Holland 17 X 1660. AGAD. AR. Dz. IV. T. 4. Kop. 51. S. 44—45; B. Radziwiłł do K. Paca, Holland 21 X 1661. Тамсама. Dz. IVa (копіі). T. 1. Kop. 4. K. 377v—378.

[31] W. Huryn do B. Radziwiłła, Słuck 1 I 1661. AGAD. AR. Dz. V. № 5569/I. S. 147; ліст ад 12 I 1661. S. 151—153; K. Kłokocki do B. Radziwiłła, Słuck 20 I 1661. Тамсама. № 6865/II. S. 23.

[32] T. Morsztyn do A. Lubomirskiego, Kielce 13 II 1661. APKr. AKPot. № 3227. S. 274; Łoś. S. 109.

[33] Іх лісты ў: AGAD. AR. Dz. II. № 1431.

[34] Kochowski. S. 109—110; Awizy z Krakowa 23 I 1661. BJag. 5. S. 765; AJZR. T. VII. S. 322.

Ян Казімер не хаваў ад Сапегі сваёй радасьці з такога павароту падзеяў, бо гэта нанова адкрывала магчымасьць складаць пляны ўдару войскаў Чарнецкага, М. Паца, а таксама татарскіх і казацкіх на царскія землі[35]. Урэшце кароль перастаў вагацца і зьмяніў сваю думку наконт ролі войскаў Чарнецкага ў найбліжэйшы час. Таму хутка было прынята рашэньне адклікаць рускага ваяводу з Украіны, і ўжо 6 студзеня 1661 г. яму паслалі ардынанс, які загадваў вяртацца ў Літву. Ён павінен быў ахоўваць яе бясьпеку ад Масквы, якая, убачыўшы адыход літоўскіх і каронных аддзелаў, магла б спакусіцца на аднаўленьне атакаў. Чарнецкі мусіў таксама сьцерагчы літоўскае войска ад махінацыяў Сапегі. На двары Яна Казімера ўсё яшчэ жыла думка аб уварваньні Чарнецкага ў маскоўскія землі, у чым яму магла б дапамагаць дывізія Міхала Паца. Ваголіся толькі наконт таго, ці распачаць атаку з боку Дняпра ці Дзьвіны[36]. Каронныя харугвы зноў у лютым перайшлі Дняпро і разьмясціліся на зімовыя кватэры на Мазыршчыне, блізка да заможнай Случчыны. Сваёй прысутнасьцю яны засланілі гэтыя землі ад казацкай небясьпекі. Аднак іх неверагодныя рабаўніцтвы і гвалты вельмі хутка прымусілі мясцовае насельніцтва зь нецярпеньнем чакаць дня, калі жаўнеры Чарнецкага пакінуць гэтыя землі. Шмат ліцьвінаў высока ацэньвалі дапамогу рускага ваяводы іхняй айчыне, але тыя, праз чые маёнткі прайшлі ягоныя войскі, найчасьцей рэзка зьмянялі свае меркаваньне наконт авеянай славай дывізіі і яе камандзіра. Як з глыбокай горыччу сьцьвярджаў Юры Глябовіч, аглядаючы свае ўладаньні пасьля пастою ў іх войска Чарнецкага: *«Яно ўвогуле так абыходзіцца з тутэйшымі краямі ягамосьці, як не абыходзіцца ніводзін найгоршы непрыяцель»*. Падобная рэпутацыя была і ў літоўскіх аддзелаў. Таму неаднаразова наракалі, што хоць непрыяцель і выкінуты, аднак усё адно нельга вярнуцца да родных дамоў з прычыны нечуванай сваволі каралеўскіх жаўнераў, якія шнырають на гэтых землях[37].

Вярнуўшыся ў Літву і разьмясьціўшы свае войскі, Чарнецкі адправіўся на сойм у Варшаву. Такім чынам для яго і ягоных жаўнераў скончылася кампанія 1660 г. у Літве.

---

[35] Jan Kazimierz do P. Sapiehy, Częstochowa 8 II 1661. LvNB. Fond 103. № 1769.

[36] K. Pac do S. Czarnieckiego, b.m. 6 I 1661. BCzart. 155. S. 57—60; K. Pac do M. K. Paca, Wiłkowiszki 31 I 1661. BCzart. 416. S. 31—32; K. Pac do B. Radziwiłła, Wiłkowiszki 7 II 1661. AGAD. AR. Dz. V. № 11208/II. S. 242; M. Prażmowski do J. Lubomirskiego, Kraków 8 I 1661, B.PAN Kr. № 1065. S. 35; ліст ад 7 III 1661. S. 44; S. Czarniecki do J. F. Sapiehy, w Haboniu (?) 20 II 1661. APKr. AMCH 966. S. 217.

[37] D. Silicz do księżny Gryzeldy Zamojskiej, Brahim 24 III 1661. AGAD. A.Przeźdz. B—1309; J. Hlebowicz do B. Radziwiłła, Szkłów 22 I 1661. Тамсама, AR. dz. V. № 5226. S. 199; M. Vorbek-Letow do B. Radziwiłła, Słuck 26 X 1660. Тамсама. № 8406/I. S. 7.

# XV. Змаганьні ў заходніх ваяводзтвах Літвы

Карціна кампаніі 1660 г. на землях Рэчы Паспалітай будзе паўнейшай, калі мы прысьвецім крыху ўвагі падзеям, якія разыгрываліся на заходніх літоўскіх землях. Пасьля разгрому пад Палонкай арміі Хаванскага і выйсьця каралеўскіх войскаў на Бярэзіну і далей за гэтую раку ў далёкім тыле засталіся крэпасьці, укамплектаваныя значнымі маскоўскімі залогамі. Гэта былі Вільня з залогай, якая налічвала ў ліпені каля 700 жаўнераў з двух палкоў, выдатна забясьпечаная і ўзброеная артылерыяй; Коўна з 200 жаўнерамі; Гародня з 250 чалавекамі і Берасьце-Літоўскае з залогай ажно ў 1000 чалавек. Усе гэтыя месцы расейцы пасьпелі добра ўмацаваць і забясьпечыць вялікімі запасамі харчу[1]. Далей на поўнач, бліжэй да зямель, занятых Масквой, знаходзіліся ўкамплектаваныя непрыяцельскім войскам Браслаў і Чадосы. Аднак з апошніх расейцы ўцяклі ў жніўні, і горад быў укамплектаваны літоўскімі войскамі.

Прысутнасьць моцных варожых залогаў у самай сярэдзіне Рэчы Паспалітай была надзвычай нязручная і небясьпечная. Гародня і Коўна на Нёмне блякавалі сплаў па гэтай рацэ тавараў у прускія парты, а маскоўская залога ў Віленскім замку пасьпяхова тармазіла аднаўленьне сплаву Вяльлёй. Гэта істотна зьменшала даходы шляхты, а таксама паступленьні з гандлю ў дзяржаўную касу, якой былі так патрэбныя грошы. У выпадку сталіцы далейшае знаходжаньне ў замку, які быў вышэйшым за горад, было прыніжальным для каралеўскага гонару. Да таго ж існавала небясьпека, што гэтым залогам будзе аказаная дапамога з боку царскіх войскаў, якія надалей сталі ў блізкай Браслаўшчыне на паўднёвым баку Дзьвіны. Аднак больш назалялі вылазкі царскіх аддзелаў з гэтых гарадоў. Ім удавалася далёка сягаць. Тады зьнішчаліся цэлыя вёскі, а іх насельніцтва выразалася. Мэтай такіх акцый была здабыча харчоў, а таксама запалохваньне шляхты, якая блякавала замкі.

Ні палякі, ні ліцьвіны не спэцыялізаваліся на аблогавых дзеяньнях. Яшчэ горш выглядала, калі пасьля адыходу рэгулярных войскаў гэтае заданьне выпала ваколічнай шляхце, якую каралеўскія і гетманскія ўнівэрсалы заклікалі на блякаду маскоўскіх залогаў. Толькі ў выпадку Вільні пасьля заняцьця гораду аблогу верхняга замку, у якім сядзела моцная царская залога, увесь час праводзілі рэгулярныя літоўскія адзінкі. Пасьля адыходу Міхала Паца з жамойцкай дывізіяй гэтае заданьне даручылі віленскаму стольніку Казімеру Жаромскаму. Пад яго камандаваньне аддалі каля 2—3 тыс. жаўнераў, пераважна пяхоты. Хоць падчас адыходу Пац заклікаў шляхту даць дапамогу аблоўнікам, Жаромскі зьвярнуўся з просьбай да Багуслава Радзівіла, каб той прыбыў са сваімі людзьмі і яны разам праводзілі аблогу. Пасьля яе пасьпяховага завяршэньня прапаноўваў заняцьця замкам у Коўне. Адначасова запэўніваў, што добрасумленна аплаціць высілкі княскіх жаўнераў. Ён разьлічваў на дасьведчаных афіцэраў і жаўнераў Багуслава, якіх той зазвычай наймаў, а таксама на падтрымку ягонай артылерыяй. Свае просьбы ён паўтараў у чарговыя дні, асабліва пасьля 17 жніўня, калі моцная артылерыя з замку ўварвалася ў ягоныя пазыцыі. Яна была адбітая, шмат маскалёў патапілася ў Вяльлі, а вялікую колькасьць узялі ў палон. Ранейшыя намаганьні ліцьвінаў пад Вільняй і іх падрыхтоўку да вядзеньня аблогі сьцісла пракамэнтаваў стары слуга Багуслава Радзівіла, пішучы, што *«войскі нашыя вачыма здабываюць Вільню, у іх няма больш чым 5 палявых гармат»*[2].

[1] AMG. T. III. № 136/2. S. 125; Rachuba A. Wilno pod okupacją moskiewską // Lithuania. № 3 (12), 1994. S. 71.
[2] K. Żeromski do B. Radziwiłła, Wilno 10 VIII 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 18969. S. 13; ліст ад 20 VIII. S. 15; S. Oborski do B. Radziwiłła, Królewiec 17 VIII 1660. VUB. F. 4 (A—231). № 18013.

У чарговыя дні Жаромскі энэргічна заняўся падрыхтоўкай да штурму. Ён зьбіраў харчы, асаднае абсталяваньне, сыпаў шанцы. Адчуваў толькі недахоп належнай артылерыі і дасьведчаных артылерыстаў. На дапамогу яму прыйшлі віленскія мяшчане, штодзённае жыцьцё якіх цалкам парушалася далейшымі змаганьнямі. На ўсе працы і шматлікія выдаткі яны сабралі 63 тыс. зл. і ўручылі іх віленскаму стольніку. Гэта ня быў канец выдаткаў, якія несьлі віленскія мяшчане. У чарговыя месяцы яны павінны былі няспынна плаціць за выдаткі на работы, закуп рыштунку і правіянту, а таксама жолд жаўнерам. Вельмі часта яны рабілі гэта з уласнай волі, як напрыклад аптэкар з Полацку, Мацей Маўрыцый Шчарбіцкі, які, уцякаючы ад Масквы, асеў у Вільні. Раней ён даносіў літоўскім камандзірам пра сытуацыю ў горадзе, а падчас аблогі бясплатна лячыў параненых жаўнераў. У канцы мяшчане нават аплачвалі кошт прыбіраньня віленскага рынку пасьля пакараньня князя Мышэцкага. Бязь іх дапамогі ўсе дзеяньні Жаромскага пад віленскімі замкамі былі б немагчымыя[3].

А ён сам увесь час прасіў князя Багуслава дапамагчы артылерыяй, паколькі ягоныя пушкары так блага стралялі ў замак, што ядры пралятaлі над ім і білі па ліцьвінах, якія стаялі на другім баку. Пазьней даведаўся ад маскоўскага артылерыста, які зьбег з замку, што праведзены абстрэл прычыняе няшмат шкоды, акрамя таго, што *«ядры, якія смуродам заражаюць, іх так аслабілі, што некаторыя і хадзіць ня могуць, а другія ад чаду паміраюць»*. Спрыяльнай падзеяй у тыя дні стала прыбыцьцё каралеўскага ардынансу, згодна зь якім Ян Казімер загадваў яму склікаць паспалітае рушаньне, каб разам са шляхтай адабраць Віленскі замак[4].

На жаль, у той час пагоршылася сытуацыя на паўночных ад Вільні землях. Там дзейнічаў пакінуты Міхалам Пацам з пэўнай колькасьцю харугваў вількамірскі падстолі Казімер Сясіцкі. На тых тэрыторыях дзейнічаў таксама аддзел адважнага афіцэра абэрштэра Тэафіла Шварцгофа. Ён стаяў на чале дзьвюх рэйтарскіх харугваў, што засталіся ад ягоных братоў Фромгальда і Вільгельма, палеглых пад Веркамі, а таксама драгунскіх. Паводле прыпаведных лістоў разам гэтыя адзінкі павінны былі налічваць 400 жаўнераў[5]. Яны павінны былі прыкрываць Вількамірскі павет ад магчымых варожых акцыяў маскоўскіх войскаў зь Дзьвіны. Падтрымліваць іх павінна была вількамірская шляхта. Аднак абодва камандзіры былі сьмяротна пасвараныя між сабой, вінавацілі адзін аднаго ў рабунках і ня вельмі жадалі супрацоўнічаць. У жніўні да іх дайшоў ардынанс, каб скіроўвацца ў землі, занятыя Масквой. Аднак Сясіцкі застаўся на Вількаміршчыне. Не азіраючыся на яго, пад Браслаў зь невялікімі сіламі пайшоў толькі Шварцгоф. Калі набліжаўся да гэтага гораду, да яго натоўпам далучылася шляхта Браслаўскага павету, каб разам зь ім здабываць гэты горад. Яе запал быў вялізны. Нядаўна прымушаная прысягаць на вернасьць цару, цяпер яна надзвычай рупліва кінулася на штурмаваньне Браслава. Да гэтай справы паслала таксама сялянаў са сваіх маёнткаў. Шляхту ўзначальваў браслаўскі земскі судзьдзя Сэбасьцян Рыгоравіч Мірскі, які ад 1659 г. быў пры Маскве. Тым, хто змагаўся, абяцалі хуткі надыход дапамогі ад Сясіцкага і Жаромскага, хоць, з другога боку, Шварцгофа вінавацілі ў занадта пасьпешлівым распачацьці змаганьня.

Расейцы не намерваліся абыякава глядзець на спробы ліцьвінаў захапіць такі важны горад і іх выйсьце на Дзьвіну. У Кокенгаўзэне яны падрыхтаваліся да контратакі,

[3] Seruitorat Szlachetnemu Szczerbickiemu Aptekarzowi naszemu i Małżonce jego, Warszawa 12 IV 1662. RGADA. ML. № 132. K. 46—49; AVAK. T. XX. S. 380—381; Rachuba A. Wilno pod okupacją moskiewską. S. 71; Meilus E. Przynależność etniczna Wilnian i ich lojalność względem władzy w czasie wojen z Moskwą w polowie XVII w. Rozważania nad tematem // Kultura Litwy i Polski w dziejach. Tożsamość i współistnienie / Pod red. J. Wyrozumskiego. Kraków, 2000. S. 102.

[4] K. Żeromski do B. Radziwiłła, Wilno 28 X 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 18969. S. 21.

[5] RGADA. Fond 389, ML 130. K. 459—459v; LVIA, SA 3410. K. 365, 421.

сабраўшы аддзел у 600 жаўнераў, сьцягнутых з розных замкаў, а з Полацку Хаванскі выдаў 30 жніўня загад здольнаму камандзіру Івану Палуехтаву ісьці на дапамогу браслаўскай залозе. Дасылаў яму і пэўныя падмацаваньні. Гэты афіцэр узяў тыя і іншыя сабраныя побач войскі і 1 верасьня перайшоў Дзьвіну на вышыні гораду Друі. Яшчэ ў той самы дзень пра гэта даведаўся Шварцгоф і шляхта пад Браславам. Яны адразу спынілі штурм і пайшлі супраць расейцаў, намерваючыся засьпець іх зьнянацку, разьбіць і вярнуцца, каб завяршыць аблогу. Бітва адбылася недалёка ад Друі, і праціўнік ужо пасьпеў перайсьці раку. Ліцьвіны панесьлі цяжкую паразу, і іх заўзята гналі да самай Іказьні. Шварцгоф страціў 300 чалавек, харугвы і асадное абсталяваньне і быў вымушаны адысьці ў Даўгелішкі. Там ён дачакаўся дапамогі ад Жаромскага, які прыслаў яму 3 карнэты драгуноў і адну татарскую харугву[6].

Данясеньні пра трагічны вынік сутычкі прыйшлі на каралеўскі двор. Яны выклікалі там сур'ёзны непакой за бясьпеку заходніх літоўскіх паветаў, якія з прычыны адыходу галоўных сілаў аж на Дняпро, былі практычна адкрытыя перад мацнейшай атакай зь Дзьвіны. Вельмі баяліся паўтарэньня ў нейкім маштабе рэйду маскоўскіх сілаў, як гэта было на мяжы 1659 і 1660 г. З гэтых меркаваньняў на радзе сэнату 5 кастрычніка выдалі суровыя ўніверсалы шляхце літоўскіх земляў, каб яна зьбіралася для засьцярогі Вільні ад нападу і ва ўсім падпарадкоўвалася Жаромскаму. А яму самому было наказана, каб, калі будзе надыходзіць непрыяцель, ён не стаяў пад Вільняй, але з усімі войскамі выходзіў яму насустрач[7].

Гэтая параза не разбурыла літоўскіх плянаў заняць Браслаўшчыну. За іх зьдзяйсьненьне ўзяліся на чале свайго корпусу Сясіцкі ўжо разам са Шварцгофам і ягонымі людзьмі. Мелі ў распараджэньні разам больш за 2 тыс. жаўнераў. У кастрычніку яны ўжо зноў зьявіліся ў Браслаўскім павеце і пачалі блякаду Браслава. Аднак паўсюль наракалі на вялікі беспарадак, які панаваў у войсках абодвух камандзіраў. У гэты час Хаванскі на чале сілаў з Полацку набліжаўся да войскаў Сапегі і Чарнецкага. Таму ён ня мог даць дапамогі браслаўскай залозе, як гэта зрабіў два месяцы раней. Акрамя таго, у Друі не было Палуехтава, які крыху раней зьехаў адтуль. На гэты раз дапамога прыйшла з Інфлянтаў. Ужо пры першым нападзе Шварцгофа расейцы сабралі пэўныя сілы пад Кокенгаўзэнам[8]. Калі адбітая ў верасьні пагроза аднавілася ў кастрычніку, яны зноў узялі з розных залогаў жаўнераў. Ім удалося сабраць ня больш за 1000 коньніцы. Чарговыя 2 тыс. складала пяхота і ўзброеныя сяляне.

Маскоўская атака зваліілася на ліцьвінаў як гром зь яснага неба 22 кастрычніка. Яны абсалютна яе не чакалі. І хоць мелі роўныя праціўніку ці нават вышэйшыя за яго сілы, аднак зусім не давалі адпору, а толькі, *«не б'ючыся, turpissime [найганебней] уцякалі»*. Шлях уцёкаў ішоў трактам да Вільні, кідалі багаж, зброю, харугвы. Усё гэта трапіла ў рукі пераможных расейцаў. Шварцгоф уцякаў з рэшткамі сваіх людзей у Купішкі, нарэшце спыніўся недалёка ад Біржаў, а Сясіцкі скіраваўся да Вількаміру. Навіна пра гэтую паразу выклікала сапраўдны страх ва ўсім Віленскім ваяводзтве. З дня на дзень чакалі пераможных маскалёў пад Вільняй. Ад вялікага страху бачылі нібыта сына Хаванскага на чале 5 тыс. жаўнераў, які ішоў у кірунку літоўскай сталіцы і намерваўся аб'яднацца з аддзелам, які разьбіў абодвух літоўскіх камандзіраў. Было ня вельмі вядома, каго супрацьпаставіць пераможным расейцам, паколькі сілы Жаромскага былі занятыя аблогай Вільні, а пра паспалітае рушаньне, якога досыць шмат ужо сабралося пад Коўнам, існавала вельмі благое меркаваньне з прычыны вядомага балагану, які

[6] AMG. T. III. № 163/2. S. 146—147; TE. Frankfurt am Mayn 1699. T. VIII. S. 49; List na sejmik oddany od P. Theophila Szwarcoha, Dziewałtów 29 III 1661, Ks. Gr. Wiłkomirska 1661—1664. VUB. F. 7—24/13900. K. 76—76v.

[7] Senatus Consultum, b.m. 5 X 1660. BCzart. 401. S. 140.

панаваў у іх шэрагах. Тым часам загоны маскоўскай коньніцы ў пагоні за Сясіцкім і Шварцгофам дайшлі да Ўцяны і Віжунаў. Па дарозе спалілі шмат населеных пунктаў і ўзялі ў палон вялікую колькасьць шляхты, якая бесклапотна сядзела ў сваіх дварах. Адносна хутка маскалі адступілі ў Браслаў, а пад канец лістапада вярнуліся за Дзьвіну ў Інфлянты. У сьнежні ў маскоўскіх руках засталіся з боку Жамойці Браслаў, Дзьвінск і Кокенгаўзэн. Затое два разьбітыя літоўскія камандзіры ўжо не былі ў стане працягваць ваенныя акцыі і надзвычай зацята сталі вінаваціць адзін аднаго ў рабунках і паразе на Браслаўшчыне[9]. Сытуацыю на гэтым адрэзку фронту павінен быў зьмяніць толькі прыход у гэтыя землі на пачатку наступнага году войскаў Мікалая Ўладыслава Юдыцкага і зьяўленьне зь верхняга Дняпра жамойцкай дывізіі. Перш чым да гэтага дайшло, жамойцкія грамадзяне мусілі зносіць гвалты і рабункі разбэшчаных жаўнераў. Скаргі асабліва сыпаліся на Шварцгофа, якія ён адбіваў, звальваючы віну за ўсе няўдачы і прычыненьне крыўды насельніцтву на Сясіцкага. Праз пэўны час шляхце было ўжо настолькі досыць Шварцгофа, што 14 лістапада, зьбіраючыся на паспалітае рушаньне, праз сваіх паслоў яна прасіла Сапегу забраць яго як мага хутчэй зь іхніх земляў і замяніць абэрштэрам Эгідыем Брэмэрам, а аддзелы, якія ў павеце служылі пад ім, аддаць пад камандаваньне вількамірскага харужага Казімера Даўмонта-Сясіцкага. У той час баяліся новага маскоўскага наезду і дэмаралізаваныя адзінкі хацелі замяніць больш баяздольнымі. Шляхта разьлічвала таксама на падтрымку аддзелаў, якія стаялі пад Вільняй, і зьвярталася з просьбай да Сапегі прыслаць ягоныя прыватныя аддзелы[10]. Напэўна, з гэтага нашмат што выйшла, паколькі яшчэ ў канцы году Шварцгоф стаяў ва Ўцяне і зьбіраў сілы, каб абараняць Віленшчыну і Жамойць ад маскоўскіх войскаў, якія зьбіраліся ў Дзьвінску. Акрамя таго, ён прасіў дапамогі ў Жаромскага, які разумеў пагрозу і хацеў паслаць туды 500 жаўнераў коньніцы, калі б атрымаў падмацаваньні ад Палубінскага, які набліжаўся[11].

Нягледзячы на такія неспрыяльныя падзеі, Жаромскі працягваў працу над падрыхтоўкай да штурму. Урэшце, правёў яго 8 лістапада. Аднак штурм не прынёс посьпеху. Да чарговых спробаў яго схілялі сьведчаньні ўцекачоў з замку. Яны казалі пра цяжкія хваробы, якія мучаюць залогу і ў выніку якіх расьце колькасьць памерлых і хворых жаўнераў. Даходзілі таксама весткі пра недахоп пораху і пра вялізныя скарбы, сабраныя ваяводам Данілам Мышэцкім[12]. Таму 27 лістапада Жаромскі зрабіў спробу падпаліць частакол, які атачаў замак. Гэта скончылася поўнай паразай. Драгуны, якія набліжаліся да яго па лёдзе Віленкі, патрапілі пад нечаканы агонь з замку. Загінула 12 жаўнераў, а больш за 80 было паранена. У дадатак да ўсяго дрэннага, зламаўся лёд і людзі Жаромскага, якія ўдзельнічалі ў штурме, пагразьлі ў плыткіх водах ракі, стаўшы яшчэ лепшай мішэньню для царскіх жаўнераў.

У наступныя дні Жаромскі стрымаўся зь дзеяньнямі. У ягоным лягеры была вельмі цяжкая сытуацыя. Жаўнеры пяхоты галадалі і масава ўцякалі. З Жамойці наконт маскоўскай пагрозы паведамляў Шварцгоф і далей дамагаўся дапамогі, якую Жаромскі ня мог яму даць. У пачатку сьнежня пад Вільню прыбыў Палубінскі, якому яшчэ ў

[8] K. Dobkiewicz do B. Radziwiłła, Królewiec 24 VIII 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 3089/I. S. 43.

[9] S. Oborski do B. Radziwiłła, Kiejdany 1 XI 1660. VUB. F. 4 (A—231). № 18015; D. Kościuszko do B. Radziwiłła, w Nowym Mieście 28 X 1660, B.PAN Kr. 6184. S. 86; D. Wechman do B. Radziwiłła, Birże 4 XI 1660. Тамсама. S. 168; ліст ад 12 XII 1660. S. 170.

[10] Instructia od obywateli powiatu wiłkomirskiego pro die 14 novembris... [1660]. NBU. Fond 1. № 5983. S. 220—221; Ks. Gr. Wiłkomirska 1661—1664. Fond 7—24/13900. K.76—76v.

[11] K. Żeromski do A.H. Połubińskiego, Wilno 29 XII 1661. AGAD. AR. Dz. V. № 18969. S. 47—48.

[12] S. Żeromski do B. Radziwiłła, Wilno 5 XI 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 18969. S. 26; S. Oborski do B. Radziwiłła, Wiżuny 6 X 1660. VUB. F. 4 (A—212). № 16665.

сярэдзіне лістапада гетман даручыў паклапаціцца пра аблогу і пяхоту, якая стаіць пад замкам, каб затрымаць яе на службе. Ён павінен быў таксама або падрыхтавацца да штурму, або пачаць перамовы з залогай наконт здачы замку. Перамяшчэньне пад Вільню Палубінскага вельмі абурыла Міхала Паца, які ў гетманскім рашэньні ўгледзеў жаданьне пераняць кантроль над аддзеламі ягонай дывізіі, якія стаялі пад гэтым горадам. Ён паслаў Жаромскаму ліст з папярэджаньнем, каб той асьцерагаўся махінацыяў Сапегі і палявога пісара. Пры гэтым загадваў яму сваімі сіламі заняць замак, бо нейкі ўдзел Палубінскага мог, на ягоную думку, прывесьці да недаацэнкі высілку людзей Паца, прыкладзенага да вяртаньня сталіцы. Таксама палявы пісар атрымаў ад яго досыць рэзкі ліст з пытаньнем наконт праўдзівых мэтаў ягонага выезду пад Вільню. Папярэджваў, што калі той паспрабуе пераняць аддзелы, якія там стаяць, могуць адбыцца хваляваньні. Аднак Палубінскі ня меў настрою ні ўцягвацца ў чарговыя сваркі на баку Сапегі, ні занадта абцяжарваць сябе працамі пад Віленскім замкам і супакоіў Паца, што ня мае ніякіх намераў пашкодзіць ягонай пазыцыі[13].

Палявы пісар хацеў як мага хутчэй і як мага лягчэй адолець маскоўскую залогу. Ён меў прыхаваную надзею, што царскі ваявода захоча абмяркоўваць умовы капітуляцыі з Б. Радзівілам. Аднак князь Мышэцкі не хацеў нават чуць прапанову здацца князю, а палявы пісар, страціўшы ахвоту, кінуў цяжкую справу і зьехаў. Жаромскі яшчэ прасіў у яго дапамогі, згадваючы, як той падтрымаў яго год таму з-пад Боўску, калі пісар змагаўся пад Мітавай. Хацеў, каб ён скіраваў пад Вільню крыху гетманскай пяхоты, а коньніцу тады мог бы паслаць у бок Браслава, каб засьцерагчы тыя землі ад маскоўскай небясьпекі. Віленскаму стольніку не было дадзена закончыць год посьпехам. Палубінскі падрыхтаваў усё да прыбыцьця гетмана, які, як было вядома, у пачатку наступнага году намерваўся зьявіцца ў Вільню і прэтэндаваць на славу заваёўніка замку. Таму пад самы канец году Жаромскаму засталося разьлічваць на спробу падарваць замак пры дапамозе міны, якую закладвалі зь вялікай цяжкасьцю, падкопваючыся пад ягоныя муры. Аднак аказалася, што маскоўская залога выдатна ведала пра міну, дакапалася да яе і абясшкодзіла. Здрадзіў маскоўскі слуга аднаго латніка, калісьці ўзяты ў палон. Выкарыстаўшы нагоду, той уцёк з-пад Вільні ў замак[14]. Пад канец студзеня пад замак прыбыў Сапега. Ягоныя намаганьні таксама не далі плёну. Маскоўская залога яшчэ больш за год пратрымалася ў жахлівых умовах. Толькі калі позьняй восеньню 1661 г. пад Віленскім замкам зьявіўся сам Ян Казімер і Багуслаў Радзівіл з нанятымі сваім коштам драгунамі, настаў канец абароны. Былі распачатыя перамовы з ваяводам Данілам Мышэцкім. Доўгі час яны не прыносілі посьпеху, паколькі ён рознымі шляхамі выкручваўся і знаходзіў новыя адгаворкі. Аднак ад уцекача з замку даведаліся, што супраціўляецца толькі ваявода, а астатнім ужо канчаткова абрыдла безнадзейнае знаходжаньне ў фартэцыі. Калі пра гэта стала вядома, распачалася падрыхтоўка да штурму. Убачыўшы яе, маскоўскія жаўнеры моцна прасілі свайго камандзіра здацца. У адказ атрымалі ягоную рэзкую заяву, што ён лепш падарве сябе зь імі на пораху, а ня здасца. Яны кінуліся на Мышэцкага і зьвязалі яго. Заняволіўшы яго, З сьнежня адразу перадалі яго каралю і здалі замак, спадзеючыся на літасьць караля. Жорсткага князя аддалі пад суд, які за зьдзейсьненыя злачынствы асудзіў яго на сьмерць. Хутка пасьля гэтага яму адсеклі галаву на

[13] M.K. Pac do K. Żeromskiego, z pod Wiażyszcz 28 XI 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 11209/II. S. 20—23; list do A.H. Połubińskiego, b.m.d. [koniec XI 1660]. S. 24—25. На яго адгароце недатаваны адказ Палубінскага.

[14] Instructia Wielmożnemu Jmci Panu Pisarzowi Polnemu WXLitt. (...), Biesienkowicze 15 XI 1660. AGAD. Ar. Dz. V. № 13868/IV. S. 153; гл.: лісты Жаромскага (Żeromski) ад 9, 25, 29 XII 1660. Тамсама. № 18969. S. 33, 35, 47—48.

віленскім рынку. А тым жаўнерам Мышэцкага, якія раней пакінулі свайго камандзіра і ўцяклі на каралеўскую службу, а таксама тым, хто здаў яго ў рукі ліцьвінаў, Ян Казімер гарантаваў бясьпеку. Хто хацеў, мог наняцца ў каралеўскія войскі. Іншым дазвалялі адысьці, куды хацелі, гарантуючы поўную недатыкальнасьць. Гэтак Ян Казімер вярнуў поўнае панаваньне над старажытнай літоўскай сталіцай[15].

Падобным чынам ішло вяртаньне астатніх замкаў. Хутчэй за ўсё посьпеху дасягнулі пад наймацней забясьпечаным Берасьцем, і толькі гэты замак удалося адабраць з маскоўскіх рук у 1660 г. Расейцы, якія сядзелі ў ім, вельмі добра здавалі сабе справу, што праз аддаленасьць ад зямель, занятых войскамі Аляксея Міхайлавіча, яны ня вельмі могуць разьлічваць на падтрымку. Хада часу і весткі пра чарговыя паразы царскіх ваяводаў хутка разбуралі надзею на прыбыцьцё дапамогі. Да таго ж, у фартэцыі ведалі, што ў цёплую пару поймы ракі Мухавец гарантуюць ёй бясьпеку. Аднак гэтая перавага цалкам страчвала значэньне, калі зімовыя маразы скоўвалі іх лёдам[16].

Скліканая на паспалітае рушаньне ваколічная шляхта паволі сабралася ў ваколіцы Берасьця позьнім летам. Згуртавалася яе ўсяго толькі 250 чалавек. Яна пачала прымаць пазыцыі ад войскаў Сапегі і аддзелаў Русецкага, якія адыходзілі. Аднак перш чым гэта адбылося, на працягу ліпеня, як пажадаў кароль, маскоўскую залогу пільнавалі некалькі каронных харугваў пад камандаваньнем палкоўніка Самуля Чапліцкага. Гэта было прадыктаванае тым, што сьціплая колькасьць паспалітакаў не магла перашкодзіць маскоўскай залозе рабіць свабодныя вылазкі з фартэцыі, зьнішчаць ваколіцы і забіраць харчы[17].

Пэўны час здавалася, што ўжо ў верасьні маскоўская залога аддасьць замак прыбылым каралеўскім камісарам Адаму Мацею Саковічу і мсьціслаўскаму ваяводу Мікалаю Цеханавецкаму. Яны распачалі перамовы з абаронцамі, а ў доказ, што ім будзе гарантаваная бясьпека, вырашылі прывезьці з сабою двух царскіх афіцэраў, узятых у няволю пад Палонкай — палкоўніка Нікіфара Воўкава і ротмістра Сямёна Каняззева. Кароль згадзіўся іх выпусьціць пад Берасьце і на дарогу даў універсал. Вёў іх ягоны сакратар Павел Цяцера ў суправаджэньні аддзелу драгуноў. Ужо каля Берасьця спыніліся ў Кодані на начлег, а вязьняў разьмясьцілі на гумне ў суседняй вёсцы. Аказалася, што там у той час стаяла валоская харугва ротмістра Міхала Сугкевіча. Уначы жаўнеры гэтай харугвы разам зь мясцовымі ўраднікамі напалі на вязьняў і іх эскорт. Паранілі камандзіра драгуноў, а абодвух царскіх афіцэраў таксама паранілі, пабілі шаблямі плазам і завялі зьвязаных у Кодань, дзе пад вартай трымалі іх некалькі дзён. Гэты інцыдэнт вельмі папсаваў перамовы, якія вяліся з камандаваньнем берасьцейскай залогі[18]. Надзеі на вяртаньне фартэцыі шляхам перамоваў аказаліся марнымі, і трэба было ісьці на аблогу. Шляхце яна не давалася лёгка, а 3 кастрычніка яна пацярпела балючую паразу, калі нечаканая вылазка з замку разьбіла разьмешчаную ў адной з блізкіх вёсак нанятую пяхоту. Убачыўшы сваю слабасьць, шляхта папрасіла караля, каб ён накіраваў пад Берасьце аддзелы сваёй гвардыі, якія стаялі недалёка ў Белай. Манарх, угавораны канцлерам Крыштапам Пацам, ахвотна згадзіўся на гэта, і дзесьці ўжо пад канец верасьня ці ў пачатку кастрычніка туды пайшлі аддзелы пад кіраўніцтвам рэйтарскага абэрштэрлейтэнанта Францішка Бялінскага, якія паводле каралеўскага ардынансу павінны былі зьявіцца пад Берасьцем праз тры

[15] B. Radziwiłł do S. Czarnieckiego, Wilno 9 XII 1661. AGAD. AR. Dz. IVa (копіі), T. 2. Kop. 13. K. 166v; AVAK. T. XXXIV. № 192. S. 216—217.

[16] AMG. T. III. № 136/3. S. 125.

[17] J. A. Morsztyn do J. Lubomirskiego, Warszawa 15 VII 1660. APKr. Ar. Sang. T. 247. № 13; Uniwersał Jana Kazimierza, Warszawa 22 VII 1660. BCzart. 155. S. 252—253.

[18] Mandat Jana Kazimierza... b.m. 4 I 1661. APKr, AMCH 966. S. 137—139.

тыдні. Аднак аказалася, што Бялінскі не дайшоў туды нават у канцы лістапада, што выклікала гнеў Яна Казімера. Ён паслаў 20 лістапада да гэтага афіцэра жорсткі ліст, у якім, пагражаючы яму вайсковым судом, наказваў як мага хутчэй зьявіцца пад Берасьцем[19]. Калі ўрэшце Бялінскі прыбыў туды, ён прыняў камандаваньне над усімі, акрамя паспалітага рушаньня, аддзеламі, якія там стаялі. Там апынуўся таксама пяхотны полк Стэфана Чарнецкага на чале з Мэлхіёрам фон Бродэнам. Абаронцаў замку Ян Казімер папярэдзіў сваім лістом ад 10 кастрычніка і заклікаў іх да капітуляцыі[20].

Гэтыя падмацаваньні загадвалі маскоўскай залозе чакаць падрыхтоўкі да штурму. Настала зіма, а разам зь ёй замерзьлі подступы да фартэцыі. У гэтай сытуацыі расейцы пачалі перамовы наконт здачы замку. Умовы капітуляцыі ўзгоднілі з царскім ваяводам, князем Львом Кірылавічам Шахоўскім ужо 18 сьнежня. Праз чатыры дні маскоўскія жаўнеры павінны былі аддаць брамы крэпасьці жаўнерам каралеўскай гвардыі, а 26 сьнежня пакінуць яе. Увесь парадак выйсьця быў агавораны. Расейцы павінны былі кідаць свае харугвы пад ногі каралеўскіх камісараў. Потым скруціць іх і пакласьці на свае вазы. Дамова прадугледжвала, што іх завязуць да маскоўскіх межаў. Ім можна было забраць толькі мушкеты і кулі на пяць зарадаў. Усю дарогу мусілі несьці іх зьвешанымі ўніз, а таксама ім нельга было да самых царскіх межаў раскручваць сваіх штандараў.

Царскія жаўнеры выйшлі раней, 24 сьнежня. Пасьля амаль гадавога знаходжаньня ў фартэцыі і стратаў ад змаганьня і хвароб іх заставалася яшчэ каля 600 чалавек. Шмат адразу ж нанялося на каралеўскую службу. У замку не знайшлі пасьля іх, акрамя пары срэбных касьцельных прадметаў, ніякіх скарбаў, на што спадзяваліся, а толькі 42 гарматы, крыху пораху і амуніцыі, багата харчоў і 1000 бочак солі. Усё гэта кароль загадаў Бялінскаму запісаць у інвэнтар і адаслаць яму. Цікава, што асаблівае зацікаўленьне Яна Казімера выклікала паходжаньне такой вялікай колькасьці солі[21]. Тыя, хто захацеў вярнуцца ў Расею, хутка пасьля гэтага рушылі ў дарогу пад канвоем татарскага ротмістра Міхала Антановіча. Іх шлях ішоў да Браслава, дзе аддалі палонных, і адзначаўся ён няспыннымі рабункамі вёсак, мястэчкаў і шляхецкіх двароў. Скаргі грамадзянаў Троцкага ваяводзтва і адміністратараў жамойцкіх уладаньняў Б. Радзівіла адна за адной сыпаліся на ротмістра. На роспач асобаў, закранутых плягай праходжаньня Антановіча, адвёўшы царскіх жаўнераў, ён вяртӑўся тым самым шляхам, чынячы тыя самыя выхадкі. Ён і ягоныя людзі аказаліся надзвычай хітрымі разбойнікамі. Дзеля таго, каб шляхта нічога не даведалася пра злодзеяў і ня ведала, каго дакладна абвінавачваць, яны панадавалі сабе псэўданімы і ўжывалі іх замест прозьвішчаў і тытулаў[22].

Зь вялікімі цяжкасьцямі блякавала замак у Горадні гарадзенская шляхта. На чале яе стаяў гарадзенскі маршалак Крыштап Бухавецкі. Надзвычай істотна дапамагаў у гэтых дзеяньнях каронны падкаморы Готхард Вільгельм Бутлер. Ужо ў жніўні ён і

[19] Jan Kazimierz do F. Bielińskiego, Kraków 20 XI 1660. BN. Akc. 16180

[20] S. Przyborowski do B. Radziwiłła, Jasiewicze 4 IX 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 12561. S. 89; Senatus Consultum, b.m. 5 X 1660. BCzart. 401. S. 140; Nagielski M. Liczebność i organizacja gwardii przybocznej i komputowej za ostatniego Wazy (1648—1668). Warszawa, 1989. S. 133; Pułaski F. Opis 815 rękopisów Biblioteki Ordynacji Krasińskich. Warszawa, 1915. № 211. S. 193.

[21] Inwentarz fortecy brzeskiej, 6 I 1661. AGAD. AR. Dz. II. № 1430; Jan Kazimierz do F. Bielińskiego, Kraków 28 XII 1660. BN. Akc. 15856; Merkuriusz Polski / Opr. A. Przyboś. Kraków, 1960. S. 74—76.

[22] Laudum szlachty żmudzkiej, w obozie pod Jaświojniami 31 VII 1660. Ks. Gr. Żmudzka 1660. VUB F 7—20/14472. K. 356—357; Instrukcja dla posłów żmudzkich na sejm 1661, Rosienie 8 III 1661. Ks. Gr. Żmudzka 1661. VUB, F 7—21/14473. K. 176; гл.: Laudum obywateli żmudzkich, w obozie pod Płotelami 24 VI 1659. Ks. Gr. Żmudzka 1659. VUB. F 7—19/14471. K. 315.

сабраная пад замкам шляхта здалі сабе справу, што ўласнымі сіламі яны ня здолеюць дабрацца да выдатна вывучаных і добра забясьпечаных маскоўскіх жаўнераў. Таму пачалі вэрбаваць дасьведчаных афіцэраў і жаўнераў, а для іх аплаты абклалі сябе падаткам. Драгуноў наняў Бухавецкі. Аднак ягоныя жаўнеры замест таго, каб падстаўляць сябе пад замкам, аддалі перавагу рабаваньню ваколічных маёнткаў і выцісканьню зь іх харчоў ды грошай. Абураная шляхта пачала нават падазраваць свайго маршалка, што драгуны робяць гэта зь яго маўклівай згоды. Сам Бутлер зьвярнуўся з просьбай да князя Б. Радзівіла дапамагчы ў гэтым наборы вайскоўцаў і прысласьць гарматы з порахам[23]. Сур'ёзных змаганьняў пад Горадняй не было. Пасьля капітуляцыі Берасьця пад Горадню прыбыў у пачатку 1661 г. разам са здабытымі там гарматамі рэйтарскі швадрон каралеўскай гвардыі на чале з Францішкам Бялінскім. Маскоўская залога вытрымала да сакавіка 1661 г. Цалкам зьнясіленая, яна пачала перамовы: жывымі засталіся толькі 30 вельмі хворых жаўнераў. Хоць у замку былі яшчэ значныя запасы правіянту, гармат і амуніцыі, яна капітулявала, не ставячы ніякіх умоваў, і 13 сакавіка аддала замак[24].

Пасьля заняцьця верхняга замку ў Вільні на землях заходняй Літвы засталася толькі царская залога ў Ковенскім замку. Летам 1660 г. Ян Казімер сваім унівэрсалам даручыў заняцца ёй упіцкай і ковенскай шляхце. Яна павінна была *«выцісьнуць адтуль гэтую жменьку непрыяцельскіх людзей»*. Аднак шляхта зьбіралася надзвычай лянотна, выклікаючы гэтым гнеў Яна Казімера, які нецярпліва чакаў «выцісканьня» непрыяцеля і разблякаваньня Нёмна[25]. Урэшце была распачатая ня надта пасьпяховая блякада, якой кіраваў маршалак Ковенскага павету Рафал Зыгмунд Скарульскі. Маскоўская залога з Коўна пагражала таксама Жамойці. З гэтай прычыны паклікаўная на паспалітае рушаньне жамойцкая шляхта, сабраўшыся пад Яшвойнямі 31 ліпеня 1660 г. ухваліла, што сілы Вількамірскага павету прыкрыюць Жамойць з боку гэтай фартэцыі, што ўжо традыцыйна некалькі гадоў было яе заданьнем. Упрошвалі прыняць камандаваньне імі палкоўніка гэтага павету Яна Пшыстаноўскага. Ён узяўся за гэтае заданьне, і ў сакавіку 1661 г. у сваёй інструкцыі на сойм шляхта прасіла ўзнагародзіць яго[26]. Вясной 1661 г. М.К. Пац паслаў камандаваць аблогай абэрштэрлейтэнанта Рыгора Юр'я Барсотага зь ягонай пяхотай. Ён меў заданьне блякаваць маскоўскую залогу і пільнаваць, каб караблі з таварамі маглі бясьпечна праплысьці пад бокам фартэцыі. Аднак ён ня вельмі выконваў свае абавязкі. Затое пад энэргічным камандаваньнем царская залога не абмяжоўвалася толькі руйнаваньнем і пільнаваньнем замку, але сама рабіла вылазкі супраць шляхты і навакольных зямель. Гэта адбывалася нават у 1661 г. У чэрвені новы камандзір узяўся за правядзеньне вялікага карабля са збожжам з Гарадзенскай эканоміі, якую трымаў каронны падкаморы Вільгельм Готхард Бутлер. Ён даў для аховы аддзел драгуноў, але ў той час прыйшоў транспарт з кулямі і порахам для людзей, што блякавалі Коўна. Якраз у той час, 22 чэрвеня, неспадзявана падплылі лодкамі маскоўскія жаўнеры з Коўна. Убачыўшы іх, удалыя драгуны пакінулі карабель са збожжам, а таксама порах і амуніцыю і разам са сваім камандзірам кінуліся як мага хутчэй уцякаць. Маскве не ўдалося крануць зь

[23] Гл.: пратэстацыі з пэрыяду II—IV.1661. VUB. Ks. Gr. Trocka 1660—1661. F.7—3/5957. K. 439, 496, 499—499v, 510; D. Wechman do B. Radziwiłła, Birże 6 III 1661. BPAN Kr. 6184. S. 178.
[24] Protestacja Jana Eysmonta jenerała JKM powiatu grodzieńskiego, Troki 18 XII 1660. VUB. Ks. Gr. Trocka 1660—1661. F. 7—3/5957. K. 399—400; K. Buchowiecki do B. Radziwiłła, Grodno 1 VIII 1660. AGAD. AR. Dz. V. № 1568. S. 3; G. W. Butler do B. Radziwiłła, Łabno 30 VIII 1660. Тамсама. № 1735. S. 25—26.
[25] G. W. Butler do B. Radziwiłła, Grodno 13 III 1661. Тамсама. S. 27; Chrapowicki. S. 283—285.
[26] Uniwersał Jana Kazimierza do szlachty litewskiej, Lwów 16 VIII 1660. Ks. Gr. Żmudzka 1660. VUB. F. 7 — 20/14472. K. 493—493v.

месца карабель са збожжам. Таму яна забрала яго столькі, колькі была ў стане. Калі драгуны Барсотага, што глядзелі на гэта ўжо здалёк, убачылі, што царскія жаўнеры адплываюць, яны кінуліся на рэшту грузу і забралі яго. Чыноўнікі Бутлера потым наракалі, што больш страцілі праз іх, чым праз Маскву[27]. Размах дзеяньняў маскоўскай залогі сьведчыў пра высокую дысцыпліну жаўнераў і іх камандзіра. Несумненна, яна была добра забясьпечаная зброяй, амуніцыяй і харчамі. Гэта станавілася асабліва заўважальным на фоне слабых і няўдалых дзеяньняў шляхты і літоўскіх жаўнераў пад гэтай фартэцыяй. З пакінутых у далёкім тыле царскіх гарнізонаў ковенскі пратрываў даўжэй за ўсіх.

Пасьля заняцьця Віленскага замку Ян Казімер прапанаваў кіраваць асаднымі працамі пад Ковенскім замкам Багуславу Радзівілу. Князь згадзіўся, але апісаў у лісьце шэраг цяжкасьцяў. Указваў, што пара году неспрыяльная для аблогі, што пад фартэцыяй мала гармат і мала харчоў. Да таго ж яна знаходзіцца ў разгалінаваньні рэкаў і хоць у ёй толькі 240 жаўнераў, затое адборных. Дадаваў, што вядома, што нават у найслабейшых умацаваньнях маскоўскія жаўнеры абараняюцца надзвычай зацята. Таму яму патрэбна было прынамсі 2 тыс. пяхоты і прынамсі 200 коньніцы, каб яна не выпускала ніякіх уцекачоў з крэпасьці, як гэта адбывалася пад Вільняй. Патрабаваў вялікай колькасьці цяжкіх гармат і мартыраў, а да таго шмат амуніцыі і ўмелых пушкароў. У дапамогу ім трэба прывесьці працаўнікоў, якія б капалі шанцы, рабілі пазыцыі для гармат і ставілі частакол. Не забыўся згадаць пра харчы і жолд. Харчы мусілі быць дастаўлены пад фартэцыю, бо за грошы жаўнеры ня могуць нічога купіць у спустошаным краі і замест таго, каб думаць пра штурмы, разбрыдаюцца па ваколіцы ў пошуках ежы. Кароль хацеў, каб аблога пачалася неадкладна, таму ўсё патрэбнае трэба было ўжо цяпер даставіць вадою пад Коўна[28]. Князь разьбіраўся ў аблогавых работах і падаў усё патрэбнае, што было б неабходнае для спраўнага правядзеньня аблогі зімовай парою. Мэтай усё ж было як мага хутчэйшае авалоданьне фартэцыяй, а не яе звычайная блякада, да якой зь цяжкасьцю прыдавалася шляхецкае паспалітае рушаньне.

Князь распачаў энэргічныя дзеяньні. Зьвярнуўся да навагрудзкага ваяводы Крыштапа Валадковіча з просьбай аддаць ягоныя гарматы і мартыры, якія падчас апошніх гадоў патрапілі да яго. Прасіў адаслаць іх у Коўну. Скіраваўся таксама ў свой Слуцак і адтуль паслаў 400 чалавек сваёй пяхоты пад фартэцыю. Там да князя дайшлі весткі, што каронны падкаморы Готгарда Бутлера намерваецца адступіць са сваім рэгімэнтам ад аблогі Коўна. Князь папрасіў яго не рабіць гэтага, абяцаючы, што калі не засьпее пад Коўнам ягоных войскаў, то ня возьмецца за аблогу. Прасіў караля не забіраць адтуль драгуноў і рэгімэнту сваёй гвардыі[29].

Аднак перш чым князь скончыў падрыхтоўку, а ягоная пяхота, адпраўленая са Слуцку, пасьпела пад Коўну, 27 сьнежня адважны царскі ваявода здаў замак. Ужо ў той дзень каралеўскія жаўнеры занялі пэўныя часткі фартэцыі, а рэшта залогі, паводле заключанай дамовы, павінна была выйсьці ў суботу 31 сьнежня. У той дзень яны павінны былі выйсьці з харугвамі і мушкетамі, да якіх ім дазволілі ўзяць пораху і куляў толькі на тры зарады, а таксама адну гармату. Дамовіліся давесьці царскіх

[27] Uniwersał P. Sapiehy, Warszawa 25 V 1661. Ks. Gr. Trocka 1660—1661. F 7—3/5957. K. 739—740; Protestacja Kazimierza Jana Gazuby, łowczego i ekonoma grodzieńskiego na Grzegorza Bersotego oberszterleytnanta JKM, Troki 20 VII 1661. Тамсама. К. 831—832v.

[28] Puncta należące do obsidiey Kowienskiey, które Xiążę Jmc podał między senatorów przy boku JKMci będących w Wilnie d. 9 Decembr. 1661. AGAD. AR. Dz. IVa (копіі). Т. 2. № 13. К. 170v—172.

[29] B. Radziwiłł do K. Wołodkowicza, Lubecz 16 XII 1661. Тамсама. № 14. К. 200—200v; да Г. Бутлера (G. Butler), Слуцак 28 XII 1661. К. 205v; да Яна Казімера са Слуцку 30 XII. К. 206v—207v.

жаўнераў да мяжы, а весьці канвой мусіў абэрштэрлейтэнант з кароннага войска Ян Лінкгаўс. У дзень капітуляцыі замку пад Коўнам прысутнічаў літоўскі канцлер Крыштап Пац, які пажынаў лаўры вяртаньня гэтага апошняга пункту на землях заходняй Літвы, які да таго часу заставаўся ў маскоўскіх руках. Ад'яжджаючы з-пад вернутай фартэцыі 2 студзеня 1662 г., літоўскі крайчы Крыштап Патоцкі пакінуў у яе залозе маёра Юр'я Адама Краспарта. Сярод зброі, пакінутай царскімі жаўнерамі, былі знойдзеныя гарматы з гербамі Багуслава Радзівіла. Іх забралі людзі князя, якія падтрымлівалі аблогу, і адвезьлі ў ягоныя ўладаньні ў Чырвоным Двары[30].

Такім чынам, поўнае панаваньне над заходнімі літоўскімі землямі вярталася праз шэсьць трагічных гадоў да Рэчы Паспалітай. Капітуляцыя апошняй маскоўскай залогі на гэтых землях у Коўне зьнішчыла яскравае сьведчаньне нядаўняй цяжкай паразы польска-літоўскай дзяржавы, зазнанай ад усходняга суседа. Аднак яшчэ доўгі час на гэтых землях пра яе будуць нагадваць папялішчы і моцна абязьлюдненыя гарады і вёскі[31].

[30] K. de Szandron do B. Radziwiłła, Kowno 27 XII 1661. AGAD. AR. Dz. V. Nr 15566, гл.: ліст з Чырвонага Двара 9 I 1662; Храпавіцкі памылкова перасоўвае дату вяртаньня замку на 26 сьнежня, с. 323.
[31] Пра вялізныя страты насельніцтва на землях Вялікага Княства Літоўскага гл.: Morzy J. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w II połowie XVII wieku. Poznań, 1965; Księga Gr. Trocka 1663—1665. VUB. F 7 — 5/5959. K. 1179—1179v.

# Заканчэньне

Прыняцце галоўным вайскаводцам царскіх войскаў у Беларусі Юр'ем Даўгарукім прапанаванага літоўскім гетманам Паўлам Сапегам замірэньня па сутнасьці завяршала кампанію супраць маскоўскіх войскаў у Літве ў 1660 г. Яшчэ ішлі дробныя сутычкі на лініі верхняга Дняпра і асабліва Дзьвіны. У заходніх ваяводзтвах надалей вялася блякада царскіх залогаў ва ўмацаваных замках. Аднак заставалася фактам, што галоўныя літоўска-польскія сілы, як і маскоўскія, пачалі пакідаць свае ранейшыя пазыцыі і адыходзіць у глыбокі тыл. Дывізія Стэфана Чарнецкага пакінула пазыцыі на поўдзень ад Полацку і скіравалася ў напрамку ўсходняй Украіны. Польскаму вайскаводцу не ўдалося забраць з сабою войскаў Міхала Паца, якія сталі з загаду гетмана паміж Віцебскам і Шкловам. Аднак вельмі хутка і гэты вайскаводца адышоў з даручаных яму зямель і павёў харугвы дывізіі левага крыла да Браслаўшчыны, дзе разам з аддзеламі мальтыйскага кавалера Мікалая Ўладыслава Юдыцкага яны распачалі ў пачатку наступнага году дзеяньні супраць царскіх войскаў на тым адрэзку Дзьвіны. Акрамя гэтых перамяшчэньняў войскаў, іх масава пакідалі галоўныя вайскаводцы і вышэйшыя афіцэры. Яны былі палітыкамі, а на канец сакавіка плянаваўся пачатак сойму ў Варшаве, а на люты — соймікі. І хоць тэрмін сойму быў пазьней перасунуты на пачатак траўня, аднак ніхто зь іх ня думаў прапускаць такую важную для Рэчы Паспалітай нагоду для дэбатаў наконт яе далейшага лёсу. Было вядома, што кароль Ян Казімер ужо доўгі час зьбірае партыю, якая павінна была б падтрымаць ягоную рэформу дзяржаўнага ладу. Таму яны скіроўваліся на соймікі і ў Варшаву, каб стаць на баку караля, а іншыя — каб рэзка супраціўіца ўсякім наваўвядзеньням.

Літоўскаму грамадзтву таксама было досыць зьнішчальных войнаў, якія цягнуліся гадамі. Няспынныя наезды непрыяцеляў дашчэнту руйнавалі іх маёнткі. Ня меншым бедзтвам аказаліся бясконцыя пераходы ўласных войскаў. Згаладалыя і дэмаралізаваныя жаўнеры без згрызотаў сумленьня рабавалі маёнткі, ня раз катаваньнямі выбіваючы ад іх жыхароў прызнаньні на тэму схаваных харчоў. Акрамя рэгулярных адзінак, ствараліся і бадзяліся па краі шматлікія жаўнерскія банды, якія тэрарызавалі насельніцтва. Таму шляхта ўжо ў лютым 1661 г. на сойміках вельмі выразна выказалася супраць усякіх вайсковых злоўжываньняў, патрабуючы ўтаймаваць жаўнерскую сваволю. З другога боку, спасылаючыся на свае страты, яна адкручвалася ад усякіх вайсковых падаткаў, якіх не плаціла гадамі[1]. Вайна з Масквой не была завершаная. На Дзьвіне няспынна адбываліся сутычкі. Было вядома, што непрыяцель зьбірае сілы і што яшчэ давядзецца прыкласьці шмат намаганьняў, каб перамагчы яго і прывесьці да выгаднага міру. Тым часам праз недахоп грошай бунтавалася войска, шляхта не жадала даваць грошы і пратэставала супраць падаткаў. Затое і адны, і другія з усё большай непрыязнасьцю глядзелі на спробы каралеўскага двара праводзіць у краі рэформы дзяржаўнага ладу. На фоне блізкай небясьпекі з боку царскіх армій, якія аднаўляліся, нарастала хваля незадавальненьня ў войску і ўсёй Рэчы Паспалітай. Восеньню 1661 г. яшчэ ўдасца разьбіць пад Кушлікамі армію Хаванскага. Аднак вайсковыя бунты, якія ў той час ахапяць кароннае і літоўскае войска, амаль на два гады паралізуюць ваенныя дзеяньні супраць Масквы і згубяць магчымасьць выкарыстаць посьпехі 1660—1661 гадоў. Рэч Паспалітую, якая ў 1661—1663 гады змагалася з вайсковымі канфэдэрацыямі, ратавала тое, што спустошаная вой-

[1] Гл.: Na niektóre Rzptey Exorbitantie media Ichmm PP. Obywatelow Powiatu Wiłkomirskiego na Seymik do Wiłkomierza dnia dwudziestego trzeciego Msca February w Roku terazniejszym 1661. NBU. F. 1. № 6012. K. 491—493.

намі Маскоўская дзяржава ў той час таксама перажывала вялізныя ўнутраныя цяжкасьці і не была здольная выкарыстаць слабасьць свайго заходняга суседа.

Тым часам з пачаткам зімы 1660 г., на шчасьце Рэчы Паспалітай, маскоўскія войскі таксама былі зьнясіленыя змаганьнямі на мяжы сваіх магчымасьцяў. Таму яны сьпешна прынялі прыпыненьне баявых дзеяньняў, і хутка пасьля гэтага самая небясьпечная ў той час для польска-літоўскіх войскаў армія Юр'я Даўгарукага распачала адступленьне на Смаленшчыну. Там праз голад і дэзэртаваньне яна пачала падлягаць паступовай дэзарганізацыі. Без падтрымкі з боку гэтых войскаў перасталі быць небясьпечнымі казацкія палкі, якія пагражалі гэтаму краю з паўднёва-ўсходняга боку. Пасьля прынясьця іхнім гетманам Юр'ем Хмяльніцкім Чуднаўскай дамовы і прызнаньня ўлады польскага караля такія палкоўнікі, як Васіль Залатарэнка, апынуліся ў надзвычай цяжкім становішчы. На мяжы 1660—1661 гадоў магло б здавацца, што Задняпроўская Украіна з дня на дзень вернецца пад панаваньне Рэчы Паспалітай і там ня будзе месца для яе казацкіх праціўнікаў. Аднак гэтага не адбылося, што выразна паказалі наступныя месяцы. Пад канец 1660 г. казакі такіх небясьпечных дагэтуль палкоў перасталі быць сур'ёзнай сілай і найбольшае, што яны рабілі, дык гэта мучылі рабаўнічымі нападамі прасторы за Дняпром і Бярэзінай. Перастала пагражаць таксама армія Івана Хаванскага, якая стаяла на Дзьвіне. Разгромленая некалькі разоў, яна ня мела адпаведных сілаў, каб зноў выйсьці ў поле і пасьпяхова сутыкнуцца зь непрыяцелем. Хоць сам яе вайскаводца, прыгнечаны паразамі, хутка вярнуў сваю прыроджаную энэргічнасьць і самаўпэўненасьць, ён ня быў у стане замацавацца на паўднёвым беразе Дзьвіны, абмяжоўваючыся спарадычнымі вылазкамі дробных лятучых аддзелаў. Ён павінен быў пазводзіць сябе асьцярожней, паколькі пасьля астатніх разоў выразна ўнюхаў павеў усё большага царскага недаверу да сваёй асобы.

1660 год быў для Рэчы Паспалітай, напэўна, адным з найбольш пасьпяховых ва ўсім такім стракатым XVII стагодзьдзі. Ён пачынаўся проста трагічна, а заканчваўся неспадзявана ўдала. Краіна ўваходзіла ў яго са швэдзкай вайной, якая цягнулася надалей. Праз упартасьць непераможанага караля Карла X Густава і нягледзячы на высілкі выбітных францускіх дыпляматаў, нельга было прадбачыць, калі яна скончыцца. Ва Украіне падзеньне Выгоўскага было цяжкай паразай як на дыпляматычным, так і на ваенным полі. Восеньню маскоўскія і казацкія войскі паволі, але няспынна прасоўваліся землямі Правабярэжнай Украіны на захад. У той час на літоўскіх землях рушыў зьнішчальны наступ князя Івана Хаванскага. Разам зь яго пачаткам зьніклі ўсе надзеі на стрыманьне маскоўскага напору дыпляматычным шляхам. Перад Рэччу Паспалітай засталіся толькі дзьве магчымасьці: або мір узамен за прынясеньне пад націскам армій, што крочаць на захад, забойчых царскіх умоваў, або распачацьце змаганьня.

У пачатку 1660 г. сытуацыя была надзвычай цяжкая. Маскоўскія войскі дайшлі так далёка, як ніколі раней. Яны занялі Берасьце і перайшлі заходні бераг Бугу, атрымаўшы адкрыты шлях на Варшаву і ў глыб каронных зямель. А Рэч Паспалітая, занятая на швэдзкім фронце, не магла пасьпець на захад значных сілаў.

У студзені 1660 г., у момант найвялікшых посьпехаў Хаванскага, аказалася, што Маскоўская дзяржава пачала вычэрпваць свае магчымасьці, патрабуючы даўжэйшай перадышкі. Што горш, палякі не намерваліся ісьці на значныя ўступкі. А для далейшага націску на іх і маршу ў глыб каронных зямель маскоўскія войскі з-пад Берасьця ўжо ня мелі сілаў. Падвяло іх таксама ўзаемадзеяньне з арміяй Васіля Шарамецьева, якая ішла ўкраінскімі землямі. Аказалася, што яна яшчэ не гатовая распачаць вялікія наступальныя дзеяньні. Таксама сутыкалася зь вялізнымі цяжкасьцямі падрыхтоўка ў далёкім тыле рэзэрваў, якія павінны былі падтрымаць пераможны паход войскаў у Літве і Украіне. Расея вычэрпвала свае магчымасьці. Сярод яе насельніцтва і войскаў

ужо не было таго энтузіязму і запалу, якім яны вылучаліся падчас пераможных маршаў у 1654—1655 гады. А новыя вайсковыя адзінкі, якія ўтвараліся, ня мелі ўжо такой баяздольнасці, як у тыя гады. Новыя аддзелы фармаваліся зь цяжкасьцю, даводзілася змагацца з праблемай масавага дэзэртаваньня, якая дэмаралізоўвала войска. Недахоп правіянту, усё большыя фіскальныя нагрузкі прыводзілі да росту незадаваленьня сярод войска і насельніцтва. Нягледзячы на гэтыя праблемы і прыкметную непадрыхтаванасьць да даўжэйшых і вырашальных змаганьняў з Рэччу Паспалітай, у Крамлі пастанавілі распачаць наступ на Літву. У сувязі з данясеньнямі пра блізкае значэньне польска-шведзкіх мірных перамоваў гэта быў апошні шанец перамагчы праціўніка, пакуль ён, заняты шведзкімі справамі, ня будзе ў стане кінуць сваіх сілаў супраць Расеі.

Расейцы прайгралі гэтую гульню. Яны недаацанілі ўстойлівасьці Рэчы Паспалітай, якая павольна адыходзіла ад крызысу, які падточваў яе з 1648 г. Тут трэба высока ацаніць пазыцыю Яна Казімера, які ў найболыш драматычныя моманты канца 1659 і пачатку 1660 г. не скарыўся пад націскам літоўскай супольнасьці, якая патрабавала ад яго перамоваў і ўступак або распачацьця барацьбы з Масквой. Яму ўдалося давесьці да міру са Швэцыяй і атрымаць тым самым магчымасьць цалкам выкарыстаць сілы Рэчы Паспалітай для наступленьня на ўсходзе.

У гэты пэрыяд каронная і літоўская армія дасягнула свайго найвышэйшага ў час войнаў XVII ст. колькаснага складу. Досьвед, набыты ў змаганьні з адной з наймацнейшых армій тагачаснай Эўропы, і павышаны склад адзінак іншаземнага набору дазвалялі дасягаць вялікай агнявой моцы на полі бітвы. Пры саўдзеле традыцыйных польскіх цяжкіх утварэньняў, якія пераломлівалі фронт шыхтоў праціўніка, і хуткай лёгкай коньніцы, армія станавілася пад спраўным камандаваньнем сапраўды грозным праціўнікам у руках энэргічнага вайскаводцы. Выразным слабым месцам гэтых войскаў былі нявырашаныя праблемы з зарплатай, а таксама іх паступовае ўцягваньне гетманамі ў палітычныя інтрыгі з каралеўскім дваром. У пазьнейшы пэрыяд гэта адмоўна паўплывала на ваенныя дзеяньні супраць Масквы і разбурыла вынікі многіх посьпехаў, дасягнутых з такой цяжкасьцю.

На шчасьце, распачынаючы наступ у чэрвені 1660 г., удалося так-сяк справіцца з выбухам незадаваленьня літоўскіх жаўнераў. Плян дзеяньняў прадугледжваў удар у літоўскім і ўкраінскім напрамку. Далёкія і нерэальныя намеры двара прадугледжвалі нават аб'яднаньне абедзьвюх армій па дарозе на ўсход пад разьмешчаным ужо ў маскоўскіх межах Пуціўлем і супольны марш на Маскву. Раней распачатыя дзеяньні ў Літве прынесьлі выдатны посьпех пад Палонкай. Яго вынікам было практычнае заняцьце зямель на захад ад Дняпра і на поўдзень ад Дзьвіны. Аднак далейшы ход дзеяньняў Сапегі і Чарнецкага вырашылі восеньскія змаганьні са сьпешна сабранай арміяй Юр'я Даўгарукага і Хаванскім, які ішоў яму на дапамогу.

Трэба прызнаць, што маскоўскі плян канцэнтрацыі ў адзін момант і ў адным месцы пад бокам праціўніка армій, якія ішлі з розных бакоў, мог быць вельмі небясьпечны для яго. Аднак падвёў на ўсёй лініі абмен інфармацыяй паміж вайскаводцамі. На іх узаемадзеяньне кінулі цень таксама амбіцыйныя і палітычныя меркаваньні. Хаванскі не намерваўся апускацца да супрацоўніцтва зь ніжэйшым рангам Даўгарукім, таму выйшаў з Полацку толькі 2 кастрычніка, калі Даўгарукі набліжаўся да Басі. А пакліканы Залатарэнка нібы ішоў на дапамогу, а на самой справе ўхіляўся ад гэтага, як мог, азіраючыся на тое, што якраз у той час адбывалася ва Украіне. Як у студзені літоўскім вайскаводцам не ўдалося атачыць пад Берасьцем Хаванскага, так у кастрычніку ў маскоўскіх вайскаводцаў нічога ня выйшла з блякаваньня і зьнішчэньня польска-літоўскіх войскаў. Таму Чарнецкі і Сапега, якія дзейнічалі ў цэнтральнай пазыцыі, атрымалі выгадную магчымасьць весьці бітву толькі з Даўгарукім. Аднак

яны не дасягнулі поўнага посьпеху і бітва не прынесла карэннага пераломў. Можна сказаць, што яна перакрэсьліла шанцы на магчымасьць хутка завяршыць вайну з Масквой. Калі б удалося разграміць гэтую армію, можна было б мець надзею на далейшы марш у кірунку, прынамсі, Смаленску. Прыведзеныя потым Пятром Даўгарукім аддзелы не былі занадта шматлікімі, а іх значэньне было толькі ў тым, што яны здолелі злучыцца з арміяй галоўнага вайскаводцы, які стаяў на Басі.

Тым часам, калі палякі і ліцьвіны адышлі супраць Хаванскага, ініцыятыва на Дняпры цалкам перайшла ў рукі ўзмоцненай арміі Юр'я Даўгарукага. На шчасьце, яе дзеяньні былі такія павольныя, асьцярожныя і нерашучыя, што не пашкодзілі польскім і літоўскім здабычам у гэтых краях. Усё большыя цяжкасьці, агульнае зьнясіленьне і нежаданьне ваяваць далей, такое прыкметнае з абодвух бакоў, прывялі ў канцы 1660 г. да прыпыненьня змаганьняў.

Кампанію 1660 г. у Літве ў агульных рысах можна ацаніць як вялікі посьпех польскіх і літоўскіх войскаў. І хоць яна не закончылася такой паказальнай перамогай, як ва Украіне, аднак яна мела сваё вялізнае значэньне. Атрыманыя перамогі вярнулі разьбіваным дагэтуль ліцьвінам веру ва ўласныя сілы перамагчы грознага праціўніка. Гэта было прыкметна ў наступныя гады. Таксама было вернута панаваньне над большасьцю земляў Вялікага Княства: збольшага на ўсход ад Дняпра і поўдзень ад Дзьвіны. Ліцьвіны выйшлі таксама па-за рэкі. На Бярэзіне і Дняпры ў маскоўскіх руках засталіся фартэцыі ў Барысаве, Магілёве, Старым Быхаве. Паволі, больш ці менш драматычна яны пераходзілі ў літоўскія рукі.

Вялізную ролю ў дасягненьні гэтых посьпехаў адыграла каронная дывізія Чарнецкага. Яе значэньне выдатна ацэньвалі і разумелі ліцьвіны, хоць і заломвалі сабе рукі над рабункамі, якія чынілі яе жаўнеры. Польская дапамога Літве ў яе ўсё цяжэйшых змаганьнях з усходнім суседам мела доўгую традыцыю. Ліцьвіны дамагаліся яе і гэтым разам. Нельга схаваць, што прыклад недэмаралізаванай ваяўнічай дывізіі і яе харызматычнага вайскаводцы прывабліваў ліцьвінаў, а першыя перамогі вярнулі ім веру ў сябе. Узаемадзеяньне азмрочвалі сваркі паміж рускім ваяводам і Сапегам. Аднак гэта не перашкодзіла ім дасягнуць значных посьпехаў. У пэрспэктыве далейшых змаганьняў з Масквой больш непакоіла ўсё большая стомленасьць і рост незадавальненьня войска. У гэтых настроях адлюстравалася ўся слабасьць Рэчы Паспалітай, якая не магла сабе дазволіць доўгачасовае ўтрыманьне колькасна значных вайсковых сілаў. Жаўнеры гадамі не атрымлівалі жолду, не было таксама гаворкі пра надыход з краю нейкіх падмацаваньняў, якія папоўнілі б панесеныя страты. Гэта асабліва прыгнятала на фоне новых зьвестак пра чарговыя арміі, зьбіраныя царом, якія мусілі зьявіцца перад змардаванымі польскімі і літоўскімі харугвамі.

Хоць ваенныя дзеяньні 1660 г. былі такія спрыяльныя для Рэчы Паспалітай, яны не прынесьлі вырашальнага посьпеху. Зьявіліся новыя пляны мірных перамоваў. Аднак ніводзін з бакоў ня думаў пра ўступкі ў такім маштабе, які б цалкам задаволіў другі бок. Таму абсалютна выразна перад абедзьвюма дзяржавамі паўстала неабходнасьць працягваць ваенныя дзеяньні і распачаць чарговы этап змаганьняў за гегемонію ў гэтай частцы Эўропы. Здабыткі 1660 г. давалі Рэчы Паспалітай магчымасьць падысьці да іх з нашмат мацнейшай стратэгічнай пазыцыі, чым за год да гэтага. У той жа час яшчэ больш яскрава праявіліся ўнутраныя праблемы дзяржавы, якія ў наступныя гады мелі вялізнае значэньне для далейшых войнаў Рэчы Паспалітай з Масквой.

# Бібліяграфія

## Друкаваныя крыніцы

**Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie**
Archiwum Koronne Warszawskie
dział rosyjski — № 54/9, 55c/32, 55c/35, 55c/38, 55c/39
Archiwum Przeździeckich — B—1309
Archiwum Radziwiłłów
dział II — № 1373, 1387, 1389, 1400, 1404, 1408, 1416, 1417, 1418, 1419, 1424, 1425, 1427, 1429, 1430, 1431, 1432a, 1433
księga 21, № 69/14
suplement № 574
dział III — kop. 3, 7
dział IV — t. 4 (kop. 51), t. 53 (kop. 681), t. 363
dział IVa (kopie) — t. 1 (kop. 2, 4, 5, 6), t. 2, (kop. 10, 13)
dział V — 1503/I, 1568, 1735, 2153, 2272, 2879, 3089/I, 3522, 4567/II, 5226, 5303, 5347, 5569/I, 6070, 6208, 6681; 6865/I, VII, 6873, 7060, 8406/I, 8451, 8916, 9395, 9646/1, 10036, 10718, 10816, 11013, 11208/I—II, 11209/I—II, 11517, 11557/II, 11560/I, 12080/I—II, 12196, 12251, 12561, 12600, 12631, 13181, 13276, 13277, 13739, 13868/III—IV, 14423, 14627, 14655, 15027, 15081, 15566, 16180, 16369, 16612, 16998, 18111, 18566, 18580, 18818, 18836, 18969, неўпарадкаваныя паперы
dział VII — № 720
dział X — № 216
dział XVI — неўпарадкаваныя паперы
dział XXIII — № 151, 159/1
dział XXV — № 1766, 1768, 2695/1
Archiwum Roskie — suplement № 95
Archiwum Tyzenhauzów — G—388
Archiwum Zamojskich — № 3052
Zbiory Komierowskich — 54/74
**Archiwum Państwowe w Krakowie**
Archiwum Krzeszowickie Potockich — № 3227
Archiwum Młynowskie Chodkiewiczów — № 966
Archiwum Sanguszków — № 67, 247
Pinocciana — № IT 363
**Biblioteka Jagiellońska w Krakowie**
— rkps 5; Akc. 56/52, 69/52
**Biblioteka Muzeum im. Ks. Czartoryskich w Krakowie**
— rkps 151, 152, 153, 154, 155, 156, 387, 394, 400, 401, 410, 411, 412, 413, 415, 416, 418, 429, 1380, 2104, 2749
— gabinet rycin, № 6945
**Biblioteka Narodowa w Warszawie**
— rkps IV 3092
— BOZ. № 826
— Akc. № 15856, 16180
**Biblioteka PAN w Kórniku**
— rkps 1351
**Biblioteka PAN w Krakowie**
— rkps 342, 363, 1065, 4011, 4027, 6184
**Biblioteka Raczyńskich w Poznaniu**
— rkps 76
**Biblioteka Zakładu Narodowego im. Ossolińskich we Wrocławiu**
— rkps 189, 5808/III
**Lietuvos Mokslu Akademijos Centrine Biblioteka, Vilnius**
— fond 17—16, fond 31—911; fond 139—3031
**Lietuvos Valstybes Istorijos Archyvas, Vilnius**
— fond SA, № 1, 2, 5, 3410, 4106, 4107, 4679 (Księga Gr. Wileńska 1664—1679)
w formie mikrofilmów z RGADA — fond 389, № 130, 132, 134, 461
**Львівська державна наукова бібліотека ім. В. Стефаника, Львів**
— fond 103, № 1633, 1674, 1684, 1690, 1697, 1699, 1700, 1702, 1705, 1710, 1711, 1712, 1714, 1717, 1718, 1719, 1722, 1726, 1730, 1731, 1732, 1735, 1736, 1739, 1741, 1743, 1744, 1745, 1746, 1747, 1751, 1753, 1756, 1757, 1758, 1761, 1764, 1765, 1768, 1769
**Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, Менск**
— fond 694, op. 1, № 300, 309; fond 1503, op. 1, № 42; fond 1739, op. 1, № 1, 2
**Національна бібліотека України імені В.І. Вернадського, Київ**
— fond 1, № 5983, 5985; 6012; fond XVIII, № 70
**Российский государственный архив древних актов, Москва**
— fond 79, № 103, 105, 106, 107, 108, 109, 110, 111, 112, 113, 114; fond 144, op. 2, № 9, 17, 65, 68, 70, 80, 82, 108, 109, 110; fond 389, op. 2, № 598, 652
**Российская национальная библиотека в Санкт-Петербурге**
— Автографы Дубровского: 152
**Vilniaus Universiteto Biblioteka**
— fond 3, № 89; fond 4 (A—209), № 16465, 16469; (A—212), № 16665, 16669, 16671, 16691, 16692, 16696, 16701, 16702; (A—231), № 18011, 18013, 18015; (A—232), № 18078, 18089; fond 7—19/14471 (Ks. Gr. Żmudzka 1659); fond 7—3/5957 (Ks. Gr. Trocka 1660—1661); fond 7—5/5959 (Ks. Gr. Trocka 1663—1665); fond 7—20/14472 (Ks. Gr. Żmudzka 1660); fond 7—21/14473 (Ks. Gr. Żmudzka 1661); fond 7—24/13900 (Ks. Gr. Wiłkomirska 1661—1664)

## Друкаваныя крыніцы

1. Chrapowicki J.A. Diariusz / Wyd. T. Wasilewski. Cz. I. Warszawa, 1978.
2. Jerlicz J. Latopisiec albo kroniczka Joachima Jerlicza / Wyd. K.W. Wyjcicki. Warszawa, 1853.
3. Kamieński Dłużyk A. Diariusz więzienia moskiewskiego, miast i miejsc / Opr. A. Kuczyński, B. Polewoj, Z. Wójcik // Dwa polskie pamiętniki z

Syberii / Pod red. A. Kuczyńskiego. Warszawa—Wrocław, 1996.
4. Kochowski W. Historya panowania Jana Kazimierza / Wyd. E. Raczyński. T. II. Poznań, 1859.
5. Kotłubaj E. Galeria nieświeska portretów Radziwiłłowskich. Wilno, 1857.
6. Listy Jana Andrzeja Morstina / Opr. S. Ochmann-Staniszewska. Wrocław, 2002.
7. Łoś J. Pamiętnik towarzysza chorągwi pancernej / Wyd. R. Śreniawa-Szypiowski. Warszawa, 2000.
8. Malewska H. Listy staropolskie z epoki Wazów. Warszawa, 1959.
9. Maskiewicz B. Maskiewicza dyjaryjusz moskiewskiej wojny w Wielkim Księstwie Litewskim będącej / Wyd. A. Sajkowski // Pamiętniki Samuela i Bogusława Maskiewiczów. Wrocław, 1961.
10. Materyały do historji Małey Rossyi / Wyd. K. Świdziński. Kijów, 1853.
11. Medeksza S.F. Księga Pamiętnicza wydarzeń zaszłych na Litwie 1654—1668 / Wyd. W. Seredyński // Scriptores Rerum Polonicarum. T. III. Kraków, 1875.
12. Merkuriusz Polski / Wyd. A. Przyboś. Kraków, 1960.
13. Obuchowicz M.L. Pamiętniki Michała Leona Obuchowicza / Wyd. H. Lulewicz i A. Rachuba // Pamiętniki Filipa, Michała i Teodora Obuchowiczów (1630—1707). Warszawa, 2003.
14. Ochmann-Staniszewska S. Listy Jana Andrzeja Morstina. Wrocław, 2002.
15. Pamiętnik Jana Cedrowskiego / Wyd. A. Przyboś // Dwa pamiętniki z XVII wieku. Wrocław, 1954.
16. Pasek J. Pamiętniki / Wyd. W. Czapliński. Wrocław, 1968.
17. Pisma polityczne z czasów panowania Jana Kazimierza Wazy 1648—1668 / Opr. S. Ochmann-Staniszewska. T. I. Wrocław, 1989.
18. Poczobut Odlanicki J.W. Pamiętnik (1640—1684) / Wyd. A. Rachuba. Warszawa, 1987.
19. Portofolio królowej Maryi Ludwiki / Wyd. E. Raczyński. T. II. Poznań, 1844.
20. Rachuba A. Metryka Litewska. Księga Wpisów № 131. Warszawa, 2001.
21. Radziwiłł B. Autobiografia / Wyd. T. Wasilewski. Warszawa, 1979.
22. Skorobohaty A. D. Diariusz / Wyd. T. Wasilewski, Warszawa, 2000.
23. Volumina Legum / Wyd. J. Ohryzko. T. IV. Sankt Petersburg, 1859.
24. Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci. Pamiętnik lekarza króla Władysława IV / Wyd. E. Galos i F. Mincer / Pod red. W. Czaplińskiego. Wrocław, 1986.
25. Zbiór dyplomatów rządowych i aktów prywatnych posługujących do rozjaśnienia dziejów Litwy i złączonych z nią krajów (od 1387 do 1710 r.) / Pod red. M. Krupowicza. Cz. I. Wilno, 1858.
26. Акты, издаваемые Виленскою археографической комиссиею для разбора древних актов. Т. III, XXXIV.
27. Акты Московского государства, изданные Императорскою академией наук. Т. II / Под ред. Н.А. Попова. Санкт-Петербург, 1894; Т. III / Под ред. Д.Я. Самоквасова. Санкт-Петербург, 1901.
29. Акты, относящиеся к истории Западной России. Санкт-Петербург, 1851. Т. V.
30. Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные археографическою комиссиею... Санкт-Петербург. Т. IV, V, VII, XIV, XV.
31. Витебская старина / Изд. А. Сапунов. Т. IV. Ч. 2. Витебск. 1985.
32. Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губернии Витебской и Могилевской. Т. XVII. Витебск, 1871—1906.
33. Крестоприводная книга шляхты Великого княжества Литовского 1655 г. // Памятники истории Восточной Европы. Москва—Варшава, 1999.
34. Полное собрание русских летописей. Т. XXXV. Москва, 1980.
35. Русско-белорусские связи. Сборник документов (1570—1667) / Изд. Л.С. Абецедарский и М.Я. Волков. Минск, 1963.
36. Сборник Муханова / Изд. П.А. Муханов. Москва, 1856.

## Старадрукі

1. Ausführliche Relation der glüclischen Victoria, welche die polnische Armee gegen den Moskowiter zwischen Sclonim und Mysz erhalten hat. BN. Mf 37746.
2. Ausführliche Relation von der herlischen Victoria Ihrer Königlischen Maj. zu Polen [...] durch die [...] Generalen Czarnetzky und Sapieha [...] wieder die Moscowitter erhalten [...] den 28. Junij 1660. BN. Mf 62088.
3. Ausführliche Relation von der herlischen Victoria Ihrer Königlischen Majestät von Polen und der Niederlage der Moskowiter zwischen Sclonim und Lachowitz welche geschechen den 28 Junii 1660. BN. Mf 37745.
4. Ausführliche Relation von einem Treffen so zwischen den Generalen Saphia, Czarnecky, Patzen, und dem Moscowitischen General Dolhoruki den 8. October am Fluß Basia fürgelaufen. BN. Mf 19809.
5. Kontinuation der Königlichen Majestät von Polen wider die Moskowiter verlichenen Viktoria nebst dem Bericht, wie die Kosaken zum Gehorsam Ihrer Majestät gebracht wurden. BN. Mf 37747.
6. Gazette de France, гады 1659 і 1660.
7. Grundliche und umständliche Kontinuation der von der Krone von Polen und des GroßFurstentums Litauen Armeen am 26. Juni 1660 erhaltenen Viktoria wider den moskowitischen Feldherrn Chowanski. BN. Mf 27345.
8. Les particularitez de la victoire r'emportée par

les Polonois sur les Moscovites // Gazette de France, 1660. S. 725—736.
9. Theatri Europei. T. VIII. Frankfurt am Mann 1667; Frankfurt am Mayn. T. VIII. 1699.
10. Wahrhaftige Relation aus dem Feldlager bei Cudnow [...] die Niederlage der Moscowiter und Kosaken in der Ukraine betreffend, wobei ein Bericht von dem siegreichen Treffen des Herrn Kronmarschalls mit dem moscowittischen Unterfeldhauptmann Chowanski bei Szkłow. BN. Mf 19822.
11. Zwycięstwo z Moskwy od Polaków y Lithwy, Roku 1660 otrzymane. Bssol. 189. S. 1174—1177.

## Даследаваньні

1. Baranowski B. Tatarszczyzna wobec wojny polsko-szwedzkiej w latach 1655—1660 // Polska w okresie drugiej wojny północnej. T. I. Warszawa, 1957.
2. Bobiatyński K. Kampania zimowo-wiosenna wojsk Janusza Radziwiłła 1654—1655 // Staropolska sztuka wojenna XVI—XVII wieku. Prace ofiarowane Profesorowi Jaremie Maciszewskiemu / Pod redakcją Mirosława Nagielskiego. Warszawa, 2002.
3. Bobiatyński K. Od Smoleńska do Wilna. Wojna Rzeczypospolitej z Moskwą 1654—1655. Zabrze, 2004.
4. Chłapowski K. Sarbiewski Stanisław // Polski Słownik Biograficzny. T. XXXV/2, 1994.
5. Czermak W. Szczęśliwy rok. Dzieje wojny polsko-moskiewskiej z r. 1660 // Przegląd Polski. T. 87—107 (1886—1897).
6. Darowski A. Szkice historyczne. Seria 2. Petersburg, 1895.
7. Dąbrowski J. Polsko-moskiewskie rokowania pokojowe w 1658 roku // Rzeczpospolita w latach Potopu / Pod red. J. Muszyńskiej i J. Wijaczki. Kielce, 1996.
8. Dybaś B. Fortece Rzeczypospolitej. Toruń, 1998.
9. Encyklopedia Wojskowa / Pod red. O. Laskowskiego. Warszawa, 1934—1939.
10. Frost R.I. After the deluge: Poland—Lithuania and the Second Northern war 1655—1660. Cambrigde, 1993.
11. Gawlik M. Projekt unii polsko-rosyjskiej w drugiej połowie XVII wieku // Kwartalnik Historyczny. № 23. 1909.
12. Hrickevič A.P. Warowne miasta magnackie na Białorusi i Litwie // Przegląd Historyczny. T. LXI. Z. 3. 1970.
13. Janas E. Konfederacja wojska koronnego w latach 1661—1663. Lublin, 1998.
14. Jasnowski J. Aleksander Hilary Połubiński. Działalność wojskowa w latach 1650—1666 // Przegląd Historyczno-Wojskowy. T. X. 1938.
15. Jenike L. Stefan Czarniecki. Urywek historyczny. Warszawa, 1891.
16. Kamieński A. Skoraszewski Władysław // Polski Słownik Biograficzny. T. XXXVIII/2. 1998.
17. Kersten A. Historia Szwecji. Wrocław, 1973.
18. Kersten A. Kobyłecki Franciszek // Polski Słownik Biograficzny. T. XIII. 1967—1968.
19. Kersten A. Stefan Czarniecki 1599—1665. Warszawa, 1963.
20. Korzon T. Dzieje wojen i wojskowości w Polsce. Lwów—Warszawa—Kraków, 1923.
21. Kossarzecki K. Słuck wobec zagrożenia moskiewskiego i kozackiego podczas wojny z Moskwą w latach 1654—1667 // Materiały do historii wojskowości. T. 2. Pułtusk, 2004.
22. Kroll P. Bitwa pod Konotopem (8 lipca 1659 roku). Przyczynek do dziejów wojskowości kozackiej // Materiały do historii wojskowości. T. 2. Pułtusk, 2004.
23. Kubala L. Wojny duńskie i pokój oliwski (1657—1660). Lwów, 1922.
24. Kurbatow O. Połonka 1660 — spojrzenie z Moskwy // Mówią Wieki. № 10. 2000.
25. Longworth P. Alexis Tsar of the All the Russias. London, 1984.
26. Łowmiański H. Rys historyczny województwa nowogródzkiego w jego dzisiejszych granicach. Wilno, 1935.
27. Majewski W. Mężyński Piotr // Polski Słownik Biograficzny. T. XX/3. 1975.
28. Majewski W. Nieczaj Iwan // Polski Słownik Biograficzny. T. XXII. 1977.
29. Majewski W. Skrzetuski Mikołaj // Polski Słownik Biograficzny. T. XXXIII/3. 1998.
30. Majewski W. Wasilewski T. Muraszka Dionizy / / Polski Słownik Biograficzny. T. XXII. 1977.
31. Marcinkowski K. Stefan Czarniecki. Wódz — mąż stanu — 1660. Od Poznania, Gdańska, Warszawy, Łucka do Połonki i Lachowicz. Filadelfia, 1977.
32. Meilus E. Przynależność etniczna Wilnian i ich lojalność względem władzy w czasie wojen z Moskwą w połowie XVII w. Rozważania nad tematem // Kultura Litwy i Polski w dziejach. Tożsamość i współistnienie / Pod red. J. Wyrozumskiego. Kraków, 2000.
33. Mironowicz A. Prawosławie i unia za panowania Jana Kazimierza. Białystok, 1997.
34. Morzy J. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w II połowie XVII wieku. Poznań, 1965.
35. Nagielski M. Chorągwie husarskie Aleksandra Hilarego Połubińskiego i krola Jana Kazimierza w latach 1648—1666. Przyczynek do badań składu społecznego wojska polskiego w połowie XVII wieku // Acta Baltico-Slavica. T. XV. 1983.
36. Nagielski M. Liczebność i organizacja gwardii przybocznej i komputowej za ostatniego Wazy (1648—1668). Warszawa, 1989.
37. Nagielski M. Połubiński Aleksander Hilary // Polski Słownik Biograficzny. T. XXVII. 1982.
38. Nagielski M. Sapieha Krzysztof Franciszek // Polski Słownik Biograficzny. T. XXXV/1. 1994.
39. Ochmann-Staniszewska S. Staniszewski Z. Sejm Rzeczypospolitej za panowania Jana Kazimierza Wazy. Wrocław, 2000.
40. Piwarski K. Rywalizacja francusko-austriacka o wpływy w Rzeczypospolitej w latach 1655—1660 /

